# ЦІШКА ГАРТНЫ

## ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ




Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі |С. Х. АЛЕКСАНДРОВІЧА| і |Г. З. ЖЫЛУНОВІЧ|

# ЦІШКА ГАРТНЫ

## ТОМ 3

## „СОКІ ЦАЛІНЫ“

**РАМАН**
**У ЧАТЫРОХ КВАДРАХ**

***(квадры трэцяя і чацвёртая)***

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

*Квадра III*

# КРЫЖАВЫЯ ДАРОГІ

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I

Рыгор абудзіўся. Расплюшчыў вочы і паглядзеў: маленькая каморка, брудная і непрыветная ўчора вечарам, зараз смяялася ветлівай гасціннасцю. Сцены, аблезлая люстра, паламаны стол і крывы тапчан — мыліся бліскучым сонцам, плаўкім і празрыстым. Маленькае акенца — у шэсць няроўных шыбак — зіхацела, адбіваючыся рамамі на сцяне...

А ў двары, за сцяною, моцна і рэзва гаманілі. Некалькі галасоў, грубейшых і танчэйшых, гулчэйшых і цішэйшых. Усе нервовыя, трывожныя, але трывогаю не злою, балючаю, а лёгкаю ды звонкаю.

Гамонка перарывалася, пераскаквала тонамі, на нейкі час спынялася, каб зноў пачацца...

Вось некалькі галасоў зліліся ў адзін, разбавіліся, сталі крапчэйшымі, мэрам бы хто набіваў абручы на жалезную бочку...

Раптам заіржаў конь і людскі гоман.

Што б там гэткае?

Рыгор прыпадняўся: не хацелася ўставаць — нядзеля — і паглядзеў. Наўскасяк акно, таму ў яго ваччу мігнулася колькі асоб, трасянуўшы поламі сівых світак. Зразумела — былі сяляне. Кірмаш, местачковы, звычайны. Заехалі сяляне ў карчму, абступілі перакупшчыкі.

Смагін — тыя ж Сілцы... Учора ехаў і злічаў — акурат. Вузкая, крывая вуліца. Пры хатах — садкі.

У хатах — вячоркі: дзяўчаты, хлопцы. Прайшлі вуліцаю мужчыны ды з песняю:

— Ой, у лузе, лузе...

А за акном гучней:

— Х-га-а-га-га-а! Гм-гы-ы!

Няўжо гэткі ўпарты торг?..

Зноў гоман, падобны гулу...

«Пагляджу!»

Рыгор раптам саскочыў з ложка, у бялізне, тут жа абліты праменем сонца — ачуўся каля акна. Але мігам адскочыў, засаромеўшыся. Захаваў постаць, а высунуў голаў і ўгледзеў:

Натоўп сялян.

Яны стаялі каля воза і сумяціліся, тупалі, гукалі. Усе — адвярнуўшыся к возу, на якім выдзялялася белая лугавіна. Рыгор прыгледзеўся, і калі адзін з сялян адышоў, зрабіўшы прагалак, угледзеў: на возе ляжала кабета; пад галавою — пульхная белая падушка на зялёным сене. Сагнуўшыся, кабета пільна глядзела перад сабою і балюча ойкала. Прытрымоўвала рукою грудзі, нібы зашпільваючы адзежыну.

— Вось, пане доктар. Не давязлі, бачыце. Паражаніца на возе!

То казаў белабрысы, худаваты, з рэдкаю бародкаю і тонкімі простымі вусікамі, вастраносы селянін. Ён быў заклапочаны і не адыходзіў ад доктара.

— Паруля, табе нядобра? — пытаў ён кабету.

«Радзіны».

Раніцою, пекным сонечным днём — па дарозе ў бальніцу.

Рыгор пусціў тварам вясёлую ўхмылку. Адышоў ад акна і стаў адзявацца. «Як хораша нарадзіўся чалавек! Хораша тым, што ўжо занадта проста і смела... На хаду, так сказаць, у руху... Цікава!.. Помню, як Лявонаў Юзік... маці жала авёс, а ён пад свіст сярпа... Тут жа — на дарозе... Цікавае нараджэнне! А якаво ж будзе яго жыццё? Якімі выхілясамі пойдзе далей яго дарога, што пачалася ў гразкім карчомным двары?..»

Абарваліся Рыгоравы думкі — сяляне выязджалі з двара. Адной абутай нагою, а другой босай — вярнуўся ён да акна і праз сонца, гарачае ды зыркае, паглядзеў на сівыя спіны: сяляне з доктарам ішлі за возам, гаманілі мяккім, як свежая трава, гоманам.

Рыгор шчыра схіліў галаў — гэтак даюць пашану вялікай заслужанай асобе — і даадзеўся.

Мыючыся, вярнуўся да перарваных думак: «Не хочацца раўняць да сябе, не... Толькі само напрашаецца, прэ... Амаль не год астрога — падумаць!.. Ці разлічвала маці, нарадзіўшы мяне, што прайду гэткую дарогу! Сілцы — Мінск — сотні разоў; Рыга — Сілцы, Сілцы — Рыга і астрог. А радзіўся, ці не свяціла, як і тут вось, сонца? Цуда? Чалавек — дробнае стварэнне, здаецца, а падумаць ды разабрацца — цэлы свет, вялікі і таемны. І вось, злучыцца сотня, тысяча гэткіх адзінак, і якая знойдзецца сіла! Горы парушыць, змяце на сваім шляху найбольшыя перашкоды».

На ўмывальніку зіхацелі разлітыя кроплі вады, і тонкія ніткі святла падалі на Рыгораў твар, сур'ёзны ды задуменны. Сонца выпякала на ім ранейшую свежасць, пакрывала цьмянаю загараю. У бровах, пасмутнеўшых ад пылу і духаты ў заводзе, мянялі нядаўнія рысы маладое міны. Усе адзнакі працоўнага жыцця — былі наповерху. Астрог, мукі няволі, высылка і доўгія пякучыя думкі пра мацеру, пра яе адзіноцтва — свяціліся ў вострым узроку, у лёгкім нахіле простае, роўнае постаці.

Рыгор натхнёна глядзеў у наступнае, лавіў вачыма яскравы промень і цешыўся нараджэнню чалавека, якое яго абудзіла.

Новае месца, куды Рыгор папаў, яго не смуціла. Не думаў Рыгор пра тое, як і навошта жыцьме, калі не ўстроіцца на рабоце. Але як яму наладзіць будзе сваю працу? Ці нойдзецца для яго належны размах? Ці ўложыцца ён у вузкія рамкі мястэчка? Ці лёгка ўдасца перайначыць сябе водлуг новых умоў?

Было шкада Рыгі, як месца, з якога яго выпхнулі, адарвалі ад рабочае гушчы, выслалі, заставілі пакінуць. Шкадаваў Рыгор і крыўдзіўся на самога, чаму не сумеў адстаяць сябе, заперакорыць і не здацца варожай сіле. Крыўда была глыбокаю і ўпічнаю.

Гэта ж ён, Рыгор, не так даўно ў тысячным натоўпе рабочых выходзіў з пераможнымі песнямі на вуліцу...

Цяпер жа, вось... А мо таго не было? Можа, то выпадковы скіц на палатне жыцця... не пераказны ўдвойчы?

Так далёка ад яго, а так свежа і яскрава! Ні астрог, ні правал забастоўкі, ні лакауты — у агульным жыцці,

а ў прыватным — ні расстанне з Наталяю, з мацераю, з самаю працаю ў Рызе — не зацьмілі яскравасці ды свежасці тых перажыткаў.

Паўтарыцца — ён быў уверany, як у стук колаў сялянскага воза, на якім ехаў у высылку. Калёсы тарахцелі па нерастаўшых ледзяках і аголеных камянёх; возік тросся, штурхаючы яго аб білы, а сэрца цюкала: не мі-не-цца! Не мі-нецца! Адна бяда — гэта ў тым, што яго, чаго добрага, абыдуць новыя рыжскія здарэнні.

Рыга — кацёл на агні. Сёння астыгшы, а назаўтра — зноў у поўным кіпенні. Вось, здарыцца, закіпіць, а яму — не бачыць. Будзе балюча і крыўдна... Ці ж пажадаць, каб развіццё здарэнняў супынілася, пачакала яго звароту?

Дваццаць пяць вярстоў ад станцыі ды ціхая язда. Перагутарыў бочкі з вазніцаю, і часу для думак засталося. Але на гэтае пытанне Рыгор меў верны адказ: няхай здарэнні развіваюцца сваёю чаргою. Болей таго, няхай хутчэй выбухаюць здарэнні. Магутныя, агромністыя, неабсяжныя. Разліюцца іх хвалі, заліюць Смагін і паднімуць на сабе яго — Рыгора.

І па дарозе ў Смагін, і ўехаўшы ў мястэчка, Рыгор не кідаў гэтых думак. Яны моцна запалі ў яго істоту і, як камін агонь, падтрымлівалі надзеі.

З гэтай надзеяй ён ачуўся ў карчме, з ёю прачнуўся і, ёю абданы, глядзеў усцяж прыйшоўшаму дню, наступнаму часу.

## II

Сонца ўступіла месца для ценю: на правай сценцы пакоя паказаўся цёмны вастракутнік. Пукі праменю скасілі ўлева. І белыя каплі, цуркі вады, што ліліся з капяжоў, з гэтага боку — пасерабрыліся. Іх нават было менш, ды, відаць, не з гэткаю рэзвасцю, з куды меншай напружанасцю падалі яны на зямлю. На сонцы, калі прабягала тоўстая рага вады, яе пырскі разляталіся зыркім галёнам ва ўсе бакі; драбнюткімі зоркамі адсвечвалі выбранае святло і смяяліся подыху вясны.

Заглядаючы ў акно, Рыгор ахапляў сваёю ўвагаю ўсе праявы жыцця. У яго істоце знаходзілася досыць пачуцця, каб адарыць ім кожную рэч, малюпаткую

крупінку агульнага руху, што адбываўся ў яго перад вачыма. Гэты рух прыцягаў Рыгора да сябе, варажыў, прыкоўваючы к месцу і ў той жа час — цягнучы ў свой вір.

Ён не лічыў часу, колькі прастаяў каля ўмывальніка. Забыўся пра яду і не заўважыў, як чыесьці крокі падблізіліся да дзвярэй пакоя. Стук у дзверы і запыт, якім гэты стук падмацаваўся, былі для Рыгора раптоўнымі.

— Слухайце-э! Га-а?

— Выйдзеце, калі ласка.

Рыгор адчыніў дзверы.

Гаспадыня карчмы, поўная высокая кабета, неахайна адзетая, з закасанымі па локаць рукавамі, стала ў дзвярах. Яе ветлівы твар, агорнуты мяккаю ўхмылкаю, ласкава глядзеў на Рыгора. Карчмарка мэрам бы вывучвала пасуседа, каб запамятаваць яго.

Некалькі часу абое маўчалі.

— Вас разбудзілі? — запытала гаспадыня.

— Папрашу гарбаты.

Смех абоіх зліўся ў адзін. Карчмарка загаварыла:

— Напэўна, вас разбудзілі... Не ў пару... Сяляне, эх, без усякай далікатнасці!.. Што і казаць... Досвіткам — шусь у двор; паламалі вешніцы... Вунь! Чуць вокан не павыбівалі... Колькі крыку, ляманту!.. Разбудзілі ўсіх, напалохалі суседскіх дзяцей... Кірмаш, цэлы кірмаш — ды годзе! Падума-аць! Вязці ноччу цяжарную... Блізкі свет! Ці ж нельга загадзя паклапаціцца?.. Нядбайства... Ці ж то можа быць, каб з гэтага дзіцяці былі людзі! Куды там! Недарэчнасць адна выйдзе. Зломак...

Карчмарка гаварыла, як грамафон: адкуль браліся словы; неўпрыкмет варушыліся губы, а голас гучаў...

Сама стаяла роўна, непарушна, нібы гутарка падпірала яе з усіх бакоў, не даючы варушыцца.

Рыгор знарочыста паглядзеў на гадзіннік, каб гэтым даць кабеце зразумець, што яму некалі слухаць. Але карчмарка на нічога не зважала ці не хацела зважаць...

Яна на гэта мела свае матывы.

Не пазваць жа чужога чалавека, як сваё дзіцё ці мужа: ідзі, гэй, або як... Трэба, каб цябе людзі паважалі.

І з захапленнем казала далей:

— Думаеце, гэта дарма — не, то з рашчотам. Нашы людзі-ы з рашчотам... Ды не то, каб з рашчотам, а больш з недахопаў. Ад веку... Мы ж тут, па суседстве — дык ведаем, дасканала ўсё ведаем... Так і прыходзіцца жыць... Не верыце-э!.. Мы каля пятнаццаці гадоў з сялянамі маем справу... Што казаць!

Яна перадыхнула:

— Думаеце, выгадная рэч карчмарства? Вечна недаспіш, заўсёды на нагах; не спакоішся: то тое возьмуць, то тое паб'юць, то паломяць... Чыстаты ў хаце не бачыш ніколі! А заработак? І-ых! На ворагаў казана — заработак... Кожны ідзе, заязджае — нібы за ласку, па суседстве... Толькі што лічыцца заработак. Гады ў рады заедзе адкуль чалавек, вось, як вы, і толькі. Хаця б на тыдзень рублёў пяць наскрабаць... і то б добра... А то... Няхай яно спрахне гэткае рамясло!.. і гэткае жыццё!.. На ўсю сям'ю, на яду ды адзежу, калі маеш якіх дваццаць рублёў у месяц,— скачы. А прадасі якую рыбіну ці пляшку квасу — дык заробіш шастак, або чатыры грошы — напрадавайся, калі хочаш... Што казаць, што казаць!.. А яшчэ непрыемнасць заўсёды... Чалавек хацеў бы адпачыць, а другі бессаромна варвецца ў хату або ў двор, наробіць галасу, ляманту, і на табе... Цьфу!..

Карчмарка заварушыла сваю ўстойную постаць, замахала рукамі і змаўчала.

Рыгор раптам зняў з вешалкі паліто і павярнуў да дзвярэй.

Карчмарка пераняла яго:

— А гарбаты? Ах, я і забыла, што вы не снедалі. Ой, даруйце маю благую прывычку — люблю з чалавекам пагутарыць. Мой Шлёма лаецца на мяне за гэта — та што мне зрабіць, калі ўжо ўрадзілася балбатухай? Мо няпраўду кажу? Кожны чалавек — па-свойму. Чаму і мне не трымацца свайго?.. Бывае, што... Дык вып'еце гарбаты?

— Дайце, калі ласка... І папрашу хутчэй, бо зараз жа маю ісці.

Карчмарка павярнулася і выйшла з дзвярэй, але не пайшла; тут жа зноў адвярнулася да Рыгора і запытала:

— А вы былі ўжо ў нашым мястэчку? Вам яно знаёма? Тут нічога асаблівага, прынамсі, няма. Бало-

та — што можа ў мястэчку быць? Чыгунка далёка, фабрык — ніякіх; вось, жывом, як мурашкі ў муравейніку... Усё тут... Але кожнаму свае справы...

Яна з апошнім сказам вярнулася на ранейшае месца, абаперлася на вушак і, забыўшыся пра гарбату, загутарыла далей:

— Ліба-а! Га, Лі-ба-а! Ідзі-ы сюды-і!

Карчмарка рухава цепанула цяжкімі плячыма, скрывіла міну і прамовіла:

— Вось-вось, ужо нешта ёсць... Го-о, ёсць! Ужо зноў набедакурылі... А-яй-а-яй!.. Бачыце-э, чуеце крык?.. Дачку заве...

Размахваючы рукамі, яна рушыла з месца і схавалася.

Рыгор зачыніў за гаспадыняю дзверы і не паспеў адвярнуцца, як пачуў з другога канца калідора:

— Я вось зараз прынясу вам гарбату...

Неўзабаве пастукалі ў дзверы.

— Уваходзьце!

— Адчыніце, папрашу.

Ён хутка адчыніў.

У каморку ўвайшла, з тацаю ў руках, маладая, чарнявая, гадоў васемнаццаць, дзяўчына.

— Добры дзень! — прывіталася яна, паглядзеўшы на Рыгора.— Выбачайце, што мама так доўга замарудзіла з гарбатаю... Яна ў нас ахвотніца гаварыць,— перапрасіла дзяўчына, гасцінна ўсміхнуўшыся Рыгору.

— Нічога, паспею выпіць,— адказаў ён, агледзеўшы дзяўчыну.— Я таксама люблю гутарку,— дадаў.

Але гэта было да слова. Дзяўчына ж, пэўна, зразумела Рыгораў сказ іначай, бо, падаўшы гарбату, наз-нарок замарудзіла з выйсцем: яна перш атрапала настольнік, пасля паправіла крэслы, пераставіўшы іх з месца на месца, далей стала ўсцілаць ложак.

— Вось, асталося толькі падмясці і ўсё ў парадку.

— Дзякую!

Дзяўчына ўсміхнулася.

— Ах, я і забыла, можа, вам падаць малака? — схапілася яна.

— Не, досыць і гарбаты... Хіба ў абедзе...

— А вы калі прыйдзеце абедаць?

— Гадзін праз дзве, думаю... Ды яно для мяне ўсё роўна...

— У нас абед калі хоць... Будзьце ласкавы...

Рыгор ізноў падзякаваў маладой гаспадыні.

Тая завярцелася, як белка, плаўка ды лёгка, і з ціхім напевам вышмыгнула з каморкі.

Рыгор правёў яе ўзрокам і падняўся з крэсла.

У шклянцы на стале асталася недапітая гарбата, а на талерцы — лустачка намазанае маслам булкі.

Ужо сонца пакінула пакой. Толькі адна сцяна мылася яго адсветам.

У карчме пабольшваўся гоман. Разварушаныя думкі астудзілі жаданне хутчэй выйсці ў мястэчка, і Рыгор яшчэ на нейкі час астаўся ў пакоі.

## III

Было а дванаццатай гадзіне дня, калі Рыгор пакінуў свой пакой. Перарваўшы думкі, ён выйшаў з карчмы і пайшоў усцяж вуліцы, напрамкам да рынку.

Свяціла сонца, неатуманенае, зыркае і прамяністае. Дыхала блізкаю вясною. Па баках вуліцы, рундучкамі, шпарка бурлілі джаролы. Гнядая каламутная вада радасна балбатала аб вясне. Бурыя, наздратыя кучкі зацалелага снегу падмываліся вадою і вачавідкі асядалі, меншалі. Сярэдзінай вуліцы, забруджанай густым пластом гавяжага гною, вытыркалі лобікі каменняў, падсушаных ужо сонцам. З поля падыхала прыемным, мяккім ветрыкам; мэрам бы ён, гэты ветрык, быў разбаўлены тым подыхам зямлі, асалоджалым, вызвай, які выпускалі яе рэдкія чорныя плямы. І цёмны лес, азалочаны сонцам, прыветна паглядаў на мястэчка.

Год назад тое самае: мінулая казка вясны калыхалася ў новым нараджэнні неўміраючай чароўнасці. Гэта яе калыханне выразна адчувала ўсё жывое. Слухалі буркаценне вады крыклівыя, з пачырванелымі грабянямі куры, растрасаючы пружыністымі лапамі смуродлівы бруд. Прыслухоўваліся да подыху ветру выпушчаныя з хлявоў каровы і авечкі; рыкалі і мэкалі ў бок поля, у бок лесу, настрэчу пачарнелым прасторам.

Доўгая чарада фурманак выцінала калёсамі па бруку ды па рэштцы лёду аднатонныя гукі. Рагаталі рэзвыя канякі, забрудженыя ў дарозе, з палахмачанаю шэрсцю. У жоўтых, пахучых дубняках, кажухах,

у драп'встых хустках, пілявыя, гаваркія, варушыліся ў саломе на вазах сяляне, сялянкі. Кожную фурманку лавілі пяць-шэсць пакупшчыкаў мяшчан; яны пераплынялі каня, накідаліся на воз і мацалі рукамі прыхаваныя мяшкі, кошыкі, кублікі. Раз ад разу зграмаджаліся ў кучу некалькі фурманак, і сярод вуліцы адчыняўся кірмаш, з крыкамі, лаянкаю і, урэшце,— з гандлёвымі акцыямі...

На голых падгалістых дрэвах, што старажылі амаль не кожную хату, сакатала вараннё. Ужо яно будавала гнёзды, вяло вясновую варкатню...

На хібах стрэх, на вешалах пад стрэхамі хат — варкаталі галубы. З двара ў двор, у марцовым пудзе, ганяліся каты, пішчучы, як ашалелыя.

Каля хат, пры вярэях, стаялі мяшчане, акідаючы дбайнымі ўзрокамі гародчыкі.

Уся гэта шумлівая, рухавая, трапяткая суматоха выглядала нейкай прыемнай, забаўнай, п'янай бяседаю. Кожнае жывое стварэнне, чалавек і жывёла, смагна пілі з аднаго каўша малады сок жыццёвай прагі. Гэта прага п'яніла, гайдала, варушыла драбнейшыя сустаўчыкі кожнай постаці, прыдаючы ёй задзёр, варухлівасць, імпэт. У злітнай радасці, якую нясла з сабою вясна, выглядала векавечнае хараство, бурлівы вір нестухаючага бытавання, незапляменае вялічча неўміручага сусвету.

Рыгор не мог не захапіцца настроем прадвесны. Ён мо выразней усіх, каго бачыў перад вачыма, адчуваў яе калыханне. Ён востра адчуваў сваю вольнасць, яшчэ нядаўна скутую тоўстымі сценамі астрога, і сваю сувязь з акаляючым жыццём, нядаўна адрэзаны ад яго. Ідучы, ён аглядаў нізкія, старыя, часта пахіленыя хаткі, расчыненыя двары. У дробных вокнах адбівалася сонца, і здавалася Рыгору, што і ў гэтых хатках так жа вольна, весела і незалежна, як і на дварэ.

Незаўважна, разам з цугам фурманак, Рыгор уліўся ў рыначны вадакрут і пайшоў да крам. Чаго і што — ён сябе не пытаўся і не задумоўваўся. Ішоў, разглядаў у бакі, цікаваў.

Сяляне таўхаліся, церлі яго кажухамі і халатамі, перапынялі і путалі, але ён не злаваўся.

Каля крамнага рада яго зацікавіла грамадка людзей. Усе з мястэчковай цікавасцю абгаварвалі прылепленую на сцяне абвестку.

Рыгор прашыўся наперад і прачытаў таксама.

Абвестка паведамляла пра беларускі спектакль, які меў давацца наезнай трупай аматараў пад загадам Лучынскага.— «Будзе пастаўлена «Сватанне» і «Па рэвізіі».

«Сватанне», «Па рэвізіі», «беларускі спектакль» — было навіною для тых, хто таўхаўся перад абвесткаю, углядаўся ў чорныя высокія яе літары, па некалькі разоў слібізуючы дзеканне.

Нейкі мешчанчук, у жакетцы з блішчастымі гузікамі і ў шапцы з машастовым аколыхам, круглатвары і рэзвы, нездаволена матаў галавою ды пацвільваўся з вымовы. Казаў, азіраючыся вакола, як бы шукаючы спагады:

— Бе-э-ла-а-рускі-ы, па-дду-а-ма-а-еш! Ххі-ахха-а! Хха-ах! Будзе-э-э! Сва-танне-э!

Адным вокам ён хітра падмігваў сваім суседзям і нецярпліва крывіў губы, мяняючы выраз твару ад неспагады іншых.

— А паглядзець усё ж такі цікава,— не згаджаўся сярэдніх гадоў мужчына, у кажусе, рыжавусы.

Яго спакойлівы тон асадзіў кпітлівага мешчанчука, які раптам азірнуўся на свайго апанента і зрабіў здзіўленую міну.

— А пэўна, паглядзець цікава,— дадаў трэці з тых, што стаялі перад абвесткаю.

Памалу, слова за словам, паднялася спрэчная гутарка. Яна збірала ўсё большую ды большую грамаду. Вачавідкі гутарка дзяліла людзей на два станы, нязгодныя між сабою. Але можна было заўважыць, што спектакль меў за сабою пераважную большасць.

Рыгор нейкі час слухаў моўчкі, прыглядаўся да кожнага, хто прымаў удзел у гутарцы, пасля ўмяшаўся ў яе сам.

— А чаму, браце, ты думаеш, што гэта нейкія штукі? — абярнуўся ён да мешчанчука.— Мне думаецца, што тут зусім не так. Тут абвяшчаецца звычайны спектакль на беларускай мове, і ўсяго.

Усе абярнуліся на Рыгора. Яго хоць бедны, усё ж гарадскі выгляд, яго цвёрдасць і рашучасць у вымове ўняслі нечаканую струмень у спрэчкі. Стала яснейшай сама тэма, вакол якое ішла гутарка, і Рыгоравы словы гулліва разышліся па грамадзе. Многія падазрона паглядзелі адзін на другога, як быццам бы правяраючы

нагаворанае імі пры афішы. І тут жа рыжавусы мужчына, шырока ўхмыльнуўшыся, спачувальна паківаў галавою. Другі ж селянін, у шэрай суконнай жакетцы, з манчжурскаю шапкаю на галаве, мнагазначліва праказаў:

— Ні з чаго не трэба смяяцца, каб на сябе не аглядацца.

Хутка за спектаклем была амаль не поўная спагада.

І як быццам бы таму, што гэта спагада падышла ў пору, пасля спрэчак, ды захапіла добрых паўтара дзесяткі чалавек, далей было лішнім стаяць перад абвесткаю. Усе разам зарухалі і хто куды — сталі разыходзіцца.

Рыгор не агледзеўся, калі астаўся адным, не думаючы, куды і што пайсці. Ён падышоў да абвесткі, яшчэ раз прачытаў яе ад слова да слова і вярнуўся ў сялянскую гушчу, адкуль і прыйшоў.

Абвестка навеяла яму розных думак і ўспамінаў. Пасля бліскучых гарадскіх тэатраў Рыгі, з іх шаломнаю ігрою, ад гэтае абвесткі веяла нечым мізэрным, бедным і шэрым. Але побач з гэтым як у абвестцы, так і ў яе змесце хавалася шмат цікавага. Кожныя аматарскія спектаклі, якія раней адбываліся ў Сілцах, часта пры яго ўдзеле, аднаўлялі яму мінулыя вобразы юнацкага задору і чыстых імкненняў. Мястэчка і тэатр! Ласне малое дзіва? Што і казаць — бударажыла людзей, паднімала на ногі маладога і старога, праганяла сон, застаўляла на момант забываць пра вечны цягучы ды ліпкі клопат... Вось-вось, паміж літар абвесткі выразна паўстаюць героі п'ес «На дне», «Яўрэі», спрытна загрыміраваныя кудзеляй, крэйдай ды сажай замест крамных муль. Сёмка, Волька, студэнт Эрдэль, Ляйнерт ды іншыя... «А ўсё ж даўно»,— прамігнула ў Рыгоравай галаве, і ён крута павярнуў направа.

— Стой! — раптам пераняў Рыгора чыйсьці зычны огук.

Рыгор прыпыніўся і паглядзеў на чалавека, які з шырокай ухмылкаю падыходзіў да яго.

— Не пазнаеш? — запытаў ён Рыгора.

— Не!

— Сроль, давай пазнаемся!

Рыгора здзівіла.

— Адкуль, і што, і як?

Нейкі час ён не ведаў, што сказаць, пра што запытаць таварыша. Прыглядаўся ў Сролеў твар. Брала сумненне ў праўдзівасці вачавідкага факту. Разам з тым забірала задавальненне ад нечаканай, зусім выпадковай, але прыемнай стрэчы.

Прымха нейкая, ды годзі!

І чорная бруднаватая бародка клінком на вуграстым твары Сроля, і абвісшыя рэдзенькія вусікі, што дужкаю апускаліся да бародкі, вяжучы яе ў адзін грушападобны малюнак, і капялюш на галаве, і дасканалы гарадскі чорны гарнітур, белы каўнерык замест заўсёдашняе рубашкі бардо, і палачка ў руках — усё гэта не ладзіла ў памяці Рыгора з тым партрэтам, які маляваў Сроля пры развітанні.

— Цябе цяжка пазнаць!

— Няўжо?

— Сапраўды. Вось гляджу на цябе і не веру...

— Смяешся... Рыгор... Пройдам...

Яны завярнулі між левага боку крамнага чатырохкутніка ў бок майдана.

— Дык якім жа ты чынам папаў сюды, Сроль? — цікавіўся Рыгор.

— А ты?

— Я зусім выпадкова, брат!

— Тое ж самае і са мною.

— Цікава!

— А то ж не?

— Кажы спачатку, Сроль!

Той азірнуўся назад, паглядзеў у бакі і пачаў у агульных рысах аповесць, як і што развіналіся здарэнні ў яго жыцці, чаму, як і калі ён папаў у Смагін.

Цэлы знізак выпадкаў — цікавых ды каразлівых, рашучых ды смелых — перапляліся між сабою і звілі поўную гісторыю Сролевага вандравання за апошні год.

Рыгор з аповесці таварыша дазнаўся, што Сроль у два месяцы пасля яго ад'езду ў Рыгу мусіў пакінуць Сілцы, каб не стаць ахвяраю паліцыі. Два разы прыходзіў станавы са стражнікамі на кватэру, траслі, адымалі кніжкі, састаўлялі пратаколы пра наведванне. Яўных доказаў, важкіх ды сур'ёзных, каб на іх падставе заарыштаваць Сроля, у паліцыі не было. Але паліцыя не магла супакоіцца на тым, каб пакінуць Сроля ў спакоі. Ведаў станавы, ведаў ураднік і шмат хто больш ведалі, што падваліна сілцоўскага сацыял-

дэмакрацтва — гэта гарбар з Віцебска, Сроль Рэзнік. І паліцыя пільна чакала здатнага выпадку, каб ціха, бясшумна расправіцца з ім. Сролю аставалася адно — уцячы з Сілцоў. І вось Сроль адной цёмнай ноччу, а другой гадзіне па паўначы, пакінуў Сілцы. Ён накіраваў на Ліцк. А канчатковай станцыяй меў Слонім. Прабыў у ім тыдзень, пасля падаўся далей і, вандруючы з мястэчка ў мястэчка, апынуўся ў Смагіне...

У Смагіне ёсць некалькі гарбарскіх майстэрань, налічваецца ў іх да трыццаці чалавек рабочых. Паміма гарбарскай прамысловасці, ёсць у Смагіне і дзве слясарскія майстэрні, невялічкая ткацкая, каля дзесятка шчацінагчных.

У Смагіне Сроль ужо болей двух месяцаў. Увайшоў у мясцовую арганізацыю, папаў у сябры камітэта і вядзе спорную, як і ў Сілцах, працу.

Глеба для гэтае працы вельмі лагодная — шмат людскога матэрыялу. Цікавасць працы падкрэсліваецца яшчэ тым, што ідзе вялікі перабой паміж бундаўцамі і іх сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй. Аднак перавага за імі — сацыял-дэмакратамі. Галоўнае таму, што маецца крэпкая база на вёсцы.

Між іх арганізацыяй і арганізацыямі іншых раёнаў наладжана цесная сувязь; часта мяняюцца прамоўцамі, а некалькі разоў удавалася рабіць сумесныя сходкі ў ляску за рэчкаю, у пяці вярстах ад мястэчка.

Увогуле, па словах Сроля, абставіны ў Смагіне былі б вельмі добрымі, каб не шпегства, якое ў апошні час стала пагражаючым для мясцовых, а мо і суседніх арганізацый. Дзякуючы прадаўніцтву аднаго сябра бундаўскай арганізацыі, грозіць правал многім адказным таварышам. Праўда, яны прынялі належныя меры, але ўжо справа зайшла далёка і, можна баяцца, што з часу на час паліцыя навядзе пагром... Гэтая прычына вельмі азадачыла таварышаў з арганізацыйнага актыву, і некалькі з іх ужо на мінулым тыдні пакінулі мястэчка.

Ён, Сроль, таксама знаходзіцца пад уплывам гэтых настрояў і мо праз дзень — другі, у сваю чаргу, будзе вымушаны адлучыцца на нейкі час са Смагіна.

— Вось чаму я вельмі здаволіўся, калі напаткаў цябе. Гэта значыць, што ёсць каму рабіць справу...

Рыгор усміхнуўся.

— Чаму б не так. Але...

— Што але?
— Я зараз скажу, пачакай.
Абодва спыніліся.

## IV

Яны рушылі далей. Шырокі пляц, які запаўняўся падводамі ды людзьмі толькі раз у тыдзень, у аўторак, калі адбываліся ў Смагіне таргі, зараз пуставаў. Некалькі фурманак стаяла ля паркана зачыненага вучылішча; да іх цягнулася пяцера здаравенных адкормленых кароў. Кожны дзень яны тое і робяць, што шнайдарадь па рынку, ад падводы да падводы, і жывяцца зусім нячэсным спосабам — кражаю чужога сена з вазоў.

Між шэрагу хат, якія складалі сабою бок вуліцы, адмяжоўваючы майдан ад лагавое вуліцы, праходзілі рэдкія пешаходы.

Час ад часу Сроль паглядаў у іх бок, як быццам бы вызначаючы кагосьці. Рыгор жа спакойліва цікавіўся кожнай мясцінаю, кожным будынкам, дрэўцам, адлеглымі за мястэчкам пейзажамі. Гэта адцягала яго ўвагу ад чаканага Сролем адказу на апавяданне, і ён упічна праказаў да Рыгора:

— Чаго ж маўчыш?
— А што?
— Кажы аб сабе.
— Ведаеш, забраўшы мяне настрой не дазваляе варушыцца языку. І хочацца казаць, і ёсць многа-многа пра вошта паведаць, а чамусьці так прыемна памаўчаць.
— Кінь, кажы...

Яны завярнулі ўлева. Рыгор на павароце праказаў:
— А ты думаеш, Сроль, што я дабрахвоць ачуўся тут?
— Нічога не думаю, а таму і пытаю. Якім чынам, кажы?

Ён знізіў тон і азірнуўся.
— Няма каго баяцца.
— Ды я не баюся.

І сам азірнуўся вакола.
— Мяне, брат, выслалі сюды ў адміністрацыйным парадку пасля васьмімесячнае адседкі ў астрозе. І, пэў-

на, паліцыя будзе мець за мною пільны нагляд. Так што справа з маёю заменаю другіх — не гэткая простая, як табе здаецца. Трэба абдумаць гэта пытанне ўсебакова... Зразумела, што я не адкажуся ад працы, не магу адказацца... Ты, брат, пэўна, чуў, як і што рабілася мінулым летам у Рызе? Ох, якая вялікасць здарэнняў! Што за ўздым! І вось я, прызнацца, адыгрываў у ім не апошнюю ролю... Разумееш, дапамагаў арганізаваць дэманстрацыю рабочых, выступаў з прамовай, прымаў удзел у сутычках з паліцыяй... Высунуўся, ведаеш, у першыя шэрагі партыйнае арганізацыі... Але разбурыла паліцыя і забастовачны камітэт і арганізацыйны камітэт... колькі было арыштаў ды высылак! Яшчэ, можна сказаць, я лёгка адплаціўся, а другія расасланы хто ў Сібір, хто ў Архангельск, Туркестан... Справы, бачыш...

Рыгор углядаўся ў Сролеў зацікаўлены твар.

— І, ведаеш, братка Сроль,— казаў ён далей,— усё маё жыццё перавярнулася ўверх дном. А складалася яно, бачыш, так. Пазнаўся з цэлым шэрагам таварышаў... Меў пару знаёмых дзяўчат... Ха-ха-ха! Апошняе смешна? Нечакана, само сабою звівалася ў калаўрот здарэнне за здарэннем, яскравыя, бліщчастыя, буйныя па размаху і глыбокія па сутнасці... І вось, прыехаў сюды без грошай. Чужы кут, а выпадзе так, што доўгі час не будзе працы, тады як?.. Каб я адзін, а то ж дзесьці гаруе па мне маці. Шмат часу не пісаў ёй — старая заплачацца. А мо — хто ведае — што здарылася там з ёю, адкуль пачуеш?.. Ты, часамі, Сроль, не перапісваўся з Сёмкам ці з іншым кім?..

Сроль адмоўна paматаў галавой.

— Выехаў, і кончана? Сілцоў як і не было?

— Вядома... А як жа інш... Напішаш — будзе след для паліцыі.

— І то праўда...

Рыгор памаўчаў.

Яны падбліжаліся да пажарнае, што стаяла на адгоне некалькіх сажняў ад паўднёвага яруса крам.

— А я, ведаеш,— зноў пачаў Рыгор,— думаю яккольвечы пабываць у Сілцах. Цягне адведаць...

— Гэта, па-мойму, небяспечна. Там, напэўна, на цябе зубы точаць,— перасцярог Сроль,— ці варта?

— Плёвая справа — няхай точаць; і наточаныя можна будзе выбіць... Ведаю...

— Расхрабрыўся, бачу! — засмяяўся Сроль.

— Якое там храбрасці трэба! Падумаеш!

Ён махнуў рукою, зрабіў два-тры крокі моўчкі і дадаў:

— Гэта яшчэ ў праекце, вядома... Мала што можа стацца за гэты час!.. Пэўна, што цікавей бліжэйшае, тое, з чым вось заўтра мушу спаткацца...

— Пра вошта гэта ты?

— Ды хоць бы аб працы... Скажы, браток Сроль, ці можна як-кольвечы ўстраміцца ў гэтым Смагіне на работу? Хоць бы змалага, якіх рублёў дваццаць у месяц зарабіць, га? А там — як кажуць — бог бацька...

— Я думаю, што можна будзе. Казаў жа — няўжо забыў? — што тут ёсць некалькі майстэрань па тваёй прафесіі. Заўтра зранку запытаю таго-сяго, а вечарам — угледзімся... Ты дзе спыніўся?

— У Крамніка... або я ведаю, дзе лепш!

— Не, нічога і там. Усюды аднакава. Не спадабаецца — можна будзе перамяніць... Так... А вось, наконт грошай як? Кажы.

— Краплюся пакуль,— неахвотна адказаў Рыгор.

— Ды чаго саромецца?

— Пэўна, тым болей перад табою... Вось паснедаў на саракоўку, а то яшчэ і абед заказаў...

Ён паглядзеў на гадзіннік:

— Ужо да вячэры блізіцца... Ды пэўна ж, скажу, як прыпрэ...

— Не хопіць — Крамнік паверыць... людзі добрыя.

Сроль знізіў голас і дадаў:

— І свае. Дачка ў арганізацыі... Бачыў мо?

— Так, яна падавала мне гарбату і прыбірала пакой... Прызнацца — цікавая дзяўчына... і таварыш...

Сроль адказаў на гэта ўкрадліваю ўхмылкаю:

— Кажаш, кінулася ў вочы, га?

— Заслугоўвае таго...

— Дык ведай, што мне яна даўно ў ваччу стаіць. Ха-ха-ха! Наскочыў, брат... Выпадкова, як бачыш. Мо не праўда?..

Апошнімі сказамі хлопцы абмяняліся пры самым будынку пажарнае.

Гурт дзяцей, што таўпіліся перад варотамі будынка, падняў зычны галас. Якісьці мужчына адганяў іх ад століка, за якім прадаваліся білеты на абвешчаны спектакль.

— Во, бачыш, што тут іх чаўпецца,— паказаў на дзяцей Сроль,— гэта ж тут сёння будзе беларускі спектакль.

— Я ўжо абвестку чытаў. Цікава наведаць...

— А вядома — навіна...

— Дык я ўжо адчуваю: мяшчан зацікавіла. Чуў, як дыскусіравалі перад абвесткамі.

— Няўжо?

— Сапраўды. Напэўна, людзям цікава, што за спектакль беларускі?..

— Ды тут усё цікавіць: муха-заваруха,— мястэчка, глуш...

Сроль тузануў Рыгора за рукаў і перабіў яго гутарку.

Рыгор агледзеўся.

Да пажарнае падбліжаўся паліцэйскі стражнік.

— Пойдзем дахаты?

— Давай!

Сроль адвярнуўся, каб ісці.

Рыгор перапыніў яго запытаннем:

— Дык мо зойдзеш па дарозе на спектакль?

— Чаму ж не...

Яны разышліся.

## V

Рыгор не дачакаўся Сроля і рашыў ісці на спектакль адным.

Выйшаўшы на ганак, ён быў спынены воклічам:

— Можа, на спектакль?

Яго пытала маладая карчмарка.

— Так. Можа, маеце ахвоту?

— Калі не перашкоджу вам...

— Што вы, што вы...

— А ўжо так ці інакш, а правяду вас...

Бацька правёў дачку незразумелымі Рыгору марамі.

— Я ведаю, не клапаціцеся,— адказала яна.

Рыгор памаўчаў, пакуль сышлі з ганка, пасля праказаў:

— Бацька непакоіцца?

— Ці ж патураць яму? — адмахнулася дзяўчына.

Каб адцягнуць яе ўвагу ад гутаркі з бацькам, Рыгор перамяніў тэму:

— Я чакаў тут аднаго таварыша. Выпадкам стрэўся,— але нешта ён не зайшоў.

— З таварышам спаткаліся? Я бо гляджу, што вы і абед замарозілі... Гэта ўдачліва. Вы, пэўна, тутка бывалі ўжо калі-кольвечы?

— Прызнацца, не. І не спадзяваўся быць, а вось таварыш найшоўся.

— Цікава, хто такі? Я ж тутка ўсіх ведаю.

— Ёсць гэткі...

— Вы робіце з гэтага сакрэт?

— Ніякага, паверце. Тым болей што мой знаёмы цікавы і для вас.

— Што-о вы, сапраўды?.. Хто ж бы ён быў?

Дзяўчына настаражылася і з узмоцненай цікавасцю чакала Рыгоравага паведамлення.

— Вы знарок? — не дачакалася яна.

— Я жартаў не люблю, калі яшчэ ды пры першым знаёмстве.

— Кажэце каму, ды не мне.

— А вам вельмі цікава?

— Прашу.

— Вы Сроля Рэзніка чулі?

— Ласне ён вам знаёмы? — з зацягам праказала дзяўчына.

— Не верыце?

— Не маю падставы... Але...

Яна крыху памаўчала і няўверана папрасіла Рыгора:

— Даруйце, як жа вас зваць?

— Рыгор Нязвычны...

— Гэта-а вы-і, Рыгор Нязвычны?

Дзяўчына акінула Рыгора ўзрокам з галавы да ног, мэрам бы запэўняючыся ў яго словах.

— Пры вас, ён самы... Чаму так дзівіцеся гэтаму, цікава?

— Так-так, ваша імя я ведаю. Мне Сроль многа разоў дапамінаў пра вас... Ды ён вас шануе! У яго вачах — вы ідэальны чалавек... Ён хваліць вас заўсёды... І я так рада, што з вамі спаткалася!.. Ды яшчэ гэтак цікава спаткалася...

— Дазвольце мне зваць па фаміліі... Здаецца, Крамнік, калі не мыляюся?..

— Так, Ліба Крамнік... Але скажэце мне...

— Гэта пасля, а цяпер...

З-за рагавое хаты прагучаў рэзкі воклік: ні то хтосьці каго зваў, ні то проста, займа здароў, нехта пракрычаў. Іх гутарка спынілася.

Ліба знаходзілася пад уражаннем спаткання з Рыгорам, пра якога раней многа наслухалася і які, дзякуючы гэтаму, мэрам бы астудзіў яе нядаўнюю рэзкасць. Але яна адчувала тое пачуццё ўмілення, якое яе местачковая непасрэднасць абудзіла ў Рыгору.

Рыгору не хацелася думаць пра заўтрашнія захады наконт працы — спакой вясенняе ночы апойваў яго асалодаю новага знаёмства. Гэта казытала яго істоту, засцілаючы мяккаю ўтульнаю ўслонаю жорсткія хвіліны нядаўніх перажыткаў.

— Прыйшлі,— паведаміла Ліба.

— Можа, яшчэ рана? — запытаў Рыгор.

Запытаў назнарок, бо было відаць, што спектакль яшчэ не пачаўся. Пра гэта сведчылі гурткі людзей, што стаялі перад варотамі будынка, шолам, крыкі дзяцей; сведчылі непрычыненыя вароты, з якіх выплывала шырокая паласа святла. Але разам з гэтым чуўся ў пажарнай перапеў музычных зыкаў: музыкі наладжвалі інструменты. Пачатак спектакля набліжаўся.

— А ці нас месцы не разлучаць? — пажартаваў Рыгор.

— У мяне дзесятага рада — хто будзе глядзець!

— Вы дазволіце сесці побач?

— Які вы, Рыгор... Калі ласка! Абы не мяшала вам!

Яна хацела яшчэ нешта сказаць, але яе паклікалі:

— Ліба!

— А, гэта ты, Сроль? Прабірайся сюды...

Праз хвіліну Сроль стаяў каля іх.

— Што так запазніліся? — пытаў ён.

— Чаму, яшчэ ж не пачыналася,— адказала Ліба.

— Зараз пачнецца... А ты хочаш прыйсці ў палавіне спектакля?

— А чаго гэта па гразі таптацца...

— Падумаеш!.. Ідзем у сярэдзіну, Рыгор?

Яны прайшліся праз грамадку мяшчан і ўвайшлі ў памяшканне пажарнае.

У пажарнай было светла і прыбрана. Па сценах вілася дзераза. У кутках, між сцен, і перад сцэнаю стаялі стройныя ялінкі. Радкі елак былі паўтыканы ў траму і бэлькі. Злева перад сцэнаю, якая была збіта з но-

вых смалістых дошчак і завешана заслонаю з дамашніх тканін, сядзелі музыкі; іх было шэсцера. З другога боку, пры дзвярах на сцэну, шумліва таўпілася грамадка моладзі. На расстаўленых доўгіх, няўстойных лаўках, разапятых ад сцяны да сцяны, сядзела ўжо чалавек з паўтараста мяшчан. Чалавек дваццаць стаяла на «галёрцы», бач у месцы, агароджаным ад лавак тоўстаю жэрдзінаю, а ад папярочнае сцяны — пажарнымі драбінамі. З дзесятак хлапчукоў тарчала на бочках ды насосах, што стаялі ў кутку за драбінамі...

Пакуль Рыгор з Лібаю ды Сролем знайшлі свае месцы, музыкі згралі якісьці гучны, какафонны марш і гэтым перацягнулі з вуліцы ў пажарную рэштку публікі. Моладзь, што грамадзілася пры дзвярах на сцэну, хутка расселася: частка яе апынулася на месцах, частка знікла за кулісамі.

Кароткі марш закончыўся бразгатнёю трупцявага званка, за некалькімі ўдарамі якога заслона няўдалым скруткам пакацілася ўгору.

Прыбраная зеленню сцэна, прадстаўляючы сабою воласць, пацягнула да сябе сотні пільных, настарожлівых вачэй. Яшчэ вастрэй праразалі гледачы густы змрок «салі», калі сцэна ажыла ад рэзвых гутарак і порсткіх павертаў артыстаў, прыбраных у вясковыя вопраткі. Белыя світкі і магеркі, паласатыя спадніцы пад чырвонымі чалмамі хустак, знаёмая хатняя, надворная ды палявая мова — востра імпанавалі прытоенай, злітай у адным непарушаным маўчанні «салі». На тварах гледачоў гуляла дзівовая ўхмылка і рэзвая цікавасць. Многія пераглядаліся адзін з другім, ківаючы галовамі... Калі дзея паглыблялася, разгартаючы сюжэт і сэнс п'есы, на «галёрцы» паднімаўся смех і выгукі, якія стрымліваліся з месцаў.

Рыгор пільна сачыў за сцэнай, але публіка раз ад разу адцягвала яго ўвагу на сябе. Ігра, здавалася яму, была добра наладжанай, дапасаванай.

Ён з увагай сачыў за развіццём п'есы. Яе просты, незамыславаты сюжэт кампенсаваўся для Рыгора асалодаю напеўных дыялагаў.

Ужо набліжаўся антракт, калі яго настарожанасць прарвала знаёмая гутарка новага персанажа на сцэне. Гэта гутарка належала артыстцы, што грала ролю нявесты.

Ён натужыў сваю памяць і атрымаў пацверджанне

знаёмасці ў характары яе знадворных рысаў. Ён здзівіўся: як тое можа быць, каб на сцэне чакала яго неспадзяванка?

Заслона важка пала на падлогу, і яе стук зліўся з словамі Рыгора, накіраванымі да Лібы і Сроля:

— Я прайду за кулісы, а вы пачакайце мяне тут...

На яго пытальна паглядзелі з абодвух бакоў.

— За кулісы-і? — прагучала ў Рыгора над вухам. І чацвёра вачэй перакрыжавалі яго пытальнымі ўзрокамі.

Бляск гэтых узрокаў, аднак, не стрымаў Рыгора, і толькі супакойваючы мах рукі правёў паветраную рысу перад вачыма яго суседзяў.

Праз хвіліну, не болей, Рыгорава постаць знікла ў натоўпе шумлівых гледачоў, што густою сцяною адрэзалі сцэну ад салі.

Паўторны ўздым заслоны прадстаўляў перад імі здзіўленых нечаканым поспехам артыстаў.

Тая, чый голас і чыя постаць прыцягнула Рыгора да сцэны, ажно трэці раз з часу скончэння дзеі прадэманстравала перад неўгамоннай саляй.

Яна, напэўна, не паспела пакінуць сцэны, з пукам кветак у руках, калі першы сігнал абвясціў пра набліжэнне другое дзеі.

Густы трупцявы гук званка справадзіў Рыгора назад на яго месца.

— Што ты там не бачыў? — пацікавіўся Сроль.

Расчырванелы Рыгораў твар таіў у сабе лёгкае нездавальненне. Адчуваючы гэта, Ліба чакала яго адказу.

— Ёсць справа.

— За кулісамі?

— Уявіце сабе, што так, за кулісамі...

— Вось гэта нумар...

— Нявехну, здаецца, грае знаёмая асоба...

— ??

— Няйначай... І гутарка, і постаць, і нават манера паваротаў мне дапамінаюць... Гэлю...

— З Рыгі?

— З Сілцоў... Няўжо я абманьваюся?

Рыгор не адцягваў свае ўвагі ад гэтага пытання на працягу ўсяго спектакля.

Рупясць хутчэй праверыць сябе падганяла ходу іграння.

І толькі зарухала ў няроўным сувоі драпястая зас-

лона, каб затуліць сабою зацягнуты спектакль, як няўкосная прагаліна да выйсця за сцэну аддзяліла Рыгора ад Сроля і Лібы.

Развітальныя воплескі гледачоў, як падзяка артыстам, шчодра рассяяліся па ўсёй «салі» і паплылі ў густую цемень веснавое ночы.

Апоеныя імі, паважна, лёгкім цугам ішлі за імі артысты, хаваючыся ў імпазантным акружэнні гледачоў.

— Які я, аднак, цудны...

Недавыказанае сумненне згасла перад пытальным узрокам, накіраваным да Рыгорава твару маладою жанчынай.

— Рыгор?!

Знаёмы, а цяпер наяўны Гэлін вокліч рушыў Рыгора з месца.

— Гэля?!.

— А ты адкуль гэта і чаго?

Як назнарок, гледачы адрэзалі іх ад светлае палосы чырвонага праменя, што незатухшыя лямпы кідалі яго ў расхляпешчаныя вароты пажарнае.

Чорны цалун ночы атуліў іх густым змрокам неразгаданай выпадковасці.

— Хоць бы на цябе паглядзець, Рыгор! Давай на святло... Чаго хаваешся ад мяне... Хі-ха-ахх!

Гэліна пруткая рука, яшчэ не зусім адвыклая ад крутых паваротаў з сярпом ды плугам, сашчапілася з Рыгоравай у локцевым загібе.

Яны павярнуліся ўправа, туды, дзе толькі што ляжала святло, і, зняцэўку, наткнуліся на дваіх чалавек, чуць не стукнуўшыся лбамі.

— Выбачайце!

— Рыгор? Ты блудзіш?

Сролеў вокліч спыніў іх на адгоне двух шагоў адных ад другіх.

— Якая цемень!..

— Далучайцеся да нас, і мы павядом дахаты Лібу.

— Вось падзівіся на Гэлю, калі хочаш...

— Гэлю Сідараўну? Што-а ты кажаш!

— Будзь апосталам Фомкам, і...

Здаровы малады смех, у якім патанула каразлівая нечаканасць стрэчы, зліўся ў адну гармонію са звонкімі адбоямі крокаў, веерам рассыпаных у акіяне ночы, і мяккім хрустам падмерзлае гразі.

За смехам разліўся квартэтны пераплёт ажыўленае гутаркі, якая паходзіла на бурлівае цячэнне вады ў перапоўненых джаролах.

У іх гутарцы зніклі пісклівыя скрыпы зачыненых варот пажарнае і недаўменны трэск вартавое брашчоткі.

— Пара спаць! — пачуўся збоку чыйсьці ўпічны голас.

— Рады слухаць,— адказаў Сроль.

Яго жартаўлівы тон тут жа зліўся з сур'ёзнаю прапановаю Лібы:

— Сапраўды, пара ісці дахаты...

Яны падзяліліся, праз некалькі хвілін згубілі адны другіх з ваччу.

На мястэчку зрабілася ціша, якая ўдзячна яго жыццю познімі начамі ранніх вёснаў.

Дзесьці ў аколіцах, у бок патухаючых жоўтых агеньчыкаў, чулася старанная канкурэнцыя ў брэху двух сабак.

Далей за згонам іх брэху вынікалі перабойныя гукі невядомага стварэння.

— Гэта твая гаспадыня?

— Слаўны яна чалавек!

— Паспеў ужо разведаць?

— Ці доўга пазнаць харошага чалавека!

— Ды яшчэ табе.

— Кожнаму... Гэля, ну скажы ж ты мне, калі ласка, гісторыю гэткіх нечаканых перамен у тваім жыцці... Я ўсё яшчэ пад іх уражаннем...

Да дзесяці крокаў яны ступілі моўчкі...

— Паверыш, Рыгор, вось ужо столькі часу, як я думала над гэтым... Думаю, і не магу сабе ўявіць, што са мною сталася... Мне не верыцца, што трапіла на сцэну, што я пераехала мо з дзесяць розных мястэчак ды гарадкоў... Не верыцца, што я іду вось з табою не па Сілцах, а па нейкім Смагіне...

— Ну, хто ж усё-ткі табе парадзіў гэта або прымусіў цябе пайсці?

— Маўчы лепш,— перабіла Рыгорава запытанне Гэля: — тут не знайсці канцоў... Вінаваты бацькі — ты ж іх добра ведаеш! Вінаваты мой муж, вінавата і сама... Болей сама... Дзявочая слабасць нарабіла ўсё... Пятрусь паехаў і змоўк... Я начамі не спала — думала і дратавалася... Чаму такі ён астаўся гэткім няўдзяч-

ным да мяне!.. І мэрам бы на злосць яму — бо іначай не зразумець маёй выпадковай парыўчатасці — я звязалася з Вусікам... Прыехала ў Сілцы трупа і на спектаклі, вось як з табою сёння, стрэлася з ім... далей-болей — і бачыш. Артыстка-а! Ххі-хі-хі! Артыстка!.. Хоць бы бацькі словам папярэчылі — абы збыць...

— Дык ты замужам, Гэля? Дазволь павіншаваць!..

Рыгор знайшоў у цемнаце Гэліну руку і намерыўся поціскам яе перадаць сваё таварыскае павіншаванне.

Але яна раптам вырвала руку і зрабіла ёю адмоўны мах.

— Не трэба! Не варта віншаваць!

— У чым справа? — недаўменна запытаў Рыгор.

— Я не ведаю, да чаго прывядзе маё замуства... Так... Мой чалавек... Хтосьці ідзе за намі?..

Яны сцішылі хаду і замаўчалі.

Наганяўшы чалавек сігнальна кашлянуў.

— Гэта ён,— прашаптала Гэля і канвульсіўна ўздрыганула.

Рыгор настаражыўся.

— Гэля! Ты ж куды? — пачулася збоку іх.

Гэля стала і прытрымала Рыгора.

— Будзь знаёмым, Лазар, з маім земляком: Рыгор Нязвычны.

Мужчыны моўчкі, але ветліва паціснуліся рукамі.

— А я быў на кватэры і, не знайшоўшы цябе, думаў, што ты...

— Якая клапатлівасць! Ххі-хі-хі! Бачыш, Рыгор...

— На дварэ, апоўнач — і ўсё на месцы, а ты...

У тоне Лазаравых слоў прагучаў калючы ўпік, так дасканала вывучаны Гэляю.

— Сутрымайся хаця перад чужым чалавекам! — пераняла яна мужа.

— Прашу без ушчункаў... Самой трэба ведаць, што нянькі...

Гутарка брала прыкры напрамак. У ёй гучала ўкосная дэманстрацыя супроць Рыгора. Каб ахаладзіць вачавідкую расстроенасць Лазара і выбавіць Гэлю ад далейшых непрыемнасцей, Рыгор перарваў іх супярэчкі заявай:

— Дазвольце пажадаць вам добрае ночы!

— Што так раптоўна? — з фальшывым далікацтвам запытаў Лазар.

— Я першы дзень у чужым месцы.

— Хаця ж не заблудзі, Рыгор...

Адышоўшыся мо на двое сажняў, Рыгор быў пераняты воклічам Гэлі:

— Дык мы чакаем цябе заўтра ў нас... Перадай, калі ласка, Сролю, каб і ён зайшоў... Кланяйся яму і перапрасі ад мяне, што я забыла яго пазваць... Мы спыніліся ў Брэхмана — каля касцёла...

— Дзякую — добра...

Яго нягромка сказаныя словы заглушыла потайкам набліжаная амаль да самага вуха брашчотка вартаўніка.

## VI

У «гатэлі» Брэхмана было, як на рынку. Стаяў шолам, галас. Шасталі дзверы, як на вакзале, з пакоя ў пакой несціхана бегалі мужчыны, жанчыны. Адны з іх напявалі розныя арыі з опер, іншыя вывучалі ролі; хтосьці граў на дудзе, выцінаючы жаласліва-мінорныя тоны; адзін з артыстаў, стоячы на калідоры, барабаніў вершы. Какафонія зыкаў густым струменем выбівалася з вокан «гатэля», разлятаючыся па майдане.

Кучкі дзяцей грудзіліся пад вокнамі, найшоўшы сабе забаву і ўцеху перад дагэтуль ціхім «гатэлем» Брэхмана.

Гаспадар гатэля, Міхель Брэхман, тупаючы па двары, задаволена пачэсваў бараду: госці былі незвычайныя, гарадскія: яны давалі зарабіць. Па некалькі разоў на дзень заказвалі самавар. Патрабавалі піва, віна і закускі... Жонцы, і дачцэ, і служанцы Міхеля — работы па горла. І Міхель Брэхман, даўшы свой дом амаль не ў поўную ўладу артыстам — не дбаў больш ні пра што, як толькі пра тое, каб яны чым найдаўжэй у яго прастаялі. Ён расхвальваў гасцей суседзям і, хто зазіраў у вокны «гатэля», пераймаў гутаркаю:

— Што-о за людзі-ы!.. Такіх я на вяку сваім не бачыў... Ды не толькі я, а наш Смагін, наогул...

Яшчэ гасцінней сустракаў Міхель таго, хто заходзіў наведаць артыстаў.

Рыгора са Сролем Брэхман сустрэў гасцінным прывітаннем і дагадліва запытаў:

— Вы пэўна да нас?

Пачуўшы, што да «іх» — вярнуўся і правёў у самы «гатэль».

— Вас ужо зранку чакаюць...— папярэдзіў ён.— Вы стукайце, і яны вас пусцяць.

Гэля з мужам з самае раніцы прыбраліся да стрэчы гасцей, і гутарка іх з Міхелем вывела абаіх з пакоя.

— А мы ўжо думалі, што вы не прыйдзеце... У нас гэткі вэрлах! Выбачайце — цыганскае жыццё...

— Грэх было б выбачаць перад намі... Кіньце...

— Ну, вы ж такія госці, што хто б мог думаць вас прымаць у гэткіх умовах...

— Трапляецца...

— Ой, не кажы, Рыгор...

Гэля аберуч хапілася за галаў.

— Кінь! Ты ўсё яшчэ, я бачу, не можам прывыкнуць да абставін нашага жыцця!..— папракнуў яе Лазар, увіхаючыся каля накрытага стала.— Бацькаў запечак не досыць намуляў бакі...

Усе засмяяліся на Лазараў сказ.

— Давайце, сябры, разам... Гэля, запрашай гасцей...

— Калі ласка, Рыгор, Сроль, займеце месцы... Выбачайце ўжо... Няхай наша спатканне скрасіць недахопы нашага пачастунку...

— Кінь, Гэля... Гэта не ў Сілцах...

— І хто б то мог спадзявацца... Я ўжо казала Рыгору... Ці не праўда, Сроль?

— Чалавек з чалавекам — не гара з гарою,— адказаў Сроль.

Лазар падняў налітую чарку і агаласіў:

— За нечаканую стрэчу?!

Але ніхто не паспеў адказаць, як раптам адчыніліся дзверы і ў пакой прасунуўся загіб бляда-ружовага, груба нагрыміраванага носа:

— Можна?

— У чым справа?

— Выбачайце! Я думаў, мы зрэпетуем гэту сцэну яшчэ раз...

— Паспеем,— падаў Лазар і адвярнуўся да кампаніі.

— У вас яшчэ мае быць спектакль? — запытаў Рыгор.

— Сягоння пакідаем Смагін... Разбярэш з імі...

— Так хутка?

— Знача за стрэчу і за расстанне?

Сроль кіўнуў Рыгору, і ўсе ўчацвярых выпілі налітыя чаркі.

— Закусеце! Прашу вас... Бо калі зноў сустрэнемся — няведама...

— Сустрэнемся, Гэля,— перабіў Рыгор: — нябось, ты не думала пра Смагін, а між тым...

— Паверыш, ніколі не думала...

— Дарогі крыжуюцца...

— І заплятаюцца вузламі.

— Паверыце, смяялася, калі Сёмка перадаваў табе, Рыгор, уклон: «Угледзіш, Гэля, і прасі яго, каб ён забраў мяне»...

— Гэта Сёмка так?

— А то ж бо то... Зямля вымусіць... Мо ж памятаеце, як ён біўся з бацькам над сваім мізэрным гаспадарствам. Мука адна...

— Сацыялізацыя запазнілася, — пажартаваў Сроль.

Яго сказ астаўся незразумелым ні для Гэлі, ні для Лазара, і ён тут жа паабяцаў:

— За лепшую будучыню!

— Дачакаешся!

— Што за неймавер'е, Гэля! — папікнуў Рыгор.

— Калі мяне не радуе нічога.

— І твае поспехі на сцэне? — запытаў Сроль.

— Вот ужо жывое насміханне.

— Дайце рады — нікольки...

Гэля з адбіткам самаздавальнення на твары ўстала з месца, папpавіла на сабе скамечанае адзенне і падліла ў шклянкі піва.

— Не саромейцеся...

— Нашла каго сарамаціць...

— Я думаю... А Сёмку, хлопцы, трэба выручыць... Яго Сілцы зассуць дарэшты...

— Але, па-мойму, ён не здатны іх пакінуць... Каб на іншага, ужо даўно можна было б на іх махнуць рукою.

— Не кожны гэта можа зрабіць...

— А ты?

— За яе — мяне дзякуйце,— пахваліўся Лазар.

— А то ж не праўда? — ветліва паглядзела на яго Гэля.

— Не чакаць жа Сёмку, пакуль знойдзецца добры ангел і вынесе яго на сваіх крыллях з Сілцоў...

— Так, яго пільна сцерагуць гэтыя ангелы...

— Якія такія ангелы?

— А ты ж хіба, Сроль, не ведаеш, што з Сёмкам было?

Усе настаражыліся.

— Ты не жартуеш?

— Чаму вы мне не хочаце верыць?

— Адкуль ты ўзяла?..

Гэля расказала гісторыю з Сёмкам, якога, незадоўга перад яе выездам з Сілцоў, паліцыя арыштавала і пад канвоем прывяла з поля ў мястэчка.

Гэта навіна востра зацікавіла Рыгора і Сроля. Яны рэшту часу, праведзенага ў гасцях у Гэлі, не астаўлялі Сёмкі без свае ўвагі.

Кожны стараўся лепей вымеркаваць план, калі б і як перацягнуць Сёмку з Сілцоў у горад.

Але ўрэшце ім не ўдалося спыніцца ні на акрэсленым часе, ні на пэўным горадзе.

І Рыгор, і Сроль пакуль мала арыентаваліся ў сваім наступным. Перад адным і перад другім, аднака, губіліся няясныя перспектывы іх будучыні.

У адносінах да Сёмкі пры іх заставалася ўсяго добрае сэрца і цёплае пачуццё таварышаў — ды ці ж з гэтым адным можна было ўступаць у вайну з жорсткім жыццём з-за таварыша?

Для Гэлінага гонару, аднак, хапала таварышавага завярэння, і яна з здавальненнем сустрэла ўспыхшае ў сабе жаданне паведаміць пра гэта Сёмку.

Але ўжо праз некалькі хвілін пасля гэтага, калі нечакана для ўсіх пад вокнамі загрукацелі падводы, а па «гатэлі» ўдвоілася ад'езная сумятлівасць, Гэля забылася мімалётнага парыву,— праўдзівей,— ён затушыўся ў яе нутры непрыемнай выявай сапраўднасці.

Гэта ж сапраўднасць вачавідкі пляміла чорнаю хваробаю халоднага расстання цеплату і бляск знянацкай мілай стрэчы...

Хлопцы выразна адчувалі прыкры настрой пераддарожжа, што раптам заваладаў Гэляй. Яны з няцерпам чакалі зніКшага з пакоя Лазара, каб развітацца.

— У цябе па-нашаму, Гэля,— мяркуючы развеяць яе сум, спачувальна праказаў Рыгор: — тут сядзіш, а тут паднялася і ляці.

— Ой, я ўжо так стамілася ад гэтых пералётаў, што яны мне, як нож у сэрца.

— Толькі без роспачных думак... Я бачу, што ты ёмка прыстасавалася да падарожнага жыцця.

— Ты хіба смяешся?

Гэля адвярнулася ад адчыненага куфэрка, у якім наздзіў шустра гаспадарылі яе ўвішныя рукі, і ўпічна паглядзела на Сроля.

— Усяго і ўцехі, што ў прыказцы: «голы збірайся — голы гатоў».

— Гатова? — не зразумеў яе ўляцеўшы ў пакой Лазар.— Наробяць пажару, як на цягнік спешучы,— вылаяўся ён, бегаючы па пакоі: — думалі к вечару, а яны — на табе, а полудні...

Пасля спыніўся, каб прыняць ад гасцей падзяку, і развітаўся з імі.

— Даруйце, што ў гэткую пару мы запрасілі вас,— выбачыў ён.

— Шкадуем, што мы вам не маглі адплаціць тым жа! — адказаў за дваіх Рыгор.

— Хіба ўжо пры чарговым спатканні,— пажартаваў Сроль.

— А гэта не безнадзейна!

— Калі не суджана будзе вам вярнуцца ў Сілцы! Га-а, Рыгор,— дадала Гэля.

І, адарваўшыся ад упакоўкі, яна пачакала Рыгоравага адказу на запытанне.

— У гэтым не магу цябе запэўніць,— адказаў Рыгор.

— Усё ж я буду прасіць цябе, калі здарыцца наведаць Сілцы — не забудзь перадаць маім бацькам пра наша спатканне...

— Ці ж варта дапамінаць?..

Магчыма, іх гутарка зацягнулася б яшчэ хвілін на дзесяць — дваццаць — вострасць яе, як звычайна бывае перад расстаннем, хутка ўздымалася, але Міхель абарваў іх сваім уваходам у пакой.

Заклапочаны ад'ездам артыстаў, ён не абмінуў паскардзіцца Рыгору з Сролем на сваё пагоршанае, у звязку з гэтым, становішча.

— Вось так і жывеш — выпадкамі, толькі выпадкамі,— развёў стары рукамі: — лёс прынясе добрых людзей — і з тэю ж раптоўнасцю іх забірае... Каб у яго было болей літасці да мяне, старога,— магчыма б,

і я мог крыху акрыяць... А то... І мне добрыя людзі трэба, трэба яны і Крамнікам, ды яшчэ і іншаму каму... Ці ж гэта невядомая рэч?..

Не стрэўшы адказу, ён абярнуўся да Лазара:

— Вось вам, калі ласка, рахунак...

Узяўшы з рук Міхеля кавалачак спісанай паперкі, Лазар пачаў лічыць грошы. Лічачы, ён не заўважыў, калі Рыгор з Сролем выйшлі з пакоя. Праляцелі ў яго між вушшу і апошнія пажаданні поспеху, пасланыя імі Гэлі...

Толькі праз акно ён прыкмеціў беглае прамігненне пары чорных кропак — якія прадстаўлялі галовы Рыгора і Сроля. Яны схаваліся за сцяною ўправа, у бляску расчырвоненага праменя, што паказваючы на мароз, сонца ліло яго ў разварушаную каморку.

## VII

Калі разыходзіліся па хатах, Сроль паабяцаў Рыгору яшчэ з тым-сім пагутарыць пра работу.

— А ты мне паведаміш пра вынікі твае гутаркі?

— Можна нават і сёння.

— А сапраўды, заскоч вечарам.

— Пастараюся.

Думкі аб працы чамусьці нямоцна мулялі Рыгора. Праведзены ў Гэліным пакоі час разагнаў будні́я клопаты. Іх вострасць пасабляла згладжваць і тое, што Рыгор меў выпадак напаткаць у Смагіне Сроля. У выпадку зацяжнага безрабоцця — ён ведаў — Сроль нойдзе магчымасць выручыць яго. Праўда, Сролевы намёкі на небяспеку з боку паліцыі сулілі іншы паварот у справах. Але яго сённяшні настрой не паказваў на сур'ёзнае становішча. Ды застань яно Сроля знянацку — Рыгор патрапіць абмацаць цвёрдую глебу пад нагамі.

Прынамсі, ідучы да сябе, Рыгор не адчуваў жаднае трывогі за блізкае наступнае. Наадварот, навеяныя праведзеным днём думкі смела пераносіліся праз паліцэйскія перашкоды ў шумлівыя асяродкі рэвалюцыйнага руху. На фоне пазалочанага неба выраслі памятныя вобразы рыжскіх падзей, праломленыя ў пецярбургскія інтэрпрэтацыі.

Пецярбург!..

Перад Рыгоравымі вачыма, як з-пад зямлі, вырасла здаравенная постаць паліцэйскага стражніка. Бліішчастыя масянжовыя гузікі адбівалі праменне павісшага над лесам сонца. Зміяіным узрокам пракалолі Рыгораў твар шэрыя стражніцкія вочы. Але мясістыя яго губы гультайна ляжалі адна на другой і дубовае аблічча выглядала летаргічна спакойна.

— Выбачайце!

Стражнік не паварушыўся, і Рыгораў дзюпарты башмак трапіў у заскарузлую ільдом калдабоіну.

І толькі тады, калі Рыгор стукнуў нагою па падсохлай дошцы, каб выліць з башмака ваду, стражнік паважна абярнуўся, прамерыў вачыма адгон ад сябе да Рыгора і спакойліва рушыў у бок, куды ішоў.

— Чучала! — паслаў яму Рыгор удагон, і ўмомант выпусціў з памяці паліцэйскага.

Але пры ўзыходзе на ганак карчмы яму дапомніла пра яго Ліба:

— Вы мелі прыемную стрэчу?..

— А менавіта?

— Хіба ж не напаткалі стражніка?

— Так, меў шчасце.

— Ён ад нас.

— Ласне?

— Меўся вас наведаць.

— Хто яго прасіў?..

— Напэўна ёсць інтарэс.

— Да ўжо ж...

— Бацькі перапужаліся; вы суцешце іх, калі пытацьмуць... Вы будзеце абедаць?

— Калі ласка.

Рыгор прайшоў да сябе і ўспомніў, што яму трэба было наведаць стан.

Было ясна, што стражніку ўсяго і было да яго справы, як пытанне прапіскі. «Гэта, зразумела, дробязь, усё ж павявае агідай»,— праказаў сам сабе Рыгор, і тут жа рашыў азнаёміць Лібу са сваім становішчам.

Калі Ліба прынесла яму абед, Рыгор выпаўніў сваё рашэнне.

Ліба стрэла яго паведамленне зусім спакойна і толькі папярэдзіла:

— Бацькам, аднак, прашу вас нічога не казаць.

Гэта папярэджанне было лішнім — Лібіных бацькоў цяжка ўдавалася абмануць у гэткіх рэчах.

Старая не дала Рыгору скончыць абеду, як прынесла яму сваю дараду:

— Вам не варта адкладваць прапіскі. Навошта злаваць гэту сволач. Вы заўтра ж раніцою і наведайце стан... А пры сабе таксама не варта нічога пакідаць... Не ровен час... Людзі з гэтага жывуць...

Тое, што Рыгор спакойліва выслухаў старую, яе суцешыла і здаволіла.

Не разводзячы далейшае гутаркі, яна пакінула яго аднаго, завесіўшы на выхадзе фіранку...

— Навошта, каб зайздроснае вока ўглядалася...

Філасофія карчмаркі, досыць трапная, аднак не пакінула слядоў на Рыгоравым настроі. Ён хутка адцягнуўся думкамі ад дробнага інцыдэнту з паліцэйскім і вярнуўся да Гэлі. На самоце новы Гэлін партрэт стаяў перад ім ва ўсю сваю паўнату. У смуглых рысах адроднага загару, гадамі ліцованага палявымі вятрамі, пяском ды спякотаю, штучна скрадаліся лёгкаю ружай парфумы. Празрыстыя цёмна-шэрыя вочы яшчэ глыбей западалі ў арбіты, абведзеныя чорнымі кругамі фарбы. Усё ж ні парфума, ні застарэлыя пласты мазкай фарбы, ні балючая чуласць раздражненага грымам твару не хавалі сабою Гэлінага нездаваленне сваім лёсам. Нацягнутасць адносін паміж ёю і мужам, няўтойная знарочыстай ласкавасцю, выпірала напаверх і цесна лыгалася з абрыдлаю сумятлівасцю вандроўнага жыцця. Смуглым водсветам пахвільных суцех, што ўздымалі іх невымагальныя местачковыя гледачы сваёю ўвагаю да яе, як да артысткі, Гэля ўсяго і разнастайніла свае настроі. Чаму і што гэта жыццерадая мяшчанка-земляробка апынулася ў сучасным стане — цяжка было разгадаць. Тут, напэўна, адыгралі ролю прычыны, пра якія бывае не варта казаць... У кожным выпадку Рыгор стаяў да Гэлінай долі на стыку цьмянае загадкі.

У іншым аспекце паўстаў перад ім Сёмка. З гэтым чалавекам Рыгора лучыла глыбокае пачуццё таварыскай блізкасці, цеплата кампаніі ў юнацкія гады. Ён ведаў яго наскрозь, разумеў, як сябе. Сёмкаў вобраз заўсёды запаўняў сваёю прысутнасцю свет Рыгоравых успамінаў і лісціў шчыраю адданасцю яму.

Рыгор упарта змагаўся з наплывамі забыўчывасці, якую расцілі вакол яго разухабістыя хвалі жыцця. Яскрава адзнаная павіннасць выцягнуць Сёмку з ме-

стачковай зацвілі не пакідала Рыгора. Абы толькі ён адчуваў сябе маральна задаволеным — варочаўся да Сёмкі і шныпарыў у вакольных абставінах, шукаючы магчымасцей выбавіць таварыша.

Сёмкава развага, яго хоць і непаваротлівыя, але светлыя і простыя думкі, выразнае ўспрыяцце сацыялістычных ідэй зычылі рабочай справе адданага абаронцу.

Расказаны Гэляй выпадак з арыштам Сёмкі засведчыў Рыгору таварышаву паслядоўнасць. Рыгор не выказаў, але адчуў прыемнасць ад Сёмкавай гісторыі. Гэта вымусіла яго праверыць свае магчымасці сустрэцца з Сёмкам. Сілцы былі астатнім месцам для гэтага, ну ўсё ж пры спрыяючых акалічнасцях нельга было адкідаць і іх... Тым болей што там —

Маці...

«Што думае старая пра свайго сына? Выплаквае балючыя вочы і тупіць безнадзейную веру ўбачыцца? Цяжкім крыжам ляжыць на яе плячах мая разлука з ёю і дратуе сэрца доўгая невядомасць пра мяне. Нельга адмаўляцца ад завабнага настрою наведаць Сілцы. Няхай яны з невялікай гасціннасцю чакаюць мяне, ды ці ж я паеду для Сілцоў, а не для маці і хоць для малой, але прыязнай жменькі людзей? Выпадзе зручны момант і я...»

Вобраз стражніка, мігнуўшы ў раскалыханым ваабражэнні, дапоўніў Рыгору пра ўмоўнасць яго хацenняў. Над ім вісела дазорнае вока дбайнага начальства. І двухдзённае ўхіленне ад стрэчы з ім не выбаўляла яго ад пільнага дагляду... Сённяшні візіт паліцэйскага дапоўніў пра той агідны хвост, які цёгся з Рыгі да Смагіна.

Можа, тым, што ехаў Рыгор, а можа, і папярэднім цягніком ішлі ў Смагінскі стан датычныя Рыгора адноснікі. У сухіх ад запечаных мук і цярпенняў радках участковых дакументаў ляжалі сляды жоўтага будынка рыжскага астрога. Яўка для прапіскі — вязацьме Рыгора прыгатаванымі ланцугамі няволі.

Тут мусіць ставіцца на карту мужнасць і адвага. Бо ён прыехаў у Смагін не для адпачынку, а для працягу барацьбы. Няхай яе памеры, яе пэнт і характар шмат сціслейшыя ад рыжскіх, але ідэйная сутнасць адна ж і тая...

Сроль учора паспеў намякнуць Рыгору аб прыгата-

ванай яму ролі ў гэтым змаганні... Яго не спыніць паліцэйскае вока...

— Уваходзьце!

— Вы адпачывалі? Даруйце, што я так нахабна...

Міхелева кудлатая галава чуць выдзелялася разбеглай у змроку сівізною.

— Чакайце, я засвячу лямпу.

— Мне не доўга... Калі ласка...

Міхель прастаяў з працягнутаю паперкаю ў руцэ, пакуль Рыгор не справіўся з лямпаю.

— Вось вам ад тае артысткі, дзе вы гасцявалі.

— Яны ўжо выехалі?

— Гадзіну таму...

Міхель падозрана агледзеўся на дзверы:

— Шкада мне іх... Гэта былі людзі, якіх мне доўга прыйдзецца чакаць. Такіх людзей пасылае лёс... А вы?

Хтосьці прайшоў калідорам. Міхель выпусціў з рук паперку і выйшаў ад Рыгора.

Ужо з вулічных дзвярэй данёсся яго павышаны голас развітання.

Рыгор ухмыльнуўся запозненай ветлівасці старога і падняў прынесенае.

У ненадпісаным канверце ляжала трохрадковая запіска Гэлі і змяты, пажаўцелы ліст.

Запіска змяшчала ў сабе наступныя словы:

«Перасылаю атрыманы мною ад Зосі ліст. Забыла перадаць днём. Думаю, што табе ён не бесцікавы. Бывай здароў. Гэля».

Рыгор, не сступаючы з месца, прачытаў прынесенае.

У сваім лісце Зося паведамляла таварышку пра апошнія здарэнні з свайго прыватнага жыцця. Ліст напісаны слязьмі пакутнага чалавека. Няроўныя літары адбівалі ўтомленае сэрца жанчыны. Берагі давялі Зосю да таго, што яна не выцерпела і збегла ўпрочкі. Бацькі бесспагадлівы: іх адносіны — невытрымныя здзекі. «Цёмныя думкі не пакідаюць мяне ні на хвілю. Я гублюся ў іх, як запалоханая белка. Памажы мне, дарагая, знайсці незваротнае выйсце».

Зосіна трагедыя хвілін пяць непарушна трымала Рыгора на адным месцы. Ён чуў, што нябачныя ніткі яе шавеляцца пад грудзянаю клеткаю, але не хацеў паддавацца сентыментальнаму настрою.

Патушыўшы лямпу, ён выйшаў з пакоя.

— Вы скора вернецеся? — пераняла яго на калідоры гаспадыня.

— Не забаўлюся... А я вам трэба?

— За вамі ў даўгу гарбата.

— Памятаю... не дарую...

Гаспадыня ветліва паківала галавою, праводзячы пасуседа ўмільнымі ўзрокамі.

«Разумная галава»,— паатэставала яна Рыгора і мэрам бы спалохалася, пачуўшы знянацку стук дзвярэй.

Знадворку ўвайшло трое чалавек, з якіх адзін быў Рыгор, другі Сроль і трэці — Павал Памыйка, рабочы з мясцовай слясарнай майстэрні Шульца.

Яны ў адзін голас прывіталіся з гаспадыняй і прайшлі ў Рыгораў пакой. Цішыня, што ахутвала яго без Рыгора і пры Рыгору — патанула ў рэзвым маладым гомане.

З гэтага гоману выплыў Рыгораў жарт, пасланы да гаспадыні:

— Папрашу ваш доўг з працантам.

## VIII

Рыгор стаў на працу ў дзесяты дзень па сваім прыездзе ў Смагін. Яго прынялі ў слясарскую майстэрню немца Карла-Людвіга Шульца.

Майстэрня Шульца лічылася першаю ў Смагіне і па вартасці вырабу і па якасці ўнутраных распарадкаў. Яна была і эканамічна мацней ад іншых. Гэта асаблівасць з'яўлялася скуткам растаропу і пракіднасці яе гаспадара. Спачатку Шульц цярпеў ад недахопу кліентаў, але хутка яго справы пайшлі ўгору. У кароткі тэрмін найшлося шмат заказчыкаў, праца разгарнулася, пагнаўшы майстэрню на рост.

Ужо на сходзе першага года Шульц не мог справіцца з заказамі і пераняў ад сваіх калегаў-гаспадароў дваіх чаляднікаў.

На другі год яго майстэрня вырасла яшчэ на дваіх чалавек.

За кароткі час Шульц меў магчымасць гатаваць некаторую колькасць прадукцыі ў запас. Гэтак, ён заўсёды меў гатовымі каля пяці балясаў, шмат замкоў, нажоў і іншага дробнага гаспадарчага начыння.

Дзякуючы смякалцы і зваротлівасці, Шульц апрацаваў асобыя правілы ўзаемаадносін з сваімі падмайстрамі. Умеючы з імі ладзіць, ён выкарыстоўваў усякім чынам іх працаздольнасць, не шкадуючы плаціць болей сваіх канкурэнтаў.

Адыгрывала, вядома, пэўную ролю і тое, што ён быў майстар болей адукаваны, практычны, бачыўшы свет і знаўшы слабы бок правінцыяльнага падмайстра.

Шульц ніколі і сам не расставаўся з напільнікам ды молатам. Цэлымі днямі стаяў ён побач з чаляднікамі, адукуючы іх у незаўважных дробязях трымання молата, нахілу напільніка, згіну плечука пры варстаце; галоўнаю якасцю ў адукацыі чаляднікаў Шульц лічыў навык і руплівасць да чыстаты ды акуратнасці. На гэты конт ён чытаў падмайстрам цэлыя лекцыі і натацыі, апавядаў шэрагі анекдотаў і казак, не забываючы падганяць у працы. І сам ён стараўся захоўваць чыстасць, ні на хвіліну не расстаючыся з белым каўнерыкам. Гэта асаблівасць Шульца ўвайшла ў пагаворку смагінцаў, якія заўсёды ў гутарках пакладаліся на «немца».

Чаляднікі ганарыліся вучэннем і працаю ў Шульца. Тыя ж, што працавалі ў іншых майстэрнях, кпапілі на «немца», лічачы сваіх гаспадароў «партачамі».

К таму часу, калі Рыгору трапілася спаткацца з Шульцам — немец меў пяць чалавек чаляднікаў і некалькі пахвальных лістоў за сваю вытворчасць. Пра яго ведалі не толькі ў сваім павеце, а чуць не ва ўсёй губерні.

У сезонны час, летам, работу да яго прывозілі з далёкіх аколіц.

Шульц служыў асобнаю адзнакаю мястэчка. Многія судзілі пра Смагін па «слясарнай майстэрні немца Карла-Людвіга Шульца».

У сваім местачковым жыцці смагінцы лічылі гонарам выбраць майстра Шульца ў паверанага, ці ў хадайніка па тых ці іншых справах. Сустракаючыся з ім, яны прыветна знімалі шапкі; часта хадзілі да яго за парадамі. Той ад смагінцаў, якому выпадаў лёс наняцца на працу да майстра Шульца,— фанабэрыўся гэтым і хваліўся сваім суседзям. Шульц плаціў даражэй ад іншых і падабаўся сялянам за тое, што ўгаварваў іх рабіць акуратней, а з канём абыходзіцца ласкава.

Кожны дзень ён вылучаў гадзінку часу ў абед і прыходзіў у горад наведаць работніка, пагутарыць з ім, а то і пазнаёміць з зямельна-гаспадарчаю працаю ў Нямеччыне.

На майстра Шульца падказвалі, як на дасціпнага гаспадара і талковага чалавека. Мала хто не разбіраўся, чаму і што яму шанцавала ў жыцці, удалося нажыць кавалак зямлі дзесяцін у дзесяць ды абсталявацца харошымі будынкамі. Нітка да гэтага цягнулася з мураванага будынка, у якім працавала пяцера чаляднікаў. На гэты будынак і тыкалі смагінцы пальцамі.

Домік і майстэрня Карла-Людвіга Шульца стаялі на Лясной вуліцы, якая паўдугою цягнулася ганоў на двое на поўдзень, як бы ўцякаючы ад асноўнай масы местачковых будынкаў.

З гэтае вуліцы ішла дарога на другое мястэчка, Галубку, якое славілася дзвюма ткацкімі майстэрнямі і добра абсталяванай лесапілкаю.

Ужо хат за дзесяць ад цэнтра, па Лясной вуліцы, пачыналіся гароды і сады. Яны цягнуліся шырокаю лентаю да найбольшага і багацейшага саду Карла-Людвіга Шульца. Шульцаў гарод з лугам упіраліся ў бераг нелапое рэчкі Жаўранкі.

Дзякуючы гэтай рэчцы, бач яе вясновым разлівам, руніста буялі мурожныя паплавы і прыносілі багатыя ўраджаі гароды.

Слясарная Карла-Людвіга Шульца хавалася за купчастым дубам на адгоне сажняў ста ад дома і была павернута вокнамі да Жаўранкі. Дым з невысокага коміна заўсёды калыхаўся над рэчнымі хвалямі, а іскры танулі ў іх рабаценні.

Вечарамі, калі вясна ці восень слалі над зямлёю свае чорныя цалуны, іскры, што шугалі з коміна слясарні, пярэсцілі мяккі мошаст адвячорку пукамі гарачага канфеці.

Стукі малатоў і бразг жалеза, рытмічныя скрыпы напільнікаў перакідаліся ад майстэрні за рэчку і нясліся ў бярозавую дуброву, што адмяжоўвала сабою палоскі смагінцаў ад шырокіх галаў узорнага маёнтка пана Каструбіцкага.

Налева, куды нясла сваю ваду Жаўранка, цягнуліся даўжэразныя панскія мурагі; вярстоў за пяць яны ўпіраліся ў невысокае ўзгор'е.

Зусім недалёка ад дома Карла-Людвіга Шульца быў перакінуты праз рэчку Жаўранку мост. Мост служыў любімым месцам для гулянкі смагінскае моладзі. Кожны дзень па ім тупаў шумлівы натоўп, у якім знаходзілася і дачка Шульца Маргарыта, знаёмая Сролю і Лібе па ўдзеле ў местачковай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. Маргарыта была палітычна падгатаваным чалавекам і карысталася павагаю з боку сацыялістычнай моладзі. З ёю звялі Рыгора Сроль і рабочы Шульца — Памыйка. Цераз гэта знаёмства Рыгор і астаўся на працу.

З першых дзён працы Рыгор зрабіў на Шульца выгаднае ўражанне. І пэўна таму, што ў Рыгору ён бачыў свядомага чалавека і практычнага майстра; далейшая праца пайшла гладка.

Падабаўся Рыгор і рабочым Шульца. Дзень за днём адносіны яго з імі шчырэлі, рабіліся таварыскі ўсталенымі.

На працягу першых двух тыдняў працы Рыгор вывучаў характар, нораў і духовы склад кожнага з іх. Разам з гэтым стала яму вядомым і іх палітычнае крэда.

За гэты тэрмін поўнасцю высветлілася перад ім і асоба гаспадара — Карла-Людвіга Шульца.

Чаляднікі, як і заўсёды, складалі з сябе досыць разнастайных тыпаў. Былі сярод іх, двое зусім адсталых у духовым развіцці, якія любілі выпіць, мала аддавалі ўвагі свайму класаваму стану. Другіх двое — процілежалі першым: ім нячужа была газета і рэдкая, без выбару, кніжка; але побач з гэтым другая двойка з завісцю марыла пра жыццё Карла-Людвіга Шульца, як гаспадара, «самому над самім пану». Гэта двойка капіявала гаспадара ў паводзінах, беражлівасці і акуратнасці і часта наведвала яго дом. Пяты чаляднік — Павал Адамаў Памыйка, выдзяляўся ад усіх агульнаю пісьменнасцю і палітычнаю свядомасцю. Як майстар, ён таксама быў лепшы за ўсіх, але меў хвараблівасць на падкрэсленае апрашчэнства. У ім, як у люстэрку, адбіваліся найменшыя калыванні палітычнага жыцця і, як ад слоўніка, можна было даведацца ад яго пра ўсе навіны кніжнага рынку. Да выйсця ў свет «Праўды», ён доўгі час выпісваў «День».

Стрэўшыся з Памыйкам, Рыгор ні разу не бачыў яго без далікатна згорнутага ў трубку чарговага нума-

ра «Праўды». Пасля Памыйка адкрыўся Рыгору, што ён з'яўляецца карэспандэнтам некалькіх сталічных і правінцыяльных газет.

У бок гэтага таварыша Рыгор і накіраваў пачуццё свайго сяброўства. Ён уверана і смела выяўляў яму самога сябе, і гэтымі сваімі адносінамі да Памыйкі выклікаў ад яго стрэчныя прыязныя пачуцці.

Павал Адамаў Памыйка хутка ўвёў Рыгора ў гісторыю Шульцавай майстэрні і ў сутнасць узаемаадносін між Шульцам і рабочымі. З Паўлавых паведамленняў выявілася перад Рыгорам своеасаблівасць Шульцаўскай сям'і. Сам Шульц называў сябе «сацыялдэмакратам па-за партыяй»; сын Рудольф, студэнт Пецярбургскага універсітэта, фактычна быў актыўны член студэнцкай сацыял-дэмакратычнай групы; дачка Маргарыта... пра яе Рыгору паведамілі раней. У доме Шульца часта адбываліся партыйныя сходкі, якія часткаю аберагала яго гаспадарскае становішча.

Гэта акалічнасць згладжвала ў Рыгору першачасовую неабыкласць смагінскіх умоў. Але паступова іх упарты націск шчыльніў Рыгора да местачковага жыцця, заблытваючы ў пераплёты яго інтарэсаў. З гэтых інтарэсаў выплывалі пытанні і задачы, з якімі ён быў звязаны як сацыяліст і змагар.

## IX

Рыгор не агледзеўся, як ён стаў шрубкаю новае машыны. Дзень у дзень гэтая шрубка мусіла закручвацца, каб не парушалася праца ўсяго механізма. А сёмай гадзіне раніцы Рыгор ішоў у майстэрню, тупаючы па выбітых дошках тратуараў, абмінаючы знаёмыя хаты і сустракаючы адных і тых жа людзей. А дзесятай ён варочаўся дамоў, у карчму Крамнікаў, адкуль не хацеў выбірацца і якою быў задаволены поўнасцю. Ліба акуратна да яго прыходу ўбірала яго пакоік і праз хвіліну па ўваходзе стукала ў дзверы, прыносячы снеданне. Некалькі далікатных сказаў адно другому папярэджвалі Рыгораву яду...

А пасля гадзіны, адданай на снеданне, зноў Рыгор бег на работу, працаваў да трэцяй гадзіны дня, ішоў на абед, варочаўся з абеду і канчаў свой дзевяцігадзінны працоўны дзень а сёмай гадзіне ўвечары.

Пасля працы Рыгор каля гадзіны чытаў газеты і кніжкі, затым пісаў лісты ці хадзіў да Сроля, да Памыйкі або адзін прагульваўся ў поле, за мястэчкам. Ляжала яшчэ на ім агідная павіннасць з'яўляцца праз два дні ў стан на мальдунак. Яго першачасовая асцярожнасць у паводзінах, рэдкае пападанне на вочы паліцыі пасобіла злёгку занядбаць наглядам за ім.

Карыстаючыся гэтым, магчыма знарочыстым папускацельствам з боку паліцыі, Рыгор на трэцім тыдні свайго жыцця ў Смагіне ўжо свядома наведваўся ў стан толькі праз тыдзень. Аднак дазваляць сабе поўную свабоду ён пакуль не збіраўся. Рыга яго навучыла быць асцярожным і тактоўным. Папасціся яму другі раз у рукі паліцыі азначала не зрабіць і таго, што ён мог рабіць пры асцярозе. Аднак паступова, незалежна ад сваіх меркаванняў, Рыгор цалкам увайшоў у партыйныя справы, занядбаўшы сваім няпэўным становішчам. Гэтаму значна пасабляла тое, што ён жыў у карчме. Пад выглядам папойкі, за пляшкаю піва хлопцы больш-менш спакойліва выраіналі пытанні бягучае працы. Тым болей спрыялі гэткія абставіны яшчэ і таму, што гаспадар карчмы і ўся яго сям'я, ведаючы ў чым рэч, самі аберагалі гэткія пасяджэнні моладзі. Набліжэнне ўрадніка ці стражніка або проста чужога чалавека сігналізавалася старымі гаспадарамі карчмы загадзя. Арганізацыя так званых карчомных пасяджэнняў належала цалкам Рыгору і вельмі прыйшлася ся даспадобы яго смагінскім таварышам.

Праўда, што аднымі пасяджэннямі іх палітычная праца вычарпацца не магла. Яе трэба было шырыць сярод местачковых падмайстраў і пераносіць на вёску. Знаходжанне больш адказных метадаў магло адбівацца на поспеху працы. І тут пасабіў Рыгор: па яго думцы рэшана было арганізаваць у Смагіне публічную бібліятэку з правам раздання кніжак вясковым чытачам. Першым кніжным фондам згодна рашэнню камітэта меўся быць фонд з сабраных самімі сябрамі арганізацыі кніжак. Выбар ад начальства дазволу на права адчынення бібліятэкі складаў справу найцяжэйшую. Сярод сяброў арганізацыі не знаходзілася чалавека, якому б хоць крыху давярала паліцыя. Рыгор падаў думку звярнуцца да Шульца, каб той выбраў на сябе правы на адчыненне і намінальнае загадванне бібліятэкай. Шульц безадгаворна згадзіўся.

Такім чынам справа з бібліятэкаю стала на рэйкі і хутка рухала наперад, прыкрываючы сабою палітычную чыннасць. Дзякуючы Рыгору была праведзена паўлегальная кампанія збору падпіскі на газету «Правда» і ахвяр у яе жалезны фонд. Па ініцыятыве ж Рыгора наладжвалася некалькі спектакляў з пераносам іх у бліжэйшыя да Смагіна вёскі, каб праз гэта навязаць сувязь з сялянскаю моладдзю. Усё гэта ўнясло ў смагінскае жыццё новы струмень асвяжэння. Тыя, што былі адкінуты цяжкаю рэакцыяй ад грамадскае працы, абудзілі прыбітае пачуццё і з ахвотаю выпаўнялі ўскладзеныя на іх паўграмадскія, паўпалітычныя абавязкі.

Вачавідкі расла актывізацыя сярод местачковага рамесніцтва.

Па гарбарнях ды слясарнях, сярод краўцоў, шапачнікаў ды шчотачнікаў пайшлі гутаркі наконт урачыстага святкавання 1 Мая. Сталі чуцца галасы за тое, каб у гэты год май адзначыць маніфестацыяй. Для абгавору майскага пытання адбылося некалькі досыць шумлівых сходак па майстэрнях.

Рыгор яскрава адчуваў набліжэнне цікавых і прыемных падзей. Як-ніяк, а ў іх вызначалася і яго доля стараннеяў. Праўда, ён добра разумеў, што не ад яго залежала разварушыць местачковае жыццё і надаць большага тэмпу ў працы смагінскае сацыял-дэмакратычнае арганізацыі. К яго прыезду ў Смагін расійская сапраўднасць выяўляла агульны ўздым рэвалюцыйнага руху. З усіх канцоў агромністае краіны даносіліся радасныя весткі пра эканамічныя канфлікты і палітычныя выступленні. Пад націскам агульнага ажыўлення ўскалыхнуўся і Смагін. Але няма гэткае ідэі, якая б не прайшла ў жыццё праз людскую існасць. Чалавек з'яўляецца правадніком думак і імкненняў акрэсленае класавае групы. З гэтага пункту гледжання Рыгор меў падставы гардзіцца сваёю чыннасцю ў Смагіне. Ён таксама з неаслабнай цікавасцю сачыў за далейшым яе развіццём. Набліжэнне Першага мая рэгулявала гэта развіццё, адбіваючы яго калыванне, як градуснік тэмпературу.

Мястэчкам прабягала ўзрастаючая затрывожанасць. І па хатах і на вуліцы гутарылі пра падзеі, што іх гатовяць сацыялісты. Зданні нядаўняга мінулага лунала над агойтанымі ў клапотах мяшчанамі. Паўста-

валі незабытыя з часу 1905 года пажары ў маёнтку пана Каструбіцкага, казацкія экзекуцыі над смагінцамі і тая мяртвасць мястэчка, якую нагналі новаз'яўленыя паліцэйскія стражнікі.

Больш падуплыўная бацькам заможная моладзь асцярожлівей паглядала на западазроных у сацыялістычнасці таварышаў.

Дбайней ды рухавей зрабілася паліцыя. Закінутыя вуліцы ўсё часцей сталі наведвацца стражнікамі. Гэтых жа стражнікаў познімі вечарамі можна было бачыць пераадзетымі па-пад вокнамі хат.

Паліцыя не забывала і Рыгора — яго прапіска зноў вярнулася да двухдзённага тэрміну.

Агульны настрой захапіў сабою і местачковую інтэлігенцыю. Яна «дбайліва» вуснамі Шульца перадавала «хлопцам» свае папярэджанні наступнага зместу.

— Вы гатовіцеся да першамайскай маніфестацыі,— казаў «пазапартыйны сац.-дэм.» Карл-Людвіг Шульц Рыгору і Паўлу, запрасіўшы іх адным вечарам да сябе.— Гэта рэч карысная: трэба паказаць паліцыі, што яе свята пакуль не надзейна... Дзевяцьсот сёмы і восьмы гады даўно асталіся пазадзе... Але разам з тым вы павінны ўсебакова абдумаць, які выгляд святкавання будзе карыснейшым і для спраў рэвалюцыі і для вас саміх... Нельга забываць, што паліцыя не супыніцца перад самымі жорсткімі рэпрэсіямі. Яна з асалодай чакае поваду зрабіць крывавую расправу... Мне вядомы некаторыя яе захады да гэтага... Вось чаму не павінна пакідаць вас ні тактычнасць, ні асцярожлівасць... Меней задзёру і больш арганізаванасці... Дзевяцьсот пяты год менавіта праваліў справу з-за адсутнасці свядомага кіраўніцтва рэвалюцыяй. Я б радзіў вам падумаць пра так званую мірную маніфестацыю... Збярэцеся на майдане і спакойліва, без песняў і выгукаў, пройдзеце мястэчкам... Не думайце, што ў маўчлівым паходзе мала эфектыўнасці... Я памятаю, як яшчэ перад дзевяцьсот пятым годам...

Рыгор не даў гаспадару дасказаць, рашуча не згадзіўшыся з яго прымірэнчымі ліберальнымі дарадамі.

— Мне здаецца,— адкрыў ён сваю настойнасць,— вамі гутарыць інтэлігенцкая сентыментальнасць... Карл Людвігавіч, даруйце-э мне, толькі зусім не ў інтарэсах рэвалюцыі стрымліваць размах баявога настрою. Я не думаю, каб гэта пайшло і на нашу ка-

рысць... Ад гэтага можа выйграць выключна перапалоханае цёмнае абывательства... Мы мусім распаляць малейшую іскарку нездавальнення і чым найвышэй паднімаць уздым рэвалюцыйнага энтузіязму...

— Вамі грае экзальтацыя маладосці,— па-бацькоўску маралізаваў Шульц.— Выгук «далоў самадзяржаўе!» з адказам на яго пяццю арыштамі ды высылкай наўрад ці апраўдае сябе. Яшчэ меней апраўдання дасць выпадковы стрэл у паліцэйскіх: яны адплацяць на гэта залпам, і ваш задзёр каштавацьме жыцця некалькіх чалавек...

— Мы не лічым ахвяр, якімі плацім за шчаслівую будучыню... У белых рукавіцах, Карл Людвігавіч, рэвалюцыі не зробіш... Найпякнейшым словам не праб'еш гнілое астрожнае сцяны...

— Не думайце, што астрожныя сцены падаюць ад неарганізавана накіраваных да іх udараў... Так, памойму... А ўвогуле, я, прыватна, за найплённейшыя скуткі перамог, якім бы шляхам тыя ні развіналіся...

У гэткай адлегласці зацягнуліся спрэчкі паміж Шульцам ды Рыгорам на адгоне двухгадзіннага кавалку часу.

Але ўгаворная дарада Шульца ўдала разбівалася аб Рыгоравы ўпартыя доказы за перавагу рашучых метадаў у рэвалюцыйных выступленнях. І надыходзячаму Першага мая не гразіла апаска прымірэнчага зацямнення абяцанай урачыстасці.

— Няўломныя вы людзі,— заключыў Шульц, задумаўшыся над Рыгоравай рашучасцю.

І яго двухсэнсоўны ўзрок мякка прайшоўся па маўклівым твары Памыйкі.

Было дармо: Рыгоравымі вуснамі гаварыў не толькі Памыйка, а і ўвесь местачковы камітэт. Можна было ручаць, што і рамесніцкія колы Смагіна не пайшлі б зараз па слядах Шульца і тых «разумных людзей», чые погляды ён узяўся адстаяць.

Памыйка ўверана запэўняў Рыгора ў праваце яго пазіцый і ад шчырага сэрца выказаў яму сваю павагу.

Пасля гэтай гутаркі Рыгор выглядаў у ваччу Памыйкі загартаваным ваякам і дасканала падгатаваным абаронцам рэвалюцыйных прынцыпаў змагання. Ён абегла раўняў Рыгора з Шульцавым сынам Рудольфам і выводзіў, што апошняму далёка да першага. У Рудольфа, не зважаючы на яго тэарэтычную падгатоўку,

выразна гучалі бацькоўскія ноты. Дробнаўласніцкае паходжанне згладжвала вострыя рубы класавае простолінейнасці.

Аднак і Рыгора і Рудольфа шліфавалі абставіны буйных рабочых асяродкаў. Свой вопыт, веды і рэвалюцыйны стаж набылі яны там.

І ў Памыйкавым нутры, памеж з пашанай да Рыгора, мулялася і пачуццё зайздрасці ды хацення самому прайсці падобную школу.

Праводзячы таварыша ад Шульца да кватэры, ён многа разоў парываўся выказваць гэтыя пачуцці, але іх адпіхала на задні план жаданне выліць Рыгору сваё прызнанне і павагу.

— Ты гэтак трапна папаў да нас, што ўдвойчы цяжка чакаць падобнага збегу абставін...

— Не пераацэньвай толькі мае працы...

— Я не ад сябе аднаго, Рыгор. Мы неаднойчы гаварылі пра гэта з шэрагам таварышаў, і ўсе аднае думкі,— прызнаваўся Памыйка.— Калі ж ты хочаш ведаць мае да цябе адносіны,— дадаў ён,— то паверыш, я ні з кім дагэтуль так блізка не сходзіўся, як з табою... У жыцці людзей бываюць рэдкія выпадкі знаходзіць шчырых прыяцеляў. Іх вельмі мала, Рыгор. Я да цябе быў адзін... і без цябе астануся ў тым жа стане... Хіба стукне такі момант, калі я бязбольна парву з сваім сягонняшнім жыццём... Але для гэтага патрэбны адпаведныя здарэнні... Я не перавялічу, сказаўшы, што ты стрэнеш гэтыя словы ад многіх хлопцаў... Сроль першы...

— Я Сроля ведаю некалькі гадоў.

— Ласне?.. Я б хацеў таксама... Ты не думаеш нас хутка пакідаць?

— Усё залежыць ад абставін... Я прывык да Смагіна, хоць і цягне мяне Пецярбург. Трывожаць думкі і маці, пакінутая аднэй на радзіме... Абяцаў старой на выездзе цэлыя горы, а вось каля года не мог і сухога ліста напісаць... Толькі надоечы сабраўся паведаміць яе і таварыша ў Пецярбурзе...

— Так, дарогі крыжуюцца... І хто ведае, на якім месцы яны зводзяць людзей... Ну, я б хацеў не расходзіцца з табою.

— Дзякую за таварыскае прызнанне...

Шчырасць Рыгоравага пачуцця перадалася Памыйку ў цёплым паціску рукі.

## X

Гэта сяброўская гутарка з Памыйкам узняла ў Рыгору многа чуласці і сямейнае прывязні да новага месца і яго людзей.

Рыгора лісціла іх увага і пашана да яго. Ён разумеў, адкідваючы ўсякую ліслівасць, што кожнаму глухому месцу патрэбны такія людзі, як ён.

Багатыя вопыт і практыка ў рэвалюцыйным руху, якія ім набыліся за час жыцця ў горадзе, дадатна ўзнімалі яго над узроўнем смагінскіх таварышаў.

Нават Сроль, каторы год таму назад стаяў значна вышэй за іншых, зараз далёка адставаў ад Рыгора.

Розуму і ведам Памыйкі выразна не хапала гарадское фабрычнае шліфоўкі. І таму, што паказаныя асаблівасці местачковага жыцця былі Рыгору відавочны, ён шкадаваў разлучацца з Смагінам, не пасобіўшы таварышам як найбольш у іх справах, што былі і яго справамі. Ён уваходзіў у іх стан і яскрава адчуваў у кожным слове Памыйкавай гутаркі шчырае жаданне бачыць яго ў Смагіне як найдаўжэй. Памяталася Рыгору, калі ён жыў у Сілцах: як радасна, бывала, спатыкалі сілцоўцы прыезджых таварышаў! Як шчыра і ўважліва прыслухоўваліся яны да кожнага слова, што ішло з-за межаў іх мястэчка! І як ім шкада было праводзіць гасцёў! Ім тады валодала непаборнае пачуццё — кінуць Сілцы і ехаць туды, адкуль прыязджалі таварышы, каб цалкам нырнуць у тыя ўмовы, якія гэткіх таварышаў гадуюць.

Смагін мяняў ролі: чатыры апошнія гады Рыгорава жыцця ажыццяўлялі яго жаданні. Зараз ён выяўляў у Памыйкі, у Лібы, у іншых смагінцаў падобнае пачуццё завіды яму, як гарадскому таварышу. Чаму ж не ўцешыць іх сваім даўжэйшым прабываннем з імі?

З гэтых матываў Рыгору рабілася прыемна адцягнуць момант свайго ад'езду з Смагіна. Ён бы аддаў у ахвяру гэтаму і прыніжэнне перад паліцыяй, і жаданне пабываць у Сілцах, і хаценне ўгледзецца з Петрусём. Але шкадаваў Рыгор аднаго — разгону і вялікасці рэвалюцыйнае працы ва ўмовах горада. З гэтага выключна пункту гледжання планаваў ён свой час, і гэта адно вымушала яго скарочваць сваю пабыўку ў Смагіне.

З дня на дзень газеты прыносілі ўсё цікавейшыя

весткі пра настрой рабочых і грамадзянства. Палітычнае жыццё, наколькі ён разбіраўся ў яго камбінацыях, несупынна заблытвалася. Падзеі на Бліжнім Усходзе займалі надзвычайную ўвагу палітыкаў. У паветры насіліся іскры надыходзячага выбуху. Кожнаму больш-менш пасведчанаму ў міжнародную палітыку было вачавідкі, што так званае балканскае пытанне да дабра не давядзе. Многія бачылі немагчымасць мірнага вырашэння балканскага пытання, злепленага вузла капіталістычных супярэчак, з лапікаў інтрыг, падбоеў і хітрыкаў з боку так званых вялікіх дзяржаў.

Калі і што надыдзе рашучы момант — Рыгор не мог прадугадаць, як не зрабіў бы таго і прафесіянальны палітык. Але набліжэнне казытала і дражніла яго рэвалюцыйнае пачуццё.

Рыгору паступова рабілася нецярплівей заставацца ў Смагіне. Ён штодзень, чым бліжэй да мая, усё настойней пачаў абдумоўваць план свайго ад'езду. Нават да яго закрадалася сумненне ў тым, ці варта чакаць Першага мая. Для падгатоўкі к яму Рыгор зрабіў многае што, і з гэтага боку сумленне магло быць чыстым... А ў горадзе, магчыма, яшчэ прыгадзяцца яго энергія і арганізацыйная здольнасць.

Але, успамінаючы пра Першае мая, Рыгор усё ж не хацеў яго засмуціць для смагінскіх таварышаў сваім раптоўным ад'ездам. Ён верыў у таварыскасць і шчырае да сябе пачуццё з іх боку, аднак не ручаўся, што яго перадмайскі ад'езд не навее на іх непажаданых думак. І плануючы пра астаўленне Смагіна, ён паступова схінуўся да думкі адкласці гэта на паслямайскі час. За гэты тэрмін, разлічваў ён, выразней акрэсляцца абставіны як у адносінах да Пецярбурга, гэтак і датычна Сілцоў.

Калі для Рыгора гэта рашэнне стала бясспрэчным, ён падзяліўся ім з бліжэйшымі таварышамі — Сролем ды Памыйкам. Першы спакойліва паглядзеў на гэта, другі прыняў Рыгорава паведамленне з пачуццём нездавальнення. Памыйка не хаваў гэтага ад Рыгора і час ад часу дапамінаў яму пра тую страту, якую меціме ў Рыгоравым ад'ездзе Смагін.

Памыйку рабілася цяжка і горка таіць гэту навіну ў сваім нутры. Але сапраўднасць не гадзілася з яго пачуццямі. Рыгор не па сваёй волі, а выпадкова апынуўся ў Смагіне. Адзін паварот у іншы бок губернатар-

скае думкі — цураў мястэчка ад гэтага карыснага яму чалавека. Аставалася пакорліва мірыцца з немінучай разлукаю з ім. Болей таго, на іх, Рыгоравых таварышах з Смагіна, лажыўся таварыскі абавязак ухаваць яго ад магчымых непрыемнасцей нелегальнага выезду.

Памыйка поўнасцю адзнаваў усю супярэчнасць паміж неабходнасцю і сваімі жаданнямі, тым не меней шкадаваў Рыгора. Ён ведаў пра рупятлівасць падгатоўкі паліцыі да Першага мая і сачыў за рамесніцкімі коламі, якія зацягла дэбатавалі найвастрэйшыя формы пратэсту.

Складалася палажэнне, у якім чакалася шмат неспадзяванак.

А між тым Рыгор з адплюшчанымі вачыма ішоў ім на спатканне. І ўсе планы яго, усе яго намеры віселі на валаску.

Валасок павінен быць падмененым тоўстымі аборкамі. Не можа пляма сораму адзначыць нядбайнасць смагінцаў у абароне Рыгора.

Памыйка дзяліўся пра гэта сваімі меркаваннямі з Сролем, з другімі сябрамі камітэта, з камітэтам уцалку. Забываючы тое, што абставіны хавалі ў сабе аднолькавую няпэўнасць у адносінах да ўсіх удзельнікаў святкавання, ён канцэнтраваў таварыскую ўвагу на адным Рыгору. Чамусьці таксама сур'ёзнае становішча Сроля амаль не непакоіла Памыйку — ён нават знаходзіў смеласць упікаць яго ў раўнадушшы да таварыша.

Але ў гэтым Памыйка перастарваўся. Яго самазабыўная адданасць Рыгору таіла ў сабе пачуццё ўмеркаванасці. Сроль далёка стаяў ад таго настрою, у якім западозрываў яго Памыйка. Тым болей безупыннымі з гэтага боку былі іншыя сябры камітэта. Рыгор на ўсіх іх зрабіў аднака выгаднае ўражанне, і цанілі яго ўсе аднака высока.

Рыгор па-ранейшаму прымаў актыўны ўдзел у бягучай працы. З усвойнымі яму рашучасцю ды натхненнем выступіў ён з абаронаю сваіх поглядаў на перадмайскім пасяджэнні камітэта.

Ахапіўшае некаторых камітэтчыкаў сумненне ў правовасці папярэдніх пастаноў пра майскія выступленні сустрэла ад Рыгора рашучы адпор.

Яго прамова вярнула хісткім таварышам рэвалюцыйную загартаванасць.

Ні ў кога не знайшлося довадаў яе абвергнуць, ні нават астудзіць навеянае ёю ўражанне.

— Мы не павінны калывацца пад уціскам абывацельскіх настрояў! — даводзіў Рыгор у сваёй прамове.— Ні аптэкар, ні дантыст, ні нават Карл-Людвіг Шульц з яго дзьмутай сацыялістычнасцю — з намі не па дарозе. Мышы патрабуюць цішыні — няхай яны астаюцца ў норах. Усякія спробы знізіць святочны ўздым рабочых — праступак, прадажа нашае справы. На гэта, я думаю, з нас ніхто не пойдзе. І хай не ад Смагіна залежыць вырашэнне канчатковай перамогі — агульныя вынікі складаюцца з дробных эпізодаў.

Камітэт ахвяраваў небяспекай і заключыў пасяджэнне галоснымі воплескамі па адрасе Рыгора.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Хтосьці, напэўна блудлівы паўночны ветрык, украдкаю адчыніў непрышчэпленае акно ў Рыгоравым пакоі, і светлая раніца заліла яго майскім сонцам. Дыхнула параным пахучым паветрам. Сіняе неба ветліва атульвала старыя стрэхі смагінскіх будынкаў. Непарушныя дрэўцы маўчалі ў асалодзе квітучага бытавання. Руцянеючы мох на страсе суседняе хаты хаваў шэрань беднаты, так непрыкметнае ў гэты ясны, празрысты дзень.

Рыгор не быў гаспадаром сваіх думак: яны пакінулі яго істоту і расплыліся ў шырокім гале вясновага дня, разліўшыся па дрэўцах, па моху, у трапяткіх хвалях паветра. Павольна цюкала сэрца, як бы адбіваючы подых сусвету, прыгожага да чаравання, вялікага да дзіву і магутнага да недасяжнасці...

— Вось яно — жыццё, цяганіна сусветнага працэсу бясконцых змен, несупыннага віравання і векавых перафармаванняў. Навакола, у крупінках эфіру, носяцца частачкі матэрыі, складаюцца, дробяцца і родзяць новае ды новае ў бязмернасці вякоў... Чалавек жа...

— Страляюць?! — рушыў з месца Рыгор і хапіўся за рамы акна.— Няўжо дэманстрацыя? Ах, тавары-

шы!.. Навошта яны мяне ізалявалі. Да чаго іх спачуванне ў час барацьбы?..

Яму стала балюча няёмка. Унутры згрудзілася цяжкае туманнае пачуццё ні то ўпічышча, ні то агіды і злосці...

Ён пастаяў колькі хвілін, пакуль ураўнаважыўся, і тут жа выявіў перад сабою апошняе пасяджэнне камітэта. Здарэнні накіравалі ў чаканы бок.

«Сапраўды, мы не памыліліся ў сур'ёзнасці першамайскага выступлення. Камітэт усебакова выявіў перад сабою магчымыя нечаканасці ў павароце падзей... Толькі пры чым тут мая бяспечнасць?..»

Рыгораву думку абарвалі новыя два стрэлы. Ён прасунуў галаву ў акно і паглядзеў на двор. Направа не заўважыў нікога; але толькі павярнуў узрок налева, як перад ім мігнулася двое асоб.

— Страляніна! Як жа так, што я яшчэ ў хаце! — папікнуў сябе Рыгор і хутка быў гатовы да выйсця. І толькі ён хапіўся за клямку ў дзвярах, як пачуў іх націск з калідора.

— Можна, Рыгор Міхасевіч? — адчыніўшы дзверы, запытала растрывожаная Ліба.

— Прашу вас, Ліба! Хто страляе?..

— Перастрэлка!.. Я знарок прыбегла да вас, каб вы нікуды з хаты...

— Я? Чаму гэта?

— Нядаўна прыбягаў Памыйка і прасіў мяне... Я сцерагла, каб у хаце ніхто не стукнуў. Заперла браму...

— Ах, да чаго ўсё гэта? На вуліцы дэманстрацыя, а я...

Рыгор зноў рвануўся да дзвярэй, але Ліба перагарадзіла яму дарогу.

— Прашу вас астацца ў хаце... Няўжо вы думаеце, што без вас рэвалюцыя згіне?.. Я толькі што з майдана. Дэманстрацыя скончылася і зараз адбываецца лятучая маніфестацыя. Дэманстранты разбіліся на гурткі, рассыпаліся па вуліцах і маніфестуюць неарганізавана...

— Але ж паліцыя страляе?

— Не адна паліцыя, а і нашы...

— І нашы? Таварышы... Усё ж я не дарую вам, што вы мяне захавалі ад дэманстрацыі.

— Я выпаўніла просьбу ці дырэктыву ўсяго камітэта.

— Так, так! — нездаволена праказаў Рыгор.

— Можа, гэта да лепшага.

Рыгор нічога не адказаў і прыслухаўся... Да іх данеслася яшчэ некалькі аддаленых, прыглушаных стрэлаў. Стрэлы рушылі Рыгора з месца, і ён руплiва пару разоў прайшоўся па пакоі. Ліба ўважліва правяла яго пільнымі ўзрокамі і намерылася выйсці.

— Адну хвілінку. Вы не на вуліцу?

— Выйду. Можа, вам?..

— Пачакайце каля хаты мяне. Я праз хвіліну...

Ліба пакінула Рыгора аднаго. Ён хутка перагарнуў зложаныя на стале паперы і выйшаў з пакоя.

— Чакайце, Рыгор, прашу вас...— замахала насустрач яму рукою Лібіна маці.— Каля хаты спыніўся стражніцкі патруль... Прайдзеце на кухню... В-во-а, бачыце...

Дваром між вокан прабегла некалькі чалавек. Лопат іх шагоў адбіўся глухім рэхам па пакоях карчмы...

— Дзе ж Ліба?.. На яе ліха, як вецер, носіцца сюды-туды...

Старая рухава затупала па калідоры.

Угледзеўшы Лібу, якая ў гэту хвіліну порстка варвалася з надворку ў хату, яна накінулася на дачку з востраю лаянкай:

— Скруціш, дачушка, галаву дачасна... Пракуратая!..Чаму табе больш трэба, як усім? Дабегаешся! Сядзі вось у хаце, а то...

— Што з вамі, мама? — не сцярпела Ліба.— Сябе пільнуеце. Найшлі...

— Кіньце гармідар! Хрума, Ліба! — падаў з бакавога пакоя стары Крамнік.— Майце розум...

Ліба дабегла да дзвярэй і гукнула да Рыгора:

— Патруль паехаў да рынку. Давайце пройдзем...

— Куда-а т-табе-э ісці... Ліба!

Старая Хрума нервова замахала паднятымі ўгору рукамі.

— Хоць бы раз паслухалася мацеры...

— Ды кінь жа ты, нарэшце, непрытомніца,— вылаяўся Крамнік,— вось ускруціцца, ускруціцца і цэлую раніцу...

Карчмар неасцярожліва правёў рукою між носа і скінуў з яго пагнутыя, нядобра зачэпленыя за вушы акуляры. Гэта старога раззлавала, і ён моцна затупаў па дзюрпатай падлозе.

— Вы мяне дачасна ў магілу загоніце-э. Гусі кручаныя... Хай бы ўжо хутчэй вы пакідалі адна другую... Ай, ай-яй! І што-а гэта ро-о-біцца-а!

Рыгору было няёмка. Фактычна сварка паднялася з-за яго.

Ліба зразумела яго каразлівае становішча і кінулася разнімаць бацькоў.

Якраз ёй пасобіў у гэтым уваход Памыйкі. Старыя раптам змоўклі і разышліся па пакоях.

— Рыгор дома? — запытаў Памыйка, не заўважыўшы адразу Рыгора.

— Я тут!

— Пастой! Не выходзь на вуліцу. Пачаліся ўжо арышты: дваіх гарбароў стражнікі адвялі ў стан... Трэба нешта думаць... Кожную хвіліну могуць наведаць да цябе...

— Ці ліха? А Сроль? Ты яго не бачыў?

— Не бачыў!.. Хоць бы з ім не здарылася чаго дрэннага... Можа, нам склікаць лятучую нараду?.. Га?

— Зойдзем да мяне і абгаворым...

Ліба асталася адна.

— Я павартую вас!

Яны пайшлі да Рыгора.

— Маніфестацыя прайшла на славу...— пахваліўся Памыйка.— Забастоўка захапіла ўсе майстэрні; крамы да аднае зачынены. Свята — разумееш... як мае быць! Повен рынак людзей... Настрой. Але некаторым дасталося ад стражнікаў. Аднаму нават порткі прастрэлілі... Добра, што не ў нагу... Толькі, вядома, гэтым не скончыцца, не... Трэба чакаць вобыскаў і, магчыма, арыштаў... Табе я раджу, Рыгор, пераначаваць начэй колькі дзе-нідзе... Як думаеш? Сролю тое самае. Паліцыя раззлавана, як звяр'ё...

Памыйкава данясенне было прасякнута выразнай трывожнасцю. Ён нервова бегаў па пакоі і аглядаўся на Рыгора.

Рыгор нейкі час маўчаў, задумаўшыся над словамі таварыша.

— Трэба адшукаць Сроля і парадзіць яму пра асцярогу... Са мною, магчыма...

— Пашкадуюць? Самаўцеха! Кінь, Рыгор... Мне-та напляваць.

— Чаму так?

— А што я маю згубіць?..

— Волю! Ты, пэўна, яшчэ не пераважыў пачуцця гэтае страты... Не так лёгка...

— Бадай што...

— Я табе кажу...

Памыйка раптам спыніўся і паглядзеў у акно.

— Добра! Пасля пра гэта будзем думаць, а зараз я цябе пакіну і пайду шукаць Сроля.

— Яму абавязкова на нейкі час трэба знікнуць ад паліцэйскага вока.

— Рацыя.

Гэта слова было сказана Памыйкам ужо за дзвярыма Рыгоравага пакоя.

Спешныя крокі яго пацягнулі за сабою скардлівыя гукі тупату.

Праз незачыненыя дзверы Рыгор пачуў некалькі сказаў, якімі на ляту Памыйка абмяняўся з Лібай.

— Цікавы чалавек! Эпікурэец сапраўдны. Бесклапотны што да сябе, як птушка. Гэткіх жыццё песціць... Ну, а са мною?

Кінутая ў прагалле наступнага думка хутка пакінула Рыгорава адзнанне. Ім завалодала глухая нядбайнасць да ўсяго, што магло грозіць яму небяспекай ці простай непрыемнасцю. Сталевым каўпаком навісла ўпартая нячуласць, за якой мужнела яго істота.

Каб не Ліба, якая ізноў прыйшла пазваць Рыгора прайсціся ў мястэчка, ён бы праседзеў адзін у пакоі бязмоўна і безварухна чалавекам, каторы скончыў сягонняшні ўрок і дае адпачынак напружаным нервам.

— Над чым задумаліся?

Рыгор устаў і засмяяўся.

— Якраз-та нічога не думаў.

— Знача, як ёсць вольны?

— Бачыце. Тады...

Ліба прыслухалася да прагучаўшага за дзвярыма вокліча.

— Зноў маці расхадзілася. Яна ў нас сягоння асабліва сварлівая.

— Так, трэба яе ўлагодзіць.

— Не вельмі лёгка... Старая... Можа, маеце хэнць выйсці на вуліцу?

— З ахвотаю... Але маці?

— Нічога... Не думайце-э што... Хадзем...

Мацеры не было ў хаце, калі яны прайшлі да выхаду.

— Пашчасціла!— пажартаваў Рыгор.

— Вось табе то і тое...

На суседняй вуліцы, дзесьці за прычыненаю брамаю ў двары, разліваўся малады звонкі рогат. На яго адгукваўся выразны бразг падкоў, ці то змораных за дзень мяшчанскіх коней, ці распуджаных стражніцкіх стаеннікаў.

Не згаварваючыся, Рыгор з Лібай накіраваліся ў бок вуліцы, якая бегла ў поле да засмечанага пылам ветрака.

Насустрач ім, з дэманстрацыйным рыкам, спяшыла ў мястэчка лента выстраеных шэрагам кароў.

На вуліцы блізіўся вечар. У ціхім густым паветры насіліся кудлы пылу. Каля двароў хат, амаль не спрэс, стаялі гурткі моладзі, горача абгаварваючы падзеі мінаючага дня. Чырванеючы захад залаціў зялёныя галы паплавоў, што разгарталіся перад прагнымі ўзрокамі Рыгоравага ваччу.

## II

«Няўжо сем гадзін?» — здзівіўся Рыгор, працягваючы руку за гадзіннікам.

У пакоі было светла і ціха. Спаць не хацелася нізвання. «А калі і раней сямі? Учора весь дзень адпачываў — за ноч выспаўся».

Рыгор забыў паглядзець на гадзіннік і палажыў яго пад падушку, а сам стаў адзявацца.

«Напэўна, госці на мінулую ноч раздумалі аддаць візіт».

Ён абмыў твар і выйшаў на вуліцу. Пастушкі толькі што займалі гавяду. Дзесьці на рынку чуўся зык берасцянкі. На яго адзываліся глухія стукі вешніц і траскучыя скрыпы варот.

Над шчытамі хат працягаліся чырвоныя каснікі променя —імі таксама залаціліся верхавіны блізкага гайку і трапяткія лісці разгацістага вяза ў двары суседняе хаты. Па стрэхах хат і на тым жа вязе вароны спраўлялі вяселле.

Учарашняе трывогі, хвалявання — ні следу. Нівошта не дапаміналa пра маніфестацыю, патрулі, страляніну. На адгоне вярсты, за востраю страхою школы, высілася вежная надбудова паліцэйскае цытадэлі.

«Няўжо ў ёй сядзяць заарыштаваныя ўчора гарбары? А мо да іх далучаны, чаго добрага, Памыйка або Сроль? І ўзброены стражнік адмярае вартавыя крокі? Ці той жа спакой, які спраўдзіў мой сон, быў уласным для ўсіх жыхароў мястэчка, пачынаючы ад Сроля з Памыйкам і канчаючы станавым з стражнікамі?»

Адказаць было некаму.

І Рыгор моўчкі накіраваў у абход мястэчка, пастаўнікамі да майстэрні.

Загінаючы за рог канцавое хаты, ён паглядзеў на гадзіннік: было без дваццаці сем. Рыгор змерыў вачыма адгон да Шульцавага гарода, адлажыў прыблізных дваццаць хвілін для ціхае хады і прысеў на плоце.

Ад маладое травы на пастаўніках нясло мядовым водарам. Было лёгка дыхаць. У нутро надыходзіла рэзкае натхненне, ткучы шаўкавістую тканіну ўзнёслых, палкіх думак і намераў. Ці думаў хто пра яго ў мінулую ноч, ці не памыкаўся на яго паліцэйскі намер?

Уверсе, над галавою, неабмежны прастор блакітнага неба, аздобленага бурштынавым сонцам, а ногі на мяккім дыване поплаву... Побач — дэсані разнастайнай загарадзі: шастаколу, пералаза, плятніка, драцяных нітак; за загараддзю — зялёныя дрэвы ў маладым светла-зялёным лісце, а то і ў белым прашыве нераспушчанага цвету. Не адарвацца вачам!

Але яму трэба ісці.

Асалодна пацягнуўшыся, Рыгор пайшоў да рэчкі. Заваленая лёгкаю павуцінкаю луні, Жаўранка выпірала яму вострае калена свайго залому і далей наўскос кіравала да Шульцавага поплаву. Адкуль яна вынырала — цяжка было выявіць, бо густыя кусты лазы ды алешніку хавалі яе ўлонне. Толькі мо на паўвярсты ўлева вынікаў з травы яе невялічкі кавалак, сінім вокам пазіраючы на Рыгора.

Рыгор павярнуў направа і накіраваў берагам успадарожжа вадзе.

Там, дзе Жаўранка бліжэй усяго падыходзіла да плота, ён спыніўся.

На гадзінніку паказвала палова восьмай.

Рыгор пералез на паўстанік і вузенькаю сцежкай пайшоў праўцом да задымленага, з невялічкаю трубою цагельнага будынка.

Яго настрой крута змяніўся; думкі панесліся ў майстэрню, уздымаючы выгляд яе ўнутранага зместу.

Мігнулі шэрыя вобразы будзёншчыны. Учарашні дзень бліснуў празрыстаю маланкаю і згас. Зараз, вось, радком ушасцярых, пад наглядам Шульца, прыгнуцца яны над варштатамі і заскрыпяць па жалезе вострымі напільнікамі... Шульц завядзе свае маралі... Пачне пытаць пра учарашняе. Магчыма, папікне ці паіранізуе над чым.

— Рыгор, на хвілінку,— пачуў ён ззаду сябе.

То якраз быў Шульц.

Ён нагнаў Рыгора, прывітаўся з ім і, не спыняючыся, пайшоў побач.

— Значыць, рашылі такі выспрабаваць непрыкрытую дэманстрацыю? Не хапіла цярплівасці...— пачаў першым Шульц, заглядаючы Рыгору ў вочы.

— Як ведаеце... А чым было дрэнна?

— А па-маёму, дрэнна... Трэба было ўтрымаць... Нябось, чуў мо, што ноччу адбыліся трусы чуць не па ўсім мястэчку... Я проста здзівіўся, калі знянацку цябе стрэў. Глядзі адно, каб не наведала паліцыя сёння і да цябе... Не шкодзіла б пераначаваць у мяне. Вось і з Памыйкам невядома.

— Можа стацца...

— Сроль Рэзнік — дый той хітрэйшы... Ён гэту ноч начаваў у нашай майстэрні.

— Ласне?

— Так... Нават у нашага Рундука траслі каля гадзіны...

З-за хаты паказаўся Памыйка.

— Цэлы, глядзі! — пасмяяўся Шульц.— Вам пашанцавала.

— У агні не гарымо, як кажуць, і...

— Не запэўняйся... Трэба лепш прысцерагчыся, браце...

Яны падышлі да майстэрні. Шульц прапусціў Рыгора ў дзверы, а сам вярнуўся назад.

У дзвярах Рыгора пераняў Сроль.

— Мне Карл Людвігавіч паведаміў, што ты ў гасцях...

— Чакаю больш паўгадзіны...

— Толькі?..

— Сплючы, не думаў пра нікога.

Да іх падышоў Памыйка.

— Цэлыя?

— Мы не гаршкі, каб...

— І гаршчок да пары ваду носіць...

Карыстаючыся адсутнасцю Шульца, яны выйшлі з майстэрні і адышліся да кустоў агрэсту.

— Ведаеце што, таварышы,— паведаміў Сроль,— я надумаў сёння ноччу пакінуць Смагін. Рундук, напэўна, тое самае зробіць. Яго ж траслі... Забралі ўсе кніжкі, пісьмы... Чаму не заарыштавалі — дзіва!.. Вось не ведаю, як і што было ў мяне на кватэры — не наведваў... Хіба папрасіць Лібу Крамнік... даведацца.

— Куды ж надумаў ехаць? — запытаў Памыйка.

— Радзьмася ўтрох — гэта ж агульная справа... Ды... Тут усё агульнае; а можа, па-вашаму пакуль і не след ехаць? Ліха яго ведае... Кажэце...

Хлопцы хвілін з пяць думалі.

— Едзь, браце,— парадзіў Рыгор.— Нашаму брату не можна доўга заседжвацца на адным месцы... Годзе — папрацаваў. Перакідайся, пакуль цэлы... І ў другім месцы людзі патрэбны...

— Ды ўжо ж, не прывыкаць да пераездаў...

Памыйка спагадліва паглядзеў на сур'ёзны, задуменны твар Сроля і прамаўчаў.

— Ну, а па-твойму, Павал?

— Па-мойму?.. Па-мойму... Я не паеду — гэта першае; а табе... магчыма, Рыгор праў... каціся ў Вільню... Усё далей ад Сібіры і Архангельска...

Ён уголас зарагатаў, пасля раптам стрымаўся.

— Я люблю цябе, Павал, за тваю бяспеку... Але — давай без жартаў...

— У гэтым Сролевым сказе і Рыгор і Памыйка адчулі лёгкае, нутранае ваганне — няпэўнасць у тым, адобрываюць хлопцы яго намер ці толькі выспрабоўваюць яго цвёрдасць.

— Я магу гэтак і так,— дадаў Сроль.

— Не можа быць іншага выйсця — едзь,— у адзін голас пастанавілі Рыгор з Памыйкам.

І рашучасць іх слоў мігам адбілася на Сролевым твары: хлопец ураўнаважыўся, заспакоіўся і перайшоў да іншых пытанняў.

— Архіў і пячатку я пакінуў у Сімена Галаса... Надзейнейшы чалавек... Кравец з майстэрні Шамеса... Яго Павал ведае. Я скажу, каб ён да Рыгора прыйшоў. А вы, браткі, глядзеце за арганізацыяй... Ты, Павал, асабліва... Рыгору пакуль нельга адкрыта, а ты...

— А мне пляваць... Чым даражыць?..

— Як бы сабе ні было, а жыўцом аддавацца ў рукі — не след... Ды ты не так паліцыі патрэбен, як ёй патрэбна спаралюшаванне твае працы.

— Мы паспыталі ўжо гэтага, кажаш, не навіна,— пасмяяўся Рыгор.

— Як бы сказаць...

— А калі едзеш і з кім?

— Я на змроку забягу да Крамнікаў... Трэба зрабіць так, каб як найменш людзей ведала пра гэта...

Хлопцы заўважылі Шульца і вярнуліся ў майстэрню.

— Пара, хлопцы, да варштата,— паслаў Шульц ім удагон і, азірнуўшыся навакол, дадаў: — Нечага загаворы ладзіць...

— Ідом! — праказаў Памыйка.

— Пільная праца: сячкарню з маёнтка прывязлі рапараваць... На сёння павінна быць гатова...— папярэдзіў Шульц і зацікавіўся кустамі.

Сроль правёў таварышаў да майстэрні і павярнуў на сцежку, па якой прыйшоў Рыгор.

Стук малатоў і бразг жалеза ў слясарнай праводзіў яго няўверaную хаду ў бок да Жаўранкі.

## III

— Рыгор Міхасевіч! Прымха, ды годзі! Вы бачыцеэ? Лістоў, як да якога камерсанта... Во... Адзін, другі, трэці... Сёння ад вас належыць...

Ліба працягнула насустрач Рыгору зложаныя веерам лісты. Яе маці, старая Крамніха, седзячы на ўступах ганка, суцешна паглядзела на вяртлявую дачку і нешта прамармытала сабе пад нос.

— Абед гатовы? — справілася ў яе Ліба.

Рыгор пераняў ад Лібы лісты і паспяшыў да сябе. Клубок раптоўных, загадкавых думак занасіўся ў яго галаве. Ваабражэнне стала паспешна плясці разнастайныя камбінацыі зданных вобразаў. Яны затулілі настроі, з якімі Рыгор пакінуў майстэрню. Астыў уз'юшаны доўгай працай і свежым паветрам апетыт.

— Сапраўды — прымха,— пацісчуў Рыгор плячыма, ачуўшыся адзін на адзін.

— А абедаць? — пачуў ён з-за дзвярэй, але не адказаў.

Ліба з хвіліну недаўменна паглядзела ў непрычыненыя дзверы і, не дачакаўшыся адказу, цішком адышла.

Рыгор заняўся лістамі. Ён дастаў іх з канвертаў і паглядзеў на характар пісаніны. Гэта яму нічога не сказала. Тады ён прыняўся чытаць.

Першы ліст быў ад Гэлі...

Яна пісала пра справы свае трупы, пра спектаклі, якія ёй прыйшлося разам з трупаю адыгрываць у цэлым шэрагу мястэчак і гарадоў.

Сур'ёзна і з замілаваннем паведамляла яна пра той шумлівы поспех, які праводзіў у розных месцах іх спектаклі і... яе выступленні. З натхненнем апісвала Гэля спектакль у адным прамысловым мястэчку, дзе рабочыя гарбары падаравалі ёй пару выцяжак і букет красак за яе здольнае выкананне ролі.

Але чамусьці, следам за бадзёрымі сказамі пра гэтыя здарэнні, Гэля з сумам пераходзіць да сваіх суадносін з мужам. Яна рэкамендавала яго Рыгору чорствым, халодным, безудзельным да справы тэатра і да яе, як жонкі, чалавекам.

Яе ліст канчаўся ўспамінамі пра Сілцы, пра гутаркі з Рыгорам. У апошніх радках яго Гэля выказвала спагаду таму, што «жыццё раскідала іх па розных кутках, паставіўшы кожнага ў розныя ўмовы».

«Напішы адказ на Беласток — да выпатрабавання»...

Другі ліст пісаў Рыгору Сёмка...

Па размашыстым характары, што распаўзаўся ломанымі літарамі па бруднай, плямістай паперы, выяўна адбівалася змардаваная рука таварыша-хлебароба. Ад лістоў нясло кіслым паўбульбяным хлебам ды пясчанаю, няўроднаю зямлёю. Між радкоў мігаліся беглыя ўзрокі гаспадарнага ваччу Сёмкі.

Ліст адцягнуў да сябе ўсю Рыгораву ўвагу. Перад ім выраслі вобразы мінулага. Вось ён бачыць Сёмку на полі пры ворыве. Пільнае вока заўзятага дбайніка-гаспадара аглядае кожную мясцінку вузкай палоскі. Раз ад разу Сёмкаў узрок сягае ў бакі, дзе сцелюцца шырокія галы ніў, якія сціскаюць яго шнурок да памераў вузкай межкі... Ліст прысвечаны амаль не цалкам грамадскаму жыццю Сілцоў. У ім падносіцца Рыгору суцэльная схема сучаснага стану мястэчка ў водсвеце палітычных настрояў. Сілцоўцы не дрэмлюць... Варушацца... Знайшлося шмат новай моладзі, якая згурта-

валася ў некалькі колак з мэтамі самаадукацыі. Удалося адчыніць бібліятэку-чытальню і правясці зборы на палітычных ссыльных... Сам ён, Сёмка, менш як раней аддае часу грамадскай справе — зацягнуты ў бросню будзённага жыцця, заўсёды пад шчыльным наглядам паліцыі — аднак «не адарваны ад змагання»...

Ён жаніўся з Волькаю, і гэта крыху звузіла яго грамадскую працу.

Пятрусь піша Сёмку лісты і ў кожным пытае пра Рыгора. Хацеў бы бачыць яго хутчэй у Пецярбурзе, у асяродку рабочай гушчы... Сёмка дзівіцца, як трывае Рыгораў настрой пасля бурліва перажытых дзён.

«Ці асвойтаўся ты ва ўмовах ціхага местачковага жыцця, ад якога гэтак уцякаў?»

Рыгора ўспамінае і Зося... «Выпадкова праз жонку дазнаўся, што атрымала ад цябе ўклон. Была здзіўлена і разам жа зарадавана. Але... Ёй не да гэтага... Жыццё тузае і яе, бедную, як знарок аброчаную на пакуту. Жыве на дзве хаты: у Берага і ў бацькоў. Больш у бацькоў. Амаль што не кожны месяц прочкі, сваркі... Прасіла кланяцца... Горкім дакорам мінулая абмылка»...

«Твая маці доўгі час хварэла... Многа плакала ў роспачы, у разувер'і ў тое, ці хаця жыў ты, ці хутка адгукнешся»... «З якою радасцю пазвала мяне чытаць твой ліст! Якім шчасцем было для яе атрымаць ад цябе грошы!»

«Я заўжды суцяшаю старую, абнадзейваю».

«Не патрабуй большага — ад сілы пасабляю».

І нарэшце Сёмка крануў хваляваўшага яго пытання — пра выезд у горад. «Думаю пра горад... Ведаеш — чым гусцей сплятаюцца жыццёвыя сеткі, тым большая прага вырвацца з Сілцоў. Але ці будзе на гэта магчымасць, ці прыйдзе час?..»

«Пра хатнія навіны піша маці... Пішы надалей! Твой Сёмка...»

Рыгор дачытаў і паглядзеў у акно. Змяркалася — уваччу бегалі мурашкі.

Вакольнае жыццё было адгароджана ад яго неабсяжным прагалам... Рыгор жыў не ў Смагіне, а ў Сілцах, за сотні вёрст ад яго. Асалода адчування гэтага прагнала ўсякую ахвоту да яды.

Як прыемна, што ніхто не трывожыць яго ў гэтыя хвіліны!..

«Ага... У мацерыным лісце хатнія навіны».

Ён падышоў бліжэй да акна, абапёрся локцямі на падаконнік, а лобам — да гладкае халоднае шыбы...

Шэрае святло адвячорку разганяла літары. «Хто пісаў мацерын ліст? Сёмка? не пазнаць — мэрам другі зусім характар. Ды ці ў гэтым справа?»

«Мой даражэнькі, сыночак мой залаценькі, любы Рыгорка! Ластаўка мая легкакрылая»,— пачынала маці.

«Як я рада, што цябе лёс захаваў і ты адазваўся на мае прычыты. А столькі ўжо я папагаравала! За гэты час я многа чаго працярпела, сынок мой! Здароўе без таго нецікавае, а тут яшчэ гэтыя мітрэнгі... Дык сэрца гэтак ные, гэтак пятрае, што здаецца, вось, сарвалася б з месца і паляцела б немаведама куды... За край свету выбралася б... Людзям замінаю, вузкі дарожкі, цесна... Дзякуй ім — адны Сёмкавы не адцураліся мяне... Сёмка — ну і да залаты ж чалавек!.. Які ён, сынку, добры твой таварыш!.. Суджана было Вольцы сустрэць гэткага чалавека... Пашукаць падобнага ў свеце і не знайсці... Я, бывала, плачу, гарую — ён прыйдзе і, здаецца, здыме камень з грудзей: — мэрам ты сам пакажашся... Можа, праз гэта і вытрымала...

Твой-та ліст, Рыгор, уваскрасіў мяне, дальбог жа, сынку мой мілы. Паверыш — ляжала як забітая, а адкуль узяліся сілы — паднялася і насустрач паштальёну. Зусім не спадзявалася, што ад цябе... Жарты-і столькі часу — няведама і нязнана, жарты-і!

Пазвала Сёмку і, моцна плачучы з радасці, праслухала некалькі разоў. Паляцела бы да цябе, Рыгорка... Панясласся бы ветрам, сынку. Даруй, што доўга не пісала... Сёмка ездзіў у дарогу. Волька занятая, да Зосі ісці — не зручна. Заблыталася — а час прамінуў... І толькі цяпер, вось, калі Сёмка вярнуўся, сабралася напісаць... Два вечары засаб пісалі...

Што ж табе сказаць пра маё жыццё? Цяжка жыву, дарагі сынок. Прыехаў бы — паглядзеў. Але ці можна табе наведаць мяне? Так — тыдзень дастала твае грошы. Дзякую, сынок. Аднаго не хапае — не разам... Каб гэта, ды як у іншых людзей... Сёмка заўжды пры бацьках, Саўка... Другім іначай, а табе іначай... Зразумела, не наша воля ды сіла не наша, каб перайначыць... Мабыць, ужо нам суджана не ўгледзецца больш. Усё ж, калі будзе як,— не забывай... Ты ведаеш, што я адна...

У мяне ты — любы Рыгорка, і больш нікога, суздром нікога... Не магу пісаць — слёзы заліваюць паперу... А цяпер яшчэ дапішу навіны... Слухай, сынку, мо не пазней, як тыдзень таму, я гэтак прыўстала сяк-так з полу, зазірнула ў акно, а ў двор завярнула нейкая дзяўчына... Хто б яна — думаю і чакаю. Бачу — ідзе ў хату. «Дзень добры».— «Дзень добры». «Ці тут хата Рыгора Нязвычнага?» — пытае. «Тут»,— кажу... Далей разгаварыліся. Сама з Рыгі, завецца — Ганна. Была ў сваіх раднякоў каля Ліцка і знарок заехала да мяне. Расказвала пра цябе... Цікавілася, дзе ты зараз... Пытала адраса, але, прызнацца, я пабаялася даць... Яна думала, што ты ў Пецярбурзе, і хацела, пэўна, бачыцца з табою, бо прызналася, што хутка мае ехаць туды сама. Яе хтосьці — не прыпомню, сынок, ўсяго — запрасіў да сябе. А можа, і не... Забыла ўжо... Яна пахавала надоечы сваю маці, згубіла службу і едзе ў свет... І ведаеш, сынку,— на адыходзе дае мне пяць рублёў... Не хацела я, аднеквалася — з якое-такое ласкі,— а сілаю ўсучыла... Мусіла ўзяць... Ці паверыш? Якое было шчасце! Без капейкі ляжала... І знянацку... Папрашу цябе, Рыгорка, калі часамі напаткаеш яе, перапрасі і падзякуй ад мяне, старой. Дай ёй, доля, чаго яна сама хоча... Узяла ад бацькоў Петрусёў адрас...

Ну, а вось, слухай далей — толькі ўчора Пятрусь надаслаў чарговы ліст да бацькоў і піша ў ім, каб ты неадкладна ехаў да яго... Як быццам бы ён найшоў добрае для цябе месца... І я плачу, што ты зноў выбераешся ў вялікі, далёкі горад, не пабачыўшыся са мною... А ў гэтых гарадах — колькі розных неспадзяванак, сынок мой дарагі... Яшчэ раз дзякую табе, што не забыў старой мацеры... Дзякую за тое, што выратаваў мяне ад цяжкай роспачы і надаў мне ахвоты да жыцця... Дык цалую цябе шчырым матчыным пацалункам!.. Цалую ў шчокі, цалую ў вусны, рукі твае цалую!.. Не забывай, дарагі сынку, памятай пра мяне!..

Дакладаю вось Петрусёў адрас...

Твая маці — Стэпа».

Апошнія радкі ліста расплыліся ў шэрані, і Рыгор прачытаў іх пачуццём.

Плойма разгойданых, пудлівых, нечаканых думак закруціла яго галаў. Зрабілася цесна ў пакоі, і хацелася выбегчы на вуліцу, на свежае паветра, пацягнула да знаёмых, каб перадаць ім змест атрыманых лістоў,

роджаных імі думак і ўзнятых планаў. Ён схапіў шапку і рушыў з пакоя.

— Вы ўжо прачнуліся? — перапыніла яго за дзвярыма Ліба.— Вас закалыхалі навіны. Я шкадавала вас будзіць — а вячэра засталася. Даруйце, Рыгор Міхасевіч. Я вось зараз падагрэю...

Ліба мігам схавалася на кухні, і не паспеў Рыгор вырашыць, ці ісці, ці вярнуцца ў пакой, каб павячэраць, як яна зноў ачулася перад ім, ужо з ежаю ў руках.

Ён вярнуўся да сябе і прысеў за вячэру.

## IV

Рыгор не скончыў вячэры і далёка не перабраў усіх настойна лезшых у голаў думак, як Ліба зноў убегла ў пакой. На гэты раз без папярэджання, як заўсёды, і без перапрашэння — яна падбегла да стала і пракавала:

— Рыгор Міхасевіч, вас Сроль просіць.

— Сроль? Чаму ж ён не заходзіць да мяне?

— Ён чакае вас у маім пакоі.

Рыгор мігам падняўся з-за стала і пайшоў за Лібаю.

У пацёмку на калідоры стаяў Сроль, і толькі Рыгор выйшаў з дзвярэй, як ён хапіў яго за крысо і прытрымаў.

— Еду... разам з Якавам Рундуком... Ён пайшоў за могілкі, услед балаголу, а я вось забег да цябе. Правядзеш?

— А Павал дзе?

— Павінен зараз тут быць... Пачакай квадранец, а я забягу яшчэ на хвіліну да Сімена Галаса...

— І я пайду з імі... Іх трэба вывесці абочнымі сцежкамі.

— Абавязкова... Але ці не будзе замнога ўчацвярых?

— Мы разаб'емся па дваіх...

Сроль памкнуўся выйсці, ды Рыгор яго прытрымаў:

— На хвілінку... Ведаеш, браток, у мяне за сённяшні дзень усе карты пераблыталіся...

— Чаму? — здзівіўся Сроль.

— Прыйдзецца ісці тваёю ж дарогай... Пятрусь заве ў Пецярбург. Знайшоў нават мне месца... І наогул,—

сённяшні дзень для мяне, браце мой, нешта надзвычайнае... Тры лісты і трыста навін... Кланяецца табе Сёмка і яго жонка — Волька... Чуў?.. Уклон і ад Гэлі... Ну, але не затрымоўваю... Бяжы да Галаса... Да нас не вяртайся, мы зараз ідом...

Сроль порстка выбег з карчмы.

Праз пару хвілін выйшлі на вуліцу Рыгор з Лібаю.

Цёмнае зорнае неба нізка-нізка апускалася над смагінскімі будынкамі. Местачковае жыццё замірала.

— Сролю спрыяюць абставіны,— цішком перадаў ён Лібе.

— Цемра абманчыва! — адказала тая.

— Вы правы. Мажа, па Сролевых слядах крадзецца не адзін паліцэйскі сабака.

Ліба міжвольна абярнулася назад і па баках, правяраючы таемнасць свае чыннасці.

— Пойдзем па задвор'ю,— запрапанавала.

Хутка яны схаваліся за дворнаю брамаю і прайшлі на гарод. У стадоле забрахаў сабака.

— Вы асцярожна, а то можна наткнуцца на калы...

— Пройдам гарод і выйдзем на сцежку, а там на школішча і праз Адрэзкі да могілак,— расказала Ліба і першаю апынулася за пералазам.

Хвілін праз пяць яны ўжо ішлі няроўнаю грудастаю сцяжынкаю толькі што засеянага гарода.

Рэдкія гумны цямнелі чорнымі камякамі між нізкіх платоў. За гародамі, управа і наперадзе, адкуль глядзела пяць вялікіх залітых святлом вокан школы, даносіліся смех, выгукі і тупат. На рынку, што знаходзіўся наўскасяк, між школішча, шоргалі жалезныя аканіцы крам. У аколіцах, напрамак да могілак, рагаталі коні, адтуль жа далятаў заліхвацкі губны свіст.

Свіст не канчаўся, пакуль яны не выйшлі на школішча.

У школе паступова гасла святло... Апошні яго прамень паспеў перад іх вачыма асвяціць кавалак вуліцы каля рагавога дома, за якім яна загінала да могілак. Яны зацішылі хаду, каб абысці роў, і моўчкі мінулі першыя дзве хаты. За імі ўкрадліва нясліся зацішаныя водгукі чужой гутаркі. Але, апроч таго, вакол усё маўчала.

Рыгор вярнуўся ў думках да лістоў, і яму захацелася паведаміць Лібе некаторыя вычытаныя ў іх навіны.

— Так, у мяне сёння багата навін,— выказаў ён і на гэтым абарваў гутарку.

Ліба тузнула яго за рукаў і шапнула на вуха перасцярогу. Рыгор пачуў стук крокаў, якія раптам ачуліся ззаду і хутка набліжаліся да іх.

— Дзе ж та Павал дзеўся? — запытала Ліба, забыўшы, пэўна, што сама супыніла Рыгора.

— Можа, ён пойдзе адзін?..— адказаў Рыгор зусім не зазлаваўшы за гэта на Лібу.

Іх нагнала двое мужчын. У цемні ночы нельга было разгледзець, хто яны; ды ні Рыгор, ні Ліба не стараліся на іх углядацца.

Мужчыны абышлі іх і мо праз хату далей пачалі прарваную гутарку.

— А вось глядзі, мо, то і ёсць Павал з кім-кольвечы другім? — загадліва запытаў Рыгор.

— Мне паказалася, нібы Сролева хада,— з свайго боку ўсумнілася Ліба.

Іх сумненне паглыбілася, калі яны ўскорылі хаду і ўгледзелі, што мужчыны непадалёк ад могілак з правага боку вуліцы перайшлі на левы.

Яны падышлі да курганца на рагу агароджы і прыгледзеліся наперадзе сябе.

— Няма нікога?! — няўверана праказала Ліба.

Рыгор не паспеў адказаць, як збоку іх, пры паркане, пачуўся ціхі сігнальны кашаль.

— Во дзе! — адазваўся Рыгор.

Зрабіўшы некалькі крокаў наперад, яны прыкмецілі балагольскую будку і некалькі людскіх фігур. Хтосьці па іх адрасу выказаў:

— Нарэшце — прыйшлі.

Сышоўшыся, усе разам адышліся за прыпарканныя кусты гладзінніку і пасталі для развітання.

— Чаму так доўга? — папікнуў Памыйка.

— Выбачайце,— перапрасіла Ліба: — мы не спяшаліся, бо думалі, што ні Сроля, ні вас яшчэ не будзе.

— Вось бачыце... як вы бяспечна...

— Ну, кінь, кінь,— пераняў Рыгор.

— Наперадзе нас ішло пара чалавек, і мы не маглі выдаваць сябе...

— Падумаеш,— не здавальняўся Памыйка: — ішлі і прайшлі...

— Годзе вам... Пара ехаць...

— Так... Давайце развітвацца...

Сроль першым падышоў да Рыгора і расцалаваўся з ім.

Тое зрабіў і Рундук.

— Будзеш ехаць — не мінай,— праказаў Сроль да Рыгора.

— Напэўна хутка... Пішы, брат... І толькі не думай, што я без цябе не хачу заставацца ў Смагіне... Умовы так складаюцца...

— Кінь... Галас заменіць...

Сролеў голас зліўся з асцярожлівым воклічам балагола.

Хутка праважатыя пачулі глухі стук калёс, пацягнуўшыся ўглыб цёмнай ночы.

## V

Майскія здарэнні выклікалі зацяжныя трухі па ўсім Смагіне. Каля дзесятка рабочых-падмайстраў і сялян адведала халоднае. Допыты кожнага арыштаванага справодзіліся пагрозамі высылкі і астрога. Станавы пакладаў многа стараннаў, каб вымусіць у кожнага арыштаванага прызнання ў яго належнасці да сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. У існаванні яе станавы не сумняваўся, але яўных доказаў не знаходзіў. На допыце ён выпытваў іх адносіны да Сроля і да Памыйкі. У Сроля на кватэры быў зроблены старэнны трух і апытана сям'я гаспадара кватэры. Але ні да Рыгора, ні да Памыйкі паліцыя не трапіла. Гэта здзіўляла іх абодвух. Рыгор рабіў усялякія дагадкі: ён разлічваў, што гэтаму пасобіла яго адсутнасць на вуліцах у дзень дэманстрацыі альбо тут адыграў некаторую ролю Шульц. Аднак гэту акалічнасць Карл Людвігавіч тлумачыў выключна «ліберальнасцю» прыстава, «які трухі і прыводы ў халодную зрабіў для блізіру, абы не скампраметаваць сябе перад павятовым начальствам». Праўда, тлумачэнняў Шульца зусім нельга было апраўдаць шэрагам іншых рэпрэсій з боку «ліберала» станавога. Распараджэннем апошняга была зачынена грамадская бібліятэка з канфіскацыяй кніг. Былі забаронены чарговыя спектаклі і ўведзена нешта накшталт ваеннага становішча, з раз'езднымі начнымі патрулямі, якое сцягнулася болей двух тыдняў. Не казаў у карысць станавога і праведзены перапіс рабочых.

Аднак факт незачэпнасці Рыгора аставаўся фактам.

Гэты факт як найлепей спрыяў далейшаму рэвалюцыйнаму руху ў Смагіне. Памыйка, які ўвесь час выказваў поўнае нядбайства да небяспекі, зараз яшчэ больш пасмялеў і стаў да дзёрзкасці адкрытым.

Ужо на другі тыдзень пасля 1 Мая ён з'явіўся да Рыгора з думкаю склікаць местачковы актыў і абгаварыць план наступнай працы.

— Паліцыя не зачэпіць! — увяраў ён, суцяшаючы Рыгора і сябе разам.

— Арганізацыя мусіць мець сталае кіраўніцтва. Няровен час! Кожную хвіліну трэба чакаць чарговага выбуху...

Рыгор іначай глядзеў на паднятае Паўлам пытанне:

— Трэба нейкі час пачакаць...

— Каб паліцыя адумалася? «Сем бед — адзін атвет»... Ды табе што... Праз дзень-другі мы будзем праводзіць цябе, як праводзілі Сроля... А нам тут сядзець, пакуль не вышлюць... Табе, я ведаю, не сядзіцца ўжо... Куды ж там! І месца, і таварышы, і сталічны размах працы і... Ганна... А мы павінны варушыцца... Па маштабе... Мне дзіва, Рыгор, што ты на гэты раз забыў пра сваю ранейшую настойнасць...

Апошнія словы Памыйкі і тон, якім яны былі выказаны, прыняліся Рыгорам за лёгкі ўкор. Гэта было чуць упершыню з боку Памыйкі. Ранейшыя яго прызнанні ў адданасці Рыгору, хоць і неслі некаторай вычварнасцю, усё ж не абяцалі таго, што Рыгор пачуў зараз.

— Ты на некага злы, а на мне спаганяеш злосць,— суха адказаў Рыгор.

Памыйка ўлавіў Рыгораву нездаволенасць і збянтэжана пачаў выбачацца.

— Няўжо такі і ўпраўду ты пакрыўдзіўся? Калі так — прашу дараваць. Я ніколі не думаў гэтага... Я добра разумею, што ты падаў мне раду з добрымі намерамі... Ну, ты ж ведаеш, што я не з-за сябе ўзняў гарачку...

Інцыдэнт паміж імі паступова згладзіўся, і праз нейкі час Памыйка зноў прызнаваўся Рыгору ў сваіх цёплых пачуццях да яго. Рыгоравы прапазіцыі вярнулі ў Памыйкавым разуменні прызнаную ім таварышову непаграшымасць.

Дзякуючы гэтаму абодва бясспрэчна сышліся на тэрміне склікання сходу на канец мая.

Але, наперакор абодвум, здарэнні самі пераставілі тэрмін, адначасова пераміняўшы і развіццё падзей. Зусім неспадзявана, каля дваццатага мая, прыехаў з Пецярбурга Шульцаў сын Рудольф. Сам Шульц звёў сына з Рыгорам ды Памыйкаю на другі дзень пасля яго прыезду. Расказаныя Рудольфам навіны захапілі вострасцю і Рыгора і Паўла. Яны запрасілі Рудольфа зрабіць даклад на сходзе мясцовай арганізацыі. Рудольф ахвотліва згадзіўся.

— Арганізуйце і — завеце мяне,— сказаў ён.

З прычыны важнасці даклада, рэдкага для Смагіна, справа са сходам ішла згаворана, пагоджана і латва.

Бліжэйшаю суботаю, адвячоркам, пацягнулася смагінская моладзь рознымі дарожкамі і сцяжынкамі ў пamешчыкаў лес, вярстах у трох ад мястэчка. На сход сышлося да сотні чалавек.

Сходу быў прыдадзены характар маёўкі.

Рудольфа прывялі з сабою Рыгор з Памыйкам. Яго здзівіў настрой сходу; суцяшала таксама і колькасць яго ўдзельнікаў.

Разложаная між кустоў на зялёнай мураве ежа сведчыла аб прадугледжанасці арганізатараў.

Рудольфу, якому даводзілася вярцецца больш усяго сярод студэнцкіх колаў, імпанавала даверлівая ды натхнёная местачковая рамесніцкая і сялянская моладзь.

Да дзесяці чалавек сталых, сур'ёзных мужчын, укрэпленых у яе, прыдавалі сходу паважную сталасць і цвёрдасць.

Рудольф адразу запаліўся натхненнем і сказаў сваю ўдала ды стройна пабудаваную прамову, як бы прачытаў верш у прозе. Прамова наэлектрызавала сход, які ў пазбыве небяспекі прывітаў Рудольфа зычнымі воплескамі.

За прамоваю пачаліся пытанні. Наперабой кідалі іх «таварышу аратару» ўдзельнікі сходу і прагна лавілі яго адказы.

Пецярбург вырастаў уваччу кожнага прысутнага ў нешта вялікае, магутнае і неабсяжнае. Падзеі з рэвалюцыйнага руху, перавязаныя з махрастымі камбінацыямі праяў агульнаграмадскага жыцця, паказваліся казачнымі і настолькі моцнымі, што нараджалі сабою здзіў, плаваўшы па тварах натхнёнае моладзі і сталых.

У цікавасці да намалёванай Рудольфам рэвалюцыйнай сітуацыі танула смагінскае Першае мая.

Напружанасць становішча на Балканах, вакол якога завязваўся моцны вузел супярэчак паміж вялікімі дзяржавамі — на чым умела і тлумачна спыняўся Рудольф,— яшчэ болей раскалыхала ўдзельнікаў сходу.

На ўзвароце ў мястэчка толькі і было тэмы, як пра здані вайны. Разбіўшыся па двое, па трое — усе былі злучаны аднастайнасцю гутарак.

Але Рыгор да іх не далучаўся. Яго абыходзіла і расцягнутая пахвальба смагінскаму актыву, што пасылаў яе Рудольф. Размову на гэту тэму з Рудольфам Рыгор уступіў Памыйку. Ён ухіляўся ад Лібінага спадарожніцтва таксама. Штосьці адрывала яго ад усяго вакольнага і на скрыдлах думак пераносіла ў Пецярбург. Развой рабочага руху і месца, што знайшоў яму Пятрусь, і цэлы шэраг іншых акалічнасцей віхрам насіліся над бурлівай сталіцай.

Сам горад-велікан паўставаў перад ім у зданных вобразах, у няўмоўчным гуле людскога натоўпу, у гудзенні сірэн, у бляску электрыкі.

З сумных муроў вытыркаў халодны, акуратны гмах велізарнага завода, ацятага агністым поясам вокан. Лахматыя камякі дыму кружацца між небам і зямлёю. Вось-вось — лезе сопуха ў ноздры, у рот, труціць чадам, гар'ю. І не перашкаджае гэтаму ні чыстата ляснога паветра, ні водар хваёвае смалы, разлітае навакола.

Зрэдку, у развоі думак, Рыгор уголас пераконваў сябе:

— Пара ўжо мне ехаць адгэтуль, пара. Я ўжо тут сваю справу скончыў.

Памыйка касіў на яго вочы, ківаў галавою і кідаў сказам: «Ды ўжо ж, ты часовы госць». Шкадаваў. І між гутаркі з Рудольфам гадаў: «У свеце набліжаюцца вялікія здарэнні, а я астаюся ў глухім мястэчку».

У Памыйкавых думках паўставаў Сроль, прамігваў Рундук. Іх аблічча паступова зліваліся з тварам Рудольфа, да якога Памыйка шчыльна прыціскаўся. Рудольф лавіў яго цёплыя ўзрокі, але прапускаў іх задумёнасць, як і зацятыя раздумы Рыгора.

Рудольфа атуляў настрой праведзенага сходу. Ідылія сялянскае ночы, пікантнасць нелегальнасці справы, яе першыня для яго ў падобных умовах — імпана-

валі Рудольфу. Студэнцкія сходкі цьмелі на фоне местачковага мітынгу; іх інтэлігенцкая кіпучасць згладжвалася перад цнотнасцю позываў местачковых рабочых. Наогул — студэнты, з якімі Рудольф больш усяго меў справу,— далёка стаялі ад гэтых вось людзей. Там, здавалася яму, зусім не чулася тае беспараднасці, якая дыхнула на яго на смагінскім сходзе. Калі яны апынуліся ў мястэчку, Рудольф прызнаўся:

— На мяне ваш сход зрабіў агромністае ўражанне. Смагін так вырас, што я не веру, калі ўспомню хоць леташняе...

— Гэтаму многа пасобіў таварыш Нязвычны,— парэкамендаваў Памыйка.

— Мэрам бы чалавек кіруе падзеямі, а не наадварот. Эх, Павал!

— Не зварочвай у філасофію... Толькі, вось...

Памыйка следам хацеў паведаміць пра Рыгораў ад'езд, але стрымаўся.

— Я вельмі задаволены, што вы пад'ехалі да нас,— загладзіў ён папярэдні сказ.

— Ну, я ненадоўга...

— Лепей. як-ніяк...

— Пераацэньваеце, таварыш Памыйка,— не схаваў ільсцівасці Рудольф.

— Не ў маёй натуры: я люблю выказваць тое, што думаю.

Яны падыходзілі да Крамнікавай карчмы, калі трое конных стражнікаў галопам прамчаліся ў бок поля.

— Няўжо дазналіся?

## VI

Чатыры сценкі маленькага пакоя губілі свае абрысы ў цёмным змроку ночы. Ды ці былі то, сапраўды, сценкі, ці то самы змрок адгараджваў адно ад другога чуць прыкметныя стол, крэслы, ложак,— цяжка было разабрацца.

Ціша, якая панавала ў будынку і па-за яго сценамі, яшчэ болей паглыбляла наўздзіў глыбокую цемень. Шасцішыбнае акно ледзьве прыкметна адзначалася блядою шэранню. У яго цяжка было запрыкмеціць празрыстае мірганне зорак. Здавалася, што густы злепак ночы давіў на ўсё жывое. Ды яго незаўважна бы-

ло нідзе ўблізу Рыгора. Ці то мо ён мала прыслухоўваўся, будучы адданым ахапіўшым яго думкам.

Болей гадзіны нівошта не адцягнула да сябе Рыгоравай увагі. Ён ляжаў адзетым на непасланай пасцелі, як у магіле. Чуў, мэрам бы яго думкі ажыццяўляліся і шоргалі ў галаве поўзаннем мухі. Тою ж заданню патыхала і ад створаных яго ваабражэннем мнагалікіх вобразаў.

Раптоўны зычны трэск за сценкаю падняў Рыгора на ногі. Ён настаражыўся.

«Няўжо хто стукае знадворку?» — усумніўся ён і тут жа заключыў, што таго не павінна быць: «Было б так, ужо б даўно брахаў запёрты ў хляве сабака».

Рыгор зноў прылёг. Але ўжо яго настрой зламаўся. Скрытная ўтома дапомніла пра спанне. З выразных думак асталіся цьмяныя, блытаныя ўрыўкі. Калі Рыгор патужыўся звязаць іх у адно цэлае і праверыць — не хапіла цярпення.

Тады ён увішна прыладзіў пасцель, раздзеўся і лёг. І толькі задрамаў, як узнятыя на вуліцы крыкі яго абудзілі. На гэты раз — не было сумнення — штосьці здарылася. Сабака заліваўся нахабным брэхам.

Мігам адзеўшыся, Рыгор выбег з хаты. На ганку ўжо стаяў стары Крамнік.

— Вам не варта выходзіць, пажар дзесьці за школішчам,— паведаміў ён Рыгора.— Во-а! — паказаў Крамнік на суседнюю страху.

Чырвоны промень разразаў чорны цалун ночы. Яркія іскры веерам нясліся ўгару, гінучы ў камяках ружовага дыму.

На вуліцы расла гвалтоўная сумятлівасць. Трывожна стукалі ў кожнай хаце дзвярыма, перагукваліся людзі і беглі ў бок променя, пакідаючы па сабе гулкі тупат.

У канцы вуліцы і за гародамі выгуквалі аднастайнае цягучае «па-жа-арр! ппа-а-жарр!».

Рыгор пакінуў старога Крамніка аднаго і пабег за іншымі.

Ён не абмінуў і дзвюх хат, калі зазванілі на гвалт. Частыя ўдары звона важка падалі ў ціхае паветра, вісучы над мястэчкам пераліўным медным гулам. Водгукі ўдараў несліся далёка ва ўсе канцы, не знаходзячы сабе граніцы.

Апынуўшыся на майдане, Рыгор стрэў пажарны

абоз. З грукатам і траскатнёю прамчалася між яго некалькі падвод з насосамі і бочкамі, з прыстаўленымі на іх дымнымі факеламі.

Удагон падводам гарніст выцінаў надрыўнымі тонамі трывожную мелодыю.

І нязмоўклы гук звона, і трапятанне цудоўных зданных ценяў на святле факелаў, і плакучы гук пажарнага сігналу, і раз'юшаны, сумятлівы бег людзей зліваліся ў якуюсьці таемную, трывожную какафонію, у ажыццёўленае ведзьміна вяселле.

Роўнае, стромкае полымя пажару, свечкаю ўзнятае ўгору, зусім, здавалася, не вымагала ўзнятае трывогі.

Калі Рыгор апынуўся на пажары — гарэла старая, зусім ізаляваная будыніна якогасьці свіронка. Спакойная пагода аднімала небяспеку пераносу агню.

Натоўп мяшчан, асаджаны паліцыяй на сажняў дзесяць ад пажару, даваў разгарненне дружнай працы пажарнікаў. Ад іх напору паціху асядала прагарэўшая страха і няўстойна калыхаліся сцены.

Полымя вачавідкі меншала, згушчаючы вакол сябе цалунны змрок.

Але разварушаныя галавешкі рассыпалі пукі тоўстых іскраў, якія не дазвалялі пакуль аставіць без дагляду бліжэйшыя будынкі. На кожным з іх сядзелі людзі з вёдрамі вады і залівалі падаўшыя іскры.

Пажар не цягнуў за сабою вялікіх страт і, мэрам бы, быў знарок зроблены для праверу людское дбайнасці.

Разбуджаныя на яго людзі вярнуліся б па хатах без жаднага спачування пагарэўшым, з адным лёгкім нездавальненнем на дарэмны неспакой, каб раптам пажар не набыў іншы зварот.

Ужо Рыгор абыходзіў парадзеўшы натоўп мяшчан, мяркуючы ісці на кватэру, як яго хтосьці тузнуў за падол жакеткі. Ён азірнуўся і ўгледзеў Сімена Галаса.

— Ты куды?

— На кватэру.

— Пачакай хвілінку, тут хлопцы гатовяць маленькі сюрпрыз.

— У чым справа? — занепакоіўся Рыгор.

Сімен не паспеў адказаць: хлынуўшы натоўп збіў іх з месца і адапхнуў на некалькі крокаў назад.

Калі яны паглядзелі на пажар, то ўбачылі пук

узнятых іскраў ад бразнуўшай у бок паліцыі здаровай галавешкі.

Напуджаны станавы кінуўся ўцякаць.

Яго адрывісты сярдзіты голас адбіваў нейкія распараджэнні.

У адказ на гэта натоўпам перабеглі ажыўлёная гутарка і ўкрадчывы смех.

— Хто гэта надумаў? — запытаў Рыгор у Сімена.

Той задаволена разрагатаўся і прашаптаў Рыгору на вуха:

— Памыйка!

— Ну, да чаго гэта было?

— Добра! Маўчы... Цяпер можна ісці па хатах.

Рыгор развітаўся і павярнуўся да завулка; ён не зрабіў і пяці крокаў, як нейкі зычны бразг адцягнуў да сябе агульную ўвагу. Следам адзін за другім пачулася некалькі стрэлаў.

Натоўп мігам рассеяўся з поля святла, і дагараўшае пажарышча асталося адно.

— Хавайцеся ў цёмнае! — папярэдзіў яго прамігнуўшы побач мужчына.— Стражнікі страляюць у людзей!..

— З якое прычыны? — кінуў Рыгор запытанне ўслед ўцякаўшаму.

Той нічога не адказаў і знік за высокім кастром паколатых дроў.

У завулку, што вёў на школішча, Рыгор нагнаў пару хлапчукоў. Адзін з захапленнем расказваў другому, як з даха суседняе да пажару хаты хтосьці кінуў у паліцыю бляшанае вядро з вадою. Напалоханыя стражнікі ў адказ на гэта адкрылі страляніну. Хлапчукі пацяшаліся над цікавым для іх здарэннем з паліцыяй, экспромтам складаючы анекдот на тэму, «як стражнікі расстралялі пажар».

Данёсшыся ззаду іх чыйсьці прарэзлівы крык перапыніў хлапчуковую рэзвую гутарку.

— Што там гэткае? — абярнуўся адзін з іх да Рыгора.

— Не ведаю, браце.

Хлапчукі сарваліся з месца і панясліся стралою ў бок пажару.

Рыгор паскоранай хадою пайшоў усцяж ціхае вуліцы.

Вярнуўшыся на кватэру, ён застаў яе незапёртую.

Яго ўкрадчывы ўваход не прайшоў незаўважаным з боку старога Крамніка.

— Гэта вы, Рыгор? — праверыў ён Рыгора з бакоўкі...

— Так, я.

— Што там за страляніна была, скажэце? — пацікавіўся стары.

Рыгор расказаў карчмару пра гісторыю з галавешкаю ды вядром і цішком прайшоў да сябе.

У акне яго пакоя яшчэ свяціўся патухаючы промень пажару, але поўнач брала сваё. На вуліцы, як і ў карчме, аднавіўся перадпажарны спакой.

Рыгор цішком раздзеўся і ўлёгся ў ложак. Нядаўная санлівасць яго пакінула, і ён доўга нервова вярцеўся з боку на бок, ніяк не могучы заснуць. Толькі на золку яго адолела змора.

І тыя дзве гадзіны, што асталіся да гудка, ён праспаў, як забіты.

Ён не прачнуўся б сам, хоць бы стралялі над ім з гармат.

Усё ж праспаць працоўны дзень было залішняй роскашшу, і Ліба ўзяла на сябе смеласць яго абудзіць.

Асцярожлівы яе стук мусіў перайсці ў гучныя ўдары, пакуль Рыгор адазваўся.

— Пара ўставаць, Рыгор Міхасевіч! Чвэртка восьмае.

— Так позна?

— Пазнавата, як бачыце.

Рыгор спешна адзеўся і выйшаў з пакоя.

Насустрэчу яму Ліба несла снеданне.

— Назад, назад, таварыш,— кранула яна Рыгора тацаю.

Лыжка забарашчэла па шклянцы і вымусіла Рыгора пасобіць Лібе прытрымаць тацу.

— Яшчэ бяды набяруся.

— Толькі таго! Я не гэтага баюся...

— А чаго? — здзіўлена запытаў Рыгор.

— Хаця б учарашняя гісторыя не пацягнула за сабой дрэнных вынікаў.

— Вы пачулі ўжо?

— Усё мястэчка, як у бубен б'е, гаворыць пра гэта... Трэба ж было гэта дзіцячае мудрагельства...

Яна прычыніла дзверы і шэптам даказала:

— Я не чакала гэтага ні ад Памыйкі, ні ад Галаса.

Абодва сур'ёзныя хлопцы, а дзіцячае спаганяюць... Вам трэба выгаварыць ім гэта, Рыгор Міхасевіч.

— Ды ўжо позна...

У адчыненае акно ветрык вагнаў густы струмень цёплага паветра. Ліба адсаплася і паглядзела ў двор.

Яна не паспела адысці ад акна, як на ім мігам апынуўся прыгожы, у рудыя яблыкі, аблавухі сабака. Працягаючы на пакой сваю вострую морду з адвіслаю верхняй губой, ён умільнымі вачыма аглядаў Рыгорава жыллё.

— Няхай ён прабяжыцца з вамі да Шульца.

— Калі ласка.

## VII

Гудок майстэрні спаткаў Рыгора пры выйсці на вуліцу. «Няўжо я так спазніўся?» — хапіўся ён і, каб праверыць сябе, паглядзеў на гадзіннік: было без васьмі хвілін восем. Рыгор упадбежкі накіраваў да майстэрні.

Таварышы толькі-толькі падпяразвалі фартухі, калі ён пераступіў яе парог.

Шульца ў майстэрні не было.

— Пачынаеш пазніцца? — жартаўліва праказаў Памыйка.

— Як бачыш... А ты ўжо даўно тут?

— Паспеў фартух падперазаць.

Таварышы весела зарагаталі.

— На пажары застаўся?

— Абавязкі пажарнага...

— Цікавыя абавязкі...

Рыгор намекліва маргнуў вачыма і паківаў галавою.

Памыйка зразумеў у чым справа і хацеў пасупярэчыць Рыгору. Шульц перабіў яго намеры.

Хлопцы ўзяліся за працу. Застукалі малаткі, зашоргалі пілы. Шульц раздзьмуў мяхі і ўправіў у агонь кавалак жалеза.

У невялікай майстэрні адчувалася пэўная сур'ёзнасць вялікага завода. Прынамсі, Рыгору чамусьці асабліва прыемнымі былі рэзкія гукі малатка ў руках Памыйкі і аднастайныя ўспыхі мяхоў. Бяссонная ноч не пакінула следу на яго рухавасці. Ён не адчуваў

жаднае ўтомы, ніякага суму. Працаваў старанна, з упартай заўзятасцю. Ім завалалдаў нейкі асаблівы імпэтны настрой. Дзякуючы гэтаму настрою, кожная рэч, што праходзіла праз яго рукі, здавалася яму блізкаю, неад'емлемаю часцінай яго істоты.

Памыйка падмячаў стараннасць і дзівіўся, пазіраючы на таварыша. Але маўчаў.

Чамусьці гэтай раніцой, насупярэч звычайнаму, усе маўчалі. Нават калі з майстэрні выходзіў Шульц, ніводзін з іх не выкарыстоўваў выпадку для гутаркі. І пасля снедання, і пасля абеду, наогул, увесь дзень амаль ніхто не выраніў слова.

Тым не меней, ён прайшоў для Рыгора хутчэй за другія.

Пакінуўшы майстэрню, Рыгор адчуў вострае жаданне прайсціся ў поле і запрапанаваў гэта Памыйку:

— Чаму не,— згадзіўся той.— Зойдам да Сімена, запросім Рудольфа і разам... Але ж павячэраць трэба...

— А я і без вячэры, разумееш...

— Няўжо так смачна ў абедзе накармілі? Ці ты аброкся сёння пасціць?

— Як табе сказаць... Аброку даваць няма каму... Праўдзівей, не хочацца чамусьці...

Усё ж ён згадзіўся з Памыйкам і пайшоў на кватэру.

Вячэра адняла болей гадзіны. Гэтым часам на двары пачало хмурыцца, і цяга да поля ў Рыгора аслабела. Але калі да яго зайшлі Памыйка з Сіменам, Рыгор ахвотна выйшаў з імі.

— Можа, Лібу запросім з сабою? — запрапанаваў ён.

Хлопцы згадзіліся.

Рыгор вярнуўся ў карчму і праз хвіліну выйшаў з Лібаю.

Яна ішла і аглядалася назад, чуючы нездаволеную гутарку мацеры. Гэта яе асцярога паслужыла тэмаю для кпінаў з Лібы. Ліба злавалася і некалькі раз асякала хлопцаў востраю лаянкаю. І толькі калі намерылася вярнуцца дахаты, хлопцы суняліся.

— Досыць вам! — папікнуў Рыгор.

— Просім выбачэння! — абярнуўся Памыйка да Лібы.

Каб згладзіць ніякавасць, гутарка была пераведзена на іншую тэму. Памыйка перайшоў да пагоды —

якраз насувалася хмара і раз-поразу змяіліся ў ёй празрыстыя маланкі.

— Нам не шанцуе,— паскардзіўся ён.

— Гэта за тое, што вы з мяне пацвільваецеся,— пажартавала Ліба.

Каля моста яны перайшлі да пытанняў грамадскага характару, якія незаўважна для іх пераключыліся ў культурныя. Абгавору падпалі зачыненая бібліятэка і забароненыя спектаклі.

Учарашні сход паглядаў на кожнага з іх чорнаю сцяною аддаленага лесу... Жаўранка, абапал яе зялёныя паплавы, далей панскі маёнтак, жытняе поле ўбіралі яго хараством квітнеючай вясны.

— А ведаеце, дажджу не будзе,— раптам абарвала Ліба ажыўленыя спрэчкі пра наведваўшую Смагін трупу.

Усе паглядзелі на поўдзень. Сапраўды — хмары не зніжаліся, і хутка радзелі і ўздымаліся ўгору. Гнедае прасцірадла іх раптам адкалолася ад чорнае кажуры і выпусціла наповерх сонца.

— Можа, зайсці па Рудольфа? — запытаў Рыгор.

— А ці варта? — усумніўся Памыйка.

Рыгор не паслухаў і павярнуў да Шульцавай хаты.

— Вы не адыходзьце далёка, я зараз,— папярэдзіў ён.

І не паспеў падысці да дваровай брамы, як Рудольф выйшаў з хаты.

— Я ўгледзеў вас праз акно... У поле?

— Надумалі. Вясна цягне...

— Я са здавальненнем. У Пецярбурзе гэтага не атрымаеш...

Рыгор уважліва паглядзеў на Рудольфа. Сын гаспадара лашчыў мяккасцю сваіх вачэй і ласкавасцю свайго голасу. Калі бацька яшчэ ва многіх рысах свайго я хаваў дасканалую нямецкую сухасць, змешаную з сур'ёзнаю дзелавітасцю ды педантызмам, дык Рудольф далёка адышоў ад гэтага. На ім ужо выразна адбіліся краёвыя ўмовы з выразнай рахманасцю ды спакоем натуры. У гэтай рахманасці танулі задзёр і фанабэрыя студэнта, гонар і самаўцеха прадпрыемцавага сына. Рыгор адмеціў гэта ўжо пры першым спатканні з Рудольфам. Зараз ён яшчэ больш праканаўся ў сваіх заключэннях.

Рудольфава выступленне на сходзе і яго гутарка з Памыйкам па дарозе з лесу абудзілі ў Рыгору поўнае к яму давер'е.

— Вы пра ўчарашняе чулі? — запытаў ён Рудольфа.

— Гэта пра гісторыю з станавым? — засмяяўся Рудольф.

— Але.

— Так, хтосьці выдумаў спрытна.

— Думаеце, хто?

— Не ведаю.

— Вось яны!

Рыгор паказаў пальцам у бок Памыйкі і Сімена, якія пры мосце іх чакалі.

— Ласне?

Рудольф покатам зарагатаў.

— Малайцы.

— А я ўсё ж іх не пахвалю.

— Нічога дрэннага. Хлопцаў можна павіншаваць.

Падышлі да моста.

Ад рэчкі нясло вільгаццю. Асеўшы пыл не труіў паветра. У яго нерухомасці мігалі тысячы мошак. Густы водар жытняга красавання калыхаўся над рунню зялёнае травы.

Рудольф прывітаўся з Памыйкам, як са знаёмым. З Лібаю ды з Сіменам яго Рыгор пазнаёміў.

Першыня знаёмства не адбілася на цеплыні таварыскага збліжэння, не перашкодзіла яно і іх ажыўленай гутарцы.

Гуляючы ў жытніх палетках, Рудольф пераказаў кампаніі шмат эпізодаў з рэвалюцыйнага жыцця Пецярбурга. Яго ўважна слухалі, распытвалі, цікавіліся дробязямі больш важнейшых мясцоў з апавядання.

Незаўважна для сябе яны прагулялі каля дзвюх гадзін, і калі вярнуліся к мосту, было ўжо цёмна. Мястэчковае жыццё глухла ў сценах хлявоў, за сенішнімі ды хатнімі дзвярамі. Толькі з рынку даходзіў нейчы крык. Гэтаму крыку ўторыў жабін хор у паплавах і перакрыкі перапёлкі ў жыце.

У Шульцавай хаце свяціўся агонь, а ў майстэрні дымела з коміна.

— Няўжо мой бацька ўсё яшчэ працуе? — падзівіўся Рудольф.

— А ён у вас руплівы,— адказаў Сімен.

Рудольф не спыніўся каля дома, а пайшоў з усімі далей.

— Цікава, як пойдуць здарэнні ў міжнародных адносінах,— мяняючы папярэднія тэмы, праказаў Рудольф.

Гэта кампанію настаражыла.

Рыгор з цікавасцю запытаў:

— Чаму? Вы сапраўды думаеце, што можа кончыцца вайною?

— Усё ідзе да таго.

Рудольф агляну ўся навакол і цішэйшым голасам дадаў:

— Мне пішуць з Нямеччыны, што там апошнімі днямі адкрыта гутараць пра вайну. Нядаўнае спатканне Вільгельма з Францам-Язэпам цалкам было прысвечана абгаворам пытанняў вайны.

— Так, гэта сімптаматычна...— згадзіўся Рыгор.

Тым не меней паведамленне Рудольфа зрабіла і на яго, як і на іншых ■ кампаніі, моцнае ўражанне.

Знак вайны выглянуў перад усімі ставокім чудзішчам з цемні надышоўшай ночы.

Невыразнасць наступнага злілася ў дыме ды агні ваенных жахаў. Дзесьці, ні то недалёка за Смагінам, ні то каля Пецярбурга вырасла сцяна, у якую стукнуліся думкі хвіліну назад бесклапотнай моладзі.

Што будзе? Што чакае рэвалюцыйны рух? Якім шляхам накіруецца жыццё краіны, іхняе жыццё?

І Рыгор, і Памыйка, Сімен, і Ліба — кожны па сабе кінулі думкамі ў нетры гісторыі, якую яны праходзілі ў гуртку самаадукацыі і некалькі былі знаёмы з асабістага чытання. Навейшая эпоха гісторыі сведчыла пра Парыжскую Камуну і рэвалюцыю дзевяцьсот пятага года. Гэтыя рэвалюцыйныя выбухі яскрава выглядалі з далі мінуўшчыны, апярэджаныя ваеннымі жахамі.

Ліба дапомніла чуты ёю папулярны сказ і з захапленнем сказала:

— Вайна можа прынясці рэвалюцыю. Чым горай, тым лепей.

Падзяляючы яе настрой і веру, Сімен наводна ўсумніўся:

— Гэта твая тэорыя не заўсёды апраўдваецца жыццём.

Рыгор падтрымаў Лібу:

— Ліба праўду кажа. У некаторых выпадках...

— Вось-вось, толькі ў некаторых выпадках,— уставіў Памыйка.

— А голад у дзевяностых гадах — ласне быў штуршком да рэвалюцыйнага руху? — акрылілася Ліба.

— Я кажу пра вайну...

Ліба асталася непарушнай у правовасці сказанага ёю. Праўда, яна не без жадання выслухаць думку Рудольфа зазірнула яму ў вочы, толькі той нічога не сказаў. Ён якраз развітваўся. Тады Лібе зарупела запытаць яшчэ пра адно, хвалюючае яе пытанне, ды Рудольф ізноў перабіў яе:

— Так, вялікія падзеі ідуць нам насустрэчу. Яны становяць перад намі, таварышы, агромністыя заданні.

Рудольфа шапка апісала ў паветры няроўны крук, які аддзяляў яе ўласніка ад кампаніі.

## VIII

— Я зайду да вас. Можна? Толькі на хвілінку.

Рыгор здзіўлена паглядзеў на Лібу.

— Чаму вы пытаеце?

На ганку сядзелі яе бацькі — было ясна. Старыя акінулі дачку недаверлівымі ўзрокамі і ў тахт паракіўнуліся галовамі. На іх тварах можна было прачытаць выразнае нездавальненне паводзінамі дачкі. Заўважаючы гэта, Ліба наперакор бацькам дэманстрацыйна прайшла па калідоры побач з Рыгорам і схавалася за дзвярыма яго пакоя.

Старыя пачулі Рыгораў сказ:

— Калі ласка! Я вельмі буду задаволены вашым наведваннем.

І следам — Лібін:

— Мне здаецца, што я вам надакучваю.

Старыя не маглі спакойліва ўседзець і прайшлі ў хату.

У дзвярах іх стрэў зычны смех, што далятаў з Рыгоравага пакоя.

Гутарка, узнятая следам за смехам, вялася цішэй і ўжо мінала ўвагу старых.

— Вы, я бачу, моцна зацікавіліся Рудольфавым паведамленнем? — пытала Ліба.

— Я, прынамсі, адчуваў усё сам.

— Але дагэтуль я ад вас нічога на гэту тэму не чула...

— Кожны дзень усё больш абвостранае становішча. І да прыезду Рудольфа пра яго можна было казаць многа спакайней...

Ліба крыху памаўчала. Ухмылка, што бегала па яе твары, стулілася ў чуць прыкметных ямках шчок.

— Так, так, Ліба Шлёмаўна, час не чакае...

— Мяне самую азадачыла. Я мелася ехаць у Вільню паступаць на акушэрскія курсы, а зараз...

— Ці ж гэта звязана з сусветнай палітыкай?..

— Нябось, вашы інтарэсы вы не адлучаеце, Рыгор, ад развіцця агульных падзей... Вось і зараз Рудольф сваім паведамленнем пра вайну зусім збіў вас з панталыку.

— Чорт яго ведае! Не хочаш, а жыццё прыпірае...

— А што, сазнаяцеся самі!

Рыгор рассмяяўся і гэтым заставіў смяяцца Лібу.

— Ад жыцця не схаваешся...

— А намер маеце? Пецярбург не дае вам спакою — я ведаю.

— Зрэдку думаю пра яго...

— Усяго зрэдку і, можа, між іншым скажаце.

Ліба адвярнулася да акна.

— А мне вас шкода, Рыгор,— ціха прызналася яна.

Рыгор то хадзіў, а то спыніўся. І калі зірнуў на Лібу, тая непарушна спакойліва глядзела ў адну кропку.

Рыгор зноў рушыў хадзіць.

— Я разумею,— сказала Ліба: — перад вамі стаяць складаныя задачы... А мы... што мы? Нам суджана вярцецца ў абмяжованых рамках... І гэта нас заставляе чапляцца за людзей, якія нам могуць пасобіць у нашай працы... Выехаў Сроль... Не будзе вас... А чаго добрага, вынікне вайна... і што тады?..

— А Павал? А Сімен? Ды вы, нарэшце? Мы людзі выпадковыя ў вас...

— Кіньце... Паўла трымалі вы ды Сроль.

— Няпраўда. І адзін, і другі — людзі стойкія і шчыра адданыя справе...

— Магчыма... Але нешта нейкае свярдлуе маё нутро, калі я думаю пра ваш ад'езд. Паверыце, Сроль ехаў — менш рупела, а зараз...

Каля дзвярэй хтосьці прайшоў.

Ліба ўздрыганула і падалася ад акна. У гэту хвіліну пачула бацькаў воклііч:

— Ліба!

— Скора! — адазвалася яна і праказала да Рыгора:

— Выбачайце...

Некалькі лёгкіх крокаў вынеслі яе з пакоя.

Рыгор напружаным узрокам прабег за ёю. Пасля адвярнуўся і прысеў каля стала.

Гутарка з Лібаю закалыхала ў ім знаёмае пачуццё разлукі. Колькі разоў гэта пачуццё хвалявала Рыгора! Якіх думак не выклікала ў яго галаве. Якіх не ўзнімала намераў!

За апошнія дні думка пра неадкладны выезд скандэнсавалася ў яго ў цвёрдае рашэнне. Перад гэтым рашэннем адыходзілі на задні план і рызыка нелегальнага ўцёку і небяспека быць перанятым паліцыяй. Памыйкава думка пасабляла ўдасканаліць арганізацыю выезду. І вось, раптам, з'явілася Ліба з сваімі ўгаворамі. Яна нечакана і ўмела падкралася да самага балючага месца. І з халоднаю раўнавагаю ў настроі раскалыхала яго заспакоенае пачуццё. А, бач, ён ні разу і не падумаў, што гэта можа быць. Прыпамятаваў, што ніколі з належнаю ўвагаю не паглядзеў на яе, як на жанчыну. Стрэў Сролевым таварышам і паступова ставарышкаваўся сам — вось і ўсё... А гэта...

Рыгоравы думкі выпархнулі з галавы і перанесліся да жоўтага будынка рыжскага астрога, дзе ён пакінуў Наталю. Праз момант яны прынеслі Зосін вобраз. Следам мацерын ліст радзіў Ганну.

Расстаўшыся з Рудольфам, калі той названіў яму пра Пецярбург, Рыгор у комплексе пецярбургскіх вобразаў ізноў напаткаў яе. Стройная і мілая, часта задуменная, Ганна глядзела на яго з руні сілцоўскіх паплавоў.

І маці...

— Досыць! Я перад ад'ездам, якога не мінеш! — праказаў Рыгор і крута павярнуў думкі на апрацоўку плана ад'езду. Калі і што, ды як пакінуць яму Смагін? Па якой дарозе накіравацца, каб не даць паліцыі напасці на след? Як і што паглядзіць паліцыя на яго збег? Няўжо такі яна насур'ёз наладзіць за ім пагоню? Ці, можа, станавы аднясецца да гэтага спакойліва? Трывожны час адцягне яго думкі ў іншы бок? Цікава,

як справіцца Памыйка з пашпартам? — падумаў Рыгор і праверыў прысвечаных у яго ад'езд.

«Няўжо адзін Памыйка? Безумоўна і Сімен... і... пэўна, Ліба? Навошта ведаць Лібе? Яна ўжо ведае...»

Рыгор пачаў хадзіць па пакоі...

«Ды і ўсё роўна ж праз Лібу прыйдзецца мець справу з яе бацькамі. Ад'езд цягне за сабою разлікі за кватэру і харчы, развітанне.

Трое, і гэтым павінна абмежавацца».

Стук у дзверы перабіў яго развагі.

— Прашу! — пазваў Рыгор.

— Вячэраць будзеце? — пытала Ліба.

Рыгор адчыніў дзверы.

— У вас цёмна, як у лесе. Я прыкмячаю, што вы любіце быць у цямне.

— Я зараз, вось, запалю лямпу.

Ён пабег да стала і пачаў мацаць рукамі па засланай паперы.

— Не знайду запалак.

— Я прынясу вам!

Ліба ўпоцемках паставіла на стале вячэру і вышмыгнула з пакоя.

Праз хвіліну яна вярнулася з запаленаю свечкаю.

— Вось вам свечка,— можа, у лямпе няма газы.

— Давайце. Дзякую.

Рыгор спакойліва пераняў з Лібіных рук свечку, паставіў паміж дзвюх талерак і сеў есці.

— Прыемнага апетыту! — пажадала Ліба і выйшла.

Рыгору, аднак, не прыйшлося і дзесяці хвілін прасядзець аднаму.

Ён не паспеў павячэраць, як да яго з'явіўся Памыйка.

— Не чакаў, думаю,— пасмяяўся ён.

— А бадай што і не.

— Ёсць справы.

— Неспадзяваныя?

— Як табе сказаць: і неспадзяваныя і разам — спадзяваныя.

Памыйка прычыніў дзверы і падблізіўся да Рыгора.

— Канчай вячэру, я пачакаю.

— Кончыў, кажы ў чым рэч.

Памыйка яшчэ раз азірнуўся на дзверы і, упэўне-

ны, што ў пакоі яны ўдвух, падаў Рыгору чорную маленькую кніжачку.

— Маеш — на цэлых пяць гадоў.

Той паглядзеў і засмяяўся.

— Ты стараешся як найхутчэй мяне выправіць з Смагіна.

— Так складаюцца справы... Бачыш, едзе не Рыгор Нязвычны, а Сцяпан Луговіч...

— Гэта твая выдумка?

— Хто-небудзь ды мусіць цябе ахрысціць. Папа, бачыш, было звацъ няёмка.

Абодва шчыра пасмяяліся.

— Можаш хоць заўтра ў дарогу,— парадаваў таварыша Памыйка.

Факт ад'езду набываў канкрэтную форму і апярэджваў Рыгоравы меркаванні. Так бывае заўсёды: хваляванне збораў раптам змяняецца боллю расставання. Тое, што складала комплекс яго жыццёвых адчуванняў, навеяных умовамі і абставінамі Смагіна, вачавідкі адсувалася кудысьці назад, за дзверы ды сцены яго пакоя.

— Ты дня не вызначыў? — запытаў Памыйка, не адрываючы ўзрокаў ад Рыгора.

— Ці не ўсё роўна калі,— спакойна адказаў Рыгор.

— Я на тое пытаю, што трэба згадзіць фурманку.

— Фурманку?.. Вядома... Але скажы, Павал, у цябе канспірацыя цвёрда трымаецца?

Памыйка крыўдліва затрапятаў усёй постаццю.

— Няўжо ты думаеш, што я нічога не разумею...

— Не тое, Павал, зусім не тое я хацеў сказаць... Ты мяне не зразумеў... Я пакладаюся на цябе, як на гару; ну вось, па-твойму, хто болей з нашых ведае пра гэта?

— Галас, і толькі.

— А Ліба?

— Я не казаў нікому, ані... Ды Ліба калі і ведае — будзь спакойлів.

Хтосьці падышоў да дзвярэй.

— Можна забраць пасуду? — пачуўся Лібін голас.

— Папрашу вас.

— Загутарыліся,— хітра праказала яна да Памыйкі.

— Так... Бярэце і мяне з пасудай,— адказаў Памыйка жартам.

І вясёлы яго смех зліўся з Лібіным смехам, пацёкшы срэбранай лентай усцяж калідора карчмы.

## IX

З часу паданай гутаркі з Памыйкам Рыгору не працавалася. Ён адчуваў нейкі цяжар, неўгамонную рупнасць. Рукі махалі малаток ці вадзілі напільнік, а вочы глядзелі ў іншы бок. Страцілася ўсякая цікавасць і захапленне працэсам і дынамікай працы, і яму здавалася, што ён ужо лішні і непатрэбны як у майстэрні, гэтак і ў самым Смагіне.

Становішча ўскладнілася яшчэ болей, калі ў адзін дзень ён атрымаў наступную тэлеграму ад Петруся:

«Прыязджай хутчэй. Я дастаў табе месца».

Тэлеграма магла адыграць прыкрую ролю з яго ад'ездам. Яна бязвінна з Петрусёвага боку, аднак наводзіла паліцыю на больш дбайлівую сочку за Рыгорам. Адно магло суцяшаць, гэта калі б тэлеграма абмінула паліцыю. Ды пакладацца на выпадковасць было апасліва. Аставалася браць узмоцненай каспірацыяй.

Цэлы даўгі вечар пайшоў у Рыгора з Паўлам на далейшы абгавор ад'езду. Было рэшана скрыць малейшыя адзнакі збораў. Той ці іншы намёк у паліцыі на тэлеграму павінен адцягнуць Рыгораў ад'езд. Памыйка штодня спраўляўся ў Рыгора наконт адносін да яго з боку паліцыі. Рыгор нічога не заўважаў. Ён два разы адбыў прапіску і ні разу не прыкмеціў, каб да яго ўзмоцнілася паліцэйская ўвага. Гэта апраўдвала дадумы, што тэлеграма выкаўзнула з вачэй станавога.

І як ні горка было Памыйку расставацца з паважаным і любым таварышам, той мусіў хутчэй выпраўляць яго з Смагіна.

Рыгор, як нібыта той, узяў ад Шульца заробленыя грошы пад выглядам высылкі іх мацеры і аплаціў імі праз Лібу кватэру і харчы.

Кароткі тэрмін да моманту ад'езду Рыгор скарыстаў на абгавор закранутага Памыйкам пытання пра яго далейшую сувязь з Смагіным.

— Будзь пэвен,— завяраў таварыша Рыгор: — я выпаўню ўсё тое, што ты ад мяне просіш і яшчэ па-

просіш. Я адчуваю ў сабе вялікую ўдзячнасць і табе і цэламу шэрагу смагінскіх таварышаў. Мястэчка само па сабе аставіла ва мне найлепшыя ўспаміны...

Памыйка ўважліва выслухаў Рыгорава завярэнне і ўдзячна паціснуў таварышаву руку.

— Я прызнаюся табе, Рыгор,— сказаў Памыйка голасам, прасякнутым непадробнай шчырасцю.— Ты многім памог мне пасталець. Дзякуючы табе, у маім нутру адбыўся круты перапом. Ты стрэў мяне напаў-анархістам, нядбайнікам да жыцця, а пакідаеш, павер, адданага сацыял-дэмакрата, якому дарага яго жыццё, як сродак для змагання за сацыялізм. Я не выпушчу з свайго ваччу тваіх слядоў, пакуль не спаткаемся нанова...

Памыйка паднімаў ужо Рыгораў куфэрак, каб выносіць яго праз задняе выйсце на гарод і далей на загуменную сцежку, як з'явіліся Сімен з Лібаю.

— Куды ты раптоўна? — запытаў Сімен.

— Фурманка чакае,— адказаў Памыйка.

— Пачакае... Так...

Сімен хацеў нешта сказаць, але гутарка не клеілася. Рыгору рупела ісці, і ўвага драбілася на часткі.

— Ты пасачы, каб ніхто не зайшоў у дзверы,— папрасіў Лібу Памыйка.

Ліба зачыніла дзверы, што адгароджвалі калідор ад буфетнай, і паведаміла:

— Нічога. Можна спакойна выходзіць.

Сімен развітаўся з Рыгорам і пакінуў іх траймі.

Ліба правяла Рыгора з Паўлам у двор:

— Шчаслівае дарогі!

— Бывайце, Ліба Шлёмаўна! Дзякую за вашу таварыскую да мяне ўвагу,— шчыра паціскаючы Лібіну руку, выказаў Рыгор.— Кланяйцеся бацькам і перапрасеце, што я не паспеў з імі развітацца.

— Пішэце, Рыгор Міхасевіч,— папрасіла Ліба і пастаяла, пакуль яны не схаваліся за будынкам.

Калі праз паўтары гадзіны Памыйка вяртаўся з мястэчка, правёўшы Рыгора, Ліба весела напявала мелодыю Кармэн, стоячы ў акне свайго пакоя.

Назаўтра раніцою, ужо седзячы ў цягніку, Рыгор вычытаў у газеце паведамленне пра забойства аўстрыяцкага кронпрынца сербскім гімназістам у Сараеве.

Гэта буйная навіна з палітычнага жыцця не выклікала дваякіх думак. Яна няўхільна і вачавідкі вяла да аднаго скутку — да вайны. Рэдка ў каго магло знайсціся смеласці надаваць іншае тлумачэнне гэтаму факту. Як прэлюдыю да вайны зразумеў яго і Рыгор. Не дзіва таму, што ён адразу занядбаў усё іншае і накіраваў свае думкі і сваю ўвагу да сараеўскіх падзей. Рыгора цешыла тое, што ён на дарозе да Пецярбурга, дзе далейшае развіццё здарэнняў не схаваецца ад яго ў сваёй выразнай надзейнасці.

З кожнаю вярстою, што праязджаў цягнік, ён усё радзей вяртаўся думкамі да Смагіна. Звязаная з яго ад'ездам небяспека танула ў буйных растках узрушаючых навін. Газета адцягвала яго ўвагу і ад наглядання ў акно вагона, што было неад'емнай яго прывычкаю ў час язды па чыгунцы. Мала цікавілі суседзі па вагону; ▪ імі Рыгор не знаходзіў гутаркі. Некалькі гарадскіх мяшчан, як чуць было з іх гутаркі, ехалі па гандлёвых справах, і газета іх мала абыходзіла.

Яшчэ далей ад апошніх палітычных навін былі жанчыны. Іх займала ажыўленая дыскусія пра нейкае вяселле ў вёсцы. Не пачуў Рыгор абгавору газетных навін і ў гутарках другіх пасажыраў вагона.

Гэта быў асобны, зусім абмежаваны свецік, які жыў у баку ад падзей, каторыя няслі для яго нечуваную катастрофу. Не па ім, зразумела, можна было судзіць пра тыя ўражанні і развярух, які зрабіў стрэлам невядомы дасюль сербскі гімназіст.

Там, па заваконню вагона, у прамінутых гарадах і ў гарадах, якія наперадзе, сотні вачэй бегаюць па слупках газет, выглядаючы выразную веліч сараеўскіх падзей.

Зацішаны ў сваім развязанні тысячы экстраных спраў, другія тысячы набылі іншы наварот. Па ўрадавых установах і па прыватных інстытуцыях пранёсся вецер неспадзяванай клапатлівасці. З стальною напружанасцю сканцэнтравалася людское пачуццё на гадальным вырашэнні бліжэйшага наступнага.

Праз дзень, праз два газеты распаўсюдзяць гэтыя навіны па ўсіх кутках вялікае краіны. Можа, заўтра яны трапяць і ў Смагін. Цікава, як іх стрэнуць смагінскія таварышы.

Го, Рыгор адчувае, як моцна яны ўсхвалююць Памыйку. Развітваючыся ўчора, ён мэрам і ведаў, што

павінна што-кольвечы важнае трапіцца, калі так нервова казаў пра далейшую чыннасць смагінскай арганізацыі: «Іспыт надышоў... Хлопцам трэба будзе падварушыцца. Я не думаю, вядома, што яны не прыстасуюцца да ўмоў. Знойдзецца ў іх сілы ды ўменне запанаваць над абставінамі... А вось Пятрусь... Ці не падумае ён, што я збаюся ў гэты час ехаць у Пецярбург?..»

Але ўзнятае газетнымі весткамі ўзрушэнне паступова пакідала Рыгора. Ён асвойтваўся з ім, як неадменным фактам. Гэты факт пакуль не адбіваўся на вырашэнні яго лёсу. Язды да Пецярбурга заставалася ўсяго няцэлая пара. Толькі тады, калі ён спаткнецца з пецярбургскаю сапраўднасцю, будзе відаць, як павернуцца яго справы.

Рыгор ляжаў на апростанай жанчынамі лаўцы, калі яго папрасілі даць месца двум новым пасажырам. Яны з узнятым настроем абгаварвалі навіны дня, гартаючы жмах свежых, пахнучых фарбаю газет.

Адзін чамусьці дапускаў мірнае вырашэнне аўстрыяцка-сербскага інцыдэнту, спасылаючыся на перманентную вострасць балканскага пытання. Другі няўломна стаяў на сваім — вайна немінуча. Ён спасылаўся на шэраг прыкладаў з галіны эканамічных супярэчак і даводзіў, што балканскі вузел павінна рассеч вайна.

— Няўжо такі Аўстрыя не задаволіцца выпаўненнем Сербіяй ультыматуму? — пытаў першы свайго таварыша.

— Пра гэта не можа быць і рэчы. Сараева — сігнал да выступлення, а не звычайны выпадак. Гімназіст Прынцып таўхнуў воз, які стаяў на краю гары, і яго не пераняць цэлым,— даказваў другі.— Паляціць у правалле...

— Ці ліха! Няўжо іх не атрэзвяць жахі вайны? — сумняваўся першы.

— Сербія, каб і хацела, не будзе дапушчана яе апекунамі пайсці на пакорную,— уяраў другі.

— Магчыма, ультыматум і завостры, каб яго выпаўніць,— здаваўся першы.

«Ультыматум» — то былі пазнейшыя тэлеграфныя весткі, пра якія Рыгор даведаўся з гутаркі гэтых пасажыраў. Гэта ўжо заганяла здарэнні далей, выразна акрэсліваючы сур'ёзнасць бліжэйшага наступнага.

Самы пэнт развіцця падзей і нахіл, куды ішло гэта развіццё, зноў запаланілі Рыгора. Ён не мог далей моўчкі слухаць і прыняў удзел у гутарцы сваіх суседзяў.

— Гэта калі Аўстрыя падала ультыматум? — запытаў ён.

— Стала вядома сёння раніцою! Вось, чытайце!

Сусед падаў Рыгору газету, ткнуўшы пальцам у чорныя радкі зместу. Рыгор прагна накінуўся на змест і засаб некалькі разоў прачытаў паказанае месца.

— Ага! — выказаў ён.— Скажэце, як усё хутка робіцца!..

— Пажар... Ды пры ветры!.. Цяпер можна смела гатавацца ў паход. Аўстрыйскі ультыматум — гэта ўжо вайна... Ды ў нас мабілізацыя на хаду. Настрой ясны...

— Настрой за вайну, кажаце? — перапытаў Рыгор, мэрам бы не зразумеўшы суседавых слоў.

Той здзіўлена паглядзеў на Рыгора.

— Я не бяруся вам характарызаваць грамадскага настрою. Я разумею настрой урадавых колаў. Грамадскасць пасля выявіць свой твар. Пакуль яна абурана хадою падзей і перажывае першае здзіўленне... Ужо ў Пецярбурзе відно будзе, у якім аспекце выглядаюць апошнія навіны.

— Я, бач, еду з вёскі,— паведаміў Рыгор,— і толькі сёння ▪ газет дазнаўся пра сараеўскі стрэл. Вёска зусім не ў курсе, адкуль і што заставіла Прынцыпа страляць у аўстрыяцкага наследніка.

— Так, зразумела,— супакоіўся Рыгораў сусед,— вёсцы цяжка разбірацца ў пытаннях міжнароднае палітыкі... Наша вёска спаткаецца з ёю з аружжам у руках...

Рыгор зрабіў недаверлівую міну і, крыху памаўчаўшы, запытаў:

— Вы едзеце да Пецярбурга?

— Да Пецярбурга.

— Упершыню?

— Мы пецярбургскія жыхары.

— Пецярбургскія жыхары? Якраз дарэчы. Тады я ўжо буду вас пільнавацца.

## X

Новы дзень Рыгор спаткаў пад настроем набліжэння да Пецярбурга. Учарашнія навіны, ён дагадваўся, нарадзілі за ноч шмат свяжэйшых і, магчыма, болей складанейшых. Ён пазнаецца з імі ў Пецярбурзе.

Рыгор падняўся і стаў у акне вагона.

За акном святлеў ясны пагодлівы ранак. Шырокая гала зялёных ніў, уперамежку з даўгімі густымі лясамі, сціскала свежым паветрам бягучы цягнік. У душны, яшчэ спакойлівы вагон ліліся пыльныя праменні зыркага сонца. Трапляў густы вятрыска, асвяжаючы спёртае паветра. Зелень блішчала на сонцы, смяялася радаснай, ласкавай, суцешнай ухмылкаю. У мяккім калыханні гэтае ўхмылкі расплываліся шэрыя сілуэты земляробаў і жывёлы.

Нідзе, ні на чым не заўважана было жадных прыкмет навіснуўшых над светам страшэнных прыгод. Нішто не дапаміналa пра іх, і таму Рыгорава нутро перапаўнялася пачуццём замілавання. У бліскучым праменні сонца мігалі паўстаўшыя вобразы з яго сілцоўскага жыцця: Лужкі, Хвойнік, Масткі, знаёмыя палеткі і лясы. Няйначай, вось, гэта яны цягнуцца ўздоўж чыгункі, вяжучы сабою вёскі ■ гарадамі, мінулае з наступным.

Другі дзень ён сядзіць у цесным душным вагоне і, здаецца, што ў тым нічога асаблівага. Сядзеў у сваёй хаце, сядзеў у балагольскай будзе, пасля перабраўся ў майстэрню завода, а адтуль у астрожную камеру, а далей у майстэрню Шульца. А за гэтым? Вылезе з вагона і трапіць зноў ці ў завод, ці ў кантору.

Рыгор вострымі ўзрокамі ўстраміўся ў зялёныя галы палёў. Яны хутка мігалі, адбягаючы назад, туды, адкуль ён аддаляўся.

Ён выразна адчуваў вялікую воддалеч ад пакінутага месца. Вось-вось абдым гарадскога жыцця захопіць яго ў свой вадакрут. Мільённы горад захавае ў хвалях раз'юшанага натоўпу — і схавае сабою Смагін і Памыйку, Шульца і Лібу.

Вось паказаліся пад задымленым небам шэрыя абрысы фабрычных комінаў.

— Мы, напэўна, пад'язджаем да Пецярбурга? — між іншым запытаў Рыгор яшчэ не ахаенага ад сну суседа.

Той паглядзеў на гадзіннік і адказаў:

— Калі не познімся, то праз гадзіну будзем у Пецярбурзе.

— Прыязджаем а дзевятай? — запэўніўся Рыгор.

— Так... Калі не познімся.

Набліжэнне да Пецярбурга ў вагоне падняло сумятню. Пасажыры заварушыліся, забегалі па калідоры ўзад ды ўперад. Застукалі куфэркі. Пацягнуліся да вокан, узняўшы перадпрыезную гутарку.

— Вунь Пулкава, дзеці,— прарэзліва гукнула на ўвесь вагон якаясьці жанчына.

Некалькі дзіцячых галасоў зліліся ў радасным выгуку:

— Пакажэце, мама!

Хутка ў Рыгоравым ваччу вырас на ўзвышшы белы будынак, ахутаны густою зелянінай садоў. Следам цягнік прайшоў станцыю Пулкава.

Веяла Пецярбургам.

Рыгоравым нутром бегаў ні то халадок здзіўлення, ні то подых асалоды.

Узвышаны настрой змяніўся трапяткім уздымам, калі з-за пулкаўскіх гор вынырнулі жалезныя рыштаванні Пуцілаўскае верфі. Цёмным пераплётам крыжавалі яны паветра на фоне каламутна-белаватага неба. Рыгор не мог устаяць на адным месцы і рупліва пераходзіў з боку на бок вагона.

У правым акне лесам фабрычных комінаў зірнула на яго Маскоўская застава. Далей за ёю, на многа вёрстаў цягнуўся фабрычна-завадскі раён Неўскае заставы, сёлы: архангела Міхаіла, Абухава, Колпіна.

Над роўнымі абшарамі балоцістых паплавоў насіліся хмары чорна-палавога дыму. У яго густой муці скрадаліся рысы высокіх, пабітых на вокны, стромых будынкаў гуллівага горада.

Да Рыгора падстаў адзін з суседаў, пачаўшы апавядаць пра назвы заводаў і мясцовасцей, пра колькасць рабочых на буйнейшых прадпрыемствах, пра нядаўнія забастоўкі. Рыгор прагна ўбіраў у сябе гэтыя першыя веды пра вялікі горад, дагэтуль завабны і марлівы, а зараз вачавідкі і жывы. Плойма разнастайных пытанняў вырастала ў яго нутры, напірала на язык і прасілася да выказу. Але не час быў гэтым займацца. Пара ўжо было пытаць пра маршрут у Лясное, на Петрусёў адрас.

Ён паспяшыў выкарыстаць суседа.

— Вам лепей усяго садзіцца на дзевятку і проста да Фінляндскага вакзала, а там...

Сусед, напэўна, запамятаваў далейшы парадак праезду ў Лясное і абярнуўся да свайго таварыша.

— Чаму на дзевятку?.. Лепей усяго васьмёркаю,— памог той.

— Толькі восьмым нумарам. Даедзеце да клінікі Вілліе, а там на паравік і ў Лясное,— праказаў селянін-эстонец.

Яго падтрымала да пяці іншых пасажыраў, якія ўжо стаялі згруджанай масай у праходзе вагона.

Між тым цягнік спыняўся на вакзале.

На пероне яго чакала мноства публікі, якая напружана лавіла ўзрокамі пакідаўшых вагоны пасажыраў. Чуўся гулкі, рэзвы гоман і насіліся выгукі імяў і прозвішчаў.

Рыгор пазіраў праз вокны вагона на публіку і завідаваў цёмным спатканням знаёмымі знаёмых. Яму міжвольна чакалася, што авось якая прымха навядзе на яго Петруся ці Ганну. І тут ён якраз наткнуўся на сваю непрадбачанасць і паіранізаваў над сабою. «Або я дагадаўся хоць аднаму з іх паведаміць?»

З гэткай развагай Рыгор апынуўся ў густой тлуматні публікі. Ён не агледзеўся, як людская хваля падхапіла яго і панесла з сабою да ўваходу ў вакзал.

Вузкія дзверы не ўмяшчалі натоўпу. Яго добра пацiскалі, пакуль ён прайшоў дзверы. Ды ў вакзале не было вальней.

Сотні разнастайных, мэрам дзе бачаных і знаёмых, твараў ухмыляліся яго пытальным вачам. Рыгораў знадворны выгляд дапамагаў яшчэ больш звяртаць на яго ўвагу. Не патураючы на гэта, ён не кідаў надзеі стрэць хоць адну знаёмую душу...

Няўжо такі сярод вялікага натоўпу на вакзале не знойдзецца каго-кольвечы, хто б дзе калі яго спатыкаў?

Незаўважна для сябе Рыгор апынуўся пры буфеце. Навакола за столікамі сядзелі пасажыры і госці, хто за гарбатаю, хто за півам, хто за снеданнем.

Прысеў і ён і заказаў шклянку гарбаты ды пару сырных бутэрбродаў.

І, можа, з паўгадзіны аддаў на сваё скромнае снеданне.

За гэты час вакзал паступова апусцеў. Заціхлі гоман і тупатня.

Мала прыкметны раней, ён зараз адцягаў на сябе беглыя ўзрокі мігаючых тэлеграфістаў і паважна тупаючага жандара.

Гэта не замяняла чаканых знаёмых. Роўная, як струна, здаравенная постаць жандара, яго колкія кноразавыя вочы, мэрам выдаўленыя наповерх чырвонага круглага твару,— уплывалі непрыемным уражаннем і не манілі далей сядзець пры стале.

Адчуўшы казытны ўкол адзіноцтва, Рыгор выйшаў з вакзала.

Направа, праз гарбаценькі мосцік, заварачваў трамвай, на якім чорная літара распірала бакавыя бляда-жоўтыя трыкутнікі. Як вочы сляпога, сумна глядзелі на яго шкелкамі пара патухлых ліхтароў і стройная пукатая, як сваха, лічба 8.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### I

Вось ён, Пецярбург! Горад камення і жалеза! Горад палацаў ды фабрык. Гняздо абсалютызму і калыска рэвалюцыйнага руху. Кузня культуры і засценак сярэдневякоўя. Башта астрога народаў і арэна будаўніцтва інтэрнацыяналу... Перад чым яго становіць неўгамоннае развіццё сацыяльна-грамадскіх падзей? Што прараклае яму недалёкае наступнае? Калі жыццё надасць яму новую ролю стаць горадам тых, хто яго збудаваў?

З гэтымі думкамі Рыгор увайшоў у трамвай.

Пецярбург гудзеў кіпучым жыццём. Адзін за другім праносіліся стройныя вагоны трамвая. Свісталі аўтамабілі і траскацелі рамізнікі. Паводкаю ліліся людзі ў адзін бок вуліцы і ў другі, насустрач і ў бакі. Над высокімі гмахамі муроў, пад струну адмяраўшых мяжу вуліцы ўсцяж бруднае канавы, насіўся полаг разрэджанага дыму. Агромністыя шыльды вабілі шакаладам, какао і цукеркамі, дапаміналі шафёрам пра шыны «Континенталь», а фабрыкам ды кватаран-

там — пра лямпачкі «Osram» — і «Палуват». Працьма газетчыкаў выгуквала шэраг цікавейшых навін, з якіх рэзка выдзяляліся гэткія, як: «Аўстрыя рыхтуе наступ на Сербію», «Пуанкарэ накіроўваецца ў Расію», «Нямеччына падтрымлівае Аўстрыю». Навіны востра інтрыгавалі публіку, якая брала газеты нарасхват, чытаючы іх на хаду.

Аднак на тварах людзей, нягледзячы на трывожныя навіны, адмячаўся святочны настрой адпачынку. Кожны быў заняты сваімі прыватнымі думкамі. Сур'ёзнасць надыходзячых здарэнняў яксьці не гадзілася з жаданнем ні тых, што спяшылі выехаць за горад, каб пасапці свежым паветрам, ні тых, хто парамі ці грамадкамі знаходзілі задавальненне і супачынак у шпацыры па гарачых каменнях горада.

Рыгор таксама захапіўся газетнымі навінамі, да якіх ён ужо быў падрыхтаваны. Купленая ім і наспех прагледжаная газета ўзмоцніла яго аналіз перадстаячых здарэнняў. Навіны ён пакідаў на абгавор з Петрусём, а зараз не адрываўся ад назірання гарадскога жыцця. Духата і смурод, густа разбаўленыя ў паветры, яму былі неўпрыкмет: ён уцягаў іх з нейкаю асабістаю прагавітасцю. Імкненне публікі выбрацца за горад аставалася яму незразумелым і чужым. Асалода пержывога сутыкнення з горадам перамагала ўсё. Ён першым ускочыў на пярэднюю пляцоўку вагона і настаражыўся да нагляду. Збоку яго сядзеў важаты. Якраз небесцікаўленым было ўведаць, які час патрабуецца на язду ў Лясное, і Рыгор запытаў важатага:

— Колькі часу мы ехацьмем да Ляснога?
— Гэта зойме да гадзіны!
— Няўжо? Скажэце, калі ласка!
— Што? Доўга?
— Занадта, па-мойму.
— Гэтак заўсёды, чаго ж дзівіцца.
— Я ўпершыню еду.

Важаты агледзеў Рыгора з галавы да ног, падзівіўся ні то з яго самога, ні то з яго куфэрка і запытаў:

— Здалёк?
— Здалёк.
— Адкуль?
— З Віленшчыны... Не знаёмы хіба вам гэтыя мясціны?

— А хто яго ведацьме ўсё — Расія вялікая. Дзе Сібір, дзе Каўказ, дзе...

Людзі, што спакойліва пераступалі рэйкі, шустра разбягаліся ў бакі, агаляючы дарогу трамваю. Трамвай хутка нёсся вуліцаю. Рыгор паглядзеў усцяж канавы і паціснуў плячыма: яна цягнулася вузкаю роўнаю паласою далёка-далёка ў глыб горада. Абапал яе, між гмахамі дамоў, паднімаліся коміны фабрычных будынкаў. Рыгору мігам успомнілася Рыга, якраз тое месца, дзе перакінуты праз Дзвіну даўжэрны мост Мітаўскае чыгункі. Шырыня Дзвіны, яе вадзяны прастор, усеяны плытамі, баркамі, параходамі і караблямі, дзесяткі заводаў, набліжаных да берагоў, рабілі куды большае ўражанне. Ад гэтае канавы дыхнула цеснатою і сухасцю. Ці гэта так здалося? Рыгор намерыўся праверыць сябе, але было позна: трамвай ужо бег шырокай простай вуліцай далёка ад моста. Адна за другой, цэлы знізак падобных прасторных вуліцператочвалі прадоўжную. Усе яны былі выведзены пад шнур і агароджаны роўнымі сценамі будынкаў. Дарэмна Рыгорава вока шукала своеасаблівасці рыжскіх паломаў і вузкасці, старога месца і палісаднікаў ды бульвараў — новага горада. Вунь усяго прамігнуў перад ім невялікі пляцок перад агромным гмахам сабора. На пляцку рэдкія, закаржэлыя раслінкі, мэрам бы іх назнарок пасадзілі тут, каб пераканацца, што камень і чыгун не да твару зелені. Вострая жарства вакол клумбаў выссала ўсе сокі. За высокім з медных жорлаў гармат помнікам схавалася парнае, але бледае сонца. І далей — той жа камень: тоўстымі глыбамі, роўнымі і няроўнымі, наварочаны дзесьці ў гарах, нават дасціпна не абсечаны, зложаны ў важкія сумныя будынкі. Колькі яго патрабавалася, каб узвесці гэту безліч агромністых пяці- ды шасціпавярховых гмахаў! Якое працы каштавала перакінуць яго сюды і тутака пералажыць у сцены, у брук і тратуары, захаваўшы спрэс зямлю і затуліўшы сонца! Цяжка ваабразіць — не ахапіць думкамі, не ўвабраць пачуццём. І, можа, таму — ды напэўна з-за гэтага — Рыгору асалодна імпанаваў увесь гэты цяжар і гаматнасць, гэта сіла і моц людскае вытворчасці. Ён не адводзіў убок вачэй, не таміўся аднастайнасцю выгляду спачатку да канца цэлае вуліцы, квартала, адгону ад спынкі да спынкі. Яго ахапляў уздымны настрой, асаблівая ўцеха ад прысутнасці ў

гэткім горадзе, у разорах яго змрочных душных вуліц. Дзесь глыбока ў яго нутры, падсвядома, фармавалася пякучае жаданне застацца ў Пецярбурзе як надалей, зліцца з ім, растварыцца ў яго пякельным грукаце, у ветраным пудзе руху. На ляту ў думках складаліся планы, як і што адшукаць Ганну і разам з ёю ды з Петрусём аб'ездзіць, аблётаць усе куткі і закавулкі горада, каб азнаёміцца з ім да дробкі. Трэба ж ведаць і назву вуліцы, і рэчкі, і пляцы, і асобныя ўстановы. Зараз ён не ў моцы ўсё распытаць у важатага — ды таму некалі тлумачыць. Хаця збольшага: Фантанка, Кацярынінскі канал, Нікольскі рынак, Марыінскі тэатр, Благавешчанскі пляц...

Рыгор азірнуўся назад і ў бакі — колькі ўжо праехалі? Намерваўся запытаць, але не паспеў: выехалі на Мікалаеўскі мост, і перад ім паўстаў цудоўны выгляд Нявы, шпіцы Петрапаўлаўкі ды Адміралцейства, палацы Набярэжнае, растральныя калоны каля біржавога будынка, масты — направа, і лес мачт і карабельных труб — налева. Ён адчуў, як мэрам бы яго хтось схапіў рукамі, пакрышыў на частачкі і часцінкі і рассыпаў абапал моста на бліскучую празрыстую ваду Нявы. Вось ён нясецца з лёгкім параходам у бок Фінскае затокі, мерскаючы між чорных будынін караблёў, між сцен набліжаных да рэчкі заводаў; вось раптам белы парусьнік абводзіць яго вакол веркаў Петрапаўлаўскае крэпасці; і ён жа каля палацаў узбярэжнае і над біламі Троіцкага моста... Хай бы супыніўся трамвай і даў яму агледзець усё як належыць, палюбавацца ўволю! «Не, тут ужо далёка перасягло рыжскія вобразы»,— праказаў ён сам сабе ў думках, а ўголас дадаў:

— Якое хараство, аднакава!

Каля яго стаяла некалькі чалавек, зусім незаўважна для яго выйшаўшых на пляцоўку. Што стаяў поруч з ім, сказаў:

— Гэта гордасць Пецярбурга!

— Гэтым ён і бярэ! — дабавіў сусед.

— Ніводзін з расійскіх гарадоў не пахваліцца гэтым...

Рыгор быў цалкам згодны са словамі незнаёмых яму суседзяў. Ці ж варта пераказваць ісціну? Так, цікавы горад! Зараз яго ніхто не пераканае ў іншых дум-

ках. Адно б не здарылася — каб з той ці другой прычыны не давялося разлучыцца з ім.

І крохкая баязлівасць злёгку кранула Рыгорава пачуццё. Ён адцягнуўся ўвагаю ад нагляданняў вакольнага і спыніўся на думках пра свой лёс. «Хоцькі б не ўпусціў Пятрусь абяцанага месца! Каб не здарылася чаго-кольвек з боку паліцыі. Болей, як пэўна, што весткі пра яго ўцёк далятуць і да Пецярбурга. А калі яму прапісацца Луговічам? На кожны выпадак... А месца? Не павінна быць, каб яно так хутка было страчана... Ды калі і страціцца — дык няўжо не знойдзецца новае?.. Плёвая справа!»

Трамвай выйшаў на Тучкаў мост. І новы вобраз адчыніўся Рыгоравым вачам. Малая Нява, адлучыўшыся ад Вялікае Нявы, аддзяляла Васільеўскі востраў ад Пецярбургскае стараны. З левага яе боку — фабрыкі і заводы цягнуліся далёка ўздоўж берага, губляючыся ў шэрым тумане ўзмор'я. Правы бераг убіралі густыя купы дрэў Пятроўскага і Крастовага астравоў. Зялёныя анталяжы раслін яшчэ болей упяхнялі выгляд... Але Малая Нява траціла многае ад надмернага ліку згруджаных на ёй барак з дрывамі, з вугалем, з цэглаю. Наабапал Тучкавага моста ад Васільеўскага вострава, як гаць, была вымашчана імі шырокая рэчка. На барках ішло сваё жыццё. Граў гармонік, чуліся песні, даносілася зычная гутарка. Па дровах і між дроў дзесяткамі сходаў тупалі непрыбраныя, у ніжніх кашулях з закасанымі рукавамі, рабочыя-вартаўнікі, накладчыкі, каталі. І гэта жыццё зусім не гадзілася з тым, што шырокаю хваляю лінула на Рыгора з Пятроўскага парку. Тысячная грамада «простых» людзей спраўляла тут свой святочны адпачынак. Варушылася, як пчолы ў вуллі, гудзела, як марскі прыбой. Працавалі атракцыёны, гучаў бубен, разлівалася шэйнакатрынка. Вайсковы аркестр грымеў абыграныя матывы вальсаў. На бягу трамвая гэта мігнула феерыяй і паказалася Рыгору вельмі квяцістым. Але ціш і змрок бясконцага Вялікага праспекта Пецярбургскае стараны дыхнулі на яго прыемнасцю спакою. Рыгорава ўрачыстасць была прасычана да адказу. Духата яго прытаміла. Увабраць за адзін раз усю разнастайнасць, усю яскравасць пецярбургскіх пякнот — было не пад сілу. Раз'юшаная патэнцыяльнасць не адпавядала вялікасці і багаццю вобразаў горада-волата. Вось чаму рэшту

дарогі да клінікі Вілліе Рыгор праехаў крыху ў іншым настроі. Дзякуючы гэтаму, ён спакайней прапусціў між вачэй хараство Каменаастроўскага праспекта, Вялікае Нявы, Батанічнага саду. Толькі перасеўшы на паравік, ён яшчэ на нейкі час захапіўся выглядам дасканалай фабрычнай мясцовасці Выбаргскае стараны. Незмярымая даўжыня Сампсоніеўскага праспекта, застаноўленага дзесяткамі фабрык, усеянага рабочай публікаю, узбурліла ў ім пачуццё рабочае гордасці. Зноў думка прывяла ў памяць з рыжскага жыцця, з моманту рэвалюцыйных выступленняў. Але тыповасць і характарнасць гэтае часткі Пецярбурга, як рабочага асяродку, куды перавышала рыжскую. Тут менавіта дыхала працоўным імпэтам, сіла работнічай творчасці панавала над усім. Рыгору не толькі прыемна было праехаць гэтым раёнам, яму праглівa хацелася абраць месцам свае працы толькі Выбаргскую старану. Водлуг гэтага хацення, ён праказаў сам сабе: «Хоць бы ды тое месца, што падшукаў Пятрусь, было на адным з гэтых заводаў». І ў думцы наконт гэтага ён захаваў намер зараз жа абгаварыць гэта з Петрусём.

## II

К часу Рыгоравага прыезду ў Пецярбург Пятрусь дажываў у ім восьмы месяц. За гэты тэрмін ён пераэкыў багаты прыгодамі кавалак свайго жыцця. Цікавым і нечаканым фармавалася яно ва ўмовах чужога і незнаёмага горада. Тым болей складнейшым было яно для Петруся, як чалавека без рамясла ў руках. Нагаворамі Рыгора ды юнацкаю смеласцю набыў Пятрусь адвагі кінуць-рынуць сваіх бацькоў і паехаць у Пецярбург. І калі ехаў — зусім не ўяўляў сабе, як і што стрэне яго сталіца. Жаданне адшліфавацца, набрацца практыкі ў жыцці і стажу ў рэвалюцыйным змаганні — перамагала ўсё іншае, а ў тым ліку і прадбачанне непрыемнасцей. Гаспадарства бацькоў, яшчэ не старых, пры якіх Петрусю не было вялікіх клопатаў і не мелася абавязкаў адказнасці, не супыніла яго рашэнняў. Яно, гэта рашэнне, было скорае і цвёрдае для бацькоў і для таварышаў нечаканае. Тым болей цяжэй было паверыць у гэта Рыгору. Апошні пэўней спадзя-

ваўся на падобны крок з боку Сёмкі, ну зусім жа не з Петрусёвага боку. Усё ж самы факт Петрусёвага ад'езду з Сілцоў у Пецярбург Рыгора цікавіў не на жарты. І, безумоўна, што ўсе здарэнні, звязаныя з васьмімесячным жыццём Петруся ў сталіцы, павялічвалі гэту цікавасць. Пятрусь пісаў ужо пра ўсе перыпетыі ў гэтым жыцці: і Гэлі, і Сёмку, і іншым сябрам. Апавядаў колькі разоў новым пецярбургскім сваім таварышам, і гэта не было сакрэтам.

Гэтыя яго перыпетыі пачаліся з блукання па вуліцах Пецярбурга ў час прыезду і прайшлі праз месячнае шуканне працы, галадоўлю і начоўку па начлежках, праз работу за каталя і за падносчыка пры будоўлях. Яны выказаліся яшчэ ў продажы апошняе жакеткі на таўкучцы і ў жабрацтве на вуліцах. Кончыліся ж нечакана для Петруся вельмі ўдачліва. Выпадковае знаёмства ў клубе на лекцыі з адным рабочым-земляком выручыла яго з бяды і дало месца на металічным заводзе. Пятрусь каля трох месяцаў папрацаваў падручным, агойтаў, абазнаўся з варштатам і станкамі, зблізіўся з майстрам і на чацвёрты месяц атрымаў самастойную працу. Нахіл да слясарнае работы пасобіў яму хутка аўладаць складанымі працэсамі працы — і гэта пацягнула за сабою матэрыяльную забяспеку.

Многа пасобіла Петрусю і яго рэвалюцыйная свядомасць. Натура ж дружакі і пабраціма адчыніла перад ім шырокую дарогу да знаёмства і хеўры з рабочымі завода. Гэтым тлумачыцца хуткае ўцягненне Петруся ў шэрагі арганізаваных рабочых. Нават у апошнія часы перад Рыгоравым прыездам Пятрусь правёў некалькі адказных заданняў, часткаю па даручэнню таварышаў, часткаю па сваёй ініцыятыве. Абставіны працы на заводзе, колы знаёмых і поспехі ў аўладанні рамяслом уплывалі на Петруся як найлепш. Ён адчуваў сябе бадзёрым, рашучым, жыццёрадым; у ім кіпела хэнць да грамадскае чыннасці і няўхільна расла прага да свядомасці. Апошняе падказала таварышам абраць Петруся сябрам управы культурна-асветнага таварыства аднаго з пецярбургскіх раёнаў. Гэтай працы Пятрусь аддаў многа ўвагі і старанняў. Кожны дзень, пасля работы, наведваў ён таварыства, пасабляючы арганізацыі і ўкамплектаванню бібліятэкі, апрацоўцы праграмы чыннасці, адшуканню лектароў.

Заахвоціўся Пятрусь і тэатрамі. Не было таго тыдня, каб ён не пабыў ці на драме Гайдэбурава, ці на оперы ў Народным доме, або ў Музыкальнай драме.

Пятрусь сам сабе дзівіўся, адкуль у яго стаўся гэткі круты, гэткі раптоўны пералом. Дапамінаў пра гэта ў сваіх лістах і не абмінаў у гутарках. Яго неўгамонна прагнула паказацца Рыгору — прадставіцца яму ў першавобразным выглядзе. Сустрэцца хутчэй з Рыгорам і пагутарыць з ім — ці ж бы гэта дапамінала сілцоўскую стрэчу? Ніколі! Не выходзіла з памяці Петруся, калі ён, угледзеўшы Рыгора, толькі слухаў яго, не ведаючы, як падысці да чапаных Рыгорам пытанняў. Гарадское жыццё, умовы партыйнае працы ў горадзе, магчымасць стыкнуцца з разнастайнымі пытаннямі і атрымаць на іх адказ — гэтага не хапала для Петруся ў Сілцах. І ён разумеў Рыгора, калі той заўжды падгаварваў іх усіх і асабліва Сёмку — кінуць мястэчка ды паехаць у горад. Пятрусь па-таварыску ўпікаў Рыгора, чаму той не напіраў ■ гэтым на яго, а выключна на Сёмку. Не верыў у Петрусёву рашучасць? Напэўна. Бо Сёмка, як зараз стала Петрусю зразумелым, меў больш даных на гэта: мацней захапляўся ўдзелам у сацыялістычным руху, быў болей за яго начытаным. Рыгор усё гэта ўзважваў. Як жа інакшай? А цяпер? Пятрусь атрымліваў лісты ад Сёмкі, чытаў іх і недаўмяваў: якім, аднак, адсталым ён зрабіўся! Зацягнула жыццёвая дрыгва... І радаваўся, што лёс самога не ўвагнаў на гэта. Цэлы шэраг пытанняў, высунутых апошнімі месяцамі Петрусёвага гарадскога жыцця, патрабаваў абгавору... Ды абгавору з гэткім чалавекам, як Рыгор.

З гэтых разважанняў і ў дадатак з пачуцця шчырае таварыскасці да Рыгора Пятрусь увесь час думаў пра яго, пра іхнюю блізкую стрэчу. Словы Рыгоравай мацеры, выказаныя на праводзінах, Пятрусь выразна помніў: «Можа, стрэнешся з Рыгорам, дык скажы яму, сынок...» Рыгор тады быў у Рызе і ці меў думку наведацца ў Пецярбург — цяжка было сказаць. Але Пятрусь не траціў веры, што з Рыгорам спаткаецца — абы-дзе: у Пецярбурзе ці ў Рызе. Жыццё намагала на першае: склалася гэтак спрыяюча, што не выпісаць Рыгора ў Пецярбург — было б ніякавата і не па-таварыску нават.

І толькі Пятрусь замацаваўся на заводзе, развёў

знаёмства з шырокім колам рабочых, як упарта стаў шукаць Рыгору месца. Шукаючы, рэкамендаваў таварыша, як добрага майстра і як сур'ёзнага дасканалага рэвалюцыянера. Таварышы пасобілі Петрусю ў гэтым і хутка знайшлося не адно, а некалькі месцаў. Але Пятрусь разгубіў іх, бо ўсё не мог знайсці Рыгора. Ліст ад Гэлі, а пасля і бацькавы лісты, паведаміўшыя пра Рыгора, супалі з тым, калі з усіх магчымасцей уладзіць Рыгора на работу мелася толькі адна, дый то не асабліва ўдачлівая. Тым не меней Пятрусь у першым жа лісце да таварыша запрасіў яго ў Пецярбург. І, паслаўшы ліст, Пятрусь дрыжаў ад нясцерпу прычакаць Рыгора і баяўся, каб той не зацягнуў ад'езду. Як і што павінен быў уладзіць гэта Рыгор, Петруся не цікавіла — ці ж Рыгора павінна хоць што-кольвечы спыніць? Каб іншага, а Рыгора — ніколі.

Аднак Рыгорава маруднасць прымушала Петруся задумлівацца. Не быў ён цалкам упэўнены і ў тым, што Рыгора неадкладна зрушыць і тэлеграма. Пятрусь меў намер праз пяць дзён біць паўторную. Нягледзячы на гэта, ён некалькі разоў ездзіў на вакзал «на кожны выпадак». Але ў дзень прыезду Рыгора Пятрусь выпадкова не зрабіў гэтага. Нешта карцела, вымушала праехацца, а настойнасць таварышаў, што з'явіліся да яго зранку, перашкодзіла гэтаму. Пятрусь не мог адмовіцца прапусціць міжзаводскую нараду, якая была прызначана ў Азярках. Нарада адняла шмат часу і, калі скончылася, было ўжо позна ехаць на вакзал. Пятрусь, не спяшаючы, вярнуўся з Азяркоў а трэцяй гадзіне дня. Магчыма, астаўся б там намнога пазней, каб знаёмая яму дзяўчына не ўгаварыла ехаць разам.

Пятрусь якраз праводзіў яе па той вуліцы, па якой жыў, калі Рыгор угледзеў яго наводдалек. Рыгора ўзяло сумненне, ці паклікаць Петруся, ці найсці на яго ў упор. Спыніўся на апошнім.

Выглядала цікавым, калі Рыгор, ідучы настрэчу Петрусю, незмігутна сачыў за кожным крокам таварыша, чакаючы, што Пятрусь вось-вось яго пазнае. Але той і не западозрыў нічога. Ён быў захоплены размоваю з сваёю спадарожніцай. Неадхільна глядзеў дзяўчыне ў твар, пасміхоўваўся, нават рагатаў і ні на што не зважаў. І зусім раптам — прымха! Толькі Рыгор меўся перагарадзіць Петрусю дарогу, як той падняў вочы і спыніўся, гледзячы на Рыгора.

— Добры вечар, таварыш! — пераняў яго здзіўленне Рыгор і працягнуў руку.

Дзяўчына адступілася, мэрам бы адчуўшы сваю лішкасць. Рыгор з Петрусём пацалаваліся і раптам павярнуліся да дзяўчыны.

— Прабачайце, Рыма,— выказаў Пятрусь: — гэта мой таварыш-зямляк, Рыгор Нязвычны... А вось Рыма Беразак, зямлячка, з Віленшчыны.

Паружавеўшы на твары, дзяўчына фанабэрна працягнула Рыгору руку.

— Дзе ж твае манаткі? — запытаў Пятрусь і паглядзеў на дзяўчыну.

Тая злёгку ўхмылялася, падазрона пазіраючы на Рыгора. Яго непрэзентабельны местачковы выгляд крыху шакіраваў дасканала нараджаную і, відаць, ганарыстую знаёмую Петруся. Рыгор заўважыў гэта, але не даваў выгляду, знарок падкрэсліваючы свой правінцыялізм:

— Насіўся, насіўся па Лясным, а пасля кінуў.

— Кінуў? Дзе? Жартуеш?

— Сапраўды... А ты б хацеў, каб цябе стрэў з рэчамі за плячыма? Я ўжо гадзін дзве ў Лясным...

— Так... Нечакана... І чаму ты, скажы, калі ласка, не захацеў паведаміць мяне пра выезд?..

— Чаму я не хацеў паведаміць?.. Я сам сябе пытаю пра гэта і не магу адказаць...

Дзяўчына затупала на месцы. Пасля кранула Петрусёвай рукі і праказала:

— Я вам перашкаджаю... Бывайце-э...

— Слухайце-э, Рыма... мы з вамі ўгледзімся? Сёння? Заўтра?

— Будучыня пакажа...

— Як?

— Ці ж вам вытлумачыць усё да дробкі?

Дзяўчына пайшла.

— Яна нездаволена? — заўважыў Рыгор.

— Ганарыстая,— адказаў Пятрусь і раптам спыніўся:

— Ах, а я абяцаў ёй пайсці ў тэатр. Фу ты!..

Ён пакінуў Рыгора і намерыўся спыніць дзяўчыну, але тая паспела схавацца за брамаю.

Пятрусь вярнуўся, і яны пайшлі з Рыгорам да яго на кватэру.

## III

— Вось і мае манаткі,— пераступаючы парог, прaказаў Рыгор.

Пятрусь здзіўлена паглядзеў на таварыша.

— Дык ты ўжо быў у мяне на кватэры? — запытаў ён.

— Бачыш!

— І хто цябе пусціў?

— Цэлая гісторыя...

Яны падняліся на другі паверх і прайшлі ў Петрусёў пакоік.

— Вось мая абіцель... Садзіся і расказвай... Ну, паверыш, я ўсё яшчэ не магу апамятавацца ад нашага спаткання... Каб ты згарэў, каб ты... Як назнарок падстроіў... Да дзіва, што я забыў пра тэатр... Хто б мог падумаць... Ай...

Пятрусь ківаў галавою, тупаючы між крэслаў і канапкі, запоўніўшых невялічкае гала наўздзіў цеснага пакоіка.

— І пэўна, ты нічога не еў?..

Пры гэтым Пятрусь гукнуў у прачыненыя дзверы:

— Алена Паўлаўна!

Праз хвіліну пачуўся стук у дзверы.

— Патрэбна?

— Я папрашу вас нагрэць нам гарбаты...

Адкульсьці з глыбіні кватэры даляцела:

— Ладна!

— Зараз будзе гарбата,— абярнуўся Пятрусь да Рыгора і затупаў каля невялічкага буфеціка, што стаяў у правым кутку пакоя.

Тут жа забрашчэлі шклянкі, талеркі, заварушыўся стол. Рыгор наглядаў, як Пятрусь гаспадарна наладжваў перакуску. Рыгора цікавіла ўсё, што ён бачыў перад сабою: малюпаткі цесны пакоік, нядбала прыбраны ложак і запыленыя партрэткі на сценах; папэцканы абрус на стале і неўпарадкаванасць з кніжкамі ды газетамі. Нясло знаёмым яму жыццём адзінокага чалавека. Якраз, як то было з ім у Рызе і як, напэўна, будзе тут, у Пецярбурзе. Але побач з гэтым Рыгора цешыла, што яго таварыш гэтак хутка прыстасаваўся да адзінотнага гарадскога жыцця. Цешылі Петрусёвы павароты, Петрусёў выгляд, Петрусёвы манеры. Рыгор радаваўся таму, што Пятрусь лёгка паддаваўся ўплыву

да яго новых абставін, гарадской шліфоўцы. Было прыемна глядзець на таварыша прыадзетага, прыбранага, стройнага і далікатнага, якім зрабіў яго Пецярбург.

— Ну, а як табе тут? — запытаў Рыгор.

— Як бачыш — жыву,— адказаў Пятрусь.

— Падабаецца?

— Чаму б не падабацца? А ты думаў, што я не падыду да горада?

— Не тое, каб... але не спадзяваўся цябе стрэць тым, чым стрэў.

Пятрусь разрагатаўся.

— А я, браток, прывык і спадабаў горад.

— Гэта мяне цешыць...

— Вось скажы мне кінуць Пецярбург — дык ні за што... Звыкся і зросся... Не хапала цябе... Нудзеў, ведаеш, па табе і трывожыўся за твой лёс... А дазнаўся, дзе ты — надзвычайна ўзрадаваўся... Ты мне раскажаш пра цябе? Вось перакусім сяго-таго і пройдзем па вуліцы — пакажу табе Лясное... Як яно так выйшла, што ты зараз перада мною — проста цуда...

Пятрусь паціснуў плячыма і прыемна ўсміхнуўся.

— Мэрам бы ў тых самых Сілцах — года як не было. Цэлага года! Падумаць! А колькі перажылося за гэты год...

— У наступным большага трэба чакаць... Бачыш...

— Бачу, чаму не... Пецярбург ахоплены пачуццём трывогі... І ў нас сённека абгаварвалі бягучы момант... Надыходзяць буйныя здарэнні. Ты ж чытаў?

— Чытаў, чаму не...

— Глядзі, як шпарка заблытваецца клубок... Але цікаўней з настроем рабочых. Вось так і бурліць... Магчыма, забастоўка... Агульная...

У дзверы пастукалі.

— Гарбата!

— Калі ласка.

Хударлявая, сярэдняга росту, з мілавідным тварам, чыста адзетая маладзіца ўвайшла ў пакоік з невялікім чайнікам у руцэ.

— Дзе вяліце паставіць?

— Вось-вось, калі ласка.

Пятрусь узяў з яе рук чайнік і паставіў на стале, сярод згруджаных талерак, шклянак ды кускоў булкі.

— Можа, у краму схадзіць? — запытала маладзіца.

— Дзякуй, пакуль не трэба.

Маладзіца выйшла. Пятрусь зачыніў за ёю дзверы і пазваў Рыгора да стала.

За гарбатаю хлопцы наперабой адзін другому задавалі розныя пытанні. У іх гутарцы падзеі з грамадскага жыцця цесна пераблытваліся са здарэннямі з жыцця прыватнага. Кожны стараўся як найпаўней абмаляваць свае паводзіны з часу разлукі ў Сілцах. Але казання было гэтулькі многа і цікавасць яго была настолькі востраю, што каб усе іх абгаварыць — не стала б не толькі вечара, а і цэлай ночы. Загэтым хлопцы абмяжоўваліся адрыўнымі сказамі, часта прапускаючы запытанні і адказы або адкладаючы іх абгавор.

Тым не меней гутарка зацягнулася на некалькі гадзін. Неўпрыкмет ніводнаму на дварэ вечарэла. Па калідоры, за дзвярыма пакоя, пачуліся крокі падсуседзяў-жыхароў. Знадворку пацягнула халадком.

На Рыгора павеяла прыемным спакоем вёскі. Гарадскі шолам, які спаткаў яго на вакзале і праводзіў да Петрусёвай кватэры, змаўкаў. Забірала спакойнасць бяспечнага прытулку.

Пятрусь адчуваў таварышаў настрой і быў цалкам за тое, каб яго не зварушыць. Але яму здавалася, што Рыгору яшчэ прыямней будзе, калі ён яго выведзе на вуліцу. З гэтай думкаю Пятрусь запрапанаваў:

— Дык маеш ахвоту выйсці на вуліцу? Га, Рыгор?

Рыгор ахвотна згадзіўся.

Яны выйшлі з дому і пайшлі ўсцяж доўгае, роўнае вуліцы.

Гэта была вуліца дач. Абапал яе цягнуліся агарожы, за якімі ўпярэмежку знаходзіліся сады, гароды і драўляныя адзін- ці двухпавярховыя будынкі. Пад капяжамі іх выглядалі цьмяна-сінія нумары. Пахла водарам красак і зеляніны. У гушчы дрэў чуліся зыкі гармонікаў і балалаек. Дзесьці наперадзе іх грала духавая музыка; управа — хор заводзіў «гусараў-вусачоў».

Ад усяго гэтага нясло ідыліяй і спакоем. Зусім не чулася блізкае прысутнасці горада-волата з яго гулкім гоманам і несупынным рухам.

Рыгор драбніўся на часткі, кідаючы ўзрокамі вакола сябе. Вакольны вобраз надаваў яму новага пачуцця, новых летуценняў.

— Якое хараство! — выказваў ён да Петруся.

— Я кожны дзень любуюся ім,— адказаў той і дадаў: — Абы ўладзіўся з работаю, то нацешышся.

Рыгор не думаў пра работу і, пэўна, на сёння не крануў бы гэтага пытання, каб не Пятрусь. А раз на тое пайшло, ён не прэч быў увязаць гэта з агульнай тэмаю іх гутаркі. Бач, работа папаўняла прыгожасць вакольнага вобразу, чаму б адмаўляцца да яго ўдасканалення?

— Ну, а як, бок, з месцам для мяне? — запытаў Рыгор.

— Месца будзе! — запэўніў Пятрусь.

Гэта было выказана з цвёрдасцю, роўнаю да цвёрдасці іхніх крокаў, накіраваных назад, на Петрусёву кватэру.

І адпаведна — было цвёрдым давер'е Петрусёвым словам у нутры яго таварыша.

— Колькі ўжо страчана мною гэткіх месц! — падмацаваў сваё завярэнне Пятрусь.

Можа, было яно і лішне, але не шкодзіла: Рыгоравы крокі сталі больш рашучымі і цвёрдымі. І надзея на доўгую злітнасць з Пецярбургам вачавідкі пачырванела ў яго ваччу.

— Мяне ачаравала Выбаргская старана,— выказаў Рыгор,— і каб, здаецца, жыць у гэтым месцы — не хацеў бы нічога!

— Каб чаго іншага захацеў, то трэ было б падумаць, а гэтага...

Рыгор разумеў памер і значэнне свайго хацення і ў адказ засмяяўся.

— Мне думаецца, што цябе ўдасца ўстроіць на нашым заводзе... Я ўжо згаварыўся з майстрам.

— Гэта калі будзе вядома?

— Днямі высветліцца...

Нарэшце Рыгор расказаў таварышу пра ўмовы свайго ад'езду, пра «хвост», які заставіў па сабе ў Смагіне. Але тут жа дадаў, што пра гэта ён мала думае і ў якую б там небяспеку не верыць.

— На кожны выпадак трэба будзе і гэта ўладзіць. Як-ніяк, а гэта справа лягчэйшая ад іншых. У нашу карысць усе даныя...— пацешыў Пятрусь.

Гэтым і былі скончаны першыя моманты іх цёплае, шчырае, таварыскае стрэчы. Поўныя пачуцця таварыскай блізкасці яны ўляглiся спаць.

Была дванаццатая гадзіна ночы.

## IV

Дзевяць дзён пайшло на тое, каб уладзіць Рыгора на працу. Цэлы шэраг умоўнасцей перашкодзіў Петрусю давесці да канца гэта пытанне. Перш два дні ў завод не з'яўляўся дырэктар; пасля, са слоў майстра, у дырэкцыі паўсталі нейкія асаблівыя планы наконт перабудавання ўсяго прадпрыемства; далей, калі з гэтым абышлося, захварэў майстар і цэлыя тры дні не прыходзіў на працу.

Пятрусь злаваў, нерваваўся і дзень ада дня мерыўся шукаць іншага месца Рыгору. Вяртаючыся з завода, ён доўга лаяўся, праклінаючы парадкі на заводзе і парадкі ў дзяржаве, разносячы капіталістычны лад і яго ахоўнікаў. «Чалавек хоча працаваць, а яму не даюць. Ласне можна з гэтым гадзіцца? Нясе сваю сілу, свой розум для чужое карысці, для эксплуатацыі яго, а яму адмаўляюць. Абурэнне!»

Спагнаўшы злосць, ён пераходзіў да спакойлівага абгавору стану і ўпэўняў Рыгора, сумняваючыся сам, што справа з месцам не павінна не вырашыцца.

— Ты, браток, не клапаціся; я не выклікаў цябе на папаўненне беспрацоўных. Не... Абавязаўся — зраблю. Месца будзе-э! Го... Пакуль пагуляй — не так яно хутка робіцца, як хочаш... А з грашыма — не бядуй: на дваіх зараблю... Дакумент маеш і хадзі куды заўгодна — ніякі чорт дарогі не загародзіць...

Пятрусь выказваў убачэнне і ўпарта сачыў за Рыгорам: яму не хацелася, каб той хоць каліва засмуціўся ці астудзіў веру ў яго хаценне пасобіць таварышу. Разам з гэтым Пятрусь баяўся і таго, каб Рыгор не пачаў саромецца расцягнутага палажэння госця. Чаго іншага, а пачне сціскацца, адказвацца ад патрат на яго. Угледзіць няёмкасць доўгага пражывання ў яго пакоі... Наогул, Пятрусь выключна клапаціўся пра тое, каб Рыгор не надаваў свайму становішчу сур'ёзнае ўвагі. Чамусьці ў гэтым каразлівым пытанні ён не адважваўся палажыцца на Рыгораву цвёрдасць, не знаходзячы ў сабе цвёрдасці на гэту адвагу.

Між тым Рыгор не даваў жаднага поваду на падазранасць да сябе ў гэтых слабасцях. Ён чуўся ў Петруся, як дома, і лічыў лішнімі таварышавы папярэджанні. Петрусёва ўбачэнне перад Рыгорам разумелася апошнім, як недахоп дасканалае працятасці тава-

рыша пачуццём працоўнае салідарнасці. Наконт гэтага Рыгор казаў сабе: «Петрусю патрэбна яшчэ паўгода пажыць рабочым жыццём, як у яго нізвання не застанецца з местачковае псіхалогіі». Яму ж у вочы адказваў спакойліва і сур'ёзна:

— Я не лічу сябе госцем.

І гэтак жа спакойліва ішоў з Петрусём абедаць, ездзіў да яго таварышаў, у культурна-асветныя таварыствы і нават у тэатр. Толькі ўсяго рупела Рыгору кватэра: Петрусёў цесны пакоік вымушаў багатае клапатні пры падыходзе ночы. Трэба было пераварочваць усё дагары нагамі, грамаздзіць барыкады, каб паслаць дзве пасцелі. Ад недахопу пасцельных прылад даводзілася дзяліцца самым неабходным. Пятрусь аддаў Рыгору сяннік, а сабе пад бок пасцілаў паліто. Звіхнутыя спружыны ложка ўядаліся ў цела; але і змяты сяннік не туліў ад цвёрдае падлогі Рыгоравых бакоў... Слаліся пасцелі пад стукі крэслаў і бразгі дзвярэй. Мала каго суцяшала гэта.

Далёка ад спакойнасці была гаспадыня кватэры. Кожная стрэча з ёю сведчыла Рыгору пра яе даволі няцёплыя пачуцці да яго. І Рыгор стараўся як найрадзей непакоіць яе. Тут ужо не ўразоньвалі Рыгора таварышавы завярэнні, што з гаспадыняю кватэры ўсё ўладжана. Рыгор хоць і верыў Петрусю, што ён падымаў гэта пытанне перад гаспадыняю, але не верыў гаспадыні. Было выразна, што Петрусёвы перамовы на яе ўплыву не мелі.

— Яна ў цябе, як ведзьма,— характарызаваў Рыгор Петрусю яго гаспадыню.

— Табе здаецца гэта, Рыгор,— адбіваўся Пятрусь.

А следам згаджаўся, што не варта бараніць, хто гэтага не заслугоўвае. І бадзёрыў Рыгора:

— Плюй на ўсё, урэшце, ты да мяне ходзіш, а не да яе... Што яна табе зробіць?

Рыгор меней усяго непакоіўся за апошняе. Пачуццё непрыемнасці, якое навявала на яго штодзённае спатканне з гаспадыняю, атрымлівалася зусім не ад баязлівасці. Рыгору не хацелася, каб Пятрусь хоць чым абавязваўся перад ёю. Ён бачыў па яе твары, што лепей усяго вырашыць пытанне шляхам уходу з гаспадыніных вачэй.

Але вырашэнне кватэрнага пытання, як наогул усякія пытанні прыватнага зместу, мусілі адкладацца да

абсталявання на месцы. Гэта было зразумела абодвум — як Рыгору, так і Петрусю. І водлуг гэтага разумення і трэ было ладзіць жыццё бліжэйшых дзён.

Яно ладзілася гэтак.

Пятрусь а палове восьмай раніцы кідаў Рыгора дома, а сам спяшаў на працу. Выходзячы з пакоіка, пытаў яго:

— На абед грошы маеш? Калі ўжо выйшлі, то я пакіну... К канцу работы наведай да завода.

Рыгор адказваўся ад Петрусёвых грошай толькі першых пяць дзён — далей прасіў таварыша, колькі магчыма, пакідаць. У яго бадай што хапіла б на больш доўгі час сваіх пятнаццаць рублёў, з якімі ён ачуўся ў Пецярбурзе, але па радзе Петруся ён распусціў восем рублёў на падапратак. У Смагіне Рыгору не ўдалося справіць нічога, ды яно мала было патрэбна, а ў Пецярбурзе яго старыя, памятыя ў астрозе ўборы выглядалі задужа ўбога.

І Рыгор са спакойным сумленнем браў Петрусёву пазычку і к канцу дня з'яўляўся да завода.

Уражанні дня, пераплеценыя з абдумамі і прагнозамі міжнародных палітычных здарэнняў, складаліся ў Рыгоравым нутры чын чынам, акуратна і дасціпна, гатовымі да выкладу іх перад таварышам. Вярнуўшыся разам на кватэру, яны абіралі іх тэмаю для сваіх гарачых зацяжных гутарак.

У засосе гэтых гутарак хлопцы цалкам адцурваліся ўласных інтарэсаў і забывалі пра ўсялякія нечаканасці ў сваім бліжэйшым наступным. Яны часта мянялі планы і намеры, пабудаваныя ці зранку, ці ідучы на кватэру, або лічачы іх несур'ёзнымі, або забываючы, што яны былі ў іх.

Трэба дзівіцца аднаму, што на працягу ажно васьмі дзён, нягледзячы на разнастайную тэматыку гутарак, Рыгор ні разу не ўспомніў пра Ганну. Мэрам бы згубіў ён яе на вакзале, прыехаўшы, калі шукаў сярод публікі і не знайшоў. Багацце ўражанняў, міжнародныя здарэнні, блытаніна ў планах з месцам перапаўнялі яго галаву, не даючы запасці думцы пра Ганну. Цікава тое, што не навяла на гэта колькіразавая стрэча з Рымаю ў Петруся на кватэры.

Але на дапамогу падаспеў зусім нечаканы і зусім дробны выпадак, які раптам вярнуў Рыгорава пачуццё да Ганны. Адным разам Рыгор увайшоў у вагон,

каб ехаць у горад, як перад ім ачулася дзяўчына, ну кропка ў кропку — Ганна. Яе падабенства заставіла яго доўга і ўпарта глядзець у твар незнаёмай. Ажно яму карцела чапіць яе, каб упэўніцца. Яе паспешнае выйсце з трамвая на першай жа спынцы перашкодзіла Рыгору гэта зрабіць. Выпадак востра яго крануў і, стрэўшыся з Петрусём, Рыгор перадаў пра яго, як пра важную навіну.

Пятрусь зацікавіўся гэтым і быў здзіўлены, калі дазнаўся, што Ганна — гэта Рыгорава таварышка.

— Скажы ты, калі ласка-а! Восем дзён!.. І ты мяне не паведаміў нават, каб не гэта тваё здарэнне. Ну і ну!

Рыгор не мог нічога адказаць. Але не таіў ад Петруся прыкметнага жадання спаткацца з ёю.

Ганна акрэсліла доўгую гутарку гэтага вечара, даўшы Рыгору повад расказаць багатую эпапею знаёмства з ёю, а Петрусю — праслухаць цікавую гісторыю.

— Ты павінен адшукаць яе, як бы там ні было,— намагаў Пятрусь.

— А трэба папрабаваць,— згаджаўся Рыгор.

І ўжо з наступнае раніцы насіўся ён у думках па пецярбургскіх вуліцах, пляцах, па вакзалах і школах, усюды, дзе можна было дапусціць Ганніну прысутнасць. Яна ўбэрсалася ў агульны сплёт планаў, намераў і разлічэнняў, якія займалі Рыгора.

## V

Агромністы гмах машынабудаўнічага завода ўцягаў у сябе бясконцы лік рабочых. Яны цяклі ў яго вароты некалькімі чорнымі шнурамі; блядыя і настарожаныя, расплываліся яны па майстэрнях, па цэхах. І там, дзе спынялася хада кожнага з іх, пачынаўся круціцца станок. Завод вачавідкі паддаваўся магутнай сіле руху і на вачах пераходзіў у складаную суцэльную чыннасць. На тысячы ладоў несліся разнастайныя гукі і зыкі. Сотнямі струменцаў цягнуўся ва ўсе бакі шэры смярдзючы дым. Туманіліся пылам і потам агромністыя нішы вокан, прыцямніўшы сонечны бляск. Па вузкіх праходах між бясконцага шэрагу ўсялякіх станкоў, варштатаў і машын шнайдарылі клапатлівыя майстры, шчотчыкі, інжынеры. Усе яны здаваліся бязвольнымі часткамі аднае агромнае машыны і рухалі ў такце працоўнага механізма.

Рыгораў станок мясціўся ў фрэзеровачнай майстэрні, у левым куту другога паверха. Ён стаяў крайнім ад сцяны, за якою была высокая цагляная агароджа. Далей за агароджаю прабягала ўзбярэжная Неўкі. Сталёвыя хвалі рэчкі дзень у дзень калыхаліся на шырокім гале вады, б'ючыся ў гранітны бераг узбярэжнай.

Рыгор раз ад разу кідаў узрокамі ў цьмяныя шыбы акна. З-за агароджы відаць было ўсяго невялічкі кавалачак рэчкі; ён выглядаў нелапым стаўком, з аднаго берага якога стаяў агромністы чырвоны будынак, з другога — калыхаўся высокімі дрэвамі векавы парк. Успаміналіся рыгападобны вобраз, тое ж распалажэнне завода. Ды завод амаль той самы. Прынамсі, адусюль у ім нясло знаёмым выглядам. Аднакія машыны, прывычныя стукі малатоў і траскатня кранаў. Гэткія ж разцы і нават аднолькавыя скрыначкі для інструмента. Агульная падобнасць надворных абставін сцірала той многамесячны перабой, які аддзяляў яго ад Рыгі. Хай толькі адцягнуцца на хвіліну думкі пра сучаснасць, як раптам цалкам аднаўляюцца вобразы з рыжскага жыцця... Але...

Рыгор адчуваў, што, апынуўшыся ў Пецярбурзе, ён стаў на далёкім адгоне ад Рыгі. Арышт, астрог, Смагін — доўгі і багаты этап яго жыцця. Ён многаму навучыўся, падрос, пасталеў, набраўся вопыту. Мэрам бы скончыў асобную школу падрыхтоўкі да новага, больш складанага жыцця, здаў экзамен на сталейшага барацьбіта. Рэчаіснасць прадстаўлялася яму ў іншых, больш суровых фарбах. Кожнае свежае ўражанне знаходзіла ў яго нутры іншы ад ранейшага водгук, значна глыбейшы аналіз. Выкліканыя Пецярбургам пачуцці былі не падобны на тое Рыгорава адчуванне, якое складалася пры яго ўездах у Рыгу. Другім настроем павявала ад нагляду за працэсам працоўнае чыннасці завода. Меней дыхала паэзіяй ад вёрту станка, ад пагоджанай гармоніі ў руху машын і рабочых. Не зацягала работа. У кожнай рэчы, у малейшай з'яве, што праходзілі між Рыгора на працягу працы, глядзелі суровыя рысы чарствое сапраўднасці. Рыгор праглядаў праз вачавідкі бляск у захаваную скрытасць усякага здарэння і ясна абмацваў у ім тую ці іншую недаробленасць, непрыстасаванасць да патрэб жыцця. Усё трымала ў сабе вялікую долю фальшу і робленага бляску і ва ўсім не старчыла істотнага. Сама па сабе праца

на заводзе была тою ж, якою ён яе праводзіў, бачыў і адчуваў у Рызе. Але вакол гэтае працы ён наглядаў большае зграмаджэнне адмоўных якасцей. Тысячы рабочых, што мітусіліся вакол яго і пад ім, кожным паваротам рукі і кожным згінам плеч дапаміналі яму пра завостраны да адказу прыгон. У агульным шоламе гукаў і бразгу ён адчуваў выразныя позывы на змаганне з ім. Але Рыгор, як і ў Рызе, не цяжыўся працаю. Ён уверана і цвёрда ўваходзіў у вароты завода разам з усімі рабочымі, рашуча прыступаў да станка і пачынаў работу. Сама работа ішла ўжо спакойным роўным тэмпам. Як і раней, ён любіў цяганіну вытворчасці, працэс ператварэння куска сталі ў стройную каштоўную рэч. Па-ранейшаму заглядаўся бегам калёсікаў у станку, сачыў за выкрутастаю стужкаю з-пад разца. Але разам з гэтым ён вёў падлік затрачанай для фабрыканта рабочай энергіі, ператвараў яе ў дадатковую вартасць і заключаў: «Якія капіталы мы складаем у кішэні кучкі эксплуатататараў! А пайдзі б гэта на агульную карысць — якіх бы поспехаў дасяглі ў людскім дабрабыце. Якімі б спорнымі крокамі жыццё пасувалася наперад!»

Вырашэнне задачы, калі і што скончыцца, нарэшце, гэты лад, часта адрывала Рыгора ад працы і перакідала яго думкі за сцены завода. Ён перабіраў у памяці прачытаныя ў газеце зранку ці ў абед навіны і з нясцерпам чакаў іх далейшага развіцця.

Між тым навіны хавалі ў сабе неабмежна глыбокія, незмярыма шырокія магчымасці. Рыгор, як той вынаходчык, вышукваў у іх разгортванні пажаданых сабе вынікаў. Гэтыя вынікі, здавалася Рыгору, меліся ў самай істоце падзей, і ён абнадзейваўся імі.

Помеж з гэтым Рыгор адчуваў, што па заводзе носіцца выразнае чаканне таго, што цікаўна яму. Гэтым чаканнем захоплены ўсе рабочыя, імі прасякнута паветра ў заводзе.

І дзень ада дня Рыгор пагрозлівей пазіраў у бок Зімневых палацаў і на заводскую кантору.

За лічаныя дні работы на заводзе ў Рыгора ўстанавілася шырокае знаёмства. Ён хутка, з дапамогаю Петруся, звязаўся і ўвайшоў у мясцовую арганізацыю сацыял-дэмакратычнай партыі. Рыгор наведваў амаль не кожную нараду рабочых, прымаў удзел ва ўсіх іх сходках. Да яго голасу сталі прыслухоўвацца, сталі даваць

розныя адказныя даручэнні. Непрыкметна, але ўпэўнена Рыгор уваходзіў у гушчу рабочага жыцця, у вадаварот грамадскай працы. Дзякуючы гэтаму ён хутка быў у курсе настрою рабочых не толькі на сваім заводзе, а і ва ўсім Пецярбурзе. Гэта Рыгора захапляла, зацягала, бадзёрыла. З-за гэтага ён мала зварачаў увагі на ўсталяванне прыватнага жыцця і мала клапаціўся пра сваю асцярожлівасць. Забыў пра непрыязнь Петрусёвай гаспадыні і, як нібыта той, дзень у дзень трывожыў яе па некалькі разоў самастойнымі патрэбамі. Выпадкова і паміж іншым дапамінаў Петрусю:

— Трэба, браток, мне знайсці хутчэй пакой, а то ўжо я табе надазоліў.

Пятрусь яго разважаў:

— Кінь клапаціцца,— і гэтым вычэрпваў пытанне.

Але, як і месца на заводзе, Пятрусь цішком апытаў для Рыгора пакой і спакойліва перасяліў у яго таварыша. Рыгор з гэтае прычыны жартаваў:

— Дзякуючы табе, я парываю сваяўство з Абломавым.

Пятрусь не згаджаўся з Рыгоравым парадоксам і ўхмыляўся яму ў адказ. Аднак было вачавідкім, што Рыгор зусім не той, з якім ён расстаўся апошнім разам. Асабліва кідалася ў вочы Рыгорава падрослая сталасць, сур'ёзнасць і трэзвы погляд на акольваючую сапраўднасць. Цікавіў яго падыход да кожнага здарэння, аналіз гэтага здарэння. Бягучы момант знаходзіў у Рыгору трапнага ацэншчыка. Рыгор поўнасцю выяўляў усю вялікасць і складанасць таго калыхання грамадскіх падвалін, якое адбывалася вакола. Ён бачыў жорсткую супярэчнасць між воляю некаторых людзей і вымаганнямі гістарычнай неабходнасці. Яму прадстаўлялася ясным, што ўсе рухі жыцця бягучага моманту атрымалі папярэдняе назначэнне. Але ён ведаў, што яго можна перарабіць і накіроўваў на гэта свае думкі. Рыгору паказвалася зусім звычайным, калі ён глядзеў на знерваванасць гарадскога натоўпу, на падазронасць паліцэйскай улады — ад гарадавога да генерала, калі адчуваў узмоцнены тон сталічнага шоламу,— гэта, па яго, было тварэннем, фармаваннем, правядзеннем працэсу нараджэння. Куды ж гэтым момантам адводзіць сваю думку на будзённыя рэчы прыватнага дабрабыту? Для чаго браць на ўвагу дробныя шурпатасці самотнага побыту?.. і Пятрусь...

Так, Пятрусь недаацэньваў, калі думаў, чакаючы Рыгора, што ён яго нагнаў у палітычным росце. Пятрусь выпускаў з ваччу тое, пра вошта дазнаўся ад Рыгора і што зараз дасканала ўзважыў. І пачуццё раней-шай павагі да таварыша зноў займала месца ў яго нутры, ужо ўступленае некалькі пачуццю эгаізму. Петрусю стала вачавідкі, што Рыгор пайшоў шпарчэйшым ад яго шляхам духоўнага выхавання. Безліч усялякіх з'яў у бегу часу і ў пераборы месц шліфуюць чалавека ў разнастайных умовах.

Раніца ў раніцу, пакуль жылі ўдвух, побач спяшылі на завод, разам вярталіся назад. Чуткі і весткі, думкі і настрой, планы і намеры перапляталіся ў крытычным абгаворы. Не было вечара, каб доўгімі кавалкамі часу яны не знаходзіліся разам: ці ездзячы ў культурна-асветнае таварыства, ці бываючы на сходках, ці трапляючы ў тэатр. Праўда, гэтага часу ім не хапала, каб задаволіць гутарку, выпаўніць пабудаваныя сумесна планы.

Незалежныя ад іх абставіны агульнарабочае справы амаль не цалкам адцягалі хлопцаву ўвагу. Праз гэта Рыгору не было калі пазнаёміцца поўнасцю з горадам, пабываць у намечаных месцах. Не мог ён вылучыць вольнае гадзіны, каб наведаць адрасны стол і справіцца пра Ганну...

А між іншым, з вядомага выпадку ніводнага дня Ганна не абмінала Рыгоравых успамінаў. Нагальна ўрывалася яна ў гушчу яго натужных раздумаў, выбірала сабе месца і на нейкі момант захапляла сабою Рыгора. Сёння пры рабоце, заўтра ў хвілі адбывання сходу, трэці дзень па дарозе дамоў, чацвёрты...

І кожны раз пасля гэтага Рыгор усхвалюецца, укорыць сябе нядбайнасцю рашыць у бліжэйшы дзень зрабіць даведку — і да чарговага разу заспакоіцца. Бач, на ўсё гэта патрэбен час! Даводзіцца кінуць працу, ахвяраваць сходам, занядбаць паседжаннем, каб пабываць у адрасным стале... А ці можна?

Рыгор сумняваўся і судзіў: «А ўсё ж нельга не зрабіць гэтага! Нельга!» На запытанне Петруся пра Ганну — абяцаў як найхутчэй яе адшукаць. Рыме хваліўся пра знаёмую, якую вось-вось знойдзе і прывядзе да Петруся... і якою абаіх здзівіць...

Рыгоравы думкі і Рыгораву гутарку пра Ганну справодзіла яго напружанае жаданне бачыць яе, су-

стрэцца і пагутарыць з ёю, аддзякаваць ёй... за падмогу мацеры, за ўцеху, зробленую старой...

— Ды маці!.. Чаму ж не адвесці ёй месца ў сваім нутры?

Старая ўставала перад Рыгорам у поўным абліччы. З сумам на твары, з уміленнем у ваччу, з палкаю прагаю ўнутры, з укорам... Ці не забывае яе сынок? Ці будзе час, калі ўдасца з ім спаткацца?

Вось канчаецца год, а ніякіх адзнак на гэта. Круцішча, мелецца — маланкаю мінаюць дні, тыдні, месяцы, а яна ні з месца. Сілцы. Варажнае акаленне. Розныя гутаркі пра Рыгора — больш ябедныя, злыя, нараклівыя; брахня і глум... Пятрусь не разбівае іх сваімі лістамі... Вось толькі Ганна — адкуль і што, нябачная, чужая дзяўчына... Мігнулася перад ваччу і атуліла сэрца ласкавым словам пра Рыгора...

Рыгор — сынок!.. Вось-вось ён адыме квадранчык часу і прысвеціць яго мацеры. Гэта неабходна! Абсталюецца і кіне ліст, перашле некалькі рублёў. Раней днём, тыднем пазней — ці ж ад гэтага многае зменіцца? Нельга ж кінуць агульнае справы і аддацца пытанням прыватнага жыцця. Ды зноў жа, ён толечкі што пераехаў на сваю кватэру. Амаль не голая яна ў яго. Ложак без сянніка, адзін ламаны зэдлік, кульгавы стол — усяго. Хоць бы крыху дагледзець... А там — пойдзе чарадою адно за другім... Магчыма, каб Ганна... Рыгор яе адшукае, няпраўда...

— Я ўсё-ткі, Пятрусь, на днях праедуся ў адрасны стол! — завяраў Рыгор Петруся.

— Чаго ж ты, сапраўды, шкадуеш паўдня страціць на гэта? — папікнуў яго Пятрусь.

— Праўду кажаш... Ці варта шкадаваць паўдня часу,— згаджаўся Рыгор.— Усяе работы не пераробіш...

— Менавіта...

Пасля гэтага Рыгор загадзя намеціў дзень, калі ён абавязкова паедзе ў горад, і запэўніў таварыша. Пятрусь спачувальна ўхмыльнуўся.

## VI

Ганна ніколі б не паверыла, каб хто ёй сказаў, што Рыгор ў Пецярбурзе. Тым болей яна здзівілася б, каб уведала, што ён пра яе думае, гутарыць з тавары-

шам і дзень ада дня маніцца шукаць. Адкуль і што тыя даныя на гэта! Ні намёку, ні знаку. Праўда, Ганна чула ад Рыгоравай мацеры, што ў Пецярбурзе жыве Рыгораў таварыш. Гэта Ганну цікавіла ды інтрыгавала. Яна захапіла з сабою яго адрас. І, прыехаўшы ў Пецярбург, пісала Петрусю ліст, каб той паведаміў, мо што ведае пра Рыгора. Чамусьці на ліст не атрымала адказу — пэўна загубіўся. Праз некалькі дзён прыехала сама ў Лясное, але не застала Петруся дома. Збіралася з дня на дзень паўтарыць паездку, ды... усё не магла сабрацца. Цэлы шэраг прычын перашкодзіў ёй зрабіць гэта.

Ганна паехала ў Пецярбург на сваю рызыку. Згуба мацеры растрывожыла яе да нервовасці, і ў Пецярбурзе яна шукала сабе спакою. Без усялякіх хадайніцтваў да начальства, не разлічваючы на наступнае, яна раптоўна развіталася з Рыгаю і паехала да дзядзькі пад Ліцк, адкуль наведала Сілцы і ў пачатку траўня накіравала ў Пецярбург.

Ганнін прыезд у сталіцу супаў з канікулярным часам. Пайсці шукаць ходаў да прызначэння на месца настаўніцы Ганна не хацела, ведаючы, што гэта пацягне за сабою цэлы шэраг адміністрацыйных фармальнасцей. Ды самая праца настаўніцы ёй не падабалася. Яшчэ ў Рызе, калі жыла маці, Ганна не раз памыкалася перамяніць заняткі, старанна шукаючы падходзячага месца. Маці перашкаджала ёй. Пасля мацерыны смерці Ганне было вольна гэта зрабіць. Яна знайшла, што ў Пецярбурзе ёй лёгка гэта ўдасца.

Поўная ўпэўненасці ў гэта, Ганна не ўлічыла тых цяжкасцей, з якімі сустрэў яе чужы, вялікі горад. Без знаёмага, з ненадзейнымі разлікамі на даўнюю таварышку, на Петруся і, як ні дзіўна, на Рыгора, Ганна ачулася ў Пецярбурзе. Горад бесспагадліва схапіў яе ў свае абоймы і закалыхаў на хвалях глыбокае клапатлівасці. Што надумоўвала тыднямі — разляталася ў хвіліну. Стройна апрацаваныя планы ламаліся пад націскам жывое сапраўднасці. Ганна збівалася з панталыку. Куды ёй было да ўсяго іншага, калі невыразнасць наступнага дня не давала спакою. Ужо прасочвалася вільгаць роспачы, ужо думкі сплятаcall планы магчымага выезду з негасціннае сталіцы, як знянацку ёй напаткалася праца. Гэта выйшла праз газету, па дробна надрукаванай абвестцы. Патрабавалася

«перапісчыца, маладая барышня». Ганна накіравала па адрасе і атрымала месца ў экспедыцыі газеты — па перапісцы адрасоў.

Адшуканая работа перайначыла яе настрой і накіравала Ганніна жыццё ў спакойнае рэчышча. Тое, што не знаходзіла месца ў думках у час безрабоцця, зараз адцягала на сябе яе ўвагу. Зарупела наведаць Петруся яшчэ раз і, магчыма, выпытаць у яго пра Рыгора. Авось знойдзецца кончык, і клубок пачне разбэрсвацца...

У Ганніным ваабражэнні разбэрсвалася доўгая каляровая нітка саладжавых надзей. Рознымі выкрутасамі яна працягалася кудысьці, дзе ападала ў Рыгораву душу... Вакол гэтае ніткі дзень ада дня набіралася гусцейшых асадкаў пачуцця, намераў і жаданняў. З мільённага людскога мурашніку, што трапятаў перад Ганнінымі вачыма, рэльефна выступала фігура Рыгора. Гэта фігура засланяла сабою і гмах Ісакіеўскага сабора, і шпіц Петрапаўлаўкі. У чыстай каморцы экспедыцыі мігаліся яе абрысы між шырокіх лістоў паперы.

Яе не мог засціць дасціпны, жывы, мілавыглядны экспедытар Лука Дарафееў. Хоць уважліва накіроўваў ён да Ганны гасцінныя сказы і мяккаю ўхмылкаю абліваў іх адповедзь,— Ганна не губіла з ваччу Рыгоравага вобраза... Апошні выпукляўся, што далей — болей. Ганна паступова ўкладала ў яго змест жывое істоты, і Рыгор уставаў у чыннасці аднаго з шэрагаў тых забастоўшчыкаў, што ўз'юшвалі бакінскімі падзеямі ўсю Расію. Яна ўспамінала рыжскія гутаркі з Рыгорам наконт яго ўдзелу ў забастоўках. Уяўляла Рыгораву захопленасць імі, адчувала палкасць змагання і вастрату злосці на існуючы лад. Узважвала поўнасцю вынікі гэтага. І заключала: «А зараз, напэўна, ён перагарвае хутчэй апынуцца ў асяродку падобных бакінскім здарэнняў. Каб гэта ды яго сюды, у Пецярбург, колькі б энергіі ён палажыў на арганізацыю рабочых да выступлення!..»

Ганна не папікнула б яго за гэта, не! Цяпер... яна зусім іншых поглядаў на рэчы! Ёй сорамна прызнацца, што яшчэ летась Рыгорава чыннасць выклікала ў яе нутры варожае пачуццё. Цяжка растлумачыць, чаму яна трымалася тады выразна мяшчанскіх перакананняў. Але яшчэ цяжэй уявіць, калі і што адбыва-

лася тая крутая перамена, якая зрабіла Ганну цяперашняй. Дзе тыя фактары, што павярнулі яе светапогляд на дзевяноста градусаў улева? Ганна правярала гэта тым пільней, чым вастрэй рабілася жаданне выспавядацца пачуццямі з Рыгорам. Яна падрахоўвала: смерць мацеры, Рыгораў арышт, свой пераезд з Рыгі ў Пецярбург, блуканне ў няпэўнасці па яго цвёрдых вуліцах. Няўжо ўсяго? Ды што ў гэтым надзвычайнага ёсць? Рабілася цьмяным — і прычыны губіліся ў змроку гэтае цьмянасці. Іх невыразнасць яшчэ больш ускладняла іх важкасць і сілу. Бо яна разумела, што з пераменаю поглядаў на рэчы ёй стала не падабацца роля настаўніцы. Калі прасачыць ад пачатку нараджэння думкі пра тое, каб кінуць настаўніцкую службу, то, бадай, і можна будзе выявіць працэс перабудавання светапогляду... У кожным разе Ганна стрэнецца з Рыгорам зусім інакшаю, чым рассталася. І таму, што факт расстання меў вялікі ўплыў на яе думкі, няхай той факт будзе блаславенным. Якава ж будзе стрэча? Ды калі яна будзе?..

Ганна ўважліва вяла спакойлівую перапіску адрасоў. Сотні прозвішчаў пярэсціліся ў яе памяці, губляючыся і паўстаючы адно за другім. Сярод іх многа пападала знаёмых, мэрам бы дзесьці спатыканых ці чутых. Але ніводнае з прозвішчаў не выдзялялася самотным і не спынялася ў памяці. Ні за водным з іх не вырысоўвалася жывога вобраза чалавека, на якім бы спынілася яе ўвага. А за многімі прозвішчамі беглі чыны і званні: тайны саветнік, калежскі асэсар, правіцель канцылярыі, свяшчэннік, вучыцель гімназіі, земскі начальнік, народны настаўнік. Чамусьці не менаваліся рабочыя і сяляне. Гэтыя званні нікога не вабілі... Мэрам бы ўсе іх ведалі і не хацелі пра іх успамінаць.

Дзеля Ганны пустым звінелі ўсе чыны, ад вялікага да малога. І вось гэта няўважлівасць да бліскучага і зычнага — чым нясло ад іх — цікавіла яе самую. Ці даўно яна не магла спакойліва глядзець на чыста адзетага, стройнага настаўніка гімназіі? Колькі разоў, бывала, закрадалася хаценне стаць жонкаю аднаго з іх! А гэта! Нібыта тая... Гартаюцца мёртвыя формы, як сухія лісты на дрэвах. А вострыя ножны яе суседкі паласуюць іх на доўгія стужкі, якія ў сваю чаргу драбняцца на прадаўгаватыя лісты, перабіраюцца, склада-

юцца па трактах і адносяцца на пошту... Сёння, заўтра, пазаўтра, з месяца ў месяц, Звычайна. І будзь іх дзесяткамі больш — дзесяткамі менш — аднакава. Згіне дзесяць папоў ці дзесяць земскіх — ніякае заўвагі. Сам Давыд Харлампавіч, старэнькі пілявы трактоўшчык, хутчэй заўважыць, калі выпадзе месца, якоесь там Ладзейнае Поле ці станцыя Стругі Белыя — чымсь купа высокіх прозвішчаў, справоджаных чынамі. Пра іх не было клопату...

Ды Ганна наогул зусім не дбала пра адрасы, калі кідала працу ды ішла дадому. Па дарозе механічна заходзіла ў крамку, брала да гарбаты, а трапіўшы ў пакой, грэла прымус і спраўляла вячэру. За вячэраю думала: як і што іціме яе жыццё. І на першым адказе сустракалася з Рыгорам. Вачавідкі з'яўляліся да яе: Лясное, Пятрусь, двухпавярховая дачка... «Ці напісаць ліст, ці яшчэ раз паехаць?» — карцела ёй. За лістом разгорталася прагаліна невядомага, сухі кароткі адказ або і маўчанка. Паездка суліла знаёмства, надзеі, цікавасць... Толькі б не вісеў на дзвярах бліскучы замочак... Не, яна пераедзе — не ў суботу, дык у нядзелю, магчыма, на буднях... Адкладаць нельга, уважаючы на тыя здарэнні, якімі жыццё частуе бягучы час.

## VII

Тым часам здарэнні дзень ада дня несупынна ўскладняліся. Іх развой можна было параўнаць з бурхлівым вогнішчам, на якое дзьме вецер. Полымя шугае ў бакі і ўгору, шырыцца, расце; награецца паветра. Вось-вось заверціцца ўсё ў каламутным вадакруце агню. Не было таго, хто б так ці іначай не ўцягаўся ў падвышаны настрой, хто б не захапляўся пытаннем — а што далей? Выразна перад кожным гэта «далей» стаяла ў страшным выглядзе вайны. Усякі адчуваў яе крывавы, прапахшы куравам пораху, прыход. Але ніхто не выяўляў сабе яе размаху. Яе жах пераваяртаўся ў завостраную цікавасць, пад якою танула ўсё іншае. Звычайнага, прывыклага жыцця не было ні ў водным доме, ні ў якой асобы. Яно знікла, растала, абляпіўшы агромністы клуб раз'юшаных падзей. Напружанасцю струны глядзелі ў наступнае мільёны ва-

чэй. Шукалі. Густым туманам надзей і трывогі ўбіралі перадвочныя прасторы. На чым спыніцца завіруха? Як праломіцца яна на лёсы данай асобы? Чорнымі густымі джараламі плавалі людскія натоўпы па шырокіх тратуарах горада-волата. У шораху тысяч ног адбівалася крутая парушнасць жыцця. Няўверана хадзіла рука, няцвёрда ступалі ногі. Шыбы вокнаў сталі вельмі празрыстымі, мэрам бы знарок, каб не спыняць простага лёту ўзрокаў. Пераступаючы парогі ўстаноў, кантор, крам і заводаў, вальней ды нядбайней прычыняліся дзверы. Будынкі, наогул, цяснілі людзей, прыгняталі іх пачуццё. Якаясьці магутная сіла цягнула іх на вуліцу, у гушчу, у натоўп. Чалавек стаў надзвычайна чулым, каразлівым, як магнес. І ў той жа час — слабым, бяспомачным. Аднаму не хапала ні сілы, ні месца. Для цэлага, для грамады — ён быў неадменным. Грамада надавала характарнасць здарэнням, але апошнія выразна рухалі грамаду.

Але ў агульным сплёце з'яў яскрава выпуклялася іх дваістасць. Два асабістыя напрамкі прарэзвалі гушчэчу людскіх настрояў, пачуццяў, думак і жаданняў. Гэтыя напрамкі крыжаваліся, як крыжавалася развіццё грамадскіх падзей. Наператоч зданню імперыялістычнай вайны раслі сімптомы вайны грамадзянскае.

З Дуркінхэна накіроўваў у Расію прэзідэнцкі карабель Пуанкарэ. Буржуазны выхаванец вёз самадзяржаўнаму цару для падпісання ўмову: разам бараніць інтарэсы французскіх і рускіх капіталістаў ды памешчыкаў, у саюзе губіць на вайне жыццё рускіх і французскіх рабочых ды сялян. Вайна супроць прускага юнкерства, у абарону слабое Сербіі — была сігналамі буржуазнаму Пецярбургу, Неўскаму — была лозунгамі імперыялістычнае вайны, кветкамі саюзніцкага яднання.

А памеж з гэтым у Баку кіпела жорсткае змаганне рабочых-забастоўшчыкаў з нафтавымі каралямі. Водгукі яго разносіліся па шырокіх абшарах прыгнечанае краіны. З горада ў горад, з фабрыкі на фабрыку прыходзілі весткі пра становішча варожых лагераў; і разам — прызывы да падмогі, да салідарнасці. Гераізм змаганцаў прагудзеў брукам пецярбургскіх вуліц — за заставамі, на ўскраінах. Зарэяў сцяг грамадзянскае вайны.

Яшчэ Пуанкарэ не выпусціў з ваччу берагоў Францыі, калі яму на спатканне паднялося да пяцідзесяці тысяч пецярбургскіх забастоўшчыкаў. Згода цароў не цешыла сэрцаў працоўных. І тыя матросы, што ехалі на караблі прэзідэнта, не думалі пра пахвалу з боку цара, а песцілі ружовыя надзеі на спатканне з рабочымі на вуліцах Выбаргскае стараны.

Рыгорам валодаў настрой, якога ён дагэтуль не перажываў. Цэлымі днямі ён не кідаў думаць пра наступны пратэст-забастоўку супроць зверскага нападу паліцыі на пуцілаўскіх рабочых. Новыя ахвяры самадзяржаўя ўзнімалі ў ім пачуццё злосці і помсты. Было не да працы: не сядзелася каля станка, і разец разпоразу выпадаў з рук. У абед і вечарам Рыгор абыходзіў дзесяткі рабочых, настройваючы іх на рашучае выступленне. На сходках яго голас гучаў усё мацней ды рашучай.

Пятрусь бачыў, як настарожліва прыслухоўваўся яго таварыш да кожнага слова рабочых, адмячаў, якім хваляваннем сустракаў ён кожную вестку з іншых заводаў. За два дні, якія аддзялялі сабою расстрэл пуцілаўцаў ад забастоўкі на іх заводзе, Пятрусь поўнасцю выявіў сабе партрэт Рыгора-рэвалюцыянера. Трэба было дзівіцца яго стану, які складаўся з несупыннага трапятання ўсіх частачак яго істоты. Рыгору нельга было казаць іншага, апроч гутаркі пра забастоўку. Усе пытанні, блізкія і цікавыя яму ў звычайным жыцці, зараз не існавалі. Ён быў заняты забастоўкаю, яе нараджэннем, цяганінаю і вынікамі... Раз пеpажытае ў Рызе цяпер захапіла яго цалкам.

І вось забастоўка стрэлася з ім тварам да твару. Звычайным днём па звычайнай дарозе ён накіраваў да завода. І толькі пераступіў парог на заводскі двор, як зараз жа з грамадою таварышаў вярнуўся на вуліцу. Выйшаў і ўгледзеў, як наўсцяж ад клінікі Вілліе ажно да стыку з Выбаргскім шасэ Сампсоніеўскі праспект выглядаў надзвычайным, прасторным і ўрачыстым. Ні ламавікоў, ні паравікоў, а грамады рабочых па тратуарах, каля брам у дварах, на рагах вуліц. Звычны гоман. Наперадзе іх — буйная маніфестацыя. Над сотнямі галоў невялічкі чырвоны сцяжок. Марсельеза.

Рыгору не хапіла моцы сутрымацца ад нахлынуўшага на яго натхнення. Ён мігам ачуўся наперадзе калоны і падхапіў песню папярэдняе маніфестацыі. Але

не паспеў ён падаць знаку да пяяння сваім суседзям, як перад ім вырас эскадрон казакаў. Раз'юшаныя да пуду коні стрэламі імчаліся на роўныя калоны рабочых. Сакаталі падковы сталёвым шротам па бруку. У запыленым паветры апісвалі кругі казацкія нагайкі. «Раз-зай-дзі-ісь!» — лавілі вушы перадавых радоў. Тысячная калона зацішыла хаду, настаражылася. Казакі кіравалі, як на бар'ер. Сутрымаць? Бязмэтна! І маніфестацыя раздваілася, прапускаючы азвярэлых коннікаў. Дзвюма сцянамі пасталі рабочыя абапал вуліцы. Свіст і гіканне пагналіся за казакамі, і хутка рабочыя зноў зліліся ў маніфестацыю. Услед ад'язджаючым казакам панесліся гучныя тоны марсельезы. Рыгор ішоў наперадзе, па правым флангу калоны. Сутычка з казакамі, якія несупынна гарцавалі ад аднае да другое маніфестацыі, заклапочанасць паліцэйскіх атрадаў — яго інтрыгавалі, зацягалі. Было відаць, што запал рабочых тугі і ўстойны.

Сампсоніеўскі праспект гудзеў голасам перадстаячых боек... Збіраннем сіл... Рыгор бачыў, як хвіліна ад хвіліны людскі натоўп гусцеў, заліваючы прасторы шырокае вуліцы. Гэтаму вобразу было нельга не схіліцца. Яго вялікасць асвячалася духам рабочае ваяўнічасці... Паўстанцкі задзёр нішчыў баязлівасць. Смеласць кідала вызаў непадгатаванаму ворагу... Вось-вось — то там, то сям — гудуць шыбкія палёты каменняў у казакаў. Паліцэйскія бяруць наперавагу вінтоўкі... Але на іх ніхто не шманае. У рабочым раёне — сцеражыся, вораг рабочых!

Рыгор пасля трэцяга разгону іх маніфестацыі згубіў Петруся. Ён змяшаўся ў грамадзе рабочых з іншых фабрык і заводаў. Дзе і што Пятрусь, цяжка было рашыць. А шукаць — куды там! Не час і не месца. І ён, адзін сярод чужых, чуўся сваім кожнаму, з кім стыкаўся і каго бачыў вакола сябе...

Не заўважыў, як маніфестацыя наблізілася да новага спаткання з казакамі. Яны нацянькі скакалі да рабочых наператоч, але ніхто не пакінуў радоў. Маніфестацыя пасувалася наперад, і яе напорыстасць спыніла казакаў; тыя змяшаліся ў кучу і павярнулі ў бакавую вуліцу, дзе чулася тая ж марсельеза. Рыгор з агідаю паглядаў ім услед і адвярнуўся наперад — ішоў трамвай, а яго спынялі. Жалезным ланцугом апеAразалі яго рабочыя з усіх бакоў, высадзілі публіку і

тут жа прыняліся валіць з рэек. Рыгора забрала хэнць пасобіць гэтаму. Ён цвёрдым крокам накіраваў да пярэдняе пляцоўкі вагона. І ў момант, калі яго рукі выцягнуліся наперад, ён пачуў ззаду сябе:

— Рыгор! Таварыш Нязвычны!

Ён спыніўся і азірнуўся. Тут жа, чуць не поплеч, стаяла Ганна. Рыгор сумеўся ад нечаканасці, адвёў рукі і некалькі хвілін не ведаў, што сказаць.

— Якім чынам? — запытаў яе.

Але яго пытанне мігам расплылося ў гучным «ура» грамады, паваліўшай вагон трамвая. Толькі хвілін праз пяць, калі грамада заціхла, Ганна ўзяла Рыгора пад руку і праказала:

— Не пазнаеш?

— Цябе?

— Ганны.

Грамада закалыхалася, веерам разбягаючыся ўбакі — зноў несліся казакі. Рыгор з Ганнаю кінуліся ў бліжэйшы двор.

— Якім чынам ты тут? — паўтарыў Рыгор першае пытанне, калі яны спыніліся ля жалезнае брамы.

— Не чакаў?

— У гэтых умовах — не думаў... Прымха...

— Я чула нутром, што ты ў асяродку забастовачных падзей...

— Ты... чула... нутром?..

Гутарка не вязалася як след — уплыў вакольных абставін адцягаў Рыгораву ўвагу ад інтымнага пачуцця спаткання. Яму не стаялася пад скляпеннем аркі, а прагло на вуліцу. Але прысутнасць Ганны перашкодзіла. Невыразна, а яе істота давала сябе адчуваць... І Рыгор, радуючыся, злаваўся ды непакоіўся; мэрам бы знаходка не поўнасцю кампенсіравала згубу...

— Я табе перашкоджу? — нерашуча выказала Ганна.

— Ды не, што ты, Ганна! Я ашаломлены стыкам падзей сённяшняга дня! Прымха... Але ў гэткую хвіліну — на табе!

— Тое і ў мяне. Я ніяк не чакала, што трапіцца гэтак, як трапілася...

— Няўжо?.. Ну, ехала ж некуды?

— Да цябе ехала... бач, да Петруся...

Яны выйшлі з-пад двара і тут жа ачуліся ў ася-

родку маніфеставаўшай грамадкі рабочых, выйшаўшай з-за рога вуліцы. Ахопленыя рэвалюцыйным уздымам, абое сталі ў першыя шэрагі маніфестуючых.

## VIII

Стрэлы паліцэйскіх, накіраваныя ў пуцілаўскіх рабочых у адплату за іх салідарнасць з бакінскімі забастоўшчыкамі, заглушылі сабою ваяўнічы шолам генералаў, памешчыкаў, буржуазіі. Парады і тосты ў царскіх палацах і на рэйдах у гонар французскага госця — ніклі пад хвалямі паўстаўшых ускраін сталіцы. Гукі «ўра» «благовернаму воінству» гінулі ў магутных спевах марсельезы. Гімн рэвалюцыі панаваў у рабочых раёнах Пецярбурга. Яго баявыя тоны апяразвалі сталіцу сталёвым ланцугом. За Нарвскаю, за Маскоўскаю, за Неўскаю заставамі, на Выбаргскай і на Пецярбургскай старанах і на Васільеўскім востраве — усюды злітна, з'яднана маршыравалі грамады забастоўшчыкаў пад яе ўздымныя, бадзёрыя напевы.

Хутка водгукі марсельезы пачалі пераносіцца праз шырокую Няву да буржуазных кварталаў цэнтра. Яны ўрываліся ў царскія палацы, у будынкі ўрадавых устаноў, у залы банкаў ды кантор, у рэдакцыі буржуазных газет. На старонках газет чарней і буйней выпукляліся літары паведамленняў пра «ходу забастоўкі», аб «працягу непарадкаў».

Думкі і пачуццё мільённага жыхарства ўстрамілíся ў бок затухлых халодных комінаў на рабочых ако-ліцах сталіцы. Хатнія падзеі ненарокам затрывожылі падвостранага міжнародным становішчам абывателя. Куды ўсё гэта накіруецца і да чаго прывядзе? Гэтыя пытанні неадвязна мітусіліся ў думках соцень тысяч пецярбуржцаў. Яны вырасталі да жахлівых зданняў, калі слупкі газет дзень на дзень падносілі ўсё большую лічбу забастоўшчыкаў. За іх гушчаю прападалі ўражанні ад падзей, якія набліжалі сабою сусветную вайну. Ультыматум аўстрыяцкага ўрада бліснуў на пецярбургскім небасхіле і знік у полымі забастовачных здарэнняў. Гэтыя здарэнні вачавідкі прымалі ўсё вастрэйшую форму і глыбейшы сэнс. Ад маніфестацый і сутычак з казацкімі патрулямі яны абярнуліся ў спыненне трамвайнага і чыгуначнага руху, у бамбардзіра-

ванне фабрык і будаванне барыкад. Часова аб Пуанкарэ ўсе забыліся: дзе і што ён — было аднакава. Няхай дапівае апошні кубак за ўзмацненне дружбы буржуазнай Францыі з самадзяржаўнай Расіяй. У баку ад гэтага куецца іншым чынам, іншая дружба — дружба між працоўнымі народамі абедзвюх краін...

Рыгор дзень у дзень, на працягу тыдня, не пакідаў вуліцы. Усюды, дзе толькі трапунак прыводзіў да складаных выпадкаў у зацяжнай забастоўцы, ён знаходзіўся сярод першых. Спынка трамвая, падпілоўка тэлеграфных слупоў і перарэзка тэлеграфнага дроту — не абыходзіліся без Рыгора.

Не прапусціў ён далучыцца і да атрада смельчакоў, запёртых у доме на Ломанскім завулку і адважна дзень і ноч адбіваўшых напады казакаў і паліцыі. Першым займаў ён рызыкоўныя месцы, бадзёрыў таварышаў і адстрэльваўся з урачыстаю заўзятасцю. Але ўвесь эпізод з захопам дома і са змаганнем за яго былі безумствам храбрых. Дзесяткі ахвяр вянчалі яго геройствам, тоячы ў сабеападанне забастовачнай хвалі. Апошняя перамога самадзяржаўя гнала з акрываўленых сцен дома рэшткі мужных змаганцаў. Рыгор быў сярод іх, раззлаваны на ўвесь свет і на самога сябе. Ён цісnуў у кішэні ненабіты рэвальвер і, туляючыся між сцен будынкаў Сампсоніеўскага, скардзіўся.

Блісnула роспачная думка: «Тыдзень наступалі, дабіраючыся да гэтага будынка, а ў адну пору перайшлі ў адступленне».

Але глыбіня трагедыі мясцілася не ў гэтым: яна выпірала з факту правалу забастоўкі. Значыць, не хапіла патрэбных сіл, каб перавярнуць гісторыю грамадскага жыцця.

І там, вунь, дзе разгортваецца прамень празрыстае электрыкі, у асяродку буржуазных кварталаў, уздыхаюць з палёгкай. Наноў хлынуць уздоўж Неўскага весткі пра вайну. Газеты аднясуць радкі пра забастоўку ў хроніку трэцяй старонкі... Немагчыма!.. Няўжо забастоўка зруйнавана? Вось,— вакола пустыя вуліцы. Прытоена маўчаць гмахі фабрык ды заводаў. Стухшы ліхтары на спынках паравіка. І ва ўсім — сум па згубленым.

Рыгор моўчкі спыніўся з двума таварышамі пад брамаю рагавога будынка. Узнятае хваляванне не пускала адчыніць рот для вымовы слоў. Нутро цяжыла

невыразная жгучая млосць. Утраіх глядзелі яны ў бок Ломанскага завулка. Там ідзе расправа?.. Знянацку для іх пачуўся цвёрды тупат шагоў і выразны, смелы выгук: «Пятрусь, пачакай!» Яны хутка выйшлі з-пад брамы на тратуар і паглядзелі ў бок выгуку. Трое цёмных фігур пераходзілі касяком праспект.

— Пятрусь? — гукнуў Рыгор.

Фігуры спыніліся. І толькі праз хвіліну Рыгор з таварышам пачулі:

— Рыгор?

— Я. Вы адкуль? — падаў Рыгор.

Тыя не адказалі і накіравалі да Рыгора з таварышамі.

— А вы чаго тут? — запытаў Пятрусь, падышоўшы і не верачы, што перад ім сапраўды Рыгор.

— Мы...

Рыгор намерыўся тлумачыць, але мусіў спыніцца: дзесьці недалёка заляскаталі па бруку конскія падковы — ехаў аб'езд. Яны цішком падаліся да брамы, пад якой стаяў дасюль Рыгор з таварышамі.

— Няўжо іх чорт пагоніць сюды? — шэптам прамовіў Пятрусь.

— Аблава, напэўна...

Але яны змоўклі і настаражыліся. Тупат конскіх шагоў нейкі час падбліжаўся, пасля раптам знік. Было відаць, што раз'езд завярнуў у бліжэйшы завулак.

— Цяпер можна рухаць далей каму куды трэба,— выказаў Рыгор, і не паспеў ніводзін з іх крануцца з месца, як ён дадаў:

— Дык вось, браткі, значыць мы прайгралі забастоўку.

— Чаму? — запытаў адзін з тых, хто ішоў з Петрусём.

— Не верыш? Во, глядзі на нас... Мы — рэштка абаронцаў дома на Ломанскім... Астатнія хмаркі рассеянай буры.

— Здаліся?

— Папрабуй не здацца...

— Разумею...

— Дык і ты ваяваў?! — здзівіўся Пятрусь.

— Так, цэлую пору ваяваў... А ты думаў?..

— А я думаў, што ты даўно ў «Крастах». Цэлыя тры дні не паказваўся...

Рыгор матнуў рукою.

— Было б лепей, каб хоць пазней убачыцца, але пры лепшых умовах...

— Не ад нас з табою залежыць... Вось мы з Пецярбургскае стараны... Калтаўскую мануфактуру руйнавалі...

— Усё ж забастоўка, браткі, пакажа... пакажа агромную сілу рабочых гушч. Не скажы, таварыш,— выказаў другі з Петрусёвых спадарожных.

— Ды я разумею, толькі... калі адгукнецца яна?

На рагу аднаго з завулкаў яны спыніліся.

— Ну, нам дваім сюды,— сказаў Рыгор,— будам збіраць сілы на новае выступленне,— дадаў ён.

Яны разбіліся на тры часткі. Рыгор астаўся з Петрусём.

— Не выходзіць па-нашаму,— праказаў Пятрусь.

— Не выходзіць... Я ўжо думаў, хоць стану ахвярай, абы... Успамінаў цябе пад стрэлы браўнінга... І Ганну... Выйдзе!..

— Ганну? — здзівіўся Пятрусь

— Так, я стрэўся, нарэшце, з Ганнаю...

— Калі?

— Надоечы...

— Стрэўся і на гэтым скончана?

— Маніфеставаў разам... Абяцала прыйсці, і тады я наведаю з ёю цябе.

— Прашу...

Тры стрэлы дзесьці ўбаку заключылі іх гутарку.

## IX

— Во, глядзі, Пятрусь, што піша «Біржоўка»... Подлыя... «Забастоўка ідзе на вубыль...» «Настрой рабочых заспакойваецца». «За Маскоўскаю заставаю частка баставаўшых варочаецца на работу...» Ці ж я не казаў? Самадзяржаўе цяпер так заціснe зашмаргу на нашай шыі, што толькі сумей дыхнуць... Пад настрой вайны прапіша такую мікстуру, ажно, браце ты мой...

Рыгор растрывожаным шагам тупаў па каморцы. У руках ён нервова камячыў «Биржевые Ведомости», спаганяючы на гэтай бульварнай газеце ўсю злосць і нянавісць да самадзяржаўнага ладу.

— Ведаеш, браток,— казаў ён далей Петрусю, які ўвайшоў да Рыгора і нерухома стаяў каля акна: — я

адчуваю сябе надзвычай дрэнна. Прачнуўся, паверыш, і жаднае хэнці ні да чога... Во...— ён зноў разгарнуў «Біржоўку»: — «Патрыятычныя дэманстрацыі па ўсёй Аўстрыі». Вайна... Нідзе рабочыя не адгукнуліся на нашу забастоўку... Не падтрымалі нас і нашы ў другіх гарадах. Забачыш, усе, хочуць не хочуць, залыгаюцца жалезным ланцугом і пойдуць на бойню... Сялянства адарвуць ад плуга, ад сярпа, ад цэпа... Закалышуць мястэчкамі і сёламі... Усё для інтарэсаў тых, хто прыслаў сюды Пуанкарэ, хто... А мы зноў на завод, зноў да варштата... Цягні, брат...

Рыгор іранічна ўсміхнуўся.

— Затое ім забастоўка паказала, як небяспечна іхняе наступнае... Ты паглядзі,— праказаў Пятрусь і рушыў з месца.— Я дзіўлюся... і цешуся, наколькі вялікаснаю ёсць наша забастоўка... Бач, яна на некалькі дзён спаралюшавала ўсё жыццё сталіцы, сабрала вакол сябе ўсю грамадскую думку і... і навяла немалога жаху... Я заўчора і ўчора аб'язджаў рабочыя раёны — і ўсюды адно: заводы і фабрыкі — маўчок, а вуліцы — у несупынных маніфестацыях. У фабрычных кварталах рабочыя — гаспадары. Мізэрнымі і бязмоцнымі здаюцца і паліцэйскія і вайсковыя патрулі... Сіла, калі хочаш ведаць, магутная сіла... Мы адмецілі забастоўкаю адну рысу — гэта ж змоцнасць сучаснага стану...

— Зразумела,— згадзіўся Рыгор.— А ўсё ж у мяне ўчора вельмі балела сэрца, калі я мусіў уцякаць з абсаджанага дома на Ломанскім... Я збягаў па сходах, лез па трубе, а нешта нямоўчна шаптала на вуха: гэта распінаецца ваша агульная, рабочая справа...

— Так, балюча, вядома,— рашыў Пятрусь.— Але... Мне здаешся ты іскраю, якая на хвіліну стухае, а то ўсё гарыць, пыхкае. Паверыш, я назіраю за табою і дзіўлюся: адкуль у цябе столькі запалу? Гэта ж, каб ты прымеў, у гадзіну свет перакруціў бы...

Рыгор ухмыльнуўся.

— Гэтулькі накіпела, ведаеш... во тут... Прасачыўся да кончыкаў валос злосцю і непрыязню да існуючага ладу... Праўдзівей, самы лад выпрацаваў з мяне вечнага ворага сабе... Бачыш: з дзіцячых гадоў пайшоў у яго школу і да апошняга часу адукуюся... У выніку — давай ломанскія падзеі... Ну, а сысці з поля бойкі пераможаным — паверыш, цяжка...

— Я цябе разумею...

Пятрусь зноў спыніўся каля акна. Абодва некалькі хвілін маўчалі.

У Рыгоравых руках шарпала «Біржоўка».

— Усё ж, браток, нам зараз справы не паправіць...— перабіў маўчанку Пятрусь.— Пойдзем, хіба, у горад, праведаем, як і што. Мо, стрэнемся з кім... Ты піў гарбату?

— Піў, здаецца... Пойдам...

Рыгор адзеўся.

— Так, буржуазны друк папалье памый на нашы галавы... Прадажныя пер'і не мецьмуць сутрымання...

— Вось у тым-та і рэч... Што ж ты парадзіш...

— А ты ласне меў у воку інакшыя, чымсь ёсць, вынікі з нашае забастоўкі?

— Я, зразумела, не ждаў нашае перамогі, але яна вяла нас на змаганне. Ты не можаш ваабразіць таго пачуцця натхнення, якое валодала мною ў абсаджаным будынку...

Яны выйшлі з пакоя. На калідоры іх напаткала гаспадыня кватэры.

— І сёння да другое? — жартліва кінула яна Рыгору.

— Калі хто пытацьме, скажэце, калі ласка, што а восьмай буду... А ўчора, часамі, ніхто не пытаў?

— А хто ж ведаў, дзе вы? — загадліва адказала гаспадыня і схавалася на кухню.

— Цікавая яна ў цябе кабета,— адазваўся Пятрусь.

— Ды мне усё роўна... Адно б мне не перашкаджала... Ну, усё ж ляпейшая твае...

Па сходах сышлі моўчкі. А ў двары Рыгор раптам успомніў пра Ганну.

— Я, здаецца, табе ўжо казаў, што меў выпадак стрэцца з Ганнаю?

— Казаў... Цікава...

— Перамянілася дзяўчына...

— Гутарыў?

— Ці ж доўга трэба гутарыць — відаць...

— Можна павіншаваць?

З гутаркаю пра Ганну яны прайшлі да Сампсоніеўскага праспекта і спыніліся.

Праспект не мяняў выгляду з дзён забастоўкі. Абапал тратуары і рагі ператочных вуліц ды завулкаў бы-

лі ўсеяны рабочымі. Сярэдзінаю праспекта раз'язджалі конныя паліцэйскія патрулі. Сям-там паказваўся рэдкі рамізнік, і толькі пагаварвалі пра пуск паравіка. На спынках яго стаялі грамадкі людзей, пазіраючы то ўлева, то ўправа.

— Мы пройдам да трамвая ці таксама пачакаем паравіка? — запытаў Рыгор у Петруся.

— Па-мойму, лепей прайсці да клінікі Вілліе...

— Давай...

Яны завярнулі налева і пайшлі ўсцяж праспекта. Не даходзячы да трамвайнай спынкі, стрэліся з агульным знаёмым з завода, які, запыніўшы іх, паведаміў:

— Што ж, па нядзелі на працу.

— Ужо вырашана? — дзівіўся Рыгор.

— Яшчэ не аформлена, але бадай што... Чаго ж чакаць... У іншых раёнах заўтра пачынаюць варочацца на работу... Дзе ж тут болей... Досыць. Скончана, зноў будні.

— Ну, а нараду склічам?

— Павінны...

Знаёмы развітаўся і пайшоў ад іх. Рыгор з Петрусём падышлі да трамвайнае спынкі і змяшаліся ў натоўпе чакаючых.

Падзеі забастоўкі служылі тэмаю агульнае гутаркі. Уражанне ад яе пакуль моцна сядзела ў галавах пецярбуржцаў. З пачуццём здзіўлення, а то і жаху перадаваліся разнастайныя эпізоды з выступленняў рабочых. Да сапраўднасці дадавалася шмат фантастычных рысаў. Увогуле, аднак, людская пагудка ўбірала забастовачныя падзеі ў фарбы гераічнасці. У большасці тых, хто быў заняты гутаркаю пра іх, чулася выразная спагада да рабочых і іх чыннасці. Спыненне Прыморскае чыгункі, бамбардзіраванне фабрычных будынкаў, абварочванне трамваяў — перапляталася з сакавітасцю расказу ў разнастайных варыяцыях пра братанне забастоўшчыкаў з французскімі матросамі, пра сумесны іх напад на казакаў. Вялікае месца ў гутарках чакаючых адводзілася ўзброенай сутычцы на Ломанскім завулку. Асада паліцыяй і войскам агромністага будынка, заселенага рабочымі, прымала адценне свежай легендарнасці. Пасылалася спачувальная павага «невялікай грамадцы баявікоў, якія цэлую пару адбіваліся ад мнагалікага войска». Рыгор з асалодаю прыслухоўваўся да

кожнага сказа, што ён датыкаўся ломанскіх здарэнняў. Бач, нейкая доля і яго заслугі была ў гэтым. Але Рыгора цешыла не пачуццё гонару, а адбітак падзей у людскім адзнанні. Тон і матывы водгуку на забастоўку сведчылі Рыгору, што яе выбух быў на многа значнейшым, ніж аб тым ён заключаў. Калі ж яно так, то можна ружавей глядзець настрэчу будучаму.

— Трамвай! — гукнуў Пятрусь.

Грамада зарухала, націснула да рэек.

— Сядай на пярэдні вагон,— падаў Рыгор.

І толькі трамвай спыніўся, ён спрытна ўскочыў на заднюю пляцоўку. Яго націснулі і ўтаўхнулі ў вагон.

— Цішэй, грамадзяне! — прагукаў ён і абярнуўся назад.

Абярнуўся і ахнуў у здзіўленні — на яго напірала Ганна.

— Рыгор!

— Гэта ты? Што за дзіва, зноў тут жа... зноў у трамваі. Ха-ха-ха! Якім чынам?.. Пятрусь, а? — гукнуў ён.

Публіка паглядзела на Рыгора з усіх бакоў.

— Ша-а, ці ты маеш лад? — прыпыніла Ганна.

Пятрусь падняў палец, звяртаючы на сябе Рыгораву ўвагу.

— Сойдам на Каменаастроўскім ці паедзем да Неўскага? — прагукаў зноў Рыгор.

— Да Неўскага...

Яны ўселіся з Ганнаю побач.

— Прызнацца, добры кавалак прайшла пяшком... Усё не магла дачакацца паравіка...

— Адкуль жа ты зараз?

Яна засмяялася.

— Была ў Петруся; хацела з табою спаткацца... А ты, вось, надоечы і адраса не мог паведаміць... Перабраўся ад Петруся, а людзям — шукай...

— Няўжо я табе не даў адраса? — здзівіўся Рыгор.

— А то ж бы я лішніх вёрст дзве мерала горад... Туды, праўда, заехала, а адтуль — чакала-чакала паравіка і не дачакалася... Мусіла ісці. А шостай гадзіне трэба ў кантору...

— Чаму ж дагэтуль вольная?

— Газета сёння не выйшла; друкары забаставалі...

— Магчыма, і заўтра не выйдзе, ці выйдзе?
— Не ведаю.
— Бачыш, і ты забастоўшчыца, хоць і не па сваёй волі...
Суседзі згаворна паглядзелі на Ганну і здаволена ўсміхнуліся.
— Я б баставала з гэткаю ахвотаю, як бастуеце вы самі...
— Няўжо?
— Вось якраз...
Ужо да смеху суседзяў далучыўся і Рыгор. Але ў яго ўхмылцы адсвечвала сур'ёзная ўвага да Ганны. Рашучасць і ўпэўненасць, з якімі тая выказала свой сказ пра забастоўку, выклікалі яго павагу да яе.
— Магчыма, маніфеставалі ж разам,— паіранізаваў Рыгор.
Ганна адчула гэта, але не адказала нічога — па трамваі пранёсся нечаканы вокліч кандуктара: «Гаспада, трамвай ідзе да Марсавага поля. А там можна перасаджвацца на любы, які кіруе да «Неўскага».
На спынцы яны сышлі першымі.
— Варушыся спрытней,— пацвяліўся Рыгор і Петруся, які прапускаў наперад сябе дзесяткі пасажыраў.
Пятрусь злез перадапошнім і моўчкі падышоў да Рыгора і Ганнаю.
— Пазнайцеся, Ганна, мой таварыш і зямляк — Пятрусь.
— Я ўжо вас заўважыў у вагоне,— падаючы руку Ганне, праказаў Пятрусь.
— А я колькі разоў у вас была і ўсё не магла вас убачыць... Нават і сёння таксама... Вы мэрам знарок ад мяне ўцякаеце...
— Вы былі ў мяне?
— Так, ужо каторы раз...
Цікава і шкада, што вы не засталі мяне ні разу.
Яны рушылі праз Марсавае поле, не пакідаючы рэзвае, бойкае, улучнае першаму спатканню і першаму знаёмству гутаркі. Пятрусь уважліва аглядаў таварышаву знаёмую з ног да галавы, з адбіткам нязжытай правінцыянальнай цікавасці зазіраў ёй у вочы і... несціхана сыпаў пытаннямі. Ганна адразу зрабіла на яго выгаднае ўражанне; ён вачавідкі захапіўся ёю, як чалавекам і таварышам. Ганна падкупала Петру-

ся гаворкасцю, рэзвасцю і востраю пілявасцю. Ад яе нясло дасканаласцю стойкае, вымуштраванае жыццём асобы. Ніякім чынам нельга было параўнаць з Ганнаю хоць любую сілцоўскую дзяўчыну, у тым ліку і Гэлю... Ды што Гэлю? Апошняя наогул выглядала ў Петрусёвым ваччу нясталаю, легкадумнаю асобаю. Яе выезд з Сілцоў і паступленне ў тэатральную трупу сведчыла за гэта. Фактычна Пятрусь ужо месяцаў са два, як кінуў з Гэляю ўсякую перапіску. Гэля стаяла далёка ад Ганны! Петруся цікавіла, чаму так аднакава адносіцца да спаткання з ёю Рыгор. Няўжо ён не знаходзіць у ёй таго, што становіць кабету на належную вышыню. Вось хоцькі б і тут, калі яны ўтраіх ідуць Марсавым полем — Рыгор заўзята маўчыць. Гэта ж не з дабра яно так!

— Ты ж пра вошта думаеш так моцна? — запытаў раптам Пятрусь.

Рыгор паглядзеў на яго і ўверана адказаў:

— Наглядаю за гарадскім рухам і пазнаю, чым ён аддае.

— І што ж выявіў ты, пакуль прайшлі поле?

— Мне здаецца, што наша забастоўка палажыла адбітак на ўсім, што ёсць жывога ў Пецярбурзе... І гэты адбітак не можа хутка згладзіцца...

— Так... Я ўжо чуў ад цябе нешта падобнае...

Пятрусь павярнуўся да Ганны.

— Чуеце?

— І я ўжо чула пахожыя на гэта ноты,— адказала Ганна.— Рыгор мастак на іх выцінанне.

І праз колькі хвілін дадала:

— Усё ж яны падабаюцца мне...

— Нават? — падхапіў Рыгор.

— Не хлушу...

Пятрусь заўважыў, як яна гасцінна пахілілася да Рыгора, але не паказаў знаку. Ён агледзеўся навокал і запытаў іх:

— Ці не пара было б паабедаць?

— Бадай што.

Яны прайшлі Садовую і ачуліся на Неўскім. Праспект зірнуў на іх усёю ўласціваю яму вялікасцю. Па іх прабегла электрычная іскра ўрачыстай настарожанасці. Думкі вырваліся з галавы і завіхрылі ў скрутным, зацягаючым руху паводкі людзей, трамваяў, аўтамабіляў, рамізнікаў. Гул і шолам абвіслі над імі

пластом разнастайных гукаў, трэску, звону, бразгу. Адчувалася віравое кіпенне жыцця, адкуль цяклі яго жэралы ва ўсе куткі вялікага горада.

Хутка людская хваля хлынула на іх і пагнала на сабе ў бок Анічкава моста, на пекныя фігуры якога глядзелі з рагавога дома завучыя словы: «Вегетарыянская сталоўка».

Была чацвёртая гадзіна па паўдні, калі Рыгор з Петрусём, правёўшы Ганну на службу, селі ў трамвай, каб вяртацца дамоў. Неўскі абодвух авеяў настроем прадваеннае трывогі. У распаленым паветры маляваліся жывыя абрысы яе блізкага, неадмоўнага прыходу. Водгукі забастоўкі, якая дагарала, раставалі ў хмурых разорах вуліц, што вялі да фабрычных раёнаў. Нядаўні настрой выразнае жахлівасці, які ачула цісnuў на Неўскі натоўп, змяняўся ў ім заўсёдашняй ганарліва-задзёрыстай нядбайнасцю. Вось яна ўплыла ў вагон трамвая, выклікаючы ў Рыгора з Петрусём агіднае самапачуццё.

Хутчэй на той бок рэчак, у суворыя абставіны свайго, рабочага раёна!..

І толькі трамвай крануў з месца, як да іх вушшу данёсся зычны, выразны крык газетчыка: «Забойства Жана Жарэса ў Парыжы! Каму «Вечерние Биржевые»?»

Рыгор уздрыгануўся і спалохана паглядзеў на пляцоўку. Там стаяў нелапы хлапчук, прадаючы свежыя газеты пасажырам. Да яго працягалася з дзесятак рук і чулася наперабой: «Мне газетку», «Дайце «Біржоўку», «Сюды дайце».

— Чуеш, Пятрусь, Жарэса забілі?

Пятрусь пазваў газетчыка.

— Вось табе, браток, дык навіна! — заўважыў ён, застыўшы ўзрокам на буйных радках жудаснага паведамлення з Парыжа.

— Буржуазія здымае перашкоды на шляху да свае праступнае чыннасці.

Трамвай імчаўся Марсавым полем...

## X

Рыгор прачнуўся і прыслухаўся: у пакой урывалася зычнае гудзенне фабрычных сірэн. «Зноў пачынаюцца будні»,— праказаў ён сабе, і тут жа перад ім

мігнула яскраваю істужкай нізка апошніх падзей. Мястэчка Смагін, яго ўцёкі ноччу, дарога ў Пецярбург, вобраз горада, спатканне з Петрусём, з Ганнаю, забастоўка, Сампсоніеўскі праспект, Ломанскі завулак, бойка з паліцыяй і салдатамі, братанне з французскімі матросамі і... учарашняя сходка ўпаўнаважаных ад цэхаў з выразным і канчатковым рашэннем — заўтра аднавіць работу. Цэлая багатая гісторыя на зусім кароткім адрэзку часу. Свет на момант завіхрыўся, сягнуў да неба і тут жа знізіўся, апаў. Наперадзе — цёмная невыразнасць, крывавае бяздонне ўсякіх магчымасцей. Як яны пройдуць між Рыгоравага жыцця, чым адаб'юцца на яго лёсе, куды павернуць яго жыццёвы шлях? Калі б азірнуцца назад, то не ўявіць поўнасцю яго крутых, хілкіх завілін, не ўясніць рашучасці смелых пераходаў. Няўжо тое і ў будучыні? У кожным разе яно, гэта будучае, страчае ў ім загартаваную вытрывалую адзінку, перад якою разляцяцца не адна перашкода.

Рыгор сышоў з ложка і паглядзеў у акно. Палавое неба зацягалася дымам фабрычных комінаў. Разам з паветрам западалі ў нас крупінкі сажы. Работа пачыналася. Адпачнуўшыя махавікі разганялі бег трансмісій, трансмісіі нацягалі рамні, і прытупленыя разцы пазіралі на апыленыя балванкі сталі... Вось-вось увап'юцца яны ў сталь і пачнуць выразаць завілыя бліскучыя стружкі. Разгорнецца шырокае наладжанае гатаванне снарадаў на патрэбу вайны. Цэлымі стосамі выкідацьмуць іх варштаты, перасылаючы ў прыгатаваныя скрыні для адпраўкі на фронт. У кожным снарадзе — смерць некалькі чалавек, разбурэнне, пажары. А між тым іх гатавацьмуць яны, рабочыя, якія ўчора яшчэ, заўчора падавалі свой магутны пратэст супроць пануючага ладу, супроць вайны і забойства. А сёння, а заўтра?.. Якая заблытанасць у жыццёвых з'явах! Які сплёт вострых супярэчнасцей!

Рыгор пададзеўся, абмыў твар і папрасіў гаспадыні даць гарбату. Гаспадыня неадкладна выпаўніла просьбу, моўчкі ўвайшоўшы ў Рыгораў пакой і моўчкі выйшаўшы з яго. Нават не паглядзеўшы на Рыгора, мэрам бы яна была дзеравянаю і ўсё рабіла па заводзе. Для Рыгора гэта гаспадыніна маўчанка была па настроі: ён, не патураючы на нічога, у абдыме раздумаў, прысеў да стала і пачаў піць гарбату. Неахвотлі-

ва лезла ў горла пачарствеўшая булка з пажоўклым маслам; але не есці — не мог: самы працэс яды гарманаваў з перабегам думак у яго галаве — як бы дапаўняючы цяганіну разважанняў. Нават не глядзеў на тое, што стаяла ў яго пад носам, а бегаў узрокамі па сценках пакоя, перакідаў іх за акно. Неўпрыкмет спыніўся на нейкай партрэтцы, якая вісела на сценцы над рагавым круглым столікам. І партрэткі і століка Рыгор да гэтага і не заўважаў. Чаго яны тут і навошта? На партрэтцы — чыясьці мілавідная галоўка... Рыгор падняўся з шклянкаю ў руцэ і падблізіўся да сценкі; так, якаясьці дзяўчына. Хто яна? Ён матнуў рукою, пасмяяўшыся з сябе за руплівую цікавасць, і адышоў. Але тут жа навярнуўся яго ваабражэнню вобраз Ганны... Яскравы, напружаны... Дзе яна зараз? Перапісвае формы? Ці, можа, бастуе? А ну ж нечакана стукне дзвярыма і апынецца ў яго пакоі? Няхай бы...

Ён паглядзеў навокал сябе — было якісьці непрытульна, негасцінна. Накідана паперы, нацярушана на стале. Няўжо гаспадыня не прыбірала?

Рыгор дапіў гарбату і наліў новае. П'ючы, успомніў пра лісты: трэба напісаць мацеры, Сёмку. Выбухнула ахвота да пісьма — і, здаецца, пісаў бы многім, многім... Гэтульки ёсць пра вошта пісаць... Сроль, Наталя... Ды дзе ж яны абое? Сролеў адрас мэрам бы ў Рыгора меўся... Толькі дзе ён яго запраторыў? Рыгор падышоў да сцяны, дзе вісела жакетка, выняў з кішэні нататку і пачаў гартаць. Няма! Не было і Наталінага. Цікава, аднак, дзе б магла быць Наталя?

— Можа, падабраць пакой? — запытала з калідора гаспадыня.

— Прашу вас.

Гаспадыня ўвайшла з анучкаю ў руках, ужо руплівая і вёрткая.

— Што ж вы сёння дома ўвесь дзень? — запытала Рыгора.— Ужо ж забастоўка скончана.

— Так, скончылі,— задуменна адказаў Рыгор.

— Пара, пара ўжо, годзі-ы... баламуціць свет.

— Вы супроць забастоўкі?..

Рыгору хацелася скарэй адвязацца ад гаспадыні — яна прыйшла не к часу. Праказаўшы, ён папрасіў прабачэння і выйшаў з пакоя. Бязмэтна прайшоў на кухню, адчыніў дзверы і паглядзеў на сходы.

І калі вярнуўся да сябе — гаспадыня прычыняла дзверы.

— Калі ласка, ужо гатова,— праказала яна і шмыгнула на кухню.

Рыгор паспешна кінуўся да стала і хапіўся пісаць лісты. Першым — мацеры ў Сілцы. Кароткімі, нязвязнымі сказамі, бессістэмнай навязкай думак — спісаў дзве палавінкі пісьмовага аркуша і палажыў у канверт. Следам — не болей, Сёмку. Мацеру суцяшаў і абяцаў падмогу, у Сёмкі прасіў падрабязнага апісання сілцоўскіх падзей. Хопіць? Гэта Рыгора не заняло, бо, нарэшце, ён схамянуўся і намерыўся наведаць Петруся... «Сапраўды, амаль не цэлы дзень у хаце! Магчыма, Пятрусь ужо аб'ехаў горад і назбіраў процьму навін... А тут і газеты ў руках не было...» Рыгор заварушыўся; мігам адзеўся, забраў напісаныя лісты і стралою вышмыгнуў з пакоя.

Рыгор быў на двары, калі Рыма перагарадзіла яму дарогу да варотцаў.

— Рыгор, я да вас! — палахлівым голасам праказала яна.

— Калі ласка! Пойдам наверх.

— Ну, тут... Я з сумнаю навіною да вас... Ці вы не чулі хіба? — перарыўна запытала Рыма.

Рыгор вытарашчыў вочы і ўпарта паглядзеў на дзяўчыну.

— Якія навіны?

— Учора вечарам... Петруся арыштавалі... Я толькі з яго кватэры — проста да вас...

— Петруся арыштавалі!.. Ці не ў звязку са сходам упаўнаважаных?.. Устрывожыўся Рыгор.— Што вы кажаце? Гм? Як жа быць? Як і што? Раскажэце...

— Так, вось... Учора а дванаццатай гадзіне ночы, а можа, пазней, прыйшлі на кватэру і... А сёння абвешчана ваеннае становішча... Чаго добрага...

— Вы былі ў яго на кватэры?

— Не, гаспадыня прыбягала да нас...

Знянацкая навіна Рыгора ашаламіла. Ён не ведаў, куды накіраваць думкі. Арышт Петруся нёс з сабою цэлы шэраг змен нядаўна апрацаваных планаў, перакамбінацыю стасункаў у штодзённым жыцці. І разам з гэтым сведчыў пра разнятае паліцыяй наступленне на рабочых.

— Цікава, пры якіх абставінах гэта адбылося! —

казаў ён Рыме.— Мо б нам наведаць гаспадыню кватэры?

— Ласне ад яе выпытаеш? Гэта ж зараза — не чалавек... Што ж, паедзем на кватэру...

Яны выйшлі з двара і пайшлі на Сампсоніеўскі праспект. Па дарозе Рыгор апусціў у скрынку лісты.

Праз паўгадзіны яны стаялі перад брамаю дачы, у якой жыў Пятрусь. Гаспадыня Петрусёвай кватэры загледзела іх з акна і падала вокліч:

— Выбачайце, вы да Бока? Яго няма.

Рыгор з Рымаю спыніліся і паглядзелі на гаспадыню.

— Даруйце, нам трэба да вас,— праказаў Рыгор.

— Да мяне, гм...— гаспадыня завярцелася ў акне і адвярнулася на пакой.

Яны прайшлі ў двор, узышлі на ганак і пазванілі.

— А дзе Бок? — у прачыненыя гаспадыняй дзверы запытаў Рыгор.

— Ён учора ноччу арыштаваны. Я ж паведамляла іх,— паўшэптам праказала гаспадыня, паказваючы на Рыму.— Я лічу, што і вам небяспечна сюды наведваць.

Гаспадыня намерылася зачыніць дзверы. Рыгор яе перапыніў:

— На хвілінку,— дазвольце нам зайсці ў яго пакой... Можа, часамі...

Гаспадыня крыху памаўчала, пасля запытала:

— А гэта для чаго? Не, я не маю права вас пусціць туды... Кватэра запячатана...

— Ну, мы ж просім. Магчыма, Пятрусь што-кольвечы катораму з нас пакінуў...

— Я нікому нічога не выдам, хоць і пакінуў,— настойвала на сваім гаспадыня.

Але яна не выявіла актыўнага пратэсту, калі Рыгор самавольна пераступіў парог на ўсходы. Саступіўшы ўбок, яна моўчкі прапусціла наперад сябе Рыгора з Рымай, а сама пайшла за імі.

Усе ўтраіх падняліся ўгору і прайшлі да Петрусёвага пакоя. Гаспадыня спакойліва адамкнула дзверы і паказала:

— Вось, як пакінуў, так і ёсць... Прасіў прыберагчы ўсё гэта... Я прыберагу, як бачыце...

Рыгор з Рымаю ўвайшлі ў пакоік і агледзелі наўкола. Ляжала незасланая пасцель; на сцяне вісела

будзённая вопратка. З буфеціка-шафкі выглядала неўпарадкаваная пасуда. На стале былі раскіданы кніжкі і газеты.

На відным месцы з асяродку белага поля паперы выглядала мужная галава правадыра французскіх сацыялістаў — толькі што забітага Жана Жарэса.

— Жан Жарэс? — з трывогаю ў голасе запытала Рыма.

— Ён... Ахвяра драпежнай буржуазіі,— адказаў Рыгор і павярнуўся да выйсця.

— Пятрусь вам заплаціў за пакой? — запытаў ён гаспадыню.

— А ў нас свае разлікі; не пасварымся... Абы ён вярнуўся,— адказала спагадліва гаспадыня.— Не можа ж ён доўгі час быць арыштаваным.

— Мы ад сябе папросім вас прыберагчы, што ёсць Петрусёва,— сказаў Рыгор.

Гаспадыня правяла іх да дзвярэй і запэўніла:

— У мяне нічога не згіне, абы... Бывайце...

І яшчэ не змоўк гаспадынін голас за дзвярыма, як з вуліцы ўварваўся на ўсходы зычны голас газетчыка:

— У Кіеўскай акрузе абвешчана мабілізацыя трох узростаў... Французскае войска адпраўлена на ўсходнія граніцы рэспублікі...

Яны накіравалі ўсцяж вуліцы, на пагрозны, няўмоўчны пярэкліч газетчыкаў.

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

### I

Той, хто яшчэ хоць каліва спадзяваўся пра мінучасць вайны, кінуў сябе супакойваць. Не знаходзілася жадных адзнак мірнага вырашэння заблытаных пытанняў міжнародных суадносін. Усе падзеі шпарка каціліся да крывавага развязвання. Кожная новая вестка з Вены, з Берліна, з Парыжа, з Белграда мела ў сабе ўсё менш проблеск надзей на мірнае вырашэнне пытання. Ды каб, выпадкова, і трапіла заспакойваючае паведамленне, яму б ніхто не паверыў. Вайны

напружана чакала буржуазія, захопліваючыся яе прадчуваннем. Трывога дала месца яе жывёльнаму пачуццю, якое выклікала разнастайныя думкі, аналізы, прароцтвы. Разгойданы горад драбніўся на невялікія пласты людзей, з якіх многія ўглядалі ў надыходзячай вайне тыя ці іншыя выгады.

Па нагрэтых панелях расфуфыранага Неўскага панясліся задзёрыстыя выгукі наконт закідання шапкамі «праціўнае немчуры». Ненатланныя апетыты спекулянтаў, банкіраў, растаўшчыкоў адчувалі тлусты пах нажывы на пастаўках, здзелках, калькуляцыях. Генералы і задзірыстае афіцэрства прэтарыянскае гвардыі — замарыла ордэнаў, нагарод, ганаровых званняў. Чарнасотніцкія паўзуны ўзняліся думкамі пра «славу ды перамогу расійскага самаўладдства». Кісла-ліберальная інтэлігенцыя ўспомніла «врата Цареграда», «братоў славян» і заслюнявіла старонкі прадажнае прэсы дзьмутым мужаствам «доблеснага воінства». Адыгрываючы ролю «апазіцыі яго вялікасці» і ў жарты праводзячы пальцам па мапе граніцу Расіі ад Пецярбурга на Вільню, Кіеў і Адэсу, лібералы зараз выкінулі лозунг міжнацыянальнага яднання ў змаганні з «юнкерствам», «прускаю ваеншчынай», «тэўтонамі». Зашушукаліся па буржуазных рэдакцыях, у купецкіх і банкаўскіх салонах пра новую місію расійскай прамысловасці...

У адну суцэльную какафонію зліліся галасы «Нового Времени», «Речи» і «Дня». Завіхрыла вакханалія мешаніны з прадажнага патрыятызму, з карыснасці самаабароны і з дзікасці нямецкіх пагромаў пад піянне «божа, цара храні». Ад Мілюкова да Распуціна, ад Меншыкава да Патрэсава, ад Мяшчэрскага да Гваздзёва, ад Мякоціна да Замыслоўскага — усё гэта пераблыталася, пераплялося ніткамі блуду, кламства, мізэрнага падхалімства...

Здань вайны несла ў сабе спадзяванкі бяспекі буржуазным кварталам, палацам і асабнякам ад падобных здарэнняў, якімі была яшчэ свежая забастоўка. Затапіць у рабоча-сялянскай крыві бурлівыя мары пра васьмігадзінны працоўны дзень, пра сацыялізацыю зямлі і фабрык, пра ўстаноўчы сейм і свабоду друку — вось у чым крыжаваліся думкі бюракрата-сенатара, абжоры-банкіра, дзяржыморды-генерала, шкурадзёра-памешчыка і баўтуна — ліберальнага інтэліген-

та... Да каляд пранесціся фарсаваным маршам да Берліна і ўвайсці ў яго праз Брандэнбургскія вароты — вось у чым была асалода іх імкненняў. У каго тады знойдзецца смеласць падаць голас пратэсту? Жандарскія шпоры заглушаюць яго нашчэнт... П'янь перамогі залье неабсяжныя палі змучанай, прыдаўленай краіны... Але, вось, кламцы і ліцамеры — яны затуманьваюць вочы абяцанкамі... Няхай усміраць непакорнага немца, няхай абароняць «няшчасную Сербію» — і тады — Расія зажыве лепей. Тады...

А цяпер?

Кідай, рабочы, кватэру ды сям'ю, селянін,— саху ды каня, разлучайцеся з сям'ёю і нясеце свае галовы на алтар бацькаўшчыны. Зрабіў пачатае ці не, забяспечыў бязмоцнае — ці кінуў на волю лёсу — ідзі...

Мабілізацыя!

Па ўсіх гарадах, па ўсіх мястэчках і сёлах, засценках і глухіх хібарках расклеены квадратовыя паперкі з пералікам гадоў і катэгорый мабілізаваных. Раскіданыя ядынкамі, змусам сцягнутыя ў грамадкі, грамады і натоўп — памаршыравалі з месца на месца, з канца ў канец дзесяткі, сотні, тысячы, мільёны... Бессвядома і беспярэчна.

Нескапчонымі лентамі разліліся плач, енкі, рэчкамі — слёзы... Сум і жаль распластаўся цалуном над палямі незмярымае Расіі.

Ці ж заглушыць гук патрыятычных літаўраў чыстату і бунт мільённае скаргі?

Ці ж пяройме паводку помстных слёз каламутнае пачуццё зданнага патрыятызму?

Ой, не! Ой, пільнуйся, разбазыраны Неўскі, цябе затопіць раскалыханая хваля ваколічнае сілы... Яна скора прарвецца і ліне. Гэта будзе сіла не дробнай кучкі падбітых гандляроў і пакорных чынуш з партрэтам Мікалая, разбураючы гмах на рагу Марское. Не...

Гэта будзе суд і помста...

Будзе, а пакуль... Васемнаццатае ліпеня адгукнулася гарматнымі стрэламі...

Вайна! Падаюць ужо снарады праз сіні Дунай, крышачы будынкі Белграда.

Вось! Вось!

Доўгая паласа паперы звесілася ў акне рэдакцыі суворынскае рэптыліі... Людскі струмень, як вада,

строўшая застаўкі, збіраецца ў бурлівую грамаду на рагу Неўскага і Садовай і сотнямі вачэй упіраецца ў няроўныя літары свежых паведамленняў. З вуснаў у вусны, трывожна-жахліва і задаволена-кічліва, перадаюцца яны з вуліцы на вуліцу, з пляца на пляц. Людскі віхор яшчэ болей раз'юшваецца, мацней гудзе, шпарчэй паглынае прастор.

— Бедныя сербы! Дзе ж іх каралеўская чэта жыцьме? — вылятае з тоўстых набраклых крывёю губ круглага гасцінадворца...

— Барбары! Стары Франц з вума сышоў! — злуецца пруткаваты, худы з бародкаю клінком, з кійком у руцэ, з філасофскім выразам на твары адвакат.

— А мы, як заўсёды, дрэмлем! Нямецкая рука арудуе ў нас пад бокам,— дадае яго сусед, з мінаю ісцінна-рускага купца.

Следам дзесяткі самаўпэўненых і ганаровых сказаў, сотні пагроз і столькі ж ябедных, іранічных жартаў — гуляюць над бразгаючымі трамваямі, над шпарка ездзячымі аўтамабілямі.

Жаднага сумнення.

Расступаюцца натоўпы перад сівымі надутымі, бясчулымі генераламі. На чырвоных крывавых лампасах адбіваюцца нованароджаныя чаканні і спадзяванні.

Скончана пра ўсё іншае! Годзе сумненняў...

Вайна прыйшла! Ужо атручана паветра порахам. Тысячы вёрст да Белграда, а чамусьці здрыгаюцца сэрцы няпэўнасцю...

— Вось, вось! Хто пільнуе гарматы, каб яны не бухнулі над Нявою? Як справа з міннымі загарожамі пад Рыгай, Рэвелем, Кранштатам? У забяспецы? Напэўна! «Храбрае воінства»...

«Яго імператарскае вялічаства абвясціла армію і флот на ваенным становішчы!»

«У Кіеве абвешчаны прызыў ратнікаў першага разраду за 1911, 1912 і 1913 гг.!»

Гэтак пяе хор галасоў безлічы юркіх, фаворных газетчыкаў!

І весткі, што лятуць з дзесяткаў вуснаў,— вострымі шпулькамі пранізваюць прагны на навіны людскі натоўп. Поўнасцю, дасканала аплёў яго атрутны подых вайны...

Але якое вайны?

Яскравае адчуванне выпірае наповерх — вайны незвычайнай.

Дагадкі, планоўкі, раздумы знаходзяць трывалую падставу ў запхнутых далей вестках з Лондана, з Рыма, з Токіо.

Няўжо ж блытаніна законаў капіталістычнага развіцця абмяжуецца двума — трыма краінамі? Яго моцныя сеткі ахуталі ўвесь свет.

Вайна прыйшла іх разбэрсаць. Разбэрсаць?

Уваходам у Берлін да каляд?

Захопам Дарданельскай пратокі?

Разбурэннем Сербіі?

Клубок невыразнасці носіцца загадкай над расійскай сталіцай.

## II

Пераплёт надзвычайных здарэнняў, выбухнуўшых наповерх, як попел і лава з Везувія, шаламанілі Рыгора. Ён драбніўся на часткі, натужваючыся ахапіць іх веліч і глыбіню. Але губіўся ў іх заблытанасці. Цьмяная невыразнасць скрадала яснату перспектывы.

З запляснелых аналаў гісторыі паўставалі войны, непасрэдна цягнуўшыя за сабою рэвалюцыі. Няўжо, калі ў жыцці маецца падобны закон, ён абміне Расію на гэты раз? Ці для яго чыннасці патрэбны асабовыя эпохі? Як бы там ні было, а ў невыразным наступным можна было вышукваць розных нечаканасцей.

Гэта тыя нечаканасці, з якімі заўсёды гуляюць у жыцці разнастайныя здарэнні, сябруюць і надзеі. Рыгор іх не цураўся. Абданы падзеямі, ён знаходзіў палёгку і Петрусёваму лёсу. Сядзеў жа ён, Рыгор, калі паласа часу была зусім інакшай. Як бы там ні было, а кожнаму ваяку трэба прайсці гэту школу. Як ні ўтратны Петрусёў арышт, усё ж яму прыдасца. Астрог — палітычная школа. Рыгор адчувае па сабе. Астрог — у той жа самы час — і кузня; Рыгор згодзен з другімі.

Таварышаў лёс атрымліваў палёгку ў Рыгоравым ваччу і таму, што не мелася даных на зацяжны арышт. Магчыма, Петрусю інкрымінуюць удзел у сходзе ўпаўнаважаных — тады дадуць адміністрацый-

ную высылку з трыццацьма трыма пунктамі... А бывае і без таго...

Аднак падобныя развагі былі нетрывалымі: яны не ўстойвалі перад наплывам таварыскага пачуцця спагады. Якім ні быў Рыгор загартаваным ваякам, якою халоднасцю ні абдавала яго сэрца ў пытаннях змагання — усё ж Пятрусь займаў у яго нутры месца, вакол якога магла бліснуць слязіна сантыменту. Няхай бы Пятрусь праходзіў заводскую школу, чымсь гэта яму надалі школу астрожную. А ці немагчыма, бывае, здарыцца так, што ён і не вытрывае яе? І замест поспехаў — набудзе разувер'е, страціць сілы. Так? Нікому шляхі не заказаны...

Вось жа прыйдзе Рыгор на завод і ў ім не застане Петруся. Вечарам пасля працы яны не сыдуцца ўдваіх і, як заўсёды, не абгавораць апошніх падзей. Ды колькі будзе марна страчаных планаў хоць і дробнага штодзённага жыцця! Няхай бы склаліся абставіны так, каб усё гэта знаходзіла сваё нармальнае завяршэнне... А яно — не... Не!

Рыгор ішоў на працу, адчуваючы сябе пераможаным, палонным.

Думаў, ідучы, што гэта яго шлях да пакоры перад тым, супроць каго выходзіў на супярэчкі.

Ішлі адзінкамі, па двое і другія рабочыя, але, чамусьці, на іх тварах не заўважна адбітку болю. Вось адзін размахвае рукамі і залівaецца смехам, калі другі яму патурае. Вунь трэці чытае ўзасос свежыя навіны ў «Совремёнке» і на нішто не зважае. А яшчэ іншыя то пасвістваюць, то жартуюць. Мэрам бы нічога ніякага не было — а дзесяцідзённая забастоўка не пакінула і следу. Будуць яхідна пазіраць на іх дырэктары заводаў і горда, звысака надзяляць сухімі сказамі. Ды павінны маўчаць? Го, не! Гэтага не! Было бессумненна, што пачуццё пакоры не вернецца.

Але пра гэта не думалі — вайна перабівала ўсё. Пад яе ўражаннем знаходзіліся і рабочыя завода, і яго гаспадары. Нават тэмп працы падуладжваўся трывожасці агульнага настрою. Машыны, якія тачылі снарады, захоўваючы ў кожным некалькі смерцей, гэтыя машыны не маглі заглушыць сваім гоманам і шумам гутаркі рабочых. У праходах між станкоў, праз станкі кідаліся і адкідаліся руплівыя, уважныя

запытанні і адказы. Кожны і ўсе вязалі з імі планы і дагадкі, страты і чаканні.

Рыгор ад знаёмых дазнаўся, што не адзін Пятрусь паплаціўся арыштам. З ліку рабочых завода ачуліся ў лапах паліцыі да дваццаці чалавек. Усю тую ноч, калі арыштавалі Петруся, ішлі ўзмоцненыя трухі ў рабочых раёнах. Наладжваліся паліцэйскія аблавы.

Рабілася цікавым, як уцалеў ён. І разам з гэтым вырасла сумненне, ці надоўга гэта. Не адначасна з Петрусём, то сёння, заўтра ці яшчэ праз дзень, і паліцыя наведае яго. Запросіць да Петруся ў госці, а там — чаго добрага — выплыве і Смагін, і Рыга. Падумаўшы — не ўхмыляецца.

Рыгор надумаў колькі начэй не начаваць на сваёй кватэры. Авось мінецца гэта палоса. Але дзе знайсці прытулак? Успаміналася Ганна. Зранку цьмяна, між іншым, а што бліжэй к вечару, яскравей і настойней. І выйшаўшы з завода, ён сеў на першы трамвай і паехаў у горад. Не думаў — будзе Ганна на кватэры ці не — рэшана, і годзе. Што па-за гэтым — не цікава.

У трамваі, бітком набітым людзьмі, з якіх было многа рабочых, Рыгор прыслухоўваўся да гутарак. Вайна ў пераломе апошніх падзей — служыла асноўнаю тэмай. Адчувалася, што яна праняла кожнага чалавека, захапіла яго істоту. Старыя і маладыя, жанкі і мужчыны, вайсковыя і цывільныя, рабочыя і бюргеры-мяшчане — усе на розныя лады абгаварвалі бягучыя навіны дня. Падніміліся спрэчкі, нясліся доказы і абвяржэнні, выяўляліся настроі. Кішмя кішэлі дзесяткі матываў за вайну, за яе дачаснасць і зусім слаба выплывалі варожыя ёй, але асцярожлівыя словы. Гусцела мешаніна, вінегрэт з людскіх пачуццяў, настрояў, безгрунтоўнай палахлівасці і беспадстаўнага задзёру. Гурт, гушчу, грамаду можна было разумець, бачачы яе ў бягучым трамваі, як нешта тлумнае, парванае на часткі, цьмянае і невыразнае. Калі б буржуазная філасофія не была пустою рэччу, патрэбна было б ужыць яе пры вывучэнні змешчанай у трамваі кучкі людзей.

Рыгор пільна наглядаў і ўважліва слухаў гутарку, падобную на тлум. Магчыма, з гэтым і вылез бы з трамвая, каб завярнуць на Пад'ячаскую, дзе жыла Ганна, і праз два крокі рассеяць уражанне, але раптам ускіпеў. Здаравенны, бочкаю пуза, якісьці, напэў-

на, буйны крамнік, нахальна перабіваючы агульную ўвагу, закрычаў: «Нямчура падкупіла жыдоўскую інтэлігенцыю і фабрычную басату; нам трэба гэтыя плевелы выпаліць агнём». Некалькі жанчын спагадліва кіўнулі галавою. Болей — дабрадушліва ўсміхнуліся. Хтосьці наперадзе іранічна гукнуў: «Яшчэ выдумка!» А Рыгор са злосці кінуў пузачу: «Вы пагромнымі лозунгамі не адыграецеся!»

На Рыгора востра паглядзелі з усіх бакоў вагона. Пачулася некалькі пагражаючых выгукаў. Сярод іх Рыгор улавіў выразнае — «нямецкі агент». Следам двое якіхсьці асоб усхапіліся з месца і памкнуліся ў бок Рыгора. Што б з гэтага выйшла, нельга сказаць, але Рыгор настаражыўся. Ён упорней паставіў ногі і сабраней настроіў узрок. «Толькі...» — прамігнула ў яго галаве і абарвалася разам з агульнай увагай да ўсяго інцыдэнту.

З-за рога Вядзенскай вуліцы хлынула раскіданая, як напалоханае стада, куча людзей. Трамвай спыніўся. Частка пасажыраў злезла. Праз адчыненыя дзверы і вокны даняслося ў вагон дзесятак гукаў: «Шапкі далоў! Ура! Бо-ожэ-э, цара храні!» Было відаць, што гэта патрыятычная маніфестацыя.

Рыгор убачыў, якім здаволеннем засіяў твар трамвайнага таўсцяка. І яму стала няўцерп смешна, калі гэты слон замахаў праз акно капелюшом, вітаючы маніфестантаў.

Следам з натоўпу вылучыўся якісь чыноўнік і, падбегшы да бліжэйшага гледача, збіў з яго галавы нязнятую шапку.

Рыгор мігам выскачыў з вагона і памкнуўся ў бок маніфестацыі, але яго хтосьці схапіў за рукаў. Ён абярнуўся і ўгледзеў Рудольфа Шульца.

## III

— Ку-у-ды-і ты? — запытаў Рудольф.

— А-ах!.. І надало ж табе...— схамянуўшыся, адказаў Рыгор.— Ці ты бачыў сцэну? Хуліганнё-о!..

— Што-о, што вы сказалі? — перабіў Рыгора чыйсьці далёка не дружалюбны голас.

Рудольф тузануў Рыгора за рукаў, і яны на два крокі адступілі ўправа.

— Хуліганства-а...— з тым жа задзёрам адказаў Рыгор і не паспеў агледзецца, якое ўражанне пакіне яго сказ, як яго шапка дугою мігнула ў натоўп.

Рыгор азірнуўся вакола сябе, але дзесятак твараў як бы незаўважліва глядзелі ў розныя бакі. Зусім нельга было ўявіць, чыя работа з шапкаю.

— Сволачы! — праказаў ён і ўспомніў пра шапку.

Рудольф працягваў яе Рыгору.

— Кінь, тут не час і не месца для тваіх спраў...

Яны павярнулі ад натоўпу і пайшлі ў бок ад маніфестацыі. Апошняя з гікамі і шоламам, поўная пагромных разбойных настрояў, накіравала ўсцяж Вялікага праспекта напрамкам да Васільеўскага вострава.

— Но што робіцца-а! А-ах! — Рыгор хапіўся за галаў.

— Самадзяржаўе на дражджах,— разважыў Рудольф.

Рыгор доўга не мог супакоіцца. Толькі пераход Рудольфам гутаркі на іншую тэму адцягнуў Рыгора ад усхваляваўшага яго факту.

Рудольф паднёс Рыгору смагінскія навіны: арышт Сімена Галаса і ад'езд Лібы ў Вільню.

— Абяскровілася мястэчка дарэшты. Мэрам бы хто зачыніў вечка. І ўсё вайна. Перакруціла, перамалола.

— А ты даўно прыехаў?

— Учора раніцою. Прыехаў, ведаеш, поўны ўражання ад жудасных вобразаў мабілізацыі. Што-ой там чаўплося-а! У адзін дзень усё жыццё мястэчка згусцілася, ці, праўдзівей, было сабрана, зліта ў адно месца, на Згонішчы. І мужчыны, і кабеты, і старыя, і малыя, людзі і коні гулі, іржалі, мітусіліся — мэрам бы бачачы занесены над сабою востры, бліскучы нож ката. Я табе кажу — жах браў. Хацелася плакаць і завываць разам з асірацелымі дзяцьмі і жанкамі. Але слёзы тут жа высушвала халодная цікавасць. Сотні сталых свядомых мужчын, пакорліва, без супярэчак, накіроўваліся ў павет, магчыма, у губерню — а адтуль — на вайну. Незмярымае глыбіні жудасць — і, мэрам бы, так і трэба. Двое смагінцаў, чамусьці ўкрадкаю, кінулі каменнямі ў акно манапалькі. Следам пяцёра чалавек напёрлі ў дзверы і выламалі; далей пайшоў расхоп гарэлкі, звон шкла, дзікія песні...

Дзесятак стражнікаў доўга не мог уціхамірыць мнагасоценную грамаду. Гоман і крык сціхлі, сцiснуліся шарэнгі, і людзі пакорліва пашнуравалі за горад. Нават хутка пачуліся песні... Прызнаюся, браток, я і дагэтуль губляўся ў блытаніне падобных з'яў... Вось жа, вось, пры вугле кожнае хаты роспачныя жанкі і замурзаныя ў слёзах дзеці — ужо сіраты, бязмоцныя, пакінутыя,— а там, мо на гоні ад іх, сярод залатых снапоў жыта — песні... Лебядзіныя песні соцень здаровых, поўных жыцця людзей — па дарозе да бойні... Толькі пудрысты пыл над мястэчкам — слупам...

— Гоняць,— заўважыў Рыгор.

— Тое і дзіва, што ідуць на імперыялістычную вайну ды яшчэ з песнямі. Але мне здаецца, што гэта да першае стрэчы з жахамі вайны... Хутка яе сутнасць выкрыецца перад усіма.

Рыгор задумаўся.

— Сапраўды складаныя пытанні,— згадзіўся ён на канцы Вядзенскай.

Пры павароце на Кронверскі праспект іх спыніў праезд палка кавалергардаў. Здаровыя, ружатварыя, адзін у адзін, гвардзейцы выглядалі спакойнымі, нават жыццёрадымі. Дагледжаныя, падабраныя пад масць — каштаны-коні зіхацелі чыстаю шэрсцю, як палітураю.

Стракаталі каменні бруку — іх білі шротам цяжкія падковы. Адгароджваючы эскадронныя чатырохкутнікі з людзей, ехалі адзінкамі то па двое дасціпна адзетыя, ганорна-задзёрыстыя камандзіры.

Густым ланцугом выстраіліся прахожыя ўсцяж тратуараў, сочачы за кавалергардамі. Тысячамі ўзрокаў акідалі маладых, падабраных сялян-дзецюкоў, якіх пасцягалі з глухіх вёсак агромністае краіны ў прывілейныя палкі царскае арміі. З боку гледачоў чуліся развагі. «Жалезная сіла»,— цешыўся дробны, сухарлявы чыноўнік. «Гвардыя першай пойдзе на фронт»,— паведамляў якісь дэндзі, з маноклем у воку. «Ці не на фронт яны ўжо?» — дапытваў разносчык памідораў з пірамідаю чырвоных фруктаў на галаве. «Не павінна... Го, не — тут і вакзала блізка няма»,— адказваў прыказчык з рагавое булачнае.

Тут жа, недалёка ад Рыгора з Рудольфам, нікому не заўважаны, торкаўся ў натоўпе юркі, гарачы патрыёт, які знянацку, нечакана выгукнуў: «Слава муж-

най гвардыі!» Яго ніхто не падтрымаў, але мігам людзі рынуліся на выгук. Вачавідкі вырасла грамада, чый гоман заглушылі аддаленыя стукі падкоў кавалергардскіх коней.

Рудольф пацягнуў Рыгора за рукаў, і абодва пайшлі ў бок Біржавога моста. Калі яны апынуліся ля Васільеўскага вострава супроць будынка Заалагічнага музея, Рыгор спыніў Рудольфа.

— Я не нацешыўся з гэтага вобраза! — паказаў ён на Няву.

— Прыгожы, нечага сказаць... І цікава, бачыш, вонь у тым ражку, направа, Трубяцкі бастыён, дзе, напэўна, і зараз сядзяць рэвалюцыянеры, а наўскось, з другога боку,— Зімнія палацы з каранаваным катам.

— Хвалі стукаюць у крапасную сцену і ўсё не размываюць пакуль.

— Размыюць...

Яны яшчэ некалькі хвілін спыніліся на эпізодах рэвалюцыйнага змагання, пасля пайшлі ўсцяж Універсітэцкае ўзбярэжнае, да трамвайнай спынкі.

— А ты ж куды думаеш ехаць? — пацікавіўся Рудольф.

— Я... як табе сказаць, да аднае свае знаёмае... Навіны вязу...

— Навіны?

— Так... надоечы арыштавалі нашага агульнага знаёмага.

— Арыштавалі? Завошта?

— У скутку забастоўкі... Чытаў мо?

— А то думаў — не?.. Так, цяпер з гэтым сцеражыся-а...

— Дык вось...

Рыгор агледзеўся.

— Сам баюся... Прымаў удзел у сутычцы з паліцыяй на Ломанскім завулку...

— Ты? Ого! Дай руку...

— На Выбаргскай старане ўзмоцненыя арышты, трухі, аблавы... А пападзіся — звяжуць з Смагінам, успомняць Рыгу — ты ж ведаеш, чаго казаць...

Рудольф засмяяўся.

— У Смагіне пра твой ад'езд — ні шушу... Нават мой бацька нідзе нічога не чуў... Дзе ты, браток, бачыў, каб у гэткі час ты быў у станавога на вуме. Іншая рэч — Ломанскі завулак... Я такі і спадзяваўся,

што ты не мінеш гэтага. Адчуваў, калі ўпершыню спаткаўся... Ну, мой бацька дагэтуль успамінае цябе — хоць і не ведаў, што ты быў пад наглядам.

— Вітай, калі пісацьмеш...

— Бацька тут...

— Бацька твой, тут? — здзівіўся Рыгор.

— Прыехаў са мною...

— Ёсць справы?

— Так... бачыш, мы немцы, як табе вядома, а цяпер...

Пад'ехаў трамвай і не даў дагаварыць Рудольфу.

Рыгор ужо з пляцоўкі вагона запытаў Рудольфавага адраса і толькі паспеў улавіць: «Дзесятая лінія»... Знятая для развітання шапка адгарадзіла ад яго вушшу нумары дома і кватэры. І тут якраз ён успомніў, што забыўся запытаць пра лёс адданага яму Паўла Памыйкі.

## IV

Падвешаны над брамаю нумар паказваў на дом, у якім жыла Ганна.

Рыгор узышоў на ганак параднага ўходу, каб паглядзець кватэру. Яе над дзвярыма не значылася — стаялі чотныя лічбы, а Ганна жыла ў кватэры 35. Трэба было ісці ў двор і там шукаць. Рыгор накіраваў у прачыненыя варотцы брамы.

— Вы да каго? — спыніў яго чыйсьці голас.

То быў дворнік, прытуліўшыся да цёмнае сцяны і не заўважаны Рыгорам.

— Я ў кватэру нумар 35. Скажэце, дзе яна?

— Направа, чацвёрты этаж...

— Дзякую.

На ўсходах Рыгор раптам спыніўся і сам сябе запытаў — ісці?

Не даўшы адказу, рашуча пайшоў угору. Не заўважыў, калі злева глянула на яго вядомая лічба.

— Не чакае, зразумела,— падумаў Рыгор і пазваніў.

Шагі, што застукалі па той бок дзвярэй, не дазволілі думаць. Хутка ў дзверы прасунулася бабуліна галава і запытала:

— Вам каго?

— Мне Ганну Завіру, яна дома?

— Уваходзьце. Направа другія дзверы. Пастукайце — у яе хтосьці ёсць...

Цёмны калідор узбіў Рыгора на нейкую шафу. Ён папрасіў убачэння і пачуў ззаду сябе:

— Стукайце.

Рыгор не паспеў падняць рукі, як Ганна выбегла на калідор і пазвала:

— Сюды, Рыгор... с-сюд...

Яе голас перацялі спазмы...

— Добры вечар... Неўпару?

У драбнюткай каморцы, дасціпна прыбранай, усё ж беднай на выгляд, пры акне сядзеў якісьці мужчына. Не разглядаючы яго, а шукаючы, дзе б палажыць шапку, Рыгор падышоў да малюпаткага століка, з падстаўнікам для кветак.

— Магчыма, паперашкодзіў? — не гледзячы на Ганну, запытаў ён.

— Кінь, што з табою, Рыгор?.. Сядай, вось, і будзь, як у дому... Мне сорамна, што я нічога... Хіба пачакай, а я мігам збегаю...

— Ганна, ты...

Рыгору, аднак, хацелася есці, і здорава. Гэта ён адчуў, калі злез з трамвая. Ён хапіўся,— бач, дарэмным быў яго намер перапыніць Ганну.

— Ты, вось, пазнайся з таварышам і пасядзеце ўдваіх.

Рыгор міжвольна абярнуўся да акна і ўгледзеўся ў твар Ганнінага знаёмага.

— Не пазнаеш? — запытала Ганна.

— Не.

— Артура Цвібеля? — праказаў той.

Рыгор утаперыўся вачыма ў адну кропку і праказаў:

— З Рыгі? Ведаю!

— Помніш сходку і... Наталю?

Рыгор падняўся з месца і падышоў да чалавека з працягнутаю рукою. Ужо ён яскрава бачыў перад сабою перапоўнены людзьмі пакой. Наталін вобраз уклініўся між яго і Артуравымі вачыма.

— Але, якім жа чынам? Ганна?

Стук дзвярэй, за якімі Ганна схавалася, быў адказам на Рыгоравы словы.

— Я з Ганнаю толькі тыдзень таму як пазнаўся.

І дзе, і як — проста цікава... Мая жонка працуе разам з ёю ў экспедыцыі. Я, аднойчы, зайшоў да яе, а тая вазьмі і звядзі мяне з Ганнаю. Разгаварыліся — і выявілася, што абое з Рыгі... Калі ж кранулі рыжскага жыцця, знаёмых, так першым чынам — абое ўзбіліся на цябе... Паверыш — каб хто мяне завяраў, што я з табою сыдуся тут, у Пецярбурзе — махнуў бы рукою... А, тым часам, праўда... І як нутром чуў, што ты прыйдзеш сюды... Давай, думаю, заскочу па дарозе і запытаю, ці бачылася з табою... Я жыву вось тут, на Нікольскай; калі ласка, заходзь — буду вельмі рады... Успомнім старое, хоць і недалёкае...

Яны трымаліся адзін у другога за руку. Ніводзін не памыкаўся разняць таварыскага прывітання. Адначасна абое прыселі каля століка, як звязаныя... І толькі закавыляўшае пад Рыгорам крэсла заставіла яго мімаходзь аберуч хапіцца за апорныя пункты: за шыляванне акна — адной рукою, а за сцену — другою. Аднак гэта камічнае становішча не выклікала ні ў адным водгуку. Праз хвіліну маўчанкі Артур загутарыў далей:

— За гэты год, таварыш Рыгор, я многа гора нацярпеўся. Мяне разлічылі з завода ў Рызе хутка пасля твайго арышту. Я перш прабаваў паступіць на другі, але, як па згаворы,— усюды адбой. Тады я напісаў ліст таварышу ў Пецярбург — той парадзіў прыехаць. Не думаючы доўга — злажыўся і ў дарогу... што ж нам, пралетарам, доўга раздумваць? Пакідаць нечага, а сям'ю за рукі і ходу... Прыехаў у Пецярбург і, паверыш, добра ўладваўся. Астаўся на працы... Заработак быў не дрэнны... Раптам — забастоўка... Ці ж у маёй натуры не быць першым? І, што ты думаеш, гэтымі вось рукамі накінуў масцеру мяшок на голаў... Пасля дазналі і ў чорныя спіскі. Куды ні паткніся — адказ... Як і ў Рызе... Тады я кінуўся на другое — мяне ўперлі ў арцель каталёў... Ну — там не вытрымаў... А зараз з паўгода бадзяюся па дробных майстэрнях. Заработак — як кот наплакаў... Дзякуючы Міхасю Камару — мо, помніш яго? — удалося жонку ўладзіць на службу, і гэтак кідаюся... З агню ды ў полымя...

Рыгор уважліва слухаў, прапусціўшы між вушэй успомненае Артурам імя Камара.

— Круціць, браце, жыццё нас, як вецер саломіну! — праказаў ён.

— І яшчэ як круціць!..

— Але, вось, мне здаецца, што не сумее зламаць! Ха-ха-ха! Не дамося-а!

Рыгор, а за ім Артур, як па згаворы, падняліся з месц, каб праверыць свае сілы, ці сапраўды іх хопіць не падацца жыццёвай нязгодзе.

У гэты момант стукнулі дзверы, і ў пакой увайшла Ганна. Не патураючы ні на вошта, загутарыла:

— Сустрэла, выпадкова, Міхася Камара... Прасіла зайсці... Але ён спяшыў кудысьці... і ніяк не мог уварваць каліва часу... Вельмі прасіў днямі яго наведаць...

Ганна паведамляла гэта з перабоямі, засопшыся, уладваючыся з небагатым сервізам, які складаўся з дзвюх талерак, аднаго нажа і відэлак. Яна спяшалася, і гэта паднімала нервовасць — у скутку якой пару разоў выпаў з рук нож і чуць не павярнуўся стол...

Рыгор настаражыўся, пачуўшы імя Міхася Камара, але затрымаўся распытваць, пакуль Ганна не ўраўнаважыцца...

— Вось... цесната, бачыце... даруйце-э, чым хата багата...

Яна паглядзела на мужчын.

— А зараз і самавар... Не болей дзесяці хвілін, перапрашаю...

Ганна памкнулася ў дзверы — Рыгор пераняў:

— Міхась Камар, кажаш? Як жа ён, адкуль і што?

— Хіба ж табе Артур не казаў?

Ганна мігнула ў дзверы, падаўшы пра сябе знаць стукам самаварнае трубы ў калідоры.

— Я ж табе казаў, Рыгор, што маю жонку Міхась у экспедыцыю ўладзіў!

— Міхась Камар? А яго адрас?

— Я запытаю ў маёй жонкі — тая ведае... Кожны раз можам зайсці да яго... Ды Ганна, напэўна, знае...

— Я мушу быць у Камара... Ганна?

Тая шмыгала то ў пакой, то з пакоя... І клапацілася пра гасцей.

— Як на ліха — жаднае цягі...— ні то казала яна сабе, ні то скардзілася гасцям.

— Вы бы кінулі, Ганна, з самаварам,— праказаў Артур.— Мы зараз пойдзем і дзе-колечы па дарозе перакусім...

— Па дарозе... а Рыгор, магчыма, і не абедаў, праўда?

— Ты ўгадала,— пасмяяўся Рыгор,— з завода і да цябе — глядзі, во...

— Вось бачыце...

Ганна яшчэ парсцей завіхнулася каля гарбаты. Цяпер яна пакінула гасцей і ўжо з'явілася ў пакой з гарачым самаварам.

— Сядайце-э, прашу вас! — пазвала Ганна Рыгора і Артура.— Выпіце па шклянцы гарбаты...

П'ючы гарбату, іх гутарка цярпела ад нязвязнасці, часта пераходзіла з тэмы на тэму. І гадзін за дзве часу яны стала вырашылі толькі адно пытанне — гэта пра тое, калі пабываць у Міхася Камара.

Падвешаны на сцяне гадзіннік выбіў дванаццаць.

Артур падняўся з месца.

— Няўжо поўнач? Даруйце, я пабягу...

— Жонцы абяцаў? — пасмяяўся Рыгор.

— Позна, позна, браце...

Ён па чарзе развітаўся перш з Рыгорам, пасля з Ганнаю і накіраваў у дзверы.

— Чакаю... Думаю — не адкажаце мяне наведаць? Ганна? Рыгор?

— Абавязкова.

— Будзь пэвен.

Ганна правяла Артура за дзверы.

## V

Яшчэ даносіўся стук Артуравых шагоў па каменных сходах,— калі ў Рыгора з Ганнаю пачалася шчырая прызнаная гутарка.

Рыгор сядзеў, апёршыся локцем рукі на столік, напружана глядзеў у пабляднелы твар Ганны і казаў:

— Каб ты ведала, Ганна, я прыйшоў да цябе як да бліжэйшага мне чалавека... Ці чула ты — арыштавалі Петруся. І з дня на дзень можна чакаць...

Ён зацішыў голас.

— Пятрусь бурыў Калтаўскую мануфактуру, а я... а я змагаўся з паліцыяй і казакамі ў будынку на Ломанскім завулку. Сказаць табе — добра, смела і дружна бараніліся. Але нас купка, а вакол дома — сіла ворага... За поўнач былі пераможаны, уцяклі з дому, і ўжо праз некалькі хвілін я напаткаў бяспечныя патрулі коннае паліцыі... Што ж аставалася надалей? І мы

пайшлі працаваць. А зараз — вораг робіць расплату — кожны момант я гатоў ачуцца побач з Петрусём... Ты чула?

— Я, я добра чую...— растрывожана праказала Ганна і змаўчала.

Маўчала, а на твары гусціўся глыбокі роздум. Насторожаны ўзрок камяніў вочы; у кутках губ прабягалі нервовыя ўздрыгі. Было відаць, што дзяўчына аддалася пачуццю няпэўнасці за Рыгора.

— Зноў можа стацца...

Ганна не даказала — нервовасць скрала словы.

Дзяўчына тут жа павярнулася да акна, каб захаваць ад Рыгора сваё хваляванне.

Рыгор яскрава адчуў у сваім нутры Ганніна становішча.

— Цябе непакояць мае навіны? — узяў ён Ганну за руку.

Тая шчыльна да яго наблізілася, палажыла яму на плечы руку і адказала:

— Табе небяспечна на кватэры...

За дзвярыма пакоя прашамалі чыесьці крокі.

— Начаваў бы ў цябе, але цесна, няёмка ад гаспадароў кватэры і...

— Нічога, Рыгор. Начуй, прашу я...

— А ты?..

Рыгор пацепам плеч дакончыў сэнс нявыказаных слоў — ці не завялікаю інтымнасцю будзе гэта для яе. Ганна зразумела яго лепш, як бы чула выразны бессумненны сказ.

— Кажу табе, Рыгор, нічога... Я як колечы, а ты... а табе будзе месца...

Нельга было не паверыць у Ганніну шчырасць. Рыгор шустрым узрокам акінуў пакоік Ганны. Тая засмяялася.

— Цесна, ну ж у цеснаце — не ў крыўдзе... Няпраўда мо?

— Чаму ж няпраўда!..

І шчырасць сваіх слоў Рыгор падмацаваў поціскам Ганнінай рукі.

Для іх абаіх было ясна без далейшых слоў — што ўсё зладзілася як мае быць, само сабою, выпадкова, але неадменна і натуральна. Тады нечага вяртацца да гэтай тэмы, можна пераходзіць да чарговых пытанняў.

І ў Рыгора, і ў Ганны мелася процьма планаў і на-

мераў, якія вымагалі неадкладнага абгавору і вырашэння. Многія з іх былі агульнымі для абаіх. Кожнаму яны здаваліся трапяткімі, вострымі і грунтоўнымі.

Ды ніводнаму не хацелася варушыць язык, каб не перабіваць запойнае цікавасці ўзаемнага сузірання. Сарамлівае і няёмкае для другога разу, зараз прымалася за звычайнае і зразумелае.

Яны маўчліва глядзелі адно другому ў твар і тут жа ўваскрасалі цікавае, яснае і ў той час невыразнае мінулае. У гэтым мінулым мясцілася багата характарных рысак і глыбокіх момантаў. У ружовым воддалеку гэтыя рыскі і моманты яшчэ болей выпукляліся, адшліфоўваліся і ў прызме бягучых хвілін давалі хвалюючае праламленне.

Над іх нерухомымі постацямі насілася палкае натхненне, малюнковыя надзеі; расла і фармавалася тая жыццедаўчая сіла, якая хавае ў сабе субстанцыю людскога бытавання. І Рыгор і Ганна адчувалі неабачныя ланцугі, якія вязалі іх падсвядома і свядома, адным канцом замацаваўшыся ў Ліцку на станцыі, другім — вось у гэным пакоіку...

Болей года часу, што разлёг між іх першым і апошнім спатканнямі, звузіўся, стуліўся ў нязначны квадранец і знік... Знік, але не без следу... На кожным з іх — яго адбітак, выразны і вачавідкі. То ж ім зацікаўлены абое, седзячы і вывучаючы адно другога.

Рыгор не выпускае з вока жаднае дробязі ў Ганнінай перамене. Ён бачыць кожную рысу яе пасталеўшага і пахарашэўшага твару. Вось гэты спакойліва-ўглыбёны ўзрок пабуйнеўшых вачэй; пахудзеўшыя і ад таго падаўжэўшыя шчокі з паўпатухшым ружам; не высокі і не нізкі лоб, так характэрны для нажытае Ганнай сур'ёзнасці. Даўгаваты, з непрыкметнаю гарбінкаю, стройны нос; як часнок, белых і чыстых, два рады зубоў. Выразнасць цёмна-шэрага ваччу і той жа шоўк хвальністых льняных валасоў. У хадзе — болей гібкасці, болей дынамічнае рухавасці. У постаці — непараўнаная эластычнасць...

Рыгор падмячаў у Ганне агульныя з Наталяю манеры ў завіхах. Тая ж, гэтак моцна запаўшая ў яго нутро парыўчатасць; тыя ж навароты і сталёвыя замахі рукі. Мэрам бы нехта знарок прыдаў гэту якасць год таму зусім непадобнай дзяўчыне. Адзін толькі год — праўда, вельмі даўшыся ў знак Ганне — зрабіў з Рыгоравае

знаёмае зусім іншую істоту. Гэта перамена выйшла ўдала пагоджанай, закончанай як знадворку, так і знутра.

Перад Рыгорам стаяў чалавек, да якога нельга было не прасякнуцца глыбокаю павагаю; роўна з гэтым — цяжка было не падацца да яе і цёплым каханнем. Калі б ён думаў шукаць сабе сябра — можна было б спыніцца на Ганне і кропка. Ды зараз, знаходзячыся з ёю сам-насам і далёка без афармленых намераў у адлегласці гэтага пытання, ён адчуваў, што Ганна бліжэйшы і раднейшы яму чалавек. Яна цалкам адпавядае яго запатрабаванням... З боку натуральнага падбору, безумоўна, і сам дзядуля Дарвін не падкапаўся б. Так! Жыццё — вялікі мастак іператворца! Варта было ад Ганны адняць мацеру, перакінуць яе ў новае месца і ў іншыя абставіны, як з яе выйшаў чалавек, падобнага якому — пашукаць.

Цяпер Рыгору былі зразумелымі паводзіны Ганны, калі яна знарок наведала яго мацеру і гэтак цёпла абышлася з ёю. Зараз было ясна, чаму яна гэтак клапатліва чакала яго, а, стрэўшыся,— пайшла ў шэрагах маніфестантаў. Вось-вось яна ўся — у гэтых клопатах пра яго, у зацікаўленасці стрэчамі з Артурам і Міхасём Камаром.

— Я ўспомніў, Ганна,— перарваў зацяжную маўчанку Рыгор,— гэта ж ты была ў Сілцах. Дай я табе падзякую за тваю ўвагу да мае старое.

Рыгор прыхіліў Ганну да сябе і надарыў яе пацалункам.

Гэта было для яе нечаканым і разам з тым надзвычайным.

Надзвычайным і глыбока дзіўным, бо нішто не паказвала гэтага. Ганна ўверана глядзела на Рыгора, як бы супроцьстаўляючы сваю праназаватасць яго востраму ўзроку. І год нябачаны Рыгор вырастаў перад ёю ў мілы, зачароўваючы вобраз. У ім збіраліся Ганніны пераблытаныя надзеі, за ім разгортваліся заманчывыя перспектывы. Але тут жа, побач, Рыгор здаваўся халаднаватым і сухім. Прынамсі, у ім не знаходзіла Ганна таго, што б дазволіла ёй паспавядацца яму ад душы. Намякне возьме пра што-колечы гэткае, а той, бачыш, і не спадабае.

Рыгораў пацалунак вярнуў дзяўчыну да поўнага давер'я.



Цішка Гартны. 1924 г.



Цішка Гартны з маці і дачкой Галінай. 1925 г.

— Ты ведаеш, Рыгор, як я па табе сумавала. Я не знаходзіла выйсця ў сваім жыцці і не цікавілася яго будучыняй... Той вечар, калі я наведала цябе па слядах першага спаткання, той вечар акрэсліў усё... Я не злавала на цябе, застаўшы разам з Наталяй; я даравала пазнейшыя непрыемнасці і болі; я толькі не даравала аднаго — гэта немагчымасці цябе замяніць другім... Разумееш ці смяешся?

Ганна апусціла вочы. Ціха выказаныя думкі рабілі шолам, гудзелі ў вушшу, і навостранасць у чаканні Рыгоравага слова — навостранасць была таней валаска. Вось-вось плаўкі зык, пушчаны з мілых, гарачых вуснаў сябра-таварыша кране па ім і...

— Што б я ні сказаў, гэтага будзе мала...

Другі пацалунак ажывіў яго словы.

У гэтым пацалунку крылася тое, за чым адчынялася поўнае ўзаемнае паразуменне далейшага.

Адчуваючы гэта, яны спакойліва пайшлі настрэчу адпачынку.

## VI

Назаўтра была нядзеля. Ужо зранку горад жыў пад уражаннем маніфеста пра вайну. Па напаленых сонцам тратуарах тупалі тысячы пецярбуржцаў, пераказваючы апошнія навіны. Яны, гэтыя навіны, далей адсякалі ўсякую няяснасць, розныя падзеі і сумненні. Вайна санкцыянавалася подпісам «божага памазальніка». Вайна ўзаконьвалася воляю таго, каму пакуль не кінулі пакарацца мільёны. Вось іх, гэтыя пакорлівыя мільёны, ап'янены крывёю сатрап, з «божым імем» на вуснах, блаславіў на бойню.

Кожны, чытаючы белыя лісты на сценах камяніц,— не быў упэўнены, што «божая міласць» не падставіць яго грудзей пад кулю. Суворая сапраўднасць трымала пецярбуржца ў душным горадзе. Адны з іх вылічвалі гады, успаміналі час прызыву і абмяркоўвалі планы далейшага жыцця іх сем'яў, другія будавалі намеры, вывучалі абставіны і падрахоўвалі будучую нажыву. Гэтыя апошнія з асалодаю чакалі моманту, калі з балкона Зімняга палаца «самадзержац усерасійскі і прочае» пачне чытаць маніфест «сваім вернападданым», першыя пасылалі праклёны крываваму «благавернаму» чытальніку.

Рабочыя аколіцы назбіралі класавую помсту.

Рыгор выходзіў ад Ганны а дзесятай гадзіне раніцы, умовіўшыся чакаць яе на Каменаастроўскім, каб пайсці вечарам у оперны тэатр Народнага дома. У яго не было думкі выязджаць за горад.

Агульны настрой жыхарства, ахапіўшы Рыгора на вуліцы Пецярбурга, рабіў гэты дзень цікавым і памятным днём. Рыгорава чуласць да агульных сутрасенняў надавала яму вострасці ў перажываннях бягучага моманту.

Едучы з Пад'ячаскай на Выбаргскую, ён уважліва прыслухоўваўся да кожнага жывога гуку, да маленькага шораху.

Яркая сонечная пагода не скрашала яго чакання тых ці іншых надзвычайных водгукаў на абвяшчэнне маніфеста. Грамадкі гараджан, растыканыя па баках вуліц, каля белых квадрацікаў паперы, выглядалі ў Рыгоравым ваччу знаёмымі вешчунамі вялікіх падзей.

Пераязджаючы Малую Няву і пазіраючы на срэбра вады, ён бачыў яе застыглы спакой. Як і ў кожны дзень, шнырылі па яе прасторах шутаўскія лёгкія параходзікі; яны пярэсціліся букетам святошняе публікі. У Пятроўскім парку — кішмя кішэла людзьмі. З гікам і піскам падкідаліся высока ўгору качэльныя лодкі. Памерна круціліся скрынкі на карусельным калясе. Заліхвацкі зырылі бубны і гудзелі медныя трубы аркестраў. Сярод людзей блыталася ранейшая колькасць бяспечных салдат.

«Няўжо іх не кратае жах вайны? Або ўжо яны перадумалі маніфест, перабалелі яго сутнасць і вярнуліся да бягучых спраў?» — падумаў Рыгор, цяпнуўшы плячыма.

Кватэрная гаспадыня сваім настроем крыху выясніла гэта.

Стрэўшы Рыгора на парозе ў кватэру, яна ў упор праказала да яго:

— Цяпер ужо вайна — факт... Гуляй і думай пра заўтрашняе.

— Так! Гуляй і думай пра заўтрашняе!

— А цару — хоць бы што: падпісаў і на трон,— дадала яна.

— А вось людзі маўчаць, мэрам так і трэба,— не даючы сабе адчоту, выліў Рыгор накіпеўшую злосць.

Гаспадыня паківала галавою і ўхмыльнулася.

— Людзі... што людзі... ёсць розныя людзі... Адным — вайна і слёзы, а другім — вяселле і пацеха...

У гэтым сказе простае кабеты, мяшчанкі-абывателькі, хавалася доля мудрае ісціны. Перад ёю спасаваў і Рыгор, спакойліва заўважыўшы:

— Так, Сарафіна Хлораўна, так; вы праўду кажаце.

— Або ж не так? Паспрабуй перайнач... Вось казалі ж людзі, якія маніфестацыі ўчора былі ў спагаду вайне... Нават быццам бы якіясьці падстаўныя рабочыя прымалі ў іх удзел... Так... мо ж чулі, колькі трухаў прайшло мінулаю ноччу?

Рыгор паціснуў плячыма:

— Не чуў!

— Заўтра пачуеце...

Гаспадыня трымалася стаічна, і словы з яе вуснаў ліліся, як з якогасьці бяздушнага механізма. Яе абывальскі спакой і спакойная аднакавасць моташнілі Рыгора.

Схаваўшыся ў сваім пакоі, ён чуў, як за дзвярыма далей гудзеў голас бескалапотнае гаспадыні. А ў гэты час за сценамі дома, у агромністым горадзе, па ўсёй вялікай краіне насіўся крывавы віхор вайны.

— Да мяне ніхто не наведваў, Сарафіна Хлораўна? — запытаў Рыгор гаспадыню ў прачыненыя дзверы.

— Вас?.. Ой жа, ой, даруйце-э, Рыгор Міхасевіч вось вам пісулька. Утрапёная я баба... Сапраўды, ■ доўгімі касамі, а з кароткім розумам. Загаварылася, стрэўшы вас, а экстранае справы... Дзяўчына якаясьці прынесла і вельмі прасіла тэрмінова перадаць...

Даючы выгляд вінаватай, гаспадыня рухава замітусілася па кватэры і хутка прынесла Рыгору пісульку.

— Я хацела запытаць вас, хоць і недарэчы, ці не былі вы на Дварцовым пляцы?

— Чаго?

— А маніфест слухаць... Цар жа меўся чытаць яго з балкона Зімніх палацаў... Усе-ўсе ішлі туды.

Гаспадыня чупырылася... Чытанне царом маніфеста мела на яе куды больш ўплыў, чым яго сутнасць.

— Н-ну яго з гэтым...

Рыгор не даказаў — не таму, што было неўпару і не на месцы, а таму, што, літары запіскі перабілі сказ. Ён, не зачыняючы дзвярэй, прачытаў нястройныя радкі

дзявочага характару і раптам настаражыўся — запіска была ад Гэлі.

«Няўжо Гэля ў Пецярбурзе? Як то магло стацца?» — праказаў Рыгор уголас, і тут жа пачуў адказ гаспадыні:

— Я так і ведала, што гэта ваша знаёмая. Але, даруйце мне, ад яе нясе падазронасцю.

Рыгор на гаспадыніны словы нічога не адказаў. У пяць хвілін ён пераадзеўся і пайшоў да назначанага Ганне месца.

Яго думка мігам вярнулася на кватэру, дзе Сарафіна Хлораўна збіралася ісці на Дварцовы пляц.

Сарафіна Хлораўна — адна з тысяч філасофак звычайнага непарушнага бытавання. Вось табе ўзрокі на вайну, вунь табе адносіны да маніфеста, а побач думкі пра няведаную ёй дзяўчыну. Чым то Гэля паказалася ёй падазронаю, цікава? Ха-ха-ха! Няўжо яно... «Але я вазьмі і не распытай гаспадыні, што ж Гэля сказала, падаўшы пісульку? Адкуль і як яна трапіла да мяне?»

Эпізод з Гэлінай запіскаю аднімаў Рыгораву ўвагу, пакуль ён не дайшоў да Каменаастроўскага. Яго не перабіла нівошта, хоць на рагу Дваранскае Рыгор найшоў на громкі крымінал з непакорным пасажырам трамвая. Паліцэйскі нахабна тузаў сярэдніх гадоў чалавека, свістаў камусьці, а вакола гукалі зусім неласкава для гарадавога. Праўда, тут не мелася сувязі з ваенным настроем. Рыгор прыкмеціў гэты настрой, калі падблізіўся да Троіцкага моста. Тут было відаць, як гушчы людзей плылі ўзад і ўперад праз гарбатыя пралёты моста.

— Рыгор, сюды-і! — пераняла яго Ганна.— Задумаўся-а нечага? Мо зноў нядобрая навіна? — дадала яна.

— А і то — навіна,— ухмыльнуўся Рыгор.

Ганна змяніла міну — навіна не абяцала быць непрыемнай.

— Кажы пра яе...

— Во,— Рыгор дастаў з кішэні Гэліну пісульку.

— Зямлячка прынесла, Гэля,— ёсць такая... Неспадзявана — і таму загадліва.

— Чаму загадліва?

— Таму, што зусім нядаўна я спаткаўся з ёю ў Смагіне, а гэта ўжо яна тут... Але пабачым далей, а цяпер — пойдам у Народны.

— Так... Ну, ты ж ведаеш, што там за опера?

— Здаецца, ці не «Тарас Бульба»? Ды аднакава... Важна...

Рыгор не дасказаў, у чым хавалася гэта «важна». Цяганіна з білетамі, за якімі яму прыйшлося стаць у чаргу, перабіла думкі.

Калі яны ачуліся ў фае, Рыгораў настрой вачавідкі падняўся і расхваляваў яго нутро. У тэатр сабралася процьма багатае, шыкознае публікі, якая не па моманце выглядала бяспечнай і самадавольнай. Элегантныя вайскоўцы выгіналіся перад расфуфыранымі панямі, заліваліся робленым смяшком. За сценамі будынка яны хаваліся ад усяго таго, што было страшнага і праступнага ў царскім маніфесце.

Раззіраючы навакол, Рыгор карцеў жаданнем выкінуць якую-колечы штуку, хоць блазенскую, недарэчную, але такую, якою можна было заставіць вось гэту плойму адваротных яму людзей замітусіцца, уз'юшыцца, пачуць, што ў іх пад нагамі — не цвёрда. Шэраг казачных камбінацый мігнуў у яго думках, завярцеўся ў шалёным лёце...

— Хадзем, хадзем, ужо трэці званок,— перабіла яго Ганна.

На іх хлынуў гулкі, порсткі натоўп гледачоў і панёс з сабою напрамкам да ўходу ў глядзельную залу.

Яны не паспелі знайсці месца, як агні пагаслі і ў глыбіню агромністага прастору будынка прагудзела:

— Марсельезу-у-у! Марсельезу-у-у!

Адзіны гук хутка зліўся с цэлаю гамаю настойных вымагальных крыкаў да аркестра, каб той прайграў марсельезу, як рэвалюцыйную песню. Крыкі верхняга яруса запоўніліся рэдкімі выгукамі ў розных канцах тэатра.

У адказ на іх — аркестр дэманстрацыйна зайграў «Божа, цара храні». Пранёсся беглы шорах па ўсёй зале, і партэр, амфітэатр ды першы ярус — падняліся як адзін. Выбухнула маніфестацыя за вайну, подых якое з прыходам у тэатр абдаў Рыгора гідотай.

Як стаяў, ён увесь закалаціўся ў пазыве абурэння і на ўсю сілу гукнуў: «Далоў вайну-у!» Яго выгук востра ўрэзаўся ў звонкі аркестр.

Ганна нервова тузнула Рыгора за крысо жакеткі і ўдала засланіла сабою з боку насупліва глянуўшага ў яго бок таўсцяка.

З пярэдніх месц азірнуліся ў іх бок каля дзесятка чалавек; іх вочы гарэлі жывёльнаю злосцю.

Рыгор незаўважана, паўз сцэну, прайшоў да выйсця ў фае і да канца іграння гімна ачуўся на трэцім ярусе.

Ён ужо праходзіў да свайго месца, як на ўспыхнутае святло ў тэатры панеслося з чацвёртага яруса новае дружнае — «Марсельезу-у! Марсельезу-у!»

Святло зноў пагасла, ды гукі не змаўкалі. Аркестр зацягнуў «Марсельезу», і ёй насустрэчу хтосьці прагукаў Рыгораў лозунг: «Далоў вайну-у-у!»

Рыгор звычна запляскаў у далоні.

Ганна тузанула яго за рукаў.

## VII

— Гэта ж трэба, цэлым тыднем не даць пра сябе жаднае весткі... Я ўсё чакала, што авось наведаеш, авось кінеш адкрытку, а ты...

— Перша давай прывітацца, а тады ўжо будзем ушчуваць... Якая ты, Ганна... Ласне можаш вымеркаваць, каб усё ішло па плану... Думаў ужо, што чацвяргом абавязкова зайду, а, тым часам,— навярнулася сходка і затрымала... Тады адклаў на сёння...

— А я, паверыш, трывожылася за цябе... Колькі розных думак перабрала... Усё ж, па-мойму, ты неасцярожліва трымаў сябе ў тэатры... Ці ж гэтым згрозіш каму...

— Згрозіш... Ха-ха-ха! Няхай паслухалі... Задумаецца, каму трэба...

Ад пункта сустрэчы на рагу Вазнясенскага яны прайшлі да Пад'ячаскай і завярнулі налева.

На вуліцы было ціха і цемнавата. То насустрач ім, то абганяючы іх, хадзіла шмат пешаходаў, болей жанчын. Зрэдку чуліся гучныя пярэклікі, лаянкі і піскі.

— Тут шмат жулля і...

Ганна ўскорыла хаду.

— Ты спяшаешся, каб не спазніцца? Яшчэ ж дзевятая толькі. Напэўна ж, Камаровы чакаюць? — прагаварыў Рыгор.

— А ласне яны ведаюць, што мы зойдзем сёння?

— Не ведаюць? А я ж думаў...

Яны ачуліся на Нікольскай. Якраз прабег трамвай і ажывіў сваім гукам маўчлівы квартал. З-пад перакід-

нога мосціка праз Фантанку глядзела некалькі сінявавых газавых ліхтароў.

Ганна, падняўшы галаву ўгору, прыглядалася ў вокны будынкаў. Яе хада зацішала. Рыгор патвараў.

— Вось, глядзі, на чацвёртым паверсе пара асветленых вокан? Гэта якраз Камарова кватэра. Пераходзім на правы бок...

— А ці варт сёння ісці да іх?

— Ну, ты ж ехаў знарок...

Хутка яны апынуліся ў дзвярах. Ганна першаю пайшла па ўсходах. Рыгор адставаў. Да чацвёртага паверха ён адстаў на два пралёты і нагнаў Ганну, калі перад ёю ўжо былі адчынены дзверы ў кватэру Камара.

— Нешта цяжка мне даюцца вашы паверхі,— праказаў Рыгор у цёмны калідор кватэры.

— А як жа я — кожны дзень па некалькі разоў,— адказала Ганна.

— Ото ж і тое...— дадала жаночая асоба, стоячы ў ценю за дзвярыма.

— Мой Міхась штораз, калі ўзыдзе наверх, праклінае і ўсходы, і дом, і людзей, якія яго будавалі... Чамусьці не любіць, ды годзі... Па мне ж, хоць бы што...

— Ну, убачайце, мы без попыту промся ў дзверы...

Рыгор прыпыніўся і прытрымаў за руку Ганну.

— Ці хоць гаспадар удому? — запытаўся ён.

— Дык жа чакаем, напэўна, вас... І Артур Цвібель разам...

На іх гутарку адчыніліся дзверы бакавое каморкі і з іх прасунулася галава мужчыны. Рыгор кінуў да яе вострый, напружаны ўзрок, але не знаходзіў знаёмых, памятных рысаў. Выцягнуты твар з французскаю рыжаватаю бародкаю, з высокім ілбом, худым доўгім носам і заўпалымі шчакамі не перадаваў ранейшага Міхася. Няўжо і ён паспеў так змяніцца? Ці, магчыма, Рыгор згубіў з памяці яго рысы?

Пераступаючы парог у каморку і наблізіўшыся тварам да твару Камара, Рыгор улавіў арыгінальнасць і плаўкасць Камаровага ўзроку, яго заўсёдашнюю ні то сяброўскую, ні то іранічную ўхмылку, скрадзеную тонкімі губамі і ўпаласцю шчок.

— Рад бачыць свайго вучня,— прывітаўся Камар.

— Не меней рады стрэцца са сваім настаўнікам,— адказаў Рыгор.

— А мы ўжо і надзею згубілі вас дачакацца. Праз

увесь тыдзень чакалі — авось прыйдуць, авось... Мяне тады Ганна так заверыла, што я думаў назаўтра ж вас бачыць у сябе...

— Цяпер такая пара, што і на гадзіну наперад не ўгадаеш,— падаў Артур.

— Так, пара бурлівая... Ці думалі мы, памятаеце, хлопцы, пра гэта ў Рызе? Ніколі. А зараз... Але сядайце, вось... Бярэце хто крэсла, хто на канапцы...

Камар увіхаўся каля гасцей, пераастаўляючы з месца на месца крэслы і прымаючы ад іх галаўныя ўборы.

— Яшчэ ўсё не ўсталяваліся акурат. Пакуль агойтаешся — час імчыцца... А з банка не возьмеш...

— Міхась! — пачулася з калідора,— хадзі сюды...

Камар у пару хвілін выбег з пакоя і звярнуўся назад...

— Прызнавайцеся, хто галодны? — запытаў ён.— Та жонка, вось, яешню згатуе ці што-колечы з мяснога...

— Да не, не, не! — у адзін голас заадннекваліся Рыгор, Ганна ды Артур.

Камар крыкнуў у неадчыненыя дзверы — гарбаты! — і стаў перад гасцьмі так, каб бачыць усіх траіх.

— Я здаволены, што нас доля зноў сабрала разам... Праца і змаганне да таго зближаюць людзей, што цяжка, бывае, расстацца... Калі, вось, цябе, Рыгор, заарыштавалі, я проста занудзеўся... Хоць мы і разыходзіліся ў поглядах, аднак — то ў дробязях, а мэты нашы — роўныя... Няпраўда, мо?

Рыгор ухмыльнуўся і гэтым заставіў Артура з Ганнаю павярнуцца да сябе, а Камара — настаражыцца.

— Не згодзен? — запытаў Камар.

— Згодзен, але не цалкам... Я прыпамінаю нашу сходку і вашу асцярожлівасць наконт забастоўкі, памятаеце? — адказаў Рыгор.

— Тады ты быў не праў — здарэнні паказалі. Няхай, вось, Артур скажа.

— Гэта з якога боку судзіць,— падаў той.

— З усіх бакоў, таварышы...

Камар прайшоўся па пакоі, азадачаны Артуравым адказам.

— Не, з усіх, хлопцы; дарэмна вы ўпіраецеся... Палезлі б напралом — было б крыві па калені...

— Без гэтага не абысціся... Болей крыві не пральеш, чым яе вымагае вайна. А, між тым...

Камар задумаўся і некалькі памаўчаў.

— Часамі патрэбна і вайна,— уверана праказаў ён.

— Каму? — перанялі яго ў адзін голас Рыгор з Артурам.

— Ды хоць бы нам, рабочым... Хто не глядзіць у сутнасць рэчаў, той гэтага не разумее... Нямеччына здаўных імкнецца закабаліць Расію і гэтаму трэба зрабіць канец... Вайна апраўдваецца гістарычным і сацыяльным развіццём нашае краіны...

— Нават так?..

У Рыгоравым голасе задрыжалі ноткі абурэння. Ён моцна сціснуў кулакі, пусціў злосную міну па твары і падняўся з месца. Бачачы гэта, Ганна настарожліва сачыла за яго паваротамі.

Відаць было, што Камарова гутарка хапіла Рыгора за жывое.

— Дык вы па слядах нямецкіх сацыял-дэмакратаў? І, магчыма, разам з іншымі маніфеставалі за вайну?

Вострасць гэтых пытанняў, рубам пастаўленых Камару, Рыгор не лічыў надмернымі і недачаснымі і вызоўна чакаў на іх адказу.

— А, думаеш, нямецкія сацыял-дэмакраты не правы? Што ж, браце, па-твойму, для рабочага не павінна быць дарагою яго радзіма? Яны не кайзера бароняць, а заваяваныя імі вольнасці... Пераможы расійскае самадзяржаўе — тады ланцугі няволі патаўсцеюць удвойчы. І парламент, і агульнае, тайнае права выбараў, і свабода саюзаў — усё паляціць да чорта... Тое і з намі: пераможа Нямеччына — прускі бот растопча нас, як чарвяка. Мы не павінны быць калоніяй нямецкага капіталу...

— Ха-ха-ха! Артур, чуеш?

Рыгор зрабіў некалькі крокаў да Камара, ажно той паправіўся на месцы.

— А вы, дзядзька Міхась, вельмі пакахалі путы роднага капіталу. Вы хочаце будаваць краіну пагоджана з памешчыкамі ды генераламі радзімага пахаджэння. Ганьба! Я не чакаў ад вас гэтага, таварыш Камар. Ніколі. Замест аднакава суворае вайны з нашымі, гэтак і з нямецкімі ды французскімі капіталістамі, бюракратыяй і памешчыкамі ды з сістэмай капіталізму — вы агалашаеце грамадзянскі мір. Цікава, калі вы сталі гэткім заядлым патрыётам? Ці не натхніў толькі вас цар чытаннем маніфеста перадпародня? Не

чакаў, не... Знача, па-вашаму, усе збірайцеся вакол прастола цара-бацюшкі і нішчыце праклятага кайзера... Ну і ну! Н-ну — і... Не чакаў, кажу вам...

Пакуль Рыгор казаў, і Камар і Артур спрабавалі перабіць яго сказы сваімі ўстаўкамі, але ён паднімаў голас і глушыў іх.

Для яго не было змякчаючых даных для Камара. Апошні стаяў перад Рыгорам у новым вобразе, за якім хаваўся акрэслены, выпуклы і адваротны Рыгору змест. Гэты змест цьміў сабою ўсё тое, за вошта Рыгор хапаўся, будучы павінным Камару. Пачуццё прыязні, бліснуўшае на Рыгора пры першым прывітальным слове з боку Камара — зараз знікла. Камар быў для яго чужым і далёкім чалавекам. Нават абставіны — пакой з усімі яго атрыбутамі, пачаў выглядаць беспрытульным і варожым. Яго паветра давіла і замыкала Рыгоравы гартань ды вусны. Хацелася зараз во безумоўна і дэманстрацыйна рушыць з месца і выбрацца за сцены Камаровай кватэры.

Рыгор пад уплывам гэткага настрою павярнуўся да акна і доўга не зважаў на спробу Камара працягнуць спрэчкі, увесці ў іх большае тлумачэнне і абкругленне руб. Ён скланяў на ўсе лады гучныя словы, як «рабочыя інтарэсы», «вярнейшы шлях», «да перамогі працоўных», «ідэалы будучага».

Для Рыгора яны мелі зусім танны эфект.

Было вачавідкі адно — атрутная хвароба буржуазна-мяшчанскага патрыятызму ўлілася ў нутро акрэсленага кола рабочых. Ці то недасканалае ўразуменне асноўных прычын сацыяльнага развіцця грамады, ці то пахіл у бок дробнабуржуазнага светаадчування — адно ■ двух збочыла іх ■ правільнага шляху. І гэта — была бяда. Гэта дало магчымасць на нейкі час затармазіць рост рабочага нездавальнення вайною. «Урад пастараецца выкарыстаць гэткіх Камароў для сваіх інтарэсаў»...

— Ганна, а ці нам не пара пайсці? — запытаў Рыгор сярод настарожанай маўчанкі.

— Так, вам усё роўна не вырашыць сёння закранутага пытання. А часу, во — каля дванаццатае.

Яна паднялася і падбегла да акна.

— А табе ж ехаць блізкі свет!

— Паспееце, чакайце-э, хоць вып'ем гарбаты,—

пераняў Камар.— Арына, што ж у цябе гэтак марудна? — прагукаў ён у дзверы.

У дзвярах паказалася Камарова жонка.

— Я даўно гатова, ды ўсё вас чакаю. Калі ласка, нават падагравала ўжо самавар. Ці ж вас дазавешся? Быццам які клуб, або што... Га-га-га! Ту-ту-ту... Ідзіце ж...

Гаспадыня заківала галавою і пайшла ў суседні пакой. Камар гасцінна паказаў рукою ўслед жонкі, запрашаючы гасцей.

Артур першым накіраваў за гаспадыняй.

— Ідзі-ы, ідзі-ы, Рыгор! Гарачая гарбата любіць гарачых людзей... Бачу ўсё ж я, што ты ні каліва не змяніўся за гэты час... Як прысак — так што і пышаш, і пышаш... Скажу, ведаеш,— Камар патрапаў Рыгора па плячы: — па-старому, магчыма, у наш час патрэбны і падобныя табе людзі. Ну, а я — я ўжо закарчэў на сваіх поглядах і болей ні ■ месца.

Рыгор нічога не адказаў. За сталом ён таксама маўчаў, несхаця п'ючы нясмачную яму гарбату. У яго нутры ўзрастала палкае хаценне мігам перанесціся ў іншыя ўмовы, напаткаць іншых, блізкіх сабе па настроі людзей і кампенсаваць гутаркаю ■ імі пачутае ад Камара. У гэтым настроі Рыгор паспеў усяго дапіць шклянку гарбаты, пасля чаго рашуча і настойна дамогся пакінуць застолле і пайсці з Ганнаю ад Камара.

## VIII

Толькі стукнулі зачыненыя дзверы, як Рыгор адчуў заўважную перамену ў настроі. Мэрам бы ён скінуў з сябе нешта ліпкае і агіднае. Нават прытухлае паветра сходаў студзіла кіплівую злосць і разганяла адваротнае ўражанне ад Камаровай гутаркі.

Ён уподбежкі спускаўся ўніз, пакінуўшы Ганну ззаду на цэлы пралёт.

— Чакай, Рыгор!

Стук крокаў заглушыў яе перайманне, і Ганна нагнала Рыгора ў дзвярах.

— Ты дэманстрацыйна выйшаў з кватэры! Ці варта было гэта рабіць?

— Не мог, паверыш. Не мог! Калі я слухаў Міхасёвы развагі, яны мне дапаміналі гідкія выгукі патрыятычных маніфестацый...

— Чакай...

З процілежных дзвярэй выйшаў захутаны ў шубу кароценькі, квадратовы чалавек.

— Вы выходзіце? — запытаў ён піскліввым жаночым голасам.

— А ласне ўжо запёрты вароты?

— Нельга, бачыце, іначай... Я прабаваў пакідаць незапёртымі да першае гадзіны, дык, што вы думаеце? — бяды набраўся. На адным тыдні тры кватэры абабралі. А-і-ы-эй! Колькі развялося жулля — не дай ты рады! Людзі надзвычай распусціліся. Ні табе закону, ні табе боязні... Зламысніцтва вакола: ідзе, хай бы цішком прайшоў, дык не: стукае ў дзверы, а то паб'е ліхтар. Ці ж гэта па-людску?.. Наш раён асабліва распусны. Тут з цябе сярод дня здзяруць паліто, ці вымуць паралез... А паліцыі — з агнём не знойдзеш — баіцца таксама...

Дворнік знарок марудзіў, бразгаючы ключом у замку і бобам сыплючы недарэчнымі сказамі. Ганне не сцярпелася, і яна падагнала яго, хапіўшы за замок.

— Я зараз, барышня, зараз... Нешта зацяе ключ,— схлусіў дворнік і дарэчы паскардзіўся: — Да таго скнары, што і замка людскога не купяць... Пэўна спадзяюцца на дворніка. За дваццаць рублёў у месяц гатовы рамонту патрабаваць за мой кошт...

— І ў вас больш ніякага даходу? — пацікавілася Ганна.

— Ат... часамі трапіцца добры чалавек і перакіне саракоўку якую, ды ці ж гэта лічыць... дапамогай? Дом, куды добрыя людзі баяцца зайсці...

Апошні сказ збянтэжыў самога дворніка.

Каб перабіць магчымае на яго рэагаванне з боку Рыгора з Ганнаю, ён порсцей замітусіўся каля замка і пад'ехаў да іх з ільсцівай дарадай:

— Я б сказаў, што вам лепш пайсці налева: там і людзей нядобрых меней і трамвай пазней ходзіць...

Ганна падзякавала дворніку за дваіх і дала яму некалькі медзякоў.

На вуліцы Рыгор пацікавіўся:

— Цябе ён хіба ведае, што так гасцінна стрэў?

— Так ведае мяне, як і цябе. Натура ўжо такая... Чалавека не прапусціць, каб не нагаварыць яму бочку арыштантаў... Міхась казаў...

— Кінь пра Міхася...— перабіў яе Рыгор.

— Што за знянавісць да чалавека! Ты робішся загадкавым для мяне, Рыгор. Ну, а калі хто не згодны з тваімі думкамі, ці ж можна абняхайваць яго, як чалавека...

— Не ў гэтым справа, Ганна. Па-першае — чалавек пазнаецца па яго думках, па-другое, гледзячы, чые думкі ён выказвае і як іх выказвае. Міхасёвы думкі — варожыя мне, як рабочаму, а выказ іх — насмешлівы і здзечны...

— Я б не сказала гэтага.

— Ты сентыменталістка, Ганна.

— Адкуль ты ўзяў?

— Цябе не кратаюць класавыя супярэчнасці...

— Х-хі-ха-хі! Рыгор! Навошта завострываць там, дзе не трэба. І ты, і Міхась — абодва рабочыя... Абодвух...

— Ды не роўна служым рабочай справе...

Працяжны гучны званок трамвая, што выбег з-за рагавога будынка, спыніў іх размову і хаду.

— Бяжы, паспееш! — штурхнула Ганна Рыгора.

— Куды ж ён ідзе?

— Хоць трохі ды падвязе.

— Бывай... Чакаю ў нядзелю...

Ганна паматала хусцінкаю ў бок пабегшаму ад яе Рыгору.

Па ціхай вуліцы залапацелі частыя стукі яго крокаў.

Ужо важаты намерыўся да ад'езду, калі Рыгор хапіўся за слізкі жоўты прэнт дзяржання. З разгону яго правая нага моцна стукнула абцасам у бакавіну вагона.

— Асцярожлівей! — заўважыў кандуктар і ўмомант працягнуў руку да сігнальнага шнурка.

Рыгор стаў на задняй пляцоўцы і паглядзеў назад.

У бок трамвая ішла якаясь жанчына; аддаленасць не дазваляла ў ёй убачыць што-колечы ўсвойнае Ганне. «А між іншым, яна мусіла накіроўвацца гэтай дарогай».

Рыгораў узрок прабег па цёмнай сцяне будынкаў і выцягнуў з галавы дагадку: «Здаецца, Ганна жыве вось у гэтым...»

Трамвай рвануўся наперад і параўняўся з адасобленай, зусім невядомай Рыгору будынінай.

«Ганна, напэўна...»

Зложаная думка дзесьці выслізнула з яго адзнання і пакінула па сабе пустое месца.

Было дарэчы, бо халаднаваты ветрык, што дзьмуў насустрач бягучаму трамваю, прыемна студзіў Рыгораў твар, навяваючы салодкае заспакаенне. Яму захацелася нейкі час пастаяць так аднаму, бяздумна любуючыся мігаючымі начовымі вобразамі сталіцы.

Высадзіўшы голаў, ён лавіў узрокам трапяткія агні ліхтароў, цьмяныя палосы каналаў і пералівы ў іх туманлівых адсветаў агню. Чорныя купы садоў і гіганцкія цені будынкаў хавалі сабою адрыўныя выгукі запозненых галасоў, крокаў і паліцэйскіх свісткоў.

Чароўнай карцінай мігнулася асвечаная заводамі Нява...

— Вам далёка ехаць? — знянацку для Рыгора запытаў яго кандуктар.

— А дзе мы зараз?

Кандуктар іранічна ўхмыльнуўся і паглядзеў у цёмны прастор.

— Выязджаем з Васільеўскага...

— А куды ідзе трамвай?

— У парк, на Пасадскую...

— Мне ў Лясное.

Кандуктар прысеў у кутку пляцоўкі між выхадам і маторам і заплюшчыў вочы.

У вагоне драмала пяцёра пасажыраў.

— Ці заспею я паравік?

Пытанне ў думках неспадзявана для Рыгора перавярнулася ў слоўнае і выклікала сабе адказ з боку кандуктара:

— Напэўна, яшчэ заспееце... Усё ж трэба спяшыць.

Гадзіннік на скрыжаванні Каменаастроўскага і Вялікага праспектаў паказваў палову другое.

Гэта наводзіла сумненне, Рыгор уподбежкі пайшоў ад Пасадскае напрамкам да клінікі Вілліе.

Ён пераходзіў Дваранскі мост, калі насустрач паказаўся трамвай. Нешта зарупела яму стаць і пагледзець у вагон. І якраз яго ўзрок напаў на знаёмы твар Якава Гіса.

— Не мыляюся?

Трамвай не дазволіў праверыць, хоць Рыгор яшчэ далёка праводзіў яго напружанымі вачыма.

Вераемнасць, мала калі падводзіўшая Рыгора, заварушыла яго цікавасцю.

Яму захацелася стрэцца з Гісам і ўспомніць рыжскае мінулае. Ды Рыгорава бягучае знаходзіла сабе ў Гісе прыемнае папаўненне.

Вялікі і шумлівы горад паступова выкрываў свае дадатныя для Рыгора магчымасці. Час ад часу кола яго знаёмых пашыралася, і водлуг гэтага паглыблялася зрашчэнне з сталіцаю. Ужо Рыгор не браўся астуджваць сябе адзіноцтвам. Ён не мог таксама дапускаць абмежавання ў далейшым знаёмстве. Кожны дзень гатоў быў надзяліць яго новаю стрэчаю, часта надзвычайнаю. Бягучы момант спрыяў таму: разварушанасць вайною закаржэлага ўстою і звычаёвай нармалізацыі адзначаліся раскіданнем ва ўсе канцы людское грамады.

І зусім дапушчальным былі думкі Рыгора напаткаць на вуліцах Пецярбурга любога свайго знаёмага. Міхась Камар, Артур Цвібель і Якаў Гіс — сведчылі за тое.

Адным днём, суздром, ён можа стыкнуцца тварам да твару і з Паўлам Адамавым Памыйкаю.

Ён успомніў яго, толькі выпусціў з ваччу трамвай, у якім паехаў бадай што Якаў Гіс. Успомніў і пашкадаваў, чаму б сапраўды Міхася Камара не замяніў Памыйка.

У гэтым падатлівым для рэвалюцыйнага ўплыву чалавеку Рыгор бачыў стойкага ваяку, падгатаванага агітатара і здольнага арганізатара.

Адгон прастору і часу, як праменні радыё, прасвяцілі перад Рыгорам Памыйкаву істоту і выявілі ў ім рэдкага чалавека.

«Трэба свядома і балюча самаўпікнуць за доўгую, манлівую маўчанку».

На добры лад і водлуг абяцанак, якія дыктаваліся Рыгору не пачуццём аддзякі, а таварыскай павіннасцю, Памыйка меў атрымаць ужо некалькі Рыгоравых лістоў.

А між тым... Абяцаная і асвечаная сумеснаю працаю, падмацаваная Рыгоравым словам, патрэбная сувязь паміж імі і сілцоўскімі таварышамі — рассыхалася. Рыгор недазвольна забыў пра гэта... Колкім дакорам адгукнуўся ў яго нутры ўспамін пра Памыйку.

Аголеная вінаватасць малявала перад ім разнастайныя дапушчальнасці, канцы каторых пачыналіся ад яго.

Смагін, як і Расія, стыкнуўся апошнім часам з нечуванымі фактарамі знадворнага жыцця. Кожны з іх мусіў так ці іначай адбіцца на дзейнасці мясцовай арганізацыі. Сталічны вопыт, хоць ускосна прыкладзены ў Смагіне, даў бы своеасаблівы адбітак кожнаму фактару смагінскага жыцця...

Так — паміж ім і Смагінам утварылася глыбокае правалле. Толькі і бачыў Рыгор — гэта намалёваныя Рудольфам Шульцам страшныя вобразы мабілізацыйных часоў.

Але... нават і ў Рудольфа ён не запытаў пра Паўла.

Ён садзіўся на паравік, вось-вось не ўцёкшы з-пад носа, а словы і сказы, цалкам вылітыя з разгорнутых і прызнаных выбачэнняў, стаялі ў галаве, як радкі лінатыпа.

Шпаркі бег паравіка Рыгор падганяў нервовым калываннем усяе постаці, рытмічнымі ўхіламі ў бок дымлівага лакаматыва. Паўгадзінная язда і квадранцовая хада ад спынкі да кватэры — паказаліся бясконцымі. Раздражнены на ўсіх, а на сябе болей, ён недалікатна ўварваўся ў кватэру, нават забыўшы прышчапіць дзверы, і, не распранаючыся, сеў за пісанне.

## IX

Зацяг, з якім Рыгор пасядзеў болей гадзіны над шэраю папераю, нагадваў пакорлівую споведзь перад Памыйкам. З адчыненага нутра выліваліся прызнальныя сказы вінаватасці і таварыскага перапрашання.

Ён пісаў і разам з тым драбніўся на маленькія частачкі, што ў руху электронаў імчаліся з ціхага пакоя далёкае сталіцы да закінутага Смагіна.

Вобраз Памыйкі ў мнагалікіх інтэрпрэтацыях неадступна лунаў над яго сагнутаю постаццю. Здавалася, што шамалі Паўлавы крокі і скігітаў у рытмічных паводзінах яго напільнік. Белы каўнерык Карла — Людвіга Шульца адцяняў разлахмачаныя косы смагінскага апрашчэнца.

Паказалася, мэрам бы ў ціхім шорпаце адколанай ад шулявання стромкі, якую непрыкметны ветрык разгойдваў пад цёмным акном каморкі,— выяўлялася нескладаная металёвая песня разгорнутай працы ў Шульцавай майстэрні.

І, разам з гэтым, Рыгор не чуў, як у пакоі гаспа-

дыні, за тонкаю перагародкаю, гадзіннік выбіў лічбу чатыры.

Пастаўленая кропка за чорнай стройнаю літарай Н набыла ўсвойнасць, з якою падняла Рыгора з месца і абярнула яго тварам да празрыстага святла пяцідзесяцісвечнай лямпачкі. Густа спісаны лісток паперы змяшчаў у сабе наступны тэкст:

«Дарагі таварыш Павал!

Нарэшце... Так, нарэшце, сабраўся напісаць табе гэты ліст. Я чую твае здзіўленыя, іранічныя выгукі і бачу недаўменную міну на твары. Разуверany мах рукі не раз пахаваў пад сабою ўсякую надзею атрымаць ад мяне вестку. Думаю, што з гэтым разам пахавана і тая павага, якую я ад цябе неаднойчы чуў. Я не серджуся за гэта, бо сам нясу віну. Вінаваты цалкам за доўгую неапраўдлівую маўчанку... Заслужыў ад цябе глядзець на мяне так, як ты, думаецца, зараз глядзіш. Усё ж, павер, я не думаў зрабіць таго, што сталася. Калі праз гэткі доўгі час мне не ўдалося, табе напісаць ліст, то не я цалкам вінаваты ў тым. Не я — цалкам! Можа, не паверыш,— бо крыўда ператне веру! З часу прыезду ў Пецярбург я вярчуся, як белка ў калясе. Сталіца засcала мяне ў сваё бурлівае жыццё і не давала магчымасці апамятавацца. Я толькі лічанымі ўрыўкамі мог адцягнуцца да прыватных пытанняў — здарэнні ж бягучага часу бяруць маю ўвагу для сябе. І я не пера-кору гэтаму. Ты ж ведаеш, чаго я ехаў у Пецярбург. Табе вядома ўсё гэта, і я не буду спыняцца на тым, як і што выпаўнены мною грамадскія абавязкі. Скажу адно: за гэты час я паспеў сёе-тое зрабіць... Ды ці ж у гэтым толькі мае заданні ў справе распачатае эпапеі змагання за светлую будучыню працаўнікоў? Але я зусім не ўмаляю свае віны перад табою. Я мусіў урваць гадзіну-другую часу і — не раз! — каб напісаць табе ліст і падзяліцца бягучымі навінамі. І не зрабіў таго! Не зрабіў і, магчыма, не пасобіў вашай працы...

Я чуў ад Рудольфа, што начаўплося за гэты час у Смагіне. Мяне вельмі цікавіла і цікавіць ваша праца ў час мабілізацыі. Не меней цікава мне ваша становішча зараз... Я б радзіў вам не згортаць працы, але пераглядзець яе метады. Суворы момант вымагае таго. Вайна — гэта найудзячнейшая тэма, толькі двуякавострая. Трэба брацца так, каб незаўчэсне парэзаць рукі...

Ліст не дазваляе даўжэй спыняцца на гэтым пытанні, бо мне цяжка судзіць пра вашу сітуацыю... Было б вельмі пажадана мець ад цябе вестку і, тады можна было б пагутарыць на гэту тэму даўжэй... Усё ж скажу, што тут, у Пецярбурзе, вайна балюча адбілася на настроі рабочых. Выбухнуўшая ў час прыезду Пуанкарэ забастоўка была расціснута жалезнымі клешчамі раз'юшанай ваеншчыны.

Усё ж рэвалюцыйны настрой не знішчаны, не. Ён часова прыціх, прытуліўся па кутках мілітарызаваных фабрык ды заводаў, у цесных каморках рабочых кватэр.. Магчыма, нейкі час вайна змывацьме крывёю працоўных маладыя парасткі рэвалюцыйнага нездавальнення, але... але стукне час і... адным напорам раскалыханай хвалі змыецца векавая няволя...

Я пішу, а ці прачытаеш ты мой ліст? Кожны дзень нам нясе нечаканасці. Мажа, цябе ў Смагіне ўжо няма, і мае словы трапяць на вушы чужым людзям... Не пісаць жа я не мог... Я мусіў гэта зрабіць, каб хоць некалькі апраўдацца перад табою. Няўжо мы не стрэнемся яшчэ? Не павінна таго быць. Бывае, што раптам, знянацку, прымхаю. Я гэта, у Пецярбурзе, ужо меў рад прыкладаў...

Моцна цісну руку. Перапрашаю за непавінную змяну і чакаю адказу.

Пішы на адрас: Пецярбург, галоўны пачтамт.

Да ўстрабавання Н. Г.»

Перачытаўшы напісанае, Рыгор астаўся не зусім здаволеным. Ліст не змяшчаў у сабе паўнаты перачуванняў, не выдаваўся выпукласцю думак і каструбаціўся вострымі адкрытасцямі. Бясспрэчна — у нутры наглядалася іншая карціна, і думкі адыгрывалі крыху інакшую мелодыю. Але трэба было лічыцца з тым, што ліст можа трапіць у чужыя рукі.

Рыгор не супярэчыў паўстаўшаму сумненню: толькі ўжо не мог перапісваць.

Згорнуты надвое, ліст уверана адправіўся ў канверт і сінім чатырохкутнікам лёг на відкім месцы стала.

Крохкі золак украдкаю пралазіў у акно Рыгоравага пакоя, калі гаспадар укладаўся спаць.

Электрычнасць плавала малочнаю юшкаю па ўтулах павыразнеўшых рубаў ды ліній.

Млосць, перамешаная з утомаю, плюшчыла Рыго-

равы вочы і гультайна падняла руку на затушку святла.

Лёгкая шэрань, аднак, не згладзіла шурпатасці неўгамонлівых думак.

Асобнымі сказамі, вырыўнымі словамі пралазілі яны праз нацягнутую на галаву коўдру, праз шчымеўшую галаву і бегалі па звілінах мозгу.

Перад заплюшчанымі вачыма камарамі скакалі характэрныя літары старанна напісанага адраса...

Душная падушка і мулкі сяннік патваралі гэтаму.

І толькі настойная незварушлівасць Рыгора пасобіла агарнуць яго цягучаю зморай.

Ужо над Выбаргскай стараною перагукваліся гудкі ды сірэны, калі Рыгор абудзіўся. Ложак прыцягваў яго да пасцелі, утома звязвала здранцвелыя суставы, але ён перамог усё гэта і з рэдкаю ўвішнасцю быў на парозе да выйсця з кватэры.

— Рыгор Міхасевіч! — пераняла яго гаспадыня.— Ці то не вы забыліся прышчапіць дзверы?

— Калі і якія?

— Я сёння зранку паглядзела — і яны без запора. Мяне перастрашыла гэта, і я...

— Я зашчапіў...

— Няўжо то я?

Гаспадыня падняла абодва плечукі і схіліла ўцягнутую ў іх голаў.

Рыгоравы частыя крокі рассейвалі яе робленае лішамер'е.

— Не сазнаецца! — уголас праказала Сарафіна Хлораўна, калі Рыгор выходзіў на двор.

Яе ўпік астаўся па-за хлопнуўшымі дзвярыма.

На вуліцы аколілі Рыгора разнастайныя гукі гарадское раніцы.

Распялешчанае жыццё адбівала трапяткую, рупную музыку руху, праводзячы Рыгора да завода.

На адгоне паўганоў адрыўны прарэзлівы свіст сірэны рвануў яго да паскоранай хады, і ў пяць хвілін асталіся пазадзе: клапатлівая чарада гаспадынь, дымлівы паравік і прысеўшы на лаўцы сторож.

Праз драцяную сетку зашчэмленае нумарное дошкі відаць было калыханне Рыгоравага нумарка, як напаследак падвешанага,— але яго ўладар у гэты час пускаў станок разам з іншымі.

Лёгкі, наладжаны вёрт калёсак і струнковая бе-

гатня паса пагналі ў шпаркім мігаценні першыя хвіліны працоўнага дня. З цвёрдае сталі панесліся драбнюткія часцінкі ўдушлівага пылу, зліваючыся з раздробам светлага і маладога рання. Учарашняе злучылася з сённяшнім, і перабойныя моманты Рыгоравых узрушэнняў ніклі ў шоламе творчае працы.

«А ліст Памыйку?»

Наперадзе быў абедзенны перапынак, і за ім утуліўся сіні канверт, беражком вытыркнуты з кішэні.

У думках яму не хапіла месца — ды навошта варочацца да зробленага?

— Вазьміце білет на даклад!

Закасаная мурзатая рука адгарадзіла Рыгораў узрок ад бліскучага станка. Ён адняў разец і паглядзеў направа.

— У доме Панінай... Трыццаць капеек!

Малады рабочы пытальна глядзеў на Рыгора, падаючы яму маленькую абвестку.

— Запішы.

Абвестка асталася ў яго і глядзела сумліўнымі літарамі, з якіх складалася знаёмая прозвішча Якава Гіса.

«На тэму — Страхавыя касы і іх роля».

Якаў Гіс?

Так, Рыгор не абмыліўся, стрэўшы яго ва ўчарашнім трамваі.

Дарэчы!

І нанова ўведзены ў кругляк сталі востры разец задыміў пакручастымі стружкамі.

З перарывам у полудні, роўна і ўпарта трымалі Рыгоравы рукі выгладжаную далонямі сталь, а думкі несціхана насіліся ад Памыйкі да Якава Гіса.

Ён адкінуў ранейшыя планы і меркаванні і роўна а восьмай гадзіне вечара быў на Тамбоўскай.

Вядомы будынак паглядзеў на Рыгора радам асветленых вокан, памятлівымі форткамі дзвярэй і праз некалькі хвілін увёў у сваё нутро.

Там стаяў разварушаны гоман. Каля сотні чалавек рабочых, згрудзіўшыся ў цесную купку, нешта горача абгаварвалі.

Калі Рыгор падышоў да іх, то зразу разбегся вачыма ў два бакі.

У асяродку гутарыўшых тросся чорны пук Гісавых кос, пакрытых старым капелюшом, а з бакавых дзвя-

рэй глядзела прадаўгаватае рыжае аблічча акалодачнага. Блішчастыя гузікі адсвечвалі зыркую электрыку, як вочы — трутлівую злосць.

Рыгор не паспеў запытаць, у чым справа, як акалодачны накіраваўся да купкі рабочых і голасна прагукаў:

— Гаспа-а-дда! Прашу ачысціць памяшканне!

Купка людзей зарухала і вузкім ланцужком палілася ў дзверы.

Адкрытае нездаваленне перабягала ззаду наперад у абураючай гутарцы пакідаўшых залу.

«Лекцыя забаронена — пайшлі!» — пачуў Рыгор.

То казаў Якаў Гіс.

— Ці да мяне?

Як нібыта той, Якаў Гіс пайшоў далей, пакінуўшы Рыгора ўбаку.

Таварыш Гіс! — нагнаў Гіса Рыгораў выгук.

Той павярнуўся і запытальна паглядзеў на задніх.

— Ты мяне не пазнаеш?

— Нязвычны?

Якаў Гіс шчыра патрос працягнутую Рыгорам руку.

— Адкуль ты папаў сюды?

— Заблытанымі сцежкамі.

— Я думаю.

— Сустракаю цябе ўдвойчы. Ты не быў, часамі, учора на Выбаргскай старане?

— Быў. А чаму?

— Паверыш, заглядзеў цябе ў трамваі.

— Мне пра цябе казаў Артур Цвібель... Дарэчы, ён тут. Давай, выйшаўшы, пачакаем.

За парогам абодва пасталі, праводзячы вачыма абураных забаронай лекцыі рабочых.

— Ці не прайшоў ён наперадзе? — усуміўся Якаў Гіс.

З дзвярэй выходзілі па адным чалавеку запозненыя, і нарэшце, з партфелем пад пахаю, паказалася сівая постаць акалодачнага.

Яны завярнуліся і пайшлі ўсцяж шырокае, бязлюднае вуліцы.

З-пад Абводнага канала беглі ім настрэчу два радкі сiняватых газавых агеньчыкаў. На Віндаўскай таварнай чуліся арцельныя выгукі насільшчыкаў ды манеўравыя свісткі стрэлачнікаў.

Працахкала конскімі падковамі пара рамізніцкіх каламажак.

— Табе далёка? — папытаўся Рыгор.

— На Пецярбургскую... але я мушу зайсці да знаёмага на Лігаўцы. А ты дзе жывеш?

— У Лясным.

Пры выйсці на Лігаўку яны стрэлі грамаду мабілізаваных. Яшчэ не пераадзетыя ў вайсковую форму, мабілізаваныя ўжо адмервалі ўзмоцненымі ўступамі прызначаную маршыроўку. Размераныя воклічы унтэраў і яфрэйтараў раўнялі несашчыльненыя шэрагі адвыклых ад ваеншчыны рабочых, сялян, служачых.

— Аць, аць! Аць-два, аць-два! Аць-два-тры! — перапевам няслося пад рытмічным гукам крокаў.

— Машына працуе! — заўважыў Якаў Гіс, спыніўшыся і абярнуўшыся да мабілізаваных.

— Яшчэ як! Дзе ні паглядзі — толькі і бачыш муштроўку. Вайна!

— Вайна... каб ды яна апошняя стала...

Якава Гіса перабіў раптоўны гоман расстроеных радоў мабілізаваных.

У іх была апраўка.

— Ну, я направа! — рушыўшы, праказаў Якаў Гіс.

— А мне проста. Заходзь!

— Абавязкова. Хоць успомнім рыжскае мінулае.

— Табато і то.

Яны развіталіся і хутка зніклі з ваччу адзін другога.

## X

Калі стаць на Дваранскім мосце і кінуць узрокам усцяж Малое Нявы, туды да выспаў — угледзіш вобраз, з якога не надзівіцца. Злева — пасля некалькіх кварталаў будынкаў — густая расліннасць Батанічнага саду, далей Аптэкарскага вострава, як машаставая сукня, падпярэзаная цёмна-сінім шоўкам Неўскае вады. Аб'інталяжаная раслінамі — здалёк, як Амазонка ў джунглях, Малая Нява губіцца ў купчастай зелені пышных раслін астравоў.

Гэта для адпачынку.

Насупроць — праца.

Доўгім правым берагам Вялікае Неўкі — спрэс заводы і фабрыкі.

Траскатня жалеза, бразак, гудзенне машын.

Густая загарадзь высокіх закураных дымам комінаў.

Над будынкамі — чорная хмара сажы. З сажы выглядаюць буйныя белыя ды чорныя літары назваў заводаў і фабрык.

«Кеніг».

«Пракатны».

«Парвіяйнен».

«Стары Леснер».

«Новы Леснер».

«Ніткавая мануфактура».

«Эрыксон».

«Ландрын».

«Суконная фабрыка Тарнтон».

Несціханая мэталёвая гама стукаў спрэснаю паласою вісне над спакойліваю вадою рэчкі. Яна глушыць плёсканне дробных хвалек у абложаныя падгнілым тынам берагі. У разгойданым працэсе творчасці, прыгоннай і вызысковай, расплываецца, як воск, па кішэнях прадпрыемцаў благааплачаная рабочая сіла.

Вайна ўзмоцніла вызыск працоўных і зменшыла да нічога і без таго правы рабочага стану.

У бразгу жалеза — звон генеральскіх шпор, у стуку малатоў — поступ абманеных салдат.

А побач, як жывыя, выплываюць празрыстыя здарэнні апошняй забастоўкі.

Узбярэжная маўчыць. Ні струменю пякучае пары, ні шумлівага гоману бязлікіх ламавікоў, ні рытмічных, напеўных выгукаў каталяў.

Затушанымі стаяць высокія коміны як сведкі замірання.

За ўпыленымі, закратаванымі вокнамі пануе спакой, як у пустках.

Жыццё кіпіць на незмярымым Сампсоніеўскім, у вузкіх, ператочных вуліцах раёна.

Песні, дэманстрацыйныя выгукі, хваляванне густога натоўпу рабочага калектыву звоніць у запёртыя дзверы фабрык і заводаў пагрозным вяшчаннем.

Туды, да зелені Батанічнага саду і ўпрыгожаных раслінамі астравоў, нясуцца рэвалюцыйныя напевы ўрачыстага паўстання.

Настарожаныя гулякі трывожна азіраюцца на бяз-

дзейныя гмахі закінутых прадпрыемстваў, пугліва верцячы галовамі.

Над Вялікай Неўкаю лунае ачулая здань незавіднага наступнага. Нацягнуты каўпак вайны не суліць даўгавечнай зарукі.

Гады, дзесяцігоддзі, што сплывалі хвалямі Вялікае Неўкі ў недалёкія глыбіні мора, уносілі з сабою прыгонныя скрэпы няволі.

Празрыстымі бліскавіцамі, ударамі грому прарываліся вострыя пратэсты рабочых грамад, парушаючы фальшывую гармонію жыцця.

1905 год!

Дзевятае студзеня. Першы Савет рабочых дэпутатаў і ўсеагульная забастоўка...

1912 год!

Далёкія, але магутныя водгукі ленскіх падзей.

Крывавае Бадайба, як адказ на 100 000 забастоўку 1911 года.

1914 год!

І на вуліцах сталіцы трохсоттысячная грамада з'яднаных адзінай прагнай воляй да свабоды рабочых.

З таго часу — перапынак.

Ці надоўга?

Ліхаманка ваенных паставак нагрузіла прадпрыемствы падвойным штатам рабочых, трыма зменамі і ваеннай прынукай.

Уздым прамысловасці?

Канфорка ў канаючы арганізм самадзяржаўя.

Калі ж, ды калі гэтыя хмурыя гмахі заводаў перавернуцца ў кузні вольнае аграмаджанае працы?

Прыйдзе час!

Ён ідзе — чутна! — у самым імпадзе згушчаных крокаў рабочых, у іх з'ядналых ды палкіх імкненнях, ва ўзроках, накіраваных да наступнага.

Роўныя ўтаптаныя дарогі паступова шырэюць і вострымі шпаркімі стрэламі імчацца ў нерастуманеную далечыню.

Рыгоравы ўзрокі прыліплі да блішчастых святлом вокан высокае мануфактуры.

У злітым гомане працы рассыпаліся яго імклівыя думкі і лётаюць — носяцца над фабрычнай Выбаргскай.

Дагэтуль мімалёт, наскокам бачыў ён гэты вобраз шумлівае мнагагараннае сталіцы, а зараз — штосьці

ці прыкавала яго да моста, злучыла ў адно з раскалыханай працай і трымае, вось, на адным месцы — гадзіну, паўтары, болей...

Над гарбатымі біламі — напружаная постаць...

— Здаецца, знаёмы?

Зніклы шолам пешаходаў, ездакоў і грукат трамвая, як з адкрытага віру, абдаў Рыгора з усіх бакоў.

Ззаду і з бакоў кіпела жыццё ў сваім несціханым руху, у нямоўчным гомане. З-пад гарбатага моста даляталі яго выгукі да Рыгоравых вушэй і ўпадвойвалі жывую песню існавання.

— Я! А вы?..

Ён не дасказаў. Знаёмы выраз чорных воч паласкаў яго пільныя ўзрокі. Стройны класічны нос дапамінаў...

— Сроль, калі не абмыляюся?

— Здароў, Рыгор! Угледзеў здалёк і перш усумніўся, а даля — давай, думаю, праверу і — нá табе! — Чаго ты стаіш над біламі моста?

— Ты даўно ў Пецярбурзе? Кожны дзень я стыкаюся з нечаканасцямі... Не ўпэўнены, што ў адзін момант...

— Дзе ж тая ўпэўненасць!.. А я еду якраз назад у Вільню. Была справа прыехаць, і так, ведаеш, не хочацца ад'язджаць, а мушу...

— Пачакай— дай адумацца... Чым цябе цягне Вільня?

— Мы павінны...

Набліжаныя да Рыгоравага вуха трапяткія вусны Сроля перадалі сакрэтную вестку з жыцця сацыялдэмакратычнае партыі, але не паспелі поўнасцю растлумачыць прычын. Сроля, нечакана для Рыгора, пазваў чакаўшы яго мужчына.

— Бывай!

— Так раптоўна?

— Мушу. Не аднаго справа...

— Пішы!

Сроль не паспеў адказаць, як Рыгор падаў яму мігам занатаваны свой адрас.

— Калі ўсё добра будзе, абавязкова напішу, а можа, і прыеду...

Той, хто трымаў Сроля за руку, паглядзеў на гадзіннік і падаў знак хутчэй спяшыць.

— Ці мне здалося, ці сапраўды я стрэў учора Карла-Людвіга Шульца?

— Магчыма...

— Асталося меней гадзіны! — няўмольна прагучаў басісты голас Сролевага таварыша.

Працягнутая Сролем рука ўжо не дастала Рыгоравай.

Над біламі моста, на адгоне перш двух сажняў, а вачавідкі ўсё болей ды болей — адтрапетвалі два капелюшы таварыскае развітанне.

Для Рыгора яно хутка затулілася шэрым змрокам пецярбургскае ночы, якая знянацку высунула гэта цікавае спатканне.

Сроль, як гном, цудам паўстаўшы перад вачыма, цудам і знік — толькі мігнуў яскравым вобразам у дынамічнай завірусе прабягаючых з'яў ды ценяў.

Напаўказачным паказаўся ён тым болей, што само тлумачэнне прычыны яго наезду ў Пецярбург асталося загадкавым.

У чым справа?

Сроль напіша?

«Калі ўсё добра будзе...»

Што б гэта азначала?

Стаючы спіною да Вялікае Неўкі, да руплівага мігацення фабрычных агнёў, да раптам узніклых зыкаў гармоніка з праплываўшае пад мостам лодкі, Рыгор угледзеў наперадзе густую купу людзей. Яна заліла сабою шырыню моста і запоўніла паветрам гаманлівым шоламам.

Як іскры з агню, з шоламу выскаквалі вострыя зычлівыя выгукі, мэрам пікі, насаджаныя на ўзнятыя ўгору дрэўкі.

Ён прыгледзеўся: у асяродку грамады, акружаныя густою загараддзю гарадавікоў, ішлі да дзесятка добра адзетыя, з цыгарамі ў губах, людзі.

Рыгор пераняў здаравеннага барадатага дзядзьку, чый твар плаваў у тлустай ухмылцы, а вочы ўпарта глядзелі наўкос, і запытаў:

— Каго гэта вядуць?

— Тэўтонаў! Шпегі! Вво-а- і-ім-ым!

Здаравенны дзядзька затрос над галовамі дзвюх жанчын тоўстым прыкасмачаным кулаком.

— Вот ім баронства! Аплялі, як павукі, сталіцу... Т-ту-дды-і.

— Куды? — пацікавіўся Рыгор.

— У «Красты», пакуль на шыбеніцу.

— Вы да іх маеце справу?

Здаравенны дзядзька мефістофельскі паглядзеў на Рыгора і зларадна адпавеў:

— А ты не маеш?

Яго нахабная рука накіравала да Рыгоравых грудзей, але папхнуты заднімі, здаравенны дзядзька капыльнуў галавою і строма апусціў руку данізу.

Праз хвіліну ён знік з Рыгоравага ваччу, расплыўшыся ў ценю захілу вуліцы.

На прымоўклы гоман аддаленай грамады імчалася хваля новых зыкаў і грукату звычайнага руху.

Адзін за другім, даўгім шэрагам прабегла да дзесяці трамвайных вагонаў, аплеценых цягучым боем званкоў.

Следам на мост уз'ехала першая падвода вярстовага ланцуга грузавікоў з мукою, жалезам, бочкамі.

Калі мост закалыхаўся ад грукату цяжкіх калёс, пераплеценага дзвенгам біцюговых падкоў,— над Малою Нявою ўзнёсся прарэзлівы спеў некалькіх фабрычных сірэн.

Уздоўж цёмнае, азоранае агнямі вады, паўз злітыя са змрокам парканы фабрык і заводаў, туды, дзе канчаюцца стромкія дзеравяныя будынкі аколіц — бегла шпаркая струмень перапоўненых зыкаў.

Над дрэвамі выспаў, у згушчанай цемры неасветленых мясцін, яны драбіліся на часткі, як феерверкі, і рассыпаліся ва ўсе канцы пераліўнаю мелодыяй.

Гэта дапамінала баявую пераклічку ці позву на рэвалюцыйную трывогу.

Або паказвала распаданне на звяны жалезных ланцугоў, што скоўвалі людскую свабоду.

Або сімвалізавала перабой малатоў у вызваленых руках творчага калектыву.

Цэлы пук узнёсных сімвалаў атуліў Рыгораву істоту, як празрыстым ззяннем сонца.

І ён урачыста, як волат, перад якім ляжалі трафеі яго перамогі, глядзеў у чорны струмень выходзіўшых з прадпрыемстваў рабочых.

У іх рэзвым гомане, у цвёрдай ды ўверанай хадзе наглядалася сіла, і воля, і лёс блізкага наступнага.

Захоплены радаснымі думкамі, Рыгор крануў з месца і пайшоў насустрэчу гаманлівай грамадзе — сёння нявольнікаў капіталу, а заўтра — гаспадароў жыцця.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

## I

Расія жыла пад знакам вайны. З усіх канцоў краіны накіроўваліся да яе заходняй граніцы сотні эшалонаў салдат, аружжа, адзення, ежы. Мільёны здаровых працаздольных рабочых і сялян адрываліся ад плённае, карыснае працы. Незлічоны лік гадзінных адзінак часу кідалася ў бяздонную процьму, на марнатраўства, на згубу жывых людзей. Па асірацелых сёлах затупала апусценне, заняпад. На свежых пожнях глыбей у зямлю палезлі карэнні былля, дзікатраўя. Загойсала здань недастач, разладдзя ў хатах. Настаражыліся сірочыя сэрцы ў чаканні вестак з франтоў чынных армій. Зацяжна, кружнымі шляхамі паўзлі яны, акрываўленыя, авеяныя смерцю, у белых канвертах, з няроўна выведзенымі літарамі да закінутых вёсак, у сумныя хаты. Цёплыя прывітанні бацькам, жонкам і дзецям з далёкіх мясцін стылі ў непрагляднай жудзе, енках і жалю. Невыразныя сэнсам рэчы, як назвы вайсковых часцей, аружных умацаванняў, камандных чыноў павісалі ў затуманеных слязьмі вачах. Гэтыя вочы выразна бачылі сляды, па якіх выходзілі з двара апалчэнцы ды ратнікі, а за імі коні, гавяда, збожжа. Попыт на гэту сялянскую вытворчасць падобіўся нейкай ліхаманцы, ліхому паветру. Казачная, зданнёвая вужака-вайна высмоктвала сокі вёскі, абязмоцваючы яе і спустошваючы. Засмучаны небасхіл хаваў сабою і блізкае наступнае і далёкае будучае.

Іначай выглядаў горад. Яшчэ іначай было ў сталіцы. Калі з аднаго боку і тут лунала здань небяспекі, дыхала атрутаю смерці, то побач з гэтым вайна надавала гораду больш руху, вялікшае ажыўленне, дынаміку. Горад, а асабліва сталіца, зрабіўся бурлівым катлом, у якім кіпелі прагавітыя пачуцці разнастайнага характару. Шалёна несліся ўгару акцыі фабрык і заводаў, на якіх пачалася вытворчасць для патрэб вайны. Шпарчэй завярцеліся аперацыі банкаў, выбіліся напаверх новыя дзяльцы з небывала драпежнымі апетытамі, з цікаваю надзённаю смякалкаю і пракуратасцю. Вышэй падняла галаву шматлікая разбэшчаная пампадурская ваеншчына. Гандляры мясам, абуткам, збожжам і многім, што стае патрэбаю дня, пашы-

ралі і без таго ўёмныя кішэні для лёгкага заработку. Нават дробнае чынавенства і тое пачула сябе лягчэй: недастача ў мужчынскай сіле падняла попыт на апошнюю, а следам — вырас заработак. Водлуг часовага разбухання матэрыяльнае забяспекі, афармлялася і расло спекулянцка-патрыятычнае, карысна-фальшывае пачуццё любві да «зняважанай радзімы». Тупаючы па шырокіх тратуарах праспектаў, падлічваючы даходы мінуўшага дня, нагароду і выйгрышы па акцыях — генералы, купцы, фабрыканты, банкіры і іх паслугачы самаўсхвалялі пераможнае «воінства», траслі кулакамі па адрасу немцаў і праглі несупыннага пашырэння вайны. «Зараз-зараз прыйдзе на падмогу французам Італія».

У тэатрах і кабарэ загулялі чучалы Вільгельма і Франца-Язэпа. Адурманеная ваяцкай атрутаю прадажная прэса пакрылася карыкатурамі, шаржамі, пародыямі і сатырамі на ўсё нямецкае. Вобраз немца падаваўся страшнейшым за ўсё на свеце. Раслі, як на дажджы, надзеі на гасціннасць у Берліне, на захоп Дарданел і вызваленне Балкан. Але за надворнаю мыльнаю пампезнасцю ваяцкасці чулася, таілася коўзкая няўпэўненасць і нават баязлівасць. Не чулася апоры пад нагамі.

Адсталасць і бязмоцнасць, якія пакрываліся барабанным боем прафільтраваных газет, хавалі ў сабе пагрозу жаданай магутнасці, звону, цяжкіх жандарскіх шпор. «Доблесная гвардыя», накіраваная на Кёнігсберг, «слаўныя» сібірскія стралкі, пушчаныя прасцейшым шляхам, праз кут Польшчы, на Берлін, фартэцыі і дзьмутая адважнасць камандуючых арміямі, пастаўленыя на вайсковую ногу заводы — усё-ўсё гэта абмінала чаканнем выступлення Амерыкі. «Толькі ўмяшаецца Амерыка — і немцам да каляд капут». Ну, ці ўмяшаецца гэта залатая пані, далёкая ад фронту і не столькі ўблытаная ў інтарэсы ваюючых краін? Будзе ж умяшаецца, то на чыім баку?

Амерыка здрочыла радзімых ваяк-храбрацоў, інтрыгавала кожнага, хто звязваў з вайною тую ці іншую выгаду сабе. Новы свежы нумар газеты, вячэрнія навіны, чуткі з «аўтарытэтных колаў» і проста безгрунтоўныя плёткі — перагаворваліся, крытыкаваліся, надавалі новых надзей і глыбейшай веры.

Драпежныя пачуцці і крывасмагныя ўзрокі нязмен-

на накіроўваліся ў бок захаду. Назад, на цёмныя і брудныя аколіцы горада, на пусцеючыя раўніны сялянскае краіны,— ніхто з моцных свету не азіраўся. Там, па-іхняму, панаваў спакой, паслухмянасць і пакора. Ды чаму б таго не быць, калі падкаваны абсац наступіў на горла мільёнаў працоўных і трымае іх пад сабою? Памкніся паварушыцца — раздавіць, зацісне.

«Наперад перамога — а далей рэформы». Гэта мусяць узяць сабе на розум усе, хто дабрачынны і верны сын радзімы. «Жывыя сілы краіны павінны зліцца ў адно цэлае і непераможнае». «Толькі тады настане светлы дзень, калі Расія выйдзе з цяжкага іспыту неаслабленай і не загубіўшай мінулай славы». Масляныя сказы і калысныя ўгойданні засмуродзілі паветра апойным дымам, згусціўшыся над горадам...

Але першыя сутычкі на франтах расхалоджвалі завуаленую сапраўднасць. Фронт казаў пра іншае. Калі не кожная куля, то адна з дзесяці, з дваццаці несла з сабою смерць. Гэтых жа дваццатых было так многа, што людзі гінулі адзін за адным, сотнямі і тысячамі. Падалі мёртвыя і падалі параненыя: ні «святасць» расійскага аружжа, ні «доблесць» расійскае арміі, ні «блаславенствы» цара і бога — не абаранялі ад нямецкіх куль. І паступова, дзень за днём, тыдзень за тыднем усё галаснейшым рабіўся енк параненых, звязаны з енкам разлучаных. Лазарэты і шпіталі выраслі, як грыбы, перш паўнейшыя клопатамі ды дбайнасцю, а што далей — чарсцвейшыя, закіданыя.

З герояў і абаронцаў — раненыя рабіліся надазолаю, лішніцай. Той, хто на старонках газет апяваў іхнія адважныя ўчынкі, у трамваі злаваўся і мармытаў лаянкі, што яму недзе сесці з-за абрубкаў людскога мяса.

Сталіца не павінна стыкацца з праявамі вайны! Сталіца — бач, яе палацы і вілы, Неўскі і Сергіеўская, мусяць быць злучанымі з вайною толькі прыказнымі кіўкамі пальцаў у белых рукавіцах.

Вайна ж рабіла сваё.

## II

Завод, на якім працаваў Рыгор, падпаў пад рубрыку працуючых на абарону. На працягу першага месяца ваеннае чыннасці ён значна пашырыўся, лік рабо-

чых амаль не падвоіўся — былі ўведзены дзве поўныя змены. Тыя з майстэрань, якія прабаўляліся на вырабе вытворчасці для мірнага часу, перайшлі на выраб ваенных прылад. Гэткім чынам, вялізная армія людзей, колькасцю ў сем тысяч, была занята падрыхтоўкаю смерці. Агромністы чатырохпавярховы трохкутны гмах абярнуўся ў дасканала арганізаваную кузню людское згубы. У стройным сугучным наігрыванні соцень станкоў, у празрыстым бляску электрыкі гатовіліся дзень ада дня тысячамі штук адмысловыя бліскучыя трохцалёвыя і шасціцалёвыя снарады. Каб праца болей спорылася, рабочых увялі ў цесныя рамкі вайсковае дысцыпліны і падвышанага заработку. Спакойна, без слова перакору, пад напружным узрокам адміністрацыі — трэ было пакорліва стаяць над разцом і рэзаць, рэзаць цвёрдую сталь.

Узмоцненыя нагледачы, упаўнаважаныя сілаю і правам з боку вайсковае ўлады, зрабіліся грознымі падганяламі рабочых. Капіталістычны прыгон, звязаны з узброенай ваеншчынай, панаваў над рабочымі кварталамі сталіцы.

Нядаўнія здарэнні ацягнуліся дымкаю шэрасці і стуліліся ў ціхіх кутках прыгнечанае памяці. Раніцой а восьмай, вечарам а шостай цягнуліся чорныя ланцугі рабочых з завода і на завод. Густа набраныя балонкі газет, ад чарнасотніцкага «Гражданина» да левага «Дня»,— ні слова пра рабочае жыццё. Абцугі цэнзуры зырка сачылі за крамолай пісак.

Рыгор нейкі час знаходзіўся пад уражаннем нутранога прыгнёту. Яго ашаломвала халодная ціша паказнога грамадзянскага замірэння. Аднастайнасць штодзённага тупання з завода на кватэру і з кватэры на завод — надакучалі. Яшчэ цяжэй рабілася, калі ён варочаўся ў думках да Камара, Артура і ўспамінаў пра Петруся. Рыгор чуў, як некаторыя з рабочых, асабліва з большых майстроў, толькі і гутарылі, што пра справы свайго асабістага будзённага жыцця. Адзін хваліўся новым гарнітурам і палітом, другі — набыткам «абстаноўкі» ў кватэры, трэці — удала праведзеным часам з дзяўчынаю. У паветры насілася атрута дробных клопатаў мяшчанскага дабрабыту. І, як на бяду, лёгка і шчыльна прыліпала да адзінак рабочых пачуццё фальшывай надзённай патрыятычнасці.

Горай усяго, што не асталося жаднага месца, нія-

кай установы, дзе б рабочы сумеў сустрэцца з таварышамі і ўсебакова азнаёміцца з бягучаю сапраўднасцю. Культурна-прасветныя таварыствы, бібліятэкі і клубы паліцыя старанна прычыніла.

У звязку з апошнімі падзеямі і арыштамі сувязь з партыйным камітэтам на нейкі час была прыпынена.

Рыгору напрашваліся невясёлыя думкі, падкрадалася злосць. Ён часта-густа кідаў кватэру і ехаў да Ганны. Там з ёю, адзін на адзін, ён дзяліўся думкамі, планамі і надзеямі. Але гэтага Рыгору не хапала. З Ганнаю ён не мог належным чынам абгаварыць пытанне прыкрай сучаснасці. Многае ёй было незразумелым, іншае прымалася не з належным спачуваннем і цеплатою. Ганна болей спачувала Рыгору з прычыны яго незадаволенасці і нервовасці, чымся асуджала прычыны, якія гэта радзілі. Рыгор абураўся і лаяў Камара: «Вось гэткія, як Камар, многаму віною. Атрымаўшы капеечную падачку, яны гатовы аддаць за яе рабочыя інтарэсы. Замест таго каб будзіць у рабочых пачуццё рэвалюцыйнага настрою, яны разводзяць мяшчанскія антымоніі». Ганна супакойвала Рыгора, адыгрываючыся на ўвярэнні: «Пачакай — усё пераменіцца. Гэты самы Камар запяе зусім па-іншаму».

Рыгор не сумняваўся нізвання, што «ўсё пераменіцца». Але яго брала нездавальненне за маруднасць працэсу пераменчывасці. Перадваенная забастоўка ў Пецярбурзе, крута зметеная халодным заспакаеннем з часу абвяшчэння вайны, балюча раніла Рыгарава сэрца. Акольныя абставіны ціснулі яго жалезнымі абручамі, студзячы позывы, энергію, захапленне.

Рыгор вяртаўся да сябе і пачынаў шукаць падпоры ў тых праблісках непатухшых з'яў, якія іскрамі гарэлі ў рабочым асяроддзі. Ён разважаў: «Няхай сабе некаторая колькасць рабочых паддалася камароўшчыне, усё ж гэта хвароба не здолела апанаваць рабочым станам». Рыгор быў пэвен, што таварышаў з яго настроямі можна знайсці ў заводзе не адзін дзесятак. І зараз, пасля разгрому, пасля арышту многіх з іх спадцішка, асцярожліва, тайком абмацваюць грунт, пашыраючы яго пад іншых. У адзін час яны з'явяцца магутнаю грамадою ваяк.

Рыгор на ўсе лады камбінаваў розныя планы, якія б выклікалі набліжэнне жаданага моманту. Хвілінамі яго апаноўваў задзёр, з выгляду эфектыўны, па змес-



Цішка Гартны з сям'ёй. 1929 г.



Цішка Гартны з сынам Алегам. 1929 г.

це — рызыкоўны. Узважыўшы чыннасць і яе сруткі, прыходзілася адмаўляцца ад зданнёвых намераў. Часта жыццё не ўкладалася ў яго прагноз. Раптоўнасць здарэнняў абганяла смеласць намераў. З шэрагу іншых Рыгор не мог не вылучыць дадатным наступнага: наглядаючы за працаю цэха, майстар знячэўку папаў пад кавалак зломанага разца, які параніў яго ў галаў.

— Я прашу выбачэння! — перапрасіў яго збянтэжаны рабочы.

— Я злачынцам не выбачаю! Ім у нас не месца! Прашу з'явіцца за разлікам! — абурыўся майстар і крута павярнуў ад рабочага.

Ён не паспеў ступіць і трох крокаў, як мусіў спыніцца. Роўная струна станкоў раптам стала і замерла. Сумная цішыня маланкай пранеслася па майстэрні і абяліла майстра белізною спалоху... Скрозь туман ён убачыў перад сабою вострыя, як лозы, хмурыя ўзрокі рабочых, якія нерухома глядзелі ў яго застыўшы твар. Рыгор пачынаў шэраг ад сцяны і рашуча яго выгінаў, падаўшыся крыху наперад.

— Гэта яго сігнал! — паказваючы на Рыгора шаблаю, басам прагучаў палкоўнік інтэнданцтва, быўшы з майстрам.

Майстар ці не ўчуў, ці баяўся падтрымаць палкоўніка і ціхім умольным голасам праказаў у бок рабочых:

— Я прашу вас пусціць станкі. За свае словы прашу ўбачэння.

І, палажыўшы масляную руку на раненае месца, ён блытанымі крокамі павярнуў у бок канторкі. Нездаволеным пайшоў за ім палкоўнік. Рабочыя пусцілі станкі. Рыгор з незмярымаю асалодаю прасачыў доўгі ланцуг пахіленых да станка таварышаў і сам апошнім глыбока з запоем усадзіў разец у пажоўклую сталь. «Нумар выдаўся на славу,— пацешыўся ён.— Рабочыя паказалі ўзор яднання, прыклад рашучасці, дэманстрацыю пратэсту. Гэта значыць, што пад рассцеленым павучыннем знадворнага спакою дзейнічае, калышацца неўміручая сіла ўздыму. Успыхнуўшы, іскра запаліць полымя. Толькі ўмела яе раздзьмуць!»

Вечарам таго дня, выйшаўшы з завода, Рыгор паехаў да Ганны, каб падзяліцца з ёю свежымі навінамі з жыцця завода.

## III

Рыгор прыняў ад канторшчыка разліковую кніжку і паглядзеў на выведзены заработак: першы тыдзень верасня даваў яго новае падвышэнне. Рыгор зарабіў на дзесяць рублёў болей папярэдніх двух тыдняў. Гэта яго здзівіла і суцешыла. Час недахопаў, пабірання і ўпартых дапамінаў пра грошы — мінаў. Заработак абяцаў некаторую забяспеку. Яшчэ тыдзень-другі, і Рыгор сумее пакрыць першыя патрэбы. Выходзячы з завода, ён размяркоўваў, куды і на што прыйдзецца аддаць частку атрыманых грошай. Выяўляліся тры месцы першае чаргі: выслаць мацеры, звярнуць Ганне і пераслаць Петрусю. Толькі як гэта зрабіць? Мацеры выслаць — вельмі проста; знойдзецца падыход і да Ганны. Угаворамі, націскам на сяброўскае пачуццё ён сумее яе схіліць. З Петрусём — цяжэй. Прайшло больш месяца, як ён арыштаваны. Петрусёва маўчанка наводзіла Рыгора на падазронасць і неспакой.

Не павінна ж быць, каб яго так запраторылі, што аднялі ўсякую сувязь з вольным светам!

Рыгор да таго ўвайшоў у раздум, што не заўважыў, як абмінуў двор свае кватэры. Раптоўны вокліч прымусіў яго спыніцца. Ён азірнуўся і ўгледзеў накіраваўшую да яго Рыму.

— Рыгор, я вам нясу паклон. Думаеце, ад каго?

— Магчыма, ад...

— Так, ад Петруся,— пераняла яго Рыма: — сёння раніцою прынеслі ліст. І, ведаеце, ліст абазначаны пятнаццатым днём жніўня. Тры тыдні ішоў ад прадварылкі да Ляснога.

— Ён ішоў праз пошту?

— Хто яго ведае, як і што; паштовая пячатка ёсць.

— Дык зойдзем да мяне, і пачытаеце. Нам трэба будзе абгаварыць справу дапамогі Петрусю.

— Спатканне даецца два разы на тыдзень. Давайце, ахвяруем дзень.

Яны зайшлі да Рыгора. Пятрусь шчыльна аб'яднаў пачуццё абаіх, і яны прагавіта накінуліся на ліст. Рыма завучана прачытала яго Рыгору. Той выслухаў і пацяў плячыма.

— Ды што можна іншае пісаць? — запытаў ён ні то ў сябе, ні то ў Рымы.

— Але я рада і гэтаму. Нарэшце, хоць сэрца адлягло...

Выказаўшы гэта, Рыма змаўчала, мэрам бы чаго спалохаўшыся.

— Вы мне скажэце, Рыгор, ці гэта бяспечна для мяне, што паліцыя знацьме мой адрас і мае дачыненні да Петруся?

— Чаму вы пытаеце?

Уверанасць і цвёрдасць у Рыгоравых словах змянілі настрой дзяўчыны. Яна засмяялася і скарамоўна праказала:

— Ну і цудная ж я! Плявузгаю ліха ведае што! А каб і трапілася, што мяне заарыштавалі, ці ж бы н адна была?.. Фу-у!

— Кіньце-э, Рыма, з чаго вам прыйшло гэта ў галаў? — разуважыў яе Рыгор.

Дзяўчына зноў засмяялася і, каб скрасці вачавідкую нервовасць, ці то звязаную з Петрусёваю цыдулькаю, ці незалежную ад яе, перайшла на іншую гутарку.

— А я ўсё чакаю выпадку, калі вы звядзеце мяне з вашаю знаёмаю. Помніце, колькі разоў вы абяцалі мне гэта?

Рыгор паглядзеў на Рыму.

— Я добра гэта помню, але, да шкоды, рэдка вас бачу.

— Можа, мяне вінаваціць станеце ў гэтым? Я так і думала...

У Рымы па твары прабегла лёгкая чырвань. Яна падняла зрэнкі ўгару і з хвіліну глядзела ў столь. Пасля падышла да акна і столькі ж часу стаяла, адвярнуўшыся ад Рыгора.

— Вы мне даруйце, я мушу зараз ісці,— няўпэўненым голасам праказала яна, зрабіўшы пару крокаў ад акна.

— Я бачу, што вы ўсхвалёваны нечым, Рыма? — хапіў яе за руку Рыгор.— Вы пакрыўдзіліся, што я...

— Не, не-э... Я... Пятрусь, вы... Пусцеце мяне, прашу вас...

Рыма тузанула і вырвалася з Рыгоравых рук. Не праказаўшы слова і не азірнуўшыся на яго, кінулася ў дзверы і схавалася.

Здзіўлены яе паводзінамі, Рыгор пагнаўся ўслед ёй, але калі дабег да дзвярэй на сходы, Рыма ўжо сходзі-

ла апошнія ступы. Ён пастаяў, пакуль яна схавалася за сцяною, і вярнуўся ў пакой. «Што з ёю такое? — падумаў Рыгор.— Спаткалася, як трэба, а нарэшце — вунь што! Няўжо тут замешана нешта такое, да чаго маю і я дачыненне? Ганна? Знаёмства з Петрусём?»

Рыгор доўга раздумваў пра гэта, занядбаўшы і гарбатаю, і газетамі, і намерам праехацца ў горад... Толькі а гадзіне дзесятай вечара навеянае Рымаю пачуццё расплылося, і ён вярнуўся ў думках да Петруся.

Вестка ад яго, прынесеная Рымаю, нягледзячы на ўсё іншае, супакойвала Рыгора. Ёю вырашалася задача, якая так моцна захапіла яго некалькі часу назад. Цяпер аставалася адно: вылучыць дзень і пайсці да Петруся на спатканне. «Гэта трэба зрабіць, як найхутчэй, а то Пятрусь, напэўна, думае, што я пра яго і забыў». Рыгор спыніўся на бліжэйшым чацвяргу і перайшоў у думках да Ганны ■ мацерай.

Цікава, у якую ж форму выльецца гутарка з Ганнаю? Ён возьме і запрапануе ёй грошы, спасылаючыся на яе дапамогу мацеры, на яе недастатковы заработак... А Ганна? Добра ж, калі яна абмяжуецца голай адмовай, а калі...

Рыгор дапусціў, нарэшце, крануць сваіх інтымных адносін да Ганны. Яскрава прадстала яму гэта дзяўчына ў настроі замілавання і нутраное асалоды, дбайна хаваючы яго ад апаскі ў сваім цесным пакоі. Як міла і цёпла глядзелі на яго Ганніны мяккія вочы! Колькі ў іх спагады і братняе любасці! Якая яна ласкавая і гасцінная! Магчыма, Ганна лашчыць многа надзей... якія, аднак, далёка ад ажыццяўлення. Цікава ўсё ж выклікаць яе на адкрытую гутарку... Няўжо дзяўчына пра гэта не думала?

Думка за думкаю блытаным сплётам вілася ў Рыгоравай галаве. Водгукам на іх сэрца адбівала спагадлівы настрой.

Рыгор хутка абарваў і думкі і настрой. Ён раптам сеў да стала і ўзяўся за пісанне ліста да мацеры. Ён папераджаў яе, што разам з лістом высылае пятнаццаць рублёў грошай; гэта мала, але няхай маці ўбачыць: спусціўшы нейкі час, ён сумее выслаць больш. Пакуль яму трэба расплаціцца з даўгамі, купіць сёетое, а стане вальней — тады...

Пятнаццаць рублёў дапамогі мацеры выклікала ў ім пачуццё задавальнення. Спадаў нейкі цяжар з плеч,

калі ён канчаў з лістом, адначасна адлажыўшы ў другое месца вызначаную суму.

«Маці атрымае і...»

Стук у дзверы пакоя падняў Рыгора на ногі. Ён правёў няроўную рысу на паперы і адсунуў яе ўбок.

— Прашу!

— Вам ліст,— прачыніўшы дзверы, падала гаспадыня кватэры.

— Дзякую...

Рыгор узяў ліст з рук гаспадыні і паглядзеў на канверт, дзе была пячатка. «З Сілцоў!» — праказаў ён сам сабе і падышоў да акна з намерам прачытаць яго. Тут яго ўвагу адцягнуў аэраплан; агромнаю птушкаю выпархнуў ён з-за высокага будынка і плаўна закруціўся перад акном яго пакоя. Рыгор бачыў, як шэрая істужка дымку пляла ўзоры пад яго хвастом, мэрам бы жартуючы з тройкаю чудлівых варон, што ляталі ўслед аэраплана. Да яго вушэй даходзіла цягучае гудзенне прапелера. Відовішча хавала ў сабе прыгожасць людскoе перамогі над стыхіяй, акрыляла Рыгоравы думкі і надзеі. Яго захапіла хаценне, каб гэта ды самому паспрабаваць абляцець адно кола ў чыстаце спакойнага паветра... У адчуванні прадстаўленых перажыткаў пры палёце — ёкнула сэрца, а халадок ні то ўцехі, ні то пудлівасці прайшоў па ўсім целе...

Хвілін праз дзесяць Рыгор наглядаў у палёце аэраплана пагрозную адзнаку завіхрыўшай вайны. Легенда пра Ікара ў яго раздумах атулілася жалобаю. Дзякуючы гэтай дзёрзкай людской вынаходцы, вайна скарачае шлях, якім вядзе сваё разбурэнне. Ці ж можна ручаць, што з яго скрыдлаў не спадуць смертаносныя стрэлы?

Рыгор адхіліўся ад акна; разам з гэтым змоўкла гудзенне аэраплана.

## IV

Доўгая вузкая палоска паперы была скрэмзана да адказу. Няроўныя радкі п'яных літар абкручвалі берагі палоскі, сплятаючыся ў арыядніну нітку. Рыгор круціў паперу ва ўсе бакі, меркаваў, адкуль і куды накіраваны канчаткі слоў.

«Ну, і напісаў жа Сёмка»,— пераказваў раз-поразу.

Дачытаўшы да канца, Рыгор падняўся з крэсла і затупаў па пакоі. Змест Сёмкавага ліста завалодваў яго думкамі і настроямі. Хутка Рыгор бачыў перад сабою жывыя малюнкі водгукаў вайны ў яго родным мястэчку. Вось па яго вузкіх пыльных вуліцах прашнуравалі стражніцкія раз'езды; яны абвяшчалі пра мабілізацыю людзей і коней. Адначасна сцены рагавых хат увабраліся абвесткамі пра ваеннае становішча. Сілцы замерлі, мэрам бы на іх дыхнула ліхое паветра. Нейкі час жыхары сядзелі, як замарожаныя, аглуздзелыя. Назаўтра іх разбудзіла раскалыханая трывожнасць. Паўсталі шэпты, гутарка; следам з'явіўся рух, гвалтоўны настрой, роспачныя аханні, узрыды... Чарговым днём мястэчка апынулася каля Масткоў: тарахцелі вазы, курыўся пыл, вылі сабакі. На шырокай прагаліне, абкружанай сцяною людзей і жывёлы, ішла мерка коней. Трое чалавек, з якіх адзін быў ветэрынар з Ліцка, другі — спраўнік адтуль жа, трэці — валасны пісар, машынальна аглядалі аднаго за другім нескончаны шэраг разнамасных, разнаросных коней. Пісалі, прыстаўлялі і адстаўлялі стракатную палку, выгуквалі аднастайныя словы: «прыняты», «у конніцу», «у артылерыю», «у кухню». Рэдка можна было пачуць — «брак».

Пакорныя лёсу, сілцоўцы маўкліва выслухоўвалі вывады камісіі і гінулі ў разгаламучаным натоўпе, у пылу, за нячэмнымі драбінамі і вазкамі...

А ў гэты час у мястэчку гудзеў гвалтоўны звон. Над шэрымі стрэхамі панурых хатак гусціўся чорны дым, запярэшчаны вогненнымі языкамі праменя. Нейкі час каля Масткоў не заўважалі гэтага, але надало камусьці паглядзець на ўсход, як дзікі выгук «Сілцы гараць!» узняў тысячную граmаду з месца і шалёным галопам папёр яе ў мястэчка. Людзі гналі коней, не патураючы ні навошта, гукалі, лаяліся, наязджалі адзін на другога, варочалі вазы, разбіваліся. Ва ўзнятым пылу яны здаваліся ценямі, зданню. Ці то знарок, ці знянацку, каля самага мястэчка, пры завароце адзін з сілцоўцаў наехаў на пісарскую брычку і павярнуў яе. Пісар ачуўся пад конскімі нагамі. Умомант на гэтым месцы згрудзілася грамада вазніц. Панесліся нялюдскія крыкі і лямант. Адказам былі беспарадкавыя стрэлы адкульсьці прыскакаўшых стражнікаў...

А пажар, як вадою, змываў хату за хатаю. Гала-

вешкі, мэрам вогненныя птушкі, насіліся ў атручаным дымам паветры. Гудзеў, не змаўкаючы, звон...

Незаўважным крокам падаспела ноч і паглынула раз'юшаны дзень, яшчэ страшней зрабіўшы разгорнуты вобраз пажару...

Кончылася раніцою — тады, калі ў шалёным пудзе нечуваных падзей людзі выбіліся з моцы. З апушчанымі галовамі шукалі пагарэльцы сваё дабро; тыя ж, у кага яно ўцалела, галасна дзякавалі невядомага ім абаронцу ў асобе выдуманага бога. Мірнымі тупалі змораныя коні стражнікаў...

Толькі наступным днём чарада мабілізаваных сілцоўцаў знарушыла жалобны супакой развітальнаю песняю — «последний нонешний дене-очек-ек...»

Яны ішлі на вайну...

«Я табе кажу, братка мой, гэтакага пекла я ніколі яшчэ не бачыў. Вось як мы сустрэлі вайну. У вас, пэўна, яно ўсё спакайней абышлося. Бывай здароў! Адпісвай хутчэй. Твой Сёмка».

Рыгор незаўважна выпусціў з рук ліст і толькі рушыў з месца, калі сударга апусціла яго стомленую руку.

У пакоі пацямнела. На вуліцы, у бок казарм, заблішчаў ліхтар. У яго малочным святле расплыліся рэшткі вобразаў, узнятых Сёмкавым лістом.

«Ну, а з маткай там якаво?» — уголас запытаў Рыгор сябе і баржджэй хапіўся за напісаны ёй ліст. «А калі ды згарэла і наша хата, а маці асталася без таго, што мела? Што тады? Пятнаццаць рублёў — ці ж яны выручаць яе?»

Рыгор уталоплена глядзеў на ліст, палажыўшы на лоб руку. Плойма невыразных думак ахутвала галаў. Становішча, якое нядаўна выясніла перад ім бліжэйшую перспектыву, раптам заблытвалася. «Якім бы чынам тут уведаць?..»

Ён не дакончыў думку, калі з-за дзвярэй данёсся насцярожлівы вокліч:

— Можна, Рыгор?

— Прашу вас!

Ужо інстынктыўна ён пачуў, што прыйшла Ганна. Было зусім дарэчы. І сэрца ўзмоцненым стукам аддало ёй вітанне.

— Ты дома? — запытала Ганна, працягваючы яму руку.

— Чаму? А то мяне ты не заставала? Садзіся... Дома... Дагэтуль вось... гісторыя...

— Гісторыя?!

У Ганніным ваччу бліснула настарожанасць. З чырвоных яблычак, што іх наклеіла на Ганніны шчокі свежае ядранае паветра, заўважна спадала ружа.

— Сядай... Гісторыя...

Ганна села і не адводзіла ад Рыгора вачэй. Напружана чакала — што ж у яго за гісторыя, які яе змест.

Рыгор зацяжна ўздыхнуў і пагладзіў косы.

— Гісторыя не з прыемных,— раздразніў ён Ганніну цікавасць.

Тая прыўстала, узрокам вымагаючы апавядання.

Калі ж Рыгор у кароткіх рысах перадаў ёй змест Сёмкавага ліста, Ганна спагадліва войкнула.

— Давай тэлеграму,— парадзіла яна.

— Я думаў... Ды ці ж бы Сёмка не дапісаў, каб крый чаго...

Гэта была самаўцеха, але Ганна на ёй спынілася — магчыма, усё абышлося добра. Прынамсі... Што б яна зрабіла, каб ды наадварот?..

— А я цябе чакаў...

Рыгорава рука лягла на Ганніным плячы...

— Няўжо праўда?.. Сядзь каля мяне хоць на адзін квадранец... Мне так хочацца з табою ад душы пагутарыць...

Чамусьці Ганнаю завалодала нясмеласць. Нешта не пускала плаўкай вымове слоў... Тая ж сіла схіляла да долу яе затуманены ўзрок. Рыгор настаражыўся, і, калі Ганна змоўкла, ён пахіліў яе стан да сябе.

— Я слухаю, Ганна... Кажы мне ўсё, што маеш сказаць... Я слухаю...

Павернуты да Рыгора яе твар выглядаў жывым, настойным пытаннем; вочы пранізвалі яго нутро — не было абароны.

— Выслухаеш?

— Выслухаю.

— Дарагі мой, я ўжо здаўна і часта пытаю сябе... Няўжо мне суджана будзе зноў загубіць твой след?.. Я баюся, што мне будзе не справіцца з напорам жыцця, калі ў адну хвіліну... Ты чуеш?.. Я табе не казала ніколі ні разу, а, тым часам, твая істота, ты — неад'емная часціна майго жыцця... Цалюткі сённяшні дзень

я мучылася думкамі — рашыцца ці яшчэ чакаць. І вось прымай, як хочаш...

Гэтыя напружаныя, трапяткія сказы абдавалі Рыгора праменнай цеплатою. Яму рабілася ад гэтай цеплаты не па сабе, млосна — зусім нечакана ён сустрэўся з гэтым манеўрам Ганны. Калі толькі што яго думка кранула магчымасці з ім спаткнуцца, то ўсё абышлося несур'ёзна і павярхоўна, нават не зацікавіла яго, што б і як адказаць, каб падаспеў выпадак. Вострая рэакцыя ўнутры спаліла праявы ўсякага пачуцця. А гэта, вось...

Бязмоўным пацалункам, змешчаным на Ганнінай шчацэ, было не абмежавацца. Вачавідкі і зразумела — Рыгор сам адзнаваў, жадаючы пачуць Ганніна слова. Ды яна маўчала — ні то задаволеная, ні то пакрыўджаная.

Яе ўзрок пранізваў промень, занесены з вуліцы ў акно. Сэрца ж замірала пад шчыльна пакладзенаю на грудзі Рыгоравай рукою. Таемнасць цішы разгортала таінства глыбокага прасякнення любоўю двух блізкіх, палкіх, маладых сэрцаў.

— Запалі святло!

Ганніны словы сустрэў зацяжны гул сірэны, што нахабна ўварваўся ў пакой. Рыгор пакорліва выпаўніў Ганніна ці то вяленне, ці просьбу.

— Ну, я табе забыў пахваліцца, Ганна,— раптам ён успомніў пра вестку ад Петруся.

— А што? — бесцікаўна запытала дзяўчына.

— Пятрусь прыслаў паведамленне... Я, бок, табе казаў пра Петруся?

— Казаў... Адазваўся?

— Так, як і трэ было чакаць,— ён у доме папярэдняга зняволення... Рыма...

— Рыма?

— Ты б прыйшла калі, Ганна, я б цябе звёў з гэтай дзяўчынаю... Яна вельмі хоча з табою пазнацца. Што за чалавек!.. Пятрусь...

Ганна стаяла ля акна, і Рыгор не заўважыў, што яна глядзела на гадзіннік.

— Я прыйду ды буду лішняю, тады...

— Ганна!

Рыгор сам не чакаў гэтай неасцярогі — гук дзвенгнуў шклом у акне і, напэўна, дайшоў да гаспадыні.

Скокам маладога тыгра ён апынуўся каля Ганны і спрытным обдымам прытуліў да сябе.

— Ты не злуешся?

— Вы гарбату будзеце піць, Рыгор Міхасевіч?

Гаспадыня злаўмысна прачыніла дзверы, і ў вузкай шчыліне блішчаў агеньчык яе шпегаўскіх вачэй.

— Папрашу, калі ласка. Вып'еш гарбаты, Ганна?

— Позна. Я мушу ісці.

— Цябе чакаюць?

— Чаму ж, мяне, думаеш, некаму чакаць?

— Думаю... Ты злуешся на мяне?

— Я ні на кога не злуюся, я на сябе злуюся...

— Сядай... Правер той час, у які мы знаёмы з табою. Ці я калі-кольвечы даў намёк на няўвагу да цябе? Ці хоць раз ты ад мяне чула няўладнае слова? Ганна?..

У яго слесарскай руцэ захрусцела тонкая далікатная рука нядаўняй настаўніцы.

— Я так быў рады, калі стрэў цябе ў гушчы рабочай грамады. Я кінуўся да цябе, як матрос на маяк...

І міна на мужным, суровым твары Рыгора, і сталёвасць у яго словах, і бляск у ваччу, і нахіл яго постаці — усё казала Ганне — павер, праканайся, заспакойся...

— Можна? Гарбата!

Рыгор адчыніў дзверы і ўзяў з гаспадыніных рук тацу.

Праз хвілю яны сядзелі за хісткім столікам, адзін супроць другога, і пілі гарбату. Спакой сведчыў пра наступіўшае замірэнне, якое радзіла звычайную гутарку. Цёплая ўхмылка роўна апінала іх жыццярадыя постаці.

Раз ад разу бранчэла пасуда.

## V

Вострая, празрыстая нітка праменя кінула на Рыгораў твар вёрткага зайчыка. Заказытала ў ваччу, і чулыя вейкі падняліся ўгору.

— Пятрусь? Дзе ж ён?

Мігам шустрая думка Рыгора апынулася ў вузкай глыбокай камеры дома папярэдняга зняволення.

— Дзе Пятрусь?..

...Камера № 87.

Вось толькі пяць хвілін, як Пятрусь удвойчы хапіўся за праверку пераважытага ім у астрозе часу. Якая цягучая аднастайнасць! А між тым — як хутка прамігнуў час! Мэрам бы сёння яго прывялі сюды. Тыя ж сумныя і халодныя сцены. Той жа кавалачак хмурнага неба ў закрацоным акне. Прымацаваны да сцяны жалезны столік, абрыдлы цвёрды ложак. Замураваны ўмывальнік і брудная параша. Усё асвойтанае, звыклае і надаеўшае.

— Стукаюць?

Схудалая постаць туліцца вухам да сцяны і напружана слухае. Спусціўшы хвілін пяць, адбівае: «Ніякіх звестак з волі».

— Ці чакаю? — «Чакаю. Пісаў некалькі лістоў, а жаднага адказу».

Стук змаўкае, і Пятрусь памерным, разлічаным ступам мерае камеру з кутка ў куток. «Няўжо і на гэты раз ніхто не адзавецца?»

Петрусю карціць і прагна хочацца атрымаць вестку з волі. Ён дзень у дзень успамінае Рыгора, Рыму, часамі далучае да іх Гэлю; часта пераносіцца думкамі ў Сілцы, выяўляе перад сабою настроі і думкі бацькоў; спагадае іх няведанню пра яго. І ўсе гэтыя раздумы, успаміны, жаданні і хаценні перыядычна ўстаноўленым чынам праносяцца перад ім у беспрытульнасці астрога. На колькі часу ўперадзе? А хто яго адгадае — воля царскіх сатрапаў, капрыз любога апрычніка. Каму ёсць дзела да сотні-другое заключаных у гэты сіберны будынак? Вунь цэлыя мільёны пастаўлены пад нажы, пад кулі, пад атрутныя газы — ці ж можа хто думаць пра іх, у цяпле і безапасцы?

Жорсткаю рукою вайна сцірала людское дбанне аднаго пра другога. Сухая адчужанасць цёрлася па гладкіх каменнях камеры, пускаючы мёрзлую шэрань Петрусю ў вочы... Час, час, які няпэўны час! Ці можна даць нездаволенню ўтульнае месца ў сваім нутры? На Рыгора? На Рыму? На ўсіх тых, хто яго ведае, хто яго помніць? Няровен час! А мо Рыгор далей за яго — натура Рыгора вядома... А Рыма? — прамігнуўшы агеньчык... Так, свядомасць дыктуе развагу, але ёй не падцаецца настрой...

— Ізноў стукаюць?

Вуха лажыцца на шэрую фарбу сцяны.

— Што-о?

Здаровыя пальцы звыклі з цвёрдасцю сцен — б'юць запытанне... Але... збоку шорах?

Косіцца вока да вузкай круглінкі ў дзвярах — не ўтоіш, наглядач, у мяккім войлаку прадажных крокаў.

Ізноў думкі.

Нязвычны! Вось ён, чалавек жалезнае волі, Рыгор! Дык чаму ж ён маўчыць? Цэлыя два месяцы ні слова... Перанмаюць лісты? Ці тут віною Рыма?

Пятрусь затросся, як асіна — калючая прага пачуць цёплае слова з волі, праведаць пра Рыгора, угледзець Рыму... А можа, яны... Не павінна быць!..

Маланкаю праясняецца мінулае ў іх адносінах — чыстае, як маланка, без заусінкі. Не ў гэтым прычына. Яны помняць яго, магчыма, думаюць, а мо і дбаюць — чаму ж яму заўчэсня наракаць...

— На гу-у-лянк-ку-у!

Пятрусь гатоў.

Вось бразгае жалеза за дзвярыма камеры. Чуецца ажыўленне на глухім, мёртвым калідоры... Яшчэ хвіліна — і ён у роўным, механічным шэрагу вязняў. Папярэдзе Ігнат Струміла — кіўком галавы абменьваецца прывітаннем. Украдчывая ўхмылка на збляднелых тварах. Рассыпаецца шэпт па жалезных усходах. Тры павароты — і насустрач водбляскі празрыстага сонца. Яны скрадаюць беднасць і агіднасць белых гарнітураў арыштантаў...

Двор і шоргат шкарбакоў па ўкаванай каменьмі зямлі. Ланцугамі ўюцца круглыя цені галоў — мэрам бы круціцца знарочыстае кола, на мнагалікіх спіцах якога насаджаны чорныя галкі. Мёртвым шулам тырчыць фігура салдата з аружжам у руках. Непарушны, як укопаны, ён ловіць уталопленым узрокам выразы твараў. Сочыць за кожным крокам мігаючых постацей. А ззаду? Ззаду жалезная брама. У драп'ястых будках — настарожаная варта. І толькі? Не. Вуньдзека, з-за шуляванняў вокан наглядаюць запасныя наглядачы. Не, тут не рызыкнеш нічым, апроч свайго жыцця...

Свісток. Глухі і калючы: назад! У камеры!..

Ужо галоўка шэрагу накіравалася ў чорную дзірку дзвярэй. Як у яму, гіне адзін за другім у змроку калідораў...

Пятрусь — на парозе. Ён закідае нагу, каб ступіць у дзверы, і чуе — за брамаю гукі! Прыйшлі на спатканне? Няўжо і да яго таксама?

Хто б з яго прыяцеляў надаўміў яго ашчасліўіць? Рыгор? Другога — няма. А вось яго голас...

— Пятрусь, не затрымоўвай...

Шаргатня крокаў аддзяліла яго ад зыкаў за брамаю. Змрок калідораў ахутаў прапахлым паветрам...

Забранчэлі замкі ў дзвярах — доўгі ланцуг з людзей парваўся на часткі. Некалькі хвілін, і Пятрусь у абоймах суровай камеры. Цішыня. Ну, сэрца ж нешта адчувае. Пятрусь настарожваецца, мяртвее... Раптам зычны стук замка разразае спакой.

— Бок, да вас прыйшлі.

— Да мяне?

Пятрусь хапіўся за вушы і вытарашчыў вочы.

Следам, незаўважана для самога сябе, ён пайшоў за нагледачом. Калідоры, сходы — дарога да выйсця. І вось яшчэ не закругліўся паварот, як шустрыя ўзрокі абнялі стройную постаць Рыгора. Яны сышліся ля перагародкі.

— Бра-ат...— хацеў выгукнуць Пятрусь, ды ўстрымаўся.

Пачуццё ўцехі ён выліў у гарачым зацяжным пацалунку Рыгора.

— А я думаў, ведаеш, што і ты...

— Пакуль, вось...

— Ты атрымаў мой ліст?

— Мне Рыма яго прачытала.

— Рыма?

— Ну, а з табою як?

— У моцных руках...

Рабы, абвіслы твар нагледача пакрыўся ўхмылкаю.

— Паверыш, Рыгор, мэрам бы адчуваў, што ты прыйдзеш сёння. Толькі што вярнуўся з гулянкі і не паспеў агледзецца, як чую вызаў... «Прыйшлі»... А якава ў цябе з працаю? Усё на старой кватэры? А Ганна?.. Ну, ты паправіўся, я бачу...

— Меў ліст ад Сёмкі...

— Ёсць навіны?

— Дзе іх зараз няма! Пажар быў у мястэчку.

— Пажар? І многа згарэла?

— Не адмячае... Рыма цябе не наведвала, часамі?

— Не. Чаму?

— Я думаў, што можа... Цудная, аднак, яна... Адзін раз, тады ж во, як прынясла твой ліст, раптам ускіпе-

ла нечага і неўтрапёнай вылецела з майго пакоя. І болей тыдня не чуваць нічога...

— Што ты кажаш...

— Дзіўлюся сам. І не прыйшла спаткацца?

— Ох, як я чакаў каторага з вас!.. Ведаеш, хоць бы вестку хто даў — было б спакайней, а то ні слова, ні гуку. Як жа таварышы?

— Усё ў парадку, ну, а здароўе тваё як?

— Пакуль, як бачыш...

— Правішся...

Безумоўны ківок рукі нагледача прымусіў Петруся ўздрыгануцца. Ён паспешліва зашавяліў губамі, але замест слоў абмежаваўся паўторным пацалункам з Рыгорам і развітальным поціскам яго рукі.

Следам наглядач разгарадзіў іх сваімі шырокімі плячыма. Толькі ледзьве адчулы шорпат Петрусёвых крокаў данёсся да Рыгоравых вушэй. А праз хвіліну перад Рыгорам мільганула сопушная цем калідора, і ён павярнуўся да выйсця.

Пятрусь адбіў яго ва ўстойнай нерухомай позе і нізашто не мог уявіць ягонае хады... Напэўна, старая, цвёрдая ды ўвераная. Сам — нязменны... Здаецца, застыглы ў акрэсленых формах. Для Петруся — які ён дарагі, які блізкі! Цікава мець гэткага сябра!

Рыгораў прыход адвёў новую мяжу ў яго сядзенні. Пятрусь пераняў ад яго бадзёрасць, надзеі, веру. Пятрусь адчуў у ім жалезную стойкасць і бясстрашны ўзрок у вочы сапраўднасці. Рыгор не панікае галавою, не азіраецца ў бакі. Кожнае яго слова — пераконанне таварышу.

— Стукаюць?

Пятрусь падышоў да сцяны і настаражыўся. Сусед пытаў, хто яго, Петруся, наведваў. «Адкуль ён даведаўся?» — «Пачуў па вызаве Петруся нагледачом»... Так, да Петруся наведаўся яго таварыш і сябра — Рыгор Нязвычны. Пра яго Пятрусь паспеў расказаць суседу. «Той самы?» Той...

Наглядач?

Пятрусь агляну́ўся на дзверы. Прывычнае вока ўлавіла лёгкае калыханне рэдкага ценю.

Ён адступіў ад сцяны і цвёрдым крокам накіраваў насупраць акна.

Настрэчу яму сыпалася золата цёплага сонечнага праменя.

## VI

Спатканне з Петрусём заспакоіла Рыгора; ён не дапускаў сабе думкі, каб Петруся судзілі. Бліжэй усяго — Петрусю пагражае адміністрацыйная высылка. Каб суд, было б сур'ёзней, тады б яму не дазволілі з ім спатканне. Напэўна, і Пятрусь чакае гэтага. Увогуле, паколькі Рыгор заўважыў, Пятрусь настроены не дрэнна. Крыху пахудзеў, але гэта адбітак астрога. Каму-каму, а Рыгору гэта вядома. Адна прыкрасць — як-то выйшла так, што ён забыў перадаць таварышу пра зданыя ў кантору астрога на Петрусёва імя дваццаць рублёў. Прымха нейкая, ды годзе... Ах!.. Рыгор пастараецца выправіць гэты недагляд: ён напіша Петрусю ці перадасць праз Рыму, калі...

З Рымаю цікава. І што тады выйшла — чаму яна вылецела так раптоўна з пакоя і зараз не паказваецца? Няўжо ён неасцярожліва выказаўся перад ёю, ці?..

Рыгор кожны раз уплятаў інцыдэнт з Рымаю ва ўспаміны пра спатканне з Петрусём. Пацепаў плячыма і дзівіўся.

Дзіва знікала бясследна, калі Рыгор вяртаўся да выпадку з Ганнаю. Мэрам бы згавор які супроціў яго? Адна зрабіла зусім незразумелы яму выбрык, а другая гэты выбрык развінула ў цэлую тэорыю? Ганна! З ёю ўжо справа складаней. Яна кранула таго пытання, пра якое...

Рыгор не мог згладзіць вастраты Ганнінай гутаркі вось ужо некалькі дзён. Ці думаў пра падзеі ў Сілцах, ці вяртаўся да Петруся, ці перачытваў весткі са «стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага» — у вушшу гудзелі яе словы, а ў ваччу мігаўся яе ўмольны, насцярожаны выгляд. Рабілася ясна, што Ганна перажывае якісьці крызіс, нейкую жыццёвую надарванасць — інакшай бы яна так раптоўна не паставіла яго перад казытным пытаннем. «Але што я магу зрабіць, каб ёй пасобіць?» Рыгор не знаходзіў ніякага выйсця, калі разбіраўся ў акольваючых умовах.

Наперадзе таксама было беспрасветна. Між тым ён адчуваў, што яму Ганну шкада. Шкада і балюча... Трэба тым ці іншым заспакоіць дзяўчыну, разагнаць яе настрой, даць ёй зразумець... Што? Вось ад гэтага і

разбіваліся мільгаўшыя ў Рыгоравай галаве планы. Абнадзеіць Ганну ён не можа і не хоча. Ды нават не ўпэўнены, што яго надзея магчыма яе суцешыць...

Усё ж ён рашыў наведаць да Ганны. Ён пойдзе да яе і скажа...

Рыгоравы першыя крокі па выйсці з завода былі накіраваны да спынкі трамвая. Без заезду на кватэру ён паспяшыць застаць Ганну ў сябе і паспрабуе ёй растлумачыць... Так — гэта вярней усяго.

— Рыгор?!

Думка раптам разляцелася: Рыгор паглядзеў перад сабою.

— Артур? Ты якім чынам сюды?

— Цікава? — запытаў Артур Цвібель.

— Каля гэтага... Ну, пойдам, хіба, да мяне?

— А ты збіраўся дахаты?

— Я?.. Я нікуды, можна сказаць, не збіраўся... Усё ж ідзем разам... А мо, ты каго-кольвечы чакаць-меш?

— Я знарок да цябе... Ведаеш, я маю цэлы шэраг пытанняў...

Рыгор узяў таварыша пад руку, і яны завярнулі ўправа ад варот завода.

— Я ўжо, браток, знайшоў тут ходы і маю як-небудзь уціснуцца да вас на завод...

Яго перабіў грук падбегшага паравіка. Рыгор міжвольна падаўся ў яго бок.

— Табе куды трэба ехаць? — пераняў Артур Цвібель.

— Я перш думаў... ды нічога... Пойдам... Кажы...

— Але ж я цябе затрымліваю...

Артур спыніўся і пытальна зазірнуў Рыгору ў вочы.

— Дробязь... Кажы...

— Бачыш, вось, мне парадзілі чамусьці завярнуцца і да тваёе падмогі. Чуў?

Ужо Рыгор пытаў яго сваім узрокам.

— Дарэмна?.. Ха-ха-ха! Я і казаў ім, што дарэмна, а яны...

Артур засмяяўся.

— Хто яны? — пацікавіўся Рыгор.

— Трубін, бачыш...

— Шалапут.

Рыгор агледзеўся навокал сябе і дадаў:

— Ніякім чынам. Надоечы ў нас адыграўся выпадак, які мог кончыцца сур'ёзнаю справаю. Ты не чуў?

— Не-э.

— Мы ўсім цэхам наладзілі дэманстрацыйны пратэст. І, чамусьці, майстар з палкоўнікам-наглядчыкам здрэйфілі... Здрэйфілі... А ў чым, яшчэ невядома — магчыма, яны абмяркоўваюць вынікі. І калі, чаго добрага, захочуць дапомніць — тады мне першаму... Вось і разлічы сам, якаво мне...

— Зразумела... Я не ведаю, чаму Трубін...

Яны завярнулі ў вуліцу, на якой жыў Рыгор.

— Ужо блізка да цябе?

— На гэтай жа вуліцы, другі квартал... Ну, стой!

Рыгор раптам адлучыўся ад Артура і накіраваў праз вуліцу да ідучага другім бокам чалавека. Артур спыніўся. Рыгоравы словы яго азадачылі — абарвалася. Ён тут жа ўглыбіўся ў адшуканне новых шляхоў да ажыццяўлення справы з паступленнем на завод. Але не паспеў хапіцца ні за водную раду, як падышоўшы да яго Рыгор перабіў:

— Магчыма, што ўсё добра будзе. Гэта старшы рабочы слясарнага цэха. Я прасіў яго пра цябе...

— А ён?

— Дае згоду памагчы. Ты запішы яго імя і прозвішча... Фрыдрык Курс — фін, сумленны і сталы чалавек. Прасіў зайсці наступным чацвяргом. Зойдзеш і пасля скажаш мне...

— Было б вельмі добра. А то...

— Можа, ты грошай не маеш, то я магу табе пазычыць дзесятку?

Артур падзякаваў Рыгора і адмовіўся ад пазыкі.

— Я надоечы захваціў у Камара...

— Ты ў яго бываеш?

— Часамі...

Рыгор паглядзеў на жоўтую браму і спыніўся.

— Прыйшлі.

— Тут?

Артур кінуў бесцікаўным узрокам на дробныя вокны будынка.

— Добрая кватэра? — усумніўся.

— Не дрэнная. Зацішна і недалёка ад завода. Зойдам, Артур.

Ужо Рыгор прапусціў таварыша ў двор, як Артур раптам перамяніў рашэнне.

— Убачай, браток, не магу зайсці. Няхай другім разам... Суйздром забыў, што мяне а шостай гадзіне чакацьмуць...

— Кінь!

— Ні ў якім разе; чалавек прыйдзе ў трэці раз — абяцаў жа яму...

Артур паглядзеў на гадзіннік.

— Даруй... Абавязкова гэтымі днямі наведаю.

Яны развіталіся.

Рыгор вывеў таварыша з двара і зняў шапку.

— Чакаю! — гукнуў услед Артуру і павярнуў назад у браму.

Ён толькі што занёс правую нагу, каб пераступіць парожац дзверцаў, як яго хтосьці тузнуў за жакетку. Рыгор азірнуўся — то быў Артур.

— Зусім забыўся... Табе Наталя перадае паклон... Помніш гэту дзяўчыну?

— Наталю?

На Рыгоравым твары заблішчала ўхмылка.

— Крыху памятаю... Ну, дзе яна, цікава?

— Ліст атрымаў з Харкава. Як і што яна туды трапіла — баюся сказаць.

— А ты маеш яе адрас?

Артур палез па кішэнях шукаць Наталінага адраса. Уміг ён перагледзеў некалькі замурзаных блакнотаў, памятых брудных паперак і — дарэмна.

— Напэўна, у хаце забыў... Перашлю. Пісацьмеш?

— Мне вельмі цікава...

— Напішы... Бывай!..

Яны ўдвойчы развіталіся і пакінулі адзін другога.

Рыгор, азадачаны пачутаю навіною, ускораным крокам пайшоў да сябе.

«Што за дзіва! Адкуль яно гэта? — праказаў ён уголас і нерашуча пазваніў.— Знача, Наталя на волі! Цікава!»

Адчыніліся дзверы.

— Вас чакаюць, Рыгор Міхасевіч,— паведаміла гаспадыня.

— Хто?

— Якісьці малады чалавек.

— Даўно?

— А ўжо хвілін з дваццаць.

Адчыніўшы дзверы ў свой пакой, Рыгор угледзеў

Рудольфа Шульца. Той падняўся з крэсла і з газетаю ў руках гасцінна кіўнуў галавою.

— Даруй, Рыгор, што я так нахрапна залез у твой пакой.

— Будзь ласкаў, я вельмі рад цябе ўгледзець. Я думаў, што ўжо ты... Чытаў прыказ кранштацкага камен-данта?..

— Чытаў... Вось, бачыш, даводзіцца пакінуць Пецярбург... Ворагам стаў...

Рыгор як зняў паліто, так і стаяў з ім, забыўшыся павесіць. Вестка пра Наталю разбурала яго пачуццёвы свет, блытаючы ўвагу да гутаркі.

— Можа б, гарбаты шклянку, Рудольф? — запытаў Рыгор.

— Дзякую. Я зусім на кароткі час. Мне сёння в дванаццатай гадзіне ўначы тэрмін пакінуць сталіцу.

Рудольф прысеў.

— Я прывёз да цябе,— сказаў ён далей, паказваючы пальцам у бок ложка,— каб ты, браток, захаваў у сябе вось гэту пару маіх куфэрачкаў... Вярнуся — забяру. Можна, Рыгор?

— Куды ж ты мусіш ехаць?

— Прадпісана ў Арэнбург... Прасіўся да бацькоў — у Перм. Адмовілі...

— І бацькі высланы?

— Го, яны ўжо месяц таму...

Рудольф хвілінку памаўчаў. Пасля раптоўна ўстаў і зрабіў два крокі па пакоі.

— Ведаеш, Рыгор, бацька мой перажывае вялікую трагедыю. Надоечы атрымаў ліст і, я табе кажу,— жах... Пякельны жах...

Рудольфавы рукі ляглі на махнатай, непрычэсанай галаве. Рыгор пачуў злосны скрыгат зубоў.

— Што, што за дзіва? — прыўстаў і Рыгор.

— Ты добра ведаеш майго бацьку... Я не скажу, каб ён быў ідэальнай чыстаты, але... ён чалавек не благі... Гэта жывая машына... У сваю майстэрню ён укладваў душу. Жыў ёю... І жыў Смагінам... Ды пакаўзнуўся чалавек. Не паспеў, ці не мог, ці не хацеў атрымаць падданства — і на табе... Адарвалі ад месца, ад кавалка хлеба і — у ссылку. Бадзяецца без працы, праклінае сябе, жыццё, долю... Моліць пра дапамогу... А што я зраблю, калі і я ў тым жа стане... Вайна,— і я вораг,

бязвінны вораг нават былым прыяцелям і блізкім... Ды болей таго... Гэтага мала, што...

Рудольф разнерваваўся да адказу.

— А ў дадатак усяго казакі запалілі бацькаву хату і майстэрню, наздзекаваліся з яго, старога... Ну, ды што ж рабіць. Цяпер не час, а чакаць цяжка... Дык я папрашу цябе — вазьмі вось гэта на нейкі час... захавай...

— Я дам табе на дарогу рублёў дзесяць.

Рыгор мігам выцягнуў з кішэні паралез і ваткнуўся ў яго.

— Не трэба!

Рудольф хапіў Рыгора за руку.

— Бяры — аддасі... Ды кланяйся бацьку... Нічога... Адамсцім, Рудольф... Сарафіна Хлораўна! — гукнуў Рыгор.

— Бывай жа!.. Дзякую, дзякую...

Рудольф працягнуў руку. Яны пацалаваліся.

— Гарбаты вып'еш, Рудольф?

— Дзякую, няма часу. Бывай!

— Не сумуй, таварыш. Да блізкага спаткання.

Гаспадыня настарожана паглядзела ўслед Рудольфу.

— Вам адзін прыбор? — запытала яна ў Рыгора.

## VII

Рыгор нервова коўзаўся па крэсле. Налітая ў шклянку гарбата некалькі разоў пакідала тацу і варочалася назад. На запыленай сурвеце красавалася каля дзесятка мокрых плямак... Чайная лыжачка саскочыла на падлогу і ўгадзіла пад абсац Рыгорава бота... У горле смагла, але піць не хацелася. Сіні абажур лямпачкі абвіваўся шэрым туманам... Рыгора цягнула ў некалькі канцоў — так веерам і разбягаліся шляхі. Ён адчуваў, што яго чакаюць, думаюць пра яго — а ісці не мог. Штосьці трымала ў пакоі, беспрытульным і не сваім на гэты раз. Якім чынам усё так збеглася нечакана, тлумна і хаатычна, ён не мог сказаць... Скрыжавалася, змітусілася... Рудольф!

Яго пацягнула да акна.

Шэрань. Смуглыя ліхтары. Беспрытульна. Дзесьці гудзе паравік і звоняць рамізніцкія шамкі. А ў акопах?

«Адзеньце салдата! Холадна ў акопах!» Так, у акопах холадна, а ў палацах — балі... Арэнбург, Перм... Маргарыта, Рудольф...

— Я ж мушу да Ганны...

Рыгор сярдзіта захадзіў рукамі ў гамузе газет і кніжак. Закалыхаўся столік, і недапітая шклянка плюхнула на падлогу. Дзвенгнула...

— Што я... Ды я ж не абяцаў ёй прыязджаць... Заўтра паеду... Не ўцячэ...

Роўны лісток паперы абвіўся вакол асадкі, а дале пырхнуў і адляцеў на ложак.

«Ганна дарма закруціла»... «Петрусю трэба пачакаць»... «Што ж там з мацераю? Ці атрымала яна грошы?.. Сёмка — ані словам»... «Наталя кланяецца... Ах, Наталя»...

Рыгор абярнуўся да дзвярэй.

Стукаюць?

— Прашу вас!

— Я на адну хвілінку, Рыгор Міхасевіч... Я ўжо даўно збіраюся, ды ўсё вам обмаль часу... Парываюся запытаць, а пасля неяк... Дазвольце прысесці?

— Калі ласка!..

— А я вам не буду перабіваць? Вы, напэўна, ужо не пойдзеце сёння нікуды?.. Дзесятая гадзіна...

— Калі ласка...

Прыбраная і напудраная, з шырока вылупленымі вачыма, гаспадыня ліслівa глядзела на Рыгора. Таму рабілася цяжка вытрымаць яе ўпарты, нашароханы ўзрок, і ён раз ад разу азіраўся на акно. Гаспадыня перашкодзіла яму, але Рыгор не ведаў, як ад яе пазбавіцца. Намякнуць — не зразумее, сказаць адкрыта — няёмка...

— Я вас слухаю, Сарафіна Хлораўна,— натужыўся ён.

— Сядайце побач, Рыгор... Нешта перашкодзіць мне сказаць вам...

— Калі ласка...

— Мне толькі дваццаць рублёў на адзін месяц,— паўшэптам сказала яна.— Прыйшлося, ведаеце, да зарэзу цяжка. Я вам з працэнтамі вярну. Не адмоўце, галубчык...

— Сарафіна Хлораўна, дык я ж не маю... Апошнія сёння...

Гаспадыня крута павярнулася і выбегла з пакоя.

— А немцам, Рыгор Міхасевіч, ёсцека? — прагукала яна за дзвярыма.

— Што-а-а?

Рыгор злосна стукнуў абсацам па падлозе і прыслухаўся.

У кватэры ўсё прыціхла.

— Слухала, подлая!

Ён не паспеў працягнуць думкі, як ззаду яго шаснулі дзверы і крокі гаспадыні павярнулі Рыгора да дзвярэй.

— Кіньце злавацца, Рыгор Міхасевіч,— перапрасіла яна.

— Што вы ад мяне хочаце? — злосна запытаў Рыгор.

— Я прашу вас... Я бачу, што вы не ў настроі сёння, Рыгор Міхасевіч... Не выводзьце ■ маіх слоў нічога дрэннага. Я не хацела вас абразіць — мяне вымусіла... Рыгор Міхасевіч...

Непрытомнасць гаспадыні перастала злаваць, а дзівіла. У чым сэнс яе просьбы, прыходу ў пакой, лаянкі, перапрашэння?

— Я вас не разумею, Сарафіна Хлораўна.

— Я сама сябе не разумею.

Яна раптам пасумнела і накіравала ў дзверы.

— Даруйце-э мне,— яшчэ раз перапрасіла.

Рыгор не даў ёй дайсці да свайго пакоя, як мігам апрануўся і выйшаў з кватэры.

На вуліцы туманіла. Халодная золкая пагода не спрыяла бадзёраму настрою. Цягнула назад у памяшканне. А Рыгор не хацеў варочацца да сябе. Ён перасіліў няўтульнасць надвор'я і пайшоў да Выбаргскае шашы.

На гэтай вуліцы адчувалася заўсёдашняе ажыўленне. У абодва канцы насіліся рамізнікі, праязджалі паравікі. Направа, у бок завода «Святлана», чулася музыка гармоніка. Некалькі п'яных галасоў падпявалі частушачныя мелодыі. У другім баку доўгі час свістаў гарадавы. Хтосьці гвалтоўна лаяўся.

Рыгор крыху пастаяў пры рагавым доме, пасля пайшоў у бок ясна асветленай харчэўні.

Ён ужо быў каля самых дзвярэй, як яго акліknулі. Ён абярнуўся. Перад ім стаяў сусед па рабоце, Анікей Кузін.

— Чаго ты сюды? — запытаў ён.

— Да проста так, надаела аднаму ў дому. А ты куды?

— Я ад таварыша — дамоў.

Яны збочылі ад дзвярэй.

— Ёсць навіны якія?

Анікей нахіліўся да Рыгора і шэптам паведаміў:

— Ды ўжо ж. Надоечы адбылася раённая сходка за Нараўскай заставай. Абгаварвалі характар святкавання дзевятага студзеня. Ёсць настрой у карысць забастоўкі...

Яны адышлі далей.

— Варта было б і ў нас памацаць грунт. А то мы заўсёды адстаем... Га?..

— Вось то-то і ёсць... Я назнарок і наведваў таварыша, каб абмеркаваць гэта...

Вырынуўшы з харчэўні натоўп хлапцоў перапыніў іх гутарку.

— Трэба падрабязкова абмеркаваць гэта,— парадзіў Кузін уголас: — Гэта рызыкоўная справа...

— Я думаю...

Безгаворна абодва пайшлі ў харчэўню.

Шырокае і досі чыстае на выгляд памяшканне было перапоўнена людзьмі. У сініх палосах курава расплывалася электрыка і тануў густы развяселены гоман. Між шчыльна ўседжаных сталоў насіліся падавальшчыкі: іх гукалі і тузалі за рукавы. Несціхана хлопалі піўныя бутэлькі. Машына выігрывала «Тройку». Дзесяткі разнастайных пахаў зліваліся ў кісла-воцатны імпад.

На іх прыход ніхто не абярнуўся; усяго і было знаку, што за імі ўварвалася знадворку шустрая струмень халоднае паветры. Гэта рабілася нязменна праз увесь вечар — вентылятар над дзвярыма не спыняўся вярцецца і насвістваць аднастайную мелодыю.

Яны акінулі ўзрокамі шырокую залу сталовай — парожняга месца не наглядалася. Тады абодва пайшлі між сталоў, шукаючы яго. Рыгор падсцярог двух мужчын, якія вялі разрахунак з падавачом, збіраючыся пакідаць харчэўню. Ён гукнуў таварыша. Кузін у гэты час паспеў захапіць столік у кутку, якраз насупраць іграальнае машыны. Акно збоку злёгку астужала спёртае паветра. Кузін махнуў шапкаю, і Рыгор упусціў чаргу другім.

— Вып'еш піва? — запытаў Кузін.

— Я б не проч і падзакусіць чаго.

— Заказвай...

Кузін паклікаў падавача і даў заказ на піва і салянку.

Падавач не паспеў адысці да буфета, як з боку іх пачуўся востры надрыўны голас газетчыка. «Біржавыя Ведамасці». «Наша войска пакінула Лодзь». «Немцы ўвайшлі ў Лодзь дваццаць трэцяга». «Вячэрняя біржоўка». «Каму «Вячэрнія Біржавыя?» «Аўстрыйцы занялі Белград». «Здзек над сербскімі цэрквамі». «Зверствы немцаў» «Кніжка Рэннікава».

Выгук за выгукам ляцеў з вуснаў здаравеннага чырванашчокага дзядзькі. Гоман прыціх, і дзесяткі рук пацягнуліся за газетаю. Газетчык заўважна памяншаў іх пад пахай, збіраючы медзякі.

Свежыя навіны зразу перамянілі настрой прысутных. Над сталамі распасцерліся аркушы газет, адцягаючы людзей ад ежы і пітва.

Але хутка першае ўражанне ад ваенных навін паспела адляцець. Важкасць здарэнняў прасочвалася ў нутро, асядаючы ў глухіх кутках істоты.

Карчомнае жыццё аднаўлялася. За суседнім сталом раптам узнялася вострая спрэчка. Малады, чарнявы мужчына заўзята крытыкаваў дзяржаўныя парадкі, лаючы расійскае камандаванне. Махаючы абедзвюма рукамі, ён бясстрашна крычаў: «Прадацелі-ы! Змена-а! Усю-ды-і змена! Дзе ж ты пераможаш? Гэ-э! Меншыкаў! Кінь, брат, пераконваць нас у перамозе... Ду-у-дкі-ы! Табе тут лёгка дыктаваць машыністам, а там... Прадаце-лі-ы! Згубы-ы захацелі... Нішчыце народ... А нам пушку заліваеце-э...»

Увайшоўшы ў азарт, ён падняўся над сталом і яшчэ мацней загукаў: «Перамо-о-га-а! Знаем мы вашу перамогу! Ужо раз наведалі Прусію... Тое будзе і з Галіччынаю... Губернатара вызначылі? Перамышлю захацелі?.. Тут, у сябе лад навядзеце... Марадзёры-і... Нажывацца-а на нашай крыві...»

Вакол прамоўца згрудзіўся натоўп. З усіх бакоў нязлося адабрэнне. Настрой абвастрываўся, пераходзячы ў дэманстрацыю супраць вайны. Загрымеў пляск апладысментаў, а хтосьці паспеў зацягнуць марсельезу.

Гаспадар харчэўні з падавачамі бязвольна мыкаў

то з-за буфета, то за буфет, клапатліва пазіраючы на дзверы.

— Гаспа-а-да-а, пацішай! Пра-а-шу-у вас!.. — напінаўся ён, крычучы ў бок натоўпу. Яго доўгія рыжыя вусы і лахматы кузаб галавы зводзілі ўсю сур'ёзнасць да бязвольнай камедыі — яго ніхто не шманаў.

Героем быў рухавы і злоязычны смяльчак — паднятьі ўжо на рукі наэкзальтаванаю грамадою.

Падаўшыся агульнаму настрою, паўскаквалі з сваіх месц і Рыгор з Кузіным.

«Бра-а-ва-а!» — далучыўся да агульнага гоману Кузін.

Ды не паспеў ён стуліць вусны, як яго Рыгор тузануў за руку: у дзвярах харчэўні стаяла трое здаравенных гарадавых, якія сурова глядзелі на раз'юшаных наведвачоў харчэўні. Хутка адзін з іх паднёс да губ свісцёлку, і прарэзлівы зацяжны свіст разляцеўся па харчэўні. Грамада змоўкла, а прамоўца спрытна апусціўся ўніз і змяшаўся з людзьмі. Гарадавыя напорам кінуліся ў парадзеўшую грамаду.

Праз хвілін пяць адзін з іх накіраваўся ў дзверы, ведучы пры сабе прамоўцу. Рыгор зразу скмеціў, што справа апошняга бярэ дрэнны наварот. Ён умомант аддзяліўся ад стала і ёмкім скокам апынуўся пры гарадавіку. Наглядаўшыя гэта заўважылі спрытны манёўр Рыгора, які разам з арыштаваным мігам зніклі за дзвярыма харчэўні. Раззлаваны гарадавік падаў гвалтоўны свіст, кінуўшыся ўдагонкі за ўцекачамі.

Услед яму пабегла цэлая грамада з другімі гарадавікамі.

І ў харчэўні і на вуліцы разнеслася нечаканая трывога.

Кузін спакойліва выйшаў чорным ходам.

## VIII

Ачуўшыся ў сябе на кватэры, Рыгор нейкі час прыслухоўваўся да кожнага шоргату за дзвярыма. Ён быў няўверамым, што яго хто-небудзь з прысутных у харчэўні не прыкмеціў. Не магло таго стацца, каб сярод наведвачоў не нышпарыў адзін або і некалькі шпегаў. Толькі рэдкі выпадак мог паперашкодзіць улавіць яго

прысутнасць у харчэўні. А раз яго заўважылі — наўрад ці абмінуць з візітам на кватэру. Магчыма, што гэта была памылка з Рыгоравага боку. Як-ніяк, а паўжартоўны ўчынак таіў у сабе дрэнныя вынікі.

Яшчэ і ў ложку Рыгора не пакідала сумненне. І толькі а гадзіне трэцяй уначы ён знябыўся і заснуў.

Назаўтра раніцою яго разбудзіў знянацкі стук у пакоі гаспадыні. Сарафіна Хлораўна незнарок таўханула падстаўку пад вазоны, і цяжкі гаршчок з зямлёю зырнуўся аб сцяну.

Рыгор мігам праплюшчыў вочы і вылаяўся. Па ўсім целе адчувалася ўтома — ён не даспаў. Спроба ўлегчыся і яшчэ крыху прыдрамнуць асталася без вынікаў.

Сонечная марозная раніца іграла зайчыкамі на сценах пакоя. На вуліцы чулася ваенная музыка. Бадзёрыя гукі труб і зычны стук барабана біліся ў шыбы вокан, вабячы Рыгора.

Ён устаў і праз гадзіну часу ўжо быў на вуліцы. Аб'іненыя дрэвы церусілі драбнюткімі крышталямі снегу. Кудысьці спяшыла грамада вучняў на чале з настаўнікам. З Выбаргскае шашы даносіўся грукат паравіка. На чырвонай сцяне мура, у які ўпіралася вуліца, адбіваўся чорны сілуэт гарадавога. Калі ён паваротаўся перадам да Рыгора, медная бляха на шапцы адбівала сонцам.

«Ці не той самы, з якім я ўчора меў справу?» — пажартаваў Рыгор, і, калі параўняўся з ім, гарадавік пільна паглядзеў на яго і тут жа адвярнуўся. Рыгор кінуў пра гэта думаць і накіраваў у горад.

Нягледзячы на моцны мароз, паравік быў перапоўнены людзьмі. Ішла рэзвая гутарка пра апошнія здарэнні на вайне. Хтосьці спераду яго скардзіўся на абмылковасць разлікаў у рускага камандавання к калядам апынуцца ў Берліне. Жаночы голас узвальваў віну за гэта на Балгарыю ды Італію. Яшчэ хтосьці з запалам агітаваў за збор цёплых рэчаў. Побач хвалілі невычарпаную энергію салісткі «яго вялікасці» Марылі Долінай, даваўшай у цырку Чынізеллі дваццаты «патрыятычны канцэрт». Далёка не сугучным першаму звінелі скаргі дзвюх бабулек на ўздаражанне мяса.

Кандуктар таксама лічыў патрэбным устаўляць ад сябе словы ў кожную гутарку. Гэта, відаць, яго цешыла і здавальняла, бо ён несціхана ўхмыляўся. Ён узяўся за артыстку Доліну, калі паравік абмінаў Сампсо-

ніеўскую царкву. У напоўнены вагон шугнула новая грамада пасажыраў.

— Усе на «патрыятычны канцэрт»... Які патрыятызм у людзей! Дайце вальней уздыхнуць ад яго! — прагукнуў кандуктар у насядаўшы натоўп.

Яго рука, павісшы на рамушку ад сігнальнага званка, падалася ўбок, і вагон рушыў. Услед яму пагналіся лаянкі не папаўшых у паравік. Раптам сярод разнастайных галасоў вылучыўся свіст гарадавіка; ён быў нагэтулькі зычным, што пасажыры абярнуліся ў бок задніх дзвярэй. Кандуктар тузаў вяроўку, даючы сігнал спыніцца. Знянацку штуршок таўхануў напікаваны людзьмі вагон. Кагосьці прыціснулі, чыясьці рука праламіла шыбу, і шкло зазвінела срэбраным гукам.

Яшчэ не ўсе чарапкі разбітага акна апынуліся на ўгладжаным снягу, як гучная лаянка напорным струменем варвалася перш на пляцоўку вагона, ■ следам праз рашуча прачыненыя дзверы — у сярэдзіну яго. Нельга было не пацікавіцца на грозны голас крыкуна, на яго ваяўнічы настрой. І калі дзесяткі вачэй накіравалі ў яго бок свае ўзрокі,— стройная, асаністая фігура чарнамазага велікана-генерала спыніла іх на сабе.

Рудымі буйнымі вачыма генерал аглядаў вагон, людзей, афішы і забойна лаяў кандуктара. «Хам'ё,— адрыўна ляцелі словы з генералавых густа аброслых губ: — Яшчэ не паспелі вас выхаваць належным чынам. К-кашы-і бярозавае мала спыталі, мужыччо... У акопы, пад нямецкія кулі, погань».

Рыгор затросся ад абурэння. У яго нутры забушавала прагнае хаценне кінуцца на царскага пампадура і расквасіць яго наглую морду. Ужо ён намерыўся да павароту, як яго пераняў выгук кандуктара: «Тут смелыя, а на фронце-э...» Гэта падліло масла ў агонь: генерал мігам спыніў паравік, выперся на пляцоўку і ва ўсю моц гукнуў гарадавіка. Пасажыры змоўклі і нашарохана пераглядаліся. Некаторыя сталі пакідаць вагон.

— Ну, гэта ж недапусцімая рэч! — гукнуў Рыгор і следам пазваніў важатаму. Паравік крута рвануў з месца. Генерал не ўтрымаўся і бухнуў з пляцоўкі на мёрзлую зямлю. Скрозь гаму скрыпаў і стукаў калёс можна было ўлавіць немыя крыкі генерала. Ды яны не маглі ўплыць на бег паравіка. Не спынілі яго раней

астаноўкі і палахлівыя з озіркам сказы некаторых пасажыраў.

Перад клінікай Вілліе Рыгор першым выскачыў з паравіка і перасеў на трамвай.

Ён не заўважыў, калі апынуўся на рагу вуліцы Жукоўскага. Замаруджаная хада трамвая настроіла яго сысці і прайсціся да Неўскага пехам. Мо упершыню за час бывання ў Пецярбурзе Рыгор нічога не думаў, нічым не задаваўся, а беспытальна, бязмэтна, гардліва і вольна глядзеў наперад сябе. На яго твары грала чырвоная фарба здароўя, у нагах пружыніла сталёвасць, вочы праразалі разрэдзенае, абмытае сонцам паветра.

Раптам струмень пешаходаў зацішыў хаду, затоўкся на месцы, нарэшце збіўся ў натоўп. «У чым рэч?» — далучыў Рыгор свой голас да іншых. Ніхто не адказваў. Тады ён прарэзаў сцяну людзей і тварам да твару стрэўся з гарадавіком. Апошні з разнятымі рукамі затрымліваў натоўп, каб не перашкодзіць насіць раненых.

Пасярэдзіне вуліцы, якраз супроць будынка шпіталя, доўгім цугам выстраіліся санітарныя вагоны. Да дваццаці пар насільшчыкаў у белых халатах бесперабойна бегалі з шпіталя да вагонаў і вярталіся назад з раненымі. Чуўся адрыўны ойк і працяжны енк. Бязрукія і бязногія, з чалмамі перавязак на галаве, пад скупымі коўдрамі — варочаліся «героі» франтоў у «гасцінную сталіцу». Далёкая Польшча, Усходняя Прусія — чужыя і невядомыя, мігалі ў іх балючым вабражэнні жахлівымі вобразамі. За каго і дзеля якое мэты пакінулі яны там свае сілы, сваё здароўе, часткі свайго цела? Ці мала ім было разанскіх ці яраслаўскіх прастораў, украінскіх стэпаў, беларускіх лясоў?.. Родных, знаёмых, спакойлівых...

Вунь малады з круглым белым тварам мужчына. Сінія рэзвыя вочы, стройны лоб, роўны вытачаны нос... Вось танкатвары з пракідкім калісьці ўзрокам, жывы і, напэўна, весяльчак, сібірац. Маньчжурская шапка паглынае ў сабе страхі нечуваных боляў...

Следам — чарнявы, задуменны яўрэй — без рукі і нагі; пашарпаная летняя шапка на букеце чорных кудраў. Прыплюшчаны вочы — пэўна, ловяць жахлівыя ўчынкі казакаў... Магчыма, што толькі за дзень да калецтва ён атрымаў ліст з балючаю весткаю пра за-

бойства бацькі... Падбудаваная хата на Рымарскай вуліцы гродненскага мястэчка. Замілаваная жыццёрадая Пэся... Біржа майскімі начамі...

Ах, і казак... Сярэдніх гадоў — бацька і муж. Аброслы, замурзаны раскапанаю на акопы зямлёю; скрыўлены сударгамі твар; жмак марлі на галаве, пад новаю папахаю... На кані ад Маныча да Віслы... З рэзвым ваяўнічым выглядам — на страх ворагам. Бязвольныя рукі — яшчэ так нядаўна па загадзе сцябаўшыя нагайкаю спіны беларускіх мужыкоў, яўрэйскіх жанок. Што там, дома? Ці сабрала жонка з поля? Кавуны, кукуруза? Ці беліцца хата к калядам? Ці вучыцца Юзік?..

Саракавы — лязгін... У даўгім носе — арліная воля. У раскрытых, ашклянелых вачах — водбліск вечных снягоў Казбека... Шырокая чорная бурка — прасторныя выганы на стромах гор... Бурлівыя рэчкі, срэбныя вадаспады... Ці не абвалілася тая скала, на якой ён так любіў скакаць віхравую лязгінку?..

Сорак першы — льняны магілёвец... Без абедзвюх ног... без тых намардаваных ног, што так вёртка спраўляліся з носкаю дроў на параходы. Сігнал а першай гадзіне ўначы... Вёска на нагах — зрэбныя порткі да болю шаруюць цела — тры рублі на сто чалавек... Сырап да іржаных бліноў... Ці ўрадзіла палоска? Колькі коп сабрала Юзя жыта?.. Ці парос лён — хоць наткаць на кужаль... Пэўна, вецер знёс страху, і хата свеціцца голымі крокмамі... Напішы яму, Юзя... Чаму ж?..

І на вайне і раней у палку — разам з ім — палтавец... Шаўчэнкаўскія вусы... Хмурыя і навесістыя бровы. Прадаўгаваты васковы твар... Думкі, палітыя крывёю, носяцца ў трапяткім лісці топаляў... Думкі гудуць пчоламі на вішнёвым цвяту... Жоўтыя кругі сланечніку — ціхаяВорксла... Або дачакае тачанка, на якой столькі вёрст ён выехаў... «Сымон, калі ж ты наведаеш сінюю Палтаўшчыну?..»

Рыгор непарушна стаяў на адным месцы, сціснуты жалем і помстаю, як стальнымі абручамі. «Ці скора надыдзе час расплаты за гэтыя пякельныя жахі вайны?»

Адказ зацёрла хлынуўшая на яго і пацягнуўшая за сабою грамада пешаходаў. Ён не агледзеўся, як апынуўся перад роўнаю гладдзю хваляваўшага жыццём Неўскага. Безабдумна пахіліў направа, у бок Анічка-

вага моста. Не даходзячы, успомніў пра абед — добра, што побач харчэўня.

Праз хвіліну ён ужо праходзіў другі паверх, калі яго абазвалі знізу. Ён азірнуўся — за ім спяшыла Гэля.

## IX

— Цябе не нагнаць, Рыгор...

— Гэля?!

— Прыгледзься, ха-ха-ха...

— Няўжо такі Гэля?

— Не пазнаеш?

— Дзень добры!

— Добры дзень!

— Каго я бачу!

— Раптам?

— Якім жа чынам?

Яны ўзяліся за рукі і доўга не маглі іх разняць.

Прымха?

Рыгоравы вочы ўталоплена глядзелі Гэлі ў твар.

Верылася — не верылася.

Гэля — не Гэля?

Каб не бачыў, каб не ведаў, каб не жыў з ёю ад малых гадоў — не пазнаў бы.

То была не Гэля, а яе далёкае падоб'е. Бляды, асунуты твар. Глыбока заўпалыя вочы. Сінякі, як сталёвыя дугі, вакола паблеклых зрэнак. Тоўсты пласт таннае пудры. Надломы ў паваротах. Пужлівасць ва ўзроках. Беднае дэмісезоннае памятае палітцо... на рыб'ім пуху... Без галош — пашарпаныя чаравікі.

Прымха?

Гэля не магла расчыніць вуснаў. Мэрам бы баялася глядзець Рыгору ў вочы. Нервова пераступала нагамі. Апускала голаў. Руку непарушна трымала ў Рыгоравай руцэ.

— Хадзем паабедаем.

Пакуль Рыгор разглядаў меню, заказваў ежу, Гэля маўчала. Усё яшчэ не знаходзіла ў сабе смеласці пачаць размову, каб выказаць сваю скаргу на жыццё. Мэрам бы не ўверана была, што жыццё вінавата...

Рыгор выручыў запытаннем:

— Паведамі ж хоць, як ты трапіла ў Пецярбург?

— Доўгая гісторыя.

— Тым лепей, я сёння вольны — нядзеля. Паабедаем і паедзем да мяне... Згодна?

Гэля кіўнула галавою.

— Ты над нечым задумалася моцна?

— Братка Рыгор, каб ты ведаў...

— Што?

— Думак — бясконца, без меры... Думаю, толькі без толку і без карысці...

— Чаму?

— Тая ж гісторыя, якую я так імкнулася табе расказаць...

— Імкнулася, а зараз?

— А зараз, мне здаецца, яна нікому не патрэбная... Што каму да мае гісторыі, дробнае і непрыкметнае?..

— Гэля... З нашых дробных гісторый складаецца вялізная кніга быцця... Мы дробныя — ды нас многа... Вялікае складаецца з дробязі...

Рыгор справодзіў сваю гутарку лёгкаю ўхмылкаю — ён думаў развеяць Гэлін сум.

Але праз увесь абед яму гэта не ўдалося зрабіць. Гэля болей маўчала. Рэдкімі сказамі адказвала на цэлыя комплексы Рыгоравых запытанняў.

Толькі праз нейкі час, у які яны праехалі з Неўскага да Ляснога, Гэлін настрой адстояўся, выраўняўся, і яна развязала язык.

— Я ўжо тыдзень у Пецярбурзе,— казала яна па дарозе да Рыгоравай кватэры,— дзве ночы начавала... Ой, цяжка сказаць, дзе і што начавала... Пасля... Выпадкова натрапіла на бежанскі камітэт... Ужо пятую ноч, як жыву на яго дапамогу... Я бежанка, а ўсё роўна не магу збегчы ад жыцця... Свет шырокі, а дарога вузкая. Звузілася, Рыгорка... Памятаеш, мне не было прыпынку, а зараз...

— Вось у гэты двор.

Рыгор уважліва слухаў Гэлю. І надрывы ў яе голасе і бедны яе выгляд радзілі ў ім глыбокую спагаду да зямлячкі, знаёмай і таварышкі. Ён ішоў побач, з пахіленаю да Гэлі галавою, і час ад часу зазіраў ёй у вочы.

— Наша жыццёвае заданне — разгартаць гэту вузкасць дарог... Чалавек створаны на тое, каб жыць у супярэчках...

— Ты ўсё той жа, Рыгор. Сілцы, Смагін, Рыга, Пецярбург. Васемнаццаць гадоў і дваццаць чатыры... Балаголай і слесарам...

Яны спыніліся пры дзвярах Рыгоравай кватэры. Рыгор тузануў за драцяную пятлю.

— Хто там? — запытала гаспадыня.

— Я, Рыгор. Адчынеце...

— Вас чакала адна дзяўчына... Толькі што выйшла... Я не магла сказаць, калі вы прыйдзеце.

Сарафіна Хлораўна далікатна ўхілілася ўбок, прапусціўшы Рыгора з Гэляй.

— Абяцала прыйсці,— паслала яна ўздагон.

Рыгор не пачуў; ён бразнуў дзвярыма і скраў гаспадынін голас.

— Прашу, Гэля. Вось мая абіцель.

Гэля ўвайшла і бесцікаўна паглядзела вакола сябе. Пасля села пры стале, апусціла ўзрок і апавядала далей...

— За гэты час усё пайшло шыварат-навыварат. Помніш, мы паехалі ▪ трупай? Аб'ехалі шэраг гарадкоў і мястэчак... Было весела... Усюды віталі, падносілі кветкі, выклікалі... Толькі тэатр — гэта вярцеп... Ён вытузаў сілу, разблытаў нервы, скаламуціў жыццё... Мой Лазар... Ты помніш яго, Рыгор?

— Крыху... Ну, ты пра свае поспехі пісала мне ў Смагін. Памятаю гарбарскія букеты і выцяжкі...

Гэля злёгку ўсміхнулася.

— Вось гэты Лазар... спіўся, распусціўся, залайдачыўся... Западозрыў мяне ў зайздрасці... да каго, думаеш?.. Да цябе... Пачаў біць і гнаць... Перш я не паддавалася, абстойвала сваю людскую вартасць, змагалася, а пасля... Ён кінуў мяне ў Крынках адну і збег... Дзе ён — цяжка сказаць, мэрам бы ў войска ўзяты... Заўсяголаў толькі я асталася без нічога і без нікога... Я мусіла, Рыгор... Я мусіла ісці...

Рыгор заўважыў у Гэліных вачох буйныя крышталі слёз і знарочыста затупаў па пакоі.

— Не ехала ў Пецярбург, а паўзла... Этапамі, спынкаю, з невыказным мардаваннем... Я думаю, табе відаць... Не пазнаў жа?

— Усё ж, Гэля, ты занадта зажурбіла... Табе трэба...

— Што мне трэба? — запытала Гэля.— Мне ўжо мала што трэба, а можа... Скажы, аднак, мне, дзе Пятрусь? Я дзень у дзень наведваю адрасны стол, хаджу па вуліцах горада і разглядаю тысячы людзей. Некалькі раз трапляла да варот заводаў і чакала, пакуль пройдуць рабочыя... Няма... Ты, пэўна, ведаеш, Рыгор...

Рыгор памаўчаў.

— Пятрусь сядзіць... Некалькі часу таму я яго наведваў...

— Сядзіць?! Які жах! Сядзіць?!

— Сядзіць... Ужо чацвёрты месяц...

— Тады мне няма чаго чакаць...

Яна паднялася, каб ісці. Рыгор спыніў, упрасіўшы пасядзець.

— Я пашукаю для цябе месца.

— Для мяне месца? А хіба ты не ведаеш, што я за масцярыца?

— Кінь свой настрой... Я не люблю, Гэля, зняве- раных людзей... Ты ж ведаеш...

Гэля рванулася да дзвярэй.

— Ты не пойдзеш — ты мне не сказала ўсяго... Пасядзі...

Яна спынілася.

— Памажы, калі хочаш і можаш...

Яе мяккі, упрошаны голас разрэдзіў напружанае дагэтуль паветра.

— Я буду шукаць табе месца... Цяпер лёгка знайсці... Толькі кінь сумаваць... Ды, нарэшце, ты маеш бацькоў, якія...

Гэля ізноў змяніла настрой.

— У мяне няма бацькоў — я адна. У мяне і блізкіх няма. Толькі ўсяго...

— Палічы мяне хоць бы знаёмым, Гэля... Няўжо ты думаеш, што я не магчыму адгукнуцца ўсякі раз, як ты...

— Даруй, Рыгорка... Ты дай мне хоць пару рублёў... Я хоць чаравікі папраўлю, а то ногі вылазяць...

Рыгор падышоў да Гэлі і моцна пацiснуў ёй руку.

— Калі ласка, я магу табе пазычыць пяць рублёў... Вось, апошнія — толькі глянь празрыстымі вачыма наперад, Гэля!

Ён перадаў ёй скамечаную паперку.

— Дзякую... Вельмі дзякую табе, Рыгор... Я хутка ж пастараюся вярнуць... Няпраўда, я зараблю і вярну... Няўжо такі для мяне не знойдзецца працы?

Гэлін твар перавабразіўся. На бледных шчоках адзначыўся лёгкі руж. З вачэй збегла цягучая асавеласць. Знайшлася варушлівасць. Яна здзела палітцо і іранічна адазвалася пра зношаную картунковую блузку.

— Не пасуе да пецярбургскіх умоў, га? А даводзіцца мірыцца... Часы пераменчывы... Ты, Рыгор, будзеш ласкаў пастарацца месца?.. І яшчэ прашу цябе, браток, кланяйся Петрусю... Можа, яму гэта нішто, а для мяне... Кланяйся яму і скажы...

Яна папраўілася:

— Лепей не кажы нічога... Я перад табою магу душу адкрыць, а Пятрусь... Пятрусь недаверак... Помніш, Рыгор, Сілцы? Я табе казала не раз... Паверыш, вось да цябе ў мяне столькі павагі, што ты... У Смагіне ты ашчаслівіў мяне нашай стрэчаю, а тут... Я не чула ног пад сабою, угледзеўшы цябе на Неўскім...

Рыгор папрасіў у гаспадыні гарбаты.

— Я табе, Гэля, веру... І прашу, разам з тым, забудзь прыкрыя хвіліны... Ад Захараўскай у Лясное ты дарогу ведаеш... Кожны раз ты можаш ка мне прыехаць і няскрытна паведаць пра ўсё...

Гаспадыня прынесла гарбату. Рыгор увішна наліў шклянку і падаў Гэлі.

— Дзякую, Рыгор. Мне час ісці, а то камітэт...

— Я цябе правяду... Пі...

Гэля ўзяла шклянку і тут жа паставіла назад.

— Зусім запямятавала! — весела праказала яна да Рыгора.— Хоць жыццё прымушае плакаць, а я знарок буду весяліцца...

— Брава, Гэля!.. Весяліся, пой і змагайся...

— У мяне рэч усяго пра адзін вечар...

— Вонь яно што! Пра адзін вечар усяго?

— Бежанскі камітэт наладжвае вечарынку... У студзені якраз... І я, як артыстка — маўчы, Рыгор! — іграю. Ты мне хоць пару воплескаў падорыш, га?

— Я табе, Гэля-а!.. Буду чакаць цябе з білетамі... Дачакаюся?

Гэля задаволена ўсміхнулася.

І гэта Гэліна ўсмешка ўжо не сходзіла з яе твару, пакуль яна не рассталася з Рыгорам.

## X

Цёмная ўскраінная ноч ахутала вузкі дворык чорным цалуном. Золкае паветра сціснула холадам распараныя постаці выйшаўшых з дому двух чалавек. Пасля зыркага святла бегалі калёсы ў вачах. Дзьму-

хаў фінскі ветрык, сыплючы ў твар калючымі сняжынкамі. Звінелі драты. Пахіленыя варотцы на ланцужку манатонна скрыпелі. Уверсе ж, над зямлёю і будынкамі, над голымі дрэўцамі і парканам калыхалася малако отсвіту. Цішыня, коўзкая і паўзучая.

— Засядзеліся,— першым вымавіў Рыгор.

— Яшчэ б не заседзецца! Пытанне не лёгкае і не простае,— адказаў Анікей.

— Ха-ха-ха! Ну, мне з Якавам Гісам не разабрацца. Гой, дзівак які... Ты паслухай толькі-ы...

Анікей тузануў Рыгора за полу паліта.

За імі чуліся чыісьці крокі і ціхае перашэптванне.

Яны вёрткім паваротам апынуліся за брамаю і павярнулі направа.

На адгоне некалькіх сажняў свірэла першая пара зеленаватых агеньчыкаў. За імі, як звенні ланцуга, ішлі другія пары: яны глядзелі з цемры ночы блішчастымі гузікамі на чорным сурдуце.

Ні жывое душы. Толькі цёмныя абрысы будынкаў.

— Няма нікога! — шапнуў Рыгор.— Давай пройдам наўскасяк і тады налева,— дадаў ён.

— Ды мне ж будзе не па дарозе,— адказаў Анікей.

— Чаму?

— Мне на Сердабольскую...

— А ты пойдзеш гэтай, як яна...

Анікей не спрачаўся. Яны перайшлі вуліцу зломаным кутом і ўперліся ў другую, яшчэ цямнейшую. Прайшоўшы не болей дзесяці хвілін, Рыгор знайшоў спраўнейшым абагнуць два кварталы першага завулка, каб на яго скрыжаванні расстацца з Анікеем.

— Я ўжо цалкам здаюся на цябе,— пасмяяўся ён.

— Здавайся, каяцца не будзеш...

Рыгор спыніўся пры мглівым святле ліхтарыка і прачытаў лічбу дома. Ліхтар далёка не вытлумачыў таго, чаго ад яго чакалі. Тады Рыгор узяў на рызыку і пераказаў да таварыша:

— Здавайся, каяцца не будзеш.

— Здаюся... А пакуль выведзеш з гэтае глушы, зусім здамся...

Абодва засмяяліся і зусім не з асцярогаю. Ніякага адказу — ні стукам, ні тупам, ні кашлем.

— Якаў мяне распацешыў, ды годзі-ы... Ну, да чаго, скажы, апошняя яго прапазіцыя?..

— І я так думаў... Інтэлігентшчына...

— Я табе кажу, Анікей...

Ім паказалася, мэрам бы хто іх наганяе... Азірнуліся... Смуглыя ліхтарыкі хаваліся пад стрэшкамі брам. Ціха.

— Зрабіць спробу не мяшае... Сотня, дзве сотні чалавек, а эфекту, во-а-а... Не праўда, мо?

— Як табе сказаць... І я гэтай думкі трымаюся... Хоць рызыкі...

— Рызыкі... Зразумела, што не без таго... Спроба, бачыш... Паўгода вісіць крывавы дурман... Алавяны цяжар душыць усякія пазывы... Ну, памятаеш сталовую? Во-а! У адзін момант і — Везувій... Везувій, кажу табе...

— Усё ж і Якаў меў рацыю... Перша раздаць адозвы — мэрам бы сігналам прапусціць па заводзе... А тады... Тэма — суд над дэпутатамі думы, дарагоўля мяса, нястача вугалю, цукру...

— Спроба... Аднак надзея ёсць... Важна, кажу табе, выкрэсіць хоць адну іскрачку... Зрабіць намёк, што вайсковае становішча, мілітарызацыя, узмоцненыя меры папярэджанняў, усё-ўсё — нівошта...

— Я ўсё высняю гэтымі днямі... Нельга ж без кардынацыі... Сам разумееш...

— Ну, Якаў, Якаў! Дзівак які, не праўда мо?..

Яскравы бляск ліхтара іх перапыніў.

— Куды мы выйшлі? — запытаў Анікей.

Рыгор смяяўся — то была яго вуліца.

— Паверыш, ты мяне правёў дамоў...

— Няўжо? Вось і здайся на цябе...

Яны разглядалі мясцовасць.

— Ты варочай налева — прасцей дарогі не знойдзеш.

— Да ўжо ж.

Анікей развітаўся і спешна пайшоў у бок Выбаргскае шашы. Як яно выйшла, што Рыгор вывеў на гэта месца, для яго таксама было няясна. Ён шчыра смяяўся з таварыша.

Той мінаў другі квартал, калі Рыгор кінуў праводзіць яго ўзрокам і павярнуў направа, да сябе.

Ён зрабіў некалькі крокаў, зноў вяртаючы думкі да Якава, і не заўважыў, як хтосьці мігнуў паміж яго. Рыгор спыніўся і агледзеўся. Мо на сажань ад яго стаяла якаясьці жанчына, азіраючыся. Рыгорам зайграла цікавасць.

— Не пазналі? — запытаў ён.

— І вы не пазналі?

Знаёмы акцэнт рушыў Рыгора з месца.

— Няўжо гэта...

Ён падумаў на Гэлю і раптам змяніў дагадку.

— Вось, бачыце-э...

— То-та і ёсць, што не бачу...

— Вы Рыму суйздром запамяталі... А я вось іду ад вас...

— Рыма?!.

Каб хто чуў Рыгораў выказ, падумаў бы, што Рыгор напаў на след чалавека, якога шукаў гадамі. Мяккасць і мілагучнасць яго голасу дыхала весялухаю радаснага пачуцця.

Рыма пачула ў ім нечаканую асалоду.

— Ха-ха-хэ-э! — зарагатала, падыходзячы насустрач.

Поціск іх рук быў шчырым і сардэчным. Рыгор зразумеў яго, як выбачэнне з боку Рымы.

— А я зняверыўся быў... Памятаеце-э...

— Кіньце-э... Хто ўспомніць мінулае, таму... Хэ-хэ-э-хэ!.. Ну, я буду шчаслівая!..

— Чаму?

— Вы не пазналі...

— Я вам жадаю...

Ласкавая, крохкая ўхмылка на Рыгоравым твары была заканчэннем яго сказа... Рыма разумела ўсё, што таілася ў ёй. Дзяўчыне было прыемна слухаць Рыгора ці проста, моўчкі, глядзець у яго раскрытыя вочы... Яна не аднімала свае рукі з яго рук і мінаю Джыяконды выклікала новыя сказы з Рыгоравых вуснаў...

— Я заўсёды ўспамінаю вас...

— Маўчэце... Хто ўспомніць мінулае...

Рыма падняла ўгору левую руку і паказала ўказны палец.

— Разумею... Чаму ж вас я не мог дачакацца?..

— А ў мінулую нядзелю хто вас наведваў? Бяспамятнасць?

Рыгор успомніў, што яго гаспадыня паведамляла пра нейкую дзяўчыну... Так, гэта тады, калі ён прыйшоў з Гэляю...

— Вам холадна, Рыма?

Ён смела крануў яе пушыстага, коцікавага каўне-

ра. Драбнюткія пылінкі снегу ссыпаліся на ровень надгруднага прастору.

— Марозіць?

— Марозіць!.. Золка...

— Пойдам?

— Мне пара дамоў.

Другім бокам вуліцы прайшла запозненая пара.

— Людзі не спяшаюць, во!

Рыма азірнулася.

— Яны ідуць таксама дамоў!

— Іх дом у тым баку?

— Хэ-хэ-х! — засмяялася Рыма на хаду.

Перад брамаю, дзе спыніліся, яна рашыла вярнуцца дамоў.

Гэта рашэнне дапомніла Рыгору памятны выпадак з Рымаю ў яго пакоі. Ён усхваляваўся, але паказаў, што не заўважыў нічога.

— Я вас правяду...

— Калі ласка... Я мушу вам перадаць тое, з чым наведвала вас...

— Менавіта?

— Я была ў Петруся...

— Былі ў Петруся?!

— Дзівіцеся? Была... Ён казаў мне, што бачыўся з вамі... Я так і думала, што вы таксама былі ў яго...

— Як жа Пятрусь сябе адчувае?

— Па-мойму, дрэнна... Ён вельмі змізарнеў і паблядней... Мне шкада яго... Ён гэткі добры і мілы чалавек...

— Ну, калі ж, нарэшце, яго вызваляць? І чым...

— Чакае, нібыта днямі яго лёс будзе вырашан...

— Казаў?

— Так, казаў... Жудасць бярэ, Рыгор, уяўляючы сабе яго стан...

— Я з ім знаёмы...

— Што вы кажаце?

— Сядзеў... А ласне вам Пятрусь не казаў?

— Магчыма... Ён вельмі дзякуе вас за грошы. Прасіў перадаць, што калі можна, пастарайцеся яшчэ хоць раз наведаць яго... Ён добры таварыш... Каб я была...

Рыма адвярнулася на вуліцу.

— Я ненавіджу гэтыя людскія ўмоўнасці... Як павуцінаю, пераблытана імі наша жыццё... І чуеш у сабе сілу, а між тым не можаш з агідаю іх парваць...

Скажэце, Рыгор, колькі пойдзе часу на тое, каб усе гэтыя талмуды, евангеллі, псалтыры і торы сабраць у адно месца і — шшу-ух! агнём... Мне шкада Петруся, як бывае шкада...

Рыгор апяразваў Рыму праваю рукою. І чуў, постаць яе аддавала нервовым трапятаннем; ён настарожваўся і выбіраў гладкія, плаўкія сказы, каб імі не раздражніць дзяўчыну.

Яна штосьці такое перажывала — відаць было з яе адрыўнай, затуманенай гутаркі, з частага дапамінання пра Петруся.

— Вы ідзеце дамоў,— праказала яна Рыгору, калі яны спыніліся перад брамаю аднае дачкі.— А я выберу час і зайду, каб доўга-доўга і пра ўсё-ўсялякае пагутарыць з вамі...

— Даяце слова?

— Не верыце?

— Буду вельмі рад з вамі спаткацца...

— Не забывайце Петруся — ён ваш лепшы таварыш...

Яна бразнула цяжкаю клямкаю дзверац і схавалася ад Рыгора.

У гэты момант пачуўся трывожны званок пажарных, якія ўгрунь несліся з-пад Выбаргскае шашы ўсцяж вуліцы. Чырвоныя лахматыя факелы агню развяваліся на белым фоне снегу, прамянеючы рэвалюцыйнымі сцягамі.

## ЧАСТКА ШОСТАЯ

### I

Ганна ўжо трэці раз спускалася з свайго пакоя на вуліцу. Абегала некалькі крамак, а забыла хлеба.

Была дзевятая гадзіна, і вось-вось канчалі гандаль. Каб заспець, яна хутка перабівала нагамі, не азіраючыся па баках. Некалькі суседзяў, стрэўшыся на сходах, прывіталіся з ёю — але Ганна забыла адказаць. Дворнік, уладуючы з брамаю, зняў перад ёю лахматую шапку і саступіў з дарогі.

На дварэ стаяў моцны мароз.

рыпала пад нагамі, і бляск марознага галену пярэсціў у ваччу.

У хлебнай падбіралі апошні тавар. Голыя паліцы дапаміналі пра святы.

— Хоць пару фунтаў, Мікалай Ігнатавіч,— папрасіла яна маладога рухавага прыказчыка.

— Ды хопіць, хопіць, барышня,— адказаў той.

Ганна прашылася да прылаўка і ўзяла адважаны хлеб. Цяжкія медзякі бразнулі аб дошку.

— Вазьмеце грошы.

Прыказчык паглядзеў на Ганну і жартоўна ўхмыльнуўся.

— Жадаю вам весела спаткаць Новы год...

Ужо з дзвярэй Ганна паслала аддзяку.

А на першым кроку за дзвярыма забыла, што і была ў краме. Тым жа тэмпам яна накіравала да сябе. Ёй не хацелася, каб госці засталі яе непадгатаванай для іх спаткання.

Ачуўшыся ў пакоі, яна агледзела яго, як незнаёмы ёй, і паківала галавою. Ёй паказалася, што ў яе дужа ўбога і непрытульна. Прыйдуць госці, а іх страпнуць гэткія абставіны. Не, тут не да навагодніх настрояў.

Ганна пераставіла накрыты закускаю стол; прымеркавала на вока, як і што рассядуцца госці, пасля яшчэ раз прыгладзіла пасцель і паправіла накідку на падушках. Далей пачала прыбірацца.

Кожны стук у калідоры і за дзвярыма, на ўсходах, яе нервавалі. Час бег няўтрымна, а працэс чакання гэткі цікавы! Ганна нічога не мела б, каб ён працягнуўся надалей... Але разам з гэтым ёй прыкра было думаць, каб закліканыя не прыйшлі.

Вось перад ёю мігнулі: Рыгор, Лука Дарафеіч, Міхась Камар... Ізноў яна глянула на прыгатаваную вячэру. Яе ўражанне перабіў зычны званок. Ганна кінулася да дзвярэй і пачула гаспадынін голас:

— Дома, направа першыя дзверы.

Следам да яе пастукалі.

— Прашу вас,— пазвала Ганна і адчыніла пакой.

— Я ранні госць, выбачайце мне,— праказаў Рыгор.

— Яшчэ б чаго не хапала... Бяры крэсла... А я думала, што, можа, ты забудзеш і не наведаеш.

— Гм! Якія дзіўныя ў цябе думкі.

Рыгор распрануўся і пацёр рукі.

— Вось марозік — дык марозік! Бедныя салдаты — трэба ж ім цярпець у акопах.

— Праўда, горкая праўда... Церпяць, а завошта?

Ганна раз-поразу паглядала на стол, сочачы за Рыгорам. Той жа тупаў на малюткай плошчы паміж сталом і дзвярыма і паахківаў.

— Зіма бярэ сваё...

— А я, ведаеш, Рыгор, што надумала?..

Ганна пытальна зазірнула Рыгору ў вочы.

— Што?

— Пайсці ў сёстры... Тут нас некалькі чалавек, і я з імі... Мне хочацца памагчы няшчасным салдатам... Хоць чымсь-кольвечы памагчы... Як ты думаеш? Твая думка будзе мне...

Ганна не даказала, мэрам бы збаяўшыся выказваць свае намеры.

— Як табе сказаць... Мне шкада цябе... Я б не хацеў з табою расставацца... Усё ж, Ганна, ты сама над сабою пан...

Яна задумалася. І прыгатаваны стол, і спатканне гасцей, і пераднавагодні настрой — усё гэта на момант знікла дзесьці, затулілася Рыгоравым выглядам. Ганнаю апанавала пачуццё шэрае невыразнасці, тупое і безвыходнае. У гэтым пачуцці расплылася за апошні час набліжаная да яе істота Лукі Дарафеіча... «Няўжо такі Рыгор?» — бліснула ў Ганнінай галаве запытанне і раптам абарвалася. Ізноў званілі. Ганна борзда пабегла адчыніць.

Засопшыся, перад дзвярыма стаяў расчырванеўшы на марозе Лука Дарафеіч. Ганна зусім была забылася пра яго — а гэта якраз тварам да твару.

— Калі ласка!

Той праз парог працягнуў аголеную з пярчаткі руку і нізка схінуўся перад Ганнаю.

— Зіма ў поўным разгары... Вы адны?

— Не бойцеся, калі і ўдваіх...

— Ужо?

У пакоі Ганна пазнаёміла Луку Дарафеіча з Рыгорам.

Абодва нейкі час памаўчалі, аглядаючы адзін другога; пасля слова за словам узнялі гарачую гутарку пра сучаснае становішча. Лука Дарафеіч пачаў скардзіцца на дарагоўлю мяса і круп, на перабоі ў апале. Усю віну ён ускладаў на дзеячаў гарадское думы і мес-

ных гандляроў. Лука Дарафеіч выглядаў у іх зламыснікаў і шкоднікаў грамадскай справы. Апошняя заключалася, па-ягонаму, у адзінай мэце — перамозе ворага Расіі, прускага юнкера.

Рыгор спрабаваў перасунуць спрэчку на больш шырокія рэйкі, закранаючы агульныя прычыны сацыяльнае несправядлівасці і бязладзіцы пануючага стану. Гэта, аднак, не ўспрымалася Лукою Дарафеічам. Тады Рыгор перамяніў тэму гутаркі, звузіўшы яе да будзённых матываў.

Ганна перш дзесьці выйшла з пакоя і мо з паўгадзіны адсутнічала. Вярнуўшыся, яна ўставіла некалькі сваіх заўваг і следам за апошняй заўвагай крута абарвала абодвух.

— Адзінаццатая гадзіна, а Камаровых усё яшчэ няма.

— Марозу баяцца,— адказаў Лука Дарафеіч.

— А без іх мы не сумеем спаткаць Новы год? — пасмяяўся Рыгор.

— У большай кампаніі весялей...

— Нават?

— Ды я гатавалася дзеля ўсіх...

— Нічога не парадзіш...

Ганна прачыніла дзверы і паслухала. У кватэры і за дзвярыма было ціха.

— Вы ўбачайце мяне, браткі, што так не гасцінна...

— Не ўбачым, нізашто,— пажартаваў Рыгор.

— А вы ж яшчэ чакаеце кагосьці...

Ганнін адказ пераняўся стукам дзвярэй — то прыйшлі Камаровы.

Пакоік напоўніўся да адказу. Пяцёра чалавек да разапяты пасярэдзіне столік занялі ўсё яго гала.

— Хто не знаёмы — пазнайцеся, прашу...

Скрыжаваннем выцягнулася некалькі рук. Паўстаў смех, перагаворы...

Ганна замітусілася, не ведаючы, як гасцінней уладзіць. Яна памеркавала ■ крэсламі, падышла да ложка і ўсё не магла вырашыць, як тут лепей. Нарэшце спынілася, праказаўшы:

— Прашу вас заняць месцы за сталом. У цеснаце — не ў крыўдзе...

— А вы б мо думалі, што мы крыўдзімся? Харошая справа...

Міхась Камар першым залез за стол, а за ім усе другія.

— Мне думаецца, што павінна ўжо чуваць крокі Новага года.

Рыгор паглядзеў на гадзіннік.

— Зараз званіцьме...

Ганна наліла ў чаркі віна і праказала:

— Давайце вып'ем за Новы шчаслівы год!

— Хоцькі б не абмануў ён нас...

— За хуткую перамогу?

Міхась Камар паглядзеў на Рыгора.

— Над кім і каго? — суха запытаў Рыгор.

— Над немцамі.

— Дык вось: немца рабочага над немцам буржуем і расійскага рабочага над расійскім буржуем... За перамогу над вайною...

— Рыгор! Цябе, я бачу, не навучылі апошнія здарэнні гісторыі... Я бачу, што ты... Во! Гэта ж мой вучань! — абярнуўся Міхась да Лукі Дарафеіча.

— Ласне?

— Запытайце... За Рыгу і за мінулае, Рыгор!

— За светлую будучыню...

— Я з Рыгорам! — праказала Ганна.

— Ну, вы пад яго ўплывам, дарагая...

Яны скончылі праказы, калі стрэлкі ўсіх наяўных пры іх гадзіннікаў наблізіліся да лічбы дванаццаць.

— За гаспадыню ў новым годзе,— падняўшы ў адной руцэ чарку, у другой гадзіннік, праказаў Рыгор.

Усе выпілі і прыняліся закусваць. Пакоік хутка напоўніўся бразгам нажоў, талерак, вёрткім увіханнем Ганны, рэзвую гутаркаю. Госці пакінулі ўмоўнасці. Шэраг надзённых тэм уліўся ў іх спрэчкі. Рыгор схапіўся сварыцца з Міхасём. Іх перамова незаўважна для абодвух прыняла формы вострае спрэчкі, пасля абярнулася ў дыскусію.

Рыгор няшчадна асуджаў царскі лад, ганьбіў яго прадстаўнікоў, паднімаў чарку за яго знішчэнне. Паражэнчыя думкі набывалі выразную форму і сваім лёзам пранізвалі Міхасёва нутро.

Міхась злаваўся і таксама не шкадаваў едкіх выразаў; ён заўзята хапаўся за буржуазную формулу — «перамога над нямецкім юнкерствам дасць народапраўную Расію». Тут з'яўляліся разнастайныя тэорыі

рабочага дабрабыту, правы для Польшчы і ўскраін, развіццё прамысловасці, уздым культуры.

Усе аблезлыя, заношаныя абяцанкі новаяўленых патрыётаў скланяліся і перасклаияліся ў вуснах Міхася Камара. Наперакор Рыгору ён выпіваў чарку за чаркаю за пераможны канец вайны, за аб'яднаныя сілы расійскага народу...

Жонка Міхася настарожна сачыла за мужам, раз ад разу хапаючы яго за рукаў, перабіваючы яго на сказах.

Лука Дарафеіч смяяўся і лагодна патураў то Міхасю, то Рыгору.

Ганна ўпарта трымалася Рыгоравых думак. Але становішча гаспадыні не дазваляла ёй уважліва сачыць за захапіўшаю ўсю кампанію дыскусіяй. Яна несціхана выбягала з пакоя, клапатліва сачыла, каб госці закусвалі, не забываючы, дзе яны і для чаго ўселіся за стол.

Хутка завязаная гутарка паміж імі задавальняла Ганну. Яна кінула небяспечную думку, што на гасцях адаб'ецца непрытульнасць яе пакоя. Выходзіла зусім наадварот. І гэта надавала Ганне рухавасці і адпаведнага настрою.

— Толька не пабецеся,— гукала яна да Рыгора і Міхася.— Тады не добрай будзе адзнака Новага года.

Рыгор махаў ёй у адказ рукою і рашуча перабіваў Міхасёвы довады.

Перад канцом ужо бяседы, якая захапіла дзесяць хвілін на другую гадзіну, Рыгор чапіў справы сябраў дзяржаўнае думы — бальшавікоў.

— Вось тая народапраўнасць, якое вы чакаеце ад перамогі над немцамі... Не народапраўнасць прынясе вам пераможная вайна, а дубальтовае бяспраўе і прыгон... Здзек, нагайкі, тухлую і крывавую гарамыкіншчыну,— казаў Рыгор.

Міхась вярцеў галавою і перабіраў рукою. Бальшавікі-дэпутаты яму не падабаліся.

— Я за Ганну, за яе намеры — ісці на дапамогу гарацешным салдатам... Агульнымі патугамі мусім выбавіць Расію ад нямецкага засілля, а тады — штыкі супроціў сваіх тыранаў. Праўда, Ганна? — Нам тады не па дарозе. Бывайце!

Ганна ўладжвала з гарбатаю. Занятая самаварам, яна зразу не адказала на Міхасёва запытанне. І толькі

падаўшы гарбату, паведаміла яму, што яна пакуль не мае пэўных рашэнняў.

— Гэта вырашыць новы год! — гукаў Лука Дарафеіч.

Вакол Ганны гутарка вярцелася нядоўга. Госці патрошку стамляліся і пазіралі на гадзіннікі. І хоць Ганне вельмі шкада было перарываць прыемны для яе час, ёй хутка прыйшлося расставацца з сваімі гасцямі.

Правёўшы Рыгора, яна запрасіла яго наведваць часцей. Рыгор даў згоду на гэта шчырым поціскам рукі.

— Толькі без гэтых асоб! — праказаў ён за дзвярыма.

## II

Дворнік хроп у велізарны каўнер чорнае браваркі. Шкада было яго будзіць. Позні час, цішыня ночы — усё казала не ў карысць Рыгора. Усё ж ён не мог чакаць, пакуль дворнік прачнецца і выпусціць яго на вуліцу. Ён падышоў да брамы і пастукаў у халоднае жалеза.

Па двары, у рэдкім марозным паветры, зазвінела. Звон быў да таго гулкім, ажно, здавалася, сыпнулі з неба зоры. Дворнік мігам падняўся на ногі і паглядзеў на Рыгора. Нічога не сказаўшы, ён павольна адамкнуў жалезныя варотцы ў браме і выпусціў яго з двара. Той хапіўся за кішэню, маючы на думцы аддзякаваць за гэта, але дзверцы ўмомант апынуліся на замку. Рыгорава рука адчула пякучасць жалеза і хутка апынулася за пазухай паліта. Ён павярнуў налева, да Садовай.

Вакола было пуста і ціха. Ліхтарні расплываліся святлом на аб'індзявелым фоне сумных муроў. Рэдка дзе ў вокнах свяціўся агонь; шэрыя плямы іх прагна лавілі вулічнае святло.

Пра трамвай нечага было думаць. Рыгор дарма супыніўся і прыслухоўваўся — знаёмага гуку не чуваць было нідзе. Вярней было — шукаць рамізніка. Але і таго не напатыкалася.

Рыгор ускорыў хаду. «Хаця б не давялося шагаць пехам на Выбаргскую старану! Гэта ж зойме болей гадзіны».

Ён яшчэ раз супыніўся, ужо выйшаўшы на Садовую. Паглядзеў. У баку Аляксандраўскага рынку прыкмеціў чорныя плямкі — безумоўна, то былі рамізнікі. Стала бяспечней, і ён кінуўся спяшацца. Гэта дазволіла вярнуцца яго думкам да Ганнінага пакоя. Міхась Камар мігнуў перад ім несімпатычнаю мінаю твару.

«Які дзіўны ён, аднакава. Няўжо такі, сапраўды, не навучыла яго жыццё правільна ў ім разбірацца?» — праказаў сабе Рыгор. І толькі намерыўся працягнуць далейшую думку пра Міхася, як знянацку пачуў з-пад брамы:

— Як ваша імя?

Рыгора збянтэжыла ад нечаканасці. Ён нервова азірнуўся ўправа і ўгледзеў пры чорнай браме якуюсьці фігуру. Следам бліснуў агеньчык цыгаркі.

— Як ваша імя? — ужо смялей данеслася да Рыгора.

Ён спыніўся, сцяміўшы ў чым справа. Унутры заварушылася цікавасць.

— Вам яно патрэбна?

— Скажэце.

Ад брамы аддзялілася сярэдняга росту, у суконнай, вязанай хустцы дзяўчына і накіравала да Рыгора. Не падыходзячы на крок, яна пазвала:

— Можа, праведзяцё мяне дамоў?

— А вам далёка?

— Я па дарозе з вамі... Запазнілася ў таварышкі, і боязна ісці.

— Калі ласка, я магу з вамі прайсці...

Рыгор не сумеў дасказаць, як на твары набліжанай да яго дзяўчыны мігнула нешта знаёмае. Следам за гэтым паказаўся вядомым яе голас. Ён пільна ўглядзеўся ў дзяўчыніны вочы і з хваляваннем праказаў:

— Гэля?

— Што-а ты кажаш?

Дзяўчына завярнула назад і ўподбежкі стала ўцякаць ад Рыгора.

— Гэля, куды-і ты? — гукнуў Рыгор.— Чакай, на хвіліну.

Гук панёсся ўсцяж доўгай Садовай. Рыгор пайшоў за дзяўчынай. На адгоне трэцяга дома, у самым цёмным месцы яна завярнула да сцяны і спынілася. Рыгор падышоў да яе і ўзяўся за руку.

— Гэля?

— Так, Гэля... Даруй мне, што я...

— Ты ж чаго гэта так позна адна? Ты заблудзіла, можа?

Яна трэслася ні то ад холаду, ні то з сораму.

— Хадзем да мяне...

— У бежанскі камітэт?

— Не-э, я ўжо на новай кватэры. Я жыву вось у гэтым двары... Зойдзем, Рыгор... Табе далёка ісці дамоў... Я ўладжу з начоўкаю. Дам табе свой ложак, а сама перайду да таварышкі...

Ад Гэлі нясло пахам таннае пудры і поту. Блішчэлі заатрапіненыя вочы. Яна стукала нагою аб нагу, ляскочучы замерзлымі чаравікамі. Рыгор не ведаў, як быць. Яго рука не выпускала з пальцаў Гэлінай рукі. А думкі разгорталі шэраг балючых дагадак. Яны страшылі Рыгора і ў той самы час не дазвалялі яму пакінуць Гэлю.

— Хадзем! Думаеш? Саромеешся?

Апошняе запытанне агаліла праўду. Рыгор адказаў на гэта сударжным уздрыгам і на некалькі хвілін адсрочыў намер пайсці з Гэляю.

Але яна пераняла Рыгора, стукнуўшы нагою ў браму.

— Хто там? — пачуўся з-за брамы мужчынскі голас.

— Гэля.

Бразнулі ключы, і каля іх вырас высокага росту, тоўста апрануты дворнік.

— Ідзеце.

Рыгор безабдумна шагнуў за Гэляй і ачуўся ў вузкім цесным двары.

— Дай капеек дваццаць дворніку,— шапнула Гэля Рыгору.

Той спыніўся, дастаў пулярэс і, абмацаўшы сярэбраную манету, працягнуў руку да дворніка.

— Дзякую! — адказаў той.

Рыгору замоташніла.

Ды куды было раздумваць! Падобны астрожнаму, выразны стук брамы аддзяліў іх ад вуліцы. Гэля мерзканула ў цёмны кут двара, сыкнуўшы Рыгору. Нельга было не ісці на яе кліч.

Праз хвілю абое ўзбіраліся павілымі ўсходамі наверх. У нос біла атручанае паветра: нясло памыямі,

гнілым расолам, здыхляцінай. Сумны агеньчык вугальнае лямпачкі сеяў нудоту.

— Зараз, вось, Рыгорка, зараз,— суцяшала Гэля.

Рыгор маўчаў, не даючы сабе адчоту ў бягучым і не зазіраючы наперад. Лёгкі хмялёк, захоплены ў Ганны, развеяўся. Сапраўднасць непрыхарошанай глядзела яму ў вочы. Ён больш зрочыў пад ногі, на выбітыя, замурзаныя ўступы. Не заўважыў аблупленых сцен і ўткнутых у іх, абітых палатном і цыратаю, дзвярэй.

— Ужо! — даняслося праз адзін пралёт, які аддзяліў яго ад Гэлі.

Пакуль Рыгор яе нагнаў — дзверы былі адпертымі.

— Уваходзь, Рыгорка! — запрасіла Гэля.

Рыгор пераступіў парог у цёмны калідор. Дыхнуўшы імпад не даў магчымасці адступіць ад дзвярэй, і Гэля таўхнула яго рукою.

— Прайдзі наперад.

Разам з выказам гэтых слоў бліснула святло. І тут жа, як па чыйму оклічу, з бакавых дзвярэй высунула галаву страшэннае стварэнне: налахмачаная, адутлая, з бліскучымі вачыма пажылая кабета. На ўзроўні яе плюскатага носа і адвіслым падбародкам целяпаліся гарбузамі фенаменальныя грудзі.

— Вольны нумар трэці. На час ці на нач?

— Гэта мой знаёмы, і ён у мяне заначуе.

— Там усё напагатове. Можа, піва патрабуецца?

Стварэнне не мяняла позы.

— Я вам скажу, Палута Янкаўна,— нездаволена адказала Гэля і прапусціла Рыгора ў пакой.

Рыгор моўчкі шуснуў у адчыненыя дзверы і стомлена прысеў на зялёнай тумбачцы. Абставіны яго вярнулі — яны былі знаёмы Рыгору па вядомым творы Купрына. Ужо адно паветра, прасякнутае вострымі, тухлымі пахамі, казала за ўсё. Яго забіраў жаль і ссала жуда. Спраўдзілася! Нездарма ад першага спаткання з Гэляй ён затаіў мулкую падазронасць — зараз яна навыяве.

Гэля незаўважна для яго распранулася, выбегла дзесьці з пакоя і следам вярнулася з закуранаю цыгаркаю ды дзвюма пляшкамі піва.

— Смага, Рыгорка, забірае. Пі, прашу. Садзіся да стала... Я бачу, што для цябе ўсё гэта нечаканым выглядае. Га?

— Нечаканым, Гэля, і страшным...

— Для рэвалюцыянера ды страшна? Ха-ха-ха! Рыгорка-а?

— Страшным і балючым.

Гэля падала яму шклянку пенiстага піва. Пакуль Рыгор падняў яе з стала, яна другую выпіла засаб, зацяжна ахнуўшы.

— Пі-ы, мой добры сябра, пі-ы, мой...

Спрытным повертам яна апынулася ў яго на каленях і абвіла халоднаю рукою яго шыю.

Рыгор скалынуўся і крыху адхіліў галаву...

— Рыго-орка-а! Давялося-а мне-э... Я тады не магла сазнацца — сэрца, ведаеш, ціснула-а... А зараз — не выцерпела... Або ты не дазнаўся б, Рыгорка-а? Муcіла-а? Во-а — пасцель мая — высокая і мяккая, а муляе... муляе, сябра мой дарагі...

Гэля шчыльна прытулілася напудранаю, вялаю шчакою да разгарачанага твару Рыгора. Яе сухія губы правялі па яго лбе халодную стужачку мёртвага пацалунку...

— Ты на мяне злуеш?

— Нічога падобнага... Я цябе шкадую...

— А чаму ты нудны такі? Над чым задумаўся-а? Прыйшоў да дзяўчыны і думаеш?..

Піва палілося Рыгору на прыпол. Ён паднёс шклянку да губ, смакануў крыху і адставіў...

— Раздзявайся, Рыгор... ужо нечага далей марнаваць час...

Гэля першаю стала здымаць з сябе памятую, бедную кашульку. З-пад нізка агарсаванай сарочкі паказаліся худыя, плоскія, касцiстыя грудзі. Тонкая шыя слаба трымала вяртлявую галаву.

— Ты не супроць таго, каб і я тут спала?

— Табе лепі відна,— ціха праказаў Рыгор і падняўся з месца.

Ён не агледзеўся, як Гэля стала перад ім у адной сарочцы, ні каліва не саромеючыся.

— Мы ж разам раслі, разам гадаваліся... Няўжо ты гнацьмеш мяне, Рыгор, ад сябе?..

Спрытным скокам яна апынулася на ложку і закiвала Рыгору пальцам.

— Гэля, ну як ты дазволіла сабе гэта? — упічліва запытаў Рыгор.

Гэля маўчала, утуліўшыся тварам у падушку. Ры-

гор не кранаў яе, адчуваючы глыбіню трагедыі, якую перажывала пры ім дзяўчына.

Ён ужо драмаў, сціснуўшыся ад жалю, калі громкі плач Гэлі яго абудзіў. Расплюшчыўшы вочы, Рыгор угледзеў каля сябе Гэлю. Яна сядзела і плакала.

— Чаму ты не спіш?

— Не магу... Паверыш... Го-ой-ой!.. Рыгорка... Выцягні ты мяне з гэтае ямы... Ты ж абяцаў мне месца, помніш? Ласне табе не рупіць Гэля? Твая таварышка ў дзяцінстве, верная твая пасяброўка... Няўжо табе лёгка, гледзячы на мяне, га?.. Сілцы, маладосць, каханне, Пятрусь... Збаў мяне, сябру мой...

Рыгор бязмоўна ахапіў Гэлю двума рукамі, прыцягнуў да сябе і пацалаваў яе ў халодны, напудраны твар.

— Я ўсё зраблю, што ад мяне залежыць... Я выму цябе з гэтага балота, выму-у... Чаму ж ты мне раней не казала?

Уперамежку ■ доўгімі маўчанкамі, яны прагутарылі да самай раніцы.

Ужо забялеў золак першага дня новага года, калі Рыгор крыху заснуў. Але Гэля яго абудзіла. Ён, стомлены і сонны, паспешна сабраўся і, не развітваючыся з Гэляю, кінуўся ў дзверы. Цяжкія крокі яго ног прагучалі па кватэры.

— Адну хвілінку! — перапыніў яго нейчы вымусовы голас.

Рыгор абярнуўся і ўгледзеў перад сабою ўчарашняе страшылішча — кабету. Яна бессаромна, у адной кашулі, стаяла ў прачыненай фортцы дзвярэй і ўпарта глядзела ў яго бок.

— Вы заплацілі за піва? Гэля?

— Усё заплочана, Палута Янкаўна, прапусцеце! — даняслося з Гэлінага пакоя.

Рыгор павярнуў да дзвярэй.

— Вы там абмацайце крук, налева... Заходзьце-э часцей...— праказала кабета.

## III

Ціхая, марозная раніца асвяжыла Рыгора. Ён безаглядна прабег вузкі цесны двор і ачуўся за брамаю, як у новым свеце. На вуліцы яшчэ было пуста. Першы

вагон трамвая выскачыў з-за рога высокага будынка на Вазнясенскім праспекце і шпарка пранёсся перад яго вачыма. У замёрзлых, абснежаных вокнах мігала некалькі людскіх ценяў. На адгоне квартала — рассыпалася серабро сігнальнага званка. На рагу гандлёвага рада Аляксандраўскага рынку стаяла некалькі рамізнікаў. Ухутаныя ў доўгія зялёныя халаты і валасатыя пыжыкавыя шапкі, двое з іх стукаліся адзін з другім, праганяючы мароз. Трэці неадгінна сачыў за таварышамі і весела падбадзёрваў іх частымі выгукамі.

З-пад Сеннецкага пляца выскачыў жоўты аўтамабіль і стралою прарэзаў стромкі шнурок Вазнясенскага. Чырвоныя акольшкі седакоў чуць адзначыліся ў Рыгоравым ваччу. Калі аўтамабіль праскочыў мосцік праз Фантанку, рамізнікі кінулі па адрасе яго некалькі лаянак.

— Паедзем? — звярнуўся адзін з іх да Рыгора.

Той моўчкі прайшоў далей.

На рагу Пецяргофскага праспекта ён стрэўся з атрадам балтыцкіх маракоў. Выходзячы на Садовую, маракі зацягнулі песню. Звон песні мнагаратным водгукам разляцеўся ва ўсе канцы вуліцы.

Рыгор правёў маракоў да Сяннога пляца, дзе сеў на падаспеўшы трамвай і паехаў на Выбаргскую.

Не даязджаючы да апошняй спынкі, ён выйшаў з вагона і пайшоў пяшком да кватэры. Яму хацелася сустрэць таварыша ці знаёмага і ў гутарцы з ім на тую ці іншую тэму разагнаць сціснуўшае яго пачуццё агіды і млосці.

Мінуўшая ноч пакінула ў яго нутру гадкі асадак. Ваабражэнне затуманілася дымкаю горкасці. Сударгі нервовасці разгойдалі ўсю яго постаць. Непрыглядная, адваротная сапраўднасць труіла сэрца.

Ён не верыў у прымхі. Ён смяяўся з усялякіх забабонаў. Але супаданне дзвюх стрэч перад Новым годам — прыкрыла. За трыццаць хвілін язды ў трамваі ён перагарнуў дзесяткі ўспамінаў, звязаных з Гэляю. Перад ім мігнулі Сілцы, Смагін, зборні і пакоік, дзе ён стрэўся з аматарскаю трупаю. Рэзвая, жыццёрадая Гэля, як жонка Вусіка; Гэля, як здольная аматарка-артыстка... Яе надзеі, яе парыванні... І зараз... Бацькі, Пятрусь, Зося і Волька... І свет у выглядзе тае кабеты — чудзішча, якую ён двойчы ўгледзеў у кватэры Гэлі — бесспагадна паглядзеў яму ў вочы. Пажадан-

ні за чаркаю віна ў прытульнай каморцы Ганны і распырсканае на прыпол піва...

Рыгор раптам спыніўся: «Анікей».

Так, на адгоне дзесяці сажняў ішоў яму настрэчу яго таварыш Анікей. Ён ужо заўважыў Рыгора, бо на яго расчырвоненым твары гуляла ўхмылка. Падышоўшы бліжэй, Рыгор падняў руку да шапкі і стрэў ад Анікея падобнае ж прывітанне.

— Ты не ■ горада, часамі? — запытаў Анікей.

— Угадаў, браце...

— Бачу.

Рыгор сумеўся — на ім відаць было адбітак перажытае ночы. Ён успомніў, што, выходзячы ад Гэлі, яму не прыйшлося нават умыцца. Чуў па нудзе ў нагах і па шоламе ў стомленай галаве, што ў ім мала звычайнага. Празрыстая сонечная пагода не гадзілася з памятасцю яго твару, з прыплюшчанасцю яго звычайна бойкіх, іграючых вачэй.

— А відаць, ласне?

— Ха-ха-хі! Не схаваешся — дзень...

— Дагадваюся... Перажыў ноч, скажу табе...

Поверт галавы іківок рукі ўзмоцнілі сэнс Рыгоравага сказа.

— Дзе ж гэта ты і як?

— Не раскажаш, пакуль не апамятаюся... Перажыў, чаго дагэтуль не даводзілася... Куды ты?

— Я за Маскоўскую заставу. Там маецца сённі адбыцца маленькая нарада...

— Наконт дзевятага студзеня?

— Ага...

— Стой на нашай думцы, Анікей... Мы павінны адсвяткаваць гэты дзень... Пара разбіць маўчанку... Годзе-э...

— Ды я чалавек цвёрды... Мяне цяжка збіць з абраных пазіцый... Ну, пакуль...

Рыгор ускоранай хадою накіраваў у ператочную вуліцу.

Незаўважна ён прайшоў на Выбаргскую шашу, а адтуль завярнуў дамоў. Яму адчыніла гаспадыня.

Новы год адбіваўся на ёй у вясёлым твары, у парыўчатых рухах і ў надзвычайнай пілявасці.

— Я ўжо немаведама што падумвала наконт вас... Прачнулася — а ў вашым пакоі — муха-заваруха. Я пастукала — маўчок. Я, прызнацца, адчыніла, а

пасцель нярушаная... Дзе, думаю, Рыгор Міхасевіч? Час не пэўны, і мала што можа трапіцца...

Сарафіна Хлораўна наўздзіў ласкава зазірала Рыгору ў вочы і не дазваляла адысці ад дзвярэй.

— Вы заглянеце да мяне,— казала яна далей, разліваючы пах цвятнога адэкалону і часта моргаючы шэрымі вачыма.— У мяне цяпер знаёмыя, павіншаваць прыйшлі з Новым годам...

З-за дзвярэй гаспадынінага пакоя данёсся жаночы голас — звалі Сарафіну Хлораўну. Яна пудка закруцілася на правай назе і шмыгнула ад Рыгора. Да Рыгора дайшоў вясёлы, покатны рогат, а над ім выразны вымаў яго імя. Следам пачулася некалькі тостаў.

Было ясна, што жаночая кампанія, развяселеная і рэзвая, выклікала яго да сябе. Але Рыгор не адказаў на гэта жадным гукам і хутка прайшоў у свой пакой.

Зразу, мэрам бы хто яго абласкаў, стала спакойліва і міла. Цвёрдае крэсла, на якім ён прысеў, цешыла яго знерваваную істоту. Думкі, як напалоханыя вераб'і, разляцеліся. Калекцыя гаспадарскіх рэчаў, незаўважных і звычайных, набылі асабісты прыемны выгляд і лашчылі Рыгораў узрок. Белаватае, з адсветам вохры неба напаўняла пакой мяккім, пухкім святлом.

Рыгор пільна ўглядаўся ў павешаную на сцяне партрэтку невядомае асобы. Скрытныя воддаллю рысы твару яе несупынна мяняліся, прымаючы разнастайныя міны. На шкле мігаліся лёгкія цені, паласуючы яго плошчу.

Было зусім нечаканым, калі апаўшы на стол Рыгораў узрок улавіў сіні канверцік пісьма. Рыгор схамяніўся і порсткім рухам пальцаў падняў канверт. Чатыры няроўныя радкі адраса дапомнілі Сёмку — то яго рука. Сілцы — маці — сябра... Надыходзіўшы ўздром адляцеў — зарупела прачытаць. Ён запомніў ужо, калі ад мацеры было пісьмо. У завірусе падзей не мог спыніцца над прычынаю гэтага, і зараз — суйздром падышоў момант.

«Дарагі сынок...»

Тое ж, што і дагэтуль, што ўсягды...

Радок за радком выкладалі мацерына пачуццё...

«Гэтак доўга не мела ад цябе пісьма і розных думак — не абяруся. А можа, тое, а можа, гэта — свет, як круцёлка, як малатарня — не падсаджвай рукі...

Атрымала ад цябе гасцінец і цалую твае шчочкі, тваё чулае сэрца... У нас так неспакойліва, Рыгорка, так трывожна, што я начамі не сплю, як на чаране гарачым ляжу... Некаторыя збеглі — іншыя рыхтуюцца на вясну... Шыюць буды, ладзяць драбіны, шыкуюцца. Чутак тых, чутак!.. Герман пад Гродняю, герман у Беластоку, герман ля Слоніма — страхоцце... І хоцькі мне няма чаго шкадаваць — голы збірайся — голы гатоў,— а вось кут дарагі і з месца не ўзняцца... Жджэцца, пакуль папхнуць, і тады ўжо, даруй, да цябе. Прасіцьму Сёмку, няхай не пашкадуе мясцінкі для клумачка і хоць да Ліцка адвязе. Няўжо я далей не траплю сама ў Пецярбург? Можа ж, там зацішней крыху, сынок? Дажыліся, мілы мой, дачакаліся. Уздумаў д'ябал свет засмуціць, і пайшла гуляць завіруха... Каб ты ды бачыў тое пекла ў часы мабілізацыі — Рыгор-ор-ка-а, зала-а-ты-ы! Што тады рабілася! Век зжываю — не бачыла... Цяпер трасуся, думаючы...

Ну, як жа ж ты там, галубе? Шануйся, сыне, беражыся, родны. Твая маці не пакідае аб табе думаць. Яна моцна цябе цалуе і...»

Стук у дзверы адарваў Рыгора ад замілаваных слоў мацеры. Ён незадаволена папрасіў увайсці і падняўся з крэсла.

Высокая, у блакітным, з белымі інталяжамі сукні, паружавеўшая ад хмелю, увайшла ў яго пакой стройная маладзіца. Крыху скошанымі вачыма пад шэрымі брывамі ласкава зірнула на Рыгора. Тут жа доўгая рука змяёю выцягнулася на ўзроўні белага, як снег, пояса.

— Суніцына. Я пасланцом ад Сарафіны Хлораўны... Не цурайцеся яе гасціннасці, малады чалавек... Новы год... Сёння жывом, а заўтра — Авеццано... Ці Нява, ці Балтыйскае мора, калі не вулкан...

— Дзякую вам...

Рыгор паглядзеў у твар незнаёмай жанчыны і адвярнуўся.

— Я адчуваю сябе, ведаеце, надта змораным і... дзякую...

Маладзіца спакойліва падышла да яго і ўзяла пад руку.

— Вы, мужчыны, робіцеся часта жанкамі. Ідзем жа.

Рыгор яшчэ раз падзякаваў за запрашэнне і ўглыбіўся ў мацерын ліст.

Пастаяўшы хвіліну моўчкі, маладзіца мерсканула з пакоя, моцна стукнуўшы дзвярыма.

Праз момант па калідоры праляцела рэха шклянога звону і рэзвага, іранічнага смеху.

## IV

Шары змрок глядзеўся ў цішыню Рыгоравага пакоя. Сцягнутая са століка сурвета пялася падняць скінуты і разгорнуты лісток паперы. Сіні канверцік туліўся да боку, абняхаены адрасатам. На ложку, распятым, ляжаў у адзежы гаспадар пакоіка. Памятая падушка ціснулася між палак ложка, разгароджваючы надвае пухкія валасы Рыгора. Ён спаў, як заваражаны, ціха-ціха сапучы. Спаў соладка і моцна, адарваным ад свету і ад яго жорсткіх праяў.

А ў гэты час паважнаю, размеранаю паходкаю набліжаўся да яго дома затулены ў каўнер чорнага паліта чалавек. З-пад нахлабучанае фінкі ён паднімаў пару невыразных у змроку вачэй і раззіраў нумары. Каля брамы Скрынкінай, Сарафіны Хлораўны, ён спыніўся і агледзеўся навакола. Пасля шчыльна падблізіўся да вярэі і яшчэ нейкі час пазрочыў на прыламаную лічбу ліхтарні.

З-пад Выбаргскае шашы падыходзіла да яго некалькі пешаходаў, і ён, каб не спаткацца, хутка прайшоў на двор. Пры дзвярах ён яшчэ крыху падумаў ды памеркаваў, адаля пазваніў. Хвілін з пяць ніхто на званок не прыходзіў. Можна было думаць, што няма нікога ў доме, але чалавек паўтарыў званок, і яму адчынілі.

— Вам каго? — злосна запытала Сарафіна Хлораўна, выбегшы ў хусцінцы на галаве.

— Я да Нязвычнага... Ён дома?

— Ён спіць, і яго не варта трывожыць...

— Мне экстранна да яго...

— Я перадам усё, што вы дасцё ці скажаце...

— Мушу асабова...

— Даруйце, я не магу вас пусціць...

— Я а дванаццатай павінен выехаць...

— Я і сама не ведаю...

Чалавек пераступіў парог, і ўжо безнадзейна было яго выгнаць. Сарафіна Хлораўна зачыніла дзверы пярэдняй і падышла да Рыгоравага пакоя.

— Спіць, а будзіць яго так шкода, што я... Заходзьце да мяне, хіба, на хвілін колькі.

Гаспадыня не кідала разглядаць незнаёмага. І пакуль той вырашыў, будзіць Рыгора ці не, яна адважылася запытаць яго:

— Ці вы толькі... не былі ўжо калі-кольвечы ў Рыгора?

— Можа, калі і было...

— Я бачу, што нешта знаёмае відаць і ў вашай паходцы і ў вашых вачах і... Калі ласка, прашу да мяне...

Сарафіна Хлораўна гасцінна адчыніла дзверы і прапусціла госця ў свой пакой.

— Я вас добра помню... Распранайцеся... Го, як Рыгор узрадуецца вашаму прыходу!.. Вы ездзілі кудысьці?..

Пятрусь — то быў ён — не ўстрымаўся ад смеху.

— Каб ды ездзіў — сядзеў, не ездзіў...

Гаспадыня адразу перамянілася на твары.

— Сядзелі?.. Во, здэцца, Рыгор прачнуўся...

Яна мігам вылецела з пакоя, і Пятрусь пачуў часты асцярожлівы стук у дзверы. Ён дагадаўся, што гаспадыня будзіць Рыгора, але не даваў на гэта выгляду.

— Хтосьці стукае за сцяною! — праказаў ён у адчыненыя дзверы.

Тая ўбегла ў пакой і паведаміла:

— Рыгор устаў; ён просіць вас да сябе.

Пятрусь спакойліва выйшаў з яе пакоя і пастукаў Рыгору.

— Братка-а-а! — выгукнуў Рыгор, угледзеўшы перад сабою Петруся.— Хіба не сню?

Яны кінуліся ў абдым і зацяжна пацалаваліся.

— Раздзявайся, вось... Мо хочаш чаго перакусіць?.. Не чакаў, ведаеш, ну, забі, не чакаў... Яшчэ нядаўна, вось, бачыў Рыму і пытаў... А пэўнага — нічога... Ну, як жа, як, кажы?!.

Рыгор пасобіў Петрусю зняць паліто і неадгінна заглядаў яму ў вочы. Пятрусь паціраў ад марозу рукі і спакойліва, суцешна ўхмыляўся. Яго схудалы твар выразна выпукляў падаўжэлы, здавалася, нос і праводзіў роўныя лініі ўсцяж вытырклых скронь. Вочы ўдаліся глыбей у арбіты і ўпарта змагаліся з навяваю-

чай хвалькай ухмылкі. Знаёмы гарнітур здаваўся завялікім і прасторна вісеў на Петрусёвых плячах.

— Як бачыш... Некалькі месяцаў — у воду...

— Дык раскажы, усё-ткі...

Рыгор пазваў гаспадыню і папрасіў гарбаты.

— Госць, Сарафіна Хлораўна, неспадзяваны госць... Калі ласка, ужо...

— А я ведаю, ведаю,— суха адказала гаспадыня.

Пятрусь не сцярпеў, каб не азнаёміць Рыгора з яе нядаўнімі паводзінамі вакол яго, і праказаў:

— Напалохалася, бедная...

— Кручаная, а не бедная... Кажы лепей пра сябе...

— Мая прысутнасць у цябе ўсё кажа...

— Мала, браток, мала... Я хачу ведаць дасканала, на якіх жа правах... Рыма штосьці казала, нібы-та мерыліся цябе выслаць...

— Праўда,— цішком адказаў Пятрусь.

— Такі?

— Іначай нельга. Цяперака трыццаць тры пункты — шаблоннае рашэнне... Чым жа я лепшы?

Рыгор задумаўся.

— Дык ізноў на расстанне?

— Нічога не парадзіш.

— І далёка намерыўся ехаць?

Пятрусь некалькі памаўчаў, пасля шэптам паведаміў:

— Застаюся ў Шувалаве. Днямі мецьму новы пашпарт і перад табою — другі чалавек...

— Та-ак?..

Рыгор зрабіў здзіўленую міну, пакасіўшы галаву.

— Гарбата! Можна? — перабіла з-за дзвярэй гаспадыня.

— Прашу вас... Налівай, Пятрусь... Можа б, вы, Сарафіна Хлораўна, пазычылі мне некалькі закускі... Выбачайце ўжо, але дайшло да таго, ведаеце...

Праз хвілін пяць гаспадыня прынесла да Рыгора дзве талеркі з featureознаю ежаю.

— Што маю, не захайце,— праказала яна.

Рыгор упрошваў Петруся закусіць, а сам няўпэўнена азіраў яго з галавы да ног. На Петрусю адбівалася ўтома доўгага адзіночнага вязнення. Яму неахвотна давалася гутарка, і на нясканчоныя запытанні Рыгора ён адказваў двуслоўнымі сказамі ці кіўком галавы.

— Ну, ты бачыўся з Рымаю? — пытаў Рыгор.
— Калі ж было!
— Дык ты наперад усяго да мяне?
— Я ўчора вызваліўся і паспеў пераначаваць ужо на волі...
— І яшчэ не агледзеўся акурат?
— Цяжка апамятацца.
Рыгор перамяніў гутарку, каб уразнастайніць Петрусёў настрой.
— А ў мяне, браток, колькі ўсякіх навін!
— Маеш навіны? — з адбіткам невыразнай цікавасці запытаў Пятрусь...
— Да цябе мала даходзіла, вядома, раскалыханая хваля нашай сучаснасці. А яна, ведаеш, неміласэрна страсае светам і топча людское жыццё, як апаўшыя лісты...
— Гэта жыццё яшчэ не вызвалілася ад жывёльных інстынктаў...
— Гэта зверху, бач; з птушынага, як кажуць, лёту... А зазірні ты ў гушчу — чырвоны смех, ды далёка не па-андрэеўску... І колькі яшчэ патрэбна сілы і волі, каб знішчыць усё гэта!..
— На нас ляжыць адпаведнае заданне... Разбярыся адно: сцяна, а за ёю бесканечная плошча зараснік. Карчуй і карчуй, палі ды палі.
— Я веру, што рабочы клас сумее прэабразіць свет... У яго досыць дадзеных на тое, каб зняць з жыцця заношаную апранаху і адзець яго ў бліскучае, светлае адзенне... Праўда? Па-твойму?
— Мы б не жылі, каб не верылі ў гэта і не памагалі змагацца...
Пятрусь сказаў і азірнуўся навакола пакоя. Раз'юшаная нервовасць прабегла яго істотай.
— Вартавы не сочыць у шкелка,— пахлопаў яго па плячы Рыгор.
— Але ён не дае пакуль мне ні спаць, ні сядзець спакойна... Цішыня, што зараз пануе ў кватэры, дапамінае мне...
— Кінь... Я табе скажу адну навіну...
— Навіну?
— Гэля ў Пецярбурзе, ці чуў?
Пятрусь выцягнуў галаву і паглядзеў на таварыша.
— Не смяешся?
— У тым жа і справа, што тут не да смеху...

— Нават?

— Нават... Мінулай ноччу бачыўся з ёю...

— Ноччу?

— Вось іменна, што ноччу...

Рыгор зняверна матнуў рукою.

— Можаш ужо дагадвацца, у чым справа... Прапала Гэля... Ад першага разу, калі яна знянацку наведала мяне, я супроць вачавідкасці не мог згадзіцца, што з ёю бяда. А ўчора... учарашняе разбіла ў шпэлах усе мае ілюзіі... Прапала, бедная, амінь...

Пятрусь не ўседзеў, а пачаў тупаць па пакоі. Відаць было, што Рыгорава паведамленне кранула яго.

— Трэба бараніць, Рыгор! Ды ці можна?

— У гэтым наша важнейшая павіннасць. Я ўжо сур'ёзна заняўся думкаю, каб яе дзе-кольвечы ўладзіць на працу... Жанчына яшчэ можа выратавацца, пакуль броснял цалкам не зассала... Сама, ведаеш, просіцца... І з такім замілаваннем успамінае цябе, што нельга не паспагадаць ёй. Першы раз знарок прыйшла да мяне, каб пагутарыць пра цябе... І ўчора...

— Так...

Пятрусь парываўся нешта сказаць, але спыніўся на адным слове. Крутым узмахам рукі ён даў зразумець Рыгору, што на гэтым пара скончыць пра Гэлю. Рыгор паспяшыў разагнаць яго трывожлівае пачуццё запытаннем:

— Жыць у Шувалаве, а працаваць думаеш дзе?

— Знайду, Рыгор. На Воздухаплавацельным папрабую ўладзіцца...

— Было б добра, ведаеш...

Хлопцы яшчэ час аставаліся ў Рыгоравым пакоі, зацята абгаворваючы апошнія здарэнні з рэвалюцыйнага і рабочага руху і падзеях па заводах.

## V

Рыгор з вясёлым настроем ішоў на працу.

Уплыў ад спаткання з Гэляю, доўгія раздумы пра яе лёс — усё знаходзіла ў сабе апраўданне ў яго яскравых надзеях.

Ён адчуваў у сабе свежыя сілы, асаблівую моц. Вось няхай толькі прырвецца да станка — фантанам палятуць жалезныя стружкі. Станок зайграе стальную сімфонію. Праца апраўдае ўсё.

Яго цягнула ў завод болей, як калі дагэтуль. Сёння ён павінен сустрэцца з шэрагам знаёмых і абмяняцца з імі навінамі. Ён раскажа пра вызваленне Петруся, ▪ сам дазнаецца пра іншыя навіны. Чаго добрага, магчыма, пачуе што-кольвечы і пра месца для Гэлі. Новы год — новае жыццё. Паглыбленае і пашыранае. Смялей жа на яго хвалі!..

Але што там?

Каля завода, перад варотамі, збіраліся рабочыя. Грамадка іх то ўзрастала, то раставала. Нешта ёсць?

Рыгор паспяшыў. Ясна. Адміністрацыя не дрэме — на варотах абвестка. Папярэджанне? Так. Надыход дзевятага студзеня.

«Па горадзе ходзяць упартыя чуткі, што на дзевятае студзеня гатовяцца выступленні. Праступныя асобы шнайдараць па прадпрыемствах Пецярбурга і ўносяць смутак у галавы трэзва і патрыятычна настроеных рабочых... Папераджаецца, што ўсе, хто будзе заўважаны ў праступнай агітацыі...»

На Рыгоравым плячы лягла чыясьці рука; ён агледзеўся.

— Бачыш, во? Здароў!

То быў Анікей.

Яны аддзяліліся ад грамадкі і прайшлі ў завод.

— Гатовяцца.

— Былі б дурныя, каб сядзелі склаўшы рукі.

На заводзе жыва абгаварвалася абвестка.

Дзевятае студзеня набывала ўсё большай выразнасці і глыбейшага значэння. Яксьці вяла пачыналася праца і асцярожліва вярцеліся станкі.

Рыгор пачуў, што ў ім згінула нядаўняя хэнць завіхнуцца пры рабоце. На каго — навошта? Якая карысць, калі з-пад рук выйдзе пара лішніх каробак для снарадаў?

Ён пахвільна перакідаўся словамі і сказамі з Анікеем.

Да абеду яны паспелі расказаць адзін другому пра ўсё чутое імі за мінулы дзень.

У абед на заводзе атрымалася неспадзяванае здарэнне. У майстэрнях і на дзядзінцы з'явіліся пракламацыі. З прагнай цікавасцю накінуліся на іх рабочыя і гурткамі, па некалькі чалавек, узасос перачытвалі даўгія палоскі тэксту. Адміністрацыя нашарохана насілася па майстэрнях завода, выязджала ў горад і ва-

рочалася назад. Падазроней глядзеў вартавы на выходзіўшых рабочых і пільна сачыў за вяртаўшымі на завод.

Рыгор задаволена азіраўся па баках, выяўляючы настрой рабочых. У надышоўшай настарожанасці ён углядаў нараджэнне доўгажаданых падзей. Новы год суліў новае. Пра яго гудзелі станкі, спявалі шасцярні. Яно чулася ў агульным пэнце заводскае працы.

Яно, гэта новае, перабягала па твары соцень людзей, напаўняўшых харчэўню. Яно прабівалася ў рэзвым смеху і ва ўзнятай гутарцы за сталамі.

Анікей?

Нельга было не дзівіцца спрыту і ёмкасці гэтага таварыша. Толькі б, чаго нядобрага, яго ніхто не западозрыў.

Рыгоравы вочы не спускалі ўзрокаў з куткавога стала. Спакойная міна Анікея казала за бяспеку. Рыгор пераканаецца, калі стане пасля абеду поруч з Анікеем за станкі.

А зараз...

Пакінуўшы харчэўню, Рыгор сустрэў на вуліцы патруль гарадавых. Яны тапталіся каля варотаў завода, праводзячы кожнага, хто ў іх уваходзіў. Шнурок рабочых паважна цягнуўся між іх шулаватых фігур, як нібыта той. Рыгор прайшоў з другімі. Прайшоў, ганарней і гардзялівей іншых, і пачуў невыразны сказ па сваім адрасе. Але не азірнуўся, бо праз трох чалавек ішоў і Анікей. Успомнілася здарэнне ў піўнушцы на Выбаргскай шашы — жыццё багата на розныя фокусы і смікалкі!

«Цені забітых трывожаць тыранаў!»

Зыкі станкоў заглушалі перамову Рыгора з Анікеем да канца дня.

На развітанні Рыгор моцна паціснуў Анікееву руку і з ранішнім настроем пайшоў на кватэру.

Хрусткі снег спяваў у яго пад нагамі.

Дзевятае студзеня?

— Дзевятае студзеня.

Празрыстая палоска бадзёрых адчуванняў цягнулася перад ім усцяж сямі наступных дзён.

«Цені забітых трывожаць тыранаў!»

— Чакайце, на хвілінку.

Рыгора наганяла Рыма. Ён пазнаў яе на адгоне каля двух сажняў і ўхмыльнуўся:

— Ізноў мы з вамі стрэліся на тым жа месцы.
— Можа, прымха?
— Я вас заўважыла і думаю, што вы мяне таксама... усё ж, аднак, прайшлі — і не ўшманкі.
— Убачайце, я вас не заўважыў, даю слова.
— А я вам магу паклон перадаць...
— Можа?
— Ну, я вам здаецца?
— Губляюся, ведаеце, у дагадках...
— Я выпадкова зусім стрэлася з адной вашай знаёмаю. Яна сястрою зараз.
— Ганна? — нечакана для сябе самога праказаў Рыгор.
— Брунетка такая, стройная і сімпатычная...
— Вы не кланіце?
— З якогасьці мястэчка, казала. Разгаварыліся, і яна мне давай апісваць вас... Я, прызнацца, дала ёй ваш адрас.
Гэта канчаткова збіла Рыгора ў яго дагадках, і ён абмежаваўся тым, што падзякаваў Рыму.
— Але гэта між іншым,— прамовіла яна, рушыўшы з месца: — Я, уласна кажучы, хацела запытаць вас, ці не чулі вы пра Петруся?
Няведанне Рымы яго здзівіла.
— Хіба ж вы не чулі? — запытаў ён.
— Ведаеце, нічагуткі. Наведаць усё не збяруся, а ад яго жаднае чуткі...
— Тады я вас абрадую — Пятрусь учора заходзіў да мяне; яго выпусцілі і... высылаюць...
Рыма, як ішла, так раптам спынілася.
— І не даў мне знаць!
У яе словах пачуўся жорсткі папрок Петрусю.
— Ён, напэўна, не паспеў яшчэ гэтага зрабіць, Рыма. Дрэннага не думайце-э...
Рыма моўчкі ішла побач Рыгора, правяраючы ісціну яго завярэнняў. Рыгор шкадаваў яе перабіваць.
Абое не прыкмецілі, як іх нагналі чыесьці скрыпучыя крокі.
— Выбачайце! — нечакана данеслося да іх.
Яны збочылі з тратуара. Абмінуўшы іх паглядзеў назад. Рыгору ёкнула ў нутры. «Знаёмы»,— мігнула няўвераная думка. І ён цішком пазваў:
— Пятрусь?
— Хто гэта?

— Я, Рыгор. Ты куды?

— Я...

Пятрусь зрабіў некалькі крокаў.

— Думаю да Рымы...

— Ха-ха-ха! — засмяялася тая, не могучы ўтрымацца ад нечаканасці.— Здароў!

— Рыма?

За маўчанкай, якая надышла пасля гэтага, Рыгор развітаўся і з Петрусём і з Рымаю і ўскораная хадою пайшоў да сябе.

Рыма з Петрусём павярнулі назад.

У пакоі Рыгора чакала свежая, толькі што прынесеная газета. Ён, не раздзяваючыся, хапіўся за яе і прачытаў важнейшыя навіны дня.

На франтах адзначалася ўмоўнае спакойства. Побач выдаваліся фальшывыя, падробленыя весткі пра магчымае нямецкае адступленне з Польшчы.

«Германія напярэдадні банкроцтва».

Усё гэта, знаёмае і перажованае, не супыніла на сабе Рыгоравай увагі.

Вайсковыя падзеі патанулі ў жаху другіх навін. Гэтыя навіны адбыліся ў Італіі. Там раз'юшылася стыхія. Магутныя земляўздрыгі разбурылі шэраг гарадоў і сёл. Дзесяткі тысяч людзей, як непрытомныя, разбегліся ў свет. Бяздомныя, напалоханыя, пакалечаныя. Сіраты і няшчасныя. Між соцень і тысяч мёртвых целаў, пры выцці сабак і карканні варон. У асяродку жаху і знішчэння... Дваццаць тысяч забітых... Вайна і стыхія... Стыхія — вайна...

Рыгор злосна швырнуў на падлогу скамечаную газету. Распрануўся і сеў пры акне.

У яго галаве мітусілася плойма разнастайных думак.

На вачах, адзін за другім, запальваліся ліхтары. Цёмны змрок разбягаўся ў бакі.

Новы год — новае жыццё?

Адказ рабіўся слізкім і неўлавімым.

## VI

Грамадка коннікаў прамчалася наперад і знікла за рагавым домам.

Патрулі?

Рыгорава хада стала спарнейшай. Ці то здаецца яму, ці, сапраўды, на Выбаргскай шашы мнагалюдней звычайнага. Няўжо такі ў гэтым закладзены ўплыў дзевятага студзеня? Ды не відаць паравіка! Было б цікава, каб ды ён у гэты дзень не хадзіў!

Хутчэй на Выбаргскую шашу!

Не, нічога асаблівага.

Вось прамчаўся паравік, біткам набіты людзьмі. Найбольш рабочых з аколіц. Куды ж, як не на завод, яны спяшаюць?

Абапал, тратуарамі — таксама.

То было ўражанне, няйначай.

Ён паглядзеў направа і налева — не распазнаць.

З ператочнай вуліцы раптам выскачыў конны раз'езд — новы, другі, ці той самы? Казакі накіравалі да завода і, пад'ехаўшы, сталі. Мэрам бы грамада расце і павялічваецца. Не пускаюць у завод? Што там трапілася?

Пакуль Рыгор дайшоў да завода — людзі рассяліся. Ён звычайна прайшоў у дзверцы брамы і ачуўся на заводскім дзядзінцы.

Дзевятае студзеня ці будні дзень?

Следам за гудком заварушылася трансмісія і завярцеліся станкі. Шолам, стук, бразгі напоўнілі майстэрні і цэхі, вялікія карпусы завода.

Побач — Анікей.

— Як жа ў другіх?

Навін жадных.

І вострае джала разца гоніць спружыністыя стужкі блішчастае сталі. Ад сцяны да сцяны — шэрагі прыгнутых спін.

— Модлы над забітымі ваякамі?

— Праца на карысць катаў?

Вось яны.

Перад Рыгорам мігнула фігура палкоўніка. З гары паглядзеў і прайшоў далей. У вачах — гардлівая ўпэўненасць.

За варотамі — патрулі?

Ды ці ўловяць яны раскалыханыя хвалі пачуццяў рабочых да помсты? Ці пяроймуць іх захапленне да пратэсту? Нячутна і незаўважна пераліваецца яно ў стальным шоламе станкоў па душных майстэрнях. Між стосаў абструганае сталі і скрынак з абітым начыннем.

— А мы працавацьмем?

— Не спяшайся...

Анікей кінуў узрокам усцяж роўнага шэрагу бліскучых станкоў.

У пераплёце соцень прыводаў хісталіся рабочыя. Крыжаваліся ў ваччу спіны з рукамі, галовы з кавалкамі сталі. Проста, як па шнурку, ішоў палкоўнік — кантроль — кірункам да канторкі майстра.

— Таварышы, хопіць на сёння!

Рыгор аддзяліўся ад станка і махнуў рукамі направа і налева. Раптам вырас лес галоў. Дзесяткі ўзрокаў накіраваліся ў Рыгораў бок. Умомант — запруджаны праход кішэў людзьмі. «Канчаць работу!» «Далучыцца да другіх!» «Адзначым дзевятае студзеня!»

Даўгіх пераконваючых прамоў не патрабавалася. Усе, хто адлучыўся ад станка на Рыгораў мах рукі, ясна разумелі яго значэнне. Яны натужна яго чакалі.

А цяпер?

Палкоўнік не апамятаваўся, калі насустрач яму пацяклі стройныя шэрагі забаставаўшых. Тупат увераных крокаў даваў ілюзію вярчэння станкоў.

Але песні?

Яны палохалі палкоўніка і гналі бягом па дарозе ў дырэктарскую. У яго вачах агромністы завод рушыў з месца, паўстаў на ногі і загудзеў нечуваным гоманам бунту.

— Трым-ма-ай!

Жалезная брама перад напорам людзей беззагадна расчынілася на абедзве форткі. Прасторная вуліца радасна ўбірала ў сябе смелую грамадку забастоўшчыкаў.

Спыняліся пешаходы і злазілі з паравіка праезджыя. Вачавідкі натоўп большыўся. Хутка ён загарадзіў дарогу для вулічнага руху.

Студэнты, што стаялі пры браме з скарбонкамі, збіраючы на бялізну салдатам,— зніклі. Забастоўшчыкі неслі не падмогу вайне імперыялістычнай, а вестку, першую спробу вайны грамадзянскай.

Разам з студэнтамі схавалася пара гарадавікоў, што глядзела за парадкам на вуліцы і ў заводзе. Няўжо на іх адных выпала гэта адказная роля? Не павінна быць — дзесьці блукаюць патрулі.

Дэманстранты грамадкаю павярнулі ў бок горада.

Колькі ім удасца прайсці?

Яшчэ ніводзін з іх не ўмеў адказаць на гэта, як ужо дэманстрацыю нагнаў узмоцнены патруль. Дзесьці ў патайных месцах чуліся паліцэйскія сігналы. Дэманстранты разышліся на дробныя купкі і змяшаліся з пешаходамі. Тут яны ўбачылі сваю маласць і адзіноцтва.

Іх не падтрымалі ні суседнія заводы, ні нават іншыя цэхі свайго завода. Чаму так?

Рыгор нерваваў і злаваўся. Але не шкадаваў няўдачы. Невялікі лік мала адбіваўся на агромнай значнасці самога факту забастоўкі. Яе эфект дасягаў патрэбнае мэты...

Калі б яшчэ адбылося падобнае і ў іншых раёнах горада, тады...

Яму захацелася наведаць Маскоўскую заставу.

Няўжо яны адны?

Праз паўгадзіны Рыгор ужо ехаў напрамкам да Неўскага. Ехаў і наглядаў у акно вагона за вулічным рухам. Прыслухоўваўся да гутарак пасажыраў — ціха; ніякіх водгукаў на дзевятае студзеня. Было ясна — чуткі пра іх дэманстрацыю не даняслся ў буржуазны асяродак сталіцы.

Рыгор купіў свежую, толькі што выйшаўшую вячорку. Абеглым узрокам прабег па яшчэ незасохшых радках чатырох страніц зместу — пуста. Напэўна, газета не паспела надрукаваць і пакінула назаўтра. А можа?..

Карцела хутчэй, яшчэ засветла дабрацца ў намечанае месца. Бадай што яны адны адгукнуліся на дзевятае студзеня, і зразумела...

Рыгораву думку перабіла раптоўная спынка трамвая.

— У чым справа?

— Папсаваліся правады і перарваўся ток.

Разам з публікаю Рыгор пакінуў вагон і ачуўся ў нерашучасці, як быць — дабірацца да Маскоўскае заставы ці перавырашыць гэта пытанне. Ён схіляўся да апошняга, хоць яму не хацелася адмяняць свой ранейшы намер.

З невыразнаю думкаю ён пайшоў у бок Неўскага, азіраючыся на трамвай.

Ужо ён быў ад праспекта на адгоне не болей пяці сажняў, калі насустрач яму паказалася грамадка ра-

неных у справоджанні дзвюх сясцёр. Рыгору раптам успомнілася гутарка з Рымаю пра яго знаёмую сястру.

«А можа стацца, што?..»

Ён пасмяяўся з гэтых сваіх думак і адвярнуўся да акна кніжнае вітрыны.

Пярэстыя вокладкі новых кніжак замігалі ў яго ваччу. Заварушылася нейкая асабліва вострая прагнасць мець іх у сябе і запойна, засаб перачытаць да аднае. Вечар у вечар, адкінуўшы шэраг іншых заняткаў, сесці ад шостае гадзіны дня і...

Лёгкі штуршок прымусіў яго азірнуцца направа. На Рыгора з пракольваючай пільнасцю ўзіралася адна з сясцёр, што праводзіла раненых. Пазадзе яе стаяла двое калек-салдат — адзін на дзвюх мыліцах, другі — на драўлянай назе. Абодва глядзелі ў шырокую светлую шыбу кніжнае вітрыны.

— Вы хочаце ў мяне чаго-кольвечы запытаць? — праказаў Рыгор да сястры.

Тая адвяла ад яго вочы і зрабіла намер ісці, але раптам адказала:

— Мне здаецца, што я вас дзесьці бачыла.

— Магчыма, толькі...

Умомант незнаёмая сястра выявіла ў Рыгоравым ваччу многа знаёмых рысак, дапомніўшы яму маладую смагінскую карчмарку.

— Ці не былі вы толькі ў Смагіне?

— Ліба?

Яны прывіталіся, не верачы адно другому.

— Але вы знаеце, што мне надовечы пра вас казалі,— пахваліўся Рыгор.

— Правізарша? Ну, вы ж успаміналі мяне, скажэце, хоць раз?

— Я вельмі быў узрадаваны, калі пачуў пра вас і калі атрымаў ваш уклон... Ці мо яго мне ўплялі ў камплімент, і я дарэмна тут...

— Ужо нават заўтрашнім днём я варвалася б у ваш пакой... Вось гэта ваш адрас...

Яна паказала на рыдыкюль.

— Мне казалі, але, паверыце, я ніяк не мог здагадацца, што вы — сястра. Я губіўся ў дагадках, і каб мне падказалі, што вы ачуліся ею...

— Чаму, дрэнная справа?

— Не тое зусім, Ліба. Ну, я...

— Вы не ўлічваеце, Рыгор, аднаго. Маё ж званне

мне дае правы тупаць вось па гэтым тратуары... Гэта — ад Смагіна... Смагіна?! Ды дзе ўжо ён, той Смагін... О Рыгор! Я вам хачу пераказаць цэлую эпапею, крывавую эпапею нашага мястэчка.

— Сястрыца! — пазваў яе ранены на мыліцах.— Пойдам пацiхай, холадна.

Ліба адвярнулася ад Рыгора і штосьці праказала раненаму.

— Мне вельмі хочацца пагутарыць з вамі, ну, бачыце, зусім няма часу... Даруйце ўжо, калі-кольвечы...

— А вы ж збіраліся заўтра, як быццам бы?..— запытаў Рыгор.

— Думала, толькі кожную хвіліну мне могуць паперашкодзіць.

— Ліба Шлёмаўна! — гукнула Лібу яе таварышка.

— Зараз, Тацяна Іванаўна, у хвілінку...

Яна яшчэ раз працягнула руку Рыгору і з гасціннаю ўхмылкаю на пасталеўшым сур'ёзным твары, пад белаю касынкаю, адступіла назад на пару крокаў.

— Вас нельга пазнаць...

— Няўжо толькі праўда таму?

— Даю слова... І чакаю, Ліба?

— Абавязкова наведаю... Бывайце-э!..

Рыгор паглядзеў ёй услед і загадліва пацяў плячыма.

Калі ж пешаходы засланілі ад яго і Лібу і раненых, ён крута рушыў з месца і пайшоў на празрысты ліхтар, умацаваны на сутыку трох праспектаў.

## VII

Перад высокім шасціпавярховым каменным гмахам па Захараўскай вуліцы грамадзілася многа якіхсьці людзей, адзетых у жоўтыя і белыя кажухі, у шэрыя халаты і падхалаткі. У многіх з іх віселі за плячыма зрэбныя, памурзаныя клумкі. За малым выключэннем — яны былі абуты ў ліпавыя ці лазовыя лапці, у да калень абкручаных аборкамі анучах. Адны з іх выходзілі ў дзверы дома, лаючыся на некага і нешта, другія, відаць, пабывалі ўжо ў ім і спакойліва абгаварвалі вынікі наведвання.

У многіх, слабей адзетых сінелі худыя твары і на вытаркшых насах віселі каплі. Другія падскаквалі на

месцы, грэючы ногі, часта прамочаныя навылёт; іншыя старанна паціралі рукі. Ніводзін не рашаўся пакінуць намерзлых тратуараў і аддзяліцца ад грамадкі. У грамадцы ішла мерная, з адбіткам хвалявання, але з выразнаю доляю жальбы і безнадзейнасці, ажыўленая гутарка. Большасць прагна, уталопна глядзела між двух слупкоў пад стрэшкаю ў вузкія зялёныя дзверы, раз-поразу стукаўшыя праваю форткаю. На выходзіўшых з дзвярэй накідаліся чалавек па двое — па чэцвера і доўга і нечага распытвалі.

Пешаходы і рамізнікі з пасажырамі ўважліва супынялі на гэтай жоўта-шэрай пляме з людзей свае цікавыя ўзрокі; некаторыя прыпыняліся воддаль, каб хоць паглядзець на іх ці паслухаць іх незнаёмае гутаркі. Ад іх нясло потам і пахам чорнага хлеба. У памятых і закаравелых кажухах ды халатах, у парваных лапцях выглядала жорсткая доля.

Рыгор спыніўся каля грамадкі якраз у той момант, калі з дзвярэй дома выйшла двое маладых мужчын у аблезлых маньчжурках, з дубовымі дручкамі ў руках, прагукаўшы грамадцы:

— Для трыццаці памяшканне вызначана. Пойдам, дзядзькі.

Адным замахам рушыла з месца да паловы грамадкі. Яна накіравалася ў бок Басейнай. Рэшта падалася бліжэй да сцяны дома і моўчкі цягнула чакаць.

Ні з водных вуснаў не чулася скаргі на пайшоўшых. Ніхто, таксама, не выказваў выяўнага нецярпу на доўгае стаянне. Відаць было, што пачуццё пакоры і замірэння з сапраўднасцю загартавала іх цярпенне і спакой.

Рыгор толькі ўгледзеў грамаду з-за рога вуглавога дома, як зразу дагадаўся, у чым справа. Жоўтыя кажухі і паўшубкі гербавалі сабою беларускія прасторы, ціхія паніклыя вёскі.

Яшчэ зусім нядаўна па раскіданых ва ўсе бакі шляхах і гасцінцах тупалі гэтыя людзі за дробнымі худымі канякамі. З сёл у мястэчкі, з мястэчак у горад перавозілі яны рэшткі плёнаў свае працы, кароўку ці свінку. Адпраўляліся ў лясы на сечку дроў, да паноў у двары і фальваркі на падзённую працу. Нядзелямі ды святамі кішэлі імі рынкі. Саматкань, зрэб'е, гаршкі і бандарныя рэчы, лыка і тальку мянялі яны на медзякі для падаткаў ды акцызу.

У нізкіх курных хатах, з земляною падлогаю, упярэмеж з курамі і гавядай каратталі яны сваё жыццё.

Сумнае святло лучніка ці светаша сімвалізавала іх дабрабыт, іх культурны і эканамічны стан. Вузкія шнуркі зямлі, патаптаныя шырокімі, трэсканымі нагамі, дагледжаныя ад каменняў і дзярыны, не давалі ім умерці з голаду. Пра іх быў клопат у ўрадніка і ў папа, толькі клопат асабовы, драпежны і дзікі.

А гэта во...

— Вы з якое прычыны сабраліся тут, дзядзькі? — запытаў Рыгор у двух пажылых сялян.

— Сынок мой, няўжо табе невядома?

Сівабароды, са ўпалымі шчакамі, з тоўстым, бульбінаю, носам, затрос рэдкаю бародкаю. Даўгая арэшына, на якую ён апіраўся, каўзанула наперад.

— Гэта наша не астатняе прыстанішча,— дадаў другі дзядзька, абросшы жоўтымі валасамі ад вушэй да барады.

— Мы зранку тут,— казаў першы.— Гэта бежанскі камітэт, і мы прыйшлі за дапамогай. Няма дзе, сыне, прытуліцца, куска хлеба няма, і мы вось...

— Але, але,— пераймаў другі.— Дзесяткамі гадоў мелі зямлю і хаты, мелі хоць на чым прылажыць сваю працу, а гэта... Выгналі... Хмараю насунулася войска... Патапталі нашы палі і паплавы, паадбіралі статак і хлеб і прагналі ў белы свет.

— Ідзеце!..

Да іх падышло яшчэ некалькі чалавек. З напружанымі ўзрокамі насцярожана глядзелі яны ў Рыгораў спагадлівы твар і прагна чакалі яго рады. Ім так мала трэ было ў гэты час! Хоць некалькі суцешных сказаў, каліва ўвагі, адну-другую сяброўскую параду... Напэўна Рыгору зразумелы іх мукі, іх доўгае пакутнае вандраванне...

— Ізеце, а куды і як? — казаў першы.— У свет! Лёгка сказаць! Кідай гняздо і ляці на галодную смерць... Ды нічога не парадзіш... у іх штыкі і кулі, нагайкі і дзікія суворыя твары. У іх жорсткія сэрцы і бязлітаснае пачуццё... А ў нас?

— У нас дурная, нікудышняя пакора. У нас зайцава палахлівасць, завошта цяпер адкупаемся мукамі,— рашуча выказаў трэці і з агідаю сплюнуў.

Першы хапіў яго за руку і праказаў:

— Маўчы, Сцяпан, не кажы на вецер... А чаму ж

ты пайшоў? Паказаў бы сваю смеласць і паспрабаваў бы астацца... Пераканаўся б тады... Гаворыць — ліха ведае што. Нябось — пайшоў і зараз тамсама, дзе і другія. Чаго б лепшага, а глядзі, нябожа, дарога, напэўна, яшчэ ўся не пройдзена.

— Кінь, Андрэй, злавацца. Каго ты ўшчуеш, га? — пераняў яго другі.— Думаеш, чалавек не разумее нас і без гэтага?

— Разумею, дзядзькі, усё разумею...— спагадліва падаў Рыгор і заўважыў, як некалькі лахматых галоў яшчэ шчыльней нахіліліся да яго.

— Чаму ж не ведаць? Хто зараз не ведае гэтага страшнага пекла? Наша гора свет заліло, браткі мае. Яно не можа не пачуцца навокал-вакола. Гора, гора, добры чалавек,— вякамі не вычарпаць яго, патомкам не забыцца... Во, глядзі на нас — старцы — не старцы, валацугі, брадзягі... А завошта? Запытай нас — завошта-а? Перад кім і што мы саграшылі, чалавеча добры?.. Ніхто не кажа. Багацеі ўздумалі — і доля наша вырашана.

— Ідзі-ы...

— Пакора, дзядзька, дазволіла на гэта...

— Ты ізноў,— азірнуўся Андрэй.— Не правучыла цябе нівошта...

— І каб ты бачыў, як мы ішлі, каб ты бачыў, сыне, ты б не вытрымаў, гледзячы,— перабіў першы.— Ад Ваўкавыска — на прасцяк, як вокам кінуць, роўная дарога. Мэрам гэта, вось, вуліца. І ўся, не згледзець, загружана людзьмі, падводамі, жывёлаю. Пыл, стогны, конскі рогат і сабачы брэх — адзін гвалт, вялікі, страшэнны крымінал. А ззаду — промін. Усё неба, сынок, з гэткага, во, проміну, як той ліхтар, так во і калыхаецца над нівамі, над дубровамі. Камякі чорнае сажы — агромністымі каршукамі па зялёнай руце ліста, па сіняй валошцы, па белым цюцюпане — лажыцца і сажыць, лажыцца і мяртвіць. І сэрцы разам мруць, сціскаюцца тоўстымі халоднымі рэхвамі,— сынку, падумай,— то ж у дыме тым нашы хаты і гумны, наседжаныя гадамі мясцінкі. Наша праца, наша ўсё, што мы мелі, што нажылі, чым хваліліся і на што апіраліся. А нівы гайдаюцца, братка мой, густым ядраным коласам, залатою пруткаю саломаю — якія б выходзілі кулькі, як бы хораша выглядалі новыя стрэхі! — Гэта жыта дратавалі коні, не тыя, што ўспахалі яго, а тыя,

з якіх на нас глядзелі сіберныя твары казакаў... І жыта, і ячмень, хлеб і аладка — усё, усё — пазадзе. Адвернешся, нябожа, і няма сілы адарваць ваччу, прыкоўвае болем і жудою, заве, вабіць назад. Назад — да ведамага, да ператупанага, да перамацанага, да... Ды назад нельга...— гоняць, націскаюць. Ідзі наперад, туды, дзе чакае невядомае. І мы ішлі, цягнуліся, валакліся... Галодныя, забруджаныя, абаўшывеўшыя... Дзень і другі. Ноч ды другую. Тыдні — насустрач яснага, але халоднага сонца... Ішлі, знерваваныя, з падбітымі нагамі, нямытыя, злосныя на людзей і на сябе, ачумелыя...

Па баках яшчэ стаялі ціхія, неўзварушаныя вёскі... Пасвіліся коні, выраслі мэндлі і копы. Дзяўчаты пелі жніўныя песні. На шырокіх межах, на сценках і сцежках стаялі гэткія, як мы, сяляне і глядзелі на нас і спачувалі нам. Нашы дзеці прасілі ў іх малака, яблычка, кавалачка сала. Ды ці ж усім надаешся? Глянеш — ■ ўсцяж даўжэрнае дарогі, як вокам кінуць, ідуць і едуць, становяцца і топчуцца на месцы. Бо што ж ты думаеш — паўкраю ў дарозе. Узнялі і пагналі. Ідзі-ы... Куды ж і колькі-ы ісці — няведама... Стаімо, вось і думаем, што заўтра, пазаўтра — кідай горад і далей-далей-далей...

— А тыфус, Андрэй, а халера... Баішся сказаць? Ведаюць, не схаваеш. Паглядзеў бы, браток — як на пакосе. Людзі — як мухі. Мэрам чыясьці рука махала востраю касою — на вачах клаліся людзі. Зрабіў два крокі — і смерць, два крокі — і смерць. Каня, карову — убок, а чалавека — рыеш магілу. Паложыш і галінку бярозы ці елачку ваткнеш ды далей. Зрэдку саб'еш нетрывалы крыжык. А разам, паверыш, могілкі. На гоны, на вёрсты, доўгія, вялікія могілкі. Аднаго — маладзіца, другога — дзіця, бацька і дзед, матуля і каханая. Кінуў — не глянуўшы на твар у апошні раз — і пайшоў ці паехаў. Калі мы пройдам, братка, між тых могілак і крыжоў? Нас тут каля сотні, а выйшла — упяцера болей. Што ж, можа, і добра, бо дзе б мы начавалі? Дойдзе з нас палова, і таго хопіць... Гэткія справы, нябожа...

Рыгор стаяў, як заварожаны, убіраючы ў сябе жаласлівыя паведкі дзядзькоў.

Іх простыя шурпатыя сказы стукалі малаткамі па яго сэрцы, пілавалі нутро і камянілі істоту. Хацелася абняць гэтых мучальнікаў, пераліць у іх сваё гарачае

кіпучае пачуццё спагады і ўверыць у светлае, бліскучае, надзейнае ды ўцешнае будучае.

— Дзядзькі, прыйдзе час, і ўся ваша крыўда і ўсе вашы мукі будуць адплачаны вольнаю доляю і жыццём шчаслівым... Гэта залежыць і ад вас саміх.

Рыгор не дасказаў свае думкі — перасохла ў горле.

Раптоўны вокліч, вылецеўшы з дзвярэй, разварушыў грамадку:

— За Неўскую заставу, мужчыны.

Яшчэ пяць хвілін, і нястройныя, блытаныя шэрагі кажухоў і світак аддзяліліся ад Рыгора, пакінуўшы яго адным. Ён паглядзеў ім услед, мнагазначна паківаў галавою і схаваўся ў дзвярах будынка.

Стромныя, забруджаныя ўсходы глядзелі на яго шырокімі піраговымі слядамі лапцей. Пракуранае карашкамі і самасеем паветра дапамінала пра цэладзённае таптанне па ўсходах яго землякоў-выганцаў.

На самым верхнім паверсе, пры непрычыненых дзвярах, стаяла пара бабулек, пільна рухаючы медзякі. Яны баязліва паглядзелі на Рыгора і сышлі ў бок ад дзвярэй.

Рыгор прайшоў у дзверы.

Цемнаваты калідор смярдзеў дымам і якімсьці кіслым пахам. За дзвярыма ў пярэднім пакоі ішла гучная размова. Ён пастукаў і, не чакаючы адказу, увайшоў.

Пры шырокім заваленым папкамі і спісанай паперай стале стаяла двое мужчын; адзін з іх кароценькі, у шэрага колеру жакетцы, з памурзаным каўнерчыкам пад ёю, жывы, рухавы, з ласкава бегаючымі ўзрокамі, раптам павярнуўся да Рыгора:

— Вы па справах камітэта?

Другі мужчына, крыху вышэйшы ад першага, з падобнымі да першага жоўтымі вусамі, з лапінкаю французскае бародкі і сінім колерам вачэй, ну ўжо сутулы злёгку, дабрадушна ўхмыляўся:

— Напэўна, за білетамі?

Першы спрытна разгортваў перад Рыгорам зялёную афішу з чорнымі надпісамі праграмы:

СПЕКТАКЛЬ
У ЗАЛЕ «ПОЛЛАК» — НЯДЗЕЛЯ...

— На карысць бежанцаў.
— Для мяне цікава, наколькі ім камітэт пасабляе?
Другі мужчына незадаволена пакруціў галавою.
— Крошкі адны, крошкі... А гора, а бяды — акіян, акіян... Кідаемся ва ўсе бакі, хапаемся за ўсё, што можна... Вось ладзім спектакль... Самі не пасобім сабе — хто ж паклапатуе за нас? Вы два білеты возьмеце?
— Ты запрасі чалавека, Броніська, няхай распаўсюдзіць білетаў з дваццаць,— парадзіў другі мужчына.
Кароценькі дастаў з кішэні білетную кніжку і падаў яе Рыгору.
— Ваша фамілія і адрас?
Рыгор сказаў.
Кароценькі запісаў на маленькім кавалачку паперы, які тут жа схаваў у бакавую кішэню.
Рыгор даў згоду і ўжо адчыніў дзверы, як яму ўспала думка пра Гэлю.
— Будзьце ласкавы,— абярнуўся ён да абодвух мужчын.— Ці не ведама вам, часамі, наконт складу ўдзельнікаў спектакля? Сярод іх няма, выпадкова, адной дзяўчыны, Гэлі Пералаз — імем і фаміліяй?
— Ведаеце, рад бы сказаць, ды суйздром запамятаваў. Даруйце.
— Даруйце вы мне.
«Ну, што я пра Гэлю пытаю. Наіўны!» — папракнуў Рыгор сябе і схаваўся за дзвярыма.
Праз гадзіну ён быў дома.

## VIII

Каля двух тыдняў ад часу наведвання бежанскага камітэта і да дня спектакля Рыгор быў цалкам заняты думкамі пра бежанцаў. Перад ім неадлучна стаялі здані малюнкаў вялікага збегу людзей, разбурэння знаёмых абшараў спустошанае краіны. Вулічны вырай людзей дапомніў яму тыя незмярымыя шляхі ад Ваўкавыска, ад Бельска, ад Горадні — на ўсход, якімі выходзілі бежанцы з сваіх месц. Курава над фабрычнай Выбаргскай стараною — асацыявала пажары вёсак, нажытага дабра, мазольнае працы. Яго раздражнялі аднакава: і брэх сабакі, і ржанне каня, і праезд коннага гарадавога ці казака. Чудзішча вайны набыло

ў яго нутру яшчэ большае дзікасці, драпежнасці і абурэння.

Ён хадзіў па вуліцах і бачыў у кожным дзесятым чалавеку выганца, беспрытульніка, пакутніка. Халодныя, хмурыя муры горада — ведаў Рыгор — не проймуцца іх слязьмі і плачам.

А між тым новыя чаргі ўліваюцца ў халодную, бяздушную прорву сталіцы. Адыходы расійскага войска перад націскам немцаў гоняць свежыя тысячы няшчасных. Ні зіма, ні завеі, ні пошасці не супыняюць разгону вайны. Вайна — і ворагу пустыя абшары. Вайна — і пляваць на ўсе скаргі, на ўсе законы да аховы чалавека, жывёлы, дабра.

Пляваць?

Дык чаму ж дзень у дзень несціхана трубяць прадажныя газеты пра «нямецкія зверствы?»

Атрутныя газы — праступак? Абстрэл Рэймскага сабора — зверства? Зруйнаванне Лувена і Льежа — варварства?

А здзекі і глум над тысячамі польскага, беларускага, яўрэйскага, літоўскага працоўнага насельніцтва — тактыка? Гвалтоўнае спусташэнне краю, аддание соцень тысяч людзей у ахвяру бядзе, марозам, тыфусу і галоднай смерці — абарона? Цэпеліны над Лонданам — драпежніцтва? А зруйнаванне тысяч сёл, мястэчак і гарадкоў з радзімных гармат і кулямётаў — людскасць?

«Ад Смагіна не засталося памяткі».

А Сілцы?

А вялікая колькасць тых вёсак і мястэчак, якія цешылі яго вочы ў пераездзы з Рыгі ў Сілцы, з Рыгі ў Смагін, са Смагіна ў Пецярбург?

А тыя людзі, між якіх ён тоўкся на рынках і сходках?

А яго маці? А Сёмка з сям'ёю? А цэлая вуліца суседзяў, знаёмых людзей? Няўжо ён не сягоння — так заўтра сустрэне іх на абледзянелых тратуарах Захараўскае вуліцы? У зношаных, выцертых і лапленых лахманах? Пахудзеўшымі, прыбітымі, бязмоцнымі і безнадзейнымі? А мо і зусім яны не дайшлі ці мо не дойдуць?

На шырокім выбітым гасцінцы, пад бярозай ці ядловым кустом пяройме іх бесспагадная пошасць і прыкуе навекі да зямлі.

З нецярпеннем чакаў Рыгор да сябе Петруся, каб падзяліцца з ім балючым уражаннем пра стан роднага кутка.

Як надзіва, Пятрусь дзесьці знік і не паказваўся да Рыгора.

І калі Пятрусь з'явіўся да яго дзён за два да спектакля, Рыгор, замест прывітання, праказаў:

— Як шкода, што ты позна мяне наведаў!

Пятрусь не зразумеў сказа і ўпарта паглядзеў на Рыгора.

— Так, так... Ты быў мне вельмі патрэбным у гэтыя дні,—дадаў Рыгор.

— У чым справа? — пацікавіўся Пятрусь.

Рыгор пачакаў, пакуль таварыш распранецца ды займе месца, і падрабязна расказаў свае ўражанні ад спаткання з бежанцамі. Абодва, і Рыгор і Пятрусь, раз'юшана тупалі па пакоі, захапіўшыся настойнымі думкамі. Перад імі абодвума паўставалі выразныя малюнкі з трагедыі, якая адыгрывалася далёка ад іх.

Яны хвілін з дзесяць пастаялі моўчкі, губячыся ў бязмоцнасці. Каб хоць крыху адысці ад думак, Рыгор паведаміў:

— Бежанскі камітэт наладжвае спектакль. Можа, чуў?

— Не.

— Вось я ўзяў для распаўсюджвання пару дзесяткаў білетаў; і, думаеш, так-такі і лёгка гэта зрабіць? Прапануеш білет — а на цябе з ухмылкаю пазіраюць і маўчаць. Што за бежанцы і каму да іх якое дзела... Так, прынамсі... І ўчора я мусіў вярнуць каля дзесяці білетаў непраданымі. Ці чуў ты?

Пятрусь здзіўлена пацяў плячыма.

— А ад мяне купілі б, думаеш?

— Усё ж бы... Аднаму, другому знаёмаму і дзесятак...

— Гэта малая дапамога. Ды мне, ведаеш, нязручна ўсюды хадзіць, пакуль яшчэ не ўладзіў са сваімі справамі.

— А хіба ж яшчэ не ўладзіў?

— Згадзіся, што не. На Воздухаплавацельным — цяжка ўстроіцца... І я ўжо намерыўся ехаць у Маскву...

— У Маскву?!

Рыгор вытарашчыў вочы.

— Так, браце, іначай не выходзіць.

— Дык мне жадаеш аднаму аставацца?

— Як таго ні шкада, а даводзіцца. Я з гэтае прычыны і зайшоў да цябе, Рыгор. Прапануюць месца ў Народным банку, і мне думаецца, што гэта праца якраз для маіх разгойданых нерваў... Там жа ўладзіцца і з пашпартам. А з білетамі... Так, я мушу гэта — але што значыць праданых пара білетаў.

— Вось не чакаў я таго! Гм! Шкада, шкада, Пятрусь, мне расставацца з табою. Ды, прынамсі, на колькі — нічога пэўнага не скажаш? А ў наш час — кожны дзень за год, і хто ведае... Зразумела, што продажам білетаў мала дапаможаш.

Далей яны пакінулі гутарку пра спектакль і заняліся абгаворам Петрусёвых спраў.

— Так, хто ведае... Думалася яно так, а выходзіць...— шкадаваў Пятрусь.

— І нельга змяніць?

— Дзе ж ты бачыў... Ды ці варт! Я ўжо думаў пра гэта і рашыў... Я напішу табе — толькі злезу з цягніка. Ну, вось, прасіў бы, цябе, браце, аднаго.

— А менавіта?..

— Ты не забывай адпісваць на мае лісты.

— Што ты выдумаў! Ласне можна дапусціць. Усё ж і ў Маскве не забудзь пра бежанцаў...

У гэты момант за дзвярыма некалькі разоў перакагалі Рыгорава імя. Чыйсцьці невядомы, басісты голас зычна гудзеў у пустым калідоры кватэры. Хлопцы прыслухаліся. Пятрусь паспешна стаў апранацца.

— Ты куды гэта?

— Ды ці ёмка мне аставацца?

Пятрусь не паспеў зашпіліць паліта, як у пакой увайшоў сярэдняга росту, у добрым зімовым паліце, грубы, даўгавусы чалавек. Ён спрытным замахам рукі зняў баярскае формы коцікавую шапку і запытаў:

— Я не перашкаджаю?

— Калі ласка, сядайце! — адказаў Рыгор, падаючы зайшоўшаму крэсла.

— Я перапрашаю вас, Нязвычны. Я, памятаеце, наконт вашай просьбы. Зараз якраз выдалася месца ў нашым цэху для аднае жанчыны. Якаво з вашай кандыдаткай?

Рыгор зразу дагадаўся, у чым рэч, і радасна адказаў:

— Вельмі дзякую вам; вы, проста, выбаўляеце чалавека.— Гэта наконт Гэлі,— абярнуўся Рыгор да Петруся, які стаяў пры стале, уткнуўшыся ў газету.— Дзякуй яму, таварыш не забыў.

— А мне што ж, прасілі— і я лічыў таварыскім абавязкам паведаміць... Няхай зойдзе, скажаце, у інструментальны цэх і запытае Палікара Лазарчука.

— Калі б то лепш? — запытаў Рыгор.

— Не пазней паловы лютага. Месца, трэба сказаць, не дрэннае. Рублёў паўсотні выжане ў месяц.

Ён устаў.

— Прашу пасядзець... Як у вас з настроем, скажэце? — пацікавіўся Рыгор.

— Настрой паднімаецца... Але, зразумела, не так, як бы таго хацелася... Вось і дзевятае студзеня — перш памкнуліся баставаць, а датыркнуліся справы, каму пачынаць — дык на нас чалавек сарака і абышлося.

Ён нездаволена махнуў шапкаю і зрабіў на твары невыразную міну.

— Патрэбен штуршок. Ды добры штуршок; а без гэтага — цяжка раскачацца... Так... Знача, як толькі захоча яна — няхай ад дванаццатай да другое — кожны дзень. Палікар Лазарчук — мяне ведаюць.

Прыйшоўшы завярнуў у дзверы. Рыгор яшчэ некалькі разоў пераказаў яму сваю падзяку і правёў яго на сходы.

Вярнуўшыся назад, ён застаў Петруся нарыхтаваным да выйсця.

— Дык бывай здароў, Рыгор! Чакай ліста.

— Ужо? Бывай! Шкада, ведаеш, але нічога не парадзіш.

Яны пацалаваліся.

Стук дзвярэй разлучыў іх на доўгі час.

## IX

Падыходзіла ўжо да восьмай гадзіны вечара. Час бег безаглядна. Бадай што можна было б выходзіць з пакоя, але Рыгор хацеў дачакацца Анікея. Яны згаварыліся ўдвух паехаць на спектакль.

«Чаму ж яго няма?» Рыгору не хацелася думаць, што Анікей перавырашыў з гэтым. Усё ж можна было

дапушчаць, што знайшліся тыя ці іншыя прычыны, паперашкодзіўшыя яго намеру. Рыгор апошні раз паглядзеў на гадзіннік і пачаў збірацца. Самому яму кардела папасці на спектакль у час, каб так ці іначай праведаць пра Гэлю. Напаткаць яе на спектаклі і паведаміць пра знойдзенае для яе месца было б вельмі добра. Праўда, яму не верылася, што Гэля там будзе. Апошняя стрэча з ёю не сведчыла за Гэліну цікавасць да спектакля. Рыгору проста хацелася, каб яна была, і ўжо на хаценні будавалася магчымасць.

Рыгор патраціў на дарогу не болей паўгадзіны і калі апынуўся ў зале «Поллак» — там ужо было багата публікі. Аднак, як звычайна з аматарскімі спектаклямі, вечарына яшчэ не пачалася. Ён замяшаўся ў тупатні публікі і з цікавасцю разглядаў залу.

Публіка была зборная і разнастайная, мяшчанская і абывательская, крыху закранутая пачуццём спагады да «няшчасных» землякоў. Але гэта іх «спагада» канчалася з моманту адарвання білетных купонаў.

Рыгор, прынамсі, не чуў адпаведных мэтам вечарыны гутарак. Пад яскравымі люстрамі цеснага фае разліваліся твары бесклапотнымі ўхмылкамі. Нясло парфумаю. На жаночых шыях віселі залатыя ланцужкі і жамчужныя маністы. Рознакаляровы шоўк шапацеў над нацёртым паркетам. Усё гэта лакіравала прыедная за час вайны філантропія.

Гэля? Было выразна, што сярод публікі яе няма. Калі яе няма і за кулісамі — значыць, яна на спектакль не прыйшла. Болей таго — значыла гэта, што Гэля кляміла Рыгору, успамінаючы яму пра вечарыну ў час першага з ім спаткання. Рыгор выйшаў у пустую глядзельную залу і прыблізіўся да ўваходу за сцэну. Ён прачыніў вузкія дзверцы за кулісы і паглядзеў на груды складзеных дэкарацый і рэквізіту. Гутарка ішла дзесьці на сцэне, дзе спешна гатовіліся да пачатку спектакля.

Рыгор палічыў няёмкім праходзіць за сцэну і зачыніў дзверы. У гэты момант каля яго апынуўся той самы кароценькі вёрткі чалавек, якога ён першы раз сустрэў у бежанскім камітэце. Хапіўшы Рыгора за руку, ён гасцінна прывітаўся і запытаў:

— Вы кагосьці шукаеце?

— Так, мне хацелася б знаць, ці не прымае ўдзелу ў спектаклі Гэля Пералаз?

— Гэля Пералаз? — перапытаў кароценькі чалавек.— Не памятаю такое. А ў тым, я запытаю, пачакайце-э.

Кароценькі чалавек шмыгнуў за кулісы. І яшчэ не паспеў ён зачыніць за сабою дзверы, як пачуўся трохкратны званок. Шугнуўшая з фае публіка застукала крэсламі, загудзела навакола яго, замітусілася. Рыгор не мог ужо стаяць на праходзе, і сам накіраваў між радоў крэслаў.

І толькі ён трапіў на сваё месца, як святло пагасла.

Рыгор з зацікаўленасцю глядзеў на сцэну і не заўважыў, як падаспеў антракт і зычны гул воплескаў напоўніў асветленую залу.

Рыгор ухмыляўся, азіраючыся наўкола.

— Цікавішся? — перабілі яго ззаду.

Ён агляну́ўся і ўбачыў Анікея.

— А я да цябе заязджаў, ды ты пайшоў ужо.

— Не дачакаўся.

— Угаварваў жонку і запазніўся. Пайшла ў Народны дом, а я...

Абодва намерыліся пакінуць месцы, калі да іх падышоў кароценькі чалавек, ужо знаёмы Рыгору.

— Ну, як пачатак? — з цікавасцю запытаў ён.

— Добра,— адказаў Рыгор.

— Бачыце, у Пецярбурзе вельмі цяжка штокольвечы наладзіць. Б'ешся, б'ешся, пакуль нойдзеш людзей, пакуль арганізуеш. А між тым патрэба ёсць... Спробы, бачыце...

Кароценькі чалавек не дагаварыў, як яго пазвалі ў фае. Адыходзячы ад іх, ён даканчваў гутарку шпаркімі размахамі рукі.

— Гэта з бежанскага камітэта. Жывы чалавек — як клубок, так і круціцца.

Сігналы да другое дзеі перабілі гутарку.

— Будам рабіць вывады пазней! — праказаў Анікей, ідучы на сваё месца.

Рыгор у думках вярнуўся да Гэлі. Было ясна, што яе няма і не будзе. Было таксама ясным, што Гэля не мела да спектакля жаднага дачынення. Адгэтуль выходзіла, што нельга было паверыць усёй яе гісторыі з прыездам у Пецярбург, з наведваннем бежанскага камітэта. Гэліна гісторыя бадай што развівалася зусім іншымі шляхамі. Ці ж можна верыць, каб яна пакінула сваю яму і пайшла на працу?

Рыгор з-за думак пра Гэлю малаўважна прагля-дзеў канчатак п'есы. Ён не мог нічога адказаць Анікею, які хваліў артыстаў, «выразна зарэкамендаваўшых сябе ў ігры».

— Мяне цікавіць болей усяго той прыбытак ад спектакля, які мае пайсці на дапамогу ўцекачам! — адказаў Рыгор.

— Так, гэта асноўнае пытанне,— згадзіўся Анікей.

— Гэта пытанне, над якім доўга прыйдзецца думаць... Калі мне ўспамінаюцца жудасныя апавяданні сівабародага дзядзькі...

Анікей разняў губы, каб выказаць таварышу сваю спагаду, як ківок рукі таго ж кароценькага чалавека павярнуў іх абодвух управа.

— Я папрашу вас, прымеце ўдзел у скарбоначным зборы... Хоць дзесяць рублёў,— усё ж дапамога...

— Я вельмі ахвотна пасоблю, калі гэта трэба лічыць за дапамогу,— адказаў Анікей.

Яны схаваліся ў суседнім пакоі.

У зале пачыналіся скокі, і медныя гукі аркестра зліваліся з бразгам медзякоў у пустыя скарбонкі.

## X

На рагу Вазнясенскага праспекта і Садовай вуліцы Рыгор злез з трамвая і пайшоў напрамкам да Нікольскага рынку. Ён помніў, што дзесьці між гэтымі двума пунктамі, у адным з шэрых невысокіх будынкаў жыве Гэля. Ён пільна разглядаў форму дамоў і асабліва строй іх варот, але ні на водным не мог спыніцца.

Будучы ў Гэлі перад Новым годам, яму не ўспала на думку заўважыць месца і будынак, у якім яе «кватэра». Тады ўсё неяк сталася нечакана і дзіўна, што, каб і хацеў разглядзецца чалавек, то не мог бы гэтага зрабіць.

Роўная сцяна будынкаў на ўвесь квартал. Падобныя адна да другой лёхі пад жалезнымі брамамі. У прачыненых варотцах глядзяцца калодзежы цесных двароў. Сярод іх, безумоўна, і той, якім правяла яго Гэля да сябе. Але каторы? Рыгор прыпомніў, што гэта мэрам бы ў першым ад Вазнясенскага праспекта квартале з левага боку, калі накіроўвацца да Нікольскага рынку. На адгон некалькіх дамоў ад Аляксандраўскіх

радоў. Хоць бы адна прыкмета асталася ў яго памяці — дык не.

Ён навугад пачаў заглядаць у двары. Пройдзе ў варотцы, азірне навакола і далей.

На чацвёртым захадзе ён угледзеў найболей падабенства да таго, чаго шукаў. Заўважанае выйсце ў бакавы засмуглены будынак пацягнула яго да сябе.

Усходы аднавілі памятны выгляд,— можна было рассеяць сумненне.

Каля абшарпанай абіўкі дзвярэй Рыгор спыніўся і пазваніў. Чамусьці марудзілі адчыняць. Ён паўтарыў званок і праз хвіліну ўгледзеў праз вузенькую шчылінку знаёмы адрэз запамятаванага твару гаспадыні.

— Вам каго?

— Гэля Сідараўна дома?

Гарылаў твар гаспадыні зрабіў механічны поверт у бакі з гары ўніз; следам выкаціліся з яе абвіслых, набрынялых губ недаверныя запытанні:

— Вам яна патрэбна? А па якой справе?

— Я згаварыўся з ёю сустрэцца сённі.

Гаспадыня бразнула крукам і ўпусціла Рыгора ў кватэру. Паўторны бразг запёр зачыненыя за Рыгорам дзверы.

Не запальваючы святла, жанчына правяла яго цёмным калідорам да якіхсьці дзвярэй, адчыніла іх і праказала:

— Прашу заходзіць.

Па ўсім абсталяванні пакоя, якое кінулася Рыгору ў вочы, відаць было, што гэта рэзідэнцыя самое гаспадыні.

— Сядайце-э,— мякка выказала яна, засунуўшы засаўку ў дзвярах.

Рыгор сеў на падстаўленым таўстухаю паношаным, калісьці раскошным, фатэлі і чакаў, што яму скажа зацікаўленая яго прыходам гаспадыня.

Тая некалькі хвілін бязмэтна і падозрана павярцелася між чарады расстаўленых без толку мяккіх крэслаў, зазірнула па чарзе ў буфет і шафку і, стаўшы ўблізу Рыгора, праказала ўпаўшэпт:

— Гэлі няма ўжо, малады чалавек. Ці ж вы не чыталі хіба? «Пецярбургскі лісток» надоечы публікаваў пра яе смерць ад самагубства...

— Што вы кажаце-э?! — узбянтэжана падняўся Рыгор з фатэля.

Спакойнае паведамленне гаспадыні, мэрам бы то справа датыркала блуднае кошкі ці злоўленае ў пастку мышы, паказалася Рыгору здзекам над Гэляю.

— Вы яе давялі да гэтага?! У чым справа?

Гарыла працягнула да Рыгоравага твару агромністыя пухлыя далоні рук і, зрабіўшы ведзьміну міну на твары, яхідным шэптам адказала:

— Хлусня-а... Вы, мужчыны, віною гэтаму. Вы пхаеце жанок у гэта бяздонне, робіце іх таварам, рэччу сваіх асалод, а пасля...

— Дзе вы дзелі Гэлю Сідараўну? — сярдзіта выгукнуў Рыгор, стукнуўшы кулаком па стале.

Яго вокрык і стук сунялі таўстуху, і яна, адступіўшы на два крокі, адказала:

— Клянуся вам, што я непавінна ў яе смерці. Ёй жылося ў мяне зусім нядрэнна. Бывалі дні, што Гэля не мела ні аднаго гасця... Я давала ёй штодня па рублю кішэнных грошай... Карміла — няхай яе таварышкі скажуць — як дочку. Прызнаюся — любіла яе болей усіх. І чаму, і што яна пайшла на самагубства — гублюся адказаць. Я сама плачу аб ёй...

Як па заказе гаспадыня пусціла з вачэй слёзы і старанна пачала ўціраць іх нямецкім бялюткім фартушком.

— Нашто вам узводзіць на мяне дарэмшчыну,— з горнасцю скардзілася яна Рыгору, абапёршыся на стол.— Колькі я перанесла гора, паліцэйскае цяганіны, а завошта? Ці ж бы я прытульвала яе, каб гэта ліха ведала; пражыла два тыдні, а з іх цэлы тыдзень непакой у кватэры; допыты, хадзьба ў участак, вопісі і штрафы, ды людзі яшчэ ад сябе... Дабро робіш — а астаешся вінаватай. Свет, свет, каб ён праваліўся...

Таўстуха крута павярнула да буфета, спрытным замахам непаваротнае рукі адчыніла дзверцы і зашумела газетным лістом паперы.

— Во,— як усё гэта было... Ласне я магла тут мець хоць укоснае дачыненне?

Яна ўголас, слібізуючы, прачытала: «26 студзеня-а... адвя-а-чоркам... каля Чарнышова-а-га мо-о-ста... на вачах многа-а-лікіх прахожых кінулася ў прасечаную палонку Фантанкі маладая, на выгляд гадоў дваццаці, дзяўчына... Падбегшы-і на ратунак... двое ма-атросаў-ў і гарадавік... з вялікімі... цяжкасця-а-мі вылавілі самагубцу... застрэмле-е-ную галавою... пад

крыгаю лёду. Самагубца... была... нежывою, трымаўшы смяртэльнае раненне галавы аб востры руб ільдзіны... Ахвяра адзе-э-та ў пано-а-шанае дэмісезоннае-э палі-то-а... з чорнага драпа, у таннай велюравай пастэрцы... На нагах жоўтыя... пакрыўленыя мэ-эшты на шэ-э-рых фільдэкосавых панчохах... Шарсцяна-а-я малі-ы-навага колеру спадніца... і мадапала-а-мавая... у палоску блузка дапамінаюць пра беднае пахаджэ-е-нне самагубцы... Ся-а-род знойдзе-а-ных пры ёй рэ-э-чаў выяўлены паралез з трыма рублямі дробязі... і жоўты білет, які сведчыць... за во-о-льныя паводзіны дзяўчыны... Пры-і-э-дзіцца... дагадвацца, што дзяўчы-і-на, імем Гэля Сідарава Пералаз... родам з мястэчка Сілцы — стала ахвярай прыкрага выпадку... Дале-э-йшае дазна-а-нне... паўней выявіць пры-і-чыны гэтага»...

— І вы нічога не ведалі пра яе намеры? — абурана запытаў Рыгор у гаспадыні.

— Няўжо я вам хлушу, малады чалавек? Запытайце, калі не верыце, яе таварышак. Пайшла, як заўсёды хадзіла з кватэры, і хоць бы па настрої відаць было, што ліхамыснае — барані божа... Шурка! — аклікнула рэзкім голасам гаспадыня і адсунула дзверы.

У пакой убегла светлая бландзінка з разбэрсанымі на плячах завілымі касамі. Угледзеўшы Рыгора, яна роблена засмяялася і недвухзначна мірганула сінімі бліскучымі ад атрапіну вачыма.

— Ты памятаеш, калі Гэля апошні раз выходзіла ў горад? — наводна запытала гаспадыня.

Дзяўчына ўмомант перамяніла настрой, зрабілася нерухомай і баязлівай ды ўпаўголас адказала:

— Бедная Гэлінька, яна была тады сама не свая...

— Лжэш, блядзюшка,— тупнула нагою азвярэлае чудзішча ў асобе гаспадыні.— Ды цябе ж, здаецца, і не было тады, а смее...

— Так гэта вы збяёдавалі маладое жыццё...

Рыгор злосна страсянуў стаяўшую пад рукою фатэлю і, абураны нечаканаю весткаю пра Гэліна самагубства, выйшаў з гаспадынінага пакоя.

Цёмны калідор узбіў яго на якіясьці куфэркі, і ён уголас вылаяўся па адрасе гаспадыні.

Ужо ён мацаў клямкі ў дзверах, як да яго данёсся глухаваты вокліч:

— На адну хвілінку!

Ён адвярнуўся ў цем калідора і ў гэты ж момант пачуў дакненне да рукі шамкага лістка паперы.

— Відаць — гэты ліст вам ад Гэлі? — праказала цішком выкліканая гаспадыняй бландзінка.

Рыгор схамянуўся ад абдаўшага яго жалю, порстка выхапіў з халоднае рукі дзяўчыны ліст і, безумоўна, шпунтам вылецеў за дзверы. Без озірку прайшоў ён вузкі двор, выйшаў на вуліцу і ўподбежкі накіраваў да трамвайнае спынкі. У левай руцэ, запхнутай у кішэню, ён трымаў перададзены яму ліст.

Гэлін вобраз міргаў у яго ваччу, жорнамі ціснучы на раскалыханае сэрца. Дапушчальны змест ліста перабіваў усе іншыя думкі, падбіваў заўвагу да ўсяго акаляючага.

Не заўважыў Рыгор і раптоўнага з'яўлення перад ім Артура Цвібеля.

— Ты адкуль гэта, калега? — гучна прамовіў той, стукнуўшы па плячы Рыгора.— Ці не ад Ганны толькі?

Рыгор здзіўлена паглядзеў на Артура і нічога не адказаў на яго запытанне.

— Не пазнаеш? — перапытаў Рыгора Артур.

— Ах! Даруй, я зусім ашаламіўся...

— Чаго? Шкадуеш Ганны?

— Ганны? — трывожна перапытаў Рыгор.

— Так. А ты ж часамі не ад яе?

— Не-э. І з ёю нядобрае што?

Смяшок, прайшоўшы па здаровым круглым твары Артура, крыху супакоіў Рыгора.

— Як табе сказаць... Хто як глядзіць...

— У чым справа?

— А ты ж хіба не ведаеш, што яна памянула цябе добрым словам і...

— І што?

— І стала вернай жонкай Лукі Дарафеіча. Ха-ха-ха! Вось табе нумарок... Не чуў? Ба-абы-ы! Ды і ты падкачаў, браце. Можна сказаць — з-пад рук выпусціў гэткую дзяўчыну.

Паведамленне Артура Цвібеля, як яно не было знянацкім, не зрабіла на Рыгора моцнага ўражання. Трагедыя Гэлі прытупіла яго пачуцці, і ў іх не знайшлося належнага водгуку на свежую, далёка не прыемную навіну. Тым не меней, Рыгор не выпусціў гэтага з-пад увагі і яшчэ болей ацяжыў сум свайго настрою.

— Ха-ха-ха! Што ў цябе за настрой. Упершыню сустракаю. Не хочаш, а трэба смяяцца. Кінь жа, калі сапраўды!

Артур бачыў, што яго рэзвасць не ўплывае на Рыгора, і гэта яго занепакоіла.

— Ты сапраўды, як я бачу?..

Пад'ехаўшы трамвай не дазволіў Рыгору адказаць. Яны развіталіся і рассталіся.

# *Квадра IV*
# ЧЫРВОНЫЯ ЗАРНІЦЫ

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I

Зацягласць вайны на зіму крута мяняла грамадскія настроі ў сталіцы. Дзе падзеліся яшчэ незабытыя, задзёрыстыя, ганарлівыя разважанні на тэму пра паход на Берлін, пра ўзяцце Дарданел. Знікла пустая пахвальба вялікасцю і пераможнасцю расійскага войска. Усё часцей ды часцей вынікалі хлуслівыя паведамленні аб хуткім банкроцтве немцаў. Час ад часу ўздымалася мусіраванне цёмных, невыразных чутак пра мір.

Уцеха перамогаю над туркамі нацягвалася кампенсацыяй за агромністыя страты на вайне. Струмень бульварнае чарнасотніцкае літаратуры ў выданні «Нового Времени», бутафорнасць патрыятычных канцэртаў расплываліся ва ўсё ўзрастаючых недахопах. Уздым дарагоўлі на хлеб, на соль, на мяса, недастачы цёплага адзення на франтах, пошасныя хваробы ад недаядання арміі, ад яе раздзетасці прарочылі ліхое ды нядобрае. Часцей і больш упэўнена пачаліся чуцца крытычныя галасы наконт непарадкаў у вайсковых сферах. Непадгатаванасць да зімовае кампаніі выразна вылазіла наповерх падзей, пагражаючы іх паваротам у дрэнны бок. Секвестрацыя маёмасці нямецкіх грамадзян, забарона опер Вагнера, выяўленні змены Мясаедава не маглі апраўдаць страшэннага згубства войска і разору краіны. Мільёны забітых немцаў і аўстрыякаў хавалі пад сабою не меншыя лічбы страт

з расійскага боку. Вердэн і Лувен на заходнім фронце, Перамышль і Асавец — на ўсходнім. Атакі і кравалітныя бойкі вяшчалі штосьці страшнае наперадзе.

Жыццё цалкам, ва ўсіх сваіх разнастайных праявах, паддавалася ўплыву вайны. Ад вайны залежала доля мільёнаў людзей, з вайною былі звязаны жаданні і імкненні любое адзінкі ваюючай краіны. Вайна ўваходзіла ў звычайнае з'явішча, але гэта далёка не ўсцішала людскога хвалявання.

Сталіца і губернскія гарады памагалі гэтаму несупынным павелічэннем раненых, мабілізаваных. Дэфіляванне вуліцамі грамад, сагнаных з вёсак, з мястэчак людзей, перавозка гармат і прыпасаў, праезд кавалерыі — дапаміналі пра нескончоную крывавую завіруху.

У ваччу зелянілася хакі. Яго бледа-зялёны колер, які выглядаў з вокан магазінаў, з плеч вялікае колькасці мужчынскага насельніцтва, каламуціў святло сонца і белізну снегу.

Жалеза і кроў — напаўнялі згушчанае паветра. Разгойданыя нервы радзілі міжлюдскую злосць, нянавісць, жывёльнае драпежнае пачуццё. Кавалкі людзей, падапёртыя кастылямі і цурубалкамі, павязаныя марляю і адзетыя ў шкураныя, рыпучыя пратэзы,— пеніліся агідаю на жывых і здаровых. Абыдзены фронтам, з свайго боку, нядбала, агідна пазіраў на быўшых людзей.

Абжырэлыя, з выпучанымі на аршын грудзьмі, ваяўніча пракладвалі сабе дарогу тылавыя афіцэры, чыноўнікі, земгусары. Над імі — неба, пад імі — смецце. Вазніца аб'язджаў яго на дарозе, трамвайны важаты спыняў на ўсім ходу трамвай, бачачы ківок яго пальца. Бліскучыя святлом рэстараны падсцілалі ім белыя сурвэты, ставілі букеты красак, увіваліся дзесяткамі пакорлівых, паслухмяных кельнераў.

Вайна — як эпоха, правіла жыццём. Яна віхрыла людскі натоўп, як парушынкі, разносіла скаргі, як вадзяныя плюхі. Вайна, як эпоха, гайдала долю мільёнаў, зрываючы іх з месца і ганяючы па спустошаных прасторах.

Дзе яе канец?

Няўжо, сапраўды, Вільгельм просіць згоду ў бельгійскага караля? Дык чаму ж той, упарты і агідны, адказваецца пайсці на яго?

У Берліне не хапае ежы — стаіць агульнае нездавальненне вайною. Дык чаму ж нямецкае войска з гэткаю ўпартасцю вядзе наступ на ўсіх франтах?

Расійскае войска ідзе на Эрзерум. Туркаў чакае пагібель. Дзе яна, чаму яна не прыносіць разам з гэтым пагібелі ўсёй вайне? Усюды і ўсе чакаюць міру, чакаюць той хвіліны, калі змоўкнуць стрэлы гармат і незлічоныя цягнікі пакінуць падвозіць сотні тысяч раненых.

І разам з тым, усе бязвольны наблізіць той час. У чым захавана вось гэта супярэчнасць? Якія законы давяць на волю мільёнаў, не дазваляючы ёй разварушыцца? Няўжо вайна вышэйшы закон?

Насустрач прыгожай вясне вытырклі прагныя дулы гармат, бліскучыя лозы штыкоў і пік. Пад сіні лазурак неба імкнуцца хмары дыму ад пажараў, з комінаў фабрык ды заводаў, дзе куюцца снарады, зброя, атрутныя газы. Чырвоныя пырскі крыві звільжаюць вызвеўшыя купіны зямлі. Там, пад верхнім слоем размочанага пяску, насенне валошкі, пралескі, кукалю. Няўжо на іх крохкім храстку стане падкованы абсац і расцісне кволыя валаконцы прыгожых кра[illegible]чак?

Вясна, ядраная, з залацістымі сувоямі шаўкавістага прамення, гудзе струменямі бурлівае вады, благаславіць зямлю нябескаю красою неабмернага блакіту.

На вясну надзеі.

Навошта каму той Берлін, тая Вена, Будапешт і Канстанцінопаль?

Замірэння — згоды!

Годзе драпежніцтва!

Гэта выразна напісана на тварах тысяч прахожых, занятых працаю.

Абыякавасць?

Так, яно не паддаецца ўжо награванню адцягненымі, фальшывымі абяцанкамі. Зіма паказала, што ў ёй хаваецца. Вясна — рашыць!

Вясна рашыць!

Рыгору хацелася гэтага, але ён не быў упэўнены, што гэта здарыцца. Нечуваны размах вайны, захапіўшы у сваё ўлонне дзесяткі краін, мільённыя арміі, азвярэнне людзей — не казалі ў карысць яго хацення. Клубок несупынна блытаўся, рос вузел на вузлу — без канца, без меры.

Разам падвышалася напружанасць пачуцця. Цяжка рабілася, губляючыся ў няведанні наступнага.

Але раздумы на гэту тэму не аблягчалі становішча. Наадварот, яны ўдубальтоўвалі яго цяжкасць. Прыходзілася спыняцца на апошнім — калі-небудзь ды вайна скончыцца. Не будзе ж яна бясконцай?

Кожны раз, адцягваючыся ў думках ад вайны, Рыгор у яе аспекце разглядаў сваё ўласнае жыццё. Нельга было сказаць, каб ён цалкам залежаў ад паваротаў вайны, усё ж яна клала на ім свой адбітак. Прымацаваны мілітарызацыяй да завода, Рыгор адчуваў усё, што з гэтага выплывала, і не мог не браць яго пад увагу.

Дзень у дзень перад ім паўставаў сівабароды дзядзька са Знаменскай вуліцы; пакорліва разнятыя сінія губы не пакідалі шавяліцца, пагрозныя, пякучыя словы выкладалі балючы змест страшэнных падзей. Яны абнімалі Рыгораву істоту, ціснулі на яе і не давалі супакою. Вайна разбурае цэлыя краіны, зганяе з месца сотні тысяч працоўных людзей. Колькі іх разышлося па белым свеце! А колькі яшчэ на чарзе!

Праз усю зіму — вайна не сціхае. Як страшэнная тузаніна, яна пазменна калыша мільёнамі, давіць і ціснe на зямлю і на людзей. Кожнадзённыя весткі не спыняюць казаць пра ўпартае пасуванне нямецкай арміі на ўсход. Нямецкая армія націскае — расійская адступае, ці наадварот — а мірныя вёскі і мястэчкі няшчадна расціскаюцца пад тоўстымі шынамі гармат, пад конскімі капытамі, пад абсацамі тысячных грамад пехацінцаў.

Вайна цягнецца — і не спыняецца бежанства. Хто яго ведае, у які момант падыдзе чарга да Сілцоў. Газеты праўды не пішуць — стаўка захоўвае непрыемныя для Расіі навіны. Ці ж не адмячаў Рыгор многаразовыя няўвязкі ў разгортванні планавага манеўру абароны? Ці не знянацкам было заняцце немцамі Лодзі, іх раптоўнае з'яўленне пад Асаўцом і ў Сувалкшчыне? Не заўтра, паслязаўтра прарвецца данясенне пра страту Гародні, пра падыход немцаў да Нёмана. Гэта ж усё згон мірнага жыхарства, гэта ж усё новыя тысячы ўцекачоў.

Вось-вось у іх ліку апыніцца яго маці, Сёмка з бацькамі і жонкаю, Зося і дзесяткі яшчэ не згладжаных у памяці сілцоўцаў. У адзін ліхі момант зрушацца яны

з месца і, як бяздомнікі, рассыплюцца па заснежаных дарогаах. Апусцеюць сілцоўскія вуліцы; парожнімі застануцца будынкі; будзе рэхам аддавацца ў пустых хатах стукат конскіх капытоў, рэдкія стрэлы гармат ды вінтовак. Пасля бесспагадная рука запаліць пук саломы, уваткне ў рагавую хату ў бок ветру і пусціць агнём векавую, працоўную ашчаднасць сілцоўцаў. Голымі комінамі глядзецьмуць абгарэлыя печы, сатруцца лініі вуліц і дзікая крапіва забуяе густымі зараснямі. Вецер завірухі — стане адгалоскам жніўных і вясельных песень сілцоўскае моладзі.

А дзе прыпыняцца тыя, што пакінуць Сілцы? У Пецярбурзе на голым бруку халодных вуліц? Ці пад пякучым пяском Туркестана? Сярод роўнага гасцінца ў запушчаных палетках ці пад скаржэлымі кустамі ядлоўцу?

Ужо месяц з лішнім, як Рыгор без жаднае весткі з Сілцоў. Бадай што маці ў дарозе. «Людзі рыхтуюцца да ўцёку» — то было яшчэ з восені. А зараз, на весну, напэўна, падрыхтаваліся.

Рушылі ці чакаюць?

## II

Сумны, абкураны будынак завода. На чыгунных варотах агромністая завала. За варотамі шаламлівая стукатня.

Ці то страляніна?

Хтосьці пераскаквае высачэзны паркан і паднімае над вуліцай разгорнуты сцяг.

Пяе?

Кліча на падмогу?

Вакол — ні душы.

Але раптам вырастае чалавек. Махае рукамі, і тысячы людзей вышываюцца з куткоў, са шчылінак, з патаемных сховаў — і натоўп. Усё дрыжыць ад яго бурлівага тупату, ад яго зычных песень і гукаў. Чалавек з рабрыны паркана падае ў паднятыя рукі з грамады. Сцяг, як агромністае чырвонае палатно, атуляе тысячы раз'юшаных асоб. Яны хаваюцца ў ім, як у хустачцы штукара, гінуць.

І там, дзе кішэла зямля бурлівым натоўпам,— раптам стройныя, халодныя шэрагі войска. Бліскучыя палосы штыкоў, гузікі, як запаленыя свечкі.

Уміг — вінтоўкі на перавагу і штыкі ў воблаках дыму...

Далей — шэрая павуціна невыразнасці...

Што гэта — дзевятае студзеня ці Першага мая?..

У Рыгоравым пакоі не месціцца хваля бліскучага променя сонца. Залацяцца вокны, партрэткі на сценах, буфет. Алюмініевая спінка ложка палажыла на Рыгоравым твары сярэбраную лінейку. Здаровыя шчокі п'юць жывільнае цяпло, што коўзае па белым моху непрыкметных валаскоў.

За акном несціханае шамаценне ні то надазойлівай кошкі, ні то прыляцеўшай сініцы.

У кватэры ціха. Сарафіна Хлораўна тупае ў бавоўняных пантофлях па свежапасланых дарожках.

А як жа з кватэрай? Рыгор спацьме ці хутка прачнецца і пойдзе па справах?

Возьме ды забудзе замкнуць. Хіба ключ палажыць на пліце, на белым полі памытай кафлі — угледзіць. Каля ключа — ліст.

Ды няўжо ж такі ён спіць яшчэ, сапраўды? Ужо ж пайшло на адзінаццатую. Бесклапотны які. Нядбайны. Сварлівы і гнеўны. Няўжо і калі спіць — ён той жа? Ха-ха-ха! Незачэпа, ой, ой, незачэпа! Задзіра.

Сарафіна Хлораўна кідае на крэсла пачышчаны сак, астаўляе пастэрку на круглым століку ў кутку пакоя, а ліст камечыць у руках і на пальчыках падыходзіць да дзвярэй Рыгоравага пакоя.

Мнецца нафуфыраная прычоска, вуха шчыльна прыстае да нагрэтых вушакоў у дзвярах. «Спіць, як пшаніцу прадаўшы! Ха-хі-хэ! Што значыць маладосць і сіла. Глянуць? Пэўна, выпрастаўшыся, як рыцар, мужны і горды?»

Сарафініна рука варушыць руб дзвярэй, і палец украдчыва пралазіць у вузкую шчылінку. Патуга — і каснік залацістага святла слепіць яе правае прышчуранае вока. Яшчэ націск, і Рыгорава постаць выразнымі рысамі прыцягае гаспадынін прагны ўзрок. Задзёр пхае кабеціны ногі за парог, і скрадныя крокі адмяраюць адгон ад дзвярэй да прыстаўленага да ўзгалоўя крэсла...

Праз хвілю нячутнымі рухамі яна адступае назад, апусціўшы з вока сіні канверт ліста і прыліпшы ўзрокам да ружовага, квітучага твару Рыгора.

«Чуе?»

«Які слаўны!»

Сарафіна Хлораўна стуляе нафарбаваныя губы, прытульвае да свае наадэкалоненай рукі і цмокае. Следам крута зрываецца з месца і, забыўшы асцярогу, выбягае з Рыгоравага пакоя.

Дзверы стукаюць аб вушак і будзяць Рыгора.

— Хто там? — запытаў ён, расплюшчыўшы вочы.

Адказу не пачулася — Сарафіна Хлораўна спускалася са сходаў у двор.

Рыгор працягнуў руку да кніжкі на крэсле. Рука абмацала пісьмо.

«Ага, то Сарафіна Хлораўна»...

«Маці?»

Яшчэ збіраецца і, значыць, напэўна, паведамляе сына... Пакутніца.

Машынальна перад Рыгоравымі вачыма паўстаў маленькі кавалачак спісанай паперы.

Сёмкаў характар?

Ён. Маці трывожыцца — вясна нясе страшныя весткі.

Сілцы паступова пусцеюць і яшчэ больш наганяюць спалоху. Сёмка суцяшае Стэпу. Які верны таварыш, што за чулая душа!..

Забілі старшыню Андрэя?

Цікава! Уначы, па дарозе да ўрадніка — двума рэвальвернымі стрэламі. Забойцы схованы сляды!

Хто б то мог гэта зрабіць?

Думаю, што гэта простыя зладзеі з дэзерціраў, якіх за апошні час поўна аколіца...

З перапуду грамніцамі пакінулі Сілцы Хлор Бераг з сям'ёю і Дзямян Квіта — накіравалі на Смаленшчыну. Спешна рыхтуюцца ў дарогу і Прыдатныя.

Васіль Бераг дзень на дзень чакае мабілізацыі.

Але цікавей усяго — да Сідара Пералаза дайшлі дрэнныя чуткі пра Гэлю...

«Ці не чуў пра яе, сынок?»

Сідарыха несуцешна плача, а Сідар мерыцца ехаць у Пецярбург. «Пішы часцей, Рыгорка. Твая маці — Стэпа».

Рыгор адлажыў ліст і хвілін з дзесяць праляжаў ціхутка і непарушна, раздумоўваючы. Пасля раптам падняўся і кінуўся да стала, дзе на відным месцы, разгорнутай, ляжала Гэліна запіска. Няроўныя радкі Гэлінага характару выказвалі роспачныя думкі дзяўчыны.

«Можа, я раблю вялікі праступак перад людзьмі,

што жывасілам гублю сваё жыццё. Я адзнаю, што мой намер ідзе вострa насупроць вымагання жыцця. Якніяк, а я складаю, хоць і незаўважную, а ўсё ж неад'емную часціну людскога калектыву. Ну, іначай зрабіць не магу. Для грамады я бескарысна і непатрэбна, для сябе — вораг. Я — балячка на здаровым целе і мушу стаць адплатаю за сваю няздольнасць захаваць сябе здаровай і годнай на карысную справу. Цяжка і позна разбірацца мне ў тым, хто не адгукнуўся на мае надзеі і праз гэта пасобіў росквіту няве'я ў дадатнасць майго існавання. Позна і дарэмна. Мне болей не вярнуцца да таго пункта, ад якога я строма пакацілася ўніз. Мне страшна і нявытрымана стала тады, калі я стрэлася з табою. Мая баязлівасць застаўляла табе схлусіць пра камітэт і пра спектакль; тая ж баязлівасць не дазволіла мне адмовіцца ад тваіх турбот адшукаць мне службу. Ды не толькі гэта — не. Я ўжо тады адчувала сваю няздатнасць да творчае працы, сваю лішніцу ў жыцці, якое ашукала мяне. Але, прызнаюся табе, Рыгор, што і тады і зараз вось успамінаю пра Петруся. Я, не думай таго, і няхай ён не думае, спатыкала яго з невядомай мне дзяўчынай, зазірнула ад шчырага сэрца ў яго сарамлівыя вочы — ды не знайшла спагады. Бач, мне непатрэбна было жаднага спачування, я незалежны ад нікога чалавек, ну, і ў яго людскасці не хапіла ні на макава зерня. Я адышлася і сплюнула, але сэрца маё балюча ёкнула. Мне стала цяжэй і безнадзейней. Тады да мяне падышло бліскучае рашэнне — кінуць жыццю ўкорны папрок — ахвяраю сябе. Я не хацела сумнявацца ў правовасці гэтага і баялася, моцна баялася, каб мяне не падсцерагло сумненне... Скора буду ў дарозе. Цвёрдымі крокамі я накіроўваюся да астатняй станцыі... Даруй за ўсё, але не думай, што дарма на гэта іду. Другія шляхі мне загароджаны. Уклон Петрусю і... можа бацькам.— Гэля».

Глыбіня Гэлінай трагедыі — нязмерна. Рыгор яшчэ ясней уявіў гэта менавіта цяпер. Яна не давала яму супакоіцца, не дазваляла апраўдацца. Ён дагадваўся, што чаўпецца ў Гэлінай сям'і; яе ж так моцна любілі і шанавалі, так ганарыліся ёю і раптам...

Рыгор увесь задрыжаў ад злосці, адлажыў Гэлін ліст і безабдумана, нервова хапіўся за адзенне. У яго руках хутка завярцеліся сарочка, камізэлька, жакетка, паліто. І следам стук дзвярэй правёў яго на сходы.

Без намеру і без абдуму ён выйшаў на вуліцу і паскораным крокам пайшоў напрамкам да клінікі Вілліе.

Сустрэў бы хто Рыгора ў гэтым момант і запрапанаваў бы яму што-колечы блазнае, нязбыўнае — ён кінуўся б на яго з засосам, самааддана. Але на адгоне каля двух кіламетраў яго не толькі ніхто не пераняў, а нават не збіў яму дарогі і не даў жаднага намёку на перашкоду яго роўнай, адшнураванай хадзе.

На скрыжаванні трамвайных шляхоў яксьці саматугам, мімавольна кінулася яму ў галаву выпадковая думка паехаць у Народны дом — не на драму, не на оперу, нават не на крыклівае, пустазвоннае кабарэ, а ў тысячную гушчу гуляючай публікі, у яе тлум, гам, бязмэтнае таптанне.

Сеўшы ў вагон трамвая — ён ужо быў непарыўна звязаны сваім планам, які вырас у нешта завабнае ды заспакойваючае. А чым бліжэй да Народнага дома, тым гэты план рабіўся шырэйшым і багацейшым па сваім змесце. Народны дом глядзеў на яго смачнымі піражкамі з кавай, бесклапотным смехам тысяч дзяўчат і хлапцоў, буйнымі шансамі разнастайных выпадкаў, здарэнняў ды нечаканасцей...

Празрыстыя рэкламы пры ўваходзе ў Дом шыдка выпхнулі Рыгора з трамвая і магнетам пацягнулі яго да дзвярэй, якія несціхана, як вяртушка, круціліся перад ім. Рыгор не апамятаўся, як халодная медная ручка, таўшчынёю з цапідла, апякла яго руку халадэчай. Хтосьць, што ішоў заднім, пасобіў швыдчэй адцягнуць на сябе цяжкую фортку дубовых дзвярэй, пасля моцна цісканеў яго і перадтурнікетны натоўп увабраў Рыгора ў сябе.

— Праходзьце хутчэй! — прагукнуў ён наперад.

Яго словы засталіся без адказу. Ды фактычна іх ніхто і не пачуў з-за раптам узнятага крыку.

— У чым справа? — запытаў хтосьці поплеч Рыгора.

— Інваліда павалілі, сто-ой-це-э! — пачуўся адказ, і новы націск адпіхнуў людзей. Але тыя, што іх прыціснулі да дзвярэй, дружным напорам павярнулі людскую хвалю наперад. Пачуўся гучны стук, і Рыгор на паветры пранёсся праз турнікі ў залу.

— Вось дык здарава! — пасмяяўся з яго хтосьці ззаду.

— Так! — абярнуўся ён на хаду да сказаўшага гэта і раптам спыніўся.

— Дык гэта ж вы, Ліба? У гэткай таўханіне, матачкі! — здзівіўся Рыгор.

Даруйце мне, што я дагэтуль не сабралася да вас. Ужо гэтымі днямі — абавязкова...— успомніла Ліба пра ранейшае.

— Пройдзем да буфета, Ліба. Я, прызнацца, яшчэ сёння нашча.

— Нашча? Гэта з якое прычыны?

— Або іх пералічыш?

Яны павярнулі да буфета, паціху і асцярожна рассоўваючы публіку, каб даць магчымасць прайсці раненым.

Трох іх, адзін на мыліцах з дзвюма баўтушкамі — нагамі, другі без рукі, трэці з павязанаю галавою, моўчкі ішлі між ім ды Лібаю. Раненыя пільна паглядалі на Рыгора.

Усеўшыся пры малюпаткім мармуравым століку, Рыгор заказаў піражкоў і па шклянцы кавы. Яго гасціннасць кранула раненых, якія ўперабой пачалі апісваць Рыгору перажытыя імі жахі вайны.

— Хутчэй бы як-колечы на родную Кубань. Прыехала б у госці, сястрыца, ды мо з гэтым добрым чалавекам,— з поўным палу жаданнем, але без веры, праказаў той, хто быў на мыліцах, з вялікімі цяжкасцямі прысеўшы на крэсле.

— А я ўжо сястры прышлю мелітопальскую мядзяніцу... Пахучую, як воск!.. Ха-ха-ха!..

Ліба цёпла ўхмылялася абодвум марнікам і спачуваюча ўздыхнула.

— Так, мы ўсе тут — нудзім па радзіме ды па блізкіх, але...

Ліба не дасказала.

— Толькі ў адных больш шансаў на зварот, а ў другіх іх меней...

— Некаторым не суджана вярнуцца зусім. І не таму, што ім папярашкодзіла вайна, а таму, што... Вы помніце, Ліба, тую дзяўчыну, якой кідалі кветкі на сцэну ў смагінскай пажарнай?

— Як бо не знаць? О, яна выразна адбілася ў маёй памяці...

— Яе ўжо няма.

— Што вы кажаце? Го-ох! — хапілася Ліба за белую касынку на галаве: — як гэта хутка!

Рыгор мігам падняўся з месца і адышоў ад стала.

— Я вас чакаю, Ліба, і прашу! — стараючыся перакрычаць гукі смеху, выкрыкнуў ён праз галовы раненых і ўмомант знік у натоўпе гуляючых.

## III

Кароценькі рэзвы чалавек зачыніў непрычыненыя дзверы і нездаволена вылаяўся.

— Не навучыць іх да парадку. І што гэта за людзі! Каб чужое, а то свайго не хочуць ушанаваць. Прыказваеш, гаворыш, а яны па-свойму.

Ён адкруціў святло, гаспадарскім озіркам правёў направа і налева па калідоры і прайшоў у канцылярыю.

За шырокім сталом, пастаўленым у рагу нелапога пакоя, сядзела некалькі чалавек. Яны паспелі ўжо добра пракурыць канцылярыю, уклаўшы ў попельніцу каля дзесяці акуркаў. Курава ішло далей, агортваючы дымам дзве трыццацісвячовыя лямпачкі пад столлю.

— Ты што ж гэта пазніўся, Броніcь? — жартаўліва праказаў адзін з тых, што сядзелі пры стале.— Мы ўжо добрую гадзіну чакаем.

— Прабачце мне, але ж я не па сваёй віне; забягаў у тацянінскі камітэт. Дык халеры гэтага, распарадчыка справамі, не злавіў. Выклікалі на сёмую гадзіну, а прыйшоў — пуста. Якая тлумная ўстанова! Абрыдла ўжо мець з ёю жадныя справы...

Ён круцёлкаю завіўся па канцылярыі, зашморгаў ключамі ў шуфлядах пісьмовага стала, што стаяў наўскасяк пустога, залез у шафу і навыцягваў гару сініх ды зялёных спраў.

— Усё ўрыўкамі даводзіцца вясці работу. Дзевяць гадзін сохнеш на службе, не паспееш павячэраць, як барджэй ляціш сюды. Неяк хочацца, каб што-кольвечы зрабіць, каб дапамагчы людзям. Бяда. Жабрачыя сродкі, а няшчасных — гой, гой.

Кароценькі чалавек у морг вока залажыў пусты стол паперамі, бухгалтарскімі кніжкамі, нейкімі пакункамі і скрынкамі з мастыкай ды пячаткамі і вылецеў з канцылярыі. Услед яму панёсся вясёлы рогат.

— Золата, не чалавек,— праказаў адзін, паказваючы пальцам на дзверы.— Каб не Броніся, хоць бяры ды зачыняй камітэт. Працуе на сумленне. Увесь час, вось, так і круціцца і бегае.

— Яму б, на добры лад, трэба было вызначыць якіх рублёў дваццатак за турбацыю,— сур'ёзна выказаўся другі.

Першы раптам падняўся з месца і здзівавана пачаў даводзіць, што Броніс і слухаць не захоча пра ўзнагароду за сваю працу.

— Ну, так жа не можна, мы мусім яго ўгаварыць на гэта. Я сам унясу прапанову.

Кароценькі чалавек, вярнуўшыся ў канцылярыю, перабіў гутарку прысутных.

— Скардзяцца жыльцы на недахоп ежы,— загутарыў ён.— Ну, што ж я зраблю! Колькі хапае магчымасці. Я ж не шкадую. Сапраўды ж яны маюць рацыю скардзіцца, толькі ж мы без моцы пасабіць... Можа, пачнем засядаць? — запытаўся ён і тут жа адказаў: — Нешта многіх няма. Але ўжо позна, а павестка...

— Усёй, безумоўна, нам не вырашыць у адзін засест.

— Важней усяго агародную справу вырашыць, а далей... Дык давайце, мужчыны, пачынаць.

Кароценькі чалавек сеў насупраць чатырох і іншых і пачаў разгортваць план арганізацыі народнае гаспадаркі камітэта. Згодна з яго планам, бежанскі камітэт павінен узяць дваццаць дзесяцін зямлі на скачках і абярнуць яе ў гароды. Апошнія мусяць апрацоўвацца сіламі камітэцкіх утрыманцаў.

План у сваёй аснове выклікаў спачуванне, але зусім нязначныя дробязі яго ажыццяўлення пацягнулі за сабою буру спрэчак. Відаць было, што апошнія нервавалі ініцыятара плана, і той, выйшаўшы са сцерпу, падняўся з месца і злосна прагукаў:

— На гэтай дробязі і то не можам пагадзіцца. Ды дзіва, што мы чаго буйнага не ўмеем зрабіць. Калі ласка, вырашайце самі, а я...

Яго перабіў уваход у канцылярыю незнаёмага вяскоўца, на выгляд бежанца, у кажуху, лапцях ды з кіем у руцэ. Зняўшы шапку ў дзвярах, ён не пасмеў першым выказацца, чуючы галасную гутарку кароценькага чалавека. Калі засядаўшыя, як згаворана, усе разам паглядзелі на ўвайшоўшага, той запытаў іх:

— Скажэце, будзьце ласкавы, ці сярод вас няма часам Рыгора Нязвычнага?

— Не,— адказаў кароценькі чалавек.— А гэта ж чаму вы яго тут шукаеце?

Вясковец памяўся нейкі час, пасля разгорнена сказаў:

— Ды дзе ж, мае мілыя, мне яго шукаць? Пецярбург для мяне горад чужы і невядомы. Куды мне ткнуцца ў гэткім разе? Дзякуй яму, якісьці добры чалавек падказаў на вашу ўстанову.

— А вы ж зачым, дзядзька, прыехалі ў Пецярбург? Бежанец, ці проста па справах?

— Па справах... Ох, ды справы, бач, гарэйшыя нат ад бежанскіх...

У вяскоўца заблішчалі ў ваччу слёзы. Гутарыўшыя з ім бачылі, як ён паднёс да іх лапленую рукавіцу і пачаў выціраць слёзы.

— У чым жа справа, дзядзька? — ласкавейшым голасам запытаў Броніcь і падышоў да вяскоўца.

— Не расказаць, добры чалавек... Цяжка мне, бацьку, ой, як цяжка і горна... Знача Рыгора тут няма?

— Зайдзеце, пачакайце крыху ў суседнім пакоі — мы якраз яго чакаем на пасяджэнне. Магчыма, што і прыйдзе, а не — дык я вам знайду яго адрас... Няшчасце, пэўна, маеце?

Кароценькі чалавек папрасіў засядаўшых хвілінку пачакаць, а сам павёў вяскоўца ў суседнюю каморку.

— І начаваць я не ведацьму дзе, калі запозніцца ён... Хоць бы...

— Нічога, дзядзька, усё ўладзім... Вось бярэце-э крэсла і пасядзеце, а мы зараз...

Якраз пачуўся званок, і кароценькі чалавек кінуўся да дзвярэй.

— Ага-а! Вось дык трапна-а! — прагукаў ён Рыгору, які пераступаў парог.— А мы вас дагэтуль чакалі... Мне так хацелася, каб вы прынялі ўдзел у нашым камітэце, што я... Вы атрымалі, бок, маё паведамленне? Я, паверыце, ехаць меўся па вас, толькі, на яго бяду, тацянінскі камітэт папярашкодзіў... Ой жа, добра, што прыехалі. Нас жа так мала і мы... Праходзьце — распранецеся ў канцылярыі. Прашу...

Кароценькі чалавек з падкрэсленаю гасціннасцю, якая падкупала Рыгора, адчыніў дзверы і прапусціў яго першым. Але Рыгор не паспеў пераступіць у кан-

цылярыю, як кароценькі чалавек яго перапыніў воклічам:

— Ага, бок, убачайце-э... Вось тут чакае вас адзін селянін, во...

Рыгор забыў прывітацца з тымі, што засядалі за сталом, і крута павярнуў з канцылярыі.

У гэты момант ужо бег да яго з суседняе каморкі ўспомнены Бронісем чалавек.

— Рыгор-а! Здароў, браце-э! Не пазнаеш? Сідар Пералаз, Гэлін бацька?!

Рыгор ажно падаўся на крок назад, і нечаканасць стрэчы яго збянтэжыла. Ён здзіўлена азірнуўся на кароценькага чалавека, следам узяў селяніна за руку і нейкі час не ведаў, як быць.

— Прабачайце мне, я ўжо не магу прыняць удзелу ў вашым пасяджэнні,— перапрасіў Рыгор Броніся: — я буду прасіць дазволу з гэтым дзядзькам...

Кароценькі чалавек даў Рыгору дасказаць і з тою ж, ужыўнаю сабе гасціннасцю, прачыніў дзверы ў пакой, куды толькі што памясціў селяніна.

— Шкада, ды што зрабіць... Вы ўжо абмяркоўвайце свае справы, а я пабягу канчаць пасяджэнне,— праказаў ён на хаду.

Кароценькі чалавек схаваўся за дзвярыма канцылярыі.

Рыгор жа з Сідарам апынуліся адзін на адзін, у суседнім пакоі.

Абодва паселі пры маленькім століку і перад тым, як пачаць гутарку, пільна паглядзелі адзін на другога.

Сідара давіў востры бацькаўскі жаль, шурпатая безнадзейнасць, і ён сумна, але з нейкай няўпэўненасцю глядзеў у Рыгораў свежы настужаны да чырвані твар.

Рыгор адчуваў яго настрой і ўжо меў сабе поўнае ўяўленне пра тыя сцэны бацькаўскае мукі па згінуўшай дачцэ, якія перапаўнялі не вельмі мяккае сэрца Сідара.

«Трэба суцешыць старога ды ці выйдзе што з гэтага?»

— Справы, Рыгорка,— з націскам горкасці пачаў Сідар.— Прыехаў на вяселле да дачкі... Людзі маюць пацеху, а мы... Ласне можна было?.. Рыгорка, маё сэрца чула, дык... Паверыш, не меў сілы ўтрымаць...

А, бач, ці ж дрэнна было ёй дома?.. У гэткіх бацькоў, як мы... Але надало, надало... Некая ліхая сіла пхнула ды пхнула... Я адно, а яна другое... Упарта-а-я-а! І на табе-э... Клубком-ом, калясом па свеце-э... Дачушка-а, мілая!.. Гады ў рады пісямко, а бацькаўскае сэрца — каве-эліцца на часткі... Смагін, Ваўкавыск, Вільня... І той жаданы, той завабны... Пецярбург... Эх-эх-хэ!.. Гэля-а... Гэлечка-а!.. Бацька твой у госці-ы прыехаў... Чаму ж не прыйшла ты на вакзал?.. Такіта ж я кінуў і матку і хату... Можа, ужо за мною едзе-а маці з Кандратам, як бежанка... А ты... Рыгорка-а, ну, дзе ж, ну дзе ж мне яе пабачыць? Ну, можа ж, магіла ёсць? Ці ўжо нат і гэтага... Гэля, Гэля-а, Гэле-ач-ка-а!!.

Рыгор падняўся з месца і прайшоўся па каморцы.

Што ён мог сказаць? Чым ён мог спыніць Сідараву роспач?

— Так, дзядзька... Я і сам дагэтуль не магу супакоіцца — гэтак мяне ўразіла вестка пра Гэлін учынак... Успомню, і, ведаеце... але што ж парадзіш цяпер, што!..

Сідар бязмоўна разводзіў рукамі і безнадзейна глядзеў на Рыгора.

— Парадзь хоць бы, як мне на магілу наведаць.

Рыгор маўчаў, абдумоўваючы тыя рады, якія б можна было даць асірацеўшаму бацьку, але якія мала што дапамаглі б яго гору.

Правесці яго на Гэліну быўшую кватэру, на вочы тае праціўнае ведзьмы? Атруціць бацькавы ўспаміны паветрам заклятага вяртэпа? Кінуцца на пошукі Гэлінай магілы? Участкі, бальніцы, анатамічныя тэатры? Ці выйдзе што з гэтага?

— Дзядзька Сідар, паверыце, гэта ўжо не ў нашай сіле, што-колечы зрабіць...

— Хоць бы магілу, хоць бы месца тое ўгледзець...

Зацяжныя ўсхліпы старога Сідара перарвалі пасяджэнне бежанскага камітэта; яны пякучаю жальбою насіліся па пакоі, б'ючыся ў гладкія, нячулыя сцены, хвалюючы спагаду ў грудзях тых шасці чалавек, што стаялі перад ім.

— Гэля, дачушка-а, прыйдзі ж пабачыцца-а з бацькам...

— Вы яго суцешце і няхай ён адпачне праз ноч... Чым жа болей яму памагчы? — развёўшы рукамі, спачуваючы выказаў Броніс.

Іншыя чацвёра, хто кіўнуўшы галавою, хто махнуўшы рукою, у адзін голас парашылі:

— Плач не плач, дзядзька, а дачкі не вернеш.

Рыгор развітаўся з Сідарам і пакінуў яго аднаго...

## IV

— Ха-ха-ха! Можа, затрымалі? Глядзі на гадзіннік, Анікей!

Якаў Гіс страсянуў галавою, і пук яго чорных, хвальністых кос скатам апусціўся назад. Ён прыціснуў іх рукамі і прывычна капыльнуў доўгім роўным носам. Ангельскія вусікі яго апісалі нешта накшталт знака параграфа.

— Ці дачакаемся, глядзі?

— Цікава тое, што ён не працаваў после абеду,— паведаміў Анікей.

— Заняты нечым.

Якаў Гіс паглядзеў у люстэрка, яшчэ раз паправіў косы на галаве і хапіў са стала газету.

— Шукаеш у газеце? — пажартаваў Анікей.

— Чаго добрага, магчыма, і натраплю,— адказаў уверана Якаў Гіс.

— Клапатлівы — не ў меру. Напэўна, недзе некаму пасабляе, або...

— Другі доктар Гааз...

Абодва ўголас рассмяяліся.

— Ну, пры чым жа мы?

Якаў Гіс сарваўся з месца і прашнураваў па пакоі.

— Магчыма...— выказаў ён і настаражыўся.

— Ідзе?

Анікей прачыніў дзверы.

Да іх данеслася гутарка паміж Рыгорам і гаспадыняй.

— Нарэшце!

Рыгор невыразным узрокам спыніўся на Якаве Гісе.

— Дзівішся, што без запросін ачуўся ў тваёй абіцелі? — пераняў той.

— ...Я маю да цябе інтарэс. Інтарэс, да гэтага, пільны, а між тым, ужо каля гадзіны мы цябе чакаем. Няэваныя госці і нядбайны гаспадар...

Рыгор паспешна распрануўся і падышоў да сценкі, у якой выдзяляўся рог печы.

— Так,— пасля хвіліннае маўчанкі вымавіў ён.— Інтарэсы... Ужо гэткі інтарэс, які я меў толькі што, не пажаданы для нікога...

Ён апусціў галаву.

— У чым справа? — здзіўлена паглядзелі на яго таварышы.

— Справа?

Рыгор падышоў да стала, узяў Гэліна пісьмо і прачытаў з яго апошніх некалькі сказаў.

— Зямлячка. Дзяўчына, з якою ў мяне звязана многа агульных перажыванняў. Загінула, як аднадзённы матылёк. А зараз вось з'явіўся бацька; плача, надрываецца; пакажы яму магілу. Бедны — ён не ведае, што самагубца папала ўва універсітэцкую анатомку і там... на грудах людскіх цел у лядоўні чакае доктарскага скальпеля... Ці ж раскажаш старому? Ён хадзіў з паўдня па ўчастках, дапытваў і вось... змардаваным прыйшоў у бежанскі камітэт, а я дамоў. «Што я скажу яе мацеры?» — пытае.

— Так, што стары скажа сваёй жонцы пра загубленую дачку?

Усе ўтраіх, мэрам бы згаворана, спыніліся ў гутарцы, прыпёртыя шчыльна да зададзенага Рыгорам пытання: што стары скажа сваёй жонцы пра загубленую дачку?

— Аднак, таварышы,— перабіў Якаў Гіс: — «Мёртвый в гробе мирно спи, жизнью пользуйся живущий». Мы не сышліся на памінкі, хоць і блізкага Рыгору чалавека.

— Сапраўды,— падмацаваў Анікей.— Перад намі Першае мая і звязаныя з ім заданні.

— Вы прынеслі іх развязанне?

— Мы прыйшлі, каб абгаварыць гэта.

— Я вельмі здаволены.

Яны чынна ўселіся каля стала, як сваякі, і прыняліся за абгавор святкавання Першага мая. Рыгор хутка забыў пра мінорны настрой, справодзіўшы яго праз увесь дзень, і горача аддаўся абароне дэманстрацыйнага выступлення ў дзень рабочага свята. Ён не браў у разлік некаторых ахалоджваючых разважанняў Якава Гіса і не згаджаўся з Анікеевай арыентацыяй на іншыя мерапрыемствы.

— Дык што ж, нарэшце, па-вашаму павінна быць? — нецярпліва пытаў ён.

— Я думаю, што ваш завод знойдзе выйсце для гэтага...— невыразнаю формулаю адказаў Якаў Гіс.

— Ты заўсёды калываешся між двух крэсел, Якаў. Я прыпамінаю Рыгу, і мне яскрава відаць твая нерашучасць...

— Усё ж мы мусім улічаць розныя вынікі, якія магчымуць атрымацца ад таго ці іншага накіравання нашай тактыкі,— казаў Анікей.

— Цябе палохае студзеньская ізаляванасць?

— Да чаго гэтыя папрокі. Я ніколі не аставаўся ззаду і зараз...

— Дык пашто непатрэбныя развагі?

Якаў Гіс пачуў сябе на нейкі час выпхнутым з каляіны, па якой пайшла спрэчка паміж Рыгорам і Анікеем.

— Я думаю, што кожны з нас за плённейшыя вынікі святкавання,— унёс ён саламонаўскае рашэнне для прадстаячых і абгаворваных пытанняў.

Ні Анікей, ні Якаў не далі на гэта ніякага адказу.

Аднак у далейшых абгаворах усе трое сышліся на тым, каб увязаць форму выступлення з выяўленым на заводах перадсвятным настроем рабочых. Гэткае рашэнне, разам з тым, астудзіла выбухнуўшую навостранасць у іх гутарках. Якаў Гіс завёў мелодыю варшавянкі, а Рыгор дбайліва збегаў да гаспадыні і папрасіў у яе нагрэць гарбаты.

Паступова Рыгораў пакой напоўніўся ціхім харавым пяяннем рэвалюцыйных спеваў. Стаўшы ў колка, усе трое з рашучымі махамі рук, з рытмічным патоптваннем ног, поўныя натхнення, злівалі сваю ваяцкую рашучасць у моцных словах прызыўнае песні. Уласцівая ёй сіла ўздыму і захаплення неўпрыкмет падвышала настрой спевакоў, раздавала іх грудзі і гучніла галасы. Ужо калыханне паветра пачало біцца ў шыбы акна і прасочвацца ў шчыліну непрачыненых дзвярэй, калі моцны голас Сарафіны Хлораўны ўварваўся ў пакой і абарваў пяянне.

— Што вы, Рыгор Міхасевіч, што вы? Пад вокнамі тупаюць гарадавікі, а вы маніфестацыю развялі. Я не магу вам гэтага дазволіць, я не мушу праз вас рызыкаваць сваім спакоем, Рыгор Міхасевіч...

Расчырвоненая ні то ад злосці, ні то з перапуду гаспадыня ўбегла ў пакой, хутка паставіла на стале гарбатнік і моўчкі выбегла з пакоя.

Якаў Гіс правёў яе квапнай капіроўкай нервовае хады і зачыніў дзверы.

Але не паспелі яны падысці да стала, як гаспадынін голас ізноў адцягнуў на сябе іхнюю ўвагу.

Рыгор выбег з пакоя і ўголас прагукаў:

— Пя-атрусь, браток, хіба ж ты?.. Заходзьце... Рыма... Знаёмцеся...

Пяцёра чалавек рабілі Рыгораў пакой цесным і поўным. Забітых у сцену цвікоў не хапала для адзежы, стол сваім памерам не даваў месца для пяці крэсел, каб і былі яны ў пакоі. Але задаволенасць гасцей, выразна адзначаная на Рыгоравым развяселеным твары, раздавала сцены пакоя, робячы яго светлым.

— Дзе цесна, там пацешна,— увіхаючыся з трыма крэсламі, са сталом і адзежаю, некалькі раз пераказаў Рыгор.— А хоць бы жанчыне даць дарогу.

— Не турбуйцеся за мяне.

— Як жа, вы сярод нас адна.

— Ды тая лішняя... Я думала...

— Позна думаць,— пераняў яе Пятрусь.

— Давайце лепш гутарыць, чымся думаць,— пажартаваў Якаў Гіс.

Ён пільна ўглядаўся на Рыму. Прадстаўнічы ростам, з чорнымі вострымі вачыма з-пад рэшата чарнільных кос, ён улічваў уражанне, наданае сабою дзяўчыне і лавіў яе ўкрадчывыя ўзрокі.

— Хто не за гэта. Ха-ха-ха! — рэзва адказала Рыма і першай уселася пры стале. Хлопцы яе пакінулі п'ючы гарбату і сабралі сваю ўвагу вакол Петруся, які ў гэты момант пісаў Рыгору свой маскоўскі адрас.

— Я маю добрае месца, нечага сказаць,— аддаючы таварышу візітку, казаў Пятрусь.— Служба спакойная, і заработак не дрэнны. У кожны момант знайду магчымасць дапамагчы... любому з вас...

— А з усім тым, што датыркала фармальнасцей знадворнага характару, ты паспеў ужо ўладзіць?

— Ха-ха-ха! Мая прысутнасць у цябе засведчвае тое. Пятрусь Кандратаў Папяровіч, дазвольце-э...

Пятрусь не дасказаў, палічыўшы сваю развязнасць залішняй.

Рыгор паглядзеў пазменна на Анікея ды на Якава Гіса і звярнуўся да ўсіх:

— Ну, Рыма, выгадала лепей нас усіх... Хоць па чарзе выпеце гарбаты...

— Выйграла, бо пакуль вы сабраліся піць, я выкарыстала гарачую гарбату...

Яна не даказала, накіраваўшы сваю ўвагу на разгорнуты лісток паперы, які хутка прынялася чытаць.

Рыгор скеміў, што Рыма трапіла на Гэлін ліст і прагна сачыў за выразам яе твару. Перакідаючыся сказамі з таварышамі, ён з хвіліны на хвіліну чакаў яе запытання. Несвядомасць апошняга застаўляла Рыгора знаходзіць шэраг лаканічных адказаў.

— Вы наводзіце сум сваім зацяглым чытаннем, таварыш,— кончыўшы з гарбатаю, закінуў Рыме Якаў Гіс.

Тая не адказала.

— Ваша таварышка не ў гуморы,— паслаў ён рэпліку да Петруся.

— Рыма, то пра цябе гутарка,— палажыўшы на яе плечы руку, на вуха сказаў Пятрусь.

— А пра цябе во, пісанне, маеш?

Рыма раптам паднялася з крэсла і, не адвяртаючыся ад Петруся, падала яму чытаную паперку.

— Маеш уклон...

Рыгор настаржана глядзеў на Рыму, чакаючы моманту падысці да яе і разагнаць абдаўшы яе настрой.

Анікей утароплена глядзеў праз акно на мігаўшы воддалі ліхтар.

Якаў Гіс разглядаў залаты надпіс фірмы на цыгарцы, раз-поразу падносячы яе да губ.

— У чым справа?

— Справа ў Гэлі, нябось, памятаеш?

Дзяўчына нервова стала перабіраць складзеную на ложку адзежу.

— Рыма, я прашу вас...

Рыгор пераняў яе ад ложка і, паказваючы на крэсла, папрасіў:

— Яшчэ не позна, куды вам спяшацца. Гэта ж не далёка...

— Што сталася з Гэляю? — перабіў Пятрусь.— Яна скончыла самагубствам?! Рыгор?!

Анікей моўчкі адзеўся і павярнуўся да дзвярэй. Якаў Гіс знімаў са сцяны паліто.

У гэты момант гучнае прывітанне, праказанае ў дзвярах, адцягнула на сябе агульную ўвагу.

У пакоі стаяў Сідар Пералаз.

## V

— Ты да мяне?

Рыгор спыніўся ў варотцах брамы і пільна паглядзеў на Петруся.

— Так, хацеў...— праказаў той і павярнуўся да вуліцы.

Рыгор выйшаў з двара следам за таварышам.

— Хіба праўду цябе да завода?

— Нічога не маю... Я бы не пайшоў у завод, каб не перад святам, а то...

— Не, не, дзе ты бачыў! Ці ж варта з-за мяне траціць дзень — ніколі. Калі б на тое пайшло, мне ўжо шмат выгадней на лішні дзень застацца... Не варта, ідзем.

— Дык ты надумаў ехаць? — запытаў на хаду Рыгор.

— А трэба... Разумееш, мяне хвалюе Рыма. І надало ж табе не схаваць Гэлінага ліста...

— Яна цудная нейкая. Мне не хацелася табе казаць, а калі да слова прыйшло... Цяжкая...

— Ды мне што. Яна думае, што на ёй усе дарогі сходзяцца! Падумаеш.

— Зразумела...

— Намякнуў на пераезд у Маскву, дык закапыліла нос...

— Твая прыватная справа, браток... Мне, ведаеш, трудна што-кольвечы парадзіць... Каб на мяне, то я бы ўжо даўно махнуў рукою. А ты — думай...

— Скажу па праўдзе, Рыгор, і хочацца і колецца. Натуру маю паганскую. Вось убілася ў галаву і ніяк не змірыцца з думкаю, што... Люблю, прызнацца...

— Тады набок сумненні... Дзейнічай...

— Так, пайду ізноў. І пастаўлю пытанне катэгарычна: альбо, альбо...

Пятрусь затрымаўся.

— Бывай, Рыгор... Адрас маеш?

— Маю.

— У любую хвіліну адчынены дзверы.

— Дзякую.

Яны зрабілі па некалькі крокаў адзін ад другога. Пасля, як па змове, кожны з іх азірнуўся назад, сустрэўшыся яшчэ раз сяброўскімі ўзрокамі. Рыгор адчуў, як пачуццё суму зашавялілася ў яго нутры.

Колькі разоў яму даводзілася сустракацца і развітвацца з Петрусём! Ці хутка выпадзе чарговая стрэча!

Яму ўхмыльнуліся апошнія словы таварыша: у любую хвіліну адчынены дзверы. Таксама і ў Рыгора, што да Петруся. У любую хвіліну...

Ён яшчэ раз азірнуўся назад, прамераўшы вострым узрокам даўжыню Выбаргскае шашы, але Петруся ўжо не ўгледзеў. Чорныя фігуры людзей і ўдоўж і ўпоперак перарэзвалі каменны насціл вуліцы, спяшаючы на працу. Яго наганялі і пераганялі дзесяткі рабочых. Знаёмыя віталіся, знаямейшыя закідалі адным-другім словам.

Пры самым выхадзе ў завод прымха звяла яго тварам да твару з надаеўшым яму вайсковым наглядальнікам. Акінуўшы Рыгора начальнічым узрокам, ён саступіў яму дарогу і прапусціў праз дзверы першым.

Было ясна, што азначала гэта далікатнасць палкоўніка. Ад яе нясло шпегаўскаю манераю, якая пазней выказалася ў яго паводзінах.

Апынуўшыся ў такарнай завода, ён пільна сачыў за кожным повертам як Рыгора, гэтак і іншых рабочых. Непрыкметная раней, на гэты раз у руках палкоўніка віднелася запісная кніжка. Раз у раз ён прыпыняўся ў прагалку між варштатаў і нешта пільна занатоўваў. Часцей, як дагэтуль, між ім і майстрам адбывалася адрыўная гутарка, якая справодзілася на кароткі час знікненнем палкоўніка ■ абшараў такарнае майстэрні.

Рыгор не мінуў падказаць на гэта Анікею. Той жа, у сваю чаргу, дапомніў суседу. Хутка вялікая колькасць рабочых праводзіла вайскоўца падозранымі ўзрокамі.

К вечару яго надазойлівае тупанне пачало нерваваць рабочых. Перш цішэй, а што далей — то смялей яны пасылалі яму ўслед жарты, смяшкі і посвіст. Сам сабою складаўся ў гонар палкоўніка дэманстрацыйны кашачы канцэрт. Гэта астудзіла палкоўнічую зухаватасць, і ён раптам знік з майстэрні на болей доўгі тэрмін.

Аднак праназаваты ваяка не прапусціў з'явіцца ў такарню ў той самы момант, калі рабочыя прыпынялі варштаты. Ён з украдкаю шпега пазіраў у змрок майстэрні з-пад канторкі майстра і выразна бачыў, як рабочыя ў гуртках абгаварвалі майскае свята. Палкоўнік цікавіўся ўвішнасцю Рыгора, які заўзята ўгаварваў таварышаў на забастоўку. Рашучыя размахі яго рук,

звонкасць яго свежага голасу прыцягалі палкоўнікаву ўвагу. Палкоўнік дрыжаў ад злосці і націснуў гузік электрычнага званка, які вёў у занятую пераадзетымі паліцэйскімі кантору завода. І толькі рабочыя сталі пакідаць майстэрню, як палкоўнік сярод першых выйшаў з завода і з ганка канторы праводзіў зажмуранымі вачыма выбегшых з засады паліцэйскіх. Але тысячны натоўп рабочых паглынуў іх у сваёй злітнай, з'яднанай адзінымі жаданнямі, воляй ды настроем рабочаю гушчаю. Быў бы непрытомным той, хто б не разумеў усяе мізэрнасці абранага метаду змагання з рабочымі. Апусціў галаву і палкоўнік, калі бурлівая паводка іх бесперашкодна лінула з адчыненае брамы на вуліцу.

Рыгор выходзіў у задніх радах і не прапусціў наглядаць за разувераным палкоўнікам.

Першае мая пераможна лунала над высокімі закуранымі гмахамі завода. Яго павей гайдаў рабочым настроем.

У вошта выльецца гэты настрой заўтрашнім днём?

— Во, глядзі, Рыгор! — супыніў Рыгора Анікей, паказваючы яму на свежапрылепленую на паркане абвестку губернатара.

Каля абвесткі грамадзілася многа рабочых, якія разнастайнымі рэплікамі адказвалі на застрашванне іх начальствам. У натоўпе паднімаўся рогат і выгукі.

— Начальства нас не забывае!

— У яго напагатове ўсё!

— І першым дзелам — абвесткі!

— Машына верціцца!

— Кантора піша!

— Вайна на два фронты!

— Ды наш-та фронт небяспечней Заходняга!

— Гэта разумеюць, каму след...

Рыгора хутка адціснулі ўбок, і ён згубіў Анікея, не паспеўшы згаварыцца пра заўтрашняе спатканне.

Адышоўшы на другі бок вуліцы, ён перш намерыўся яго пачакаць, адале перадумаў і пайшоў на кватэру.

Пры павароце з Выбаргскае шашы паміж яго галопам пранёсся атрад казакаў.

Загудзеўшыя сірэны падн<br>ялі Рыгора з ложка. Ён мігам ачуўся каля акна і змерыў узрокам разлёгшую перад ім карціну. Па стрэхах будынкаў, па зелянеючых дрэвах, у паветры і на небе разлівалася ранішняе

праменне сонца. Расшпіленая сарочка агаляла Рыгоравы грудзі, а вочы міргалі ад яркага бляску.

Ён прачыніў акно і прасунуўся ў яго па пояс, каб паглядзець у бок фабрычнага раёна. Якаясьці прыбудоўка, толькі зараз заўважаная ім, не дазваляла выбіцца яго ўзрокам за межы двара. Але відаць было па каламутнасці неба, што фабрычныя коміны па-звычайнаму сапуць густымі камякамі дыму. І частая тупатня крокаў па дашчатых тратуарах сведчыла за тое, што людзі спяшаць на працу...

А вось пралапатаў цягнік фінляндскае чыгункі...

Няхай!

Рыгор зачыніў акно і вярнуўся на ложак.

Ваабражаючы перад сабою моцную варожую сілу, ён наперакор яе націску, дэманстрацыйна заплюшчыў вочы.

Першае мая — рабочае свята!

Далоў усякія думкі аб працы! Ён не шавяльне пальцамі, каб знарушыць чыстасць майскага свята!

Што будзе далей — пляваць; пра гэта знойдзецца часу падумаць.

А Першым маем...

Нават Сарафіна Хлораўна прытаілася дзесьці і жадным шорпатам не зварушвае майскае ўрачыстасці...

Першае мая — рабочае свята!

У цесным вобдыме варожай сілы, яно бліскае красою дыямэнта. Яго чырвоная здань прысутнічае навакол і ўсюды. І няма тае сілы, якая б магла змагацца з пераможным наступам яго хвалюючых ідэй.

Гукі сірэн — інакшыя ад звычайных. У іх меней прымусовай, угоннай да працы сілы, а болей урачыстасці, гучных напеваў вызвалення.

Ці не клічуць яны Рыгора да вулічных боек?

Пэўна таму і не спіцца, што майскі настрой разварушыў яго бадзёрасць. Калі святкаваць — дык на вуліцы перад усімі, з дэманстрацыйнай адзнакаю свята. Хто яго бачыцьме, схаваным у пакоі? А мо ён адзін адстаў ад тых, хто злучыўся ў баявую грамадку і пры чырвоным сцягу з песнямі велічае Першае мая?

Загнаныя, заклапочаныя, нясмелыя і карысныя — няхай глядзяць на адвагу мужных і задумоўваюцца над значаннем Першага мая!

Рыгор спрытным, адрэзаным рухам пакінуў ложак і з напевам марсельезы пачаў збірацца на вуліцу.

Сарафіна Хлораўна не паспела заперці дзвярэй, вярнуўшыся з рынку, як Рыгор прывітаў яе з Першым мая.

— Калі вы, Рыгор Міхасевіч, мелі час адзецца? — здзіўлена і зусім сур'ёзна запытала яго гаспадыня.— Я толькі што, не болей чвэрткі гадзіны, пакінула вас спаўшы, а гэта...

— Што нашаму брату значыць сабрацца — пяць хвілін,— пажартаваў Рыгор.

— Але... ну, няхай бы гарбаты выпілі? — запрапанавала Сарафіна Хлораўна.

— Дзякую шчыра.

Гаспадыня пераступіла Рыгору дарогу і надзвычай ласкава паглядзела яму ў твар. Яе лісціў Рыгораў бадзёры і рэзвы настрой, а абдаўшая яго натхнёнасць — чаравала.

— Я папрашу вас, Сарафіна Хлораўна, пра адно... Калі што-кольвечы... Ну, разумееце... Як толькі здарыцца якая прыгода, прыглядзеце за маім пакоем...

— О... Рыгор Міхасевіч...

Гаспадыня аберуч хапілася за галаву, і ў яе вачах забегаў спалох. Мэрам бы над маладзіцаю абрынулася столь і знячэўку прыдавіла яе сваім цяжарам.

— Рыгор Міхасевіч... Няўжо вы не шануеце сябе і свае маці? Гэта ж... Я перапрашаю вас... Куды вам лезці аднаму супроць аружнае сілы? Не дайце прычэплі разрадзіць вінтоўкі... Паездзяць — паездзяць і... Рыгор Міхасевіч! Мая вам прыяцельская парада... Я... Вось зараз закіпіць вада і хоць шклянку...

Рыгор не мяняў настрою — яго твар абмываўся тою ж рэзваю ўхмылкаю. Гэта ўплыло на гаспадыню; яна перамяніла трывожны тон на болей спакойны і ўжо не ўпрошвала яго астацца на гарбату, а толькі радзіла яму быць асцярожлівым.

— У мяне, як у Хрыста за пазухай, Рыгор Міхасевіч! — уверыла яна Рыгора, калі той пераступіў парог на сходы.

## VI

Над Выбаргскай стараною насіліся хмары дыму. Яны куравілі зялёныя лісця рэдкіх дзярэўцаў, вокны будынкаў, празрыстае паветра. Дробныя крупінкі сажы садзіліся на людскіх тварах, залазілі ў нос. З цес-

ных, абгароджаных высокімі парканамі, фабрычных двароў разляталіся ва ўсе бакі гучныя стукі малатоў, бразг жалеза, прыдушанае гудзенне станкоў. Хвалі сіняе вады ў Вялікай Неўцы аднастайным плюхаценнем адгукваліся на працэсы непарушанай працы.

Ажыўленне на Сампсоніеўскім праспекце і на ператочных яму вуліцах мала розніласяя ад звычайнага. Зрэдку, парушаючы штодзённы парадак, то там, то сям на рагах вуліц стаялі грамадкі рабочых, дапамінаючы ні то абедзенны перапынак, ні то невялічкую забастоўку. Болей усяго дапаміналі пра выдатнасць Першага мая ўзмоцненыя варты гарадавікоў ды казачыя атрады, паважна, але зрэдку праязджаўшыя ўсцяж праспекта.

Тым не меней, подых майскага свята адчуваўся многімі, хто б ні ішоў ці ні ехаў праспектам або вуліцамі Выбаргскае стараны. Сотні вачэй недаверліва ці з захаванай надзеяй прабівалі ўзрокамі мурзатыя вокны фабрычных карпусоў. Настарожаныя вушы прагна лавілі кожны стук, які чуўся за парканамі і ў сценах майстэрань. Грамадкі рабочых на рагах вуліц аднаўлялі ў памяці нядаўнія, знаёмыя падзеі. Кожную хвіліну могуць паадчыняцца жалезныя брамы заводаў і фабрык і тысячныя грамады чорных закураных людзей запоўняць шырокі Сампсоніеўскі. Мігам стане паравік. Дзе дзенуцца рамізнікі. Расчысцяцца ад пешаходаў тратуары, і пад малочным небам залунаюць гучныя мелодыі паўстання. Нельга верыць вачавідкаму спакою. Дарма з усіх фабрычных комінаў непарыўнымі пасмамі пыхае дым, сведчачы за поўную чыннасць заводаў!

У хмурых вокнах рабочых кватэр прытаілася неўміручая помста прыгнечаных. На кожным твары іх жыхароў, жанок і дзяцей выглядае яскравая прага вызвалення. Горда пануе над усім вакольным знатны будынак Ломанскага завулка. Яшчэ не залеплены глыбокія дзіркі ад казачых стрэлаў.

Глядзіш і яго зноў засуцэліць жалезнае кола вінтовак. Можа, у абед, ці ад вечара, ці ў іншы час — стукі молатаў абернуцца ў стрэлы.

Ці не таму наглядаецца якаясьці паспешнасць руху як у хадзе пешаходаў, гэтак і ў яздзе рамізнікаў ды ў прабегу паравіка?

Першае мая прасякла зацвілы слой палітычнае бу-

дзёншчыны і кратае застыўшае, але не памёршае пачуццё свабоды. Больш як каму, выразней гэта для Рыгора. Ён у ліку тых, што аддаюць належнае вялікаму святу працы. А праз год, а далей?

Ён будзе сведкаю паступовага ўздыму працоўных да ўрачыстага ўшанавання Першага мая.

Дачакаецца, калі празрыстасць неба над Выбаргскай стараною засведчыць поўную бяздзейнасць у гэты дзень кожнага завода, варштата ды молата.

Гэта ішіме ад пачатку ў 1915 годзе, калі...

Ага!

Рыгор абяцаў гэтым днём правясці на вакзал Сідара Пералаза. Той прасіў наведаць бежанскі камітэт а дванаццатай гадзіне, каб разам купіць яму білет.

Але на гадзінніку — першая.

Напэўна Сідар не дачакаўся? А калі яшчэ і не пакінуў камітэта, то пакуль Рыгор даедзе, можа пакінуць.

«Лепей проста на вакзал»,— рашыў Рыгор і сеў на трамвай нумар восьмы.

Чамусьці надзвычай хутка прамільгнулі ў яго ваччу дзесяткі вуліц, мастоў, пляцоў і спынак, і ён не агледзеўся, як шкляная сцяна знаёмага будынка спыніла яго ўзрокі.

Натоўпы людзей, шнурком накіроўваючы на рог будынка, спяшылі на цягнік. Ці знойдзе ён у гэтым натоўпе Сідара? А можа, той яго пільнуе пры ўваходзе?

Разглядаючы ў бакі, Рыгор прайшоў у вакзал і стаў шукаць старога.

Шэрыя шынелі салдат скрадалі асаблівасць Сідаравага ўбрання.

Рыгор увішна абышоў залы, паглядзеў пры касах і накіраваў да перона — Сідар, напэўна, прайшоў у вагон.

— Паштовы на Вільню?..— абярнуўся ён да правяральшчыка білетаў.

— Праз паўгадзіны ад...

— Рыгор! — заглушыў словы правяральшчыка Сідар, зазіраючы Рыгору ў вочы.— А я ўжо думаў, што ты не захочаш...

Надарваны і ахрыпшы голас Сідара Пералаза не даў яму даказаць.

— Што вы, дзядзька... ласне можна так думаць! Я ўжо колькі часу, як вас шукаю.

— А-яй, колькі людзей — я ледзьве дацiснуўся да білета. Узяў — і сяджу ды чакаю, калі пачнуць пускаць... Хоць бы не адстаць ад цягніка. Вось як напруць, а ў мяне няма прывычкі штурхацца і — глядзіш — лаві вачыма. Астануся, тады... Хто ведае, якаво там у дому. Можа, дамашнія даўно ўжо ў дарозе, а я дарма ўзяў білет да Ліцка... Ох!.. Зрабіў такую дарогу і... Дачушка-а мая, як ты моцна пакрыўдзіла сваіх бацькоў!..

І голас Сідара і ўражанне ад яго нутранога надлому, балюча нерваваўшыя Рыгора, перабіў зычны званок швейцара.

— Другі-ы зва-а-но-ок на Пскоў, Вільню, Гр!..

Вачавідкі перад правяральшчыкам білета стала расці грамада людзей.

Сідар Пералаз крута павярнуў ад Рыгора, каб не быць адціснутым з праходу на перон. Ды толькі ён намерыўся залезці ў чаргу, як чыясьці здаровая рука яго адапхнула ўбок.

— Я тут неадходна вартую, а вы нахабна пхаецеся,— пакрыўджана выказаў Сідар да пхаўшага.

Той не звярнуў на Сідара жаднае ўвагі і шчыльна затуліў меўшыся між ім і папярэднім яму чалавекам прагалак.

Тады Сідар ізноў накіраваўся да яго, ну тая ж рука перагарадзіла яму дарогу.

Рыгор убачыў гэта і рашуча падышоў да здаравеннага нахабнага выгляду чалавека.

— Гэты чалавек мае права стаць наперадзе вас,— настойна праказаў ён і абярнуўся да Сідара.

— Станавіся, дзядзька, вось тут.

У адно мірганне вока Сідар ачуўся крокаў на два ўбаку, затое і таўхануўшы яго ад спрытнага адказнага штуршка Рыгора быў выбіты з чаргі і хутка зацёрты падышоўшымі пасажырамі. Яго зычная лаянка, накіраваная па адрасе Рыгора, незаўважанай патанула ў дружным смеху некалькіх салдат.

— Так, яму, нахалу,— адобрыў Рыгора адзін з іх.

Сідар Пералаз, стаўшы пры Рыгору, здзіўлена паціскаў плячыма і труслівa азіраўся назад.

— Што за людзі, а-я-ай!..

Калі чарга заварушылася, ён барджэй працягнуў Рыгору руку і скарамоўна пачаў закідаць яго пытаннямі ды падзякай.

— Можа, паведаміць мацеры, што ты... Ці няхай яна ў выпадку чаго накіроўвае да цябе... Пэўна, ты не думаеш адгэтуль нікуды ехаць... Бадай хутка жанішмешся... Даруй, Рыгорка, за турботы. Я пастараюся ўжо аддзякаваць... Што ж парадзіш, родны... Будзь здароў, усяго табе найлепшага... Можа, часамі Гэліну магілу...

Стары памкнуўся яшчэ раз злавіць Рыгораву руку для развітальнага поціску, ды правяральшчык білетаў сур'ёзна праказаў яму над вухам:

— Не затрымлівай, стары. Варочайся...

У хвіліну Сідар Пералаз ачуўся на пероне. Намерыўшыся сысці ўбок і азірнуцца на Рыгора, ён наткнуўся знячэўку на пераганяўшага другіх пасажыра; той ліхамысна паглядзеў на яго і вылаяўся.

Тым часам напоўніўшыя перон новыя пасажыры вымусілі яго павярнуцца ў бок да цягніка.

Рыгор бачыў, як белы клунак Сідара Пералаза замільгаў між бягучых людзей і знік у іх мігатні.

— Бедны стары, з чым ён вернецца дамоў! — падумаў пра сябе Рыгор і пайшоў з вакзала.

Сонечнае надвор'е абласкала яго цеплынёю. Вуліцаю шнуравалі сотні людзей, чый інтэрас хаваўся ў сумных сценах горада. Якое ім дзела да цягнікоў і пасажыраў, што мусяць як мага нясціся ў бок далёкіх Вільні, Ліцка, Горадні і па-за імі?

Аднак зусім нечакана паўстала і перад Рыгорам пытанне: бывае знянацку складуцца ўмовы і хочаш не хочаш, мусіш пакінуць Пецярбург?

Пры гэтых думках у яго нутру парвалася якаясьці непрыкметная нітачка: ёкнула сэрца, і саладжавая боль расстання з улюбёным горадам прайшла па ўсёй яго істоце. Рыгор абярнуўся на вакзал і ўлавіў вушамі далёкае чмыханне цягніка. Пасля паглядзеў направа ды налева ўсцяж забруджанага Абводнага.

Скора год, як у яго ваччу мігнула вунь тая агромністая рэклама з шарыкападшыпнікамі, шэрае кола шыны «трехугольник», жывое, рэзвае дзіцянё з банкаю какао, электрычная лямпачка «osram». Ва ўсім гэтым шавеляцца яго надзеі і трапяткія жаданні, казытаўшыя яго ў момант прыезду. Гул і завіруха, разбежнасць і тлуматня сталічнага жыцця прыеліся яму, прасачылі ўсю істоту, увабралі ў сябе. А вось за гэтым сумным будынкам іншае, адваротнае жыццё. Памятнае

па Сілцах, па Смагіне. Няўжо яно без свайго хараства, без сілы, якая мае здольнасць уцягнуць у свой вір любога чалавека?..

Але што за раздумы над біламі моста?

— Пайду да Ганны!..

Ужо на другім кроку ад месца, на якім мігнула гэта невыразная ні то думка, ні то жаданне, Рыгор адчуў вострую патрэбу ўгледзець сваю нядаўнюю прыяцельку. Было б дзіўным, калі не загадкавым, каб іх доўгае, блізкае і цёплае сяброўства так раптам і гэтак ніякавата распалася. Няўжо Ганна зразу занядбала ўсімі тымі пачуццямі, якія звязвалі яе з Рыгорам? Прынамсі, у яго, Рыгора, няма сумнення ў тое, што Ганна хоць часткаю ды жыве мінулым. Было б, сапраўды, шаломным і абураючым, каб яна выхаласціла сваё нутро ад усякае да яго прыязні.

— Ну, што вунь там, па восьмай роце, за натоўп людзей?

Прыслухайся.

Марсельеза?

Штосьці раптам павярнула Рыгора вузкім тратуарам налева — ага!

Першае мая!

Знача, не толькі бастуе іх завод ды некалькі іншых заводаў на Выбаргскай, а і тут вось... Нават маніфестацыя і пабач з казармамі...

Наператоч яму выбегла з двара казармы каля дзесятка ізмайлаўцаў. Іх узрокі прагна накіраваліся ў бок нядаўна прагучаўшай песні.

Адтуль ужо даносіліся бразгі паліцэйскіх падкоў. Аголеныя тратуары лавілі скрадныя зрокі схаваных каля брам маніфестантаў. Асцярожліва некалькі чорных фігур перакрыжавала вуліцу. Пачуўся раздражальны свіст, рэзвы выгук. Перапяўшы вуліцу, шэраг гарадавых па камандзе абярнуліся назад і замёрлі на месцы.

Настаражылася купка ізмайлаўцаў.

Рыгор завярнуў да праспекта.

## VII

Жалезны пераплёт мосціка праз Фантанку. Моцныя гранітныя аправы сціснулі зялёную ваду халоднымі абоймамі. Направа — землечарпалка з паднятым

вядром чорнага ілу. Далей — чарада цёмных засмоленых барак. Яшчэ далей, да Чарнышовага моста, лёгкі адкрыты параходзік развівае лохмы сіняватага дыму. Чуць відаць — цёмныя планы людзей над біламі, між высокіх каменных альтан. Што за выпадак?

Пэўна вось так глядзелі людзі і тады, калі ў чорнае вока палонкі падала Гэля?

Гэля!

Які жудасны шлях — ад Фантанкі ў анатамічку... Э-э-х!

Надарванае сэрца асірацелага бацькі. Халодныя сцены раўнадушнага горада. Глыбіня і незмярымасць людское трагедыі.

Гэля сябар і таварыш.

Зелень пастаўнікоў і белы валь квітучых садоў.

Вёрткасць і рэзвасць маладое ласкі.

Жніўныя песні і бесклапотныя гульні.

Сілцы...

Кінографічнае прамільганне здарэнняў, прыгод, выпадкаў і шэрагу доўгіх гадоў...

Муры туляць зніжанае сонца?

Так, цягне золкім холадам.

На чарзе ледаход...

Што-а? Музыка?

Разухабістай хадою пяцёра падвыпіўшых хлапцоў накіроўваюць проста да Рыгора. Буйны гармонік — на размах рук — выцінае «Чудны месяц», далікатна змаўкаючы на вярхах людскіх утораў. Каля моста — спынка.

— На Пад'ячаскую! — крыкнуў адзін, і пяцёра спін засланілі ад Рыгора прагляд наперад.

Ён ускорыў хаду, абагнаў вясёлую кампанію і схаваўся ў браме пяціпавярховага шэрага будынка.

Не абмыліцца б.

Ну, усё ж яна жыве не дзе іначай, як тут. Потым, вось, усходамі — этаж...

Рыгор пільна разглядваў нумаркі над дзвярыма, паднімаючыся ўгору.

— Ці не гэты? — падумаў ён.

І як бы хто прачытаў яго думкі — раптам перад носам адчыніліся дзверы, і з кватэры выйшла кабета.

— Убачайце-э...

— Так?

Яна абярнулася да Рыгора.

— Здаецца ў гэтай кватэры...

— Ах, памятаю; вашае зямлячкі ўжо няма. Яна... Хіба ж вам невядома, што яна з мужам выехала да Дзвінска?

— Ганна?

— Так-так, я вас памятаю, як вы...

Кабета зачыніла дзверы і праверыла, ці запёрты.

— Успамінала вас... І на вяселлі і ад'язджаючы...

Яна пайшла ўніз, а Рыгор следам.

— Добрага чалавека знайшла — мы ўжо казалі... Пра вас думала... Цяперака такі час, што кожны момант — новыя думкі... Каб жа адны думкі! Планы, намеры, жыццё... Вось пайшлі ўжо гутаркі пра мабілізацыю другога разраду... Бяда, што мне прыйдзецца рабіць тады з дзяцьмі! Мужа... Ці не былі б ласкавы, можа б, дзе-кольвечы мелася месца ў такім заводзе, што...

— А Ганна вам адраса не пакінула, часамі?

— Або ж прыпомніш, дзе ён, калі і пакінула. Добрыя былі пасуседзі, ды колькі ўжо я іх перамяніла! Іншыя, часамі, напішуць ліст, успомняць, а то... У кожнага свае інтарэсы...

На вуліцы дворнік уладжваў драбіны пры ліхтары.

— У горад, Саламея Анікееўна? — запытаў ён Рыгораву спадарожніцу.

— А табе цікава? — пацвілілася яна і тут жа дадала, азірнуўшыся на Рыгора:

— Так, Ганна з мужам недзе на Літве...

— Бывайце!..

Яна гасцінна кіўнула Рыгору галавою і павярнула налева.

Рыгор пайшоў у бок Садовай. Тое, што ён спаткаўся з фактам ад'езду Ганны з Пецярбурга, у першы момант не пакінула на ім ніякага ўражання. Мэрам бы факт у перадачы выпадкова напатканай Ганнінай гаспадыні не быў праўдзівым фактам.

Калі ж ён выйшаў на Садовую і крануў пытання, куды ж яму накіравацца, як унутры адчулася выразнае нездавальненне паводзінамі Ганны.

«Чаму ж такі яна... Не разумею... Здавалася-а...»

Рыгор кінуў узрокам у бок трамвайнай спынкі і ўсміхнуўся.

Нацянькі да яго ішоў Міхась Камар. Ён ужо бачыў Рыгора і кіўком рукі падаваў якіясьці знакі.

— Чаго заблудзіў у нашы краі? — вітаючыся, запытаў ён Рыгора.

— Думаеце, цяжка адказаць...

— Свята?

— Так. Дазвольце павіншаваць...

— Узаемна. Буйныя галовы! Ха-ха-ха!

— Гэта да чаго?

Камар супакойваючы крутнуў галавою.

— Хадзем да мяне.

Рыгор прамаўчаў.

— Не маеш ахвоты? Вып'ем шклянку гарбаты. Раскажу навіны. Мы так рэдка з табою бачымся...

— Рэдка, бачыце.

— Ідзем!

Камар узяў Рыгора пад руку і адарваў з месца.

Яны павярнулі ўбок, адкуль толькі што Рыгор вярнуўся.

— У вас многа баставала? — шапнуў на вуха Рыгору Камар.

— Як вам сказаць: чалавек каля двухста... Такарная поўнасцю і часткова... Так, прынамсі, учора наглядалася... Сёння нікога не спаткаў... Цэлы дзень... А ў вас?..

Камар сур'ёзна адказаў:

— Ты ж, браце, павінен ведаць, што я трымаюся зусім інакшага погляду...

— Ці ж увесь завод думае па-вашаму?

Рыгор адчуваў, што яго забірае настрой зласлівай упічнасці і не думаў, што яна недачасна.

— Калі судзіць па сённяшнім дні, дык яно адпавядае праўдзе.

— Шкода!

— Хэ-хэ-хэ! Я зайздрую табе, Рыгор.

— Затое я вам — ні каліва.

— Наступнае скажа.

— Ужо бягучае гавора.

— Толькі многія яго гутаркі не разумеюць.

— Вось у гэтым і бяда.

Ключ у руках Камара, прасунуты ў дзверы, на нейкі час перапыніў іх задзёрыстую, ужо напаўварожую гутарку.

— А мне здаецца...

Камар не дасказаў.

Пераняўшы іх пры кухні, Камарыха растрывожана паведаміла:

— Гэта ж заарыштавалі Якава Гіса! Толечкі што прыбягаў да цябе, Міхась, якісьці хлапчук і прасіў перадаць...

І Камар і, тым болей, Рыгор, чула настаражыліся і задумаліся.

Камарыха таксама моўчкі стаяла на адным месцы, пільна паглядаючы на мужчын.

— Хаця б, крый чаго...— памкнулася яна выказаць якуюсьці думку, але Камар махам рукі яе пераняў.

— Не спадзявайся-а... Няўжо і ён баставаў? — здзіўлена запытаў Камар ні то ў жонкі, ні то сам у сябе, следам утароплена паглядзеўшы Рыгору ў твар.

— І я не спадзяваўся... хоць апошнімі часамі Якаў...

Усе ўтраіх ізноў змоўклі не давяраючы крокам, якія пачуліся па ўсходах.

Спусціўшы нейкі час, Камар праказаў:

— А Якава шкада... Несцярожліва пэўна... Ну, што ж. Гатуй, жонка, гарбату... хочацца есці... Праходзь, Рыгор, у пакой... Вось «Біржоўка»...

Міхась прапусціў Рыгора ў адчыненыя дзверы пакоя, а сам кудысьці знік.

Рыгор прысеў каля засланага машаставаю скацярткаю стала і разгарнуў газету.

На першай старонцы, у правым куту зверху, чорнымі літарамі адзначаліся важнейшыя навіны дня: «Вайна з Турцыяй». «Італьянскія «камбінацыі». «У Англіі»... пад кожным з гэтых агульных загалоўкаў, выдзеленых буйнымі літарамі, ішлі паведамленні пра згінуўшых людзей і турэцкіх кананерскіх лодках, пра адстаўку міністэрства Саландры і маніфестацыі італьянскіх патрыётаў, пра выключэнне ангельскіх кавалераў ордэна «Падвязкі». Асобным радком, мала заўважана, вызначалася: «Вайна і 1-га Мая».

«Біржоўка» гучней зашалясцела ў руках Рыгора. Ён з цікавасцю пачаў выглядаць у тэксце навін пра Першае мая. Яны былі змешчаны на чацвёртай старонцы, заняўшы амаль не цэлы слупок набору. Рыгор прагна ўперыўся вачыма ў дробныя шэрыя літары зместу і хутка прачытаў іх з пачатку да канца.

«Біржоўка» паведамляла, што Першае мая ў Пецярбурзе святкавала да дзвюх тысяч чалавек рабочых. Баставалі заводы на Пецярбургскай старане, у Новай і Старой Дзярэўнях, за Неўскай заставай і на Выбаргскай старане. Лік баставаўшых на Выбаргскай старане газета вызначала ў 150 чал., аднак белыя прагалы ў зацемцы наводзілі на падозранасць і застаўлялі думаць, што забастоўка мела куды большы размах, ніж то паведамляе «Біржоўка». Прынамсі, пра Выбаргскую старану газета нагла хлусіла. Характэрным момантам у заметцы было апісанне тых мер, якія выпрацавала паліцыя для змагання з магчымымі выступленнямі рабочых. Дзеля гэтага горад быў падзелены на шэсць паліцмайстарскіх раёнаў, была ў вялікай колькасці мабілізавана паліцыя, прыгатаваны вайсковыя часткі... Паліцмайстры знаходзіліся ў сваіх раёнах і пра ўсе заводы даносілі граданачальніку...

Гэткім чынам рабочы Пецярбург смела адзначыў міжнароднае свята працоўных.

Іначай было за рубяжом, дзе згодніцкая сацыялдэмакратыя ў сваіх пастановах заклікала рабочых адмовіцца ад святкавання Першага мая.

Рыгор палажыў газету на стол і, горды і задаволены адважным выяўленнем рабочага пратэсту, волі і імкненняў да змагання, упэўнена падышоў да акна.

«Памятайце ўсе тыя, хто думае, што на крыві салдат і на працы рабочых навекі замацована ваша панаванне! Дарэмная самаўцеха! У любую хвіліну завіхрыцца нездавальненне, і гнеў працоўных змые вашы фартэцы і зруйнуе вашу марную сілу і дабрабыт!»

Уверany ківок крэпка сашчэпленага кулака пагрозна зарухаў над шыбамі акна.

— Ты гэта супроць каго? — заўважыўшы гэта, пасмяяўся Міхась.

— Супроць тых, каму трэба памятаць пра рабочую помсту.

Камарыха спынілася пры стале і перабіла гутарку.

— Закусіце,— абярнулася яна да Рыгора.

— За Першае мая — са здавальненнем... За тое, што Пецярбург дапомніў каму след, што фронт не канчаецца там, дзе пачаўся...

— Гэта як разумець?

— Пецярбург сённека быў працягам фронту, во...

Рыгор падаў Міхасю газету, паказваючы на зацемку «Вайна і Першае мая».

Міхась уважліва прабег вачыма па радках паказанага зместу і здзіўлена паглядзеў на Рыгора.

— Дзве тысячы — на пяцьсот тысяч рабочых — гэта не многа. Адных Рыгораў знойдзецца болей...

— Затое, кожны з гэтых дзвюх тысяч ёсць іскра, якое не згасіць сотням Міхасёў...

— Не дачасна, Рыгор, не дачасна... Глядзі во, як тразвейшыя нас французскія сацыялісты робяць... Нават нашы суседзі, фінляндцы...

Праслухаўшы перагаворы мужчын, Камарыха тужліва заўважыла:

— Бедныя, не падзяліць вам, я бачу, знойдзенага багацця... Хі-хі-хі! Грызуцца ды ні рады... Пеце гарбату, ды...

— Рыгор павінен начаваць сёння ў нас. Добра?

— Тады вы паб'ецеся, чаго добрага, калі часамі...

— Добра, Рыгор?

Рыгор нейкі час падумаў, паглядзеў на гадзіннік і ўпэўнена адказаў:

— Дзякую, калі не ў дазол — чаму ж не... Хоць Міхасю прыкра будзе хаваць свайго супярэчніка...

## VIII

Назаўтра раніцою Рыгор з Міхасёвай кватэры паехаў проста на завод. Яму вельмі рупіла хутчэй пачуць, чым і як адаб'ецца ўчарайшае святкаванне на далейшых яго стасунках з заводам. У нутру мулялася нядобрае адчуванне, але Рыгор не патураў на гэта.

Адмечаныя бульварнаю газеткаю дзве тысячы забастоўшчыкаў упісалі новую, светлую старонку ў кнігу вялікага і крывавага змагання за справу працоўных. Куды, сапраўды, задумоўвацца над сваім уласным лёсам?

На небасхіле заблішчалі яскравыя агеньчыкі раднаснага наступнага. Для яго Рыгор здаўна прысвяціў не толькі свае прыватныя інтарэсы, выгаду, а свае сілы і сваё жыццё. Ужо ён не раз і не два бязбоязна ставіў яго пад яўную пагрозу. А зараз?..

Агромністыя гмахі завода адцягнулі да сябе Рыгораву ўвагу. Паравік плаўка спыніўся перад галоў-

ным яго корпусам. Рыгор першым выскачыў з вагона і павярнуў да брамы.

— Рыгор! — пазваў яго хтосьці з грамадкі рабочых, якія стаялі пры браме.

Ён азірнуўся.

Да яго набліжаўся Анікей.

— Запазніўся, таварыш... Можам святкаваць!

— Магу?

— А чаму ж не. Во!

Анікей паднёс да Рыгоравых вачэй рашчотную кніжку.

— Ідзі атрымоўвай палучку і вып'ем за перамогу,— пажартаваў ён.

Да іх падышло яшчэ некалькі чалавек.

— Можна ў лясок куды-небудзь, на палянку,— вымавіў адзін з падышоўшых.

— Якраз і пагода спрыяе,— дадаў другі.

— Дзень прагуляем — снарадаў сотні і няма. Усё чалавек дзесятак захаваем у жывых...

— Калі б адзін усяго дзень не працаваць!.. А бывае — і месяц патарчыш пры варотах.

— Не дачакаюцца гэтага... Самі, ці што, пастануць да станкоў?..

— Знойдуць нашага брата!

— Ды чорта лысага знойдуць... Закруцілі шэйнакатрынку, нябось не абысціся без...

— Без цябе!..

— А то — бач!

— Знаем такіх...

— Спяшайся, Рыгор, з палучкай, а то згіне; мы пачакаем.

Анікей жартаўліва правёў Рыгора да варотцаў у браме і вярнуўся назад.

Калі праз паўгадзіны ён выйшаў з завода, яго чакаў Анікей з двума другімі таварышамі — рэшта рабочых разышлася.

— Памінальным спіскам на дзвярах...

— Яшчэ б не так... А, між іншым, клопату падсыпалі...

— Пляваць... з клопатам...

Рыгор агледзеўся навакол і цішком паведаміў:

— Якава Гіса арыштавалі...

— Ласне? Калі?

— Учора днём...

— Ї надало ж яму...
— А як з нашымі?
— Пакуль не чуваць...
Яны рушылі з месца і накіравалі ў бліжэйшую харчоўку.
Ужо Анікей ачуўся па-за дзвярыма яе, калі, ідучы заднім, Рыгор адцягнуўся ўвагаю да пад'ехаўшага паравіка. Ён на хвілю затрымаўся на месцы, спыніўшыся ўзрокам на белай касынцы сястры, якая вылезла з вагона і накіроўвала да тратуара побач з якімсьці вайсковым чыноўнікам.
— Ліба? — заварушылася ў яго галаве, і Рыгор крута павярнуў назад, пайшоўшы ім наператоч.
— Ліба Шлёмаўна? — няўверана падаў ён запытанне.
Сястра з чыноўнікам азірнуліся на яго.
— Рыгор! Як добра, што мы цябе напаткалі! Павал гэтак прогся цябе ўгледзець!
Чыноўнік бліжэй падышоў да Рыгора і пільна, з лёгкаю ўсмешкаю зазірнуў яму ў твар.
— Не пазнаеш? Паўла Памыйкі? Смагін — майстэрня Шульца. А?
Рыгор барджэй працягнуў яму руку і зрабіў намер да пацалунку. Павал горача, па-сяброўску, смелымі нахіламі галавы злучыў свае вусны з Рыгоравымі.
— Паверыш, не пазнаў. Куды-ы там! Пане мой, зусім іншы чалавек. Люба паглядзець! Паправіўся, памаладзеў, папаўнеў... Палкоўнікам?..
Незаўважна падышоўшы да іх, Анікей палажыў Рыгору на плячо руку і праказаў:
— Мы чакаем. Памятаеш ці забыў?
— Мае знаёмыя і сябры — пазнайся.
Анікей па чарзе падаў руку Лібе ды Паўлу.
— У госці да Рыгора Міхасевіча?
— Трэба адведаць,— адказала Ліба.
— Шкода, што не ў добры час.
— Чаму?
— У Рыгора Міхасевіча атрымаўся нецікавы паварот спраў.
— Як так?
— Сённека атрымаў адстаўку з завода.
— Ласне?!
— Разам, вось. Адплата за святкаванне Першага мая.

— Кінь, Анікей. Ці варта псаваць людзям настрой! — сур'ёзна пераняў таварыша Рыгор.

— А ўсё-ткі...

— Ладна... Вы ўжо прабачайце, што я сёння мушу вас пакінуць адных... Рэдкія, неспадзяваныя госці... Даруй, Анікей...

Анікей развітаўся і павярнуў да харчоўкі.

Рыгор запрасіў Лібу і Паўла да сябе.

Ідучы, Павал у агульных абеглых рысах расказваў Рыгору гісторыю свайго жыцця за апошні год. З яго слоў і таварыскага прызнання Рыгор рад быў дазнацца, што Павал увесь час з моманту расстання з Рыгорам не пакідаў думаць пра яго. Таварыскае пачуццё, нажытае ў Смагіне, ні каліва не астывала. Раз у раз Павал меў намерам зрабіць тыя ці іншыя захады, каб дазнацца Рыгоравага адраса і завясці перапіску. Выпадковыя здарэнні перашкаджалі гэтаму. Ён пэўны, што каб не вайна, то кожны з іх быў бы ў курсе ўзаемнага бягучага жыцця. Вайна ўсё перablытала. Рыгор, магчыма, чуў пра тыя падзеі, якімі справодзілася ў Смагіне мабілізацыя і пераход на захад першых эшалонаў войска. Дзікія сцэны гвалту і разбою пагражалі абярнуць мястэчка ў голыя руіны. Сотні пацярпеўшых займаздароў кідалі Смагін і ўцякалі куды вочы глядзяць. Павал астаўся на нейкі час без працы і спаткаўся з крутнейшымі момантамі ў сваім жыцці. Было спасеннем атрымаць выпадкова прапазіцыю астацца ў дарожным атрадзе дзесятага ўчастка пры трэцяй арміі. Ён аберуч хапіўся за гэту службу і зараз ужо ачуўся ў трэцяй па чыне катэгорыі службоўцаў — дзесятнікам. Работа цікавая і выгадная тым, што абараняе стаўшых да яе ад ваеннае мабілізацыі.

У Пецярбург Павал выпрасіў камандзіроўку, галоўным чынам таму, каб навязаць сувязь з партыйнай арганізацыяй, а калі ўдасца, дык адшукаць Рыгора, угледзецца з ім і ўспомніць разам пераажыты час... Ужо Памыйка трэці дзень у сталіцы. Нечаканая стрэча на рагу Садовай і Неўскага з Лібаю вырашыла спатканне з Рыгорам. О, як ён задаволены гэтым!..

— А ты майго ліста не атрымаў?

— Ты мне пісаў?

— Даруй, што запознена, усё ж напісаў табе і чакаў адказу да сёння.

— Цікава! Дзякую за памяць... Ды што ж зробіш — ліст, напэўна, мяне не застаў у Смагіне.

— Але цікава,— перабіла ўжо ў Рыгоравым пакоі Ліба: — я неўспадзеўкі ледзь не збіла Паўла з ног; нясуся так і толькі намерылася завярнуць да Анічкавага моста, як ён зірк на мяне і перагарадзіў дарогу. «Выбачайце», кажа, а я, вылупіўшы вочы, гляджу яму ў твар і, як непрытомная, заліваюся смехам. Ані думкі, што маю неспадзяванку бачыць Паўла. І толькі яго добрая памяць выручыла абаіх... Я ўжо казала яму ў вочы, які ён, сапраўды, стаў красавец!

— Кіньце-э, Ліба, жарты.

— Не верыце?

— А, бач, задаволены,— пакпіў Рыгор.

Малады, здаровы рогат прайшоў па пакоі...

Яго перабіў асцярожлівы стук у дзверы.

Яны змоўклі і настаражыліся.

— Хто там?

— Рыгор Міхасевіч, гэта я, Сарафіна Хлораўна. Прабачце, на хвілінку. Учора вечарам да вас наведвала вось тая барышня, што ўжо колькі разоў была ў вас з вашым таварышам і... прасіла перадаць — сёння раніцаю паехала ў Маскву.

— Рыма?

— Хто яе ведае, я ж імені не пытала... Прабачце, Рыгор Міхасевіч.

— Гэта хто такая? — пацікавіўся Памыйка.

— Рупіць? — пасмяялася Ліба.

— Ды так... Знаёмая майго таварыша. Мо, памятаеш гэткага, Петруся?.. Той самы, да якога я прыехаў сюды; ён у Маскве зараз і выпісаў яе туды.

— Ага-а... Гэта я разумею...

— Што ж тут дзіўнага! — заўважыла Ліба.

— Ніхто не кажа... Ну, шчаслівай дарогі!..

— А вось, як будзе з намі?

Ліба зацікаўлена разглядала Рыгораў пакой. Кожная малапрыкметная рэч прыцягала яе ўвагу. Завоканны пейзаж асабліва ёй падабаўся, і яна неадрыўна ўглядалася ў яго, стоячы пры акне.

— Добрае вы месца, Рыгор Міхасевіч, выбралі для кватэры! Та-ак! — праз нейкі час уставіла яна ў Рыгораву гутарку з Паўлам.

— Добрае, але, бачыце, трэба расставацца.

— Чаму? — запытаў Павал.

— Хіба забыў, што я ад сёння стаў вольным грамадзянінам?

— Ах, ты пра гэта.

— А я нічога б не мела, каб хоць тыдзень які пажыць вольнай у Пецярбурзе. Мне так, ведаеце, абрыдла мая служба, што я... Толькі нідзе не дзенешся... Да бацькоў не вернешся — у іх саміх няма чаго есці, а скінь касынку — адразу ж мусіш кідаць Пецярбург. Не цікава!..

— Кіньце, Ліба Шлёмаўна, кіньце-э... Адкуль на вас падзьмула гэтай роспаччу?..

— Сапраўды кажу. Трэба мець валовыя нервы, каб дні і ночы засаб — засаб чуць перадсмертныя крыкі і енкі ўміраючых людзей, бачыць іх патухлыя, безнадзейныя ўзрокі, развітальныя, поўныя жаху споведзі, успамінкі... Не-э... Гэта пекла, гэта сад катаванняў. Я не сплю, мару, тамлюся ад страшных зданяў... Што варта мая дапамога... мая спагада, ласкавае слова, міласэрная... Гэ-эх-х!.. Забярэце-э мяне дзе ў іншае месца, прашу вас!..

Ліба, уся заружавеўшая ад злосці, ахопленая нервоваю трасучкаю, якая моцна сціснула яе белыя, пруткія далоні ў цвёрдыя кулакі, скрывіла круглыя чырвоныя губы, звычайна зложаныя ў форму маленькага сэрца, супыніла разбег узрокаў.

— Кіньце-э, таварыш...

Рыгор умольна зазірнуў ёй у твар і палажыў вышэй локця яе рукі сваіх пяць моцных, мазалістых пальцаў.

— Сантыментыкі, якіх жыццё не шануе...

— Кабеты-ы! Не гэтым бярэцца перамога над жыццём, не... Ліба Шлёмаўна...

— Брава, Рыгор, брава... Люблю, ад сэрца люблю і шаную тых, хто смела пазірае ў расчынены твар жыцця... Люблю!.. Памятаеце, якаво мне жылося ў Смагіне? Выйсці сароміўся на вуліцу, а між тым — надзеі выручылі. Майце драцяныя нервы і каменнае сэрца...

— Словы! Словы, як...

— Дык хочаце, едам са мною назад у Смагін? Можа, ужо не ў самы Смагін, але...— задаволены знойдзенай парадзе, рэзва праказаў Павал да Лібы і следам абярнуўся да Рыгора.

— Рыгор? Табе ж проста латва — з месца на мес-

ца. Зраблю рэкамендацыю, і ты праз тыдзень начэпіш вось гэткія палеты...

Ліба паступова ўвайшла ў сябе і зноў з дзявочым маладым захапленнем глядзела на светла-зялёную самачыстую зелень дзярэў.

— Рыгору не варта пакідаць Пецярбурга...

— Ваша думка, Ліба?

Яна не адказала. Тады Павал удвойчы абярнуўся да Рыгора:

— Падумай... Узваж усе даныя за і супроць... Пецярбург не ўцячэ — у любы момант ты можаш быць у ім. Захочаш кінуць службу — калі ласка; а яшчэ лепей — узяў і перавёўся... На парозе лета — што патраціш выехаўшы? Затое пацікавішся, як і чым праломліваецца вайна ў правінцыі. Паглядзіш, што там чаўпецца. Магчыма, бачыцьмеш сваю мясціну... у апошні раз...

— Не кажы, Павал — ведаю... Адчуваю і ваабражаю... Так — падумаю над тваёй прапазіцыяй... Ты яшчэ доўга астаешся ў Пецярбурзе?

— Не болей тыдня. Мне яшчэ трэ ўладзіць справы з камітэтам, узяць ад іх літаратуры і дагаварыцца яшчэ аб некаторых справах.

— Хопіць часу на раздумы.

— Так, хопіць... Яшчэ паспеем выдумаць штокольвечы і для Лібы Шлёмаўны...

— Наперад пра сябе думайце-э...

Яна падышла да дзвярэй.

— Дайце, пойдам куды, каб разагнаць сціснуўшы мяне сум... Га?

Хлопцы паслухмяна пачалі збірацца да выхаду.

## IX

Першыя дні безрабоцця нічым асаблівым не адбіліся на Рыгоравым настроі. Ён прачынаўся на свістікі сірэн, пасля яшчэ на нейкі час засынаў. Уставаў з пасцелі а дзесятай гадзіне, піў гарбату і выходзіў у горад. Часамі першы прыходзіў да яго Анікей, тады яны разам распланоўвалі дзень і яго праграму выпаўнялі па магчымасці поўнасцю. У гэтай праграме асноўным пунктам было спатканне са знаёмымі, вызнаванне апошніх навін ▪ рабочага жыцця, з жыцця грамад-



Жонка пісьменніка Надзея Сцяпанаўна.

скіх установ. Некалькі разоў яны адведвалі раённы камітэт партыйнай арганізацыі, з якім увесь час яны падтрымлівалі кантакт, бывалі ў культурна-асветных установах, у будынку графіні Панінай, наведвалі перасоўны тэатр Гайдэбурава.

Весткі пра стан рабочага рынку таілі ў сабе не дрэнныя перспектывы, і гэта тупіла абвостранасць іх палажэння. Праўда, ужо на чацвёрты дзень пасля іх разліку ў горадзе пайшлі ўпартыя чуткі наконт мабілізацыі ратнікаў апалчэння другога разраду. І Рыгор і Анікей кожны падлягалі, хоць і не ў адзін час, пад гэту мабілізацыю. Анікеевы гады, магчыма, супалі б не з першым прызывам, але ўсё залежала ад ліку мабілізаваных гадоў. Гэтае пытанне ўставала і перад Рыгорам, нягледзячы на тое, што ён ужо доўгі час жыў не па сваіх дакументах. Абодвум зусім не ўсміхалася магчымасць ачуцца ў шэрагах арміі і нясці сябе на забой немаведама за што і за каго.

Погляды на мэты і сэнс вайны ў іх абодвух былі аднакава рашуча адмоўнымі. Не толькі абаронец Міхась Камар, а нават і не зусім свядомы «паражэнец» Якаў Гіс, ужо пацярпеўшы, падпадалі са сваімі поглядамі на бягучы момант пад вострую крытыку Рыгора.

З каразлівай настарожанасцю лавілі абодва пакуль рэдкія весткі пра нездаволенне вайною сярод салдат і нават сярод буржуазна-грамадскіх колаў насельніцтва. Чуткі пра дызертырства з фронту яны разглядалі, як асаблівую форму актыўнага пратэсту супроць вайны. Самы факт іхняе працы па загатоўцы снарадаў служыў ім папрокам у спрыянні вайне.

Але тут ужо справа датыркала другога — барацьбы за існаванне. Як-ніяк, а побач з гэтай барацьбою можна было весці разбураючую працу на франтах. Болей таго, пазіцыі, якімі былі заводы, захоўвалі сабою сілу, гатоўнасць і базу для перавярнення вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую. Куды ж, чаму і навошта здаваць гэтыя пазіцыі?

Анікей пры абгаворы гэтага вяртаўся часамі да свае сям'і, радзей успамінаў Рыгор мацеру.

— Трэба абмінуць падыходзячую мабілізацыю.

Калі на сёмы дзень безрабоцця Анікей пахваліўся, што ў яго клюе ўладзіцца на другі завод — Рыгор яшчэ не меў пэўнага рашэння наконт Паўлавай прапа-

зіцыі. Магчыма, што яе наяўнасць, падмацованая Петрусёвымі словамі пры апошнім спатканні, закалыхвала яго цікавасць да складзенага становішча. Тым не меней, Рыгор патураў дбайліваму стаWhile Анікея знайсці хутчэй працу. Ён быў задаволены, калі перспектыва гэтага стала праясняцца.

— Націскай.

— Націснеш, калі цябе ціснуць...

Хутка Анікей паведаміў Рыгора пра выпадак арышту трох разлічаных, як вайсковаабавязаных. Гэта здарэнне сведчыла пра шмат сур'ёзнейшае, чымся было да гэтага. Ускладненае палажэнне заставіла Анікея перамяніць кватэру, а Рыгора — рашуча і безадмоўна прыняць прапазіцыю Паўла.

— Я пакідаю, браце Анікей, Пецярбург.

— Нават?

— Так, рашыў на нейкі час паступіць на службу ў дарожны атрад.

— Якім чынам?

— Здарылася. Памятаеш чыноўніка, з якім я цябе знаёміў — яго рэкамендацыя.

— Дуй. Чаго табе шкадаваць і каго пакідаць?

— Шкадую Пецярбурга.

— Ха-ха-ха! Камяніц? Дома папярэдняга заключэння?

— Шкадую адрывацца ад рабочых гушчаў, якія з дня на дзень пачынаюць разгортваць новыя страніцы гісторыі.

— Іх знойдзеш усюды...

— Ведаю, але Пецярбург асяродак, месца, з якога забурліць кіпучы гейзер.

— Магчыма. Няхай жа пырсткі яго разлятаюцца далёка, навакола...

Пасля гэтай гутаркі з Анікеем, Рыгор пайшоў да Паўла Памыйкі. Той растрывожаным вяртаўся да сябе, калі яго Рыгор нагнаў у калідоры гатэля.

— Еду, Павал, з табою.

— Надумаў? — няўверана запытаў той.

— А мо сітуацыя змянілася? — выпрабаваў Рыгор таварыша, чуючы сухасць у яго запытанні.

— Го, не... Праходзь у пакой... Я меў досі непрыемную гутарку ў міністэрстве шляхоў. Погань — толькі нервы псуюць... Каб ведаў — нізашто не зайшоў бы...

— Плюй, калі на гутарцы кончыцца,— падбадзёрыў Рыгор.

— Ды я ўжо не раз гэта рабіў... Я, ведаеш, чуць на большае не рашыўся. Ужо кулак свярбеў па крэцінистай скроні начальніка стала... але, гад, адчуў і знік... Ёсць весткі, што дзесяты атрад пераехаў далей на ўсход,— дакончыў Павал крыху спакайней.

— А што ты вырашыў ехаць, то не памылішся,— не даўшы замоўкнуць папярэднім словам, працягнуў ён гутарку далей.

— Доўга думаў... радзіўся... Шкада Пецярбурга... Але ўсё ж, еду, Павал...

— Рыхтуйся на нядзелю.

— Хоць зараз... Мне не трэба куфэркаў пакаваць. Стаю — еду... Адно бы, рупіць...

— Што?

— Не размінуцца б з маццерай... Старая, напэўна, збіраецца ў бежанцы — куды ж ёй накіравацць, як не да сына? Прыедзе, а тут...

— Так, думай... Усё-ткі маці... Хоць, можа, у гэтым і хаваецца крыху сентыментальнасці, але то з погляду непрытомных і фальшывых людзей... Я...

— Еду, Павал... Радзь, што трэба мецць з сабою...

— Білет, па-першае, а там — што ўпадабаецца...

— Не без гэтага ж...

— У нядзелю тады; а дзесятай гадзіне раніцы будзь на вакзале. Або не стрэнемся, хіба? Я ўжо свае справы амаль што ўладзіў...

Умовіўшыся наконт паездкі, яны доўгі час правялі ў гутарках на іншыя тэмы і ўжо зусім на змроку выйшлі з гатэля.

На вуліцы яны сустрэлі грамаду маніфестантаў.

— У чым справа? — абярнуўся Павал да першага стрэчнага.

Той не паспеў адказаць, як на іх наскочыў газетчык і распеўна прагукаў:

— Італія абвясціла вайну кайзеру. «Капут немчуры». «Напружаныя бойкі на расійска-аўстрыяцкім фронце».

Павал купіў газету, і яны ўдвух запоем прачыталі выдзеленае буйнымі літарамі паведамленне пра далучэнне Італіі да вайны.

— Яшчэ не лягчэй,— уголас незадаволена выказаўся Павал.

— Што вы сказалі? — прагудзела ў іх над вушмі.

То запытаў незаўважна падышоўшы да іх здаравенны, з доўгімі жоўтымі бакенбардамі і брытай барадою, шыракатвары і плюскатаносы палкоўнік.

— А вам якое дзела да таго? — задзёрыста адазваўся Рыгор.

— Тэўтонскія агенты! — яшчэ вышэйшай нотай вылаяўся палкоўнік.

— Мясаедаў...

Хлынуўшая на іх чарада людзей адціснула палкоўніка болей сажня ўправа. Рыгор з Паўлам павярнулі ў бок Неўскага, напрамкам за разрэдзеным хвастом маніфестантаў.

На Неўскім наглядаўся той жа падвышаны настрой. Весткі з Італіі скланяліся на ўсе лады, служачы тэмаю для агульных гутарак. Па той непамерна раздзьмутай радасці, якая ахапіла задзёрыстую патрыятычна-гардлівую буржуазію і ваеншчыну, можна было судзіць, якое глыбокае нявер'е ды безнадзейнасць справодзілі зацягнутую вайну.

— Няхай цяпер папатужыцца Вільгельм! — разліваючы па тлустым чырвоным твары сытую ўхмылку, цешыўся якісьці таўсцяк, зазіраючы Паўлу ў вочы.

— Так, ёсць чаго тужыцца,— адказаў Павал.

— А вось калі Амерыка жахне — тады...

Яны абагналі няпрошанага размоўніка і перайшлі на другі бок праспекта.

Непадалёку ад іх віднелася спынка трамвая. Павал раптам хапіўся за галаву.

— Ага! Я зусім забыў, што яшчэ мне трэба зайсці ў адно месца па даручэнні дзелавода. Ты пачакаеш?

Рыгор спыніўся.

— Я думаю адпраўляцца на кватэру. Трэба перамовіцца з гаспадыняю. Для яе будзе знянацкім мой ад'езд...

Павал пачакаў, пакуль Рыгор сеў на трамвай і сам пайшоў напрамкам да вуліцы Жукоўскага.

Ён падыходзіў ужо да месца, як успомніў, што забыў парадзіць Рыгору купіць высокія рускія боты. Але, завярнуўшы ў дзверы, парашыў, што яшчэ на гэта хопіць часу, і заспакоіўся. Гэта было другарадным — Паўла здавальняла Рыгорава згода паехаць з ім разам у дарожны атрад. Толькі б не было замінкі з боку дзелавода. Магчыма...

У гэты момант Рыгор таксама стаяў перад дзвярыма ў сваю кватэру, чакаючы, пакуль Сарафіна Хлораўна іх адамкне.

— Што ў вас новага, Рыгор Міхасевіч? — рупліва і гасцінна запытала Сарафіна Хлораўна.

— Розныя навіны!

Гаспадыня настаражылася, зрабіўшы на твары міну, у якой было цяжка разабраць, ці ў ёй выказвалася цікавасць да навін, ці любаванне пасуседам.

— Якія ж, цікава, Рыгор Міхасевіч?

— Першая — гэта Італія абвясціла немцам вайну...

— Ой жа! Як добра, што нарэшце паганым немцам прыйдзе капут...

Кабета малебна зложыла рукі.

— Ну, то агульная, але, вось, вашы-то справы, вашы...

— Дзякую, Сарафіна Хлораўна... Ідуць...

— Ідуць... Пара працаваць, Рыгор Міхасевіч...

Яна правяла Рыгора да яго пакоя.

— Вярней — едуць, Сарафіна Хлораўна, едуць...

Ён прайшоў у пакой і пакінуў адчыненымі дзверы. Гаспадыня стала ў іх, як партрэт у рамках, і напружана чакала далейшага паведамлення ад Рыгора.

— Я павінен вас, Сарафіна Хлораўна, пакінуць. І буду прасіць, каб вы зрабілі падрахункі...

— Што вы кажаце?!

Гаспадыня, мэрам збаяўшыся гэтага, азірнулася на калідор і крыху прычыніла дзверы.

— Так нечакана?

— Нечакана, Сарафіна Хлораўна...

— Назусім паедзеце з Пецярбурга?

— Не спадзяюся, каб не вярнуцца. А таму і вас прасіцьму паглядзець за ўсім тым, чаго я не магу з сабою ўзяць... Усё здараецца... гара з гарою не сходзіцца...

— А чалавек з чалавекам заўсёды... Шкада мне вас, Рыгор Міхасевіч... І вы далёка едзеце?

— Не блізка.

— Гм...

Яна моўчкі пастаяла яшчэ хвілін з пяць і з апушчанаю галавою павярнула з дзвярэй.

Рыгор зачыніў дзверы, абавёў узрокам свой пакой і рашуча сам сабе праказаў:

— У нядзелю а дзесятай!

## X

— Пішэце, Рыгор Міхасевіч, пішэце, прашу вас,— стоячы ў адчыненым акне, прасіла Рыгора яго гаспадыня.

Ён яшчэ раз зняў ёй капялюш і, з куфэркам у руцэ, і пакункам у другой, павярнуў у браму.

Сарафіна Хлораўна махала белаю хусцінкаю і не аднімала ваччу, пакуль Рыгор выйшаў на вуліцу і схаваўся за брамаю.

Ціхая шырокая вуліца выглядала святочна. Наўсцяж яе можна было бачыць лічаных пешаходаў. Дзесьці ўправа ад дачы Сарафіны Скрынкінай чулася фартэпіянная музыка.

Яскравай сонечнай раніцай, пад распуканымі дрэвамі саду і палісадніка, мілагучныя зыкі якоесьці незнаёмае арыі навявалі асалоду і казыталі Рыгорава нутро. Ці не працяг гэта тае музыкі, якая вітала год таму назад яго прыезд у Пецярбург? Калі б яна мела здатнасць уплывовасці на людскі лёс — то была б добрая адзнака. Рыгор не паскардзіцца на пражыты ў Пецярбурзе час. Яго жыццё дапамінала музыку, але не перабояў і вібрацый струн, а кіпення пачуццяў ды натхнення, як водгуку законаў рабочага змагання за шчаслівае, адпаведнае працаўніку існаванне. Гэта музыка яго жыцця і зараз не астыла, не здала свае напружанасці, а толькі мяняе варыяцыю.

— Рамізнік!

Заглядзеўшыся на каняку, якая нядбайна вывозіла яго з тераточнае вуліцы, лахматы чалавек на каламажцы руплíва затузаў лейцамі. Каняка заварушылася, натужылася і пабегла да Рыгора.

— На Царскасельскі вакзал!

— Паўтара рубля.

— Рубель?

— Што вы, гэткая далячынь. Падбаўце-э.

— Яшчэ дваццаць капеек?

Рыгор намерыўся ісці далей, ды яго прыпыніў чыйсьці вокліч. Ён азірнуўся і ўгледзеў кароценькага чалавека і бежанскага камітэта.

— Выбачайце, я па адным пытанні да вас,— вітаючыся, праказаў ён да Рыгора.— Вы спяшаецеся недзе?

— Так, я зараз еду на вакзал, а там...

— Далёка?
— У Мінск! Па справах!
— На працу?
— Так...
— Цікава, вельмі цікава, гм... Толькі, бачыце, час такі, што там зусім небяспечна...
— Давайце едам! — перабіў рамізнік, звяртаючыся да Рыгора.
— Сядайце, калі па дарозе,— запрапанаваў Рыгор кароценькаму чалавеку.
— Як вам сказаць... я та не ў той бок, толькі... рад вас правясці да Каменаастроўскага...
Яны ўселіся, і рамізнік з вокрыкам замахаў над абабітаю, прывычнаю да пугі, канякаю.
— Цікава... Мне так хочацца туды, так цягне, што здаецца, кінуў бы ўсё і хоць на гадзіну-другую... Віленшчына, узгоркі, малады лясок, змяістыя ручайкі па мурожных паплавах. Толькі — нельга. Вайна. Ты туды — а тысяча адтуль. Бяда, бачыце, страшылішча... Яшчэ немаведама, як будзе праз лета. Магчыма — зруйнуюць край дашчэнту. Вайна ўсё далей заблытваецца...
Рыгор няўважліва слухаў суседа і раз-поразу адцягаўся вачыма на мігаўшыя побач гароды, масты, будынкі заводаў.
Вось знаёмы паркан, вароты ды сумны, цёмна-чырвоны фон такарных і слясарных майстэрань, у якіх ён працаваў больш года. Нядзеля — і за парканам ціха. Між жалезнае брамы таўчэцца сторож, а наводдаль гарадавік. Перакідаюцца словамі, жартуюць.
— Бывай!
Маланкаю праносяцца важнейшыя, больш выразныя моманты, звязаныя з працаю на заводзе. Памер майстэрні, цёмныя запыленыя вокны. Трансмісіі, раменні, станкі. Скрыпучы і бразгучы кран за беламі, над сярэдзінай будынка, не падзеленаю на паверхі. Дзесяткі знаёмых твараў. Позы пры рабоце. Майстар і задумлены, адваротны і праціўны ваенны кантралёр, палкоўнік — астатняя гутарка Рыгора з партыйным камітэтам.
Мінулае.
— Прагналі з завода — вось з гэтага самага і павінен пакідаць Пецярбург,— паведаміў Рыгор кароценькаму чалавеку, ткнуўшы пальцам у бок завода.

— Прагналі? Баставалі, пэўна, ці за іншае што?

— Так, за забастоўку ў Першае мая.

— Вось на іх ліха, падумаць...

— Еду, а магчыма, маці едзе сюды... Крыжуюцца дарогі, так і гэтак, уздоўжкі і ўператоч. Адны сюды, іншыя ў другі бок, некаторыя ўгору, другія ўніз... Ага... якраз дарэчы, што я з вамі стрэўся... Так... Я буду вас шчыра прасіць, калі, часамі, мая маці трапіць у камітэт — дайце мне знаць, а яе прытуліце на нейкі час. Старая згіне адна. Добра?

— Го, чаму не! Хто б мог адмовіцца... А вы не ў сваю дарогу? — запытаў кароценькі чалавек.

— Не. Маё будучае месца перасунулася за Мінск. Я перш разлічваў заглянуць у сваё мястэчка, а зараз... Ды ў мяне з паліцыяй не ўсё гладка.

— Ага-а!

Кароценькі чалавек адвярнуўся ў бок шырока разлёгшае Вялікае Неўкі, праз якую яны праязджалі. Цёмная вада адбівала яскравыя ранішнія праменні сонца.

Кароценькі чалавек хапіў Рыгора за руку і моцна яе пацiснуў:

— Дык едзьце здаровы! Жадаю вам усяго найлепшага! Пішэце, што чуваць, пішэце... Рамізнік, на хвілінку спыніся!

Кароценькі чалавек злез, не даехаўшы да вызначанага месца, і яшчэ раз выказаў цёплыя пажаданні Рыгору.

Рыгор падзякаваў і загадаў рамізніку шпарчэй ехаць.

Каняку цяжка было ўзбірацца на гарбіну Троіцкага моста. Прытупленыя падковы коўзалі па гладкім, выслізганым тарцы. І дарма ў паветры выкручвала розныя фігуры рамізніцкая пуга! Каняка на гарбіну моста ішла дробным, няроўным трухам. Затое Рыгору знаходзілася магчымасць яшчэ раз абласкаць узрокамі разгорнутую веліч цудоўнага вобраза Нявы, Петрапаўлаўскае крэпасці, Узбярэжнай, Біржы, універсітэцкіх будынкаў і Астральных калон — направа, летняга саду, палаца медыцынскай акадэміі, разбегу Нявы з Вялікаю Неўкаю, Ліцейнага моста і нязлічаных труб Выбаргскіх ды Охтэнскіх заводаў — налева. Гэта харастэва Паўночнае пальміры прыкоўвала да сябе ягоную ўвагу і ўплывала на яго настрой маладым задзёрам.

У заглядзенні ён не заўважыў, як каняка апынулася пасярэдзіне моста і ад тузаніны лейцамі — шпарка панясласся да Марсавага поля...

Тым жа тэмпам яны праехалі і дарогу да вакзала.

Рыгор паглядзеў на гадзіннік. Яшчэ аставалася дваццаць восем хвілін да адыходу цягніка. У гэты тэрмін уваходзіла знайсці Паўла Памыйку і, магчыма, калі той не паспеў гэтага, купіць білеты.

Адпусціўшы рамізніка, Рыгор ускораным хадою накіраваў да правых дзвярэй вакзала. Ён вёртка абмінаў сустрэчных і моўчкі ўвільваў ад назойлівых насільшчыкаў.

Раззіраючы па баках, ён ужо быў на ўсходах на другі паверх, калі з першае касы насустрач яму выбегла Ліба.

Белая касынка пракалола яго нутро нечаканай радасцю.

— Нарэшце! — праказала сястра, разняўшы стройныя рукі: — а мы чакаем, а мы трывожымся.

— А білеты?.. Вы з Паўлам?

— Так, ён чакае вас.

— Пэўна яшчэ не позна?

— Ды ўжо садзяцца.

Ліба выхапіла з Рыгоравых рук пакунак, і яны спешна ўбеглі ў перапоўненую людзьмі залу-пачакальню.

Павал іх пільнаваў і не даў заходзіць у натоўп, павярнуўшы да выйсця.

— Вось вашы білеты; Лібе перонны.

Прайшоўшы на зацемнены шкляным навесам перон, Павал панёс у вагон рэчы, а Рыгор з Лібаю асталіся пры вагоне.

— Вы ведаеце, Рыгор, і мяне выпраўляюць ехаць... Паеду на фронт — болей у шпіталі не магу аставацца...

— Іначай нельга? Дык калі ж загадаеце прыйсці вас сустракаць?

— Скора. Паведамлю, зразумела.

Між іх мігнулася трое салдат, уподбежкі шмыгнуўшых у «іх» вагон.

З усходцаў адзін з салдат зацікаўлена паглядзеў на Рыгора і злёгку засмяяўся. Рыгора гэта заінтрыгавала, ды ён нічым не паспеў рэагаваць, бо тут жа выскачыў з вагона Павал.

— Без дзесяці хвілін. Месцы выпалі пры акне.

— З добрымі суседзямі?

— Пагодзімся...

Яны няўверана прайшлі сажняў два наперад, пасля вярнуліся назад на старое месца.

У вагоне пачуўся ўзмоцнены гоман.

— Пойдам займаць месцы. Бывайце-э, Ліба Шлёмаўна! Не ўспамінайце-э ліхам...

Ліба з сумам на твары развіталася з абодвума і адышлася ўбок з гэткім намерам, каб бачыць, як яны будуць ад'язджаць.

У цёмным акне вагона мігаліся людзі, толькі ні Рыгора, ні Паўла не відаць было.

«Няўжо не паладзеце?»

— Царскі, царскі! — раптам вылецела з дзесяткаў вуснаў наўкола Лібы.

І яна ўгледзела, як раптам гуляўшая на пероне публіка пазгушчалася між сцэпак вагонаў, пільна глядзячы ў бок царскага перона.

У надышоўшай маўчанцы выразна чуліся распарадчыя выгукі і наглядалася мігатня людскіх сілуэтаў за малочным шклом сценкі.

Лібу прыціснулі да ўсходцаў вагона. Але яна ўмомант выкаўзнула з натоўпу і апынулася перад адчыненым акном вагона. Каля яго стаялі поруч Рыгор з Паўлам і старанна маталі ў бок Лібы разгорнутымі хусцінкамі.

На фоне Лібінай касынкі аднакава выдзяляліся і паружавеўшы дзяўчынін твар і чырвоны крыж.

«Шчаслівае дарогі, шчаслівае дарогі!» — разгорнена шапталі яе губы, зложаныя ў маленькае, чулае сэрца.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Паскараючы хаду, цягнік пакідаў за сабою ломаныя і няроўныя пуці, цесна здаўленыя процьмаю вагонаў, стрэлкамі, вакзальнымі будынкамі. Стукатня перабегу праз сточкі рэльс і стрэлкі раставала разам з гарадскім шумам.

Хутка сіні дымок скрадаў яркія абрысы многапавярховых гмахаў і башты вадакачак пакінутай сталіцы. Але направа і налева ад бягучага цягніка, мэрам бы знарок, працягаліся будынкі заводаў і рабочых дамоў — гарадскіх застаў. Яны доўгі час не адставалі ад цягніка, а беглі за ім, мерачыся яго абняць дзе-кольвечы за шырокай перадгароднян раўнінаю.

Чорнымі высокімі ценямі высіліся ўгору мнагалікія коміны фабрык і заводаў. Густыя хмары дыму віселі над будынкамі пасёлкаў, над топкімі паплавамі — хаваючы адгон небасхілу.

Ужо ў правым акне, крыху наперадзе, забялелі будынкі царскіх палацаў, аколеных густою шатаю парку, а злева ўсё яшчэ цягнуўся горад. Асобныя яго будынкі, з тымі ж стромкімі комінамі, уразаліся ў цёмна-шэрыя сцены лесу.

Рыгор з Паўлам уважліва разглядалі мігаючыя ў ваччу вобразы. Маладая рунь паплавоў і рэдкіх дрэўцаў, заблуджаныя хутаркі пасёлкаўцаў, роўныя, неаглядныя канавы і дарогі адцягалі іх думкі да сябе. Нечувана, але ўведана, разрываліся ў Рыгоравым нутру крэпкія ніткі сувязі з пакінутымі ўзадзе і яшчэ зусім свежымі гарадскімі абставінамі. Хоць ён не раз і не два пераносіўся думкамі сюдою, дзе мчыцца цягнік, усё ж не чакаў сам, што яго думкі так хутка пацягнуць за сабою яго самога.

Пецярбург моцна трымаў Рыгора ў сваіх каменных абоймах, і Рыгор самахвоць паддаваўся на зрастанне з ім. Нават раніцою гэтага дня, перад тым, як падблізіцца да вакзала, яму не верылася, што ён сапраўды здымаецца з каменнага посцілу смуглых і шумлівых сталічных вуліц.

Ужо на трэці дзесятак вёрст, а ў яго вушшу не сціхае гармонь бурлівага гарадскога жыцця. Стук калёс, шыпенне паравоза і манатонны звон аконнага шкла — ці не тыя, бач, гукі, якімі жыве Пецярбург? Не, яго стыхія ўелася ў Рыгораву істоту, як уядаецца ў цела татуіроўка. Ён ёю прасякся да канцоў пазногцяў.

— Царскае?

У вагоне стала цямней: вакзальны навес затуліў сонечнае праменне. З шэрай ценню прашылася да пасажыраў невыразнае пачуццё насцярожанасці. Бач там, вунь, за непрыветным вакзалам разляглася рэзідэнцыя расійскага самадура-сатрапа. Абкружаны

шчэццю гвардзейскіх шабель і казачых пік, затулены ад свету жалезнымі платамі паркаў і няздрэмнымі вачыма тысячаў шпегаў,— ён мудруе над складанымі спосабамі працягнення свайго крывавага панавання.

Канвульсіўны ўздрыг адвярнуў Рыгора ад вакзальнага перона, на якім тапталіся каля дзесятка падазроных асоб. Рушыўшы цягнік хутка завярнуў за высокія ліпы парку, які адгарадзіў чыгункі ад Царскага Сяла.

Усеўшыся першым між шасцю пасажыраў, Павал пазваў гэта зрабіць і Рыгора.

— Нагледзеўся?

— Досыць!

— Хопіць часу на гэта.

— Ды я не сумняваюся.

У бок Рыгора паглядзелі Паўлавы суседзі. Яны правялі яго ўзрокамі на месца і, калі ён сеў, перашапнуліся.

Рыгор адчуў маленькую ўтому ад гадзіннага стаяння пры акне, і сядзець было прыемна. Не хацелася нічога казаць, каб даць магчымасць уявіць сапраўднасць акольваючага яго.

Ён моўчкі прасядзеў, гледзячы на зялёны Паўлаў мундзір, пакуль цягнік параўняўся з Паўлаўскам.

Пасля, як па праграме, павярнуў узрокі да купкі пасажыраў, што сядзелі ў іх аддзяленні вагона. І цікава — перад ім было чатыры салдаты і двое цывільных. Апошнія, занятыя якойсьцю расцяжнаю гутаркаю, не адгіналіся адзін ад другога. Салдаты, як Рыгор прыслухаўся, гутарылі на незразумелай яму мове. Але самы акцэнт мовы быў яму знаёмы. Ці то проста чуты дзесьці ім голас. Адно з двух — Рыгор прыгледзеўся.

Перш туманна, а хутка ўсё выразней і выразней, як з-пад пэндзля мастака, паўставалі знаёмыя рысы двух твараў. Дзе ён іх бачыў? Рыгор перагнуўся да Паўла і паведаміў пра сваё сумненне наконт двух суседзяў.

Павал неўзначай паглядзеў у іх бок і адказаў, што яны сочаць за Рыгорам і, напэўна, пра яго размаўляюць.

«Запытаю на кожны выпадак»,— намякнуў сабе Рыгор і разняў губы, каб выказаць сам сабою складзены сказ. У гэты момант, мэрам бы адчуваючы Рыгорава хаценне, адзін з салдат пераняў яго запытаннем:

— Вы далёка?
— На Мінск,— адказаў Рыгор.— А вы?
— У сваю часць.
— А дзе яна стаіць?
— У Гомелі.
— Значыць, у наш бок?
— Але.
Салдат мэрам бы не меў чаго далей казаць і крыху памаўчаў. Пасля зусім інакшым голасам вымавіў:
— Мне чамусьці здаецца, што я...
— Вось і мне таксама,— не даўшы яму дасказаць, падхапіў Рыгор.
Салдат зразумеў яго і смялей дадаў:
— Бачыліся?
— Ці не былі вы ў Рызе, часамі? — падаў другі.
— Ага-а? Салдацкая форма мяняе чалавека. Ці, мо, гэта памяць згладжвае...
— Жоўты будынак, памятаеце?
— Во-а! Цяпер ужо...
Рыгор прыўстаў і рашуча працягнуў салдатам руку. Тыя весела рассмяяліся.
— Гэта нашы таварышы, пазнайцеся,— паказаў на сваіх таварышаў першы.
Рыгор прывітаўся і з тымі.
— І трэба ж так неспадзявана...
Ён не даказаў, задумаўшыся над імёнамі знаёмых.
— Даруйце-э, час канчаткова сцёр у маёй памяці вашы... імёны...
— Памятаеце Ромуся і Генрыка? Цесны пакой, украдлівыя крокі за дзвярыма, нашы спрэчкі і... праглівае чаканне стрэчы з...
— Го-а, чаму не памятаць! Яшчэ гэтак нядаўна, хоць разам з тым і так даўно-даўно...
— Гэткі час. Ці мы спадзяваліся на яго?
Салдат, назваўшы сябе Ромусем, паківаў галавою і прамовіў:
— З Рыгі можа нічога не астацца... Ужо немцы каля Віндавы... Заводы прыпыніліся, і паўгорада выехала ў Расію.
— З Рыгі,— а з Курляндыі колькі народу ўцякло! — дадаў Генрык.
— Так, вайна неспагадліва. Страшна падумаць.
— Што тут думаць! Думкі не пасобяць...— махнуў рукою Генрык.

— Або што пасобіць? — запытаў Рыгор.

— Трэба абараняцца, пакуль ёсць магчымасць...

— Ад каго і як?

На Рыгора сярдзіта паглядзелі абодва цывільных. Салдаты таксама пераглянуліся між сабою, але ў іх узроках было болей цікавасці, як нечаканасці гэта пачуць.

— А мы, вось, вымушаны адыгрываць ролю вяк... Рыга, заводы, жанкі — хто іх ведае, як і што, тым не меней бяры вінтоўку і паслухмяна на перадавыя...

— Каб на баронаў дзе-кольвечы ў Ліфляндах, тады б яшчэ...

Ромусь заўзята пацёр рукі і вясёлымі ўзрокамі паглядзеў на Паўла.

— А хто вам забараняе? — умяшаўся ў гутарку цывільны.

— Яшчэ не падышоў час! — адказаў яму Павал.

— Ужо даўно час. Вы паглядзеце, да якое нахабнасці яны дайшлі! Тысячамі расстрэльваюць нашых раненых, па ўсёй Расіі раскінулі густую сетку шпіёнства, падкупаюць нашых генералаў і камендантаў крэпасцей: забраліся ў Пецярбург і нават у Царскае Сяло і... Немчура запаланіла нас духова і фізічна... Але цяпер годзе-э! Няхай толькі амерыканскі салдат пераступіць Атлантычны акіян, як усё пойдзе іначай. Тут пляваць на Балгарыю — яна мала пацягне шалькі, але Амерыка, тая — го-о!

Цывільны забыў пра свайго суседа, падняўся з месца і, махаючы злосна рукамі, расчырванеўшыся, пырскаючы слінаю яшчэ з паўгадзіны, пры агульным змоўку, даводзіў тэорыю блізкага канца вайны. Пад яго зычнымі блытанымі сказамі лёгка руйнаваліся адна за другою дзяржавы нямецкіх хаўруснікаў. Расійскае войска цудоўна вярталася ад рубяжоў Нёмана на прускую раўніну, назад у Львоў і Перамышль, да Канстанцінопаля. І каб не падаспеўшая праверка білетаў — з вуснаў захопленага краснабая яго суседзі пачулі б шэраг нязбыўных здарэнняў, што маляваў іх прытуплены розум.

Праверка білетаў астудзіла цывільнага гаваруна-патрыёта, і ён, як не бывала таго, ізноў ківаўся ў гутарцы перад сваім суседам...

Рыгор, Павал, Ромусь і Генрык стрымлівалі напор смеху, зрэдку азіраючыся на няпрошанага размоўніка.

Каб не зацягнуць яго ў сваю гутарку паўторна, яны паадварочваліся да акна і ўжо цішэй узнялі яе працяг.

Ромусь успомніў некалькі выразнейшых момантаў з іх астрожнага жыцця, паведаміў Рыгору пра некаторых агульных знаёмых. Для Ромуся з Генрыкам было зусім нечаканым пачуць ад Рыгора пра Міхася Камара, Артура Цвібеля і Якава Гіса. Пазіцыя першага ў поглядах на мэты вайны і на адносіны да яе з боку рабочага стану, пераказаная Рыгорам, выклікала ў Ромуся і яго таварышаў адмоўную ацэнку.

Следам Рыгор паведаміў сваіх рыжскіх таварышаў пра ранейшыя і апошнія здарэнні з рабочага жыцця Пецярбурга і заключыў апавяданне сваім разлікам з завода.

— І зараз вы едзеце дамоў? — пацікавіўся Ромусь.

— О, не! Дзе там! Я еду, вось, з таварышам на службу ў дарожны атрад.

— Чаго ж, гэта лепей, як на фронт. А мы,— ён азірнуўся на цывільных,— як пацукі папалі ў пастку, каб не камандзіроўка з палоннымі, магчыма, купалі б нашы целы спакойныя хвалі Нёмана. А зараз, вось, нас пераводзяць у другую часць — мо, нейкі час затрымаемся ў тыле...

— А хто вам перашкаджае пратрымацца як найдаўжэй,— парадзіў Рыгор.

Салдаты спачуваюча ўсміхнуліся.

— А ўжо ж, самі не будам напрашвацца,— прызнаўся Генрык.

Цягнік усцішаў хаду. Яны ўсе разам згрудзіліся ў акне, ловячы ўзрокамі станцыённыя будынкі.

— Новыя Сакольнікі?

— Яшчэ толькі Дно...— адказаў, прашмыгнуўшы да дзвярэй, кандуктар.— Дваццаць хвілін стаянкі! — дадаў ён з выйсця.

Пасажыры рушылі з вагона.

Рыгор ды Павал разам з усімі.

Двое салдат асталіся пільнаваць месца.

## II

У набітай вайскоўцамі і рэдкімі цывільнымі зале другое класы пахла свежаю капустаю, печаным мясам і людскім выдыханнем. Рыгор з Паўлам ды з знаё-

мымі салдатамі рашуча праціснуліся да буфета, заказалі абеды і вярнуліся да толькі што апарожненага стала.

Нёсшы чамусьці чатыры талеркі гарачае супы рыжы, запацелы і раззлаваны кельнер супыніўся каля іх. І ці па зговорцы, ці таксама выпадкова, яго калега зараз жа прынёс другое. Гэткім чынам абед уладжыўся ў дванаццаць хвілін і яшчэ хвілін каля дзесяці аставалася ў загоне.

Рыгор першым вылез з-за стала і накіраваў на перон. Павал з салдатамі не адставалі.

І толькі яны выйшлі з залы на калідор, як іх перапыніла грамада людзей. Наперадзе іх, хапіўшы за руку, здаравенны станцыённы жандар вёў нейкага мужчыну. Апошні смела і рашуча нападаў у словах на жандара, заўзята махаў вольнаю рукою і не намерваўся адыходзіць ад прадстаўніка ўлады. Следам за ім, раздражнена лаючы чыгуначныя парадкі, ішлі іншыя, наколькі відаць было, таксама пасажыры.

— У чым справа? — пацікавіўся Ромусь.

— Жандар павёў складаць пратакол,— адказаў задні з грамадкі.

— За вошта?

— А ласне разбярэшся?

Яны болей не распытвалі, каб не займаць праходу, і выйшлі на перон.

Гадзіннік паказваў блізкі адыход цягніка. Публіка руплівa бегла ў вагоны, але кожны падбягаўшы да дзвярэй супыняўся. Некаторыя спакойліва адыходзілі назад.

— Цягнік затрымоўваецца на сорак хвілін,— паведаміў іх кандуктар,— не спяшайцеся.

Падзяліўшыся на пары, салдаты асобна, а Рыгор з Паўлам асобна, яны згубіліся адны ад другіх у сумятні пасажырска-пероннага натоўпу.

— Сімпатычныя людзі твае латышы! — адазваўся Павал.

— Так, я знаходзіў у іх блізкіх сябраў. Бывала ў астрозе...

— На хвілінку! — перанялі Рыгора на паўсказе. Яны абярнуліся і ўгледзелі тых, пра каго гаварылі.

— Мы сустрэлі Караля, памятаеце?

Рыгор задумаўся.

— Якога гэта?

— А вартаўнік пры заводзе ў Рызе!
— Няўжо?
— Стары жабруе па падвоканні вагонаў...
— Караль? Дзе ж ён?
Яны павярнулі назад і адразу наткнуліся на згорбленага, без шапкі, у моцна паношаным паўхалатку чалавека. У адной руцэ ён трымаў тоўстую сукаватую крывулю, у другой працягаў наперад нешта дапамінаўшае капялюш. Стары нясмела падняў заўпалыя ў глыбіню арбітаў вочы і невыразна паглядзеў на абступіўшых яго чатырох маладых чалавек.
— Дзядзька Караль? — запытаў Рыгор.
— Га? Ён, нябожа... Адкуль жа, сыне, мяне знаеш? — тым жа, добра знаёмым Рыгору голасам, поўным раптоўнае надзеі і чаканняў, адказаў жабрак.
— Рыгора Нязвычнага памятаеце?
— Рыгора Нязвычнага? Цяжка, сыне.
Стары хвілінку памаўчаў, крыху адхіліўшы галаву ўбок, мэрам бы шукаючы каго, пасля пэўней адказаў:
— Прыпамінаю крыху. Так. нябожа... Во-а, ці ж няпраўду я казаў табе?.. Здаецца, табе я казаў, што маё жыццё... Бачыш... Ужо месяц, як у дарозе — бежанец... Дзесяткі год служыў на заводзе, сцярог чужое дабро, вартавым сабакам дняваў і начаваў пад варотамі, а за ўсё — торба-а...
Каля іх сышлася грамадка цікавых.
Павал заўважыў, як некалькі разоў з розных бакоў пралазіла да іх мопсавая галава здаравеннага жандара.
На тэму пра старога расцягнулася рэзвая, рознамаўная гутарка. І стары Караль, ужо бачыўшы не гэткія зборы людзей, зацікаўлены, можа, апошняю супольнаю ўвагаю да сябе, крыўдліва, з роспаччу ў голасе казаў:
— Сабакам трымалі і як сабаку выгналі... Гэта завецца людскімі адносінамі... Няхай бы ў каго-кольвечы знайшлося каліва спагады, няхай бы адзін з мільёнаў адкапаў праўду і смела паказаў яе бяздушным і самазадаволеным — во, стары варты таго, каб за яго працу дагледзець рэшткі жыцця... Дык не... Машыны — сырызна для апрацоўкі, вугаль і розная гніль — у вагон, а чалавек — на палцы... Памерці ніхто нікому не шкадуе. Калі ж да мяне — не патрэбна гэта-

га,— я сам сабою жыў і самотна памру, толькі павінны прызнаць, што я жыў. Я меў права жыць, бо быў народжаны бацькамі — вось у гэтым, дзеткі, людская да мяне неспагада... Ад Рыгі да Дна — месяц хады. Дажджом, гразёю, лесам і на ветры... Бежанец... Чаму і пашто — ласне разбярэшся? Быў завод — яго знялі з месца, разабралі на часткі і дзесьці дзелі. Былі яго гаспадары — і тых няма... А завод даваў грошы, расціў капіталы, багаціў людзей — няўжо на тое, каб мне жабраваць?..

У Каралевай развазе, і вострай і халоднай, паступова расталі разнастайныя рэплікі аколіўшых яго. Многія сур'ёзна слухалі старога жабрака.

Калі першы званок перабіў яго нямудрую, але моцную гутарку, дзесятак пальцаў ціснулі прыгатаваныя яму ахвяры. Хутка круглыя манеты паляцелі ў тое, што раней звалася капелюшом, і Каралева галава чуць прыкметна вітала іх дзвенгі.

Рыгор з таварышамі зрабілі тое, што іншыя. Але гэтага было мала. Каралевы словы асабліва чула ўспрымаліся Рыгорам. Ён адзнаваў, што стары накіроўваў сваю гутарку, як і раней, праз яго да ўсіх. Рыгор ведаў, што Караль бачыў у ім чалавека, які знарочыста з'яўляўся перад старым у моманты, калі пацярпеўшае сэрца шукала шчырага спачування.

— Старога не можна пакідаць адным! — уверана сказаў ён да таварышаў.

Павал бяспомачна пацяў плячыма. А салдаты дабрадушна ўсміхнуліся.

— А што яму пасобіш, апроч няшчаснага медзяка? — выказаўся Ромусь.

— Гэтага мала. Мы павінны...

Тут жа Рыгор выняў з кішэні кусочак паперы і каранадаш і ўспешку напісаў:

«У бежанскі камітэт. Пецярбург, Знаменская. Калі ласка, прыміце гэтага старога на дагляд у камітэце. Ён таксама бежанец, як і другія, і не мае дзе прытуліцца. Буду дзякаваць. Нязвычны».

Загарнуўшы ў напісаную цыдульку змятую траячку, ён падаў гэта Каралю і папрасіў старога:

— Купляйце білет і едзьце ў Пецярбург. Там мо знойдзеце прытульнае месца для адпачынку.

Караль тым жа кіўком галавы падзякаваў Рыгора і завярнуў да вакзала.

Адышоўшы крокаў пяць, ён раптам вярнуўся назад, паглядзеў на тое месца, дзе толькі што стаяў ако給 леным людзьмі, і памахаў старэчаю рукою на вокны вагонаў.

Рыгор з таварышамі не заўважыў гэтае сцэны. У гэты момант яны пільна глядзелі на грамаду людзей, якая гамузам выпірала на перон з трэцяе класы вакзала. Другі званок, саладжава сярэбранай палоскай пралёгшы ўсцяж цягніка, мэрам бы затрымаў яе пры сцяне вакзальнага будынка.

Людзі выраўняліся пярэднімі радамі ў стройную шарэнгу. Праглівыя ўзрокі іх вачэй, атуленых, як у аднаго, густымі брывамі зверху, а гусцейшымі бакамі з бакоў і знізу, стромка падалі на цягнік.

Раптам выразная фігура жандара ў справоджанні якіхсьці станцыйных чыноўнікаў разважліва прасунулася паўз грамаду, мэрам бы падлічаючы колькасць яе, і знікла за рогам будынка. Услед яму павярнуліся сотні галоў.

Доўгія бароды пярэдніх зліліся ў адзін чорна-белы шаль, хвальністымі брыжамі аблёгшы іх вузкія чорныя польты. Ззаду заматаліся рэдкія белыя галкі галоў.

Ужо трэці званок сагнаў пасажыраў з перона, калі Рыгор з рушыўшага цягніка ўгледзеў, як грамада людзей кранула з месца, рассыпаючыся па пероне. Дзесьці за станцыяй прагудзеў гудок цягніка, які спяшыў на Дно.

— Колькі гэтых бежанцаў! а-я-ай? — праходзячы вагонам, ні то сам сабе, ні то ўсім пасажырам паведаміў кандуктар: — кожны дзень хмары. Нашы, палякі, яўрэі — едуць і ідуць, і ідуць і едуць, куды і што — немаведама. З Рыгі, з Коўны, з Варшавы і з Вільні. Загружаны вакзалы і станцыі... Што-а гэта робіцца? — не возьмеш на розум. А чым кончыцца — страшна і падумаць... Вось бачылі,— ён спыніўся перад Рыгорам, які стаяў пры акне, і ткнуў пальцам у бок пакінутае станцыі.

— Гэта ж, што вось стаялі ў шэрагу, польскія і галіцкія яўрэі. Каторы дзень яны таўкуцца ў Дне. Троха ад'едуць, а на іх месца новыя ды новыя. Хварэюць, мруць, калечацца... Надовечы пад Новымі Сакольнікамі.

Стрэчны цягнік, замялькаўшы ў вокнах вагона, пе-

рабіў кандуктара. Ён таксама спакойліва, як і гутарыў, адышоў ад Рыгора.

Той заняў сваё месца, спачуваючы паглядзеўшы на верхнія лаўкі, дзе ўрасцяжку ляжалі Ромусь і Генрык.

Павал задумліва стаяў у акне вагона, за якім спешна знікалі дробныя шэрыя будынкі станцыі.

— Зусім недарэчы гэта запазненне. Мы можам не паспець на сустрэчны цягнік і гатовы ў Оршы праваляцца займаздароў да раніцы.

— А то бывае?

— Як піць даць.

— Гэта ўжо нядобра.

Аднак, узмоцніўшы хаду, цягнік разганяў Паўлава сумненне наконт своечасовага прыбыцця ў Оршу.

У кожным разе яго няўпэўненасць не перашкодзіла яму прытуліцца галавою да сценкі вагона і беспярэчна аддацца надышоўшым марам.

Рыгор меркаваў зрабіць тое самае.

## III

Хвіліна ў хвіліну, па расписанні, а восьмай гадзіне раніцы Рыгор з Паўлам прыехалі на месца. Нягледзячы на закінутасць станцыі і на ранні час, перон кішэў людзьмі, пераважна сялянамі з клумкамі ды сякерамі. Шмат іх кінулася ў вагон, загараджваючы дарогу тым, хто выходзіў, іншыя непарушна стаялі на месцы, азіраючы цягнік і прыехаўшых пасажыраў.

Калі Рыгор з Паўлам, пакінуўшы цягнік, накіравалі да дзвярэй у станцыю, прысутныя на пероне сяляне перад імі паважна расступіліся. Некалькі старых, гледзячы на шырокія, бліскучыя палеты Паўла, працягнулі да шапак рукі. У станцыі іх аколіла да дзесяці чалавек, закідаючы рознымі пытаннямі.

— Можа, прыкажаце адвезці ў мястэчка? — працягаючы да Паўлавага носа сукаватае пужальне, несупынна перапытваў даўгавязы, смаркаты хлопец.

— Паном, напэўна, у фальварак Ступкі? — дагадваўся пілявы, сухатвары мужчына, спрытна плечуком адціскаючы даўгавязага.

Толькі нясмела пазіраючы, крыху наводдаль стаялі двое сталейшых чалавек. Відаць было, што кожны з іх таксама мае намер падысці да засеўшых за сталом

Рыгора і Паўла. Але, угледзеўшы зласлівую міну на твары апошняга і яго адмоўны ківок рукі, яны не хацелі адводзіць на сябе «панскую» няласку.

Пачакаўшы, пакуль перад Рыгорам і Паўлам асталіся стаяць пустыя ад гарбаты шклянкі, хурманы ёмка падскочылі да стала і хапіліся за Рыгоравы рэчы. Замарудзіўшыя над нечым, даўгавязы і сухатвары ўгледзелі сваіх канкурэнтаў тады, калі тыя хаваліся ў выйсці са станцыі. Вострыя лаянкі знарушылі станцыённую дабрачыннасць, але не маглі праламаць сцяны, каб даляцець да ёмкіх сялян.

— Да мястэчка не болей трох вёрст, ну ж дарога — няхай яна праваліцца! — тлумачыў адзін з іх, пакуючы Рыгораў куфэрак і клумак.

— Пабілі, а памятаеш, ці даўно, як стол была,— адказваў другі, падгортваючы пад сядзенне растрыбушанае жоўтае гарашэнне.

— То не жарты — столькі прапусціць абозу, ды гэткага цяжкага! Глядзі, можа, тысячу гармат праехала на Сунічы. Гэта можна жалеза праламаць,— казаў першы, усаджваючы Рыгора.

— Што праўда, то праўда, яшчэ гэткіх прыгод не запамятаць, якімі зараз напоўніўся свет,— рушыўшы першым, згаджаўся другі.— Вам не мулка, часамі? — інакшым тонам падбаў ён пра свайго ездака.

Павал паматаў галавою і паглядзеў на Рыгора. Той нешта калупаўся каля спіны свайго вазніцы.

— Едзем! — пазваў Павал.

— Я думаю на аб'езд, Лукаш? — выгукнуў той, што меў справу з Рыгорам.

— А ліха яго ведае! Давай нацянькі!

— Цянькі адбіраюць дзянькі!

Прыказка была ўжыта для прыгожага слаўца. Вазніцы абмінулі заламаўшую направа свежавыбітую сценку і паехалі разбітаю калдобістаю дарогаю.

— Неяк цяжка рашыцца за гэткае кола, якім вядзе аб'езд... Яно б, магчыма, і меней трасло, затое часу аднімае, мо, на гадзіну болей. Бачыце-э! Вам, напэўна, чым хутчэй прыехаць, тым лепей?

Рыгор паглядзеў управа, дзе шэрая сценка абгінала шырокую палосу вузкіх нівак папару, азірнуўся на станцыю і адказаў вазніцы:

— Так, нам трэба як найхутчэй. Але чаму ў вас лянуюцца дарогу правіць?

— Чаму? Або, вы думаеце, разбярэшся! Некалі правілі; я ж кажу, дарога была, як ток — раўнюсенькая; дзесяць — пятнаццаць хвілін — і мястэчка, а зараз... Зараз усё пераблыталася...

— Вярні, гэй, Фомка, між платоў! — гукнуў ён шмат ад'ехаўшаму наперад калегу і тут жа зноў адвярнуўся да Рыгора:

— Фомка толькі нядаўна заняўся гэтым рамяслом; яго трэба пільнаваць, як малое дзіця... Прадаў поле, які там шматок меў, і пакваліўся на ізвоз... Можа, каб у спакайнейшы час, чаго добрага, і пашанцавала б, а цяперака — цяжка адгадаць... Кожны дзень ты маеш новае. Вядома — увесь свет закалаціўся. І што, як вы кажаце, з гэтага выйдзе? Ці будзе лепш нашаму брату, ці мо...

— Нага-а-няй! — данеслася спераду.

Лукаш закруціў над канём доўгаю дратаванкаю і шчыра тузануў вераўчанымі лейцамі.

— Страх бярэ — кожны дзень людзей гоняць і гоняць, як авечак на бойню. А там вязуць раненых, а там пруцца некуды бежанцы... Крывавая завіруха, якой свет не бачыў. Толькі надоечы, вось, прайшло каля дзесяці палкоў стральцоў. Укрылі дарогу — канца няма і меры. Скро-а-зь, як вокам згледзець — людзі-ы, людзі-ы, людзі-ы... Но-а-а!

Паўлаў вазніца стаяў на ўзгрудку, чакаючы Рыгоравага.

— Вось адтуль — далёка наўкола відаць. Расказваюць, што некалі, пры шведскім спаленні, гэты грудок знарок насыпалі. Шведскі цар стаяў і любаваўся аколіцамі. Во-а! Паглядзеце!

Уз'ехаўшы на грудок, Рыгор злез з воза і пільным узрокам правёў навакола.

Недалёка, як на далоні, ляжала шэрая пляміна мястэчка. Высокая вежа пажарнае парола сіняе паветра. З правага боку мястэчка выпукляўся якісьці буйны мураваны будынак ні то паравога млына, ні то бровара, з патухшым, пагнутым комінам.

На працілеглым баку стаялі ў рад тры ветракі з прадзіраўленымі шырокімі скрыдламі. Вузкаю срэбранай стужкаю вывівалася між іх, па зялёнай паласе поплава, рэчка.

Насупроць узгорка, за мястэчкам, з яго шэрых падгніўшых будынкаў, выбягалі чатыры рады высокіх

прысад. Прысады абміналі рэчку, узбіраліся на невялікае ўзвышша, далей накіроўвалі да цёмнае сцяны лесу.

Налева ад ветракоў, у густой купіне дрэў, мясцілася да дзесятка дваровых будынкаў. Адзін з іх, белы, з чырвоным пафарбаваным дахам, выгадна вылучаўся на мяккай жаўтаватай руні лісця.

У адгоне вярсты ад двара пасвілася вялікае стада гавяды.

З мястэчка ў двор ішлі маладыя каштанавыя ці кляновыя прысады. Гэткія ж прысады памыкаліся накіроўвацца ў бок станцыі, але, працягнуўшыся каля вярсты, абрываліся. Насустрач ім выбягала да станцыі пара невялічкіх купак бяроз, якія нясмела спыняліся на нелапым адгоне ад прысад.

У тым канцы, адкуль Рыгор з Паўлам прыехалі, пільнае вока не знаходзіла нічога, апроч зеленеючых прастораў поля. Яго цемнаватая рунь з адсветам сталі ў выемках паміж гарбамі, лёгкіх хвалек непрыкметна злівалася з лясным маладняком.

Адсюль нясло прасторам, смачным п'яным паветрам, цяплом квітнеючага лета. Рыгоравы ногі ўрасталі ў вызвеўшую зямлю, а істота дробілася на часткі, зліваючыся з буяннем прыроды.

Нез'яснёная лёгкасць, як пасля скінутых ланцугоў, што доўгі час звязваюць людскую долю, абдала Рыгораву істоту. Глеба, мяккая, як пух, тапіла ў сабе яго прывыкшыя да камня ногі.

Не хацелася верыць, цяжка было думаць, што вось гэткімі палямі ды паплавамі, па чыстай, пушыстай руні, вёрст на сто да захаду, прарыты крывыя шнуркі акопаў, працягнуты драцяныя загарадзі, і тысячы ног выбіваюць пасевы.

Брала дрыготка, калі мімавольна раздражненае ваабражэнне малявала вобразы пажараў, ад якіх гінулі вось гэткія самыя, што перад ім, мястэчкі.

— Едзем?

— Едзем!

Адпачыўшы, канякі рыссю пабеглі з узгрудка проста на шэрыя будынкі мястэчка. Траскатня і падкідасы, з якімі каціліся ломкія вазкі, млосна дапякалі ездакам.

— Па-мойму, дарожны атрад, што стаіць зараз у Ступках, абавязаны дарэмна выправіць гэту дарогу,

тут жа справа чыста вайсковая,— каб згладзіць непрыемнае пачуццё ад язды, загутарыў Паўлаў вазніца.

— А зразумела,— рады выпадку яшчэ нейкі час паразважаць ездакоў, падхапіў Рыгораў вазніца: — для мяшчан тае дарогі хапіла б на дваццаць год. Я думаю, што мы можам прасіць гэтага па праве... Як вы кажаце? — абярнууся ён да Рыгора.

— Мой сябра гэта лепш ведае,— адказаў Рыгор.

Вазніца нібы і чакаў гэтага адказу, ужо даўно ўглядаўшыся ў начальнічую форму Паўла.

— Фомка,— гукнуў ён, калі пара гумен ужо засланіла ад іх зелень паплавоў.

Паўлаў вазніца азірнууся.

— Чаго?

— Ты чуў, што я казаў? Гэта наконт дарогі...

— Ага?

— Запытай там у свайго... Напэўна, яму гэта справа вядома.

— Ды кінь, Лукаш! Ці маеш ты лад?

Хутка яны ўехалі на брукаваную вуліцу, якая струною праразала мястэчка ад рэчкі да рынкавага пляца.

— Нам да канцылярыі кіраўніка работ,— праказаў Павал, абярнуўшыся да Рыгоравага вазніцы.

— Ведаем... А адтуль, часамі ў Ступкі не паедзеце? Бач, атрад стаіць там. Ды, напэўна, і сам кіраўнік недзе індзе.

— А я вам не магу сказаць...

— Вы ж, напэўна, таксама за гэтай справай? — надазаляў Рыгору вазніца.

Рыгор не паспеў укантактаваць яго цікавасць, бо тут жа перад чыстым ганачкам трохвоканнага дома Паўлаў вазніца затрымаў каня.

— Вам пасобіць занесці рэчы?

— Адну хвілінку!

Павал схаваўся ў доме.

## IV

Невялічкі пакой з двума сталамі, за адным з якіх сядзеў невыразнага росту і звання чалавек, за другім — жанчына,— гэта і была канцылярыя кіраўніка работ дарожнага атрада.

На Рыгора панясло смуродам тухлага, непрасвежанага паветра.

Затоптаная падлога і сляды непрытульнасці сведчылі пра часовасць установы.

— Пасядзі хвілінку,— папрасіў Павал Рыгора і зайшоў у бакавы пакойчык.

Ён прабыў там зусім нядоўга, бо Рыгор не паспеў правесці вачыма пару паліцэйскіх стражнікаў за акном, як перад ім зноў стаяў Павал — на гэты раз не адзін. Другі, хто выйшаў з ім да Рыгора, быў стройным, сярэдняга росту мужчынам. Яго чорныя густыя вусы дагледжана падніміліся ражкамі ўгору, паўз роўны, грэчаскі нос. Чорныя зрэнкі воч празрыста глядзелі на чалавека за сталом, які раптам набыў рухавасць ды ўзвішнасць. Некалькі кінутых сказаў выявілі ў яго голасе цвёрды барытон, ужо знаёмы застольнай асобе.

— Вось гэта мой таварыш Рыгор Міхасёў Нязвычны! — паказваючы на Рыгора, парэкамендаваў Павал.

— Вельмі прыемна! Прашу да мяне!

Рыгор пярэднім увайшоў у цесненькі, крыху дбайней ад канцылярыі дагледжаны пакоік, які, як відаць было па ўсім, належаў да кабінета кіраўніка работ.

— Вы маеце ахвоту астацца ў нас на працу? — працягнуўшы Рыгору руку, запытаў стройны мужчына, у якім нельга было бачыць нікога іншага, апроч кіраўніка работ.

— Калі ласка, знарок прыехаў ■ Пецярбурга.

— Гм!

Кіраўнік паправіў вусы, крыху памаўчаў, пасля з лёгкім смяшком на чырвоным здаровым твары сказаў:

— Гэта Павал вас заманіў сюды?

— Як бы вам сказаць... І ў самога было многа жадання пабываць тут.

Казённы выгляд кіраўніка работ зусім не адбіваўся на яго мяккім і рэзвым настроі. Гэта дазваляла Рыгору трымацца вольна, адкідаючы патрэбную ў падобных выпадках натужнасць і фальш. Дый ён не бачыў нічога страшнага ў тым, калі б спроба папасці ў дарожны атрад скончылася няўдачай.

Праз усю дарогу Рыгор ні разу не кранаў гэтага пытання, а ехаў спакойным і бесклапотным.

Зусім занядбаў ён пра мэты свайго заезду ў мястэчка. Трывожылі яго нутро і адцягалі яго ўвагу высокія і складаныя пытанні, цесна звязаныя з агульнымі задачамі бягучага моманту. Ад прыватных інтарэ-

саў нясло буднямі, тым настроем і выглядамі, якія хавала ў сабе канцылярыя кіраўніка работ. З апошнім, мэрам бы, і не было чаго гутарыць. Але Рыгор стаяў каля яго, паглядаў яму ў твар і вёў у думках размову пра сябе.

— Так, так... Памыйкавай рэкамендацыі для мяне досыць... Паспрабуем працаваць... Ну, вам не цяжка будзе, калі я вас назначу старшым рабочым?

— Вам віднен.

— Гэта спачатку, а далей пагледзімо... Усё залежыцьме ад вас саміх. Тое было і з Памыйкам.

— Няхай, дзякую...

— Тут праца не цяжкая, а між тым дае значныя прывілеі. Вы можаце зусім у кароткі час пасунуцца высока ўгору. Зразумела — патрэбна старанне і паслухмянасць. Нічога не парадзіш — ваенная справа і ваенная дысцыпліна... Ды што мне казаць вам — вы разумееце самі...

— Дык яно ж так...

Павал моўчкі стаяў, сведчачы іх размову. Кіраўніка ён добра ведаў, і яго гутарка з Рыгорам лішні раз дапамінала яму пра характар Яўгена Провава. Болей цікавіў Рыгор. Яго спакойлівасць і лёгкая нядбайлівасць да таго, пра што ішла рэч, паказвалі смеласць і рашучасць гэтага чалавека. Вывучаны год таму назад, калі яны побач стаялі за варштатам, зараз Рыгор адкрываў перад Паўлам забытыя бакі свайго я.

— Значыць, сходзімся на тым, што я вас аддаю пад загад дзесятніка Паўла Памыйкі. Згодны?

— Будзем лічыць, што так.

— Вы запішэцеся ў майго дзелавода, а поўнае афармленне вашага прыёму ў атрад мы з Памыйкам правядзем пасля.

— Дзякую.

— Вам пад загад! — ухмыляючыся, абярнуўся кіраўнік работ да Паўла.

— Вазьму з ахвотаю.

Яны ўтраіх выйшлі ў канцылярыю.

Кіраўнік тут жа аддаў распараджэнне дзелавому забраць ад Рыгора паперы і правесці яго залічэнне ў атрад. Той паслухмяна праказаў некалькі разоў засаб «слухаю» і зашастаў мнагалікімі справамі на стале.

— Можна, калі хочаце, з абеду пачынаць працу. Едзьце ў двор, уладжвайцеся з кватэраю ды ежай і

запрагайцеся,— парадзіў кіраўнік і вярнуўся ў свой пакой.

Хвілін праз дзесяць Рыгор з Паўлам паехалі ў мястэчка ў двор. Цяпер іх вёз адзін вазніца, з якім Рыгор ехаў са станцыі.

Выехаўшы з мястэчка, ён па-ранейшаму завёў гутарку пра сапсаваныя дарогі і пра павіннасць атрада іх паправіць. Але бачачы, што на гэта яму не атрымаць поўных адказаў, вазніца перайшоў на іншую тэму. Пахваліўшы гароды і поплавы, што прылягаюць да рэчкі, ён рашыў не лішнім пазнаёміць ездакоў з гісторыяй двара, у які іх вёз.

— Вось гэты двор, калі хочаце ведаць, дзесяткі разоў пераходзіў з рук у рукі. Мабыць, ён некім загавораны, бо хто з ім ні меў справы — кожны, нарэшце, спяшыў збыць яго з рук. Ужо за маю памяць уладаром двара перабывала пяць асоб, а раней... Бацька мне расказваў... Цікава...

Вазніца абярнуўся да ездакоў, заліўшы свой пацёрты жыццём твар вясёлым смехам:

— Цікава, паслухайце,— тут жыла пані Задніцкая, гадоў сем — восем таму. Гой, што за па-ані! Колькі яна звяла грошай і дабра на мужчынах! Штотыдзень, свята ў свята, у яе балі — цалюткія ночы. Летам, бывала, расхляпесціць вокны пакояў, а музыка ў мястэчка, гэтак, гру-у, гру-у — і — ы-і. Хоць скачы!.. Агні нейкія пускала ў сваім садзе. Цёмная ноч, а на небе, я вам кажу, палае разнастайнае святло, зоры, дарожкі... Назаўтра — раз'езды, паверыце, як з кірмашу... І так даездзілася, нарэшце, дагулялася. Раніцаю так, памятаю, я ўстаю, а ўжо з мястэчка вязуць у двор ксяндза — адпяваць паню... Ці задушылі, ці сама дайшла... Пасля хавалі, ой як багата хавалі! З гонарам адправілася на той свет, але... штосьці сем гадоў не чутно ў мястэчку жаднае музыкі. Там — не тут...

Зараз па яе слядах тупаў трэці пан, нейкі адстаўны маршалак. Залетась, чуеце, пачаў ён перастройваць двор ва ўзорную гаспадарку: накапаў канаў, напракладаў труб, усыпаў пахань якімісьці загранічнымі парашкамі; сеялак, веялакназвозіў. Пайшло ра-а-сці, во-а!.. А гэта зноў спад, уніз. Сам з'ехаў у Варшаву, пакінуў упраўляючага, і ніякага ладу... Гавяда памізарнела, ураджай паменшаў, трубы паламаліся, адным словам... А дзесяцін тысячу гэткае зямлі — люба! Каб

гэта нашаму брату па шнурочку, вось такому хоць...— Ён паказаў на адгон між дарогі і тоўстым каменем пры ёй.— Хто б свістаў гэтай пугай... Быў бы кавалак хлеба, была б кароўка і падсвінак, мо, і адзежына людская. Не па праўдзе бог дзеліць; людзям самім давядзецца папраўляць чыннасць нябеснага дзядулі...

Вазніца разліўся зацяжным рогатам.

Яго лахматая галава то апускалася, то падымалася, а сутулая спіна важыла ёй у тахт.

— Не праўда мо? — з натугаю вымаўляючы словы, запытаў ён у Рыгора з Паўлам.

— Зусім праўда, але...

Захацеўшы піць, конь, не даязджаючы да моста, крута звярнуў управа на поплаў. Вазніца прыўстаў з сядзення, уперыўся вачыма да маёнтка і спакойна пусціў каня да рэчкі.

— Зранку не паіў небараку,— пашкадаваў ён жывёліну, адпушчаючы пасак.

Рыгор з Паўлам злезлі з воза і прайшлі на мост.

— Вы паглядзеце на гэтыя вось паплавы, што за багацце ў іх! — гукнуў вазніца, заўважыўшы, як Рыгор з Паўлам углядаюцца ў агромністыя прасторы прыбрэжных мурагоў.

Адным сваім канцом яны абдымалі двор, як баярскім паясом, губячыся за яго густым садам, за стрункаю накіраваных да станцыі прысад, другім — беглі за мястэчка.

— Тысячы пудоў найлепшага сена! А нашаму брату — ні каліва. Моліш-просіш — хоць бы што — жаднае спагады. Гэты двор — скула нашым мяшчанам... Сядайце-э!

Вазніца паправіў на возе і пагнаў каня.

Высокія густыя ліпы схавалі сабою дваровыя будынкі. За бакавым узгоркам чуліся высвісты пастуховых дудак.

Насустрач ім, вузкаю прагалінаю дарожкі, што раздвойвала дваровы сад, нясліся зычныя выгукі дваровых.

Пры ўездзе на дзядзінец яны спаткаліся з цэлым абозам фурманак, сярод якіх некалькі было вайсковых. На адной з апошніх сядзела двое дарожных тэхнікаў. Павал прывітаўся з імі і паведаміў Рыгору:

— Гэта наша бліжэйшае, так сказаць, непасрэднае начальства. Матай на вус.

— Трэба рыхтавацца да вывучэння вайсковай субардынацыі.

— Не без таго...

Яны злезлі, калі вазніца спыніўся перад доўгім пабеленым будынкам, у якім мясціліся кватэры дваровых. Павал заплаціў за падводу і пайшоў у бліжэйшыя дзверы. Рыгор застаўся на двары; ён не паспеў прабегчы ўзрокам навакола дзядзінца, калі яго пазвалі:

— Будзьце ласкавы, заходзьце!

Рыгор панёс свае рэчы насустрач гасціннаму воклічу маладое кабеты, якая стаяла пры адчыненых дзвярах, як сваха пры стрэчы маладога.

## V

У двары жыццё пачыналася на золаку. Яшчэ задоўга да ўсходу сонца гулкія крыкі пастухоў звінелі ў чыстым паветры над дзядзінцам. Рык кароў і трасканя падвод па каменнях бруку біліся ў паколатыя шыбы акна, каля падаконніка якога ляжала Рыгорава галава. Надазойлівыя мухі тысячным роем выгравалі манатонную калыханку. Мулкая пасцель, ці то новае месца, ад сябе непакоіла Рыгора. Дзякуючы гэтаму ён намнога раней звычайнага прывітаў народжаны дзень.

Празрыстае паветра пад малочным небам туманіла яго вочы ліпкай асалодай дрымоты. Туліла да пасцелі аднастайная песня ранняе птушкі. Але раптоўнае засынанне хутка перабівалася. Рыгор расплюшчваў вочы і глядзеў у акно.

Адпачынак не меў паўнаты, а гэта зусім не спрыяла пасля доўгае дарогі. Рыгоравы надзеі пераскочылі на наступную ноч, а першая мусіла абмежавацца шостаю гадзінаю раніцы.

Ранняя раніца, як ветліва яна глядзела ў яго пакоік! І ўсё ж мулялася новаю павіннасцю.

За сценкаю варушыўся Павал. Вось-вось ён пазаве Рыгора да збору на працу. А мо , яшчэ праз гадзіну?..

— Рыгор! Гатоў?

— Так, гатоў!

— Хадзі снедаць і паедзем!

Лусты чорнага хлеба аблягалі шырокую міску свежага малака. Маладая гаспадыня адцэджвала бульбу, туманячы параю цесную каморку.

Пахла апетытнаю ежаю, але Рыгору не хацелася адкрываць рота. Ён бачыў, што і Павал толькі несхаця карпануў лыжкаю ў малацэ і вылез з-за стала.

Гаспадыня здзіўлена глядзела на маладых, здаровых кватарантаў і падпірала сківіцу, каб спыніць недавернае ківанне галавы.

«Паны?»

Яе дбайнае сэрца не сцярпела:

— Я вам налью ў пляшкі і дам з сабою. Вымерхаецеся, нябось... Добра?

Рыгор пацяснуў плячыма, а Павал згодна кіўнуў галавою.

Дзве зялёныя пляшкі і нелапы пакуначак у ружовай анучцы занялі яго рукі.

— Паднясі — пасоб,— абярнуўся ён да Рыгора.

Той працягнуў руку па пляшку, але пад'ехаўшая да дзвярэй падвода заставіла яе апусціцца.

— Завязеш?

На прасторных, акованых жалезам драбінах можна было завязці не дваіх ездакоў з іх пляшкамі і пакуначкам!

Двое здаровых, бойкіх коней прывыклі і да дрэнных шляхоў і да цяжкае паклажы.

Яны стромка рвануліся наперад, адчуваючы лёгкую прагулку да месца дарожных работ.

Гэта быў не вазніца, з якім яны ехалі са станцыі і ▪ мястэчка!

Мігам пранесліся будынкі, сад, гарод; засталіся ззаду парабкі з падводамі гною. Тут жа, з невысокага ўзвышша, як на далоні, адцягнула іх узрокі роўная нізіна перад цёмнаю сцяною лесу. На шырокай стужцы бялесага гасцінца з тымі ж прысадамі, якія за мястэчкам браліся ўгору, было ажыўленне. Шэраг сялянскіх падвод ▪ будамі і гавядай курылі слупы пылу. Каля лесу шнурок гэтых падвод паўдугою агінаў заняты чарадою людзей шлях.

Угледзеўшыся, можна было бачыць, як дзесяткі белых спін калыхаліся над чорным пластом зямлі; камякі яе несупынна падалі праз голавы налева, адкуль другія цягалі доўгія палены дроў. То ішла фашынізацыя топкага месца шляху.

— Табе не шкодзіць выслухаць парадак тваіх абавязкаў! — жартаўліва падаў Павал.

— Са здавальненнем, таварыш настаўнік,— адказаў Рыгор.

Павал тут жа ўзяў сур'ёзны тон і вылажыў Рыгору асновы яго павіннасцей як старшага рабочага.

— Ну, пэўна,— дадаў ён,— сёння ты аддасі дзень на нагляд, на азнаямленне.

— Калі сцерплю абмежавацца гэтым.

— А чаму? Хочаш размяць спіну? Проша — ёсць на чым...

«Рраaз-з, яшчэ рра-аззl» — данясло́ся з граніцы лесу.

Тыя, што капалі, раптам пакінулі лапаты і насцаражыліся. Усё ж амаль ніхто не адвярнуўся на пад'ехаўшых Рыгора з Паўлам.

«Ззы-ых! Гр-р-р-р!» парвала надышоўшую цішу і гулкім рэхам разляцелася па лесе.

Грабары, як па ўказцы, зноў замахалі лапатамі.

Рыгор з Паўлам накіраваліся ў лес.

— Латошаць лес, як траву! — пашкадаваў Павал.

— Што ж, лес сякуць — трэскі лятуць! Ці ў лесе справа! Лес — то трэскі, а вось людзі...

Да іх падбліжалася грамада рабочых, якія цягнулі на кругляках здаровую роўную хваіну.

«Нну-у, яшчэ-э! Рра-замм, ггг!»

Тоўстыя вужышчы напіналіся да адказу — хвоя на локаць нясласся стырчма ў густыя кусты тонкага дубцоўя.

Крыху далей шастала пілка і адлічваліся гулкія ўдары сякер. Нейчы хрыплівы голас заводзіў «Дубінушку». Уторам яму былі траскатня і ломка.

— Вы абагнеце ўлева, а то, чаго добрага, як хвасяне!..

Рыгор азірнуўся на казаўшага і раптам закрычаў:

— Сто-ай!

Яму адгукнуўся зацяжны вострый енк:

— А-ай-і-ы!

Расцягнутыя ланцугом рабочыя ўмомант сабраліся ў шчыльную грамаду. Усе яны з пахіленымі галовамі спагадліва глядзелі на хударлявага белабрысага мужчыну, які, сціснуўшы зубы, са скрыўленым ад болю тварам супыняў бягучую з нагі кроў.

— Перавязаць,— дагадаўся праз нейкі час адзін з грамадкі, і следам у руках другога дзярнулася матэрыя.

— Пусці-ы, пацярпі-ы, Сымон...

Ці паспелі завязаць рану, ці толькі агарнулі — бо мігам пацярпеўшы ляжаў ужо на руках двух здаравейшых рабочых, якія прашываліся кустамі да выйсця з лесу.

— Вязеце-э ў двор! — ні то парадзіў, ні то загадаў Павал.

Яго голас паглынуў рассыпчаты стук упартага дрэва. Знаёмыя каскады гукаў затраслі лістамі і разбегліся ў змрочнай гушчэчы.

— Го-о-а-хі-і! — выліліся з іх рэзвыя, заліўныя выкрыкі людзей.

І калі апошні перазвон рэха заміраў дзесьці ў густых каронах зялёных іголак, да якіх не краналіся вострыя зубы пілкі,— дзяцел адбіў свае знакі. І чарада варон, хлынуўшых ■ поля, затрашчала свой касцяны гармідар. Некалькі з іх стромка апусціліся да долу, хлопаючы скрыдламі па лісцях арэшніку. Кінуты Рыгорам аскабалак абагнуў смялейшую крутою траекторыяй.

— А, вось іх гняздо! — хапіў Рыгора за руку Павал і спыніўся.

На зямлі, помеж з наскамі Рыгоравых ботаў, ляжала кучка дзеравянай трухі. Цягучаю плеўкаю адзначаліся разбітыя яйкі. Да іх цягнуліся пакурчаныя ралкі толькі што ўпаўшае хваіны.

Ужо частыя ўдары сякер і склюдоў абганялі сухія сукі і зялёныя ралы... Хвоя звінела, як жалеза. І празрыстыя кроплі смалы, пузырачыся на белай абалоні, золатам пераліваліся на сонцы.

— Добры дзень!

На Паўла паглядзела чэцвера пар вачэй.

Адны шэптам, іншыя ўголас адказалі на прывітанне ды зноў пацягнулі мускулы для ўдараў.

— Вам тут адвялі дзялянку?

— Бачыце!

Барадаты рабочы, з цуркамі поту на поўным твары, адышоў ад хваіны.

— Мы прасілі пры дарозе, дык тэхнік адказаў. І мусім таўчыся па ламаччы; блізкі свет перацягні гэтую штуку.

Лёза блішчастае сякеры павісла над чырвонай гладдзю хваіны.

— Гатоў падкладкі! — перабіў іх басісты голас з-пад верху дзеравячыны.

Стукі замерлі, і чэцвера чалавек прыгнуліся над верхамі хваіны.

— Н-ну-у яшчэ-э-а! Рраз-ам!

Рыгор, як стаяў, мігам прылёг да бакавое спіны і напяўся да чырвані на твары.

— Кладзі-ы!

Тоўсты кругляк пакорна лёг пад верхавінаю. Хвоя глядзела паверх сваіх нядаўна жывых, а зараз памятых, але яшчэ зялёных ралак проста ў густы ліст арэшніку.

Праз нейкі час яна паднялася яшчэ вышэй, а далей пакацілася ў бок, дзе свіцілася дарога.

— Пойдам з лесу?

Рыгор аглядаў яго асаблівы, таямнічы свет.

У высокіх хвоях, пераплеценых знізу кустамі, у вільготным змроку, запярэшчаным трапяткімі плямкамі сонца, у напалоханых свістах птушак паўставалі незабытыя ўспаміны мінулага. Веяла здароваю бадзёрасцю; самота набывала сілу, моц і вялікасць. Цягнула да чыннасці, да руху, да бегатні.

Але з дарогі гукалі на снеданне.

— Ты дзе пакінуў пляшкі з малаком?

— Не забыўся!

Хутка яны сядзелі на граніцы лесу ў рад з рабочымі, пілі малако, салодкае і тлустае, ды ўспаміналі дбайную гаспадыню.

— Ах, Памыйка!

Шырокая далонь рукі тэхніка Якава Бросні прапаўзла паўз Паўла да пляшкі.

— Не для вас!

Павал аглянуўся назад і ўстаў.

— Добры дзень!

— Толькі сёння вярнуліся?

— Так... Вось мой таварыш і старшы рабочы, Рыгор Нязвычны.

Нядбайны, ганарлівы ківок галавы тэхніка не паварушыў Рыгора.

— Вам прыйдзецца дагледзець над укладкаю таўсцейшых фашын,— прыказна выказаў ён да Рыгора.

— Гэта дзе?

— Мы іх пачнем класці ад таго канца, дзе пачынаецца загін управа. Абавязкова сачыць, каб між фа-

шынамі і канавай на метр аставалася вольнай дарогі... Дзе супясчанік — там трэба падлажыць цвярдзейшага грунту. Пры насыпцы мусяць разбівацца камякі зямлі і выкідацца дзярына...

— Разумею, так...

— Нам заданне — тэрмінова выправіць гэты ўчасток не пазней палавіны жніўня. А ці ж паспееш з гэтым лікам рабочых? Проваў падаў рапарт аб прысылцы хаця пяцідзесяці чалавек палонных... Ці выпаўніць упраўленне?.. Ну, якаво ў Пецярбурзе? Ёсць надзеі на замірэнне?

— Ха-ха-ха! Захацелі — толькі што віталі ўступленне ў вайну Італіі, а разам...

— Італіі?

Тэхнік сплюнуў.

— Пасобіць вельмі Італія! Цудныя!..

— Во-а, зноў! — гукнула побач іх двое рабочых, якія падняліся з месца і паглядзелі ў бок прысад.

— Дзядзькі, направа!

Доўгі шнур падвод на момант затрымаўся, пасля пярэдняя завярнула на аб'езную сценку, і за ёю рушылі ўсе.

— Едуць і едуць, днём і ноччу; і калі той канец!..

— Немцы насядаюць...

Сігнал да працы ўмомант падняў на ногі рабочых. Яны густою сцяною пайшлі да раскіданай дарогі.

У тым месцы, дзе ляжала ўжо з дзесятак фашын, Рыгор дбайліва сачыў за іх далейшай пракладкай.

Час ад часу ён адрываўся ад сваіх, далёка яшчэ не ясных яму, абавязкаў і для цікавасці пачынаў спрытнымі ўзмахамі жалезняку выкідаць з канавы цяжкія камякі глiністай зямлі.

— Во-во, так-так! — жартавалі разважныя грабары з Рыгоравай рухавасці.

## VI

Умовы працы ў дарожным атрадзе мелі свой асаблівы ўплыў на Рыгора. Ён скора звыкся са сваімі абавязкамі старшага рабочага, але доўга не мог пагадзіцца з акаляючымі ўмовамі. Пецярбург не пакідаў хваляваць яго нутро. Разнастайныя вобразы сталічнага жыцця напаўнялі Рыгоравы ўспаміны. Думкі дзень у

дзень адрываліся ад зялёных абшараў поля і несліся ўсцяж стальных рэек да вуліц шумнага горада.

Як пасуваецца развіццё рэвалюцыйных настрояў сярод рабочых?

Што там сталася з Анікеем Кузіным?

Якава доля Якава Гіса?

Ці не пераманіў сваіх поглядаў Міхась Камар?

Ага! Вось з Каралем — цікава — дабраўся стары да Пецярбурга ці, мо, па дарозе?..

А Ліба са сваімі калекамі — няўжо ўсё яшчэ ездзіць у Народны дом паказаць ім шумлівы, рэзвы натоўп бесклапотнай моладзі?.. Ці, мо, ужо яна на фронце?

Газеты прыносяць шмат цікавых вестак з грамадскага жыцця.

Ды ці ўсяго гэтымі надрукаванымі ў газетах весткамі абмяжоўваецца сталічнае жыццё? Не можа таго быць! Паварот у развіцці вайны быў далёка не ў карысць патрыятычных лямантацый.

За імі таілася рэвалюцыйная трывога. Ад яе нельга было схавацца, нідзе, нікому. Яна раджала страшныя легенды і нечуваныя чуткі. Разыходзячыся ва ўсе канцы Расіі, гэтыя легенды і чуткі раслі і ўскладняліся, сеючы праменныя надзеі.

Не вольны былі ад іх і Ступкі.

Несупынны праезд бежанцаў нёс з сабою страшэнныя жахі разбурэння краю. Усё настойней гутарылі пра мабілізацыю другое чаргі ратнікаў апалчэння другога разраду. Дзень у дзень рэшткі мужчынскага насельніцтва мястэчка, двара і бліжэйшых вёсак дзесяткамі накіроўваліся да канторы кіраўніка работ, шукаючы заховы ад фронту. Кожны дзень дарожны атрад папаўняўся новымі людзьмі. Гэтыя людзі не скрытна лічылі сябе выбаўленымі ад небяспекі і сваю радасць укладалі ў працу для тае ж вайны. Тыя, каму адказвалі ў канцылярыі кіраўніка, ішлі ў двор, лавілі тэхнікаў, дзесятнікаў, старшых і радавых рабочых з атрада, умольваючы іхняй дапамогі ў прыёме ў атрад.

Шчыльнае сутыкненне з непасрэднымі праявамі ваеннай завірухі ў спакойнай вёсцы нервавала Рыгора. Ён не знаходзіў тут жаднае спробы супярэчання яе гібельнаму разгортванню. Знаходжанне каля фронту дазваляла наглядаць жывы вобраз адступлення цэлае краіны.

На зялёных нівах з буйнымі ўсходамі ярыны, з густым жытам, на расквітнеўшых паплавах — не гулялі надзейныя ўзрокі земляробаў. Смутнае нявер'е насілася над імі ў хмарах пылу, які днём і ноччу ўздымалі на шляху бежанскія падводы.

На сценках і межах, што перасякалі ўдоўжкі ды ўператоч вабраныя руняй нівы, тупалі адзінотныя, заклапочаныя людзі, болей жанчыны і дзеці. Дбайныя рукі страцілі рухавасць — яны не цягнуліся да раскіданага камення, каб зняць яго з нівы і кінуць на дарогу. Неапаланая свірэпа жаўціла палоскі шыракалістага ячменю. Часцей ды часцей забягала ў збожжа гавяда, топчучы яго, выбіваючы. А папар, забыты плугам, зарастаў густым пырнікам.

Рэдка-рэдка, прытупленыя ад леташняга, нарогі ўздымалі яго дзярыну...

Людзі з вёсак, з двароў зачасцілі ў мястэчка. Там пошта, там свежыя навіны, там можна агледзецца, як быць далей. Да чаго поле, хата, праца і клапоты звычайнага дня, калі, мо, вечарам, мо, а поўначы ці раніцою назаўтра кінеш усё гэта і — у дарогу.

Сям'я ў свет, а зацалелы гаспадар — на вайну. На вачах выразны прыклад. Ехалі людзі з-за Вільні, зараз едуць з-пад Вільні. А многія з іх, напэўна, не чакалі таго і аралі папар, кляпалі косы, магчыма, раўнялі ток у гумне.

Для каго і навошта?

Навошта гэта тады, калі ночы спакойна не праспіш, каб не паглядзець дзесятак раз у акно.

І ноч у ноч цёмнае неба выдае надыходзячыя жахі: яно прамянее над Ступінскім лесам. З гадзіны на гадзіну чакаеш страляніны. Фронт рухае на Мінск.

У газетах трывога,— большая і страшнейшая ў лістах з фронту.

Местачкоўцы штодня бываюць на станцыі і штодня бачаць, як праходзяць паўнюткія раненымі санітарныя цягнікі. Нельга ўсяго затуліць ад людзей васковымі таямніцамі, цэнзурай ды прыказамі. Сапраўднасць прасочваецца ва ўсе куткі, ва ўсе мясцінкі краіны — паветрам, лёгкім вятрыскам. Яна ідзе, несупынна і пагрозна, выбітымі шляхамі і гасцінцамі, сцяжынкамі і межамі... З горада ў мястэчка, з мястэчка ў вёску, па засценках, у закінутыя хаткі лясоў.

Гэта робіцца на ваччу Рыгора. Ён сведкаю, як два-

ровыя пераймаюць яе ў мястэчку і на ўсе лады пераказваюць, абгаворваюць на дзядзінцы ў абед, у сваіх мярлогах-кватэрах — вечарамі; нават умудраюцца раннім-раннім — да працы. Гавораць жанкі, гаворыць моладзь. Гавораць і правяраюць у яго.

Рыгор выпісаў газеты: ранішнюю — «Дзень» і вячэрнюю — «Біржоўку».

Атрад трымае цесную сувязь з канцылярыяй кіраўніка работ. Зносіны наладжаны трыма парамі падвод, якія па некалькі разоў у дзень прамяраюць чатырохвёрставы прагон ад двара да мястэчка.

Пошта ў канцылярыі кіраўніка не залежваецца, і свежая газета прыбывае ў Ступкі а дзевятай гадзіне раніцы. Дваровыя чуюць яе пах, і хто вырве вольную часінку, забягае да Рыгоравай гаспадыні і ўкрадкі зазірае ў дробны газетны шрыфт.

Вечарамі Рыгор перачытвае навіны жадным да іх дваровым. Тыя слухаюць і зверваюць са сваімі, што пачулі ў мястэчку, на станцыі, ад бежанцаў.

Газеты многае крадуць — у гэтым упэўнены не толькі мужчыны, а і кабеты. Газеты позняць і тое, што ведаюць. Якая каламуціца ў свеце!

Вайна на ўвесь свет, а нечага хаваюцца!

Вайна на вачах мільёнаў, а нешта скрадаюць! Драпежнікі, забойцы! Гы-ы-ых! Злосць стыне і туліцца перад небяспекай.

У двары, на службе, парабкамі, семера ратнікаў апалчэння другога разраду. Усе сямейныя, усе маюць цесныя, смуродлівыя кватэры, усе з дваццацігадзінным працоўным днём,— але ўсе шкадуюць гэтых агрызкаў з панскага стала. Яны востра цікавяцца вуснымі навінамі, бо не вераць газетам: навошта хаваць — у Смаленску ідзе мабілізацыя. Адзін з іх нават бачыў, як партыю мабілізаваных адпраўлялі ў Мінск, а можа, і на фронт. Го-о! запэўнена гаворыць уголас, што абучэнне ідзіме два месяцы, а там?.. Што перад «тым» дваццацігадзінны працоўны дзень у двары?

Шкадуюць двара і тыя, хто адправіў мужа і бацьку на вайну, а сам жыве на адну ардзінарыю. З павевамі халадку на сэрцы — глядзяць усе дваровыя на гасцінец, божкаюць і пацепваюць плячыма! Гэта ж ім прыйдзецца збівацца на агульнай падводзе ў шчыльна сплецены ланцуг напалоханых бежанцаў. А ў каго ды не будзе на чым вывезці свайго мізэрнага скарбу —

хто адчуе тых умольнасць, паспагадае і прыме да сябе на воз?

Зараз яны ўчапіліся ў двор рукамі і нагамі, прытуліліся раз'юшаным нутром ды калоцяцца, каб не адарвацца ад прыгоннае працы, ад вяковых, перададаных бацькамі і самімі перажытых здзекаў панскае пагарды, глуму, толькі б застацца!

Бежанства жахлівей!

Бежанства — гэта доля бадзягі, абрачонага на маркотнае вандраванне, на беспрытульны рух у неабмежных прасторах, сцісла атуленых голадам, хваробаю, смерцю.

«Што чутно ў атрадзе?»

Атрад — надзея. Атрад — апора.

Возьме рушыць — знача, грунт затрасецца і ўпадзе ў бяздонне.

Упраўляючы жартуе.

Яму што за бяда!

Зараз ён пан.

Гаспадар — той у Варшаве.

Немцы захапілі Варшаву,— а двор на апецы ўпраўляючага.

Во-а, штотыдзень у Мінск і з Мінска.

Прыйдзе час — сядзе і куды-хоць!

Упраўляючы бесклапотна апавядае пра жыццё ў Варшаве пры немцах.

Ён нейкім чынам атрымоўвае лісты!

Дваровыя ненавідзяць упраўляючага і не вераць яго словам.

Яны бачаць, што вайна панам не страшна. Іх пан вазіў грошы ў варшаўскія банкі — зараз на іх карміцца. Іх пан не ваюе, не пойдзе на вайну і ўпраўляючы. Чаму ж парабкам павінна ісці?

Мо Рыгор, мо Павал, мо Якаў Бросня — хто-небудзь зжаліцца над сям'ёю, маладымі мужчынамі і ўстрэміць іх у атрад? На гэта не кідаюць спадзявацца іх жанкі, паглядаючы ў вочы гэтым шчаслiўцам.

Рыгор абяцае, радзіцца з Паўлам. Той просіць Якава Бросню. Разам едуць у мястэчка да Провава, кіраўніка работ дзесятага атрада.

Але Яўгену Провазу прыйшла папера, што ўпраўленне атрада выпрасіла ад начальства дармовую сілу — палонных.

Хутка ўжо, хутка партыя іх наведае Ступкі.

Платны склад рабочых будзе змяншацца.

Маладзіцы, жанкі і мацяркі гэта адчуваюць. Яны бачаць па настроі атрада. Ужо радзей пяюць песні рабочыя, пакідаючы працу. Але ўсё-ткі, а, часамі, яшчэ...

— Панкі!

Рыгор суцяшае, сціскаючы сэрца.

Сем парабкаў!

Ды ці ў іх справа?

І перад ім праходзяць сотні здаровых гвардзейцаў, што бачыў у Пецярбурзе ў дні мабілізацыі. Перад ім першыя эшалоны раненых на Ліцейным, раненыя ў справоджанні Лібы. Далей — бежанцы на Знаменскай, бежанцы на станцыі Дно, бежанцы вось ужо месяц не сходзяць з ваччу на гасцінцы паўз Ступкі.

Сотні, тысячы, мільёны...

Забітыя, раненыя, выгнаныя, збітыя з роўных шляхоў жыцця, раз'юшаныя жахамі.

Свет і Расія!

Расія і Смагін!

Смагін — Сілцы!

Далёкія і свае!

Караль і маці!

Маці — пылінка ў завірусе.

Куды яе вецер занясе?

Якая яна з тысячы вось тых кабет, што сядзяць на падводах муміямі, згорбленыя, сасмагшыя, запыленыя?

Ідзе за возам?

Сёмка зжаліўся і вязе разам з Волькаю, з малым дзіцянём, з пажылымі бацькамі?

Шэрая, крывая птаха над галавою ляскоча драпежнаю дзюбаю — аэраплан над Ступкамі!

Рыгоравы думкі нясуцца ў сіняе неба.

## VII

То быў дзень, якіх здараецца мала. Здавалася, схожы з іншымі — і ўсё ж далёка інакшы. Дзень, якога не хочацца канчаць, за кожную хвіліну каторага трымаешся, як за ратунак.

Празрысты, поўны нез'яснёнага хараства.

У зялёным, раскошным полі гудзела несціханая музыка жыцця, росквіту.

Сонца, як зрэдку — малочным кругам у сінім небе.

Пералівы чысцюткага паветра — ядранага, смалістага, працятага салодкім водарам вытрыманага мёду.

Заварожаная нерухомасць, цеплыня, як у пярыне.

Атрад на адпачынку.

А восьмай гадзіне на дваровым дзядзінцы прайграў гармонік. Вясёлыя мелодыі пацягнуліся срэбранымі пацеркамі ў бок мястэчка.

З рэзвай гутаркаю, пад закрасаю спеву, пяцёрам маладых накіравалі да станцыі. Іншыя тупалі па дзядзінцы, аглядаючы будынкі, сад, усё тое, што сотні разоў бачылі, прыгледзеліся, але што ў дзень адпачынку, у гэты прыгожы дзень — інакшае і цікавейшае.

Упраўляючаму падалі пару стаенных — ён едзе да Ступак, бярэ з сабою аканома. Дваравыя з рабочых і парабкаў — пехам, але таксама ў мястэчка.

— А ты, Рыгор, не думаеш? — пастукаў Павал.

— Чаму б не пайсці крыху пазней?

— А зараз?

— Што там зранку рабіць?

— Тое, што і пазней. Газету свежую прачытаеш.

— Не астыне...

На гасцінцы, куды глядзеў Рыгор, грукалі падводы. Наглядалася незвычайнае ажыўленне. Хтосьці зваў каго ці лаяўся — густое, мяккае, як вата, паветра скрадала выразнасць гукаў.

Рыгора цягнула ў поле, да гасцінца, да лесу, у якім ён бываў пры абавязках, але не бачыў вольным.

Можа ўдвух, калі б Павал захацеў? Пазваць?

Ужо ён падняў руку, каб пастукаць, і невядома чаму — не зрабіў гэтага.

Павал угледзеў праз акно, як Рыгор заходзіў за платы саду. Перш намерыўся гукнуць, пасля перадумаў — авось вернецца. Ён некалькі разоў, пакуль сабраўся выйсці з пакоя, паглядзеў у акно — Рыгора не бачыў.

Той пераходзіў грудок напрамкам да гасцінца, калі Павал апынуўся пры выйсці на поплаў.

Ціхая, разважная хада Рыгора астудзіла Паўлаў настрой нагнаць таварыша.

Ён крута павярнуў назад і ўжо зараз жа ехаў з тэхнікам у мястэчка.

На тым месцы, адкуль вярнуўся, яны ўдвух пагля-дзелі ў бок гасцінца, паўз грудок. Адтуль ехала пара падвод з будамі — ні то балаголы, ні то старцы.

Едуць — няхай сабе едуць,— мэрам бы гэтак і трэба, ні тэхнік, ні Павал не зацікавіліся. Але з моста праз рэчку, калі адзін з іх адвярнуўся да двара, угледзеў за вазамі чалавека, дапамінаўшага Рыгора.

Паказалася?

Так, то быў Рыгор. Ён праводзіў да двара, на пастой, а мо і на пераначоўку падводу свайго таварыша-земляка — Сёмку Загона. Сёмка з сям'ёю ехаў у бежанцы. Другі тыдзень у дарозе.

Хто думаў яго стрэць пад дваром Ступкі?

Рыгор дзівіўся, як звычайна, ад нечаканасці, калі пазнаў у змардаваным, пахудзелым, ссутуленым, не па гадах пастарэўшым селяніне — Сёмку. Не хацелася верыць, як той знаёмым голасам запытаў у яго адгону да Оршы. Рыгор адказаў і зрабіў крок, каб пайсці да лесу, куды ішоў, але недаверана спыніўся. У гэты момант, адстаўшы ад воза, Сёмка спыніўся і ўпарта паглядзеў на яго. Адначасна пазналі адзін другога.

Сёмка паклікаў Вольку, і іх падвода вылучылася з доўгага шнура бежанскага абоза.

Стрэча з Рыгорам лягла на іх тварах адбіткам радасці. У гэтай радасці зніклі на момант і тыя сумныя весткі, якія вёз Сёмка Рыгору.

Толькі тады, калі яны заварочвалі ў двор, Сёмка, між іншымі навінамі, паведаміў таварышу:

— А тры дні таму, як пахавалі тваю маці.

— Маці памерла?!

Рыгор спалохана прабег вачыма па заседжаным возе — так, мацеры не было. Ён пачуў, як злева пад жакеткаю стала душна і цяжка. Частыя стукі кранутага боллю сэрца разлівалі душную ўтому па ўсёй яго істоце.

Цёмныя кароны ліп раптам затулілі светлыя вокагляды празрыстага дня.

— Такі памерла?

Сёмка спагадліва ў агульных рысах пераказаў Рыгору трагедыю дзвюх смерцяў — Рыгоравай мацеры і свайго бацькі — і паглядзеў таварышу ў вочы,— яны туманіліся слязьмі.

— Тыфус!

— Хварэла?

— Проста дзіва, ды годзе — тры дні! Якісьці асабліва востры і цяжкі.

У Сёмкавым голасе яшчэ не загаіліся болі страты, якая танула ў агульным яго горы.

— Вёрст за дзесяць да Мінска пахавалі. У маладым хвойнічку, гэтак крокаў дзесяць ад гасцінца... Успамінала цябе і плакала, горка і зацяжна плакала... Волька! Цёткі Стэпы куфэрак на возе?.. Пакінула, што мела, нам... Паглядзіш...

Падвода ўязджала на дзядзінец, а Рыгор з таварышам мінаў другую палавіну саду.

— Памерла! Небарака!

— Так, нічога не парадзіш!

— Вядома!

Падыходзячы да спыненай падводы, яны ўбачылі, як Волька разгортала шырокую хустку, якую некалі Рыгор прывёз мацеры з Рыгі.

Пабітая на краты, яна пярэсцілася разнастайнымі фарбамі турэцкіх дэсеняў.

— Во гэта, памятаеш, Рыгор, хустка з Рыгі?

— Бяры на ўспамін, Волька. «Куды ж мне гэта!» — казала старая.

— Няхай ляжыць, цётка зносіць! — абярнуўся Рыгор да Сёмкавай мацеры.

Волька згарнула хустку, прыгладзіла і наўзамен вынесла з куфэрка іншыя рэчы.

Старая глядзела на Рыгора і горнілася.

— Прыйшлося, сынку, што нат у доме не пахавалі. Якія мы няшчасныя! Гэта ж Хведар мой ці ж бы іншаю парою не мог яшчэ гадоў з пяток пажыць? А тота жа...

Волька суцяшала:

— Кіньце, маці... Вось яны памерлі — то спакайнейшымі будуць. Ці не лепш, падумай, чым валачыцца па гэтым свеце? — Рыгор не малы, ды не то, каб у нядолі... На ліха казана гэта жыццё ў наш час...

Развагі жанок не змяншалі Рыгоравай страты. Думкі пра мацеру адцягалі яго ўвагу ад узнятага абгавору бежанскага становішча таварышаў. Галава адказвалася працаваць: планы, што раптам узнікалі, раптам жа бясследна гінулі.

Бяспомачнасць у дачы паратунку таварышам нервавала і яшчэ болей дратавала Рыгора.

— Едзем, а куды — губімся! — скардзіўся Сёмка.

І ў гэтай яго скарзе ўтрата бацькі атульвалася маўчанкаю. Страшным жахам нясло ад змучанай сям'і,

з'езджанага каня, з высахшых і збітых калёс, з слабенькіх драбінак, напакаваных рэшткамі доўгагадовага набытку.

— Што мне ім парадзіць і чым пасобіць?

Рыгоравы думкі паступова вызваляліся з палону першых уражанняў ад смерці мацеры і раз'юшана віліся вакол глыбейшай трагедыі жывых. То ж былі лепшыя і шчырэйшыя яго сябры... То былі...

— Усё ж вы думаеце нешта, калі кіруеце на Оршу?

— Дарога ідзе на Оршу, і мы едзем на Оршу. Не ехаць жа на Вільню! А за Оршаю?

— Ну, мне ж хтосьці казаў... Гэлін бацька? — што сілцоўцы...

— Вось, братка Рыгор, гэта ж падумаць — Гэля?

Волька спагадліва паківала галавою.

— Бывала, столькі рэзвасці ў дзяўчыны, столькі жыцця! Бывала...

Вольчын сказ на момант спыніў далейшую гутарку пра наступнае, і вобразы бесклапотнага мінулага вярнулі іх да Сілцоў.

— Бывала... няма чаго ўспамінаць бывалашняга... Глядзеце, дзеткі, у будучыню...

Саламея азірнулася на Вольку.

— Так, частка паехала на Куршчыну. Та, думаеш, ведаем, якаво ім там?

— Ды з коньмі — гэта ж на ўсё лета язды!

— А што зробіш... Хоць да Оршы даехаць, не аддаваць жа каня за бясцэнак. Можа, удасца, то ў Оршы збудзем, далей — цягніком.

— На Курск?

Сёмка пытальна паглядзеў Вольцы ў твар.

— Або я ведаю? — адказала тая.— За людзьмі.

— Можа б, ты параіў што, Рыгор? Ты ж, аднакава, чалавек бывалы... Падумай, братка!..

Волька сказала і насцярожліва чакала адказу, зусім няўвераная ў яго збавенне.

Рыгор задуменна глядзеў на цёмныя кароны ліп. Думкі бязмоцна засядалі ў руцяным лісці. Мацерын вобраз блытаў іх разгарненні і тумаціў горнасцю. Дваактавая трагедыя пілавала сэрца. Дзе выйсце?

Раптам, мэрам хто падказаў, перад Рыгорам мігнуў бежанскі камітэт у Пецябурзе. Як жывы, забегаў кароценькі чалавек.

— Так, я магу вам параіць...

На дзядзінец уз'ехала падвода. Аглянуўшыся на стук калёс, можна было бачыць, як злезшы з воза чалавек прайшоў да кватэры аканома.

Рыгор кінуў гутарку і пабег яму наўздагон.

— Яўген Віктаравіч, прашу вас! — выгукнуў ён.

Кіраўнік работ азірнуўся на Рыгора, трымаючыся за клямку дзвярэй.

— Я б вельмі прасіў вас...— тут бежанцы, мае добрыя знаёмыя, ці нельга было б залічыць у атрад? Ведаеце, Яўген Віктаравіч, згінуць людзі — два тыдні ў дарозе. Едуць — а куды?

— Ці ж яны адны? Не ведаю. Упраўленне мае прыслаць палонных. Цяжка сказаць... Трэба падумаць...

Кіраўнік думаў, пагдядаючы ў бок падводы,— Рыгор прасіў далей:

— Можа, як-колечы ўсё-ткі можна было б... Буду вам шчыра ўдзячным.

— Падумаю... Бач, зараз мы ўсім адказваем,— паддаваўся кіраўнік.

— Я б згодзен хоць на сваё месца, Яўген Віктаравіч!

— Кіньце, што вы!.. Трэба падумаць... Няўжо-такі мы не вымеркуем...

Кіраўнік памаўчаў.

— Я перадам Памыйку.

— Вы зробіце добрую справу, Яўген Віктаравіч!

— Так... Гутарце з Паўлам — няхай пасля ён мне прыпамятае...

— Дазвольце падзякаваць!

Стук дзвярэй скраў якісьці сказ кіраўніка. Але Рыгор незалежна ад гэтага абнадзеіў таварыша магчымасцю для яго застацца ў дарожным атрадзе.

Узрадаваны гэтым, Сёмка аддаў Рыгору шчырую падзяку і ўжо назаўтра раніцаю старанна насіў з лесу на дарогу цяжкія, пахучыя смалою, хваёвыя фашыны.

## VIII

— Дзесяты дарожны атрад, кажаце? Хто яго ведае, які ён — стаіць, вунь, у тым двары...

Вазніца паглядзеў на седака і шыбчэй пагнаў каняку.

Змочаная за ноч дарога зацягала глыбока ў гразь і каня і калёсы.

— Няма рады, ды годзе-э! Што гэта вайна навычварала з дарогамі!.. Зарабо-ткі-ы, каб іх агонь спаліў!

— Незавідныя, дзядзька, я ведаю.

— Чаго ж вам у гэтую глуш?

— Справы.

— Цікава, каб ды ў нас былі для вас якія-кольвечы справы. Можа, хіба ў госці да каго?.. А вы не з фронту, часамі?

— Па дарозе на фронт...

— Эх!

Вазніца шчыра хвасянуў каняку.

— Гэткія маладыя, слаўныя — толькі што жыць, а, чаго добрага... Фронт, каб ён праваліўся скрозь зямлю з тымі, хто яго выдумаў!.. Б-бац — і няма-а! Няўжо вы ахвотна, чуеце?.. Нно-а-а, малы!

— Трэба памагаць раненым, дзядзька!

— Падмога-а! Як кашаль хваробе...

— Гой, ды што вы такі неймаверны?

— Згубіў, чуеце, усякую веру... Зняверышся, калі цябе-э... Направа-а, там!

З-за грудка паказалася параконная падвода.

— Дарогі, а папрабуй абмінуцца... Направа-а, гэй, там!

Вазніца спыніўся і пачакаў параконку.

— А сам хвор з'ехаць?..

Гэты выгук фурмана з параконкі быў заглушаны новым воклікам, які падалі сугалосна двое седакоў на параконцы:

— Ліба Шлёмаўна?

— Няўжо Рыгор Міхасевіч? Павал?..

Вазніца здзіўлена паглядзеў на двух чыноўнікаў з дарожнага атрада, якія ўвішна, праз глыбокую гразь, падбеглі да яго седака.

— Вы ў атрад? — пажартаваў Павал.

— Чаму, непатрэбна вам?

— Вельмі рады, але скуль так неспадзявана?

— Угадайце! — засмяялася Ліба.

— Гэта цяжкая рэч!

— Ну куды ж вы? — пацікавілася яна.

— Паўла адпраўляю ў Мінск! — адказаў Рыгор.

— У Мінск? Гэта ж з якою мэтаю?

— На службу. Усадзіў мяне ў атрад, а сам уцякае.

— Сур'ёзна? Дык чаго ж я заязджаю ў мястэчка?
— А вы...
Гулкі свісток цягніка, што падыходзіў да станцыі, прарэзаў вільготнае паветра, разляцеўшыся далёка навакола.
— Едзем хутчэй! — пазваў фурман з параконкі.
— Як я шкадую, Ліба, што так здарылася!
— Вы ж можаце... Тым лепей, калі вы будзеце ў Мінску... Вярнеце, дзядзька, на станцыю...
— На станцыю? Як жа з платаю?
Вазніца завярнуў каняку і паехаў следам за параконкаю.
На станцыі яны толькі-толькі паспелі купіць для Паўла білет.
Ён нават не паспеў па-людску развітацца.
— Ну ж я не думаю, што Паўлаў ад'езд вас верне назад, не даўшы адведаць мястэчка?
— Я і сама не ведаю, што зрабіць. Мая цётка... Ці яна ў Ступках, ці не... хто яе ведае...
— Чарговы цягнік не раней як а другой па поўначы, так што, я думаю...
— Няўжо?
— А вы думалі?
Рыгор расплаціўся з вазніцаю і на параконцы вярнуўся з Лібаю ў мястэчка.
Пачынаў церусіць дробны дождж ык. Раз'езджаная дарога тапіла калёсы. Усё ж пара моцных коней не зважала на вязкасць і ўподбежкі нясла цяжкую ваенную каламажку.
Калі яны абмінулі ўзгорак і пачалі спускацца да мястэчка, Рыгор аднавіў на нейкі час замоўкшую гутарку:
— Я б прасіў вас, Ліба, пераначаваць; навошта вам ноччу ехаць?
— Гэта відаць будзе прыехаўшы... Тут жа жыве якаясьці мая цётка...
— Усё-такі жыве?
— А вы думалі, я да вас ехала? Я ехала да цёткі...
— Я нічога не думаў, паверце! Ваш прыезд мяне больш узрадаваў, ніж здзівіў. Каб я меў сілу... ці правы... я б вас, Ліба, не адпусціў адгэтуль...
Яна пытальна ўталопіла колкі ўзрок у абліты ласкаваю ўхмылкаю Рыгораў твар. Бэзавы пах парфумы заказлытаў у яго носе.

— Вы праўду кажаце? — наводна запытала Ліба.

— Што думаю, тое і кажу...

— А, прызнайцеся: хоць калі думалі, што мы з вамі можам спаткацца пры гэткіх абставінах, як зараз?

— Ніколі... І тое, што гэта здарылася, дзякуючы вам, мяне глыбока кранула. Я адчуваю ў вас блізкага сабе чалавека... За апошні час, Ліба, я многае перажыў. Толькі два месяцы мінула, як мы з вамі развіталіся на вакзале, а ў маім жыцці — шэраг буйных здарэнняў. І цяжэйшае з усіх — смерць мацеры... Тыдзень таму якраз, як выпадкова напатканы зямляк, мой лепшы таварыш, прывёз мне гэту вестку. Бедная ехала ў бежанцы, поўная надзеі ўгледзець свайго сына, а тыфус — рраз — і гатова! Таварыш схаваў яе ў дзесяці вёрстах ад Мінска, пры дарозе... Вестка гэта балюча раніла маё сэрца — шкада кабеты! Шкада, ведаеце, Ліба, не толькі як мацеры, а і як чалавека. Яна ў мяне была добрым, адзыўлівым, шчырым сябрам. Жыла мною, цярпела з-за мяне, ганарылася, надзеялася... І раптам... Мулкая думка не дае супакоіцца...

— Я вам таварыш па няшчасці,— даўшы выказацца Рыгору, адрывіста праказала Ліба.

Яе раптоўны голас зычэў адбіткам растрывожанага Рыгорам смутку.

— Я вам спагадаю, бо толькі-толькі сама перажыла падобную трагедыю... За тыдзень да выезду з Пецярбурга мне паведамілі страшную рэч... пра нагальную смерць бацькі. Стары збіраўся ехаць да мяне і, пераходзячы чыгунку, папаў пад цягнік. Няшчаснаму адрэзала абедзве нагі — не паспелі данесці да бальніцы, як ён памёр. Вы не паверыце, што са мною рабілася... Я думала... Смерць бацькі перавярнула ва мне нутро... Цэлы тыдзень хадзіла я як сама не свая... Бацька — гэта ж бацька! Аднак нічога не парадзіш — мушу жыць без яго...

— Так... Мусім жыць — падобныя трагедыі не мінучы...

Пад уплывам гэтых размоў яны крыху пасядзелі моўчкі, бесцікаўна разглядаючы замокшыя гароды і рэдкія мэндлі нядаўна зжатага жыта.

— Заехаць у мястэчка ці проста ў Ступкі? — запытаў фурман.

— Вы хочаце спыніцца ў мястэчку? — спытаў Рыгор Лібу.

Тая паціснула плячыма і адказала:

— Каб я ведала, што знайду цётку...

— А адрас маеце?

— Зразумела... Чаму ж бы я ехала тады?..

Яна дастала запісную кніжку і спешна пачала чытаць карандашныя нататкі. Фурман спыніў каня.

— Можа, паабедалі б?.. Але і з гэтым уладзім у Ступках, калі вы...

— Добра, едзьце, куды хочаце,— хаваючы кніжку, згадзілася Ліба.

— У Ступкі! — вялеў фурману Рыгор.

Той моцна тузануў лейцамі і крута павярнуў налева.

— Стой-ай!! — пачуўся гучны воклік засаб некалькіх чалавек.

Насустрач ім ішлі салдаты. Фурман звярнуў да бліжэйшага двара, каб вызваліць вуліцу.

Напрамкам да двара ўся вуліца, да яе загіну ўправа, была занята шэраю гушчаю салдат. Пастроеныя па шэсць у шэраг, яны фармавалі шырокую густую калону. Рытмічныя ўдары соцень ног адбівала моцныя важкія гукі. Смуглыя абветраныя твары, часта барадатыя, маршчыністыя таілі ў сабе пякучую крыўду на тых, хто адарваў іх ад сямей, ад зямлі і саракагадовых гнаў на забой. Цяжкая амуніцыя давіла на іх пудоваю вагою, звязваючы рух. Вільготнае паветра не астуджала разгарачаных утомаю твараў, на якіх рагамі сцякаў пот.

Па ўзбоку салдацкае калоны, на некаторым адгоне адзін ад другога, ехалі вярхом на конях здаровыя, сытыя камандзіры. Кожны з іх праводзіў узрокамі крайнія рады салдат.

Многія з камандзіраў азіраліся на падводу, на якой сядзеў Рыгор з Лібаю.

Белая касынка Лібы, з-пад якое выглядаў чысты, здаровы і прыгожы твар, выклікаў гасцінныя ўхмылкі.

Калі з завароту вуліцы паказаліся апошнія шэрагі салдат, пярэднія гучна заспявалі.

Раптоўны спеў устрывожыў коней, якія крута рвануліся і галопам панеслі Рыгора з Лібаю. Фурман мог іх утрымаць толькі на выездзе з мястэчка, куды чуцьчуць даходзілі заглушаныя зыкі салдацкае песні.

Напалоханая пудам коней, Ліба моцна трымалася за Рыгораву руку.

— Няхай бы беглі, калі маюць ахвоту,— падаў Рыгор фурману,— дарога адкрыта.

— Што вы, што вы, Рыгор! — пераняла яго Ліба.— Мяне затрасло да болю.

Пабялеўшы Лібін твар сведчыў за праўду яе слоў.

— Няўжо-такі?

— Можа, таму, што ўжо даўно не ездзіла на падводзе... Бедныя салдаты! Хутка многія з іх вернуцца калекамі, абрубкамі...

— І вы будзеце вадзіць іх па вуліцах Мінска, выклікаючы агульную спагаду.

— Другія ж... а колькі не вернецца?

Коні ўзыходзілі на гарбаты мост пад далёкія водгукі музыкі, якая даходзіла з мястэчка.

— На вайну, як на баль...

— Трэба скрашваць будучыя жахі...

Выгляд двара, як стройнае густое купкі лесу, прымацаваў да сябе Лібіну ўвагу.

— Вам тут не нудна, Рыгор?

— Некалі нудзець... было дагэтуль, а далей... Шкада, што Павал выехаў... Я блізка з ім зжыўся, люблю яго, як таварыша і чалавека...

— Вы добра адносіцеся да таварышаў, Рыгор. У кожным вы бачыце чалавека — гэта ваша дадатнасць... Можа, яна так прыцягае і мяне да вас...

Лібін сказ павярнуў да яе спакойна сядзеўшага Рыгора.

— Не верыце? — усміхнулася Ліба.

На хмарным небе вызначылася мясцінка сіняга лазурку. Украдчывае праменне правяло яскравымі каснікамі ўпапярок дарожкі, якою яны ехалі.

І гэтыя сонечныя каснікі дапаміналі сабою белую скацяртку, заслаlarную на ўрачыстай бяседзе.

## IX

Маладая гаспадыня, у якой Рыгор кватараваў і харчаваўся, адчыняла дзверы, калі фурман спыніў коні.

— Бач, як добра — ухітрыліся абмяняць Паўла на прыгожую паненку!

— А што ж, хацелі б, каб дарма з'ездзіў на станцыю, блізкі свет?

Маладзіца залілася рэзвым здаровым смехам.

На іх глядзела чарада дваровых, якія тут жа сядзелі на бярвеннях, занятыя гутаркамі.

Некалькі пузатых, замурзаных малых, з хлебам ды ападкамі яблык у руках, падбеглі да воза. Яны пужліва паглядзелі на Рыгоравы блішчастыя эпалеты і гузікі ды сарамліва адварочваліся ад узрокаў Лібы.

— Можна коні распрагаць? — запытаў фурман, калі Рыгор паказаў Лібе на адчыненыя гаспадыняй дзверы.

— Мне яны больш не патрэбны.

Малыя спрытна пачапляліся на воз, тулячыся ад фурманавай ўвагі.

— У вас можа хопіць абеду для нас дваіх?

— Ды ўжо ж... буду шукаць... Ці ж можна сястру пакінуць галоднаю!

— Вы не маракуйце, што нарабіў вам клопату.

— Дайце рады — падумаеш, клопат! Не ўразьце, барышня!

Цесная парабкоўская хата дзівіла Лібу сваім доглядам і прытулкам.

На стале ляжала белая сурвэта; ложак, што стаяў у другім кутку, не ўступаў белізною прасцірадла і брыжастымі навалачкамі на высокім стопе падушак. Чыстыя ўслоны суседзілі з трыма чорнымі венскімі крэсламі. У мыцельніку туліўся невялічкі буфет, чаму на ўслоне не відаць было ніводнае пасудзіны. Тры невялікія акенцы былі ўстаўлены рознымі вазонамі. Між ложак вялі дзверы ў пакоік, што займаў Павал.

Рыгорава малюпаткая каморка мела войсце з яшчэ меншых сенечак.

— Заязджалі ў мястэчка? — пацікавілася гаспадыня, падаючы абед.

— Не!

— Чаму ж такі? А то ж нядаўначка прайшло столькі салдат!

— Мы стрэліся з імі пры выездзе з Вакзальнае вуліцы.

— Якія харошыя мужчыны! Стройныя, маладыя і — на вайну! Няўжо ім хочацца ісці?.. Як вы кажаце, сястрыца?

Ліба мякка ўхмыльнулася гаспадыніным словам:

— Хто вайну любіць!..

— Ой, не кажэце,— перамяніла голас гаспадыня: — вось няхай вам скажа наш упраўляючы. Яму вайна — масленіца. Праз вайну ён стаў панам. А што вунь вычварае ў Мінску сын упраўляючага! Уся справа дастаўкі войску сала і круп знаходзіцца ў яго руках. Вы не ведалі?

Яна паглядзела на Рыгора.

— Так, вайна для паноў і фабрыкантаў — масленіца...

— Дазвольце падзякаваць за абед... Але ў мяне яшчэ да вас маленькая просьба...

— Прашу вас!.. То-то і ёсць, што нашаму брату разбурэнне, то пану — нажыва...

— Мая знаёмая не мае дзе пераначаваць — ёй толькі заўтра можна выехаць.

Палажыўшы на грудзях рукі, закасаныя за локаць, у чорных пісагах, з высока падаткнутаю спадніцаю, гаспадыня гасцінна смяялася, упарта гледзячы на Лібу.

— У сене, хіба? Ха-ха-ха!..

Тут жа яна павярнулася да дзвярэй у бакоўку, расчыніла іх і дадала:

— Во-а! Калі вы прагоніце ад сябе — у яе распараджэнні Паўлаў пакоік.

Ліба папрасіла выбачэння.

— Я вельмі рада вас мець сваім госцем. Хоць тыдзень жывеце ў нас... Я так Рыгора паважаю, што мне яго знаёмыя...

Стукнулі дзверы, і ў хату ўвайшоў Сёмка. Угледзеўшы Рыгора ■ Лібаю, ён моўчкі і нерашуча спыніўся каля парога.

— Да мяне? — запытала яго гаспадыня.

— Няхай будзе да ўсіх,— знайшоўся ён.— Я думаў пазычыць у вас... ды жонка сама зойдзе...

— Вось гэта той, хто прывёз мне вестку пра смерць мацеры. Мой таварыш Сёмка... Быў у мястэчку?

— Паленаваўся цягнуцца,— адказаў ён і пагледзеў на Рыгора.— Заседзеўся на месцы і нібыта той... Усё яшчэ адпачываю ад дарогі.

— А дарога даўгая!

— Каб хаця ды на гэтым скончылася! А чаго добрага, праз які тыдзень-другі зноў збірай манаткі і

айда-а... Тады яшчэ новы клопат: замест каня — давядзецца на сабе несці тое, што ёсць...

— Ды ці ліха ім! Няўжо-такі немцам не будзе супынку,— разважала гаспадыня.

Калі ўсе ўчацвярых пакінулі памяшканне, на дзядзінцы іх стрэла Волька.

— Пашлі дурнога, а за ім другога,— прывітала яна Сёмку.

— Што ты злуешся — жалезца згубіла?

Волька раптам супакоілася — узрок Лібы разагнаў яе сярдзітасць.

— Вось пазнайцеся лепш з сястрою,— запрапанаваў Рыгор.

Волька зрабіла крок наперад і працягнула Лібе каравую руку:

— Твой госць? — абярнулася яна да Рыгора.

— Як бачыш...

Гаспадыня вярнулася ў хату, а яны ўсе разам прайшлі дзядзінцам да выезду з двара.

— Вы ў мястэчка? — запытаў Сёмка, павяртаючы назад.

— Дзе там! Хаця б да ракі,— адказаў Рыгор.

— Пажадаю вам весела правесці час!

Усмешка Лібы была адказам Сёмку.

— Шкада мне яго! — праказаў Рыгор, калі яны адышліся на гоні ад дзядзінца.— Слаўны чалавек і мусіць пакутаваць. Яшчэ добра, што ўдалося ўстраміць яго на працу ў атрадзе, а то б...

— Вы сапраўды накіроўваеце ў мястэчка?

— А вам бы хацелася?

Ліба адмоўна кіўнула рукою.

— Як лёгка дыхаць! Давайце завернем направа... Што за дзіўны абраз!

Перад імі рассцілаўся шырокі абшар поплаву. Маладая атава пералівалася ў ваччу руцянаю зеленню. Жаўцеючае збожжа прагна лавіла ўзнятымі каласамі сонечнае праменне. Прысады і пералескі, што прарazалі ровень палёў, карункавалі іх багатыя ўборы.

На небе блудзілі рэшткі нядаўніх хмар, адыходзячы да чорных граніц небасхілу. Прамытае паветра пахла спелаю яр'ю і соладам гваздзік.

Непарушнасць вады ў рэчцы сведчыла пра надышоўшую ўрачыстасць другое паловы дня.

Рыгор з Лібаю бязмоўна ішлі між дваровага саду ў бок невысокіх кустоў пры рэчцы. За імі нёсся несціханы стук калёс з захаванага ўзгрудкам гасцінца.

— Жывучы ў горадзе, нельга сабе ўявіць вось гэтага хараства... Няпраўда, мо, Рыгор?

Пруткая рука яго прыгартала да сябе стройны стан Лібы.

— Праўда.

— Я ўспамінаю Смагін і вечар, калі мы вярталіся з мітынгу... Мне так хацелася, Рыгор, гутарыць з вамі, але вы здаваліся мне... недаступным.

Ён паглядзеў у Лібіны вочы.

Дзяўчынін узрок гарэў маладою прагаю ласкі.

— Сядзем вось на гэтым грудку...

Рыгор разаслаў жакетку.

— Калі ласка!

Лібіна касынка з'ехала на шыю, і чорны букет валос разбэрся па яе плячах.

— Сядайце тут... Бацькі не ўбачаць...

— Так, у мяне ўжо некаму глядзець...

Абое нейкі час памаўчалі.

Ліба разуважліва кінула ў рэчку пару лісткоў малачайніку. Лёгкія кружкі чуць прыкметна заварушылі срабрыстую паверхню вады. Блудлівыя мошкі апалі на скінутыя для іх масткі.

— Ведаеце, Рыгор...

Напружаная ўвага зрабіла яго спакойней вады.

— Вам не цікава?

Рыгорава галава шчыльна падблізілася да Лібінай.

— Прашу вас, Ліба!

— Кіньма на вы... Мы не настолькі чужыя з... каб астуджаць наша сяброўства.

— Ты праўду кажаш...

Наступная хвіліна запоўнілася зацяжным пацалункам...

— Ты прыедзеш у Мінск?

— Буду прасіцца... Мне, наогул, тут сумна аднаму...

— Аднаму?..

— Бачыш... я зжыўся быў з Паўлам... А Сёмка?.. Сёмка... Не, Сёмка быў бы...

Рыгор адчуваў падышоўшую цяжасць гутарыць. Язык прыліпаў да гартані, і толькі вочы напружана глядзелі ў заваражыўшы яго Лібін твар.

Белая, стройная рука сястры перабірала пальцамі

космы яго ўскудлачаных валасоў. З-пад шэрага плацця даходзілі зачасціўшыя стукі Лібінага сэрца.

— Калі ж цябе спатыкаць на мінскім вакзале, Рыгор?

Сетка ценю ад разрослае купаю ліпы пакрыла русую галаву Рыгора.

— Я дам знаць.

— Дасі? Не хлусіш?

Рыгоравы губы кранулі выпуку чырвонае шчакі дзяўчыны.

Іх адняў гулкі стук конскіх капытоў па мосце.

То вяртаўся ў двор упраўляючы.

Яны адвярнуліся к дарозе.

— Пан?

— Упраўляючы. Пана вайна затрымала ў Варшаве.

Ліба агідна сплюнула, а Рыгор рассмяяўся.

— Можна было б апраўдаць вайну, каб ды толькі яна скончыла з панамі...

— Люблю цябе, Ліба, за твае думкі...

— Толькі за думкі?

Жартаўлівы сказ скалануў Рыгорава нутро.

Ён падняўся і працягнуў Лібе руку.

## X

Каля вадакачкі яшчэ раз мігнуўся ў Рыгоравым ваччу белы кавалачак Лібінай касынкі. Рыгор матнуў шапкаю і адвярнуўся да станцыі.

Насільшчык пхаў поўную тачку пасылак. Пяцёра сялян адзін за другім паўзнімаліся з лаўкі і пайшлі з перона. У адчыненым акне аднастайна тарахцеў марзе.

Чыгуначны жандар, выткнуўшыся з-за рога станцыённага будынка, сурова паглядзеў на яго і тут жа знік.

На станцыі стала ціха.

«Паеду да кіраўніка работ».

Рашэнне ўзняло Рыгора з месца, і ён лёгка ачуўся каля падводы, на якой прыехаў сам і прывёз Лібу.

— Едзем!

— У двор? — запытаў фурман.

— У канцылярыю кіраўніка работ... Шпарчэй!..

Фурман пагнаў коні. Калдобістая дарога падкіда-

ла воз, качаючы Рыгора ў бакі. Але ён не зважаў на трасучку, цалкам аддаўшыся планаванню наступнага.

Лібін прыезд вызначыў у ім наяўнасць акрэсленай мэты. Так, Рыгор гэта адчуў учарашнім днём, калі знаходзіўся з Лібаю каля рэчкі. Яна нарадзіла ў ім моцную прагу кінуць адзінокае жыццё.

Дакуль яго цягнуць, мардуючы чулае сэрца? Зося, Ганна, Наталля... і, нарэшце, Ліба... Ён павінен адзнаць усю глыб перажытага хвалявання. Яго сляды ляглі выразнымі адбіткамі ў перачулым нутры. Ліба кранула іх сваёю гарачаю шчырасцю. За яе вобразам — пустэч, якая сцірае прамігнуўшыя цені.

Рыгор павярнуўся ў бок станцыі, але яе не відаць было за мястэчковым будынкам. Перад ім вокны канцылярыі кіраўніка работ адсвечвалі сонечным праменнем.

«Буду прасіць камандзіроўкі... адкамандзіроўкі-ы?»

— А-а, Рыгор Міхасевіч? Адкуль гэта? — спаткаў яго Проваў, калі коні спыніліся перад ганкам канцылярыі.

Кіраўнік гасцінна, як ніколі да гэтага, глядзеў на Рыгора, працягваючы яму руку.

— Са станцыі?..

— А мне вось трэба было...

Яны прайшлі ў кабінет кіраўніка работ.

Проваў запрасіў Рыгора сесці.

— Я хачу вас паслаць у ўпраўленне начальніка работ... У мяне якраз просяць чалавека, якому адпавядацьмеце вы... Згодны?

Рыгор не чакаў пачутага ад кіраўніка і не ведаў, што яму адказаць.

— А можа, вам лепш у нас, тады я з вялікай прыемнасцю пакіну вас пры атрадзе. Я падгатовіў ужо вам падвышэнне... Думайце!

— Так, я згодзен на вашу прапазіцыю паехаць... А калі гэта трэба?

— Бліжэйшымі днямі... Па-мойму, вам трэба гэта выкарыстаць... Бо што вам можа даць атрад? Вось хутка мы пераязджаем на новае месца... Надыходзіць восень, дажджы...

— Яўген Віктаравіч! Я ўсяго буду прасіць вас, каб вы не разлічылі майго бежанца... Вы яго выратавалі, прыняўшы ў атрад...

— Ці ж гэта можа адбіцца на вашым рашэнні?

— Як бы вам сказаць...

У кабінет увайшла высокага росту маладзіца. Не звяртаючы ўвагі на Рыгора, яна падышла да кіраўніка і штосьці шэптам яму паведаміла. Той згодліва кіўнуў галавою і адвярнуўся да Рыгора.

— Значыць, вы згодны на маю прапазіцыю?

— А ўжо ж, дзякую.

— Тады я данясу ўпраўленню...

Кіраўнік працягнуў Рыгору руку і хапіўся за пачку папер.

Рыгор выйшаў з кабінета, пільна раздумваючы над пачутаю нечаканасцю.

Прапазіцыя кіраўніка работ, яго цёплая ўхмылка ў час гутаркі, спачувальная ўвага да Рыгора і дзівіла апошняга і азадачвала. Рыгор зусім не разлічваў на гэта. Паслуга кіраўніка па сутнасці была варта таго, каб яе выкарыстаць, але дачаснасць яе хавала пад сабою ўсё іншае, што было звязана з яго планамі. За апошні час Рыгору, урэшце, удалося намацаць грунт і разгарнуць працу сярод рабочых атрада. У гэтым дапамагаў яму і Сёмка. Такіх спрыяючых трапункаў у сваім жыцці Рыгор налічваў нямнога...

Ужо ад'ехаўшы ад канцылярыі кіраўніка работ, ён адчуў поўнае задаволенне паваротам спраў.

Зацягнутае воблакамі неба не перашкодзіла празрыстасці яго настрою. Раскалыханыя думкі хутка пераносіліся з двара на гасцінец, з гасцінца ў Мінск, з Мінска ў Пецярбург.

Пераплёты выплыўшых у памяці падзей калыхаліся ў яго ваабражэнні разнаколернымі букетамі кветак.

Нягледзячы на цяжкія моманты ў мінулым, жыццё ўхмылялася фарбамі надзей.

Іграцёмных і светлых плям разнастайнілі Рыгорава жыццё, прыдаючы яму цікавасць.

Стромымі ўступамі праходзіў ён жыццёвы шлях, але змардаваныя сілы папаўняла цвёрдая вера ў моц і сілу працоўных. Цяжкія іспыты, што выклікала вайна, таілі ў сабе пагрозныя нечаканасці. Чым болей заблытваўся клубок ваенных падзей, тым выразней адзначаліся іх вынікі. Рыгор настарожана лавіў калыванні грамадскіх думак, дыягназуючы па іх размахах і ўхіл надыходзячых падзей.

У даную хвіліну Рыгор адчуваў наяўнасць у сабе багатых скарбаў нявыкарыстанай энергіі. І толькі глуш запалоханай правінцыі падбівала стромкія ўзлёты яго рызыкоўных намераў.

Тая праца, якую ён пачаў вясці сярод рабочых, поўнасцю яго не здавальняла.

Зліты ў адно, гучны стук чатырох конскіх ног па дошках моста павярнуў Рыгора ўлева; ён паглядзеў усцяж завілай рэчкі і разбегся ўзрокамі па закаржэлых кусціках алешніку.

Палкае ваабражэнне мігам стварыла жывы вобраз Лібы: белы фартух на шэрым плацці, чырвоны крыж на выпуку грудзей і мілая задзёрыстая ўхмылка на чыстым румяным твары.

— З мястэчка, Рыгор?

Агінаючы падводу, насустрач яму ішла Волька. Кроках у двух ад яе бегла замурзанае дзіцянё.

— З мястэчка. А ты — у мястэчка?.. Спыні коні...

Фурман напяў лейцы, і коні сталі.

— Дык жа дай ты рады. Сёмка нашчэнт разбіў дзеравячынай нагу. Ледзьве прыпоўз з атрада. Бягу ў аптэку за ёдам і марляй.

— Што ты кажаш? Як жа так надало яму гэта зрабіць? Вось то ўжо справы...

— Рыгорка, не шанцуе мне... Ой, ды як яшчэ мне не шанцуе...

Волька пацерла кончыкам хусткі заплаканыя вочы.

— Што прыйдзецца рабіць — сама не ведаю... Хадзі, Юрка, сюды,— пазвала яна дзіцянё.

— Дрэнна... Сядай на воз і едзь па што трэба...

Рыгор саскочыў з воза і ўскінуў на яго Вольчына дзіцянё. Волька ўзлезла на воз, і фурман павярнуў у мястэчка.

— А грошы маеш, Волька? — гукнуў Рыгор.

Яго не пачулі.

«Сапраўды не шанцуе»,— праказаў ён сам сабе і ўскоранай хадою пайшоў да двара.

Параўняўшыся з садамі, ён стрэўся з падводаю, на якой ехаў тэхнік Бросня.

— Гэта ж чаму не з'явіліся на працу? — начальнічым тонам гукнуў ён да Рыгора замест прывітання.

— Я мусіў быць па справах у канцылярыі кіраўніка работ.

— Цікава, якавы вашы справы? Я ўжо чуў пра гэтыя справы.

— А калі б і так?..

— Вось гэтага якраз і не павінна быць. Не можна забываць, што вы на вайсковай службе.

— У кожным разе не вам мне пра гэта дапамінаць...

— Не падабаецца?..

— Разам з вамі.

Рыгор крута павярнуўся ад Бросні і схаваўся за заломам апінаўшых сад платоў.

Фельдфебельскі выбрык тэхніка расхваляваў яго да адказу. «Што за хамскае котла!» — вылаяўся ён.

Аднак у спатканні з Броснем таілася нешта нядобрае. Яно вымушала ў Рыгора праверыць свае суадносіны з ім на працягу праведзенага ў атрадзе часу. Тэхнік акрэсліў свой узрок на яго тою сухою, казённаю афіцыяльшчынай, якая вельмі яскрава вызначылася пры першым іх знаёмстве і якая паглыбілася яго падазронасцю да Рыгоравых занадта блізкіх адносін да атрадаўскіх рабочых. Рыгор мала звяртаў увагі на гэта. Тым не меней ён пачынаў непакоіцца. Ад гэтага прыткага чынушы можна было чакаць усяго.

— А вы і не абедалі нават? — запыніла Рыгора гаспадыня, калі ён увайшоў на дзядзінец.— Мабыць, праводзілі сястру да самага Мінска?

Яе пераліўчаты забавны рогат аддаўся рэхам па загуменнем двара і рассеяў агіднае ўражанне ад Бросні.

Маладзіца была далёка ад тужлівага настрою. Адсутнасць гаспадара, які, згодна яе прызнанню, быў забраны ў армію, нікольки яе не суміла. Вяртлявая і вясёлая, яна або ўмела таіць цяжар адзіноцтва, або зусім была яму чужою.

— А пакуль вы ездзілі, ваш знаёмы паспеў нашчэнт расквасіць нагу. Бедны, ледзьве прыйшоў з атрада.

Яна спагадліва паківала галавою.

— Пайдзеце наведайце яго — ён адзін, жонка пабегла ў мястэчка за ёдам... Не шанцуе... Ну, а вы ж сястры хаця пакланіліся ад мяне?

— Абавязкова. Дзякавала вам за гасціннасць,— адказаў Рыгор і павярнуў, каб ісці да Сёмкі.

— Чакайце ж,— хапіла яго маладзіца за руку,— перш паабедайце-э, а тады-і ўжо пойдзеце да тавары-

ша... Можа ж, не памрэ за гэты час. Ці ж можна галоднаму да вечара?..

Маладзіца зняла з плеч серп і, не выпускаючы Рыгоравай рукі, павяла яго на кватэру.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## I

Яўген Віктаравіч Провађ, кіраўнік работ, абкружаны тэхнікамі і дзесятнікамі, аглядаў папраўлены ўчастак дарогі.

Роўнаю струною расцягнулася зафашыненае месца нядаўна раскіданай грэблі. Жоўты пясок, гладка абабіты лапатамі, пераліваўся на сонцы залатымі россыпамі. Абочныя канавы конусам сходзілі да аршыннае глыбіні, адшнуроўваючы цёмную лінію, як анталяжы, на ўзроўні зніжанага грунту поплаву.

Рабочыя з атрада часткаю корпаліся пры зборы ў адно месца непадабраных ралак, трэсак і кускоў дзярыны, часткаю гутарылі, курачы цыгаркі, часткаю на адгоне некалькіх крокаў хадзілі за камісіяй.

— Нам застаецца перакапаць аб'езды, прыраўняць дарогу ад станцыі да мястэчка і гайда далей,— паведаміў кіраўнік работ, спыніўшыся пасярэдзіне папраўленага ўчастка.

— Ну, а з палоннымі як? — запытаў Бросня.

— Знойдзем і ім працу... Магчыма, вам прыйдзецца паехаць абследаваць да сяла Вішнеўскага... Ёсць усе даныя, што сюды пройдзе асноўны маршрут...

— А ці паспеем мы да асенняй слоці ўвіхнуцца? Здарэнні на фронце ашаламляюча развіваюцца. Немцы падбліжаюцца да Ліды, наступаюць на Пінск, забралі Ваўкавыск...

— Мусім справіцца...

— Пры нашых людзях гэта вельмі цяжка.

— Што-а?

Бросня азірнуўся назад, дзе наперадзе кучкі рабочых стаяў Рыгор. Кіраўнік хітра прасачыў за не ў меру старанным тэхнікам і рашуча збіў яго намер.

— Вайсковая дысцыпліна нікому не патурае.

Рыгор убачыў кіслую міну Бросні і гадліва адвярнуўся ад тэхніка.

Рабочыя зацята абгаварвалі апошнія здарэнні на фронце. Ні планы кіраўніка работ у наступным, ні агледжаны ўчастак скончанае працы іх не цікавілі. Усе яны паходзілі з мясцовасцей, якія часткаю ўжо адышлі пад фронт, а часткаю непасрэдна з ім межавалі. Амаль ні кожны з іх тым ці іншым з свае працы, з свайго ашчаднага набытку, а то і жыццём радняка ці сем'яніна заплаціў за непрытомны ўчынак драпежных авантурнікаў. Дзе ж канчатак крывавай завірухі?

На задаволеным і спакойным твары Яўгена Провава мэрам бы непрыкметна было клопату пра гэта. Выпаўненае атрадам заданне ўносіла ў яго актыў новую лічбу і гэтым абмяжоўвала яго ад шырэйшых заданняў ды глыбейшых думак. Гэта адзнавалі многія з рабочых, нядбайна праводзячы яго з рэвізійнага агляду.

Пара стройных здаровых коней хутка нясла інжынера-начальніка з месца работы ў канцылярыю.

— Што яму да вайны і што вайне да яго?..— судзіў Сёмка, абапёршыся на дзяржанне жалезняка і падняўшы незажытую нагу.

— А ці ж табе вядомы яго думкі? — не згаджаўся яго сусед.

— Мне і ведаць не трэба — відаць з надворнага выгляду.

— Ха-ха-ха! Ці ж можна суйздром...

— У кожным разе вайна, галоўным чынам, б'е па нас,— перабіў Сёмка суседа.

— Гэта вядома.

— Пара было б стукнуць і па ёй!

Малады, здаровы дзяцюк усадзіў лёза жалезняка ў смалістую хваіну.

— Вайна — не хвоя,— пажартаваў Сёмка.

Рабочыя рассмяяліся. Але іх смех тут жа быў пераняты тэхнікавым прыказам узяцца за перакладку аб'езнай дарожкі.

Хутка грамадка рабочых разбілася на стройныя рады, якія паважна закалыхаліся над чорнаю зямлёю.

Рыгор прыстаў да першага рада і з асаблівым захапленнем убіваў у рыхлую зямлю востры жалязняк.

Пудовыя крыгі праторфенай зямлі ўзмахам яго рукі апісвалі чуць не сажэнныя дугі.

Ужо глыбокія раўчукі выглядалі дастатковай пера-

шкодаю для праезду, калі новы абоз бежанцаў супыніўся перад першым радам рабочых.

— Назад, дзядзькі! — выгукнуў адзін з іх.

Падводы адна за другою сталі спыняцца.

Неўзабаве ўсцяж значнага адгону шляху зграмадзілася каля сотні вазоў. Падняўся крык, які гнаў патрывожаных людзей наперад, да месца, якое перагарадзіла іх дарогу.

— У чым справа-а? — гудзелі дзесяткі галасоў, злосна трасучы ў паветры пугамі ды палкамі.

Рыгор не паспеў падняць рукі, каб супакоіць тых, што крычалі, як здаровая палка аднаго з іх апусцілася на плечы яго суседа. Той крыкнуў і спрытна падняў уверх жалязняк.

— Пастой! — прытрымаў яго Рыгор.

— А ты, дзядзька...

Селянін, што ўдарыў палкаю, раптам прысмірэў і пільна ўпёрыўся ўзрокамі ў Рыгора.

— Рыгор?! — здзіўлена выгукнуў ён.

— Дзядзька Сідар?.. Што з вамі?!

— Ах, сынок мой, даруй мяне, непрытомнага,— пачаў апраўдвацца селянін, кінуўшыся на Рыгора, і павіс у яго на шыі.

Зацікаўленая здарэннем грамада сялян некалькі хвілін моўчкі глядзела на Рыгора з Сідарам, пасля спакойна пачала адыходзіць да сваіх вазоў, якія варочала на папраўлены шлях.

Сідар апошнім адышоў ад рабочых, умольна перапрашаючы пакрыўджанага. На яго збянтэжаным твары мясціўся едкі сорам з бяспомачнай разгубленасцю.

— Паверыш, Рыгор, я сам не валодаю сабою. Змучаны, прыбіты няшчасцем, я згубіў сваю людскасць... Бачыш, да чаго дайшоў,— паказаў ён на парваныя радняныя порткі.— З Пецярбурга і проста ў дарогу. А куды?.. У дагон за Гэляю... Так і не чуваць, дзе апынулася яе цела?.. Эх-ха-а! Сыно-ак мой!

Побач грукацелі збітыя колы на новых фашынах. Другі шэры цуг бежанскага каравана ўплываў сваёй галавою ў вузкую прагаліну лесу.

Мо на гоны ад іх матнулася ў паветры белая дзеравячына, некалькі раз схіліўшыся да долу. Следам да іх дайшоў аслаблены адгонам вокліч:

— ...до-а-р-р! Дзі-ы-а!

— Завуць! — выпрастаўся Сідар і, зняўшы скамеча-

ную шапку, колеру прасохшага чарназёму, пераскочыў канаву.

— Праўдзі, Рыгор,— пазваў ён, спусціўшы хвілінку.

Рыгор уваткнуў жалязняк у зямлю і нагнаў Сідара.

— Ага-а, бок, дзядзька! Я і забыў — і Сёмка... тут жа...

— І Сёмка-а? Хведа-араў?..

Сідар падняў угору плечы, скрывіў галаў і астаўся так стаяць, пакуль Рыгор не гукнуў Сёмку.

Сёмка, кульгаючы, падбег да іх і вытарашчанымі вачыма паглядзеў на Сідара.

— Няўжо вы, дзядзька, дагэтуль заставаліся ў Сілцах? — суха запытаў ён.

— Дзе-э там! — разуверана матнуў рукою Сідар.— Праз тыдзень пасля цябе выбраўся ў дарогу і ўсё яшчэ еду. Бачыш, колькі часу з'еў адгон ад Сілцоў дагэтуль... Справы ж, браце-э...

У ваччу Сідара паказаліся слёзы.

— Вось быў на нейкі час устроіўся на працы ў фальварку Зграі, вёрст сорак адгэтуль, а далей гаспадар разлічыў... І цяпер еду з чужымі, адзін, як воўк, ну зусім без усякіх спадзяванак на прыпынак... Вунь Грыбы ды Гладышы паабсталёўваліся даўно, а гэта-а... Іду-а-а! — гукнуў ён усцяж абозу...— А ты якім жа чынам апынуўся тут на працы?..— пацікавіўся Сідар у Сёмкі.

— Дзякуючы Рыгору... Выратаваў ён мяне, дзядзька. А я ўжо думаў... Пахаваў бацьку ў дарозе... І Рыгараву мацеру...

Сідар стаяў, як на шарніры; яго ўскудлачаная галава несупынна адварочвалася ад Рыгора да Сёмкі, і вочы лавілі скрадзеныя лесам пярэднія падводы.

— Ай ды добра, сынку, добра...— спачуваў ён Сёмку, выказваючы сваю спагаду няскладнымі сказамі нервовае гутаркі...— Добра-а, а мне-э...

Ён раптам сарваўся і, не развітаўшыся нават, кінуўся бегчы за падводамі, у бок лесу.

Прамінуўшы да дзесяці падвод, ён апамятаўся і спыніўся, замахаўшы шапкаю.

Калі Рыгор і Сёмкаю, не зважаючы на гэта, павярнулі назад, то яны не прайшлі і трох сажняў, як ззаду іх пачуўся Сідараў голас:

— Не адкажэце, небажаты, пазычыць мне якую траячку дробных... Ведаеце, родныя мае, гроша меднага не маю... Згіну ў дарозе, калі не пасобіце...

Рыгор з Сёмкам пераглянуліся. Але пры Сёмку нічога не было, і ён ніякавата маўчаў, чакаючы выручкі ад Рыгора. Той шарыў па кішэні і бражджэў медзякамі.

— Даруйце, дзядзька, толькі і маю каля рубля з сабою,— падаючы Сідару жменю дробных, перапрасіў Рыгор.

— Ну, дзякую і за гэта, сынок... дзякую... хоць на якую пачку махоркі... А то што меў — як прахам разляцелася... Жа-арты-і, гэткая дарога! Пецярбург і назад у Сілцы, а колькі, як з Сілцоў... Вярну, браце, калі будзе здароўе і ўся гэта завіруха сціхне...

— Ці ж варта пра гэта казаць... парахуемся, дзядзька, абы ўсё добра было...

Сідарава шапка на гэты раз спрытна знялася з галавы, апісала замысловатую фігуру, і Сідар кінуўся ад іх уподбежкі за падводамі.

Хутка ўзняты абозам пыл сцёр вострыя рысы яго постаці.

— З якога гаспадарства і да жабрацтва!.. Вось яно да чаго можна дайсці,— задуменна паспагадаў Сёмка і паглядзеў на зямлю, пасыпаную жоўтым пяском.

— Вайна, таварыш! Ці мала такіх, як Сідар!..

— Цяжка, Рыгор, ой, як цяжка!.. Часамі пачнеш думаць, ажно галава закружыцца... Вось дзе бядота, дык бядота... Падумай, што я або гэты Сідар зараз варты?.. Куды яму прыткнуцца ў чужым, невядомым краі? Каб рамеснік які, каб меў дзе-колечы родных, сякія-такія грошы ў кішэні, а то... Невыказна. Дзякую, браток, табе, шчыра дзякую, што ты выручыў мяне з бяды... Не зрабі ты гэтага — хто яго ведае, што б са мною сталася на гэты дзень... А ты... Рыгор...

Рыгор абарваў яго споведзь крутым махам рукі. Аднак Сёмкавы развагі не знаходзілі ў ім важкіх абвяржэнняў. Сапраўды, што ён мог акрэсленага сказаць у яго ўцеху? Голае, адцягненае слова бадзёрасці мелася ў яго распараджэнні і з ім адным Рыгор абярнуўся да таварыша.

— А ты надзейней глядзі ў будучыню! Яшчэ ўсё не пражыта!

У Рыгоравым сказе звінела сталёвая ўверанасць,

ад якое нельга было захавацца сумліваму настрою, але далей за ёю было невыразна.

— Ды ўжо ж! — праказаў Сёмка.

Яго словы расплыліся ў сольным запеве, які зрушыў з месца грамадку рабочых, што, скончыўшы працу, рушылі на адпачынак.

Павісшае на скрыжаваных верхавінах лесу чырвонае сонца мыла халодныя лозы паднятых угору жалезнякоў...

Тэхнік Бросня хмура паглядаў у бок Рыгора, які ішоў з Сёмкам на адгоне некалькіх сажняў ад рабочых.

## II

Вясёлы твар Рыгоравай гаспадыні выдаваўся белым месяцам на фоне цёмнага квадрата адчыненых дзвярэй.

— Ну і навін жа ў вас будзе сённека! — сустрэла яна Рыгора.

І не паспеў той развітацца з Сёмкам, як заўжды закасаная рука маладзіцы працягнула яму да твару жмут газет і лістоў.

— Тут, напэўна, маецца ліст і ад сястры. Цікава, як яна там жыве! Ха-а-роша-а-я дзяўчына! Вось ад першага разу спадабалася... ды годзе-э... Што ж ты зробіш — ёсць такія людзі... Няпраўда, мо?..

Яна гаварыла бойка, захопна, перагарадзіўшы Рыгору дарогу. Яе хітрыя зоркія вочы крыжавалі яго вострымі ўзрокамі...

Ды не стаяць жа было Рыгору перад рэзвай гаспадыняй, як перад статуяй,— і ён зламаў ніякавасць у абыходзінах з жанчынаю, ступіўшы рашучым крокам наперад. Маладзіца спрытна адхілілася ўбок і прапусціла пасуседа ў кватэру.

Далей на нейкі час яна як знікла...

А Рыгор, увайшоўшы да сябе, барджэй хапіўся за лісты.

Непарушную ціш пакоіка перарваў траскучы шорпат дранай паперы. Толькі не паспелі Рыгоравы вочы апусціць напружаныя ўзрокі ў скрадзеныя змрокам радкі ліста, як крохкія стукі ажыўшай гаспадыні павярнулі яго галаў да сценкі.

— Чую!

— Вячэра на стале астывае...
— Зараз...
— Прашу вас, мой пасуседзе...
Рыгор скамячыў ліст і ўсунуў яго ў кішэню, мяркуючы прагледзець за вячэраю. Аднак гаспадыня гэтаму перашкодзіла... Яна, мэрам бы ў помсту за перарваную гутарку ў дзвярах, не закрыла рота, пакуль Рыгор не скончыў вячэру і не вярнуўся да свайго пакоя.

За якіх дваццаць хвілін ён пачуў процьму казачных навін, сплеценых рэзваю маладзіцаю ў мудрыя камбінацыі фантастычных з'явішч. У іх вінегрэце знайшлі сабе месца і двор, і мястэчка, і фронт, і Мінск, яе муж і кіраўнік работ, і людзі, і месцы, пра якіх Рыгору не было жаднае цікавасці і якія не болей цікавілі лепяткую гаспадыню.

— Вам не заснуць будзе доўга! — заключыла яна, калі Рыгор, не даслухаўшы, пакінуў яе адну.

Настарожанае вуха гаспадыні дарма чакала адказу.

Рыгор моўчкі прайшоў да сябе і, засвяціўшы агарак свечкі, зноў хапіўся за чытанне.

Распакаваны перад вячэраю ліст быў з Пецярбурга. Яго пісаў Артур Цвібель. Як і што яму стаў вядомым Рыгораў адрас — цяжка было дазнацца. Рыгор дапускаў, што Цвібелю яго даў Анікей, які знаў пра месцазнаходжанне Рыгора.

Ды дарма — гэта толькі на момант адняло Рыгораву ўвагу,— цікавейшым быў самы змест Цвібелевага ліста. З яго Рыгор праведаў пра апошнія навіны з жыцця Пецярбурга. Таварыш паведамляў пра настроі рабочых, пра пашыраныя гутаркі наконт сепаратнага замірэння, пра таемнасці прыдворнага жыцця, у асяродку якога вярцелася імпазантная фігура блудніка Распуціна.

Ліст вострa заінтрыгаваў Рыгора, Пецярбург з новаю сілаю ўварваўся ў яго нутро і завалодаў яго пачуццём.

Ён не дачытаў ліста і нейкі час перапяўся думкамі да берагоў Нявы, на шырокі бурлівы Неўскі, за заставы, на Выбаргскую старану.

Выразны жывы вобраз сталіцы напоўніў яго істоту дынамікаю раз'юшанага жыцця. Бясспрэчна, што на яго струнах адчуваецца найцянейшае калыванне

лёсу ўсяе дзяржавы. Сталіца з'яўляецца рупарам усіх падзей, і ў гэтым рупары гучыць сканцэнтраванае рэха іх вынікаў. Жыць у Пецярбурзе — гэта знаходзіцца ў асяродку гэтых вынікаў, быць непасрэдным удзельнікам разнастайных пертурбацый палітычнага і грамадскага жыцця.

Наспяванне багатых зместам здарэнняў, неакрэсленасць іх уплыву на наступнае, шырокія магчымасці разгарнення рабочага руху — усё-ўсё гэта раптам вырасла перад ім з маленькага таварышавага ліста ў нешта агромністае і жывое і завалодвала яго істотаю.

Ці спадзяваўся ён, едучы ў атрад, так доўга ў ім затрымацца?

А то ж мінула столькі часу, як глухая правінцыя адрэзала яго ад трапяткіх пытанняў бягучага жыцця! Да чаго ўсе гэтыя Провавы, Бросні, іх стан і іх злосць; навошта тая надмерная ўвага, звязаная з тратаю часу і энергіі на гутаркі, просьбы і сваркі з гэтымі фактычна нікчэмнымі чынушамі?.. Надало яму паслухаць Паўла і кінуць Пецярбург, каб у падобныя гістарычныя часы сысці з шырокага шляху ўзрастаючага змагання!..

Раптам ліст Цвібеля зноў прыцягнуў да сябе Рыгораву ўвагу: апошняя старонка была прысвечана прыватнаму жыццю таварыша.

Цвібель скардзіўся на Рыгоравага знаёмага, што той не выпаўніў абяцанкі і не памог яму, Цвібелю, стала ўладзіцца на заводзе. Ужо болей двух месяцаў, як ён без працы; дарагоўля выцягнула з яго апошнія магчымасці для далейшага жыцця, а тут паспела і яго чарга ісці ў войска. Ён упрасіў латышскі бежанскі камітэт паглядзець за сям'ёю, а сам пасля некаторых бадзянняў папаў у латышскія стралкі.

Але развага наконт Цвібелевых паводзін адляцела да століка разам з кінутым лістом.

Другі ліст чакаў свае чаргі, лёгка падняўшыся з акна Рыгоравай рукою.

— На штэмпелі — Масква...

Рыгор, перад тым як чытаць, прыслухаўся чагосьці. За сценкаю — нікога. За акном — зорнае неба...

Раптам каля акна забрахаў сабака.

Чаго ён тут?

Масква! Напэўна, піша Пятрусь!

Так — характар Петрусёў.

Рыгор з прагавітасцю накінуўся на роўныя радкі ліста.

І Петрусёва істота — побач з ім. Вось ён, таварыш і сябра, з яго жыццём у Маскве пад чужым імем. Служба ў народным банку, новыя знаёмыя, цікавая грамадская праца, ажаніўся, мае быць у кастрычніку месяцы ў Мінску...

«А як я? Што мне сказаць пра сябе? Як і раней калі не горш?»

Петрусёў ліст, аднак, не прынёс новага хвалявання. Ад яго павеяла буднямі, калі не браць пад увагу хацення ўгледзецца з Петрусём, як з таварышам і сябрам.

«Цікава, безумоўна цікава, як адбіліся на ім апошнія здарэнні з яго жыцця»...

У кастрычніку будзе ў Мінску! К таму часу перабярэцца ў Мінск і Рыгор. Ну, а як будзе стрэцца? Трэба Петрусю адпісаць...

Ужо дачытаны ліст знаходзіўся на паўдарозе да месца, дзе ляжаў і Цвібелеў, але Рыгору раптам узбегла на памяць і Рыма.

Ён удвойчы каўзануў узрокамі па лісце і не знайшоў, як і першы раз, гэтага імя...

Як жа думаць, ці ўзяў яе Пятрусь, ці можа?..

Цікава, як з Рымаю!

— Няўжо?..

Шорпат трэцяга канверта зліўся з расцяжным тонам няскончанага запытання.

Блакітны лісток паперы. Простае, няроўнае пісанне — вядома, ад Лібы.

«Ты не перадумаў усё ж таго, на чым мы ўмовіліся? Нуджу без цябе і з няцерпам чакаю твайго прыезду... Ваджу чарадамі раненых. Цесныя мінскія панелі апрацівелі мне да... Ці, можа, апрацівелі тыя абставіны майго зацяжнага шпітальнага жыцця? Не ведаю сама...

Той «чырвоны смех», які нязмоўчна гучыць у маім вушшу... Ад яго звіняць шпітальныя вокны, ім запоўнена цяжкае шпітальнае паветра... Але ўвесь Мінск — адзін шпіталь... Нідзе не дзенешся... Вакол раненыя і тыя, што на чарзе...

Я часта наведваю вакзал і гляджу-цікую, ці не ўбачу цябе. Дапушчаю, што возьмеш і прыедзеш не паведаміўшы. Ці праўда, Рыгор?..

Без таварыша... без блізкага чалавека цяжка робіцца жыць. Аднак... гэта жаночыя капрызы... часамі задурышся і сама сабе не рада — ты — мой муж...

Няўжо ды ты мой муж?.. Не бяры ўсур'ёз...

Прыязджай, каб не абрасці мохам.

Цалую — Ліба»...

Рыгор аддаўся ўмільнасці... Асалода пацалунку...

Ліба!

— Лі-ыба-а — ты?

Нячутна адчыненыя дзверы прапусцілі ў Рыгораў пакой гаспадыніну ўзлахмачаную галаву.

Асцярожлівае запытанне, аднак, было гулкім у затоенай цішы, і Рыгор збянтэжана павярнуўся да дзвярэй.

— Гэта вы?

— Выбачайце, вы не чакалі?

— Вам я патрэбен?

— Можа, будзеце піць гарбату?

Іншым тонам:

— А ці ж пара ўжо?

— Дзесятая на сходзе... А калі хочаце, я прынясу малака.

— Калі можна — сырадою.

— Пэўна ж...

Гаспадыня знікла. Але Рыгор не паспеў вярнуцца да перабітае думкі, як яна зноў стаяла перад ім. Падаючы пітнік з малаком, маладзіца з адбіткам трывожнасці ў голасе праказала:

— А немцы ўжо каля Баранавіч... Аканом вярнуўся з мястэчка і казаў... Вільня таксама забрана... Што-а гэта толькі будзе-э, Рыгор Міхасевіч? Глядзеце, што праз які тыдзень і Мінск апыніцца ў іх... І калі, крый чаго, прыйдзецца ўцякаць, я сама не ведаю, як тады быць... Ці ж хто спадзяваўся гэтага?

— Не думаю, каб да таго дайшло.

— І мне здаецца,— ласне ўжо здарыцца нешта надзвычайнае... Усё ж такі ад Баранавіч да Мінска болей сотні вёрст, а ад Мінска да нас... Няўжо-такі...

— Спеце смела...

Рыгор засмяяўся, і гэта гаспадыню ўмомант перастроіла. Яна падбегла да стала і пільна агледзела паложаныя на ім лісты.

— А сястра не піша?..

— Якраз піша ды кланяецца вам...

— Ласне? — палісцілася маладзіца.

— Не хлушу.

— Перадайце і ёй уклон ад мяне, калі пісацьмеце... Ды ўжо ж, думаю, напішаце?.. Чалавек, якому нельга не адпісаць.

— Напішу і перадам уклон...

Цікавасць гаспадыні была здаволена. Яна прыняла з Рыгоравых рук пасуду і выйшла з пакоя. За дзвярыма яна апамяталася і ўголас папрасіла:

— Навіны перадасцё заўтра ранкам.

— Абавязкова! — запэўніў Рыгор, паспеўшы ўжо разгарнуць газету.

«Біржоўка» ў навінах дня амаль не поўнасцю падмацоўвала гаспадынiна паведамленне.

Фронт набліжаўся да Мінска. Немцы абышлі Свянцяны, пераправіліся на левы бераг Віліі, апынуліся каля Ліды.

Пад пагрозаю пераможнага ворага страсянула жахам нядаўна дзёрзкія, самаўпэўненыя сэрцы айчынных патрыётаў. Усерасійскі земскі і гарадскі з'езды выкінулі лозунг «радзіма ў апасцы!». А цвердалобы, зблытаны ў падзеях урад вуснамі цара абвясціў маніфест аб прызыве ратнікаў апалчэння другога разраду...

Размах здарэнняў гаварыў сам за сябе...

Пагрозны, атулены змрокам невядомасці пытальнік канцэнтраваў на сабе Рыгоравы думкі і ўзрокі.

За ім, у цемры ночы, распластаная крыжам ляжала змучаная краіна.

## III

Тая ж будняя, з голымі хваёвымі сталамі канцылярыя кіраўніка работ, але ў ёй замест двух чалавек, як то знайшоў у першы раз Рыгор,— чатыры. Трое маўклівых мужчын над цёмнымі справамі і чацвёртая рухавая машыністка. Стукі клавіятуры машынкі ніжуць роўныя радкі дробных літар. У стуку — аднастайнасць, як аднастайнасць у словах і сказах казённых паведамленняў. Павейвае сумам, хоць у прасторныя вокны льецца досыць святла. На вуліцы і ў двары — крыкі і беганіна дзяцей. Раз-поразу возьмуць ды адцягнуць яны ўвагу машыністкі ці руплівага дзелавода. Порсткі паварот, звычайна, правядзецца невыразнай вымовай па адрасе бясклопатных дзяцей. Надалей — цішыня і зня-

моўчныя стукі машынкі. Паперак — тое і глядзі — не ababраца. З двух бакоў падсоўваюць іх на маленькі столік машыністкі.

Праз кожную гадзіну, а мо і часцей, ідуць прыказанні ад Провава. Кіраўнік работ важна выходзіць з свайго кабінета, аддае распараджэнне і, праверыўшы прысутных, знікае туды, адкуль з'явіўся.

Калі пры ўваходзе ў канцылярыю дзверы кабінета адчыняюцца нячутна, то пры выхадзе яны стукаюць сухім трэскам. Трэск заўсёды падобны, стандартаваны і адваротны, болей усяго для машыністкі. Нервовая, яна так і скалынецца, абы заўважыць знікаючую постаць Провава!..

Дзверы ад ганка ў канцылярыю характэрны іншым стукам. Устаўленыя зверху чатыры шыбіны разнастайняць яго бразгучым звонам шкла. У дадатак растузаная клямка, выпадаючы з рук, далучае свой патройны бразг у агульную сімфонію гукаў. Гукі парушаюць цягу канцылярскае працы — чэцвера істот, як па камандзе, падымаюць ад паперы галовы і глядзяць у бок дзвярэй. Хто б у іх ні ўвайшоў — настрой падымаецца: свежы чалавек адчыняе губы і разам са словамі прыносіць пах свежага паветра местачковае вуліцы.

На гэты дзень пакуль выпаў адзін усяго наведывач. Зайшоў якісьці селянін прасіцца на працу ў атрад. Яго не прынялі. Ён пастаяў, паматаў безнадзейна лахматаю галавою і выйшаў. І з таго часу — нікога. А на гадзінніку — дванаццатая.

Што за асаблівы дзень!

Машыністка не ўцярпела і паглядзела ў акно — мігнуўся чалавек у адзенні старшага рабочага. Хто б то быў? Яна ведае ўсіх ■ атрада і вось адзін з іх...

Гама апісаных зыкаў у дзвярах пацягнула да сябе ўзрокі чацвярых людзей.

Увайшоў Рыгор.

Машыністка скрала свавольную ўхмылку і зачасціла перабор клавіятуры. Скошаныя вочы яе глядзелі да дзвярэй, дзе рухала стройная постаць старшага рабочага ■ атрада. Бліскучыя гузікі на жакетцы пасоўваліся да першага стала, за якім сядзеў чалавек па чыне нешта накшталт кіраўніка справамі. Машыністка не паспела выбраць моманту, каб смялей на яго паглядзець, як Рыгор загутарыў наконт камандзіровачнага пасведчання і літара.

Кіраўнік спраў, як відаць было з яго слоў, знаходзіўся ў курсе Рыгоравай справы. З бланкам у руцэ ён падбег да машыністкі і стаў дыктаваць ёй змест камандзіровачнай у ўпраўленне начальніка работ III арміі — Мінск.

Жанчыніна рука ёмка выбівала завучаны зварот — пальцы самі падалі на літары, даючы магчымасць іх валадару спакойліва паглядаць на Рыгора.

Той сядзеў і сачыў за ходою згатавання папер, аглядаючыся на вокны.

Як паказалася Рыгору, нельга было ўпікаць кіраўніка спраў за маруднасць — той спрытна спраўляўся з паперамі. Не мінула паўгадзіны, як ён пакінуў машыністку і шмыгнуў у кабінет кіраўніка работ. Рыгор задаволены паглядзеў яму ўслед і скрытна засмяяўся. Раптам з яго смехам злілося густое, адрыўнае тупанне мнагалікіх ног і гучны выкрык:

«О-ай!..»

Рыгор першым, а за ім трое службоўцаў паўзнімаліся з месца і працягнулі галовы да вокан.

Каля ганка канцылярыі стаяла грамадка людзей, аднака і бедна адзетых, у бесказырках. Вакол іх таўкалася процьма местачковых дзяцей і дарослых, якія цікава разглядалі іх потныя, пачырванелыя твары.

Яшчэ не паспеў Рыгор са службоўцамі заключыць, што гэта за людзі, калі ў канцылярыю віхрам уварваўся з кніжкаю пад пахаю ўзброены унтэр і ўголас прагукаў:

— Каму здаць палонных?

На яго выгук выбег са свайго кабінета Проваў і павярнуў у бок салдата галаў.

— Чаму так позна? — запытаў ён, не думаючы пра тое, што унтэру гэта мала вядома.

— Не магу знаць, ваш блароддзе! — адчаканіў унтэр.

— Так, я і знаў, што...

Кіраўнік работ не дасказаў і абярнуўся да Рыгора.

— У нас усё не да часу. Калі ў асноўным участак канчаем, шлюць палонных.

Ён распісаўся ў кніжцы і перадаў яе назад унтэру.

— Прыкажаце ж... ваша-рроддзе!

Проваў замест адказу матнуў рукой.

Унтэр адышоў да акна і насторожана, статуяй замёр на месцы.

— Давядзецца накіраваць у двор... Але дзе іх будзе размясціць?

Кіраўнік работ нездаволена скрывіў твар і пачасаў затылак...

— Калі будзеце ад'язджаць, не забудзьце заскочыць да мяне,— праказаў ён да Рыгора, а следам адвярнуўся да унтэра:

— Адвесці ў двор!..

— Сслушаю-ю-аз, ваша... рроддзе!

Рыгор забраў свае паперы і выйшаў на ганак. Унтэр раўняў палонных у дарогу.

Зморапыя, задрыпаныя ў дарозе, аброслыя і панурыя палонныя рухава хавалі ў парваныя кішэні аблезлых шынеляў недакураныя люлькі, раўняючыся пад гукі каманды.

Пяцёра ўзброеных канвойцаў пашырылі ацяты вакол палонных круг, незмігутна сочачы за безаружным «ворагам».

І зусім не да часу і не да месца былі занадта суровыя іх узрокі ды напружанае трыманне вінтовак. Яшчэ болей лішнімі паказвалася строгая муштра камандуючага імі унтэра, які храбра абводзіў шарэнгу звярыным узрокам, несарамліва штурхаючы не паспеўшых выраўняцца згодна яго ранжыру.

Кожны гэткі штуршок выклікаў з боку гледачоў зычны разліў рогату, а ў палонных — выраз затоенае злосці.

Тою ж злосцю быў абураны і Рыгор. Ён нервова азірнуўся на дзверы канцылярыі, шукаючы ў іх кіраўніка работ, каб апеляваць на салдацкую жорсткасць у адносінах да палонных, але не знаходзіў яго. Тады ён не стрымаўся і нечакана для ўсіх рвануўся з месца і ўмомант апынуўся ля бравага тылавіка; той не згледзеў, тузаючы за стрыфель аднаго з палонных, як Рыгорава здаровая рука моцна адштурхнула яго ад пакрыўджанага. Унтэр замёр, скмеціўшы перад носам злосны твар Рыгора і не ведаючы, што рабіць. Чыноўнічая форма напалохала яго, прымусіўшы тую руку, што тузала палоннага, пакорліва падняцца ўгору і ўзяць пад казырок.

— Ці ж можна так без жалю! — сур'ёзна выгукнуў Рыгор.

— Вінават-с, ваш...

Рыгор абярнуўся да пакрыўджанага унтэрам па-

лоннага і не ўспеў спыніцца на ім вачыма, як пачуў з яго губ вокліч:

— Рыго-ар!

Здзіўлены нечаканасцю гэтага, Рыгор зрабіў крок да абазваўшага.

— Рудольф?

— Так, я!

Суцешная ўхмылка заліла твар палоннага. Пачуццё таварыскасці перамагло баязлівасць дысцыпліны, і ён працягнуў Рыгору руку.

Дзесяткі вачэй пільна сачылі за незвычайным здарэннем.

Нерухома стаяў унтэр, не спускаючы рукі з-пад казырка і балюча перажываючы бачанае перад сабою.

— Вольна! Вядзі палонных па назначэнні! А з гэтым пайду я! — распарадзіўся Рыгор.

— Шш-агг-ам, арш! — хвалюючыся, скамандаваў канвойны, і калона гучна адбіла першы крок, заглушыўшы ім стук дзвярэй канцылярыі, праз якія выбег на ганак кіраўнік работ.

— На адну хвілінку! — пазваў ён Рыгора, які не паспеў з Рудольфам крануцца з месца.

Рыгор падышоў да Провава і ўзяў з яго рук запячатаны ліст.

— А гэты чаго застаўся? — паказаў кіраўнік работ на Рудольфа.

— Гэтага я павяду пад сваім канвоем,— адказаў Рыгор.

— ?!

— Дзівіцеся?

— У чым справа?

— Правініўся! — пасмяяўся Рыгор.

Кіраўнік работ разгубленымі ўзрокамі правёў Рыгора, які на ваччу Провава і дзесяткаў мяшчан узяў Рудольфа пад паху і пайшоў услед аддаленай калоны палонных.

Задні канвоец, з вінтоўкаю на плячы, украдчыва азіраўся на іх, не разумеючы наяўнага парушэння дысцыпліны з Рыгоравага боку.

Ніякавата адчуваў сябе і Рудольф. Ён паскорыў крокі, цягнучы Рыгора, і няўверана перагаварваўся з ім. Рыгор пасмейваўся з адыгранай ім гісторыі.

— Паглядзі, што значыць рашучасць і смеласць! Мяртвіць на месцы палахлівых.

— Спрытна... Гэта можна толькі ў Расіі.
— Усюды адно і тое...
— Ну, у Нямеччыне-э...
— Кінь...
— За гэты час я вывучыў нямецкую дысцыпліну як належыць...
Рудольф нясмела ўхмыльнуўся.
— Вось, бач, як перакруцілася калясо! — дадаў ён.
— Надзвычай цікава! Каб хто сказаў, палічыў бы казкаю...
— Я сам дзіўлюся... Сапраўды — казачна... Гісторыя, якая варта-а...

Яны ўпёрліся вачыма ў нагнаную калону палонных. Гэта было пры ўзыходзе першых шэрагаў на забруджаныя аполкі моста. Канвойныя свечкамі пасталі з абодвух бакоў калоны, абапёршыся на няўстойныя парэнчы. Узятыя на перавагу вінтоўкі бліскучымі штыхамі пагражалі кожнаму, хто б выйшаў з шэрагаў напрамкам да рэчкі. Аднак настарожанасць канвойных абышлася без ужытку. Ды яна была зусім лішняй ва ўмовах, якія адгараджвалі заспакоеную думку ад драпежнага подыху смерці. Пачуццё самазахавання абмацвала ўнутры кожнага палоннага пункт апоры, хоць невыразнасць наступнага і калыхала яе ўстоямі.

Асенняе надвор'е з цёплым летнім сонцам, з пахам зложанай у бабкі і распростанай ярыны, з зеленню адрослай атавы, з няўмоўчным цвырканнем вераб'ёў і скакунцоў,— навейвала на выхапленых з кіпцюроў смерці палонных радасныя думкі аб працягу жыцця. Шырокая ровень поплаву і густая купка дваровага саду, чыстае ўлонне рэчкі асацыіравалі ў іх памяці прускую і саксонскую раўніны; узгрудак каля апрысанджанага шляху, самыя прысады і маладая дубрава за мястэчкам — дапаміналі гарыстую Цюрынгію...

Крохкая, але ўпартая надзея глядзела з панурых, прытупленых вачэй палонных. Гэта надзея скрадала шурпатасці вайсковых умоў чужое краіны, драпежныя ўзрокі фанатычных патрыётаў, фельдфебельскую дзікасць муштраў і бесспагаднасць да голаду і холаду ўжо бясшкодных людзей...

— Сто-ай! Вво-альна-а!

Рэха тупату ног пракацілася па шырокім дзядзінцы. З усіх канцоў яго накіравалі да атрада дзеці і дарослыя. Разам з імі падышоў і тэхнік Бросня.

Той самы канвойны, які з'явіўся ў канцылярыю кіраўніка работ, а пасля папаў у героі адыгранай Рыгорам гісторыі, падаў яму кніжку.

Бросня разгарнуў яе і стаў разглядаць.

Яго ўвагу адняў на сябе паложаны Рыгорам на кніжку ліст...

## IV

Ад Рудольфа пахла потам. Заношаная гімнасцёрка муляла шыю чорным бліскучым каўняром. Палатаныя на каленях порткі, вынашаныя да махроў абгорткі, адтапыраныя падошвы на вышмуленых чаравіках — усё адзенне ўцалку шаржыравала стройнага і чыстага раней немца — бурса. Цяжка было прывыкнуць воку бачыць перад сабою аброслы рыжым бруднаватым валасеннем белы далікатны Рудольфаў твар, які ўпарта змагаўся сваёю прывабнасцю, сваімі сімпатычнымі рысамі з беднатою ўсяе постаці.

Гэта выразна адчуваў сам Рудольф, баючыся шарганууца аб Рыгораў ложак і не асмельваючыся прысесці на крэсла.

Ён стаяў каля акна і стараўся як мага звузіцца, патанчэць, каб менш заняць месца ў Рыгоравым пакоі.

Апошні выглядаў у Рудольфавым ваччу нічым не горшым ад княжацкіх палацаў, поўным салодкага прытулку і гасціннага спакою. Ужо даўно іх Рудольф не бачыў. Памятая, старэнькая падушка на ложку, незнаёмая ў свой час ні бацькавай кватэры ў Смагіне, ні Рудольфаваму пакою ў Пецярбурзе, зараз маніла яго да сябе, расплываючыся затуманеным месяцам.

— Садзіся, што стаіш. Тут канвойнага няма! — пажартаваў Рыгор.

— Дзякуй, пастаю!

— Яшчэ чаго! Кінь упартасць!

Рудольф адсунуў крэсла ад ложка, паглядзеў на яго і асцярожліва сеў.

Ён умацаваўся на крэсле толькі тады, калі Рыгор выбег з пакоя, каб папрасіць у гаспадыні гарбаты.

Абставіны Рыгоравай каморкі, ціхая гутарка з гаспадыняй увялі Рудольфа ў каляіну спакою.

— Ты значна перайначыўся! — падаў Рыгор, вярнуўшыся ў пакой.

— Я думаю...— Рудольф агледзеўся ў зацемненае акно.

— Апошні год — клубок страшных здарэнняў... Я хапаюся за голаў, калі знаходжу спакойлівую хвіліну, каб азірнуцца назад. Дзіўлюся, як і што гэта заблыталася так і якім чынам я мог вытрымаць гэткія трудныя іспыты...

— Іспыты, кажаш?

— Непажаданыя нікому.

Рыгоравы вочы пільна глядзелі ў заспакоены, крыху прасветлены твар Рудольфа Шульца.

— Памятаеш, калі я заязджаў да цябе развітацца?.. Тады ж я не паспеў выпіць шклянкі гарбаты, каб не спазніцца на цягнік... Ледзьве даехаў на вакзал... А праз двое сутак я ўжо быў у глыбокай правінцыі, у захалусным Прыўральскім гарадку... Нас апынулася там восем чалавек. І ўяві сабе, як нас сустрэлі. Боязна было хадзіць вуліцаю... Нас праводзілі, як дзікіх заморскіх звяроў. Абывалі кідалі на нас злосныя ўзрокі, спраўджваючы іх агідным пляваннем, насміханнем, жартамі. Паліцыя ж гэтаму патварала. Яна штучна распальвала звярыную нянавісць да нас, узмацняла цяжкасці адшукаць тую ці іншую працу... Гой, як я пакутаваў, пакуль сяк-так учапіўся за ашчадныя магчымасці пражыць... Таму і не дзіва, што выпадкова атрыманыя чуткі пра абмен з'явіліся для мяне сапраўдным збавіцелем. Я хапіўся за гэта, як той, што топіцца за саломку.

З вялікімі цяжкасцямі, неймавернымі хітрыкамі я дамогся залічыць сябе ў чацвёртую катэгорыю, і быў высланы праз Швецыю ў Нямеччыну...

У лютым праязджаў Пецярбург... Го, як прогся я стрэцца з табою! Але ніякім чынам гэтага нельга было зрабіць... Нас не адпускалі ні на крок, і толькі два няпоўныя дні я пасоп пецярбургскім паветрам...

На параходзе я адчуў сябе вольным, толькі балюча тачыла думка пра родных. Якаво з імі? Дзе і што яны? Апошні ліст я меў перад ад'ездам у высылку, а далей — ні чуткі...

— Дазвольце ўвайсці!

Рыгор сарваўся з месца, на якім ён стаяў, як заваражаны Рудольфавым апавяданнем, і адчыніў дзверы.

Гаспадыня ўнясла дзве поўныя талеркі кіслага ма-

лака. Паставіўшы іх на стале, яна следам даставіла міску паранай бульбы.

— Гарбату вы любіце, нарэшце? — запытала яна Рыгора.

Гаспадыніны вочы абміналі Рыгора і ўпіраліся ўзрокамі ў Рудольфа. Маладзіцаю валадала змешанае пачуццё цікавасці і баязлівасці. Рахманае сядзенне немца-палоннага ў яе кватэры было крыху дзіўным, крыху пікантным. Усё ж яе вострыя ўзрокі не знаходзілі на ім яўных адзнак звярынасці. Непрыкметна было таксама жадных праяў тае экзатычнае драпежнасці, пра якую маладзіца многа наслухалася ў царкве і на месцы ў мястэчку. Узбуджаная ў ёй злосць і нянавісць да немцаў, значна падмацоўваныя забраннем мужа ў армію, зараз расплыліся ў мяккім пачуцці жаноча-людскоe спагады.

— Можа, ваш знаёмы з'еў бы сала? — запытала гаспадыня ў Рыгора, не спускаючы ўзрокаў з Рудольфа.

Рудольф заварушыўся на крэсле і ўдзячліва схінуўся ў бок гаспадыні:

— Дзякую шчыра.

Гаспадыня здзіўлена адступіла на крок да дзвярэй. Немец казаў на зразумелай ёй мове. Пашыраныя вочы чакалі ад Рыгора адказу.

— Калі можна, дайце крыжэнік...

Маладзіца лёгка збегла з Рыгоравага пакоя.

У той час, пакуль яна даставала сала, нельга было дагадацца, ці ў сабе яна.

— Добрая ў цябе гаспадыня? Сялянка?

— Не магу паскардзіцца. Гэта не пецярбургская. Дваровая. Гаспадара забралі ў войска, а яна жыве адна... Як жыве — не ведаю... Вось малако ёсць, каморка ёсць...

— Працуе, напэўна?

— Ды ўжо ж...

Нячутнымі крокамі маладзіца зноў прыйшла ў пакой і кашлянула.

— Вось вам, халоднае...

— Добра... дзякую...

Рыгор прыняў з гаспадыніных рук новую талерку і, не ведаючы, як яе ўмясціць на застаўленым століку, перадаў Рудольфу.

— Хоць на акне пастаў.

— А калі трэ будзе гарбата, паклічце.

— Дзякуем...

Рудольф жадна хапіўся за яду. Ядучы, ён не мог трымацца, каб не працягваць апавядання. З перарывамі, глытаючы словы, ён на працягу вячэры паспеў апісаць дарогу ад Пецярбурга да Гамбурга.

— І каб сказаў, што Нямеччына падмацавала мае надзеі — нікольki. На першым жа кроку мяне здушыла ваеннае паветра, прасякнутае крывёю, заалагічнай нянавісцю да расійцаў і французаў. Я адчуў сябе ў жалезных ланцугах суровае, пагалоўнае ваеншчыны... Яна бразгала шпорамі, стукала падкаванымі абцасамі, блішчала залатымі палетамі і сталёвымі рулямі вінтовак, кулямётаў ды гармат. А нашыя сацыял-дэмакраты аказаліся не лепш за прускіх юнкераў. Тыя ж, якія асмельваліся так ці інакш пратэставаць, даўно ўжо пакутавалі ў казематах. Раз'юшаны вайсковаю гарачкаю, нашпігаваны таннай патрыятычнасцю, у вобдыме навіслых недастач — гэткім стрэў мяне Берлін... Але мне не прыйшлося доўга разглядаць яго ваенізаванае жыццё... Ужо праз тыдзень я быў шэраю, невыразнаю між тысячамі іншых адзінкаю ландштурмнага палка. Нада мною навіс небасхіл у выглядзе шэрай, мулкай і адваротнай нямецкай каскі. У процьме вайсковых падзей, як ва ўзнятым самуме, вярцелася бягучае жыццё.

Поле руцянела густым жытам і ценкаю ярыною, калі наш эшалон перабягаў ад горада да горада напрамкам да Рэйна... Чыстая вада рэчкі, як і адвеку, спакойна абмывала заасфальтаваныя берагі... Руіны феадальных замкаў нядбайна глядзелі ў яе люстра, слухаючы несупынную стукатню дзень і ноч рухаючых цягнікоў... З-пад Аахена, з Латарынгіі, з-пад сцен Льежа плылі эшалоны раненых. Іх модлы ляцелі да неба, наганяючы шпіцы Кёльнскага сабора...

Пасля — пазіцыі пад Вердэнам... Штурмы, горы забітых, павіслых на электрызаваных драцяных загарадках, у забетоненых акопах... Траскатня самалётаў і грамавое буханне 42-дзюймовак.

— Будзем піць гарбату?

— Можна.

Рыгор пастукаў.

— Зараз! — пачулася з-за сценкі.

— Уражанне — мэрам цябе засадзілі ў сталёвы ка-

цёл і грукаюць па ім малатамі. У зацяжным, надрыўным гуку тонуць усякія жаданні і расплываецца сэнс жыцця...

— Вось вам!

Маладзіца ўперла дзве поўныя шклянкі ў цесныя прагалінкі паміж талерак, пасля забразгала імі ў руках.

Рудольф пры кожным стуку нервова уздрыгваў, закусваючы губы ад ніякаватага адчування.

— Можа, ваш знаёмы захоча застацца начаваць, то скажэце — я прыгатую пасцель?

— Дзякуем. Не маракуйце за турбацыю, якую ўжо прыняслі вам.

— Ды то ж нічога, людская справа...

Гаспадыня закончыла сказ за дзвярыма, ажно ён расплыўся ў далейшых словах Рудольфа:

— Я не думаў, што вердэнскія пазіцыі адпусцяць мяне жывога. Мае вочы бачылі цесныя завалы ў нязлічаных трупах маіх таварышаў... Страшэнныя вобразы зглумленых за няма нішто людзей затулялі крохкія рваныя мары пра Смагін, Пецярбург, Стакгольм, Гамбург, Берлін, Кёльн і Рэйн... І вось — сярод цёмнае ночы, пры трапяткіх праменнях пражэктараў і выбухаў феерверачных ракет — мы адступілі...

Далей цягнік, новыя гарады, свежыя ландшафты. І на другі дзень ад вечара мы на балотных роўнасцях Курляндыі... З цягніка — проста на пазіцыі. На золаку — атака. Перада мною — знаёмыя твары прамігаўшых у Пецярбургу салдат. Няўжо іх браць у цэль і засцілаць мёртвымі целамі патоптаныя паплавы?.. Рука прыказна націскае курок, і на маім ваччу... Нне-э, я падаюся ўправа, дзе націск расійцаў робіцца напружнейшы, ахоплівае наш фланг і, нарэшце, цэлую роту аддзяляе ад папхнутай назад калоны... У абед — я палонны...

— Можа, перанапуеш?

Рыгор паглядзеў на ложак.

— Не варта рабіць табе непрыемнасці... Кінь, Рыгор, я лепш пайду на сена...

— Возьмеш коўдру?

Ён тут жа садраў яе з пасцелі і загарнуў у камяк.

— Ды ці варта...

— Кінь скромнічаць...

— І вось тры месяцы, як я палонны. Палонным

унтэр-афіцэрам... Заслужыў пад Вердэнам... Два месяцы трымалі ў Смаленску, пасля перакінулі ў Мінск... Ці варта казаць пра становішча палоннага? Ты сам бачыў...

Рудольф матнуў рукою і падняўся з крэсла.

— А цяпер дзякую, браце, за ўсё — і пайду... Дык вось гісторыя апошняга года майго жыцця,— праказаў ён, выходзячы з пакоя,— пачуць бы тваю?

— Раскажу!.. Тут знойдам часу — гэта не пад Вердэнам... Яшчэ ж твае куфэркі ў Пецярбурзе...

— У Пецярбурзе-э?

— Цэлы!

Браскотка вартавога скрала апошні сказ Рыгора. Рудольф схаваўся ў цемені ночы.

## V

Шэры золак затуманенае раніцы абяліў невялічкае акенца Рыгоравага пакоя. Мокрае, пачарнеўшае, а дзе і рудаватае лісце вольх атрахала буйныя каплі вады. Панікла віселі жоўтыя ды чырвоныя вяргіні, гледзячы ў абгрызеныя галовы капусты. Лапатаў крыллямі раскатурханы певень. Вось ён голасна заспяваў ды напалохаў прабягаўшага разораю сабаку. Сабака падняў галаў да седала і адказаў патройным брэхам.

— Не даюць спаць, каб яны падохлі,— скрозь сон вылаяўся Рыгор і павярнуўся на другі бок.

Але толькі на момант знябыўся, як пастукалі ў дзверы.

— Хто там?

— Можна?

У запытанні зліліся два розныя галасы, якіх Рыгор не разабраў.

— Я зараз,— адказаў ён і падняўся.

Праз хвілін пяць стук паўтарыўся.

Хутка апранаючы жакетку, Рыгор адапёр дзверы.

— Уваходзьце!

— Ты, пэўна, думаў, што гэта гаспадыня? — праказаў, увайшоўшы пярэднім, Сёмка.

— А прызнацца, не пазнаў, хто за дзвярыма.

За Сёмкам пераступіў парог Рудольф.

— Яшчэ спаў?

— Сабака абудзіў.

— А пара ўставаць. Сёння ж едзеш.

Сёмка пытальна паглядзеў у Рыгораў заспаны твар.

— Так, рэчы запакованы.

Ён паказаў на куфэрак.

— Дык бывай здароў, таварыш! — працягнуў Сёмка Рыгору руку.— Дзякую, вельмі дзякую за тваю дапамогу мне. Каб не ты,— хто ведае, дзе я быў бы і што б са мною сталася... Ты выратаваў... І прашу, дазволь напісаць у скрутную хвіліну... Бывай!..

Яны пацалаваліся.

— Таксама дзякую,— заняў Рудольф Сёмкава месца,— я шчыра задаволены нашым спатканнем. Яно палажыла новую мяжу ў маім шэрым, паднявольным жыцці палоннага... За мяжою — цёмны змрок невядомасці, наперадзе — хто адгадае? — трэба верыць у шчаслівае жыццё. Дазволь і мне пісаць. Ужо адна твая прысутнасць недалёка мяне значна легчыць маё маральнае адчуванне...

Рыгор пацалаваўся з Рудольфам.

— Бывай, шчаслівае дарогі! — пажадалі Рыгору таварышы, выходзячы з яго пакоя.

Рыгор правёў іх за дзверы.

Дзядзінцам маршыравалі на працу, змяшаўшыся ў адну грамадку, рабочыя атрада і палонныя. Наводдаль ад іх ішло трое канвойных з рэвальверамі пры баку. Атрадаўцы неслі жалезнякі, пілы, сякеры. Адзін высвістваў «Каробачку», другі заводзіў матывы з вальса «На сопках Маньчжурыі».

Разрэджаны туман агаляў празрыстую пляміну сіняга лазурку. Пляма выглядала глыбокай ямай, берагі якое прадстаўлялі атрогі заснежаных гор.

Рыгор абвёў развітальным узрокам палахлівую грамадку людзей, дваровыя будынкі, неба і вярнуўся да сябе.

Гадзіннік паказваў восем. Дзве з паловаю гадзіны заставаліся на снеданне, разлік з гаспадыняй, дарогу да станцыі.

Часу хапала, і ён, не спяшаючыся, прыбраўся ды зайшоў да гаспадыні.

Тая рухава ўвіхалася ля стала, гатовячы Рыгору снеданне. Белы абрус прыдаваў пакою ціхую, інтымную ўрачыстасць, якая, аднак, не адпавядала спакойліва-настарожанаму настрою маладзіцы.

— Шкада мне вас, Рыгор Міхасевіч,— стрэла яна свайго кватаранта.

— Нічога не зрабіць!

— То ж ведама, але... Хаця ж не ўспамінайце блага... А калі, часамі, здарыцца быць у нашых месцах, тады смела, не стукаючы ў дзверы, да нас... Ды калі яно здарыцца?.. Адагнаная хвалямі трэска рэдка варочаецца да берага... Ці не праўда, мо?.. Прашу вас, Рыгор Міхасевіч, пад'ядайце. Да Мінска наўрад ці давядзецца закусіць... Пеце малако — такі-та ж вы яго гэтак любіце... Шкада мне вас... Зжылася, ведаеце, за гэту пору... А вы ў Мінску надоўга спыніцеся?

— Калі добра ісціме...

— Ды з гэткім чалавекам, як вы, хто можа сварыцца?..

— Ёсць розныя людзі...

— То вядомая рэч... Вось папрашу вас, Рыгор Міхасевіч, можа трапункам напаткаеце ў Мінску...

Гаспадыня нервова затрапятала рукамі і сама сябе папракнула:

— І маю ж, аднак, я розум... Цьфу!..

Калі Рыгор падняўся з-за стала, каб падзякаваць і заплаціць гаспадыні, тая падала яму белы невялічкі клумачак, гасцінна праказаўшы:

— Вазьмеце, калі ласка, гэта вам на дарогу.

Яе ўвага кранула Рыгора, і ён не мог адмовіцца.

Шчыры поціск гаспадынінай рукі быў аддзякаю за гэта.

Аддзяка пацягнула далейшую ўслужлівасць маладзіцы: загрукацеўшыя пад падваконню калёсы ўз'юшылі яе і пагналі ў Рыгораў пакой за яго рэчамі.

Каля пяці хвілін ішла тузаніна між гаспадыняй і Рыгорам, і ўсё ж Рыгор не мог нічога зрабіць, каб папярэдзіць маладзіцы вынесці яго куфэрак.

— Навошта гэта, сапраўды,— пераказваў ён яшчэ каля падводы.

Аднак яго словы не мелі жаднага ўплыву на ўслужлівую гаспадыню. Тым болей яна на іх не зважала, калі пачула спагаду да сябе з боку падбегшай Волькі. Жанчыны ўдзвюх спрытным прыёмам улажылі Рыгораў куфэрак на воз і пакрылі яго дзяругаю.

— У Мінску адзін цягацьмеш яго,— пажартавала Волька.

— Вядома што...

Аставалася здзіўлена маўчаць, што Рыгор і рабіў, умайстроўваючыся на возе.

І толькі, калі рушылі коні, ён некалькі раз развітальна кіўнуў галавою, пажадаўшы:

— Аставайцеся здаровы!

— Не забывай, Рыгор! — папрасіла Волька, нахмурана гледзячы ўслед падводы.— Можа, часамі, стрэнеш дзе Зосю, дык кланяйся і перадай, як мы жывем...

— Не забудзьце пакланіцца сястрыцы! — папрасіла ад сябе гаспадыня.

Хутка ў руках абедзвюх жанчын маталіся белыя хустачкі. Рыгор глядзеў на іх, трымаючы ўровень галавы знятую шапку. Простыя, але шчырыя ды заміляваныя праводзіны моцна кранулі яго.

Самі ж па сабе ўмовы правінцыяльнага жыцця не выклікалі Рыгоравай спагады. Было досыць пражытага часу, каб імі здаволіцца і іх дасканала вывучыць. Толькі гурток рабочых атрада, нечакана згуртаваны вакол яго, ствараў умовы, якія скрашалі аднастайнасць глухое мясціны.

Іх блізкасць і павага да яго сціралі сляды адваротнага пачуцця ад стрэч з Броснем.

Выязджаючы з агароджы саду, Рыгор яшчэ раз абярнуўся ў бок дзядзінца, але густая сцяна ліп, непарушная ў ціхую пагоду, ужо хавала за сабою і Вольку з гаспадыняй, і дзядзінец, і дваровыя будынкі, і пражыты ў ім час.

Як і вясною, едучы ў атрад, вузкая дарожка праз паплавы, праз гарбаты масцік, між далёка адсунутых за мястэчка гародаў,— гэта дарожка мігала ў яго ваччу абыкла-новымі калдобінкамі, рассыпчатым суглінкам, бародкамі параслых абочын.

Поплаў зелянеў і скрадаў доўгі адрэз часу ад вясны да восені, а пажатыя нівы адмячалі яго розніцу.

Восенню аддавала і з гародаў. Рыгоравы вочы толькі абегам лавілі тоўстыя галоўкі капусты, жоўтыя ды чорна-зялёныя гарбузы. Абыкласць летняга завядання, знаёмы настрой, што яго родзіць, патуханне яскравых фарбаў квітучага лета — кратала яго ціхім даткненнем павуціння.

Местачковыя будынкі змянілі яго самаадчуванне. Ад іх павеяла Сілцамі, Смагінам, даўно пакінутымі мястэчкамі, доля якіх цяпер яму невядома. Ну, яны, адноўленыя ў яго ваччу вялікім падабенствам, былі жывымі і блізкімі.

— Хвілінку!

Вокліч, што пачуўся злева, адцяг Рыгора ад раз'юшаных дарожным настроем думак.

— Стой! — гукнуў ён фурману.

Вымуштраваныя ў руках вымагальнага фурмана коні адбілі стройны крок на месцы.

— Едзеце?

Кіраўнік работ працягнуў Рыгору руку з сінім квадрацікам паперы, заціснутай у два пальцы.

— Аддасцё Прахору Хведаравічу Стукалку, кіраўніку канцылярыі. З ім і лепей усяго мець справу, бо ад яго многае залежыць у вашым прызначэнні. Дарэчы, я ў лісце рэкамендую вас з лепшага боку... Прахор Хведаравіч — душа-чалавек. Вы знойдзеце ў ім сябра і калегу... Цалкам ваша падабенства... Але прасеце ад мяне, каб ён і мае просьбы не забыў... Бывайце!..

— Дзякую за ўвагу... і... не палічыце надазойлівым, калі што-кольвечы з маім бежанцам — зрабеце, што можна...

— Буду мець на воку... Ад'е!..

Проваў крута павярнуў ад воза і хутка схаваўся з Рыгорава ваччу.

Наперадзе цягнулася загразненая вуліца, канец якое за апошнімі будынкамі ўпіраўся ў грудок. Гэта з таго грудка пры першым уездзе ў мястэчка Рыгор разгледзеў захапляўшы яго ландшафт.

На гэты раз Рыгор абмежаваўся двума повертамі галавы, кінаграфічным абегам узроку — чаму мястэчка, прысады, двор, аддаленыя лясы і рэчка зліліся ў яго ваччу ў адно плямістае палатно.

Свісток манеўравага цягніка на станцыі адагнаў і ад гэтага Рыгоравы думкі.

Рыгор загадзя прыгатаваў фурману дробных і своечасова намерыўся ўставаць, толькі конскія падковы бразнулі па прыстанцыйным бруку.

— Вам пасобіць? — запытаў Рыгора фурман.

— Не, не, не! Спраўлюся сам. Дзякуй, браток! Вяртайся ў двор.

Рыгор перадаў яму некалькі срэбных манет.

Фурман спрытна схаваў іх у кішэню і ўзяў пад казырок.

— Шчасліва даехаць!.. Спяшайцеся браць білет, а то скора прыйдзе цягнік,— парадзіў ён у аддзяку.

Рыгоравы крокі заглухлі ў конскім тупаце і ў стуку калёс.

## VI

Ліба няўveranaю хадою накіроўвала да Віленскага вакзала. Выходзячы з Падгорнай, яна паглядзела на гадзіннік. Няўжо сапсаваўся? Ці, можа, яна зарана выйшла? Да цягніка — добрая гадзіна... Ды што цягнік? Ласне ўчора і пазаўчора яна таксама не прыходзіла да яго прыбыцця, пільна прапускала ўсіх прывезеных ім пасажыраў і з тым, што прыйшла, варочалася назад? Напэўна, Рыгора нешта затрымала ў атрадзе. Інакш бы ён ужо быў у Мінску... А можа?..

Зялёныя дрэвы Каломенскага бульвара манілі на вольныя месцы незамешчаных лавак. «Лепей пасядзець з паўгадзіны, ніж варочацца ў лазарэт».

Яна накіравала праз вуліцу да бульвара, калі яе пазвалі:

— Сястрыца, выбачайце!

Ліба ўздрыганула ад нечаканасці і спынілася. Агледзецца назад было позна, бо гукаўшы мужчына ў форме чыноўніка дарожнага ведамства, тут жа, збоку яе, браў пад казырок.

— Здаецца, не мыляюся?

— Што вам ад мяне патрэбна? — нездаволена запытала Ліба, гледзячы на чыноўніка.

— Я перапрашаю...

І ці то жаночая падатлівасць перад мужчынаю, ці інстынктыўнае адчуванне знаёмае ноткі ў голасе чыноўніка, а мо іншае нешта прымусіла Лібу ўважліва паглядзець яму ў твар.

— Ох, гэта твар Паўла?

— Ды вы не хочаце са мною гаварыць?

— Вы так неспадзявана!

— У вас вялікая перамена!

— Хто б то думаў — у гэткім месцы!

— Вы на бульвар?

— Дзе вы гінеце, што столькі часу ў Мінску і ні гуку... Як мігнуўся на станцыі, пры ад'ездзе са Ступак — дык мэрам у ваду...

— Пачакайце лаяць, Ліба...

Яны падышлі да лаўкі і спыніліся.

— Вас мала лаяць, вас трэба біць. Таварыш называецца... Сядайце-э...

Бабулька пільна паглядзела на іх і далікатна пасунулася на край лаўкі...

— Можа, выберам лепшую?
— Мне некалі доўга сядзець...
— Са мною?
— Кіньце выдумляць... Давайце лепш разам спатыкаць Рыгора.
— Рыгора?! Ён едзе ў Мінск?
— Ужо тыдзень, як едзе... Рыгор едзе, а Павал жыве — між тым ні таго, ні другога...
— Дайце сказаць... Дык, можа, пара ісці на вакзал?
Ліба прысела побач і хапіла Паўла за руку.
— Зараз... вось скажэце, дзе вы прападаеце?
— Плаваю ў паветры... Уявіце сабе, не паспеў сысці з вакзала, як мне білет у рукі — і едзь у Маскву. А з Масквы ў Казань, у Ніжні... Паверыце, не меў вольнае часінкі, каб хоць адкрытку кінуць. Вам, або Рыгору... Чую, што стрэўшы яго, мецьму доўгую споведзь... А прынамсі, і на столечкі віны... Вось заўтра ж зноў на цягнік і ў Віцебск...
— Разносіце жыццё па свеце...
— Так, рассяваю бясследна... А вы тут...
— А я тут... Праводзьце на вакзал... Таварыш прыязджае, а вы нібыта той...
— Што вы, Ліба!.. Мяне цікавіць не меней, калі не болей... Нарэшце, едзе-а...
— Я вымусіла.
Ліба асалодна зарагатала, абвесіўшыся на Паўлавай руцэ.
— У вас прабіваецца жаночае дыктатарства...
— А вам гэта не даспадобы?
Паўз іх праехала некалькі рамізнікаў да вакзала...
Яны ўскорылі хаду. Гудок, які вяшчаў прыбыццё цягніка, стрэў іх на ўсходах у будынак вакзала.
З будынка дыхнула густым, спецыфічным імпадам неправетранай казармы.
Яны перш памкнуліся прайсці на перон праз трэцюю класу, а далей мусілі павярнуць у першую. Напакованая людзьмі, як бочка селядцамі, трэцяя класа прыпыніла іх у дзвярах.
У першай таксама не відаць было вольнае мясціны. Усе буфетныя сталы, крэслы і лаўкі, што прызначаны для чакання, былі выкарыстаны поўнасцю. Людзі стаялі і тупалі ў прагалінах між сталоў і крэсел, несціхана

швэндаліся ў дзвярах. Стаяў кірмашовы шолам, у якім губіўся стук падышоўшага цягніка.

— Нам лепей стаць пры выхадных дзвярах,— парадзіў Павал.

— А я ўжо не ведаю...

Яны выйшлі з першае класы, але пасажыры, хлынуўшы ў вакзал, не далі прайсці да намечанага месца.

— Глядзеце адсюль...

— Вам каго? Ха-ха-ха!.. Памыйка, калі не абмыляюся? — праказаў хтосьці ззаду іх.

Павал агляпуўся.

— Прахор Хведаравіч?

— Як бачыце. Гэта ж праводзіў знаёмага — едзе ў Харкаў. А вы чаго?

— Я сустракаю... свайго таварыша... Да вас едзе... Выпадкова даведаўся...

— Да нас?..

Прахор Хведаравіч узяў пад казырок і пашыўся да выйсця.

Павал успомніў, што яму варта было б запытаць наконт пазаўтрашняй камандзіроўкі, і зрабіў намер кінуцца ўдагонкі.

— Ты куды гэта? — хапіў яго за руку Рыгор.

У гэты ж момант накіравала за ім і Лібіна рука, але яе адгарнуў убок якісьці здаравенны салдат. Гэты ж салдат схаваў за сабою і ўсю Лібу.

— Адзін? — запытаў Рыгор.

— З Лібаю!

Яны пачалі разглядаць навакол сябе, ды націск задніх пасажыраў не даваў ім спыніцца, адначасна робячы сцяну між імі і Лібай.

— Толькі што стаяла пры мне. Прынамсі, праз яе і я тут апынуўся, а так не ведаў...

— Не ведаў?

— Зразумела. Толькі заўчора вярнуўся з камандзіроўкі... За гэты час, калі цікавішся, я паў-Расіі аб'ездзіў... Ты думаеш, чаму я табе не пісаў ні слова?..

— Ды я ўжо вастрыў на цябе зубы... Ці не Ліба вуньдзека? — кіўнуў Рыгор галавою ў бок дзвярэй, за якімі бачылася белая пляма касынкі...

— Напэўна.

— Ліба Шлёмаўна! — гукнуў Рыгор, адцягнуўшы на сябе ўвагу з боку вакольных пасажыраў.

Наперадзе паднялася ўгору рука з хусцінкай.

— Вярні налева!

— Чамадан мяшае...

Павал адвярнуўся ад Рыгора, каб пацісннуцца наскасок, як яго рукі, атапырыўшы локці для пракладкі дарогі, умомант апусціліся па швах. Сцяна людзей, што рухала наперад, раптам таўханулася назад, ажно Рыгор ледзьве ўтрымаўся на нагах.

— Што-а за штукі-ы! — злосна выгукнуў ён.

Яго гук знік у многагалосым, успуджаным гомане, які пранёсся над галовамі натоўпу. «А-ан... пла-ан... рра-а-ран» — чуліся ў ім невыразныя склады страшнага слова.

Хутка гэта слова расшыфроўвалі ўсе, хто застаўся ў будынку вакзала і напалохана чакаў жахлівае хвіліны.

Заспакоенне прынёс выразны гук стрэлаў, які пачуўся дзесьці недалёка ад вакзала.

На пятым залпе, мэрам па прыказе, натоўп з вясёлымі крыкамі хлынуў з вакзала. Ад націску і замяшання некалькі чалавек падмялі пад ногі.

У радасных крыках збавення ад няшчасця, што нёс з сабою аэраплан, выпукляліся балючыя енкі прыдаўленых. На іх ніхто не зважаў, ужо на першым кроку за парогам дзвярэй задзіраючы галаў угору.

З надсільнай напружанасцю, адціснутыя адзін ад другога, выкарабкаліся Рыгор з Паўлам у бок ад струменя людзей і тут жа абодва трапілі на Лібу. Яна ўкорліва заўважыла Паўлу:

— Вы знарок схаваліся ад мяне!

— І ў думках не было; што вы, Ліба Шлёмаўна!

— Ну, дзе ж вы згінулі; не паспела азірнуцца, як знік, мэрам у ваду...

— Мы вас шукалі і звалі...

— Ды я чула, а далей? Аэраплана збаяліся? Ва-а-як-кі ж!

— Нас зацёрлі, як у жорны...

— А я на адкрытым месцы прастаяла і хоць бы што... Дзіўныя людзі, аэраплан на вярсту, а яны наўцёкі...

— Самазахаванне,— пасмяяўся Рыгор.

— Пазваць рамізніка? — запытаў Павал і тут жа дадаў: — Але я з вамі не паеду: мне трэба зайсці ў упраўленне работамі, да Стукалкі.

— Да Стукалкі? — перапытаў Рыгор.

— Так, гэта загадчык канцылярыі ўпраўлення... Маю справу... Між іншым, цікавы чалавек... Вось той, што стрэў мяне на вакзале,— растлумачыў Павал Лібе.

— Я маю да яго ліст ад Яўгена Віктаравіча Прова-ва,— паведаміў Рыгор,— які ён ад сябе, гэты Стукалка?

— Высокі, сухарлявы, з рыжаватай французскаю бародкай і доўгімі вострымі вусамі. Косы на галаве маленькім вожыкам, у пенснэ.

— Ну, выгляд яго плюгавы,— скрывілася Ліба.

— Гэта хіба з жаночага пункту гледжання.

— Я б не сказала, што толькі так...

Двое рамізнікаў, што падвезлі да вакзала чатырох афіцэраў, запрапанавалі свае паслугі.

Рыгор уздымам рукі затрымаў аднаго з іх.

— Куды ж ехаць? — запытаў ён Лібу.

— Да мяне...

— ?

— Чаго ж дзівішся? Сядай. Праводзьце нас, Павал...

Пакуль яны ўсядаліся, каля іх ачуўся высокага росту, аброслы, як цыган, у зношаным суконным адзенні чалавек.

— Выбачайце мне,— абярнуўся ён да ўсіх, угля-даючыся ў Рыгора,— я хачу запытаць...

— Праязджа-ай!..— данёсся з ганка прыказны голас гарадавіка...

Рамізнік тузнуў лейцамі, але той, што падбег, не разгубіўся: ён стаў на падножкі вазка і паўтарыў сказаныя словы.

— А вам што ад нас трэба? — недаверліва запытаў Павал.

— Я перапрашаю, мне паказалася, што вы... Рыгор Нязвычны?

Вытарашчыўшы вочы, Рыгор збянтэжана ўгледзеўся ў твар незнаёмага.

— Стой! — гукнуў ён рамізніку.

Павал, на кожны выпадак, прыняў абаронча позу.

— Янкі Кліна не пазнаеш?

— Няўжо гэта?..

З шэрых шустрых воч незнаёмага, з яго таўставатага носа, з ямачак каля губ вырас перад Рыгорам знаёмы вобраз яго таварыша.

— Як жывеш і якім чынам апынуўся ў Мінску? — паціскаючы Клінаву руку, пытаў Рыгор.

Ліба спакойна ўсміхалася. Павал адчуваў сябе няёмка пасля выяўленай западазронасці...

— Гоняць, вось... Забралі ў армію, як ратніка другога разраду... Я спыніўся з бацькамі ў Барысаве і быў паступіў недалёка адсюль у бровар... Пасля... А ты ж якім чынам трапіў сюды з Пецярбурга?

— Як бачыш...

— Едзем, барын!..— панукнуў рамізнік.

— Я вельмі рад, што стрэў... Перш сумляваўся, а далей думаю — давай запытаю... Хоць адрас скажы, можа ліст кіну...

— Пішы да патрабавання — вярней усяго.

Янка Клін зняў шапку і, калі рамізнік крануў з месца, галасней праказаў:

— Не так даўно Зосю бачыў... Ехала са сваімі на Смаленск...

— А я з-за вас спазнюся ў упраўленне,— перабіў іх Павал.

## VII

Цесны, светлы і прытульны пакоік Лібы выходзіў невялікім акном на Юраўскую вуліцу. Калі Рыгор, паставіўшы пры ім свой куфэрак, паглядзеў у акно, то ўпёрся ўзрокамі ў тры акны рудога дома. Направа ад яго высілася якаясьці, касцёльнага стылю, пачарнеўшая ад часу будыніна. Востраю процілегласцю ёй выглядаў старэнькі, дзеравяны домік наўскасяк акна, з якога ён глядзеў.

— У цябе добры выгляд з акна.

— Гэта першае, што ты заўважыў?

— Не толькі гэта...

Ён ніякавата адвярнуўся ад акна і прайшоўся пакоікам. Знячэўку стукнуўся аб камод, які звужаў праход данельга.

— Аднак ты непаваротны,— пажартавала Ліба.

— Павернешся ў цябе...

Яна рассмяялася.

— Не даспадобы?

Рыгор агледзеў беднае абсталяванне Лібінага пакоя. Старэнькі пачарнелы ложак, камод, столік, два

крэслы — гэта быў увесь асартымент мэблі. Да яе залічалася пагнутая драцяная вешалка, злезлае, забруджанае мухамі люстра і пара старых, паморшчаных пад рамкамі алеаграфій.

— Тут блізка ёсць гатэль?

— Чаму? — занедаволілася Ліба.

— Я не хачу цябе цясніць...

— Гэта як разумець?

— Ды гаспадыня...

— Што за далікатнасць, Рыгор!

— Ніякае далікатнасці! Я хачу, каб табе лепш...

— Дзякуй за дбанне — толькі не рыпайся... Гарбату піцьмеш?

— Давай пойдзем паабедаць...

— Я цябе павяду да харчоўкі, аддам ключ, а сама наведаю лазарэт...

— Паабедаем удваіх...

— Я ўжо і так спазнілася, Рыгор... Папрасіла, ідучы на вакзал, таварышку, і тая, пэўна, праклінае мяне... А можа, абход, крый бяды...

У дзвярах іх сустрэла пажылая, нізкая кабета.

— Гэта мой зямляк... Ён на нейкі час застанавіўся ў мяне... Майце, Сара Восіпаўна, на ўвазе...

— Ды ўжо ж... няхай, чаму не... што мне мяшае... Можа ж, трэба будзе другая пасцель,— спакойна адказала яна.

— Калі я не застануся нанач на службе, то папрашу вас... Прыгатоўце, на ўсякі выпадак...

— Што мне гатовіць,— у мяне заўсёды напагатове... А вы ж, сястра, ключ перадалі гаспадзіну?..

— Так...

Нізкая жанчына адчыніла ім дзверцы і праказала пажаданне:

— Гуляйце на здароўе!

— Гэта гаспадыня? — пацікавіўся Рыгор.

— Але...

— Цікавая асоба...

— Кінулася ў вочы?

Яны прайшлі на Губернатарскую, пасля завярнулі па Захараўскай.

Тратуары абедзвюх вуліц былі ўсеяны людзьмі. Вакол адчуваўся фронт, што дапамінаў пра сябе вялікаю колькасцю ваеншчыны, вайсковага чыноўніцтва і салдат.

На рагу Губернатарскай і Захараўскай стаялі грамадкі людзей, якія задзіралі галовы ўгору і тыкалі пальцамі ў неба. Хлапчукі-газетчыкі драліся на ўсё горла, выгукваючы апошнія навіны з фронту. Сярод розных паведамленняў са штаба галоўнакамандуючага празвоньвала вушы вестка пра налёт нямецкага аэраплана.

«Аэраплан над Мінскам. Аррапп-янн н-над Мі-інскам!»

Ліба падвяла Рыгора да Захараўскага завулка, паказала на дом, у якім мясцілася харчоўка, а сама пайшла далей.

Рыгор прайшоў у нізкі цемнаваты пакой, у якім было расстаўлена да дзесяці засланых белымі скацёркамі столікаў.

Ужо была другая гадзіна, і людзей у сталоўцы знаходзілася нямнога. Дзякуючы гэтаму, ён выбраў рагавы столік і заказаў сабе абед. Маладая паўнатварая, пачырванелая падавальніца са знарочыстай ухмылкай і з дбайлівасцю падала яму адну за другой тры стравы. Усе яны прыйшліся Рыгору да густу, і ён пахваліў падавальніцу харчоўкі. Яна нічога не адказала і з тою ж замацаванаю раз назаўсёды ўхмылкаю адышлася ў другі куток ды прысела.

Седзячы, яна раз-поразу глядзела на Рыгора. Гэта яго заінтрыгавала, і ён дазволіў сабе падысці да падавальніцы і запытаць:

— Мне здаецца, што я вас дзесьці сустракаў.

Афіцыяльная ўхмылка змянілася лісліва-радасным смяшком, і сімпатычная падавальніца какетліва адказала:

— Я вас ведаю па Смагіну... Ваш твар настолькі мне запамятаўся, што я вас пазнаю ўсюды і заўсёды...

— У Смагіне?! — зацікавіўся Рыгор.

— Так, калі памятаеце, на сходцы ў ляску... Здаецца, нават вы і прамову там казалі? Ці ў гэтым ужо мыляюся?..

— А ваша прозвішча?

— Ды яно вам нічога не скажа.

— Аднак цікава ведаць...

— Злата Мельнік... Вы, зразумела, не чулі... Вы кватэравалі ў Шлёмы карчмара... Яго дачка, Ліба, слаўная дзяўчына, зараз сястрою недзе ў Пецярбурзе...

Падавальніцу паклікалі на кухню.

— Выбачайце мне, я на момант,— перапрасіла яна.

Белы фартух мігнуўся перад Рыгорам і схаваўся за дзвярыма. Рыгор зацікаўлена глядзеў туды, дзе схавалася вяртлявая падавальніца. Тое, што яна сустракалася з ім на сходцы ў лесе, яго інтрыгавала. Было ясна, што Ліба яе ведае. Але ж яна нічога яму пра гэта не сказала, праводзячы ў харчоўку. Лібе будзе навіна...

— А вы даўно ўжо як у Мінску? — запытаў Рыгор насустрэчу, толькі падавальніца выйшла з кухні.

— Каля года... Летась восенню выехала з Смагіна... Пасля пад'ехалі з бежанцамі мае бацькі...

— Вам жа цяжка ў харчоўцы працаваць.

— А што ж зрабіць, дзе-кольвечы працаваць трэба...

У харчоўку ўвайшло трое новых чалавек. Агледзеўшыся наўкола, яны занялі трэці ад іх столік. Рыгорава сагутарніца хутка ўзнялася з месца і накіравала да наведвачаў. Другая падавальніца пераняла яе.

— Я за цябе падам, Злата...

Злата вярнулася да Рыгора.

— Вас добра ведае мой муж...

— ?!

— Вы, напэўна, памятаеце Сімана Галаса?

— Вы жонка Сімана Галаса?!

— Трапілася, бачыце.

Злата весела зарагатала.

— Перадам яму ад вас уклон...— дадала яна.

— Нізенькі... і прасеце... А ён не тут абедае, часамі?

— Часамі, а часамі і без абеду...

Злату зноў пазвалі на кухню.

Рыгору ніякавата было яе чакаць, але таксама нямёмка было і выйсці, не развітаўшыся з жонкаю таварыша. Пры гэтым не мяшала б згаварыцца пра спатканне з Сіманам.

Ён на момант зацікавіўся думкаю, ці не паведаміць Злаце пра Лібіну прысутнасць у Мінску, а далей раздумаў.

— Я заўтра зайду да вас на абед. Можа, меў бы час і Сіман прыйсці? — запытаў ён падавальніцу, калі яна выйшла з кухні.

— Добра, я скажу яму пра вас.

Рыгор узяў пад казырок і павярнуў да дзвярэй. І толькі ён адчыніў іх, каб пераступіць парог на вуліцу,

як яму перагарадзіў дарогу, павяртаючы ў харчоўку, якісьці чалавек.

— Перапрашаю! — папрасіў ён выбачэння ад Рыгора.

Рыгор, не звярнуўшы ўвагі, паднёс руку да шапкі і прапусціў стрэчнага. У гэты момант ззаду яго аклікнулі:

— На адну хвілінку!

Каля яго стаяла знаёмая яму падавальніца.

— Калі ласка!

— Якраз прыйшоў мой муж. Вунь ён сядзіць...

Злата з вясёлай усмешкай ткнула пальцам на сталовую.

— Шанцуе! — праказаў Рыгор і падышоў да стала, за якім сядзеў Сіман.

— Рыгор? — падняўся той і ад шчырасці затрос Рыгораву руку.

— Неспадзявана як! — выгукнуў ён яшчэ мацней.

Але мэрам бы спалохаўся свайго гуку і порсткім узрокам павёў па харчоўцы.

— Злата, падай сюды пару бутэлек піва.

— Чакай,— перапыніў яго Рыгор,— я паабедаў ужо.

— Вось і добра... мая жонка, пазнайся!..

Рыгор падняўся з крэсла і працягнуў знаёмай падавальніцы руку.

— Я паспеў пазнацца ўжо. Ха-ха-ха!

— Ласне?

Сіман паглядзеў на жонку.

— Ён не хлусіць?

— На гэты раз не...

— А заўсёды, хочаце сказаць...

Злата смеючыся пабегла да буфета.

— Выпадкова, ведаеш... Прыгледзелася, і мне кінулася ў вочы нешта знаёмае ў твары. І не абмыліўся — сустракаліся; памятаеш, у Смагінскім лесе?..

— Добрая ў цябе памяць.

Злата прынесла піва.

Сіман разліў па шклянках і падняў адну над сталом:

— За цікавае спатканне!.. А ты, Злата, не вып'еш?

— Ты не глядзі на мяне, я занятая...

Яна не адводзіла вачэй ад Рыгора.

— Ужо каля двух гадоў як бачыліся! І што за гэты час начаўплося!

Абодва стукнуліся шклянкамі і засаб выпілі.

— За лепшую будучыню, Рыгор!..

— Ну, як ты жывеш, скажы хаця? Жонка скардзілася, як мэрам бы...

— Я жартавала,— пераняла Злата і адбегла ад стала.

— Нецікава жыву...

— А працуеш дзе?

— Лекцыі даю... Маю некалькі вучняў і гэтым... У ліхой бядзе... Якраз жаніўся... Жонка, бачыш, вымушана працаваць... А каб не працавала — туга, брат... Але ты...

Сіман даследавальным узрокам агледзеў Рыгора.

— У ваеншчыну падаўся?

— Як бачыш... і думаеш праз каго?

— Скажы.

— Памыйка спакусіў. Стрэў мяне ў Пецярбурзе — во, так во, як я цябе, і давай агітаваць... На гэты раз я не мог устаяць і здаўся... Якраз з завода разлічылі, і чаму ж бы... Так месяцаў пяць дачыў...

— А дзе ж цяпер Памыйка?

— Таксама ў Мінску... Сустракаў мяне сёння з Лібаю.

— Значыць, уся смагінская хеўра сабралася! — ізноў перайшоў на вышэйшую ноту Сіман.— Вось дык гісторыя! За яе мудрыя законы!

Ён зрабіў да таго гучны чок, што наведваючыя, як адзін, абярнуліся ў іх бок.

— Пабіў шклянку? — запытала, падбегшы да стала, Злата.

— А калі і пабілі адну?..

Сіман узяўся двума пальцамі за вузенькую французскую бародку і з свайго блядога, аб'інтэлігенчанага твару зрабіў дэманскую міну.

— Значыць, і Ліба тут!

— Цябе гэта дзівіць?

— Ну, Ліба ж сястрою?

— Так...

Рыгор хвілінку памаўчаў.

— Сазнаюся табе, Сіман, Ліба мяне спаланіла... Яна мне падабаецца, калі хочаш ведаць, як таварыш і... жанчына...

— Яна — мілы чалавек... Шкада мне...
— Пойдзем дахаты? — перабіла Злата.
— Ты ўжо вольная?
— Кончыла... Ах, як я сёння стамілася! Ты не знаеш, Сіман, што за цяжкая праца...
— Чула, Злата? Ліба Крамнік тут...
— Цяпер жа свет, як шалёны віхор... Хто думаў, што стрэну іх.
— Гэтага мала,— падаў Рыгор,— а вось нядаўна, зусім перад маім ад'ездам у Мінск, я раптам напаткаў Рудольфа Шульца... Прыгналі атрад палонных, паверыш, ён сярод іх...
— Што ты кажаш?!
— Шаломная нечаканасць, кажу табе!..
Следам Сіман схіліўся да Рыгора і праказаў:
— А ведаеш, я ўсё яшчэ на нелегальным... І між тым вяду працу...
Рыгор задаволена адказаў:
— Я думаў пра гэта... Цяпер будзе добрая сувязь...
І пачаў з захапленнем апавядаць аб сваёй працы сярод рабочых атрада.
Парываючыся ісці, яны прасядзелі да вечара.
Ужо ў вокны харчоўкі пралазіў змрок, калі Злата адарвала іх ад стала.

## VIII

Сіман Галас з жонкаю давялі Рыгора да Лібінай кватэры.
— Заходзь з Лібаю да нас...
— Абавязкова... Дайце толькі агледзецца...
Развітаўшыся, Рыгор падняўся на другі паверх і пазваніў.
Тоўстая, нізкая кабета адчыніла яму дзверы.
— Сястра вас чакала-чакала і недзе выйшла... Дзе вы яе згубілі?..
— Яна даўно прыходзіла?
— З гадзіну таму... У вас ключ ёсць? Праходзьце ў яе пакой...
Гаспадыня забегла Рыгору наперад і адамкнула Лібін пакой.
— Я вам прыстрою канапку... вось каля гэтае сцяны... А можа, сястра захоча ў сталовай паранaчаваць?

Тут ужо ваша справа — я не хачу, бачыце, пакрыўдзіць ніводнага... Вы стукнеце мне?

— Добра...

Рыгор зачыніў за гаспадыняй дзверы і падышоў да акна.

Пераплецены нечаканасцямі дзень разрываў яго думкі на часткі. Мінск адразу паварочваў яго настрой у другі бок — правінцыяльная заспакоенасць немаведама дзе і дзелася. Насычаны прыфрантавой нервовасцю, горад адбіваў у сваім жыцці сударажны пульс акрываўленай краіны. У мнагалікіх стрэчах выразна выяўляўся яе лёс, выгнанай на вандроўку. Рассеяныя па свеце выгнанцы, аднак, не кідалі надзеі парваць са знаёмымі месцамі. Яны шукалі сабе прытулку і апоры на коўзкіх скатах рубяжоў, абы можна было адчуваць пад нагамі атоптаны грунт. А далей — далей вострыя ўзрокі перасягалі франтавую мяжу і ласкалі душу непатухлаю вераю ў блізкае наступнае. Якім яно прыйдзе? Што за песні справодзіцьмуць яго прыход?

Цераз чорную рысу высокае камяніцы Рыгоравы ўзрокі ўпіваліся ў чырвоны водбліск затуленага ёю сонца. У яго істоце бушавалі хвалі салодкага натхнення...

Ён адчуваў сябе прывязаным да падлогі, і трэба было прагучаць стройнай песні салдат, якія праходзілі вуліцаю, каб ён паварушыўся і адцягнуў думкі ад суворае сапраўднасці.

Салдаты адпраўляліся на фронт, бо ішлі пры амуніцыі, нават з вінтоўкамі, у новых шынелях. Іх песня гучала бадзёрымі напевамі з разухабістым зацягваннем канцовых нотак. У злітнасці людскіх галасоў для большай зухаватасці спеву ўліваліся вострыя свісты. Рытмічны тупат сотень салдацкіх ног падымаўся ўгору ад брудных каменняў бруку і стукаў Рыгору ў вушы.

Салдаты ішлі каля дзесяці хвілін, і цяганіна іх праходу прыцягала да сябе Рыгораву ўвагу. Ён не адхіляўся ад акна, насцярожана слухаючы заціхаўшыя водгукі тупату і песні.

Уваход Лібы застаўся яму незаўважаным. І толькі асцярожліва-далікатны яе штуршок вывеў Рыгора з нерухомасці.

— Думаеш? Пра вошта ты думаеш?

Ліба палажыла яму на плячо руку і ўмільна, ласкава паглядзела яму ў вочы.

— Паабедаў?

— Нічога, харчоўка не дрэнная.

— Але дзе ты быў так доўга? Няўжо праседзеў у харчоўцы? Чакала я, чакала і не дачакалася.

Рыгор гасцінна засмяяўся.

— У харчоўні праседзеў каля трох гадзін.

— З якое гэта прычыны?

— Меў цікавую стрэчу...

— Няўжо?.. Давай сядзем...

Яны адступіліся да ложка і ўселіся побач.

— Я выпадкам напаткаў Сімана Галаса.

— ?!

Лібін твар абярнуўся ў здзіўленае запытанне.

— Ён і жаніўся тут.

— Жаніўся? Што-а ты-ы ка-жа-аш?

— З Златаю Мельнік.

Паведамленне Рыгора да таго захапіла Лібу, што яна выйшла з ранейшага настрою, устала і пачала тупаць па пакоі.

— Ніколі не паверыла б, каб хто сказаў мне гэта...— пацiскала яна плячыма і рассеяна кідала ва ўсе бакі ўзрокамі.

— Сіман і Злата! Х-ха-ха! І ў Мінску? Але ж чаму мне не давялося ні з водным з іх стрэцца? Цікава! Што ж хаця робіць Галас? Не казаў?

Рыгор падзяліўся з Лібаю апісаннем стрэчы перш са Златаю, а пасля з Сіманам, гутаркамі з імі і заключыў двухслоўным сказам:

— Закон жыцця!

Лібе гэтага было мала; яна не пакідала гутаркі пра Сімана Галаса датуль, пакуль уваход у пакой гаспадыні кватэры не змяніў яе тэмы.

— Выбачайце,— сказала гаспадыня, разглядаючы ў шэрым змроку дваіх прысутных,— я ўжо збіраюся спаць і прасіла б вас, калі што трэба, то кажэце зараз... Няхай бы вы запалілі лямпу!.. А можа, няма газы?..

— Дзякуем, пакуль, здаецца, нічога...

— Засвяці агонь...

— А спаць як?

Тоўстая кароткая кабета, не дачакаўшыся адказу, дадала:

— Калі сястра не захоча спаць у сталовай, то прашу ўнясці ў пакой канапку і... я падушку дам сваю...
І выйшла.
Ліба засвяціла агонь і пабегла за гаспадыняй.
— Калі ласка, ці не можна гарбаты? — праказала яна за дзвярыма.
— Трэба ўнесці канапку? — ні то парадзіла, ні то запытала Ліба, вярнуўшыся ў пакой.
Рыгор згадзіўся, і праз некалькі хвілін парваная, брудная канапка стаяла ў Лібіным пакоі. Адзін канец яе ўпіраўся ў камод, другі — у сценку ад калідора, а між ложкам і канапкаю свяцілася вузкая разорына праходу.
— Было б лепей, каб вы яе пасунулі да акна, па той бок камода,— парадзіла гаспадыня, прынесшы гарбаты.
Ліба адказала на гэта пагаворкаю:
— У цеснаце — не ў крыўдзе.
Пагаворка прыйшлася гаспадыні па нутру, тым болей што яна збаўляла яе ад клопату слаць пасцель Лібе ў сталовай.
— Асабліва маладым людзям,— пажартавала яна на выхадзе.
Гаспадынін жарт быў апошнім фактарам пастароняга свету, які наведаў Лібін пакой.
Далей нівошта не перашкодзіла ёй выпіць з Рыгорам гарбаты і аддаць патрэбны час для інтымнай, хвалюючай гутаркі, тэмы каторае выплывалі з іх блізкіх, цёплых сяброўскіх адносін.
Затуленая зялёным абажурам лямпа ўзмацняла вакольную цішу, якая прыдавала іх спакойнай гутарцы сталёвую выразнасць.
Сумнаватае святло скрадала вострыя куты рысаў, і міны іх твараў рызыкавалі адбіцца выключна ва ўзаемных узроках кожнага. Настрой угатаваў глебу для адкрытых выказаў пачуцця, да выразных слоў.
— Мне так добра з табою, Рыгор, так радасна!.. Няўжо ты не чуеш гэтага? — праказала Ліба.
Пацалунак, які выплыў следам за яе сказам, быў галаснейшы за словы гутаркі...
Калі іх губы разняліся, абое аглянуліся на сценку, за каторай храпла гаспадыня.
Падазронасць, што іх хто падслухаў, раптам патанула ў сугучным смелым рогаце.

— Я толькі ў паядналым жыцці і магу знайсці сваё шчасце. Я веру сама, што сапраўдная любоў павінна прайсці праз доўгія іспыты. Да яе мусіць падгатаваць чалавека само жыццё. У адносінах мяне — наша стрэча па адрасе ў Ступкі вырашыла гэта пытанне канчаткова... Ты згодзен са мною, Рыгор?

— Я многае згубіў, пакуль цябе знайшоў. Ужо адно гэта кажа за тваю каштоўнасць у маім ваччу... Далейшыя мае думкі накіраваны толькі ў адну кропку — гэта да таго, як бы надаўжэй захаваць цябе... маёю сяброўкаю, таварышам маім... маім вечным спадарожнікам... Я не хацеў бы таіць разнастайных нечаканасцей у наступным, але ведаю, што ты з імі лічышся сама. Перад намі — будучыня. Сённяшняе — бягучае, будзённае, як падстава, як апора, з якою мы змагаемся за заўтрашняе... Разумееш, Ліба?

— Не пытайся, Рыгор. Ты не павінен забыць майго першага ўзроку, які я падаравала табе, падаючы, памятаеш, снеданне. У тым узроку быў зародыш таго, што зараз вырасла ў моцнае, вялікае, непарушнае пачуццё... Я разумею цябе, бо памятаю тваё хваляванне ў дзень Першага мая, твае словы на сходцы ў Смагінскім лесе, падзеі у Рызе і ў Пецярбурзе... Няхай наступнае іх удвоіць, утроіць — я не пахіснуся, не дапушчу крануць сумненню стойкага сэрца... Мяне лучыць з табою не сённяшняе маё і агульнае, а агульнае і маё заўтрашняга дня... Не сумляваешся, Рыгор?..

Дванаццатая гадзіна, што выбіваў гадзіннік на вежы, сведчыла падвойны пацалунак, як аброк, што перадавалі яго Рыгор Лібе, а Ліба Рыгору.

За сцяною чуўся той жа крэкт гаспадыні, але ўрачыстасць прызнання рэзвую бадзёрасцю разганяла спакой заціхання.

— Будзі мяне, Ліба, а дзевятай, я мушу ісці ў упраўленне.

— Хочаш, а восьмай абуджу, калі сама ісціму ў лазарэт?

— Здаюся на цябе...

## IX

Вузкія тратуары Губернатарскае вуліцы ледзьве ўмяшчалі натоўп пешаходаў. Вялікая колькасць вайскоўцаў заўважна пярэсцілі сілуэты цывільных.

Чыстае асенняе неба разлівала сонечнае святло па ломаным бруку. Яго праменні асвятлялі каламутныя жаральцы памыяў, што цяклі між тратуараў, як і трывожныя, няпэўныя за сваё наступнае, твары афіцэраў, палкоўнікаў, генералаў. Апошнія на хаду шалясцелі свежымі газетамі, нядбайна ківалі галовамі пры адданні ім чэсці і хаваліся за рагі дамоў папярэчных вуліц.

Земгусары адбівалі сваім выглядам спакойны настрой забяспекі. На іх бліщчастых палетах халоднае сонца ганяла зайчыкаў, якіх некаму было палохаць. Служба не перашкодзіла земгусарам урваць гадзінку-другую часу на зазірк у кавярню.

За круглымі мармуравымі столікамі з каваю па-варшаўску яны праседжвалі доўгія часы, выказваючы ліберальныя думкі і «апазіцыйныя» настроі разам з «клопатамі» пра салдат у акопах.

На скрыжаванні Губернатарскае і Захараўскай над гімназіяльным парканам віселі апошнія навіны. Іх выкрыквалі і газетчыкі, але кожны пешаход лічыў сваім абавязкам праверыць крыкуноў на адказным аншлагу.

Роўна а дзесятай гадзіне Рыгор выйшаў з Юр'еўскай на Губернатарскую. Параўняўшыся з першай кавярняй, ён заскочыў выпіць кавы. На гэта пайшло каля чвэрткі гадзіны. Далей зрабіў спынку перад навінамі. «Расія і Італія абвясцілі вайну Балгарыі»,— стаяла ў першым радку зверху. Выдзеленая буйнейшымі літарамі, гэта навіна забівала ўсе іншыя. Вакол яе вярцеліся гутаркі ў сабранай грамадцы.

Пара пажылых палкоўнікаў, што стаялі з боку Рыгора, вылаяліся агіднымі словамі па адрасе Балгарыі. Нейкі чыноўнік, па форме з кантрольнае палаты, паціскаў плячыма, дзівячыся, што робіцца на свеце. Бяспечны дыскантовы галасок сястры, якую падвёў да навін зухавы казачы сотнік, смяялася з задзёру балгарскага Карлушы. Знянацку дысанансам прагучаў пытальны сказ якогасьці селяніна з торбаю на плячах: «І да чаго толькі гэта дойдзе?» Мужычка абмылі спачуваючыя ўзрокі не адных цывільных. Храбрыя палкоўнікі пераглянуліся і загадліва паківалі галовамі.

Рыгор абышоўся маўчанкай, хоць селянін і падвастрыў яго ахвоту выказаць сваю думку. Але ён не мог ручыць, што на яго сказ адгукнуцца ўсяго тым жа, чым на словы селяніна, і пайшоў напрамкам да ўпраўлення работамі.

Ён знаходзіўся зусім недалёка ад будынка, дзе змяшчалася ўпраўленне, калі напатканая сястра вярнула яго да ўчарашняй гутаркі з Лібаю. Мігам у Рыгоравым уяўленні прабегла карціна мінулай ночы, слова ў слова прагучалі ў яго вушах адпаведныя, рашучыя дыялагі паміж ім ды Лібаю.

Мэрам бы хто хапіў Рыгора за руку і прыпыніў — ён пракалоў узрокам даўжыню Захараўскай і праз хвіліну зрабіў упэўнены крок наперад.

На другім кроку ён прамармытаў пра сябе:

— Адказныя справы ў жыцці адзінкі, як і ў жыцці грамады, вырашаюцца часам вельмі проста ды лёгка.

З гэтага сказа паплыў струмень думак і планаванняў, якія завярцеліся вакол Лібы, перараджваючыся ў будзённыя клопаты пабудовы сямейнага жыцця. Гэтыя клопаты, змешаныя з навіною ўзятых абавязкаў, варушылі Рыгоравым нутром і плячыма.

Рыгор пачуў сябе крыху вальнейшым, калі ўвайшоў у канцылярыю ўпраўлення работамі. Стукатня машынак, службовая бегатня, незнаёмыя твары службоўцаў вярнулі Рыгора да бягучае сапраўднасці.

— Выбачайце! — перапрасіў ён якогасьці пісца, запыніўшы яго пры дзвярах.— Мне трэба Прахора Хведаравіча Стукалку.

А навошта ён вам? — запытаў пісец і раптам, збаяўшыся свайго пытання, дадаў, ткнуўшы ў паветры пальцам:

— Прахор Хведаравіч вуньдзека сядзяць!

Рыгор падзякаваў і прайшоў да паказанага месца.

— Я да вас ад Яўгена Віктаравіча Провава.

Стукалка далікатна схінуўся і працягнуў Рыгору руку.

— Ці не вы ўчора прыехалі ў Мінск?

— Вам паведамляў Памыйка?

— Ужо мы падбалі пра месца вам.

— Калі ласка, вось і ліст ад Провава.

Рыгор падаў Стукалку канверт.

— Дзякую. Напэўна, сумавалі там у глушы? Праўда, затое спакайней. Сядайце, прашу вас...

Стукалка хутка прачытаў ліст, скамячыў яго і адправіў у кішэню.

— Мне пра вас Памыйка многае расказваў. Добра... Я вельмі рад, што мне давядзецца з вамі працаваць... Нябось, Яўген Віктаравіч слаўны чалавек? Мы з ім

сябры здаўнага... Та-ак... Дык скажэце, ці хацелі б вы па грашовай частцы, ці па адміністрацыйнай?

— Глядзеце, дзе лепш,— пасмяяўся Рыгор.

— У нас, аднака, нядрэнна... Я думаю, нейкі час папрацуеце ў агульнай канцылярыі, а там пераменім...

Да Стукалкі падышло некалькі службоўцаў з паперамі.

— Па нядзелі прыходзьце на службу... Я вельмі рад...— сказаў ён, устаючы з крэсла.

Рыгор развітаўся і накіраваўся да дзвярэй.

Ён яшчэ не выйшаў з сталоў, як яму перагарадзіў дарогу знаёмы яму кароценькі чалавек з бежанскага камітэта.

— І вы тут?

— Як бачыце. А якім-то чынам вы сюды папалі?

Кароценькі чалавек рэзва затросся ўсёю постаццю, засмяяўся і адказаў:

— А ўсё з-за камітэцкіх спраў. Патрошку пашыраемся. Вось днямі я даведаўся з прыватных крыніц, што маюць асігнаваць на бежанскую справу вялікія сумы. Я і прыехаў у Мінск, каб тут наладзіць сумесную заяву... Вы, часамі, не наведвалі Мінскага камітэта?

— Бачыце, я толькі ўчора пераехаў у Мінск. Дагэтуль працаваў за Мінскам.

— Вы добра зрабілі, што перабраліся ў Мінск,— праказаў кароценькі чалавек.

— Як вам сказаць... Пакуль яшчэ я не нагледзеў нічога гэткага, што б казала за гэта... Мне чамусьці думаецца, што лепшае прыйдзе з Пецярбурга...

— Зразумела...

Кароценькі чалавек на момант задумаўся, пасля іншым тонам паведаміў:

— Ага, бок, маю вам перадаць уклон ад вашага таварыша... Не так даўно заходзіў на Знаменскую і пытаў кагосьці... не памятаю каго... Луговіча якогасьці... Ды самога таварыша прозвішча запамятаваў... З Масквы прыязджаў...

— З Масквы? Дагадваюся...

Яны развіталіся.

Кароценькі чалавек уподбежкі накіраваўся да першага стала, а Рыгор выйшаў на вуліцу.

Для яго было зусім неспадзяваным, калі на адгоне квартала з боку ў яго зноў пачуўся нядаўна заціхшы голас прадстаўніка бежанскага камітэта.

— Калі вы думаеце пра Пецярбург, то ці не ўзяліся б вы часамі за маю працу па камітэце? Я вельмі вас прасіў бы. Мне да таго цяжка, што я з радасцю ўцёк бы сюды ў Мінск.

— Я не абяцаю вам гэтага...

— То давайце мы так скамбінуем,— настойваў кароценькі чалавек.— Вы звяжацеся з Мінскім камітэтам, а я вымалю замест вас другога чалавека сабе на замену...

Рыгор і на гэту прапазіцыю не даў акрэсленага адказу. Гэта астудзіла кароценькага чалавека і прымусіла яго перайсці на іншыя тэмы. Аднак кожная з новых тэм непраменна стыкалася з бежанскімі справамі, а тыя цягнулі за сабою скаргі на цяжкасць працы ў камітэце. Нельга было западозрыць няшчырасці ў яго споведзі, тым болей Рыгору, які збольшага ведаў становішча камітэта. Знаёмы быў Рыгор і з працаю кароценькага чалавека ў камітэце. Але ўсё ж думкі яго былі далёка ад гэтага.

— Будзе час пра гэта пагаварыць па маім прыездзе ў Пецярбург,— адказаў ён, каб скончыць гутарку.

Кароценькі чалавек мэрам бы гэтага і чакаў. Ён зразу спыніўся, з падзякай падаў Рыгору руку і крута павярнуў назад. Калі Рыгор азірнуўся, то ён ужо бачыў кароценькага чалавека на гоны ад сябе.

«Сапраўды працуе з пачуццём і самаадданасцю», — уголас выказаў ён пра сябе.

І не паспеў зрабіць кроку з новаю думкай, як знаёмы жаночы голас пераняў яго сказам:

— За кім вы так пільна ўзіраецеся?

Следам, не даўшы Рыгору павярнуць галавы, порсткая рука прасунулася яму пад паху.

— Ну, якавы справы?

Ліба была ў вясёлым настроі і ласкава зазірала Рыгору ў твар.

— Я сёння проста шчаслівая — гэта ж цэлы полудзень у маім распараджэнні.

— Якім жа чынам табе падшанцавала?

— Выпісалі з майго аддзялення да дваццаці чалавек.

— А ўсё ж засталося ў лазарэце людзей?..

— Алеся даглядае за імі... Ну, а як твае справы? Што ж ты не кажаш нічога?

— У панядзелак іду на службу.

— А працу вызначылі?

— Знойдзецца. Ёсць некалькі месц, на выбар... Ці ж у гэтым рэч?

— Твая справа... Прынамсі, за гэтыя дні варта было б падшукаць новую кватэру... Ты пра гэта не думаў?

Рыгор пацiснуў Лібіну руку і жартаўліва праказаў:

— Не паспеў пакуль, мая дбайная гаспадынька...

— Не тое, што...

Рыгоравы жарты выклікалі на Лібіным твары лёгкія ўспыхі сарамлівае ружы.

— Разумею цябе і згодзен з табою цалкам... Асноўнае зроблена, а там усё пойдзе сваёю чаргою... Ці не пара было б абедаць?

— Давай пойдзем!

Яны завярнулі ў знаёмы Рыгору завулак.

## X

— Як, па-твойму, Ліба, так будзе нічога? А можа, пасунуць яшчэ крыху да акна? Толькі не даставацьме шнур. Няхай стаіць так...

Рыгор адступіўся да кушэткі, на якой сядзела Ліба, з газетаю ў руках, і паглядзеў адтуль на распалажэнне стала.

З правага акна, на паколаных шыбах якога ляжаў тоўстым пластом снег, падала сталёвая паласа святла. Востры рог прыаконніка роўнай лінейкай адразаў яго правую палавіну. Стажок паложаных на стале кніжак трапляў у зацямненне, якое скрадала не толькі загалоўкі кніжак, а і малюнкі іх вокладак.

— Трэба адсунуць крыху назад, тады болей на стол ляжа святла. Няпраўда, мо?

Ліба паднялася і пільным позіркам праверыла Рыгоравы меркаванні.

— Не так святло, як холад. З акна ж неміласэрна дзьме. Па-першае, трэба было б уставіць новыя шыбы ды пазатыкаць паміж рам... Які недагляд, а гэткія грошы дзяруць... Адсунь стол на корх-другі назад...

Яна падышла да акна, праверыла рамы і шуфляднікі, папрабавала шчыльней прычыніць дубальт і нездаволена кіўнула галавою:

— Што ж ты хочаш! Яшчэ добра, што і гэткую каморку ўдалося знайсці. Як-ніяк, а святла багата, прасторная.

— А чаго ж ад старога дома хацець!

— Зразумела... Бачыш, дамаўласнікі не адстаюць ад іншых гандляроў. Даражэе мяса, дровы, крамніна — чаму ж адставаць кватэрам... Ды горад перапоўнены да адказу...

Рыгор адсунуў стол назад, а ложак пацягнуў крыху да акна.

— Ды ці не ўсё роўна, як што будзе стаяць! Адзін корх бліжэй да акна ці далей...

Ліба ўголас засмяялася.

— Які ты цудны, Рыгор!.. Сядай ды раскажы мне, што новае... Мы ж з табою так мала бачымся...

— Няма часу, Ліба!

Ён прысеў і ценька датуліўся галавою Лібіных грудзей. Тая выпусціла з рук нячытаную газету і абвіла яго шыю тонкаю белаю рукою. Пальцы рукі краталі яго губ, якія адказвалі прагным варушэннем.

— Ты паглядзі, адно, Рыгор, як хутка праняслося каля двух месяцаў з таго часу, калі мы пачалі наша супольнае жыццё! Я не паспела агледзецца, а тым часам...

— Кажы, я слухаю...

— Прызнайся мне, ты думаў, што ўсё так проста ды так незаўважна перапляцецца адно з другім, і мы станем...

— Чым?

Лібіна рука крыху падалася наперад, гэтак, што далонь прыйшлася на Рыгоравы вусны, якія знайшлі пад ёю ўтульнае месца...

— Табе не хочацца слухаць, Рыгор?

— Кажы, кажы, Ліба...

Рыгор вызваліў руку і перацяў ёю Лібіну стройную паясніцу.

— Каб я думаў ці чакаў, магчыма, усё б яно іначай пайшло...

— Іначай?.. Выходзіць, што ўсяму прычына ёсць адзін цёмны выпадак?

— Выпадак, але той, якім кіруецца наша жыццё... Калі ён быў цёмны, то я асвяціў яго сваёю свядомасцю... Якія, аднак, вы, жанкі, чулыя!..

— Ты глядзіш на мяне выключна як на жанчыну? І не саромеешся казаць гэтага?

— Адкуль ты бярэш усё гэта, Ліба? Было б так, я абмежаваўся адною-дзвюма стрэчамі з табою... Я не

раскідаю свайго пачуцця на вецер і не таргую словамі, як лыкам... Да цябе я прыйшоў праз доўгія, спакусныя іспыты... Ды што казаць...

І Рыгор адчуў раптам Лібін пацалунак. Ён быў ціхі, але шчыры і зацяглы, з сілаю, якая на нейкі час перацяла іх глыбокія ўздыхі і заваражыла прасторны пакой салодкаю маўчанкаю.

— Мы яшчэ шчаслівыя з табою, Рыгор! А ёсць людзі — і колькі гэткіх людзей! — што гадамі не бачылі сваіх жанок, дзяцей... Ды, можа, не ўбачаць!..

— Трэба напружней змагацца... Нехта стукае?

Мінутная іх настарожлівасць перарвалася паўторным стукам.

— Адчыні, Рыгор!

— Прашу заходзіць! — гукнуў ён, зрабіўшы пару крокаў да дзвярэй.— Засвяці агонь, Ліба!

Яна не паспела абмацаць лямпу, як у пакой увайшоў чалавек, якога ў вячэрнім змроку нельга было адразу распазнаць.

— Нарэшце адшукаў!.. Добры вечар у хату! Ну і забраліся ж!

У голасе ўвайшоўшага гучала нешта знаёмае, але не па голасе Рыгор распазнаў Петруся. Засветленая Лібай лямпа выявіла Петрусёў твар, на якім бегала вясёлая ўхмылка.

— Сапраўды, што нарэшце! А пісаў жа, што будзеш у Мінску многа раней... Маю гонар пазнаёміць з маёю жонкаю...

— З жонкаю?! Так-такі і жонкаю?!

Пятрусь прывітаўся з Лібаю і агледзеў пакой.

— Скідайце паліто,— запрапанавала Ліба.— Я пастараюся... гарбаты...

Яна пачакала, пакуль Пятрусь распрануўся, пасля выбегла з пакоя.

— Так, жонка... законная... Адно другога ўзаконілі,— пасмяяўся Рыгор.

Ліба вярнулася з гарбатнікам.

— Я думаю, не лішнім будзе з марозу шклянка цёплае гарбаты,— абярнулася яна да Петруся.

— Згаджаюся, дзякую.

П'ючы гарбату, Пятрусь рэвізаваў узрокам абсталяванне пакоя і вясёлую спанраўную яму гаспадыню. Ён не чакаў, што прыяцель спаткае яго ў сямейных абставінах. Да гэтага не было жадных адзнак. Ды па

настроі Рыгора Пятрусь не мог дапусціць хуткае перамены ў яго жыцці. Між тым факт паказваў сваё. Пятрусь спачувальна глядзеў на таварышавы паводзіны, хоць прысутнасць пры Рыгору Лібы, відаць было па ўсім, мала ўплывала на Рыгораў нутраны свет.

Умовы, што з'яўляліся сведкамі новага жыцця, далёка не пасавалі да маладых асоб, якія сядзелі пры ім, мэрам бы сышоўшыся з прычыны яго наведаў.

Камод ды стол, канапка і ложак, пяць патрыманых крэсел мала разнастайнілі памяшканне для дваіх ад памяшкання для аднаго. Усяго і служыла гэта абсталяванне ў мэтах адноснага дапамінку Рыгору пра яго гаспадарскія абавязкі. А калі ды Ліба не дужа заўзята пільнавала гэтага, тады за камодам ды кушэткаю толькі і аставаліся сухія функцыі сцяснення гаспадара. О не, Пятрусь у гэтым паспеў шмат далей перагнаць Рыгора! Яму хапіла часу, каб абкруціцца досыць надзейна клопатамі «заўзятага сем'яніна». Што таму пасабляла — гадаць не трэ было доўга.

Пятрусь выразна бачыў прычыну гэтага і ў абставінах свайго жыцця, якое звязала яго нелегальнасцю, ва ўмовах непаседнае службы, каторая кідала ў раз'езды і, нарэшце, спадчына, вынесеная з астрога. Усё паказанае з невялікім дадаткам Петрусёвае ўступчывасці значна пасунулі яго ў бок сямейнае клапатніны.

Чамусьці ў прысутнасці Рыгора з Лібаю гэта вельмі выразна замуляла ў яго нутры.

Паведзеная гутарка на тэму бягучага жыцця не стрымала Петруся ад самапапроку. Ён даў месца ў сваім нутры для вострых упікаў за недагледжанае патуханне сваіх ранейшых настрояў. Але, побач з гэтым, гутарка з Рыгорам, ахапіўшы шырокае кола бягучых з'яў і будучых заданняў, дала яму набой для ўсхвалявання і аброк да аднаўлення ранейшай актыўнасці.

— Так,— завяраў Пятрусь перад адходам,— я пераеду ў Пецярбург. Мяне цягне туды не менш твайго... Толькі...

— Вось гэтае толькі і не дазваляе табе пакінуць Масквы.

— Дык парадзь мне, Рыгор, што рабіць...

— Якая ж тут рада... Чакай яшчэ нейкі час...

— Няўжо ім у галаве за мною сачыць? Вось быў жа я надоечы ў Пецярбурзе і праз пяць дзён — ніякага знаку сочкі...

— Завяраць, браце, цяжка...

— А так бы паехаў перш я, а следам выцягнуў бы і вас. У мяне там наклёўваецца некалькі добрых месц... Разумееш, за гэты час паспеў зарэкамендаваць сябе перад кіраўніцтвам установы, а частыя камандзіроўкі далі магчымасць знайсці добрае знаёмства... Вы паехалі б, Ліба Шлёмаўна?

— Яшчэ з якою б ахвотай! Як была ў Пецярбурзе — цягнула куды індзей... А пажыла ў Мінску — моцна хочацца назад у Пецярбург... Усё ж Мінск — правінцыя... Ехалі б вы хутчэй, Пятрусь... А то мне Рыгора не ўгаварыць.

— Што-а?

Рыгор зрабіў фальшыва-сур'ёзную міну і ўзрокам Мефістофеля паглядзеў на Лібу.

— Не згаджаецца...

— Ты не чакацьмеш, як я прыкажу складвацца,— пажартаваў Рыгор.

— Паду-у-мма-еш! Адкуль ты набраўся гэтае смеласці?..

— Ліба Шлёмаўна прэтэндуе на матрыярхат...

— Згодзімся, што да гэтага яшчэ далёка, але...

— Але не без дыктатарскіх ухілаў...

Яны весела засмяяліся.

Адбітак гэтага смеху Пятрусь вынес на сваім твары з Рыгоравага пакоя.

— Да спаткання ў Пецярбурзе,— пажадаў ён Лібе, якая правяла яго з кватэры.

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## I

Напружанасць вайсковых падзей, якімі справодзілася другая палова лета, змянілася асеннім зацішшам.

Было ясна кожнаму, што немцы сваім наступам на Расію імкнуліся забяспечыць базу для наступу на захадзе. Рэдкія сутычкі на паасобных участках даўжэразнага фронту не мянялі агульнага становішча. Мала хто дапушчаў, каб фронт да наступнае вясны пасунуўся за Баранавічы, Дзвінск, Пінск, Ілуксту. Гэта давала

магчымасць каму след крытычна праверыць пройдзеную навуку, улічыць недагледжаныя памылкі, унесці новыя карэктывы. Частку гэтых клопатаў узяла на сябе перапужаная нямецкімі поспехамі расійская ліберальная буржуазія. Разгубіўшы рэшткі патрыятычнага задзёру, яна павярнула нездаволенне ў бок нядаўняга прыяцеля — вайсковай ды буйнаарыстакратычнай камарыллі.

Аднак нядобрая воля прымушала радзімых патрыётаў станавіцца ў ваёўную позу супроць самаўладнай клікі. У іх паказной, фальшывай апазіцыйнасці хавалася вострая прага апанаваць становішчам.

Буржуазія хапілася за думку і за рады, каб перапыніць разбег падзей, агаловіць іх і надалей разліваць рабоча-сялянскую кроў на алтар «вольнае краіны».

З гэткімі палажэннямі, што выпускалі іх вусны Мілюковых ды Какошкіных на вядомым кадэцкім банкеце, памыкалася буржуазія заняць месца плутакратыі. Але жахі «вызваліцельнай» вайны нікольні не гублялі свайго гібельнага скутку. Яны самі па сабе, у баку ад волі яўных ды скрытых прыхільнікаў вайны, рабілі сваю працу разгойдвання спакою ды пакоры мільённых салдацкіх, рабочых і сялянскіх гушчаў.

Кадэцкія завярэнні не затрымлівалі ў акопе салдата і не давалі яму натхнення для далейшага крываліцця. Занядбаўшы суд і кару, ён кідаў фронт і накіроўваў дадому, у тыл, далей ад непатрэбных жахаў на перадавых пазіцыях. У тылу было падгатавана яму спачуванне.

Мянушка «дызерцір» не ўздымала ружы сораму на змучаных, пажаўцелых тварах тых, хто двухгадоваю пакутаю зразумеў сутнасць і мэты вайны. Тылавыя героі з земгусараў, шыбераў і прадажных пісак паходзілі на дзяцей, што пускаюць мыльныя бульбалкі. Пушчаныя ў пачатку вайны, на трэці год яе, гэтыя патрыятычныя гульні згубілі манлівы свой эфект. Гэта адчувалася на кожным кроку, у кожным кутку неабсяжнае краіны, у паветры, што яе аблягала.

Дзевяцьсот шаснаццаты год прыходзіў у свет пад знакам крутой змены агульных поглядаў ды адносін да вайны. Вайна ставіла супроць сябе драбнейшыя праявы народнага жыцця. Людскія гушчы прасякала пачуццё сухое аднакавасці да фронту, да стрэлаў гармат, да аэрапланаў і бліндажоў, да перафармаван-

няў войска і да вестак са штаба галоўнакамандуючага. Страхі вайны ў сваім расцяжэнні ў будучае зліваліся з буднямі, якія капілі ў сабе порах для расплаты за яе.

Працэс перараджэння людскоє псіхікі, змена ў настроях паасобных пластоў жыхарства выпуклялі новую эпоху на пасаду гістарычнасці. Апошняя рашуча спускалася на зямлю, надаючы астраты малейшым калыванням грамадскага жыцця. З усіх шчэлак дзьмула завабна-трапяткім павеем няяснага, а жаданага ды непрыменнага.

У Рыгоравай істоце калыхаліся хвалі раз'юшанага, уздымнага пачуцця. Гэта пачуццё не давала яму спакою. Нават Павал Памыйка не здавальняў Рыгора сухаватасцю сваіх вывадаў. Больш-менш улагоджваў яго, рэдка наведваючы, Сіман Галас, але тая работа, якую яны вялі ў Мінску, не давала Рыгору поўнага здаволення.

Седзячы ў Рыгора адным лютаўскім вечарам, Сіман казаў:

— На тваім месцы, браце, я ўжо даўно быў бы ў Пецярбурзе... Болей таго, я нават не даўся б так лёгка з яго выехаць... Чым цябе прыцягвае Мінск? Службаю ў управленні дарожных работ?

— Тым болей не становішчам ды заробаткам, якія ён дае... Ха-ха-ха! Сіман! Мяне Мінск прыцягвае тым самым, што і цябе. З тым жа поспехам ты можаш яго замяніць на Адэсу, Маскву ці другі горад, як я на Пецярбург... Але гэта не на заўсёды — гэта выключна на даны час... Зараз Мінск — не Мінск, а вайсковы лагер. Ну, а нашая партыйная праца хутка, ты сам разумееш, не можа мяне задаволіць.

— Маеш рацыю... Ты пасудзі сам — Мінск нічым не адгукнуўся на гадавіну 9 студзеня, а Пецярбург... Там баставала звыш пяцідзесяці тысяч рабочых... Ты чуў гэта? Надоечы прыехаў адтуль адзін рабочы і казаў мне... Гэтак што Пецярбург...

Паведамленне Сімана пра студзеньскія забастоўкі ў Пецярбурзе аднавілі ў Рыгора радаснае пачуццё. Ён уверанай хадою прайшоўся па пакоі і пацёр ад здавальнення рукі.

— Ты калі атрымаў гэтыя весткі?

— Учора вечарам.

Пытальны ўзрок Рыгора спыніўся на Лібе:

— Чула навіны?

— Я табе не раз казала, што цябе...

— Ты толькі, Ліба, не нервуй... Хочаш выехаць — выедзем... Але ж ты павінна памятаць, што гэта не так лёгка... І ты і я — абое мы звязаны службаю, а ў адносінах да мяне маюцца і іншыя прычыны... Няўжо ты думаеш, я знарок цябе марыную тут... Альбо шкадую пакідаць сваіх маёнткаў...

Лібіна рука, крануўшы Рыгоравай шчакі, выявіла жончыну ласку да мужа і гэтым згладзіла паўстаўшую шурпатасць у іх адносінах.

— Разумею цябе, Рыгор. Калі я кажу так, то зусім не маю ў воку сённяшні або заўтрашні дні... Мяне... ды ці ты ж не ведаеш... забівае мая служба...

— А хто цябе прымушае служыць?

Сіман быў радцаю і супакоіў абаіх.

— Не палічэце мяне падбухторшчыкам...

Гэтага, зразумела, ні Рыгор, ні Ліба не думалі.

Сіман лічыўся іх ганаровым госцем. Яго гутарка папаўняла іхнія разважанні, яго рада была таварыскім пажаданнем. Хто ў гэтым сумняваўся?

Сіман таксама з'яўляўся і чулым перадатчыкам таго, што дыктавала і Рыгору і Лібе іх нездаволенасць мінскаю правінцыяльнасцю. Гэта нездаволенасць дзень ада дня абвастралася. Смуткам іх была наступная споведзь Рыгора перад таварышам.

— Нам не трэба станавіць жадных мэт у прыватным жыцці, калі яны не звязаны з жыццём агульным... Мне смешна глядзець, як людзі тужацца з усіх жыл, каб зберагчы лішнюю капейку... Агідна, ведаеш, Сіман, слухаць гутаркі пра ўзнагароды, павышэнні, пра дробненькую цікавасць набыць пляцок, хату... Да чаго ўсё гэта? Ласне можна гэтым адмежавацца ад усяго свету? Або ўхілам ад агульных падзей зберажэш сваю недатыкальнасць? Дарма ўсё гэта — мурашчына палітыка... Я ў баку ад усяго гэтага, а што іншае мяне можа трымаць на адным месцы?

— Які лад, гэткія яго і праявы...

— Гадкі лад.

— Згаджаюся з табою...

— Але не меней гадка, калі не шукаеш, дзе яго канец.

— Вось асноўнае... Усё ж, браце, жыццё не стаіць на адным месцы... Памятай тое...

— Што б тады было, каб ды яно спынілася...

Іх філасофскія разважанні пагражалі зайсці далёка ў ноч, але, трапіўшы на іх, Памыйка павярнуў іх гутарку ў другі бок.

Засопшыся, Павал адначасна з тым, як падняў цераз парог левую нагу, праказаў:

— Я прынёс табе, Рыгор, сумную навіну... цяжкую...

Прысутнасць Сімана, якога ён адразу не пазнаў, не дала яму закончыць сказа.

Ліба пераняла Памыйкаву збянтэжанасць.

— Сіман Галас —ці ж вы не пазналі?

Памыйка раптам знайшоўся:

— Выходзіць, што я вам прынёс сумную навіну, а ў вас застаў вясёлую... Здароў, Сіман! — працягнуў ён яму руку.

За гэтым сказам Паўла чулася выразная трывога, якое не скрашала Сіманава рэзвасць.

— Вашаму благароддзю!.. Адкуль гэта павеяла, што ты трапіў сюды?

— Выпадкова... Ну, а ты якім чынам апынуўся тут?

— Сярод чыноўнікаў?

— Хоць бы і так... Кажы!

— Перш выкладай свае навіны...

— Так, кажэце, Павал, тое, што меліся.

Памыйка раптам пасур'ёзнеў і зусім інакшым тонам праказаў:

— Мае навіны зусім нецікавыя.

— Гэта чаму?.. Кажэце, ну...

— Казаць?.. Так, не схаваешся... Памятаеш, Рыгор, старшага тэхніка Бросню?

Рыгор настаражыўся:

— А што?

— Дык вось, брат, гэты прахвост застрэліў Рудольфа Шульца... Сярод белага дня, ведаеш, пры людзях... Перш штурхануў яго за нешта, а калі той замахнуўся на яго кулаком, Бросня р-раз-з і... бывай здароў...

— Рудольф?! Бросня?!

Збялеўшы, як мел, Рыгораў твар выказваў яго сібернае абурэнне, перамешанае з востраю трывогаю.

— Адкуль ты праведаў гэта?! Ці праўда таму?..

Яго напружаны ўзрок разліваў агонь кіпучае злосці.

— Толькі вось атрымаў ліст ад Провава... Не па-

спеў, ведаеш, зайсці ў пакой, як мне яго падалі... Прачытаў... і на табе... Выпіў шклянку кавы і да цябе...

— Рудольф Шульц!! Братка ты мой!

І Сіман, і Ліба аслупянела глядзелі Паўлу ў вочы.

Рыгор пусціўся тупаць па пакоі.

Яго важкія, цвёрдыя крокі гучалі па ўсёй кватэры.

— Бедны Рудольф!!

— Які слаўны таварыш!

— Гэткі харошы чалавек!

За гэтымі словамі запанавала важкая цішыня, у якой чуўся выразны працэс кандэнсацыі вострае злосці да забойцы.

У згустках гэтае злосці фармавалася суровае адамшчэнне.

Яго напорнасць падняла Рыгораву руку ўгару і затрасла выпрастаным пальцам перад цёмным акном.

## II

Вестка пра забойства Рудольфа Шульца хутка падмацавалася пісьмом Сёмкі. Сёмка падрабязна апісваў Рыгору кароткую, але жудасную гісторыю Броснеvae расправы з Рудольфам.

«Яна зрабіла цяжкае ўражанне не толькі на рабочых, а і на ўсіх дваровых, на местачковае жыхарства», пісаў Сёмка. «Але забойца, на жаль, не атрымаў належнае аплаты за свой крывавы ўчынак. Абкружаны развлаванымі рабочымі, ён паспеў вырвацца з іх рук і ўцячы пад ахову сунічанскай паліцыі. Праўда, Провал дамагаўся таго, каб станавы Бросню арыштаваў і адправіў у Мінск. Ці зрабіў гэта станавы — невядома, усё ж Бросні зараз у нас няма... Рудольфа ж Шульца, трэба сказаць, пахавалі на старых местачковых кальвініскіх могілках. Натоўп людзей з двара і з мястэчка, які праводзіў забітага на могілкі, яскрава засведчыў сваю павагу да яго і востры пратэст супроць учынку драпежніка-тэхніка. Уміраючы, Рудольф некалькі раз успамінаў цябе».

Сёмкаў ліст быў канчатковым пасведчаннем пра сапраўднасць Памыйкавага паведамлення. Ніякіх суцешных вестак чакаць пасля гэтага нельга было.

Рудольфаў вобраз некалькі дзён засаб трымаў на сябе Рыгораву ўвагу. Яго не кранула гэтак моцна ні

смерць Гэлі, ні смерць мацеры... Рудольфава смерць мэрам бы вабрала ў сябе ўсе жахі перажытых Рыгорам трагедый і вызверылася на яго сваёю жудаснаю сапраўднасцю. Гэта сапраўднасць, зразумела, была не абмежавана часам ды не акрэслена месцам, але Рыгор хапіўся і за выпадак з Рудольфам, каб далучыць яго да тых прычын, якія штурхалі яго да выезду з Мінска. Пад націскам гэтых прычын усё слабейшымі ды слабейшымі рабіліся супярэчныя ім фактары. Важнейшы з іх, пра якія Рыгор часта дапамінаў Лібе,— гэта пагроза падпасці ў Пецярбурзе выкрыццю і арышту,— губіў таксама сваю вострасць.

Рыгор самаўверана глядзеў у наступнае, застаючыся наўздзіў нячулым да небяспекі. Усвойная яму, як кожнаму чалавеку, некаторая асцярожлівасць адпала, як прыгаркі ад пасудзіны. Ён не пытаў сябе, чаму гэта так сталася з ім, але быў упэўнены, што зараз з гэтым не годзіцца яго людская вартасць. Гэта адкідала вострасць клапатлівасці і пра сямейнае жыццё. Рыгор вызначыў яму маленькі ўтульны куток у сваім нутры, без якога, наогул, нельга абысціся жывой істоце, і тым здавольваўся.

Гэта незаўважная клапатлівасць упіралася галоўным чынам у Лібу.

За кароткі час сумеснага жыцця яна паспела з ім зблізіцца, сысціся, як Рыгор таго не чакаў. Ранейшыя ўспыхі пачуцця, падобныя да выбуху маланкі, разгарэліся цягучым, незгасаючым полымем. Было б цяжкай аперацыяй, каб хто падумаў разлучыць іх.

Сам Рыгор баяўся думкі пра гэта, як не баяўся іншага нічога ў сваім прыватным жыцці. Ліба знаходзіла словы, ласку, міну і ўзрок, якімі суцяшала яго ў хвіліны выпадковай жальбы... Яна дубальтавала яго надзеі, гартавала жаданні, дзень ада дня вытоптвала пабочную сцяжынку ў сумесных намерах.

І цікава — Ліба дамагалася ехаць, а разам з тым яна болей усяго трымала яго ў Мінску.

Толькі з-за Лібы Рыгор не пакідаў думкі папрасіць Стукалку, ці не дапаможа ён, хоць праз начальніка ўпраўлення, перавесці яго ў адпаведную мілітарызаваную ўстанову ў Пецярбурзе.

Дзевятага сакавіка Рыгор увайшоў у канцылярыю ўпраўлення з намерам адразу падысці да Прахора Хведаравіча і выказаць яму сваю просьбу.

Стукалка якраз быў заняты. Каля яго стаяла некалькі асоб, з якімі ён заўзята гартаў свежаатрыманыя газеты.

Рыгор не хацеў пры іншых гаварыць з ім пра свае інтарэсы. Ён прысеў за свой стол і ўзяўся лістаць вынятыя з шуфляды справы. І толькі яго ўвага зацягнулася ў змест першага адносніка, як яго паклікалі. Рыгор падняў голаў і ўгледзеў, што яго заве Стукалка.

Калі ён апынуўся каля ўпраўляючага справамі, акаляўшыя таго асобы, сярод якіх апынуўся і кіраўнік работ, Яўген Віктаравіч Провaў, паказалі Рыгору змешчаную ў газетах справаздачу пра скандальнае пасяджэнне Думы.

— Чытайце, Рыгор Міхасевіч, і кажэце сваю думку,— запрапанаваў Стукалка.

Усе настаражыліся і прыціхлі, сочачы за Рыгорам, які прабягаў вачыма свежы друк ранішняе «Біржоўкі». Калі ж ён з успыхнутай вясёласцю адвярнуўся ад газеты, яго сустрэла злітнае, ва ўпор праказанае:

— Нну-у?!

Чаканне Рыгоравага водгуку на думскія падзеі незварухна-заварожана трымала заінтрыгаваных чыноўнікаў.

— До-о-бра! — каротка ды ўверана адказаў Рыгор.

— Так, пара,— паўшэптам дадаў Стукалка.

— Зазналіся, падляцы! — пaглядзеўшы на інжынера, няўверана праказаў незнаёмы Рыгору чалавек.

— Гэта, разумееце, гавораць не члены Думы, фактычныя сябры падляцоў; гэта іх вуснамі гаворыць жах перад уздымам рабочае помсты,— з тым жа задзёрам уверыў сагутарнікаў Рыгор.

Яго сказ прымусіў Стукалку з іранічнай ухмылкай пераглянуцца з Провавым. Апошні, відаць, заінтрыгаваўся гутаркаю, але не звярнуў належнае ўвагі на сэнс Рыгоравага сказа.

— Гэтага мала! — стукнуў ён кулаком па стале, заставіўшы Стукалку і двух другіх палахліва пацiснуць плячыма, а канцылярыстаў — праверыць вачыма.— Справу трэба выносіць на вуліцу! Не зважаюць грамадскае думкі, няхай адчуваюць грамадскага кулака. Досыць гандляваць Расіяй ды глуміцца з яе народу. Грамадскасць здолее вярней давесці вайну да перамогі, чымсь Сухамлінавы з царскасельскай прадажнай клікай...

Але Рыгор перабіў яго; увайшоўшы ў азарт, ён перастаў лічыцца з акольнымі абставінамі. І калі сполах нагнаў раптоўную цішыню, ён уголас праказаў:

— Так, вайна кончыцца на вуліцах сталіцы. Але яе кончаць не палахлівыя крыкуны з Таўрыцкіх палацаў, а рабочыя грамады ўжо разварушаных класавым гневам фабрык і заводаў...

Толькі тады ён скеміў, якую ўзяў на сябе рызыку, калі Стукалкава рука нервова тузанула яго за крысо.

Абарваўшы сказ, Рыгор заўважыў лёгкае хваляванне службоўцаў, якія то закашлівалі, то застуквалі крэсламі начальніцкую збянтэжанасць.

— Няхай вас зусім... які вы неасцярожлівы! — папракнуў Рыгора Стукалка.

Рыгор уголас засмяяўся.

Двое чыноўнікаў паспяшылі схавацца ў адчыненую фортку дзвярэй кабінета начальніка ўпраўлення работамі. Стукалка прыказна матнуў перад Рыгорам міжвольна складзеным кулаком, а кіраўнік работ атрада затуліўся газетаю.

— Хаця б не пачуў ніхто,— паглядзеўшы з-пад ілба на пайшоўшых, западозрыў Стукалка.

— Прахор Хведаравіч перапалохаўся,— бадзёрыўся Проваў, выглядваючы з-пад газеты.

І ён паўшэптам павёў апавяданне Рыгору пра забойства Броснем Рудольфа Шульца. Проваў знайшоў патрэбным пахваліцца Рыгору сваім спачуваннем забітаму ды варожасцю да забойцы.

— ...Каб гэта захапіў на гарачым учынку — не бяруся за сябе... Ну ж вам ведама, Рыгор Міхасевіч, што цяпер немец палонны спагады не знойдзе... Станавы, прахвост, ухмыляўся, калі я стукаў кулаком, патрабуючы заслужанай кары разбойніку... Ды што ж ты зробіш... Даў выгляд, што паварочвае справу да сур'ёзнага, а далей... ці ж можна ручыць, што Бросня не гуляе зараз яшчэ з падзякаю за стараннасць?.. Падляцы...

Проваў кулак нечакана для яго самога прайшоў шрацінавым стукам перад носам Стукалкі. Той нервова адарваўся ад чытанага рапарта і працягнуў трасучую руку ў бок Яўгена Віктаравіча.

— Супакойся, Хведаравіч! Зямля стаіць нерухомай.

Абодва засмяяліся.

— А я скажу праўду — шкадую Рудольфа. Хоць немец і мо сам нёс крыху віны за пачатак вайны,

усё ж у ім таілася знянавісць да яе... І розумам — некалькі раз спрабаваў гутарыць з ім — Кант... Вострая, як нож, думка, багатыя, дзіўныя планы... Самому ж Бросні, гаду, не раз даваў практычныя рады... Ну ж той, плюгавец, здатнейшы выявіўся да пярэймы чарнасотніцкага цкавання, ніж да патрэбных яго тупаватай галаве ведаў. Вечны пакой дарэмнай ахвяры... Няхай яна будзе залічана ў скарбніцу агульнае адплаты...

— Вас просяць у кабінет...— перабіў Провава нячутна падышоўшы да іх стройны малады чалавек.

Яўген Віктаравіч юрка ўсхапіўся з месца, паправіў мундзірчык, кашлянуў і, нічога не сказаўшы ні Стукалку, ні Рыгору, пайшоў да дзвярэй у кабінет начальніка ўпраўлення работамі.

Рыгор пачакаў, пакуль Стукалка перагледзіць паперу, і, папрасіўшы прабачэння, пераказаў яму сваю просьбу. Стукалка, напэўна, не знайшоў яе ні нечаканай, ні нязбыўнай, бо зусім спакойна выслухаў Рыгора і яшчэ спакайней паабяцаў:

— Гэта, бадай, можна будзе ўладзіць ды не дрэнна для вас.

— Ідзе! — уверыў ён Рыгора, калі той падзякаваў за абяцанку.

У Рыгора не было падстаў не паверыць свайму бліжэйшаму прынцыпалу, як чалавеку ў гэтым чэснаму, і ён адышоў ад свайго стала з завіхрыўшымі ў галаве планамі. Выйсце са становішча наглядалася як найлепшае, абы толькі наперадзе што-кольвечы старонняе не сарвала добрых намераў Стукалкі.

Прынамсі, у даны момант нішто не намякала на гэта...

Непрагледжаныя паперы з вынятай справы папоўніліся новымі. Яны ўбіралі Рыгораў стол засуцэленым белым абрусам.

Калі ён сеў за ім, то з двух канцоў пацягнуліся да папяровага абруса папэцканыя сіняю фарбаю рэгістраторшыны рукі...

## III

— Рыгор Міхасевіч?

Асцярожлівы і ў той жа час уверany жаночы голас адцягнуў Рыгора ад папер.

Ён паглядзеў перад сабою і замёр у здзіўленні...

Пры стале стаяла Наталя.

— Наталя?!

Поўны, прыстараны твар, лёгкае рабаценне каля носа і на носе, спакойліва-анемічны ўзрок і таго ж настрою ўстаноўка нараджалі сумненне.

— Няўжо Наталя?!

Рыгор хутчэй падаў ёй крэсла і яшчэ раз упэўніўся:

— Наталя?!

Далёка не ранейшая ўхмылка, як выплаўленая з агню, манлівая і прыцяглая, зараз спакойная і ціхая, засведчыла Рыгораву здагадку.

— Папрашу садзіцца... А я ўжо думаў...

Трэба было папракаць сябе за тую хвілёвую разгубленасць, якая выразна адбівалася на няскладнасці гутаркі.

Наталя пераняла Рыгораву думку нечаканаю трапнасцю:

— Ты ж мог мой адрас мець?

— Не толькі мог, але і хацеў...

— І што ж таму перашкодзіла?

— Магчыма, што тое, чаму і ты...

— Добра... Не будзем чапаць мінулага. Кажы, як жывеш?

— Іначай, ніж тады, калі мы рассталіся.

— Трэба верыць...

Кароткая паўза дала Наталі магчымасць запытаць Рыгора:

— Жаніўся?

— Не таюся... Запрашаю да сябе...

Рыгор адарваў кавалачак чыстае паперы і хутка падаў яго Наталі.

— Мой адрас. Не прыйдзеш — жонка мяне заклюе. Я ёй многа гаварыў пра цябе.

— Нават да таго прыйшло? Дазволь табе не паверыць... Ну, што ж... Жыццё, разумееш, плыве, дарогі крыжуюцца...

— Крыжуюцца, а больш блытаюцца... Ці даўно таптал нагамі прыбраныя вуліцы Рыгі, а гэта... Сапраўды ты замужам?

Яго ўпераны ўзрок на Наталю прыліп да яе пахарашэўшага ў апошнюю хвіліну твару. Калі ён апаў на стол, то якраз трапіў на выпаўшую з адчыненага рыдыкюля рудую фатаграфію, дзе задком уверх ляжала рэзвае малое.

— Дазволь павіншаваць! Ты ўсё ж спрытнейшая ад мяне.

Перад Рыгоравым носам мігнуўся Наталін рыдыкюль.

— Ты нізвання не змяніўся, Рыгор.

Наталя суцешна паглядала на яго праз стол і задаволена ўхмылялася.

— А ўмовы вымагалі многага,— адказаў Рыгор.

— Чаму?

— Як табе сказаць! Давялося шмат чаго перажыць... Матку страціў. Шэраг блізкіх людзей... у тым ліку... цябе...

— Смяешся?..

— З чаго б смяяўся, але не з гэтага.

Сур'ёзная міна пакрыла Наталін твар. Стромкі ўзрок яе адарваўся ад Рыгора і прабег праз канцылярыю, як сонечны зайчык.

— А я не сказала б, каб ты быў у мяне згубленым...

Апошняе слова замерла ў ціхім шэпце. Але Рыгор яго пачуў, і яго нутро адгукнулася едкім уколам яскравых успамінаў.

Каб не збіцца на сантыменты, ён пераменіў гутарку, праказаўшы да Наталі:

— Абяцаеш быць у нас вечарам?

— Білет страчу.

— Можна адтэрмінаваць... Хочаш, я сам гэта зраблю.

— Навошта, часу ў мяне хапае... Ага!..

Наталя спрытна зазірнула ў рыдыкюль і дастала з яго ліст:

— Выбачай, Рыгор. Гэта ён мяне прывёў сюды. На!

— Гэты ліст — ён?!

Яго ўзрок прабег па шэрым квадраціку паперы.

«Ад каго б?»

— Мяне вельмі прасілі перадаць табе яго, і я мусіла...

— Я не магу дагадацца, хто мне яго перасылае... Адну хвіліну...

Рыгор дастаў з канверта ліст і ёмка перавярнуў яго на апошнюю старонку.

— Дзе ты з ім стрэлася?

— Зусім выпадкова, у адной рабочай сям'і. Ён мне дужа спадабаўся. Не была знаёма, а ўвечар сышліся, мэрам бы гадамі ведаю яго. І чаму ж было адказаць

яго просьбе!.. Скардзіўся, што некалькі лістоў напісаў, а ты маўчыш...

— ?!

— Так, так, Анікей Кузін не схлусіць. Я яму веру...

— Павер, што не атрымаў аніводнага ліста...

— А каб першым напісаў яму, страціў бы гонар, думаеш?

— У нашых з ім адносінах няма гэтага разумення...

— Выбачайце!..

Стукалка адважыў далікатны ўклон у бок Наталі. Тая адвярнулася на канцылярыю, каб не перашкодзіць.

— Я думаю, Рыгор Міхасевіч, можна будзе гэта аформіць у выглядзе камандзіроўкі. Вы прабудзеце там месяц і, думаю, што за гэты час або самі падшукаеце, або я выдумаю што... Гэта тады, калі вам патрэбна хутчэй. А калі б вы пачакалі, тады...

— Дзякую, Прахор Хведаравіч. Дазвольце ўжо водлуг абставін выкарыстаць вашу ласку...

— Што-а вы-і, што-а-а вы-ы! Не за службу, а за дружбу... думайце, а калі ласка...

Стукалка тым жа ціхім і роўным крокам, якім падышоў да Рыгора, вярнуўся да свайго стала.

— Міруся, Наталя, варочацца ў Пецярбург... Няма, ведаеш, мне тут разгарнення. Мінск — гэта вайсковы лагер, прасякнуты жахамі вайны. Генеральскі абсац прыдушыў у ім усё жывое... Апроч звону шпор ды стуку конскіх капытоў — нічога...

— Так, спачуваю тваёй думцы... Анікей нават прасіў мяне, каб я цябе ўгаварыла пераехаць. Там ты патрэбны зараз. Разгортваецца вялікая справа... Заводы заварушыліся... Заблішчалі чырвоныя зарніцы... Пуціláўскі перажыў ужо дзве забастоўкі. Трэба ехаць... І я паеду... Бывай!

— А да мяне?

— Не магу, Рыгор!

— Крыўдзіш, Наталя!

— Мы абое пакрыўджаны.

— Я не хачу верыць, каб ты была здатна да капрызаў.

— Не гэта... Бывай!

Рыгор падышоў да Наталі і ўзяў яе за руку. Накіраваны ў яе твар Рыгораў узрок апальваў яе вочы —

яны панікалі. Тая раўнавага Наталі, з якою яна прыйшла да Рыгора, змянілася балючай нервовасцю.

— Я спазнюся на цягнік.

Наталя павярнула да дзвярэй. Рыгор апранаў шынель, калі яна стукнула дзвярыма.

— Я цябе, Наталя, не разумею, аднак,— з лёгкім упікам праказаў ён, нагнаўшы Наталю на вуліцы.

— Паверыш, не магу заставацца на заўтра. Мне абавязкова трэба заўтра да вечара быць у Харкаве.

— Я адчуваю, нібы са мною гаворыць другая Наталя...

— Магчыма... Але і Рыгор таксама мала падобны да таго, якога я ведала...

— Ты мыляешся...

— Магчыма... Ну, і ты няверна судзіш...

Праз адрыўныя, сухаватыя праказы іх гутарка паступова сышла да нічым нявытлумачаных спрэчак.

Каля вакзала, куды Рыгор правёў Наталю, у яе не хапіла цярпення і на гэта. Яна маўчала, ні моргам вока не рэагуючы на рэдкія, зноў павернутыя на таварыскі цёплы тон Рыгоравы сказы.

Рыгору заставалася зволіць Наталю ад свае надазойлівасці, і ён працёг ёй сваю руку, папярэдне прылажыўшы да казырка.

Наталя нехаця развіталася з ім і ўскорыла хаду па ўступах усходаў.

— Напішы з Харкава, чакацьму! — гукнуў Рыгор і, не дачакаўшыся адказу, павярнуў назад.

Адышоўшыся на некалькі сажняў, яму заруліла яшчэ раз аглядзецца на вакзал.

Наталя стаяла на ўсходах і глядзела ўслед яму. Рыгор памахаў ёй шапкай і пайшоў ужо не на службу, а ў сталовую.

Паводзіны Наталі пакінулі ў яго нутры непрыемны адбітак. Мэрам бы нешта запала ў сэрца і не было жаднае рады яго адтуль выціснуць. Брала здзіўленне — што сталася з чалавекам, якога ён добра ведаў з іншага зусім боку. Няўжо ў Наталі над таварыскім пачуццём узялі верх пачуцці жаночыя. Ці яны ў той жа меры, у якой зараз выявіліся Рыгору, валодалі ёю і раней, але былі ўдала замаскіраваны паказной рэвалюцыйнасцю? А мо падобная змена істотна для кожнай жанчыны, тады?..

— Вы ўжо заказалі?

Перад Рыгорам стаяла Сіманава жонка. Рыгор прыўстаў і прывітаўся з ёю. Прывітаўся і заўважыў Злацін сумны настрой.

— Прынясеце па сваім выбары.

— Давяраеце?

Натужная ўхмылка не пасавала да невыразнага ўзроку вачэй.

Рыгор паглядзеў услед, калі Злата пайшла да кухні, і пачаў чытаць ліст ад Анікея. За чытаннем ён не заўважыў, як Злата апынулася зноў каля яго.

— Ешце, каб не астыла.

— Дзякую... Што чуваць? Нешта Сімана сягоння не відаць...

Злата недаверна агледзелася па харчоўні і цішком паведаміла:

— Сіман учора арыштаваны.

— Што вы кажаце?!

— Са сходкі ўзялі,— яшчэ таемней выказала Злата.

Праз нейкі час, падаўшы Рыгору другое, яна пужліва паскардзілася.

— Было добра, а цяпер стала яшчэ лепш...

Рыгор нехаця даеў абед. Вестка пра Сімана адняла апетыт. Ды не толькі гэта. Злата перабіла яго бадзёры настрой, які пачаў складацца пры чытанні Анікеевага ліста.

— Яшчэ не лепш! — падаў ён.

Злата не чула яго слоў: яна ўжо стаяла каля другога наведвача, які бессаромна рабіў ёй вымову за нядбайнасць да яго.

— Няйначай, як хто знарок рашыў вымучыць маё нутро дарэшты...

Недачытаны ліст Рыгор вярнуў у кішэню і спешнай хадою выйшаў з харчоўні.

## IV

Шолам і сумятня Захараўскае адцягнулі Рыгоравы думкі на сябе. Гарадское жыццё цякло сваім парадкам, чужое настрою паасобных адзінак.

Аднак яно цікавіла Рыгора. Кожны дзень уносіў нешта сваё, новае, а часта і нечаканае. Сённяшні дзень асабліва выдаваўся з гэтага боку.

Здарэнні, што адыграліся ў дзяржаўнай Думе, раз-

варушвалі затоеныя ў грамадзе думкі і настроі. Праглівыя ўзрокі павярнуліся на гэту куртатую, шэрую і малапрыметную ўстанову. Націск разняволеных ад часовага зацішша рабочых гушчаў дакочваўся да сцен Таўрыцкіх палацаў. Не рэагаваць на гэта маглі выключна тыя, хто не ўлічаў небяспекі стаць ахвяраю свае смяротнае паніклае сці.

Уздым рэвалюцыйных настрояў разіў больш чулых і далёкаглядных, хоць яны па сутнасці складалі бадай адно суцэльнае ў складзе наўздзіў своеасаблівых «народных прадстаўнікоў».

Адбітак гэтых вестак Рыгор выглядаў на тварах соцень людзей.

Ранішняя гутарка ў канцылярыі ўпраўлення служыла ўзорам гэтаму. Што азначае захапленне апазіцыйнымі думкамі гэткіх людзей, як, прыкладам, Стукалка?

«Калі ўжо дайшло да падобных з'яў — не збыцца марам радзімных патрыётаў. Яны жорстка пралічыліся на вайне. Не пасобяць ім ні перамогі хаўруснікаў, ні гэтак жданае выступленне Амерыкі. Працоўныя гушчы ўсё болей ды яскравей выглядаюць у вайне няшчасце.

Пара!..»

Гутарка з Наталяю адышла ў затулыя куткі Рыгоравага нутра. Прытупілася нядаўняе ўражанне і ад Сіманавага арышту...

Наперад выпіралі пытанні, што іх кранаў Анікееў ліст.

Рыгор адчуваў сябе, як той, хто ўсплываў на чаўне на самы хіб успененых хваль. Гэтыя хвалі бурлівымі, пеністымі сувоямі ўпарта каціліся напрамкам да расхалыханае сталіцы.

Мінаючы струмень пешаходаў, дзесяткі рамізнікаў, што накіроўвалі Захараўскую ў бок вакзала, ён не мог адарваць узроку, не правёўшы кожнага з іх...

На кватэру Рыгор прыйшоў з акрэсленым рашэннем пакінуць Мінск як можна хутчэй.

Рыгор аглядаў набытую маёмасць, мяркуючы, як будзе з ёю рабіць. Нельга сказаць, каб стол ці шафа суцяшалі яго ўласніцкае пачуццё. Дзе там! Рыгор упікнуў сябе, чаму не здагадаўся іншым чынам, пазычкаю ці пракатам, абсталёўваць свой часовы пакой...

Нарэшце... або варта займаць гэтым сваю ўвагу?..

Яго думкі перанесліся на недачытаны Анікееў ліст.

Дык вунь яно што!..

Калі на яго з'яднаным фронтам наступалі жыццёвыя адмоўнасці, то і дадатныя прыгоды не засталіся ў завінаватасці.

Анікей настойна ўгаварваў Рыгора перабірацца ў Пецярбург. Ён абяцаў яму — з вакзала проста на працу. У завод, а калі толькі не падабаецца, «адвык ад чорнае працы», у кантору ці ў банк. Адно б не заставаўся ў Мінску...

— Ха-ха-ха! Адвык ад чорнае працы! Цудны, аднак, гэты Анікей!..

Вобраз таварыша мігнуў у праменнях спушчанага над дахам сонца...

Але яго змяніла Ліба:

— Ты ўжо дома?

Лібін настрой гарманаваў з вясновым днём, якім быў гэты, сённяшні.

Ён быў блізкім і Рыгору, і Ліба сама бачыла гэта.

— Хоць раз ды я перамагла! — пахвалілася яна, падбегшы да Рыгора і ўзяўшы яго за руку.

Чырвоны крыж на грудзях затуліў Рыгораў узрок.

— Я адчуваю, што ты прынесла добрыя навіны.

— Няўжо? Мой твар выдае гэта?

— А як па-твойму?

— Бадай што... Ды навошта мне хаваць ад цябе...

— Што?

— Тое, якое дае мне магчымасць перавясціся ў Пецярбург. Сёння ардзінатар нашага лазарэта запрапанаваў нам перабрацца да яго ў Пецярбург. Ён пераводзіцца туды на службу... І я дала згоду першай... Добра зрабіла?

— Першай? Добра.

— А мо табе не падабаецца?

— Што ты, Ліба, кінь... Я вельмі задаволены гэтым, бо і самому ёсць падобная прапазіцыя...

— Ад каго? Скажы!

Рыгор падаў Лібе Анікееў ліст.

Яна прагна накінулася на яго і прачытала ад слова да слова.

— Анікей Кузін? Гэта той, што ты мяне з ім каля завода пазнаёміў?

— Так... Добры таварыш... Каб і хацеў не любіць — нельга... І зацяты барацьбіт...

Ліба праверыла яго словы па характары ліста.

— Мне падабаецца, Рыгор, гэты твой таварыш...

— Толькі гэта і падабаецца?

— Кінь, Рыгор... Табе пара мяне выведаць, як мае быць. Ты любіш жартаваць, а мне здаецца...

Мужняя шчырая ласка папярэдзіла кабеціну гняўлівасць.

— Калі б ты мог прыгатавацца да ад'езду?..

Рыгор падумаў.

Яго ўзрок накіраваў да пачырванелага захаду, а думкі — у наступнае.

«Калі б ён мог прыгатавацца да ад'езду?»

Ужо гэта пытанне не ўпіралася амаль што ў жадныя перашкоды. Тым не меней ён не мог вызначыць тэрміну для падобнага кроку.

— Я не думаю, каб нам прыйшлося доўга збірацца,— адказаў Рыгор.

— Мне так хацелася быць у Пецярбурзе да Першага мая,— выказала свае пажаданні Ліба.

— Мне думаецца, што гэта магчыма...

Далей гутарка незаўважна для абаіх перайшла на іншыя тэмы.

Рыгор не забыў перадаць Лібе пра спатканне з Наталяю, пра гутарку ў упраўленні кіраўніцтва. На нейкі час ён яшчэ раз спыніўся на забойстве Рудольфа.

Усе закранутыя ім пытанні развязваліся пад кутом погляду блізкага перасялення ў Пецярбург.

Апошні выразна ўплываў пагодлівасцю на іх адносіны. Знайшлі сабе месца ў гэтай іх гутарцы і некаторыя сямейныя пытанні. І Рыгор і Ліба выявілі перад сабою тое, што з часам мусіла легчы над іхнім жыццём больш ачулаю павіннасцю. У які бок накіруецца развіццё гэтага, пакуль ніводзін з іх не думаў. Аднак уваход прыватных жаданняў у акрэсленыя рамкі адцягваў на сябе ўвагу абаіх.

Па-за сценамі пакоя блукалі пашарэлыя ўздымы ранейшых падзей, але абрысы іх туманіліся, як малочнасць аконнага шкла...

## V

Калі над супрацьлежным будынкам стухалі апошнія водбліскі захаду, а ў пакоі гусціўся апойны вясновы змрок,— Ліба запрапанавала Рыгору выйсці ў горад.

Чыстае неба спакойнага надвор'я прыносіла ў пакой ажыўлены, узняты шолам вулічнага жыцця.

Наперакор раскалыханаму шалу смерці, якая жахлівым поступам мерала земляныя абшары,— задзёрыстай, пружыністай рабілася сіла нараджэння новага. Разам з расставаннем снегу, побач з набуханнем пупінкаў на дрэвах паўставала бадзёрасць, уздыблялася да сонца цяга маладых пакаленняў. Падобна гоману раз'юшанай паводкі — гудзела песня свежае, пявучае гамонкі ўсцяж роўных стужак вуліц.

— Пойдзем!

Яны паспешна збіраліся выходзіць з пакоя, але ў гэты час паднімаўся ўжо да іх ганкам Сёмка.

Ён дапытаўся, дзе жыве Рыгор, і з параю важкіх клункаў, за дзве гадзіны да адходу цягніка, рашыў яго наведаць.

«Рыгор, напэўна, не чакае — ну, што ж»... І мазольныя, не адмыўныя ад зямлі пальцы тузнулі званок.

Мэрам бы ўдваіх пазвалі яго ўваходзіць.

«Удваіх?»

— Добры вечар!

Абапал стаялі Рыгор і яшчэ нейкая асоба.

«Углядаецца?»

Абеглы ўзрок нічога не казаў Сёмку, аднак у Лібе нешта знаёмае.

— Вы збіраліся выходзіць?

Сёмкаў прыход быў болей як нечаканым. Рыгору нельга было варочаць таварыша з пакоя, і ён тут жа распрануўся.

— Мая жонка! Напэўна, бачыў калі?

Суровая міна Лібінага твару выказвала нібыта нездаволенне яго прыходам.

Сёмка выбачыў:

— Каб я ведаў, што перашкоджу, я не заходзіў бы...

— Што вы, калі ласка!

Ліба вярнулася да гаспадыньскіх абавязкаў.

Увіхаючыся каля стала, яна не забывала аглядацца на Сёмку.

Ад госця нясло дзёгцем ды потам. Лахматы твар не гарманаваў з мяккім тонам гутаркі. А шэрыя вочы таілі ў сваіх узроках бяздонне жалю.

Між тым Сёмка выціскаў аднекуль крохкія ўсплёскі смеху і выдаваў сябе моцным у няроўным змаганні з мулкім няшчасцем.

— Ты гэта як да мяне трапіў?

— Яўген Віктаравіч «злітаваўся» і паслаў у камандзіроўку за жалезнякамі.

— Закупіў жа хаця?

— Паўсотні. Дзе ты што зараз знойдзеш... А ў атрадзе — бяда... Мы, бач, пераехалі за дваццаць вёрст ад Ступак, да Вішнеўскай, і грунт, я табе кажу,— жалеза. Хоць ты ломам гвздай — жалезнякі, як гумалястыкі, гнуцца... Дзень працы, а знаку — як кот наплакаў... Казна, бачыш, і мэта, няхай яе пярун спаліць, усё ж трэба...

— Ха-ха-ха! Я бачу, што табою завaладала гаспадарскае пачуццё...

— Старшы, ведаеш.

— Ты ўжо старшы?

— Дзякуючы табе, Рыгор... Наогул, ведаеш, ты мне зрабіў столькі дабра... Каб ды не адно, можа б, сяктак...

— У чым жа гэта адно?

— Волька падвяла... Кабета дажывае апошнія дні...

— Я цябе не разумею! У чым справа? Яна мяне праводзіла здаровай ды вясёлай.

— Вось тое і то, а раптам хапілі лёгкія, горла... Ды што казаць!..

Сёмка безнадзейна матнуў рукою.

— Каб не дзеці, а то — прапашчы чалавек. Што я з імі чыніцьму?.. Дрэнь справа. Маці была б дужэйшай, а то і старая адной нагою ў магіле...

— Яна ляжыць у вас? — пацікавілася Ліба не без спагады ў голасе.

— Лежма...

Ён паглядзеў у акно, за якім блiснула святло ліхтара.

— Выбачце... Неяк выходзіць, мэрам бы я прыехаў са скаргаю... А, між тым, мне хацелася іншага...

— Кінь!

— Так, так... па-першае, я хацеў прасіць цябе, калі ў мяне працягнецца нейкі час без дрэнных прыгод,— заві мяне да сябе... Паверыш — захацелася ў горад. Зямля, вёска — мяне падвялі. З ахвотаю пажыў бы нейкі час у горадзе... Хочацца аднавіць мінулую чын-

насць... Смяешся? І мне смешна, тым не менш. Абяцаеш?

— Я еду ў Пецярбург!

— Ізноў?

— Ізноў!

Сёмка ўздыхнуў і ўпёрыўся ўзрокам у Рыгора.

— Туды б — ды ці давядзецца!..

— Не руч.

— Наўрад... А хоць бы сволач тую напаткаў, Бросню гэтага... Казалі, нібы ён апынуўся ўжо ў Пецярбургу...

Успамін пра гісторыю з Рудольфам Шульцам перамяніў настрой абодвух. Рыгор задумаўся і няўважна выслухаў пераказ Сёмкі аб адыгранай у атрадзе трагедыі. Забойства Рудольфа ўздымала ў Рыгора цяжкае пачуццё абурэння і мучыла безадплатнасцю забойцы.

— У Пецярбурзе пашукаем...

— Заві мяне — дваім будзе лягчэй знайсці.

Таварыскае завярэнне, што даў яго Рыгор Сёмку, выклікала паўтор нядаўна прапяянага Сёмкам матыву.

Пад гэты напеў Сёмкавы ногі лёгка пераступалі парог з Рыгоравага пакоя.

— Кланяйцеся Вольцы і не пакідайце лячыць. Яна павінна жыць і для вас і для дзяцей!

Падзякаю Лібе была лагодная ўхмылка Сёмкі, кінутая ім з-за дзвярэй у пакой, дзе на срэбным святле выдзяляліся цёмныя сілуэты Рыгора з Лібаю.

## VI

Ламавая падвода чакала апошняга куфэрка. Падводу сцерагла Ліба, а Памыйка пабег за рамізнікам. Бадай адначасова высунулася з-за рога вуліцы конская галава, а з дзвярэй дома — спіна ламавіка.

Прайшло зусім нямнога часу, пакуль Ліба з Памыйкам паперадзе, а Рыгор з ламавіком пазадзе кранулі да вакзала.

Цёплы адвячорак кішэў натоўпам людзей. Як знарок, дзесьці ў баку Ляхаўкі грымеў вайсковы аркестр. Зусім незалежна ад гэтага ў рагавым доме трумкаў раяль мефістофельскую серэнаду.

На завароце конь чуць не наскочыў на кучку дзя-

цей, якія зацягла гулялі ў вайну. Пачуўся палахлівы дзіцячы енк, а следам старая яўрэйка з крамы пасылала да рамізніка гучныя праклёны.

Звязаная рукамі, як ланцугом, маладая пара перагарадзіла тратуар, залiваючыся рогатам.

Пажылы чыноўнік зрабіў заўвагу, але абышоў пару брукам.

На скрыжаванні Захараўскай з Багадзельнаю бліснуў ліхтар над пад'ездам гатэля «Гарні». Толькі што пад'ехаўшы аўтамабіль лапатаў утому.

Хіхікала наўздзіў вострым голасам жанчына, якую афіцэр прапускаў наперад сябе ў гатэль. На адгоне сажня ад гэтай сцэны газетчык выгукваў навіны з фронту, з Нямеччыны, з Амерыкі.

— Іх не відаць,— азірнулася Ліба.

— Яны паехалі іншай дарогай.

— Хаця б не спазніцца здаць багаж. Казала ж Рыгору выбірацца раней, дык ласне яго ўгаворыш!

Памыйка суцешыў Лібу.

— У вашым распараджэнні болей гадзіны.

— На вакзале так цесна... Дык вы кажаце, што хутка будзеце ў Пецярбурзе?

— Мяркую.

— Заязджайце, прашу вас... Вы, наогул, якісьці стаў нялюдны. Столькі пражылі ў Мінску, а не ведаю, ці былі ў нас тры разы.

— Заняты, Ліба Шлёмаўна... Ды і вы таксама... Любіце ўпікаць, а прыйдзі — ласне заспееш вас?

— Рыгор заўсёды дома... Ды я ў апошні час...

— Затое ў мяне якраз па вушы работы... Паверце, ледзьве вырваўся і зараз...

— Яшчэ б, каб не правясці нават.

— Вось то-та ж... Кінуў, бачыце, а правясці...

— Сто-ай! — перабіў іх гучны вокліч гарадавіка.

Рамізнік крута абарваў язду.

Прывакзальным пляцам ад усходаў вакзала ішла рота салдат.

Тоўсты, мурлаты фельдфебель напружаным узрокам адмерваў ровень бакавога шэрага.

— Аць-два! Ле-авай, ле-а-ва-ай! Ннапра-ва!

З яго басістага голасу раптам выплыў тонкі, салаўіны голас запявалы.

Рамізнік рушыў да пад'езду пад стройны выбух харавога салдацкага спеву.

— Надаела да ачамеры!

Памыйка хапіў Лібу за руку.

— Не нервуйцеся.

— Навошта гэты фальш! Няўжо яны думаюць, што ім удасца абмануць салдат вымушанымі песнямі.

— Бачыце...

— Проша!

Рамізнік паваротам галавы даў знаць, што прыехалі.

Памыйка памог Лібе злезці, і яны прайшлі ў біткам набіты вакзал.

— Рыгор замучыцца, здаючы багаж,— занепакоілася Ліба.— Пачакайце яго, Павал, а я пайду да касы.

Яе непакой быў лішнім. Не мінула і дваццаці хвілін, як Рыгор з Памыйкам замянілі яе ў чарзе за білетамі.

І на перон яны выйшлі амаль не першымі.

— Дзякую вам, Павал, што вы пасобілі нам з ад'ездам... Чакаю вас у Пецярбурзе,— праказала Ліба, толькі цягнік спыніўся пры вакзале.

— І вы едзеце? — пераняў яе танклявы, з худым аголеным тварам вайсковы.

Ліба адвярнулася ад Памыйкі і ў гэты ж момант згубіла яго ў хлынуўшым натоўпе пасажыраў.

Ужо стоячы пры акне вагона, яна заўважыла мігнуўшы ківок Паўлавай рукі, але сказаць нічога не магла.

Сігнал да адходу пераняў яе намер гукнуць развітанне.

І гэта акалічнасць замуліла ў Лібіным нутры. Яна вылаялася пра сябе на знаёмага вайскоўца, які адцягнуў яе ад Памыйкі, і паскардзілася Рыгору.

— Хутка справу паправім! — Павал скора маецца быць у Пецярбурзе,— разуважыў той.

Але Ліба ўляглася спаць нездаволенай.

Яшчэ нават назаўтра яна ўспомніла гэта.

І толькі тады, калі за вокнамі вагона задыміліся пецярбургскія фабрыкі, учарашняе было забыта.

Яскравы дзень квітучага мая глушыў надзённае пачуццё, акрыляючы Лібіны надзеі. Выглядала парадоксам, калі прысталічная зелень казытала яе цягу да прыроды.

Польныя прасторы Міншчыны, якіх не магло абмерыць вока, зазелянелі без Лібінай увагі, а вузкая

палоса прыгародных купястых лугоў цягнула яе да сябе.

Рыгор паказаў Лібе на гэту дзіўную раздвойнасць, аднак яна не пакідала быць складаным яе ўзбуджаных адчуванняў.

Захопленая гэтымі адчуваннямі, Ліба вярнулася да сапраўднасці, калі яны выйшлі з вагона пад шкляны насоў вакзала.

— Ты праходзь у залу, а я пайду за багажом.

Ліба хацела пярэчыць Рыгору, але яе пераняло расцяжнае:

— А-а-а! На-рэшце-э!

— З-за чыгуннае кованае падпоры глядзеў на іх развяселены Анікей Кузін. Каля яго стаяла яшчэ двое чалавек, якіх Рыгор не ведаў.

Усе ўтрох яны кінуліся да Рыгора з Лібай і павыцягалі з іх рук клункі. Аднекавацца не было як, бо Анікей з таварышамі порстка пашыліся ў вакзал першымі.

— Ты, брат, кампенсаваў нас! — казаў Анікей, знаёмячы сваіх таварышаў з Рыгорам ды з Лібай.— А то не хацелася вяртацца дамоў...

Сэнс Анікеевага сказа быў цёмным для Рыгора.

Ён здзіўлена паглядзеў таварышу ў вочы.

— Так, так... Не смяюся... Мы правялі Якава Гіса, а сустрэлі цябе. Натура пустаты не церпіць... Ха-ха-ха! Не праўда, мо ?

Адзін з новых знаёмых весела ўсміхнуўся.

— Куды ж Якаў паехаў? — пацікавіўся Рыгор.

— Яго паехалі... На тылавыя работы паслалі ў бок Мінска.

— Нават? Як, усё-такі, крыжуюцца дарогі!

— Бачыш... Прыпяклі беднага: болей года сядзеў, а на закуску — дысцыплінарная кара...

Першая пецярбургская навіна была далёка ад вясёлай. Гісторыя з Гісам перавярнула ў Рыгоравым нутры сфармаванае дарогаю пачуццё.

— Яшчэ не лягчэй.

Ён задуменна глядзеў у акно, за якім узнімалася ўгору свежапафарбаваная сцяна высокага будынка.

— Гэта ўжо мне не падабаецца!

— А каму падабацьмецца! Ды што ж парадзіш... Бедны Якаў — не ўзялі на ўвагу і яго абаронства...

Ліба пераняла мужаву гутарку настойваннем:

— Паедзем. У памяшканні будзеш думаць... Рыгор!

— Куды ж вы думаеце ехаць? Мо, часам, на старую кватэру?

Рыгор адмоўна матнуў рукою.

— Раней дзе-кольвечы да гатэля, а пасля ўжо прыйдзецца шукаць сталай кватэры... Мо, часамі, маеш на воку?

Анікей падумаў і пераглянуўся са знаёмымі.

— Цяперака з гэтай справай нялёгка... Усё ж, я думаю, можна будзе знайсці...

Яны накіравалі да выйсця.

На сходах двое таварышаў Анікея развіталіся і пабеглі да падаспеўшага трамвая.

Анікей пазваў рамізніка.

— У Знаменскі гатэль,— праказаў Рыгор.— Ну, а ты як? — запытаў ён Анікея.

— Гадзіне а пятай я буду ў вас,— паабяцаў той і пайшоў да трамвайнай спынкі.

— Раптам — вазьмі і папсуй настрой,— паскардзіўся Рыгор Лібе.

— А хто ў гэтым вінаю!.. Можа, варта было б забраць багаж?

— Куды ж мы з ім у гатэль?.. Не згіне...

У далейшую іх гутарку ўварваўся шолам гарадскога жыцця. На першы ўзрок як Рыгору, так і Лібе яно паказалася намнога інакшым ад ранейшага. З вуліцы, з будынкаў глядзелі сляды заняпаду. Людскі натоўп дапамінаў распорканы мурашнік. Кожны парыўна кідаўся ў бакі, раптоўна спыняўся, рызыкоўна перасякаў вуліцу. Кідалася ў вочы надмерная колькасць салдат, кульгавых, аброслых, з распушчанымі шынелямі, павязаных. На іх мэрам бы не распаўсюджвалася тая нервовасць, якая валодала цывільнымі, асабліва жанкамі.

На працягу аднаго квартала Рыгор з Лібаю заўважылі і некалькі доўгіх ланцугоў з жанок, якія гудзелі пад вокнамі крам, як чмялі. Пра гэта Рыгор ведаў яшчэ ў Мінску, але рамізнік паспяшыў разагрэць іх цікавасць:

— Што дзень — дык болей! — Но-а-а! — кінуў ён праз плячо да Лібы.— Гонімся за Дарданеламі, а ў саміх есці нечага. Падума-аць! Столькі часу ўбіваць за фунтам мяса ці цукру... Парадкі-ы!.. Не-э, ужо досыць,

бачыце... Можна раз, два падараваць, але ж гэтаму канца не відаць... І чаму-у то людзі маўчаць?.. Рабочыя маўчаць... салдаты маўчаць... Няўжо-а не ведаюць, што гэта іх маўчанка якраз на руку начальству?.. Га-а?.. У вас таксама?

— Свар-рач-чыва-ай! Куды-ы прэш-ш!

Рука гарадавога чуць-чуць не ўперлася ў Рыгораў твар.

Круты паварот улева, які зрабіў рамізнік, пераняў узбегшую на язык лаянку, што Рыгор намерыўся кінуць яе паліцыянту.

— Вось гэта толькі і ведаюць, фараоны! — вылаяўся рамізнік, раптам павярнуўшы направа.— Уздыхнуць вольна нельга...

Рамізнік адказу не атрымаў: і Рыгор і Ліба накіравалі ўвагу на вялікую грамаду сялян, якія павольна заварочвалі на Гарохавую вуліцу. Дзесяткі пешаходаў таксама спыніліся, каб на іх паглядзець. Каравыя паўшубкі, падрыпаныя лапці, магеркі і аблезлыя каўпакі, торбы за плячыма і пры баках, доўгія кіі — павейвалі вострай экзотыкай. Гэта экзотыка, аднак, хавала ў сабе непазбыўнае гора змардаваных валацужнікаў. Рыгору было зразумела, адкуль і што гэтыя людзі, з якою мэтаю яны ўступілі на паламаны сталічны брук і куды іх вядзе балючы клопат надзённых інтарэсаў. Можа, не гэтых, але падобных, іх землякоў, аднавяскоўцаў, часамі родных, ён сустракаў і праводзіў тысячамі і дзесяткамі тысяч у Ступінскіх прысадах. Іх, а мо суседзяў ці блізкіх Рыгор бачыў год таму назад на Знаменскай; спатыкаў іх па дарозе з Пецярбурга да Ступак, па цесных і смуродных вакзалах, па сцежках ды дарожках разбуранай краіны. Вось ужо каля двух год, як яны мераюць зямлю, стукаюць у запёртыя дзверы непрыветных дамоў, гутараць з нячулымі людзьмі пра сваё гора. Два гады — несупыннага выгнання, лютага здзеку! Колькі іх прайшло па мнагалікіх вуліцах сталіцы! Дзе яны супыняцца?

— Бачыла?

Ліба глыбока ўздыхнула.

— Ці скора гатэль?

Рамізнік абярнуўся да Лібы і асцярожліва працазаў:

— Сястрыца, ласне можна не надбавіць за гэткі доўгі прагон?

Ліба паглядзела на Рыгора.

У гэты момант ён заўзята махаў рукою ў бок тратуара.

Гэта зацікавіла Лібу, і яна накіравала ўзрокі ў чорную раскалыханую істужку пешаходаў.

## VII

Ліба ўжо прайшла ў вяртлявыя дзверы гатэля, а Рыгор расплачваўся з рамізнікам, калі да іх падышоў Міхась Камар.

— Паверыш, не пазнаў... Ты завеш, а я думаю і не веру — няўжо Рыгор?.. Адкуль, скажы, цябе прынясло? Ды ўдваіх? Знаёмая ці жонка? Адарваўся і ні гуку. Не спадзяваўся з цябе гэтага, Рыгор... Як жывеш?..

Ужо хвілін з пяць нясмела паглядаў на іх пасланы Лібаю швейцар, а Рыгор усё пералічваў адказы на Камаровы пытанні. Нарэшце каля іх апынулася Ліба і далёка не далікатна тузанула Рыгора за рукаў.

Камар жа не адставаў, ахоплены нейкім шалам скарамоўнай гутаркі. Ён трымаў Рыгора за крысо і стараўся ў найкарацейшы тэрмін падаць як найболей пытанняў. У захопе гэтай прагі ён не заўважыў, калі ачуўся ў круцёлцы дзвярэй, а следам у ліфце і, нарэшце, у доўгім вузкім калідоры пятага паверха.

Толькі дзвэнг ключа ў руках калідорнага вярнуў яго да прытомнасці.

Камару было няёмка ў ролі незапрошанага госця, але ён не падаў выгляду на сарамлівасць. Наадварот, у гэтыя хвіліны выразней, як калі, ён пачуў сваю правовасць на панібрацкае абыходжанне з Рыгорам.

Яго ні каліва не сароміла зусім незнаёмая яму Ліба. Знаёмства з Рыгорам пераносілася Камаром і на яго жонку. Аднак ён не паказаў гэтага, калі Рыгор адрэкамендаваў яму Лібу.

Далікатна схінуўшыся перад маладзіцай, Камар не меней далікатна пацiснуў ёй руку. Далей, усё з тым жа этыкетам, Камар прыставіўся Рыгоравай жонцы:

— Дзякуйце мне за вашага мужа; гэта я выгадаваў з яго палкага барацьбіта і прыкладнага грамадзяніна...

Ліба пытальна паглядзела Камару ў вочы.

Ёй было новым гэта паведамленне чалавека, у якім

яна пакуль што запрымеціла ўсяго нейкага неўтрапёнага тыпа. Між тым, Камарова заява не сустрэла з Рыгоравага боку чаканага Лібаю адбою. Для яе стала яснай тая задзёрыстасць мужавага настаўніка, з якою Камар казаў далей:

— Праўда, мая мілая (фамільярнасць гэтая вывела злосную ружовасць на Лібіным твары)... Вучань перайшоў настаўніка. Хі-хі-хі, г-гн-гы-і!.. Нашы погляды некалькі разышліся... Рыгорава маладосць вымагае экзальтацыі, а я ўжо ведаю кошт гэтай рэчы... Аднак, сястрыца, гэта нам не перашкодзіць заставацца бліжэйшымі сябрамі... Ці не праўду я кажу, Рыгор?

Камар пакуль гутарыў — калыхаўся, стоячы каля Рыгора; у чаканні ж Рыгорава адказу — прысеў на крэсла.

— Не без праўды,— з лёгкай ірoніяй вымавіў Рыгор.— Не без праўды і тое, што чым далей, тым разыходжанні ў нашых поглядах глыбеюць.

— Браток, таго ніхто не тоіць. Я зусім не па-твойму гляджу на сучасныя падзеі. Тым не меней, Рыгор, прызнаюся табе, што гэта не мяшае мне паважаць твае погляды. Хто яго ведае, чым усё скончыцца і хто з нас застанецца правым, а зараз усё ж мы не канчаткова з табою разышліся. Мне здаецца, што становішча краіны абавязвае і цябе, так як і кожнага грамадзяніна, аддаць свае сілы на яе абарону...

Падняўшыся для вымовы сказа, Камар на гэты раз не сеў назад, а ў непарушнай позе замёр на месцы. Накіраваныя на Камара Рыгоравы ды Лібіны ўзрокі ўплылі на яго гіпнатычнай сілай чароўнасці.

Камар хутка выявіў замуляўшае ў яго нутры жаданне не чуць Рыгоравай думкі, яснай яму па жорсткасці пранізваючага ўзроку. Але Рыгор, цалкам падтрыманы Лібаю, не мог не адказаць Камару.

— Цара ды памешчыкаў, буржуазію ды ўсякіх марадзёраў я бараніць не намераны...

Крэсла загрукацела ад націску Камара, які падаўся назад ад Рыгоравых слоў.

— Расія — радзіма не аднэй перапалоханай табою погані, а і мільёнаў рабочых...

— Радзіма, а не астрог?

— Мы самі вінаваты.

— В-во-а... вы самі вінаваты-і...

Напружанасць пералівалася праз іх галовы і рабі-

ла вачавідкай недачасную прысутнасць у пакоі Камара.

Ён неўспадзеўкі гэта адчуў, чаму крута павярнуў гутарку на патрэбу спяшыць на кватэру. Ні Рыгор, ні Ліба яго не затрымлівалі, і Камар хутка выйшаў з пакоя.

Яшчэ не зрабіў ён трэцяга шагу ад дзвярэй, як Ліба здзіўлена паглядзела на Рыгора, запытаўшы яго:

— Што гэта за тып?

— Ніякага цуда. Мой стары знаёмы, прымаў удзел у рэвалюцыйным руху... Але што ты парадзіш, калі ім абуяла патрыятычная дурасць... Гэткіх нямала, на жаль... Яшчэ год таму я чуў ад яго падобныя разважанні — усё ж не чакаў, каб іх наша сапраўднасць не змяніла... Між тым... Гарбатага магіла зменіць...

— Ну, чым гэта ўясніць сабе, Рыгор?

Ліба не дасказала: за дзвярыма прагучаў звонкі, адрыўны гук:

— Тут?

З глыбіні калідора мэрам бы працяг яго —

— А-а-а!

Рыгор падбег да дзвярэй і не паспеў адчыніць, калі па іх каўзанула чыясьці рука.

— Дома?

То быў Анікей.

— Ды вось жа: не паспелі не толькі паабедаць, а і пераадзецца з дарогі — Міхась Камар папярашкодзіў.

— Гэта ён ад цябе ішоў? Я сустрэў яго па Лігаўцы.

— Так... І ведаеш, мы паспелі ўжо былі зрэзацца з ім.

— А-а-а... Ад яго не чакаць... Працуе ж ён у ваенна-прамысловым камітэце, ты, можа, і не ведаў таго?

— Камар?

— Ніхто іншы; меў ужо справы з гэтай асобай... Спрытны, усё ж такі, трэба прызнацца...

— Ну, дакаціўся да працы ў ваенна-прамысловым камітэце!

— А чым ён не адпавядае па сваіх поглядах? — уставіла Ліба.

— Вось то-та ж...

— Ды ўжо ж...

Рыгор папрасіў Анікея застацца ў пакоі, а сам пайшоў з Лібай шукаць абеду.

Праз паўгадзіны ён вярнуўся адзін: Ліба засталася прайсціся па Неўскім.

— На мяне Пецярбург зрабіў пагрознае ўражанне,— падзяліўся Рыгор думкамі з Анікеем.

— Два гады вайны! Не дзіва. Усё ж, браток, ужо блізіцца да развязкі...

— Ну, ведаеш, народ прачакаўся... Каб ты ўявіў сабе, да чаго вайна прывяла вёску,— ты жахнуўся б!.. Нельга без болю ўспамінаць... Знішчаецца... Ды не толькі вёска — цэлая краіна знішчаецца... Ад Віндава-Рыбінскага вакзала да Мінска — непарыўны, густы цуг бежанцаў. Станцыі, раз'езды, гарады і мястэчкі — поўны нашароханымі людзьмі... Вайна кінула іх у дарогу, няведаную, бязмэтную, халодную і халерную... Сагналі з месца народ, як чараду вераб'ёў, і пусцілі ў свет...

— Так... Усё да аднаго...

Анікей паглядзеў на гадзіннік Мікалаеўскага вакзала.

— Стрэлка няспынна вядзе да зручнага часу... Вядзе рашуча ды няўмольна...

Ён крута павярнуўся да Рыгора.

— Шаснаццаты год — не чатырнаццаты.

— Зараз настрой другі... Я не думаю, каб ты не адчуваў таго... Пэўна, не забыў нядаўняга пасяджэння Думы? Мы, рабочыя, прымусім гэты агрызак з царскага стала яшчэ не так заварушыцца... Страсянуцца сцены не аднаго Таўрыцкага палаца... Тут ужо не залатаеш ні хаўрусніцкаю згодаю, ні ваенна-прамысловымі камітэтамі... Вось пазнаеш, калі захочаш вярнуцца на завод...

Слухаючы Анікея, Рыгор не мог стрымацца ад ахапіўшага яго ўздымнага настрою. Абмыты натхнёнай ухмылкаю, яго твар распаляў празрысты ўзрок у наступнае.

Анікей сачыў за таварышавай парыўчатасцю і бачыў, як Рыгор быў недалёка ад таго, каб сарвацца з месца і паляцець...

— Вярнуся на завод!

Гэта было сказана, як выбіта молатам — вярнуць удару нельга.

— Твая справа — выбірай; я магу цябе ўстроіць у саюз гарадоў таксама. Дарэчы, а як у цябе з дакументам?

— Паперы добрыя, у парадку, сыдзе, але надаела чыноўніцтва! Хоць і мала меў да яго дачынення, аднак — прэч! Пайду на завод...

— Можна да Гальске, можна і да Артура Копеля... Ды, прызнацца, усюды месца знойдзецца,— паведаміў Анікей.

— А па-твойму?

— Я раджу да Гальске... Там, разумееш, надзвычай спрыяючыя для цябе абставіны. Прызнацца, і я зараз адтуль... Хоць заўтра на працу... У тым раёне і кватэру шукацьмеш...

— Дзякую, браце, за дбанне...

Рыгор умомант звязаўся думкамі з заводам. Безумоўнасць рашэння навейвала яму пачуццё здаволення.

— Ну, а ты, брат, дзе працуеш? — запытаў ён Анікея.

— На заводзе Сямёнава... Калі хочаш, я буду гаварыць...

Рашучы мах рукі правёў лінію, праз якую Рыгор не думаў пераступаць.

— Шкада, што ты раней не прыехаў...

Лічачы пытанне з месцам вырашаным, Анікей перайшоў да іншай тэмы.

— Гэта зіма была надзвычай багатай забастоўкамі. Я сам не чакаў таго... Некаторыя заводы баставалі па некалькі раз. Пры гэтым, настроі рабочых... я табе кажу... анцік... Вось толькі апошнімі днямі крыху прыціхла, ды ненадоўга — бачыцьмеш...

— Я збольшага ведаў... Ведаў і прогся ў Пецярбург, як магаметанін у Мекку... І скажу — хоць позна, але рад, што зноў тут.

У пакой увайшла Ліба. Расчырвоненая паветрам, яна пыхала здароўем і сілай. Сталіца ўплыла на яе асвяжаюча.

— Сустрэла свайго доктара на Неўскім. Запрашаў назаўтра з'явіцца да яго,— задаволена паведаміла яна.— Працуе ён у лазарэце на Васільеўскім...

— На Васільеўскім?

Анікей паглядзеў на Лібу.

— Вы чаму гэта пытаеце?

— Рыгора туды прочу на працу.

— Гэта ж куды?

— Хоча на завод.

Ліба кранула Рыгора за руку.

— Рашыў-такі на завод?

— Надаела мне, Ліба, чыноўніцкая служба. Цягне да жывых людзей...

— Ды мне... мне яшчэ прыемней гэта,— паспяшыла заверыць Ліба.

— З твайго блаславення заўтра ж пайду на разведы.

— Калі ласка.

Анікею спадабалася Лібіна падатлівасць. Ён не чакаў ад яе той суладнасці, якая пры першай стрэчы ні ў чым не выяўлялася, а зараз выразна свяцілася ў кабецінай мілай ухмылцы.

Гэта Лібіна ўхмылка была прычынаю для госця на многа даўжэй працягнуць сваё аставанне ў Рыгоравым пакоі.

## VIII

Да сярэдзіны мая Рыгорава жыццё кацілася новай каляінай. Яны з Лібаю сталі жыхарамі Васільеўскага вострава, увайшоўшы ў складаны механізм грамадскага жыцця сталіцы. Паступова згладзіліся тыя вострасці пецярбургскага выгляду, якія ўкраліся ў іх першае ўражанне. Надынамічанае жыццё не давала магчымасці спыняцца на дробязях яго гаспадарчага дабрабыту. Абшарпаныя будынкі ды паломаны брук хоць і казалі за многае, тым не меней не на гэта ўстрамляліся іхнія ўзрокі. Сталіца гудзела нездаваленнем, якое нараджалі зацяжная вайна і звязаныя з гэтым дарагоўля ды адсутнасць харчу. Бязлікія чаргі пераходзілі ў мітынговыя зборышчы. Доўгія ланцугі жанчын дзень ада дня выносілі на вуліцу перапказаныя па кватэрах думкі. З гэтых думак паўставалі гутаркі, якія існуючаму ладу не сулілі нічога добрага. Водгалас гэтых думак і гутарак насіўся чырвонымі зарніцамі па рабочых ускраінах Пецярбурга, уліваўся ў заводы, дзе гартаваў нездавольства, перакідаўся на фронт. Ужо не было сілы ўціснуць жыццё ў рамкі, з якіх яго вывела вайна. Заставаліся часовыя рады заспакаення, штучнае адцягванне думак і ўзрокаў на рэчы ды здарэнні, ад якіх мала рабілася лягчэй, самаабманныя намеры і сляпая, драпежная ўпартасць не ўступаць вымаганням закону жыцця. Апошняя асаблівасць, моцна пра-

сякшы расійскую сапраўднасць, пераварочвалася ў едкую іронію бесспагаднага лёсу.

Калясніца гісторыі імчалася да рубікона з нястрымнаю сілай.

Грукат яе калёс стукаўся ў сцены палацаў. Яго не маглі заглушыць ні патрыятычныя маніфестацыі, ні «благароднае негадаванне» кадэтаў, ні жалезны бразг шпор. Наадварот, гэта злівалася ў мінорную музыку пахавальнага маршу, з якім гісторыя ўзыходзіла на новыя ўступы.

Трэба было мець класавую чуласць пралетара, каб выяўляць усю веліч гэтае музыкі. Рыгор хадзіў на завод, як на канцэрт, каторы разыгрываў нечуваную прэлюдыю да нечуванай жа па сіле ўздыму і бляску ўрачыстасці сімфоніі.

Рабочыя — то музыканты. У іх руках, напружаных не адной пакорай працы, а і ўвераннасцю ў перамогу, зусім інакш хадзілі інструменты. Імі вадзілі далёка не тыя настроі, якія былі ў той час, калі Рыгор пакінуў завод. «Шаснаццаты год — не чатырнаццаты» — хто мог сумнявацца?.. Рыгору гэта стала ясным і вачавідкім, толькі ён стыкнуўся з рабочымі. Яны жылі бурлівасцю бягучага. Іх гутаркі выяўлялі цвёрдасць і веру, узрокі палалі агнём. Шум і грукат завода зліваліся з пачуццём абурэння.

Рыгор заўсёды любіў работу, працэс яе творчай субстанцыі, але яго любасць труілася адзнаннем прыгоннасці. На гэты раз ім валодала сімволіка новага зместу. У згушчаным паветры завода, у яго зацяжлівай, глушлівай траскатні нараджалася новая сіла, якой належала будучыня. Яе прыходу ласкава ўхмыляліся суровыя, стомленыя твары рабочых, насустрач ёй прагліва несліся іх вострыя ўзрокі. Ужо завод не таміў аднастайнасцю працы — у яе працэсе таілася ўздымная творчасць, што раз'юшвала бадзёрыя настроі, веру і трапяткое чаканне. Нельга было не заўважыць смелых парыванняў, рашучых повертаў, цвёрдых крокаў, якія вярнуліся ў завод з часоў дэманстрацыйных выступленняў.

Гутаркі не сведчылі пра асцярогу перад кожным, хто за імі сачыў з акрэсленымі мэтамі. З пагорбленага, прымоўкшага ў пачатку вайны нявольніка выпроствaўся чалавек, асоба, адзінка, без якое нельга было абысціся складанаму жыццю. Сотні, тысячы іх рабілі-

ся сілаю, арміяй, фронтам, наступ каторага калыхаў зямлю.

Першая палова года вызначыла гэта ў поўнай меры. Шэраг пераможных забастовак паказаў сілу і моц абуджаных ускраін сталіцы. Ні мілітарызацыя, ні пагроза ды спробы высылкі на перадавыя пазіцыі, ні ўзмоцненая вайсковая ахова рабочых раёнаў — нівошта не давала належнага і жаданага ўраду эфекту. Думкі ды настроі рабочых упарта ўрываліся ў асяроддзе дзяржаўнага жыцця і разладжвалі яго наперакор гісторыі збітую машыну.

І той, хто ўрачыставаў у поспехах вялізнае лёгкае нажывы на жахах вайны, хто ўбіраў свае плечы палетамі, а грудзі — медалямі, і той, хто варушыўся, як крот у нары, нячулы ў клапотах будзённага жыцця,— роўна аглядаліся за заставы, да Васільеўскага вострава, на Пецярбургскую ды Выбаргскую стораны.

З паралічаных месц, тым часам, праз паліцэйскую забарону, несліся трывожныя чуткі пра неспакой, пра вострыя канфлікты, пра частыя забастоўкі. Гэтыя чуткі, у выглядзе цудоўных зданей, пралазілі ў міністэрскія канцылярыі, у банкі, у пакоі раскошных асабнякоў; яны насіліся па шырокіх тратуарах Неўскага, стройным Каменнаастроўскім, напышчанымі Сергіеўскай ды Фурштацкай.

Біткам набіты трамвай сеяў іх па мнагалікіх завулках нервовай сталіцы.

Ад іх не магла схавацца дзяржаўная Дума.

## IX

І вось аднаю раніцаю, побач з радзьмутымі весткамі пра пераможны наступ Брусілава, газеты раскідалі па сталіцы, па ўсіх гарадах, па незмярымай краіне весткі аб запытанні ў Думе пра забастовачны рух. І мільёны воч адарваліся ад чорных радкоў навін са штаба галоўнакамандуючага, а прыліплі да зместу стэнаграфічнае справаздачы, парванае белымі плямамі вайсковае цэнзуры. Дык во-ась яно што-а! Сталіца на вулкане. Жалезны абруч сціскае багатыя кварталы, асабнякі ды палацы пагрозным сімптаматычным незадаволеннем. Дарма ўсякія завярэнні ў перамогу на франтах, у «супрацоўніцтва» ўсіх станаў грамадства,

у руплівую клопатнасць пра дабрабыт жыхарства сталіцы. Усё гэта — пустая балбатня, туман у вочы.

Будынак трашчыць, колецца і рухае пад ім няўстойны фундамент.

Запытанне, з яго пералікам забастовак і колькасці іх удзельнікаў,— запярэсціла чырвоным туманам дагэтуль злёгку зацемнены небасхіл...

У гэты дзень з трыма газетамі ў руках Ліба спаткала Рыгора надзвычай вясёлай. Для яе, як і для многіх іншых, запытанне ў Думе пра забастоўкі выпукліла мінулыя здарэнні ў факт агромнай значнасці. Яна ведала многа са слоў мужа, многа чула з гутарак яго з Анікеем, але не чакала гэткага звароту, які атрымаўся ад абвяшчэння запытання ў газетах.

— Каб ты ведаў, Рыгор, з якім захапленнем нашы раненыя чыталі сённяшнія газеты! Для многіх запытанне адчыніла заслону ў нешта нечаканае, але раданае ды надзейнае... Гутаркі, перашэптванні не спыняліся праз увесь дзень. Бедныя, яны забывалі пра вострыя болі і, калі не маглі чытаць, то насторожана лавілі вухам кожны шэпт шчаслівейшага суседа. Кожны выразна адчуў набліжэнне вялікіх здарэнняў. Нават мой ардзінатар першым словам у гутарцы са мною крануў гэтых навін... В-во-а! Расшчэдрылася і купіла ажно тры газеты...

Рыгора не здзівілі Лібіны словы: ён добра ўлічваў зробленае газетамі ўражанне. Але Лібін настрой знайшоў у ім спачуваючы водгук... Рыгору было прыемна наглядаць у ёй тую задаволенасць, якая адбівалася радаснаю ўхмылкаю на Лібіным твары. Гэта сведчыла за адно — за гарманічную суладнасць іх пачуццяў, якая вымагалася для блізкага наступнага.

— У нас наспявае забастоўка таксама! — паведаміў Рыгор, калі яны апынуліся ў пакоі.

Ліба паглядзела ў адчыненае акно, мэрам бы шукаючы адзнак яе прыходу.

— Хутка?

— Як табе сказаць: можа, заўтра, а можа, крыху пазней...

У акно свяціла агромністае чырвонае сонца. Улівалася густое летняе паветра, насычанае перагарам вугалля. Саплося лёгка, і беднае, на скорую руку сабранае абсталяванне пакоя не нараджала жаднага клопату пра яго паднову. Пакой не прыцягваў іх увагі —

абое пакінулі вымагальную штодзённым клопатам патрэбу сямейнага дабрабыту. Пецярбург варочаў руплівасць, думкі і настроі, якія не мясціліся ў чатырох сценах будынка.

За месяц жыцця ў кватэры яны не паспелі нават добра пазнацца з яе гаспадаром і ні разу не заікнуліся пра тыя ці іншыя кватэрныя запытанні. Гэта пакідалася на пасля, на час, якога б не шкада было страціць.

Вяртаючыся з завода, Рыгор увечар ішоў або на міжраённыя сходкі, або ў будынак Панінай, або часам заходзіў у бежанскі камітэт. Ліба амаль не кожны дзень заставалася ў лазарэце да дзесятай гадзіны вечара. І толькі зрэдку ў іх была магчымасць улучыць гадзіну-другую на сумеснае быванне. Падобнае становішча ясна разумелася абаім і ні ў адным з іх не выклікала жаднага наракання. Магчымасць яго паралізавалася цёплымі, таварыскімі гутаркамі, урыўнай ласкай, адзнаннем сур'ёзнасці моманту.

Абое дзяліліся адзін з другім сваімі думкамі і намерамі пра палітычна-грамадскія пытанні, з увагай выслухвалі парады, аднак наўздзіў мала чапалі сямейныя ўзаемаадносіны. Для іх не было месца. Яны выглядалі нагэтулькі яснымі і зразумелымі, што абгавор іх нічога новага не прыдаў бы.

З дакументамі абышлося наўздзіў гладка. Гаспадары кватэры маўкліва праглядзелі дакументы чыноўніка і сястры, прапісалі ў участку і вярнулі, якімі ўзялі.

Хто гэткія Рыгор з Лібаю — мэрам бы гаспадароў не датычала. Яны бралі за пяцісажнёвы пакой з параю ложкаў, сталом і чатырма крэсламі дваццаць пяць рублёў у месяц і акуратна складалі грошы ў баланс сваіх мізэрных зваротаў.

Па-за гэтым іх стасункі з кватарантамі абмяжоўваліся рэдкім абменам ранішняга прывітання ды вячэрняга развітання. Між гэтых момантаў гаспадыня моўчкі падмятала пакой, абцірала стол і крэслы і адчыняла акно. Яна, праўда, яшчэ адчыняла дзверы тым, хто прыходзіў да Рыгора з Лібаю. Вось у гэтыя разы цікавасць да кватарантаў як бы некалькі падымалася. Але наведвачы выходзілі, і цікавасць гаспадыні асядала на ранейшы ўзровень...

Гаспадар кватэры быў зусім чужым ды амаль што незнаёмым ні Рыгору, ні Лібе. Лакейства ў рэстаране паглынала яго ўвесь час і яго цікавасць.

Запытанне ў Думе і заўзяты яго абгавор Лібаю ўпершыню даў повад гаспадыні кватэры ўмяшацца ў іх гутарку.

— Будуць баставаць, калі няма чаго есці. Без яды не напрацуеш! То ж падумаць — вачавідкі ўсё гіне. Да чаго толькі гэта дойдзе! — нервавала гаспадыня.

Калі Ліба намякнула пра скутак, які, па яе думках, прынясе надышоўшае становішча, гаспадыня спагадліва праказала:

— І добра было б, а то занадта ўжо зазналіся... На мой розум, дык бы я...

На гаспадынін жаль, яе першую гутарку з кватаранткаю абарвалі чыесьці галосныя крыкі якраз перад акном Рыгоравага пакоя.

Гаспадыня вярнулася да сябе і толькі назаўтра раніцою падпільнавала Лібу, каб паведаміць ёй, што ўчора, на ліха, на бяду, перабіў іх гутарку ўзняты кучкай крамнікаў Андрэеўскага рынку патрыятычны гармідар з прычыны брусілаўскіх перамог.

Ліба ведала гэта раней гаспадыні.

## X

Была дзевятая гадзіна раніцы, а рабочыя ўсё яшчэ не вярталіся ў завод. Тысячнаю грамадой тупалі яны па заводскім двары і гудзелі, як раскалыханае мора.

Прасвісцела паўторная сірэна, але яе гук не зрабіў на рабочых жаднага ўражання. І калі хтосьці кінуў правакацыйны вокліч «на працу!», ён мігам згас ва ўздымным натоўпе.

Сотні вачэй павярталіся да брамы, адкуль мусіла ўвайсці дэлегацыя, пасланая да адміністрацыі завода на перагаворы.

Мінула гадзіна часу, як дэлегацыя выйшла з заводскага двара і ўсё яшчэ не вярталася. Гэта сведчыла, што патрабаванні рабочых наткнуліся калі не на адмову, то на супраціўленне.

Адміністрацыі завода мала дзела да становішча рабочых. Узросшая дарагоўля яе не абыходзіць.

Каму незразумелы яе матывы да адмовы! Кожны з тысяч гэта добра ведае і кожны з тысяч мае сілу да вымагання законных патрабаванняў.

Не выпаўняць?

Дарога адна: завод застыне ў бяздзеянні, а рабочыя з вераю ў перамогу вернуцца дамоў.

Ужо іх настрой паспеў акрэсліцца ў пэўнае рашэнне. Толькі размінуцца вусны дэлегатаў, каб паведаміць адмоўныя вынікі перагавораў, як цвёрдым, злітым крокам грамада апынецца на вуліцы.

Яе чакае падгатаваная паліцэйская засада?

Няхай гэтым суцяшаецца той, хто разлічвае на чужую слабасць.

Рабочыя кіруюцца сваімі намерамі.

Яшчэ хвіліна, яшчэ пяць хвілін, і справа знойдзе другі паварот.

Ж-ж-ж-ж! А-о-а-і-й!

Грамада злітнай адзінкай кранула з месца, павярнуўшыся да брамы.

Следам — ціша.

Чуваць, як з Неўкі даносяцца гукі каталёў ды знекуль далей — цяжкі грукат трамвайных калёс.

За брамаю гукаюць дзеці.

— Што-а-а?! А-о-а-і-й?

— Адказ адміністрацыі пасля абеду?

Як па дроце, палкія словы коцяцца над грамадою ўзрушаных рабочых.

І яшчэ не дайшла вестка да задніх, як пярэднія стройным напорам ачуліся на вуліцы.

Ланцуг паліцэйскіх коннікаў выраўняўся струною.

Перш зрэдку, нясмела, а што далей — выразней ды часцей панесліся да іх вострыя кпіны, лаянкі, прасвісты.

Паліцэйскія падаліся на сярэдзіну вуліцы і звузілі ў стужку шырокі струмень рабочых.

Конскія мызы працягнуліся над галовамі тых, хто ішоў крайнім.

Злосныя, драпежныя ўзрокі паліцэйскіх перапляліся з узрокамі рабочых, поўнымі знянавісці ды абурэння.

Сталёвая напружанасць між варожымі станамі раптам выціснула трывожны свісток паліцэйскага прыстава.

І з свістка, як з чароўнай рэчы, вылецелі чорныя, павісшыя ў паветры дугі нагаек.

Ужо крайняя матнулася над конскай галавою і строма апала на шэрую жакетку.

Чырвоны кавалак цэглы апісаў расцягнутую траек-

торыю і паставіў на дыбы паліцэйскага каня, скраўшы ўдар нагайкі...

Следам усе замітусіліся, змяшаліся ў адну кучу...

Прыціснуты коннікам да дзвярэй дома, Рыгор глядзеў у шырокія грудзі чорнага, абшумленага каня. Вострая падкова яго пярэдняй нагі моцна дзвяжыла аб каменную плітку тратуара. Збоку нейкі ляск аб таркованую сцяну ўторыў конскаму дзвенгу.

Калі ў адзін міг коннік павярнуў каня так, што ён стаў бокам да дзвярэй, Рыгор раптам угледзеў перад сабою знаёмы твар.

Яго характэрных, памятных рысаў не скрадалі сабою ні паліцэйская форма, ні конніцкая выпраўка.

Пад аховаю рукі, зложанай трохкутнікам насустрач звіслай нагайкі, Рыгор мігам прапусціў памяццю разнастайную багатую галерэю знаёмых партрэтаў, асацыіраваных з коннікам.

І — прымха!.. балючы ўдар нагайкі спыніў яго думку на Васілі Берагу.

«Няўжо?»

У адзін момант падвоены напор злосці прыгнуў Рыгора да зямлі, порстка зашавяліў рукамі, уклаўшы ў жменю вырваны з бруку камень, і паставіў у позу мятальшчыка дыска.

Наступны момант напружыў Рыгоравы мускулы, якія далі моцны штуршок дапатопнаму прыпасу ў руцэ...

Загуўшы, камень, аднак, не даляцеў да конніка, які ў гэты час паспеў ад'ехаць далёка ад Рыгора.

Абурэнне сціскала яго істоту і путала ногі, калі Рыгор пайшоў усцяж ачышчанай ад публікі вуліцай.

Агідны, адваротны вобраз Берага зацямняў яркае сонца і мернаю, надаеднаю траскатнёю конскага капыта калоў у вушы.

Трэба ж было надацца гэткаму выпадку!

Вярнула.

У нутры грабліся куры.

Рыгор не хацеў сабе даравадь, чаму ўсё сталася так, а не іначай, чаму ён, кідаючы камень, прамахнуўся.

Хутчэй бы ўжо Ліба вярнулася з лазарэта і выслухала яго.

Не расказаўшы Лібе — цяжка будзе варочацца ў завод.

«Бадай, пасля абеду я не пайду»,— падумаў ён і следам пачуў запытанне:

— Ужо на абед?

Вясёлы, з мяккаю ўхмылкаю на твары, Памыйка адцягнуў на сябе Рыгораў бегаючы ўзрок.

— Павал?

— Бачыш, іду да завода.

— Па мяне?

— А то ж па каго? Магчыма, сёння паеду ў Мінск.

— Чаму ўсё так хутка?

— Служба вымагае... Якім чынам, скажы, ты апынуўся на заводзе? Ласне і Стукалкавых рэкамендацый нічога не выйшла?

— Я імі не карыстаўся.

— Цікавыя ў цябе павароты... А я ж думаў...

— Верне ад чыноўнікаў... Яшчэ ў дарозе думаў дваяка, а ступіў на пецярбургскі брук — пацягнула ў завод. Інстынкт рабочага... Толькі не прымай на свой адрас, прашу цябе...

— Табе не агідна са мной ісці?

Павал жартаваў, а Рыгор усё яшчэ знаходзіўся пад уражаннем сутычкі з Берагам.

— Я, вось, сам яшчэ ў чыноўніцкіх портках,— знайшоўся Рыгор і абярнуўся назад.

Прабегшы конь супыніў яго на месцы.

— Ты што там дзіўнае ўгледзеў? — пацікавіўся Памыйка.

— Гэта цікавасць... во тут сядзіць,— ён паказаў на правае плячо.

— Чаму? Як гэта?

— Паверыш, ужо доўга не адчуваў сябе падобна сённяшняму... Бачыш, надало ліха знянацку сустрэцца з чалавекам, ад якога верне... І як сустрэцца!.. Бррр... Вось ішоў на кватэру, а ўнутры мэрам хто разліў банку дзёгцю. Моташна... Прыкра... Чадліва... І балюча...

— У чым справа?

Рыгор сплюнуў.

— У нас, бачыш, забастоўка да абеду... а мо, і надаўжэй... Дэманстрацыйна выйшлі на вуліцу... Сутычка з паліцыяй і — нягодны! Адзін з паліцыянтаў — сілцоўскі абармот... І ў дадатак — пачастунак нагайкаю...

— Гм-м-м?! Ад яго?

— Табато і то...

— Спагадаю... Сапраўды прыкра... Усё ж — ідзем...

— І гэткае пачуццё, што я не магу апамятацца... Няхай бы... Ды што было рабіць, прыпертаму да сцяны? Кінуў камень, але не ўцэліў...

— Пакінь хваляваццa... Хадзем...

Яны пайшлі ўсцяж роўнае, шырокае лініі.

Нагрэтыя, як у печы, тратуарныя пліты парылі ногі. Было цяжка і ўтомна ісці. Лёгкі, чуць прыметны, але рэдкі і гарачы вятрыска не адганяў ад іх утомы. Абодва туліліся да сцен будынкаў у скупую палоску ценю, але і тут не было як схавацца ад духаты.

Далёка наперадзе віднелася вузкая чорная палоска — то была стуленая воддаллю Нява. Яны ўстраглі вачыма ў яе цёмна-сінюю ваду.

— А ты ж хіба да таго не бываў у Пецярбурзе?

— Павер, што не выпала.

— Ліба колькі раз успамінала цябе.

— Я хацеў бы спаткацца з ёю... Дарэчы, няўжо яна цябе са спакойнай душою адпусціла на завод?

— Ліба? Ты жартуеш, Павал? Калі не, то крыўдзіш маю жонку...

— Не жарты, але раскажаш сённяшні выпадак,— паглядзімо, як Ліба адгукнецца.

Яны незаўважна мінулі дом, у якім была Рыгорава кватэра.

Чырвоная сцяна суседняга будынка надаўміла Рыгора пра абмылку. Ён, схамянуўшыся, сплюнуў:

— Аглуздзеў! Назад!

— Не магу, браток.

— Кінь, Павал!

Рыгор тузануў таварыша за рукаў, і абодва павярнулі назад.

Праз дзесяць хвілін яны ўжо стаялі перад дзвярыма кватэры, за якімі, паказалася Рыгору, чуўся Лібін голас. Ён тузануў за драцяную пятлю і не абмыліўся... адчыніла Ліба.

— У вас забастоўка?.. Ах, і Павал тут?

— Як бачыце... Рыгор гвалтам прыцягнуў.

Ліба пакінула Паўла і абярнулася зноў да Рыгора.

— Бастуеце?

— Хто табе сказаў?..

— Гаспадыня, толькі вось вярнулася з горада, дзе

даведалася ад знаёмага... Паліцыя нападала на маніфестацыю?..

Увайшоўшы ў пакой, Рыгор пацвердзіў праўдзівасць пачутага Лібаю.

— Так, паліцыя не спазнілася і на гэты раз.

Павал іранічна ўсміхнуўся, паглядзеўшы на Рыгора.

— Дасталося і табе? — насцярожліва запытала Ліба.

— Не так балюча, як смярдзюча...

Яна насцярожылася і нервова праказала:

— Кажы, кажы, Рыгор, у чым справа.

— Зарабіў... і болей...

Ліба спагадліва павярцела галавой. Аднак Рыгораў выгляд не вымагаў далейшых распытанняў, і яна перайшла да Памыйкі.

— Нарэшце асмеліліся наведаць... Як вам не сорамна, абяцалі праз два тыдні, а паказаліся больш як праз два месяцы.

— Я ў начальнічых руках, Ліба Шлёмаўна... Водлуг магчымасці... Але што вы скажаце, што на два дні прыехаў, а да вас — будзьце паважаны...

— Дзякую... Спадзяюся, што знойдзем час пайсці з вамі... Усё ж гэта не выкупае вашай віны...

Паднятая ўгору Памыйкава рука адсекла Лібін сказ.

— Я толькі на дзесяць хвілін, сёння маю выязджаць... Маё новае начальства занадта ўжо строгае, каб браць на ўвагу маю віну перад вамі... А яшчэ мушу пабываць у партыйным камітэце... Маю даручэнне...

— Ах, ты кажаш, новае начальства ў цябе? — хапіўся Рыгор за Паўлаву навіну...

— Так, Стукалка болей месяца як выехаў у Кіеў. Прасіў кланяцца табе і паведаміць, як з яго рэкамендацыямі...

— Падзякуй яму, калі пісацьме...

— Паміж іншым, я і забыў сказаць, што Яўгена Віктаравіча таксама перасялілі ў другі атрад. Нават з паніжэннем...

— Гэта ж завошта?

У Лібіным голасе пачулася нотка спагады.

— Перадавалі, нібы адным разам у канцылярыі ўпраўлення нешта гэткае сказаў... Напэўна, Рыгор ведае?

— Ласне за тое?

Лёс Провава ды іншыя навіны Мінска, пра якія Рыгор з Лібаю далі Памыйку некалькі пытанняў, занялі ўвесь час, які меўся ў распараджэнні Лібы.

Следам выявілася, што даўжэй не мог застацца ў пакоі і Рыгор. Больш за іх спяшыўшы Памыйка не паказваў, аднак, руплівасці да абвешчанага ім ад'езду.

Мужчыны ахвотна спыніліся на прапазіцыі Лібы разам утраіх пайсці паабедаць...

## XI

Забастоўка не абмежавалася полуднем. Да абеду перамаўленні ўпёрліся ў глухі куток і не падаваліся з месца. Віною паслужыла стыкненне з паліцыяй: падыходзіўшая згода раптам адскочыла да выходнага пункта, толькі ў дырэкцыю прыляцелі весткі пра напад паліцыі на рабочых. Адміністрацыя ліцамерна выказвала дэлегацыі спагаду, аднак упарта адмаўлялася споўніць вырасшае патрабаванне гарантыі ад паўтораў падобных здарэнняў.

Перамаўленні мусілі перанесціся на другі дзень і цягнуліся са стойкай няўступчывасцю з абодвух бакоў.

Рабочыя, што з'яўляліся даведацца пра скуткі перамаўленняў, заставаліся каля завода, уносячы нервовасць у настрой адміністрацыі.

Напружанасць становішча надавала вострасць моманту, і Рыгор, прыйшоўшы да завода а восьмай гадзіне раніцы, упарта падбухторваў таварышаў націскаць на дэлегацкую стойкасць. Ён прыводзіў у прыклад забастоўкі на Выбаргскай старане, якія цягнуліся тыднямі. Правучыць адміністрацыю завода таксама не шкодзіла б і ім. Было б крыўдна, каб дэлегацыя хоць у дробязі паддалася ўгаворам. Рыгор крыху сумняваўся ў цвёрдасці некаторых дэлегатаў і заставаўся пры заводзе датуль, пакуль не пранесліся чуткі пра няўхільную сур'ёзнасць і цвёрдасць дамаганняў дэлегацыі.

Гэта было а дзесятай гадзіне раніцы. Да абеду хапала часу, каб праехацца ў бежанскі камітэт.

Паўстаў успамін пра дадзеную кароценькаму чалавеку абяцанку пасобіць у яго працы.

Поруч з гэтым ён многім быў абавязаны кіраўні-

ку камітэта за тыя запіскі ды просьбы, з якімі часта сам да яго зварочваўся.

Між тым, грамадскія абавязкі бежанскага камітэта за апошні час значна ўзраслі.

Вайсковыя падзеі мінулага года давялі бежанства да страшэнных памераў. Мільённая армія людзей патрабавала настойнае неадкладнае дапамогі. Арганізацыя яе — многа сілы, упартых стаянняў, самаадданасці.

Чым бліжэй ачуваўся Рыгор ад Знаменскай вуліцы, тым яго рашэнне мацнела.

Нават у яго галаве склаўся акрэслены сказ, з якім ён абернецца да кароценькага чалавека, прапануючы свае паслугі.

— Ведаеце што...

На жаль, адчыненыя дзверы ў канцылярыю засведчылі, што кароценькага чалавека ў камітэце няма.

Пры стале сядзеў незнаёмы лахматы хлапчук, які сухаватым, нячулым голасам апытваў шэраг дзядзькоў ды цётак.

Аднастайныя, жаласлівыя іх адказы хлапчук старанна запісваў на паперу, зрэдку падымаючы галаў на агляд прысутных.

Рыгор прашыўся да стала і запытаў пра кароценькага чалавека.

— Ён бывае ад шостай! — адказаў лахматы хлапчук, не адгінаючыся ад стала.

— А сёння будзе?

Запытанне Рыгора паказалася яму наіўным, і лахматы хлапчук адказаў:

— Дзядзька Броніcь бывае кожны дзень.

Калі Рыгор павярнуўся ад стала, за ім пагнаўся невыразны сказ хлапчука.

— Пасядзеце крыху, можа, дзядзька Броніcь наведае і зараз.

Рыгор прыпыніўся. У гэты момант адчыненыя дзверы ўпусцілі ў канцылярыю кароценькага чалавека.

— Каго я бачу! — выгукнуў ён.

— Прыйшоў наведаць вас, а калі патрэбна — чымнебудзь дапамагчы вам у вашай працы.

— Як дачасна!

Броніcь увесь ззяў ад радасці, мэрам яму прынеслі нечаканы гасцінец.

— Што вы прывезлі добрага з Мінска? Што чуваць

там? Калі вы вярнуліся ў Пецярбург? Дзе ўладзіліся на працу? — сыпаў ён запытаннямі.

Рыгор не паспяваў адказваць, тым болей што Броніся хутка абкружылі дзядзькі, якія наперабой, кожны са сваімі скаргамі ды просьбамі, намагаліся іх выслухаць.

У канцылярыі падняўся гоман, які гразіў канчаткова памяшаць Бронісевай з Рыгорам гутарцы.

Гэта вымусіла іх перайсці ў суседні пакой.

— Я задыхаюся ад працы,— перайшоў да скаргі Броніс,— а падмогі ніадкуль. Як і раней — адзін... Людзям свае інтарэсы даражэй за ўсё. Толькі я... ведаеце, я... мая ўжо ва́да... ніяк не магу спакойным заставацца, калі бачу гэткае гора людзей... А маю ж таксама і сям'ю, і хатнія клопаты... Дык, падумаўшы, хто ж будзе працаваць для агульнай справы, калі мы ўсе зашыемся ў сваё прыватнае жыццё. Вельмі добра, што вы прыехалі... я зараз не адстану ад вас, пакуль вы не запражэцеся ў камітэцкую працу... Цяпер жа, я забыў сказаць, у нас і гароды свае... Го, як бы можна было разгарнуць працу, каб гэта былі людзі... Толькі ўсё ўрыўкамі, з наскоку...

Кароценькі чалавек клапатліва бегаў па пакоі, зіраючы Рыгору ў твар і чакаючы ад яго адказу на плойму закранутых пытанняў.

Але толькі Рыгор пачынаў гутарку, як Броніс знаходзіў новую зарадку слоў і перабіваў Рыгора на паўсказе.

Гэта цягнулася каля гадзіны і, напэўна, цягнулася б яшчэ столькі, каб раптам сярод іх не апынуўся лахматы хлапчук.

— Дзядзька Броніс, там прыйшлі да вас з тацянінскага камітэта.

Кароценькі чалавек мэрам бы збянтэжыўся, крыху моўчкі пастаяў, пасля порстка кінуўся да дзвярэй.

Ужо адна яго нага была на калідоры, калі ён зноў вярнуўся ў пакой і загутарыў да Рыгора:

— Папрашу вас зайсці вечарам. А то пакуль я адпушчу прадстаўніка тацянінскага камітэта, не будзе часу пагутарыць... Я вельмі рад, што вы прыехалі... Хоць маласць пасобіце мне ў працы...

Кароценькі чалавек працягнуў Рыгору руку, нізка схінуўся і выйшаў з пакоя.

Рыгор выйшаў следам за ім. Павярнуўшы да вый-

сця з камітэта, ён нечакана зноў быў спынены Бронісем, які, трымаючыся за ручку канцылярскіх дзвярэй, скарамоўна гукаў:

— Дык я вас чакаю, абавязкова!.. Адну хвілінку, я забыў паведаміць вас. Можа, не памятаеце, як вы пасылалі да мяне аднаго старога латыша? Месяц таму пахавалі яго на камітэцкія сродкі... Ад'е!.. Бывайце!.. Чакаю!

Адначасова стукнула двое дзвярэй, і Рыгор уподбежкі панёсся па сходах да нізу.

## XII

Хоць Рыгор нічога не адказаў на настойную просьбу Броніся прыйсці вечарам у камітэт, усё ж не думаў занядбаць яго просьбу. «Ласне, што-кольвечы раптоўнае паперашкодзіць гэтаму», рашыў ён, «тады прыйдзецца адлажыць».

— Якое бязлюддзе, аднак! — праказаў ён, выходзячы на вуліцу.

І толькі паспеў засуцэліць выказаную думку, як пачуў:

— Рыгор Міхасевіч?

Кульгаючы, ■ палкаю ў левай руцэ, да яго падышла маладая жанчына.

Па азызлым змучаным твары, па жудлівым узроку вачэй, па моцна зmененай форме постаці ніяк нельга было пазнаць у ёй Рыму.

Рыгор выдаў сваё здзіўленне, якое мінула з запытаннем Рымы:

— Не пазнаеце?

— Як быццам бы Рыма, калі не мыляюся.

— Вось бачыце, чаго дачакалася. Нават знаёмыя не пазнаюць... Вы куды?

— Магу вас правясці... Ды што гэта з вамі сталася?

— Тут мяне мусіць нагнаць адзін чалавек... Ідзем да Басейнай... Дрэнна са мною, Рыгор Міхасевіч!

— У чым жа справа, скажэце?

Рыма глыбока ўздыхнула, працерла хусцінкаю вочы і паведаміла:

— Я чуць не памерла. Болей васьмі месяцаў ляжала ў лазарэце... І вось мушу з палкаю хадзіць... У ёй цяпер мае нядаўнія мары, надзеі ды жаданні...

Разнерваваная, яна выпусціла з рук палку, якую спрытна Рыгор вярнуў ёй у рукі.

— Мяне ранілі ў Маскве ў часе памятнай сутычкі з паліцыяй на Цвярскім бульвары... Куля засела ў назе... і на цэлых восем месяцаў прыкавала мяне да ложка... З лазарэта выйшла калекай...

Надрыў у голасе будзіў у Рыгора цёплую спагаду да няшчаснай. Рабілася страшным глядзець у Рымін твар, гэтак моцна зменены з часу апошняга спаткання з ёю. З жывое, бойкае, поўнае руху дзяўчыны Рыма зрабілася сумнай, непаваротлівай, пастарэлай кабетай, на выгляд гадоў трыццаці. Перажытыя ёю мукі адбіваліся і на яе настроі, нават на гутарцы, поўнай безнадзейнасці ды роспачы.

— І паверыце,— скардзілася яна Рыгору,— ні разу не бачыла Петруся. Спачатку прыезду ў Маскву наведала яго пару раз, але не знайшла ні на кватэры, ні на службе, а пакуль сабралася трэці раз зайсці — якраз сустрэла паліцэйскую кулю... Ніхто не ведае, што яго чакае назаўтра... Можа, вам, часамі, Пятрусь піша што-кольвечы?

Адказаць на Рыміна запытанне было не так лёгка. Перад Рыгорам расчынілася карціна, якое ён не спадзяваўся бачыць. І зараз, слухаючы Рыму, яму не верылася, што тая апавядае пра сябе, а не пра каго іншага...

Як-то магло стацца, каб Петрусёвы дарогі пад гэткім вострым кутом перакрыжаваліся з Рымінымі дарогамі?

А ён жа, сазнацца, калі не ўспамінаў пра Рыму, то думаў (ці хацеў думаць), што яна звязала сваё жыццё з яго таварышам. Ды хто б мог дапусціць сабе, што Рыміна пачуццё да Петруся рассеецца патухшым святлом, а любімы чалавек знікне з яе небасхілу? Няўжо яна ехала з Пецябурга ў Маскву, каб там замест Петруся стрэцца з куляю азвярэлага паліцэйскага?

Ці то Пятрусь змяніў сабе, стаўшы праз гэта ўскосным вінавайцам Рымінай трагедыі?

Загадка!

Ды не ў выказ цікавая і нечаканая для Рыгора.

І ён і, тым болей, Пятрусь на працягу амаль ні цэлага года — ні словам пра Рыму. А яно — вунь як!

— Піша, але зрэдку!

Рыгораў адказ не парушыў зацяглае маўчанкі,

якую перарваў нагнаўшы іх сярэдніх гадоў мужчына.

— Гольдберг прасіў зайсці да яго заўтра,— паведаміў той Рыму.

— Мой стрэчны брат, пазнайцеся,— парэкамендавала Рыма.— Каб не ён, выпадкова трапіўшы ў Маскву якраз у дзень майго ранення, я ні за што не выбралася б з лазарэта. Ён, дзякуй яму, дбаў увесь час пра мяне, хоць руінай усё ж пасобіў мне яшчэ на нейкі час церці гэтыя каменні...

— Таварыш ідзе на Раждждэственскія? — запытаў Рымін брат.

— Я еду на Васільеўскі! Можа, Рыма, паедзем да мяне?

Рыма паглядзела на брата, пасля адказала:

— Няхай ужо другім разам.

— Чакаю вас. Прыязджайце з братам!

Той зняў парыжэлы капялюш і, хапіўшы Рыму за руку, павёў яе насустрач грымеўшаму трамваю.

У гэты момант з завіласці Раждждэственскай выбег стрэчны трамвай, нумар пяць.

У адзін момант яны развязлі сваіх пасажыраў у розныя, процілеглыя бакі.

Уражанні ад раптоўнай стрэчы з Рымаю займалі Рыгора праз увесь дзень.

Ён не мог ад іх вызваліцца і тады, калі яму выпадкова давялося даведацца пра зацяжнасць забастоўкі на неакрэслены час.

Трывожная нотка ў паведамленні, якое перадаваў яму напатканы сябра дэлегацыі, коўзалася між вушэй, поўных шаломнага звону ад Рыміных слоў.

Яшчэ дзень — другі, а можа, і тыдзень забастоўкі не таілі ў сабе нічога страшнага для Рыгора. Наадварот, забастоўка несла з сабою развой далейшых здарэнняў узвышанага настрою. Яна глядзела з утулаў абкураных гмахаў бадзёрым узрокам людскога ўздыму. На яе чырвоным фоне густою плямаю чарноты акрэслівалася новае звяно ў ланцугу самотных, незлічоных, але глыбокіх ды балючых трагедый. На хібах хваль, што іх раскалыхвае людскі акіян, шавеляцца нябачнымі жывучкамі штодзённыя гісторыйкі паасобных чалавечых светаў. Незаўважныя ў мільёнах, яны агромністы ў адзінках. Бясследныя для грамады, яны

выпальваюць несціраныя сляды для індывідуумаў. Ціхае заміранне струны глушыць завіруху...

Чорнаю істужкаю працягнулася жалобная палоса падзей, разгарадзіўшы гісторыю Рыгоравага жыцця надвое. Па адзін бок — доўгі марціралог страт, разлукі; па другі — бляск сустрэч, калыханне надзей, нараджэнне вялікіх неспадзяванак...

Дзве лесвіцы, што несупынна рухаюць — адна ўгору, другая ўніз. Гэта жыццё.

Наўсцяж мінулых гадоў, як ахапляе памяць, у шэрай, каламутнай далі — роўна-супярэчнае, калючае, а між тым...

Ступенька за ступенькаю — угору ды ўгору!

— Ты ўжо дома?

Ліба незаўважна для Рыгора апынулася ў пакоі.

— Колькі часу?

— Дзесятая гадзіна. Ты спаў?

— Падобна таму.

— Пра што ты кажаш?

Ліба ўперылася ў мужа здзіўленым узрокам.

— Ты ўсхвалёваны, Рыгор? Непрыемнасці з заводам?..

— Непрыемнасці... Як табе сказаць...

— Забастоўка не скончана?

— Не! Ды не ў гэтым справа.

— Ну, вы ж траціце час.

— Здохнуць, а прастой заплацяць...

Ліба не цалкам згаджалася з Рыгорам. Але яна не хацела раздражняць мужа сваім разувер'ем.

Яна таксама была ўпэўнена, што бягучая сітуацыя не пакрыўдзіць забастоўшчыкаў, аднак не хацела даваць свайго аналізу наступнаму.

## ЧАСТКА ПЯТАЯ

### I

Забастоўка цягнулася болей двух тыдняў і скончылася поўнаю перамогаю рабочых. Рыгор прынёс пра гэта вестку Лібе, як матрос пра зямлю — Калумбу.

Перамога над прадпрыемцамі акрыліла іх абаіх.

Не толькі Рыгор, але і Ліба адчувала сябе героем дня, хоць ад выйгранае забастоўкі ў лазарэце нічога не змянілася.

Там цягнулася жыццё, да прыкрасці аднастайнае, сумнае.

Вайна рабіла сваю справу, калечачы людзей, якія несупынна папаўнялі месцы падлечаных ці памершых. Дзень у дзень ішла гэта нудная, нервовая перасоўка калек; з ранку да вечара цяжэй раненыя нылі ад болю, здаравейшыя — ад суму.

Белымі зданямі мігалася па цесных калідорах неадлучная смерць. Яе не вытручвала едкая ёдаформа, цягучая рыцына, трутлівая карболка.

Гэтыя лякарствы служылі прыправай душнаму паветру, якім мусілі сапсці безнадзейна хворыя і тыя, хто іх абслужваў.

Але ніхто не задумваўся над тым, наколькі скарочвалася жыццё ад гэтай атруты.

Жахі вайны, як цэлага, хавалі ў сабе крывавыя эпізоды, якія складалі яе цэласць.

Тым не меней, нявідныя ніткі працягаліся непасрэдна ад адзінак да агульнага. Кожны ранены быў злучаны з вайною і ад яе канца чакаў свайго збаўлення. У іх вачах з ваеннага туману не ўздымаліся галовы асобных герояў. Хворыя шукалі іх у другім месцы, дый само геройства вызнавалі іначай. Брусілаўскі наступ з сотнямі тысяч палонных ухмыляўся не значнасцю перамог над ворагамі, а якасцю сродку да хутчэйшага знішчэння вайны. Ды кампанія Брусілава ападала ніжэй у параўнанні з апошняю забастоўкаю.

У лазарэце не канчаліся гутаркі пра памятны запрос у Думе пра забастоўкі. Гэты палітычны факт адпіхаў на задні план усе буйнейшыя падзеі вайсковага характару. У забастоўках таілался гібель вайны, рассеянне яе жахлівых вынікаў.

Ліба не ўтаіла пераможнай забастоўкі на заводзе, дзе працаваў Рыгор. Яна ўпляла яе ў агульную сетку тых падзей, якія ўплываюць на раненага лепей ёдаформы ды карболкі. І была рада, што хворыя з паўстаўшай надзеяй пыталі яе ў часе прывітання: што чуваць у рабочых раёнах?

Весткі адтуль прыносіць Рыгор.

Гэтыя весткі поўны бадзёрасці. Рабочыя не тыя, што былі два гады назад. Яны пачулі сілу, якую вось-

восьуплятуць у агульныя падзеі дзяржаўнага жыцця. І ніхто не ручыць, што яно не паверне свае хады ў іншы бок...

Ліба не можа не верыць Рыгору.

Яго словы падмацаваны фактамі. Выйграная забастоўка — адзін з тых фактаў.

Каб не Рыгорава перакананне ў блізкасць вялікіх змен — Ліба не ўседзела б на сваёй службе.

Але яна ажыўляе службу занятым ад мужа натхненнем.

Лібу суцяшаюць інтымныя гутаркі з хворымі — гэта ж яна перадае ім суцешныя, а то і радасныя весткі з-за сцен надаеўшага ім будынка.

Жывыя, праўдзівыя навіны, а не падфарбаваную выдумку...

Лазарэт адрэзаны ад жыцця, ён — частка вайны, хоць вакол яго разгартаюцца падзеі, якія накіраваны на ахову жыцця не толькі хворых, а і здаровых.

Над гэтымі падзеямі рассцілаюць чорны валь штучнага геройства.

Подзвігі Брусілава.

Выступленні Румыніі на баку саюзнікаў.

Патрыятычныя маніфестацыі...

Для каго і каму яны патрэбны?

Чыё пачуццё яны ў сілах распаліць?

Хворыя ў лазарэтах разумеюць сэнс ваяўнічых выкрыкаў тылавых герояў.

Гукі «Коль славен» — для іх адваротныя пахавальныя песні.

Бляск абразоў — палуджаная мана ды ашуканства.

Лемантацыі газет — фальшывы тон разбазыраных пісак.

— Праўда, сястрыца?

Вярней адкажа Ліба — яе адну пытаюць.

Яна разам з Рыгорам устанавіла ацэнку містыфікацыі грамадскіх настрояў.

Няхай уведаюць яе тыя, ад каго праўда схавана.

Выступленне Румыніі суліць новыя жахі зацягнутай вайны.

З-за высокіх муроў сталіцы пазірае здань трэцяе зімы.

Агалелы, змучаны франтавік мусіцьме зноў курчыцца ў холадзе і ў голадзе, у мокрых ды гразкіх акопах.

Акопы, і не дом чакаюць вылечаных у лазарэце.
Тыф і халера.
Адкідкі ў гасцінцах.
Модлы пра смерць.
Да чаго ж гэтыя абразы, гэта агіднае «спасі госпадзі», правакацыйнае «ўра»?
— Праўда, сястрыца?..
Ліба передае запытанне Рыгору.
Бач, і яна не без грамадскіх абавязкаў.
Іх мала, ды ці ж Ліба вінавата?
Рыгор упэўнены, што не; Рыгор задаволены жончыным укладам у агульную скарбніцу карыснай працы...
Завод і лазарэт.
Арганізацыя сіл.
Упартая, сістэматычная праца.
Змаганне з вайною.
І цікавае, сімптаматычнае лета назадзе.
Яно пражыта для другіх.
— І для сябе?
— Наша шчасце залежыць ад агульнага.
Ліба пераконана ў гэтым не слабей Рыгора. Як і ён, яна не заўважыла, калі светлыя доўгія дні сціснуліся ў вузкія палоскі сямігадзінных прамежкаў.
Як і ён, яна загубіла пахаладаўшае сонца ў цягучых асенніх хмарах, у праліўных дажджах.

## II

Цёплыя дні ліпеня і спакойная ўмеранасць жніўня рассыпаліся ў руплівай бегатні Рыгора з дома на завод, з завода ў харчоўку, адтуль назад, а вечарам — упярэмежку — то на сходы, то ў партыйны камітэт, то на тайныя яўкі.
Ліба — нязменна і роўна — з дома ў лазарэт, з лазарэта дамоў.
Трапунковыя стрэчы... Мігатня, як на экране...
Людзі і час...
Машыны...
І лістапад на двары...
Няўжо лістапад?
Адным днём разбуджаны сірэнамі заводаў Рыгор паглядзеў на каляндар:

Так — другое лістапада.

— Цікава, што адбылося ўчора ў Думе?

Але Ліба нешта ўзмоцнена сапе.

— Ліба?

Крохкае дакрэненне рукі засталося без адказу. На пачырвоненым ілбе адбіўся Рыгораў пацалунак.

— Рыгор?

— Ты хворая?

— Я ўся гару.

— Бачу, мілая. Я пазаву доктара.

— Не клапаціся, прашу, і ідзі на працу.

— На працу? Бязжаласная, ці ж я магу цябе пакінуць?

Растрывожаны Рыгор хутка бег да доктара. Ці застане яго ў лазарэце? І чаму, канечна, ардзінатара?

Ну, Лібіна ж хаценне — свята.

Яно заставіла прывезці ардзінатара на кватэру.

— Што з ёй?

— Уся ў агні.

Ардзінатар супакоіў абаіх.

— Я вас чакаю, Ліба Шлёмаўна.

Лібіна ўхмылка асвяціла Рыгораў твар і, здавалася, пакой.

— Няўжо сумею хутка падняцца? Не верыцца, доктар...

І, перамяніўшы тэму, запытала:

— А як мае хворыя, доктар?

— Чакаюць вас і канца вайны... Прыходзьце, сястра...

Доктар паглядзеў на Рыгора.

— Мілюкоў у Думе ўчарашняй прамовай нарабіў многа шуму,— сказаў ён.

— Доктар яе чытаў? — запытаў Рыгор.

— Маю сёння паслухаць.

— Нават?

— Папраўляйцеся, сястра...

Калі ардзінатар павярнуў да выйсця, пачуўся стук у дзверы.

Рыгор адчыніў і ўгледзеў перад сабою Анікея.

— Прашу. Пазнайцеся: ардзінатар лазарэта!.. Анікей Кузін!

— Ліба Шлёмаўна ў пасцелі?

— Вы мяне не турбуйце... Здараецца...

— Так, яна падкачала... Ды не забывайце прымаць прапісаную мікстуру...

— Дзякую, доктар...

— Вы чулі пра ўчарашняе? — запытаў ардзінатар Анікея.

— А хто не чуў?

— Падзеі шпарка развіваюцца...

Ардзінатар закончыў сказ па-за дзвярыма пакоя. Ён не паспеў зыйсці з усходаў, як Анікей задаволена разгарнуў перад Рыгорам перапісаную на машынцы партыйную адозву.

Ліба настарожана слухала пачатае ўслед за гэтым чытанне.

## III

— Значыць, будзе па-загаворанаму?

Рыгор лісліва паглядзеў на Лібу, чакаючы яе адказу.

— Добра.

І хоць у Лібіным слове нельга было абмацаць жаданай Рыгору цвёрдасці, ён адплаціў ёй за адказ пацалункам.

— Я папрашу гаспадыню, няхай яна табе згатуе...

Ліба памкнулася пераняць Рыгораў намер, але да яе ўжо неслася гутарка гаспадыні.

— Добра, Рыгор Міхасевіч, добра. Не клапацецеся, будзьце спакойлівы...

«Навошта яму турбаваць чалавека», занедаволілася Ліба і дэманстрацыйна паднялася з пасцелі.

Яна не чакала, што Рыгор вернецца ў пакой, і накіравала да акна.

Рэдкі ў лістападзе сонечны дзень раптам затуліўся чорным валем, калі да Лібы данесліся нечаканыя словы Рыгора:

— Ты ўстала?

Яна пугліва азірнулася назад.

— Я адчуваю сябе ў сілах падняцца.

Абвіўшая яе стан Рыгорава рука дазволіла яму ўсумніцца ў Лібіных словах.

— Усё ж, я раджу табе паляжаць сённяшні дзень. У цябе не прайшоў жар... Гаспадыня табе згатуе, што скажаш...

— Навошта было турбаваць чалавека?

— Не будзь каразлівай... Лажыся.

Рыгор пачакаў, пакуль Ліба выпаўніла яго просьбу, і сам далікатна апрануў яе да шыі.

— Ты спознішся на працу!

— Бягу! Бывай, мілая...

Частыя крыкі па пакоі зліліся з ціхім стукам дзвярэй. Следам бразнула зашчапка ў выхадных дзверах, і гулкі тупат па ўсходах засведчыў Лібе, што Рыгор паспяшыў у завод.

Яна ў роздумах праляжала не болей таго часу, які патрабаваўся Рыгору на тое, каб дайсці да завода. Пасля задрамала.

Незнаёмы для яе завод з яго экзатычным і разам з тым чарствым ды грозным жыццём маляваў у яе мазгах заблытаныя, казачныя сцэны снення. У мігатні агромністых ценяў вырастала невыразная, туманная постаць Рыгора. Ён на момант рабіўся асяродкам эксцэнтрычнага руху, следам, вачавідкі, вырастаў у казачнага волата, пасля раптам знікаў. Калі Ліба напружана чакала яго новага з'яўлення, на заводзе паднімаўся стук і гоман. Было прыкметна, як гіганцкі молат апускаўся над гэткім жа кавадлам. І яксьці выходзіла так, мэрам бы гэты молат тоўк людскія галовы. Пасля зусім незаўважна з туманнае мігатні заводскае працы выніклі шэрагі людзей у лазарэтных халатах. Знаёмы ардзінатар іх гнаў да кавадла...

Што за прымха?

Канцэнтрычны, нервовы ўздрыг вярнуў Лібу да сапраўднасці.

Яна расплюшчыла вочы і агледзела пакой,— лістападаўскае сонца залаціла яго сцены і доўгімі шнуркамі расцягалася па блакітнай коўдры на яе постаці.

— Ну, я ж чую сябе зусім здаровай!

Ліба сказала гэта не для адной сябе — няхай ведае кожны, усе, гаспадыня і Рыгор, раненыя і ардзінатар лазарэта.

Так! Уставаць!

Лёгкі скрып ложка зліўся з стукам дзвярэй.

— Вы будзеце есці курыны бульён?

Ліба абярнулася ў здзіўлены пытальнік, але гаспадыня заверыла яе:

— Я вам звару.

— Не турбуйцеся, калі ласка.

— Рыгор Міхасевіч прасіў мяне, і я адшукала на рынку на рэдкасць тлустае куранё...

— Дзякую... Я папрашу вас на пазней...

— У любы момант, Ліба Шлёмаўна.

Між апошнім сказам і паваротам да выйсця гаспадыня з хвіліну разглядала прыўстаўшую на ложку Лібу. Спагадлівы ківок яе галавы супярэчыў Лібінаму настрою.

Гаспадыня не зайшла яшчэ ў свой пакой, як Ліба напалову была гатова адправіцца ў лазарэт.

Наступныя трыццаць хвілін пайшло на тое, каб яна прыбрала пасцель, напісала цыдульку Рыгору і ціш-ком, непрыметна для гаспадыні, выйшла з кватэры.

Цёплае надвор'е спакойлівага асенняга дня абдало яе радасцю існавання. Усё ж гэтай радасці не хапала для цвёрдасці Лібінай хады. Блытаныя крокі і шолам у галаве сведчылі за дачаснасць выйсця на вуліцу.

Але вяртаць на кватэру — то значыла даць волю сумненню, і Ліба ўверана накіравала да лазарэта.

Яна задыхалася, паднімаючыся па ўсходах на трэці паверх, і з перабоямі адказвала на прывітанні хворых, сясцёр і прыслугі. Ардзінатару ж хвалілася выздараўленнем.

Той гасцінна сустрэў яе прыход на службу, тым не меней парадзіў Лібе на першы раз не заседжвацца.

— На сёння хопіць для вас пары гадзін.

— Я магу, ведаеце...

Аўтарытэтны ўзмах ардзінатарскай рукі сведчыў за лішняе спрачацца.

Ліба адказала на гэта невыразнаю ўхмылкаю на стомленым твары і спакойліва пайшла ў абход палаты.

Яна радасна сустрэла першыя прывітанні ад паздаравеўшых за апошнія дні хворых. Але не паспела выказаць ім свайго спачування, як з суседняй палаты накіраваў да яе якісьці чалавек.

— Здаецца, вы жонка Рыгора Нязвычнага? — пра-казаў ён, падышоўшы да Лібы.

— Так... А вы?

Лібе не трэба было чакаць яго адказу,— яна ўспомніла Камара і першаю прывіталася з ім.

— Як добра, што я вас сустрэў,— нервова ды рассеяна праказаў той.

— У чым справа?

— Вунь...

Камар абярнуўся да палаты, з якое падышоў да Лібы:

— Прывезлі з фронту раненага ў голаў Артура Цвібеля.

— Артура Цвібеля?!

— Рыгор яго ведае... Ён працуе?

— Пайшоў.

— Давайце пазвонім яму на завод... Ранены наўрад ці выжыве да заўтрага...

Ліба порстка сарвалася з месца і пайшла з палаты. За ёю спяшыў Камар, а следам ляцелі зацяжныя глухія стогны Артура.

— Ліба Шлёмаўна, вам пара канчаць працу,— перабіў Камара ардзінатар, выходзячы з канторы.

— Дзякую, доктар, я зараз... Там тэлефон вольны?

— Напэўна.

Яны да таго старанна шукалі патрэбнага нумара тэлефона, што зусім не заўважылі на кінутага фельчарам запытання, ні адказу на яго зазірнуўшага ў кантору Рыгора.

Трэба было гучна выказаць Лібіна імя, каб яны адвярнуліся ад тэлефоннай кніжкі і нечакана для сябе ўгледзелі Рыгора.

— Рыго-ар? — схамянуўшыся, запытала Ліба і выпусціла правую палавіну кніжкі...

— Ах, Ліба!.. Я ж цябе прасіў!.. Забылася?..

З Камаровых рук выпала кніжка і моцна бразнула разлітай чарнільніцаю.

— Выбачайце! — павярнуўся ён да фельчара, які нездаволена мармытаў па адрасе Камара.

— Залілі ўвесь стол,— як неасцярожліва! — узнятым тонам праказаў фельчар.

Яго не слухалі: Камар лічыў дастатковым аднаго слова, каб выкупіць віну за пралітае чарніла, а Ліба зусім не зважала на інцыдэнт. Яна няўверана, вінаватаю глядзела Рыгору ў вочы і не ведала, што яму адказаць.

Гэта яе згубленасць заставіла Рыгора перамяніць здзіўленую міну на ласкавы выраз твару, а далейшую гутарку — на пантамімны паказ Лібінай цыдулькі.

— Даруй, ведаю гэта,— адпіхнула яна Рыгораву руку.— Зараз не да гэтага: мы вось прыбеглі ў кантору, каб выклікаць цябе з завода. Сёння зранку прывезлі ў лазарэт напаўжывога Артура Цвібеля...

— Артура?!

Рыгор падаўся тулавам да Лібы і раптам наноў выпрастаўся, калі Камар хапіў яго за руку.

— Давай паспяшымо наверх... Хутка скончыцца тэрмін наведак.

— Сапраўды, Артур? — перапытаў усхвалявана Рыгор.

Ні Ліба, ні Камар не паспелі пацвердзіць паведамлення — іх звала прыбегшая сястра падняцца ў палату да раненага.

— Ранены вас настойна просіць да сябе...

Рыгор першым пабег па стромых усходах, пакінуўшы далёка пазадзе і Камара і Лібу.

Ён ужо набліжаўся да абступленай лазарэтным персаналам койкі, калі ў яго ваччу мільганулі плаўныя, спакойныя ўзмахі ардзінатарскіх рук, а ў вушах прашапацела зацяжнае:

— Га-а-то-а-ва-а!

Гэта спыніла Рыгора ў трох кроках ад памёршага Артура.

Тут яго нагналі Камар і Ліба.

— Сто-ой-це-э! — спакойліва, мэрам бы баючыся нарушыць урачыстасць Артуравага пераходу ў небыццё, праказаў Рыгор.

Камар застыў у здзіўлена-роспачнай позе, гледзячы ашклянелымі вачыма ўсцяж вузкага прагалу між койкамі; з Лібінага ваччу выхілястымі рагамі ацякалі буйныя слязіны.

Сястра і фельчар, абое маладыя, з несышоўшаю ўхмылкаю са свежых твараў, увіхаліся каля пасінеўшага твару нябожчыка.

На суседніх койках хворыя ўталоплена сачылі за кожным рухам усё яшчэ не выйшаўшага з палаты ардзінатара.

Яшчэ цішэй, калі можна ацішыць цішу, зрабілася ў палаце лазарэта, калі з дзвярэй увайшло пара служыцеляў з белымі насілкамі...

Іх уваход раптам сарваў з месца Рыгора і Камара, якія ў пярэймах апынуліся каля нябожчыка і адзін за другім палажылі на яго халодным ілбе два гарачыя пацалункі...

Следам асцярожлівы тупат служыцеляў, што выносілі Артура з палаты, патануў у з'яднаным развітальным уздыху сотні раненых.

Вырваўшыся з белых сцен палаты, ён зліўся ва ўваходных дзвярах лазарэта з зычлівым роспачным плачам Артуравай жонкі.

Маладзіца разнятымі рукамі перагарадзіла служыцелям дарогу, галосячы:

— Мой мілы, Арту-у-р, мой, дарагі-ы... Я ж чакала цябе ў госці-ы, як сонца ўвосень, як...

Яе плач ды прычытанні чуліся далёка па-за будынкамі лазарэта, зліваючыся з вострым затоеным жалем у Рыгоравым, Камаровым ды Лібіным нутры.

## IV

— Гэта нумар кватэры пятнаццаць?

Той, што пільна ўглядаўся ў шэрую клямку над дзвярыма, адвярнуўся ад пытаўшага.

— Або разбярэш!

— Пазванеце...

— Я ўжо хацеў, але не абмацаць званка...

— Дазвольце-э толькі...

Падышоўшы каўзануў рукою па правым вушаку:

— Няўжо жывуць без званка?

— А то ж неправеменна ён кожнаму?

Падышоўшы зацікаўлена паглядзеў на суседа і запытаў:

— А вы ж да каго?

— Да Рыгора Нязвычнага. Ды ці тут ён?

— Да Рыгора?! Мы як згаварыліся.

Знадворны выгляд вострa адрозніваў абодвух, што кожнага цішком інтрыгавала.

— Трэба стукаць! — парадзіў той, што прыйшоў першым.

Але яго рада не дачакалася ажыццяўлення. Зняцку стукнула зашчапка дзвярэй, і на парозе адзначыўся чырвоны крыж на белым фоне грудзей.

— Вам каго?

— Рыгора Нязвычнага!! — пачуўся падвойны адказ на запытанне.

— Калі ласка!

У асветленым калідоры мігнуліся між Лібу аброслы, у запыленых ботах ды зношанай суконнай жакетцы Сёмка і стройны, чыста выбрыты, у чорным адмысловым паліце Пятрусь.

— Направа, вось-вось! — адказала Ліба і порстка кінулася адчыняць дзверы.

— Раздзеньцеся ў пакоі,— папярэдзіла яна гасцей.

Тыя непарушным парадкам прайшлі ў Рыгораў пакой і поруч сталі перад стрэўшым іх Рыгорам.

— Згаварыліся? — кінуў ён запытанне, цёмнае ды няяснае для абодвух.

Наступны момант засведчыў сабою цёплае прывітанне трох сяброў, якія знянацку для кожнага стрэліся на кватэры Рыгора.

Найболей гэта стрэча інтрыгавала Сёмку, які нервова пацепаў плячыма, паўтараючы:

— Ніколі б не падумаў на Петруся... Гляджу і хоць бы думка закралася...

Пятрусь прызнаваўся таварышу ў тым жа:

— Так моцна змяніцца! Хто б мог дагадацца!..

Абмеркаванне цікавага здарэння нечаканай стрэчы адняло каля гадзіны часу.

Далей іхняя гутарка паступова перайшла на тэмы, якія паслужылі прычынаю спаткання.

Першым да іх звярнуўся Сёмка.

— Я прашу выбачыць мне, Рыгор, што я так бесцырымонна зноў да цябе з просьбай, — перасцярог ён.

— А ты падалікатнеў, я бачу! — пасмяяўся Пятрусь.

— Жыццё вучыць усяму, браток...

— Ды ўжо ж!

— Як бачыш...

— Далікацтва, я думаю, на гэты раз не зусім і патрэбна,— расхаладзіўся Рыгор.

Ліба ўголас засмяялася.

— Апрашчэнец які!

— Вось бачыш! — ткнуў пальцам Пятрусь.— Жонка з табою не згодна.

— Тут гэтай згоды не канечна...

— Так... Чакайце, мужчыны...

Сёмка не даказаў і задуменна адышоў да акна.

Яго вярнула Ліба, падаючы яму руку:

— Бывайце здаровы!.. Я пайшла...

— Куды ж вы?

— На службу...

— І нядзеляй?

— Бачыце...

Рыгор правёў Лібу з пакоя і, вярнуўшыся, праказаў да Сёмкі:

— Ты, я бачу, не ў настроі.

— Відаць,— далучыўся Пятрусь.

— Ёсць вядома, што мой настрой не да вашага... Глядзеце...

Сёмка зноў адвярнуўся да акна і, адвярнуўшыся, гаварыў далей:

— Прывёз дзяцей і старую ды кінуў у калідоры бежанскага камітэта галоднымі. Тут не да настрою... Памажэце, браткі... Рабіць магу і ўмею што хоць, нават найцяжэйшую работу, але складаецца так, што і гэтага нельга: як абітую апуку, кідае мяне жыццё па сваіх каўдобах... Памажэце... не грашыма, а працаю, месцам!.. Рыгор!..

— Ты тут з дзецьмі?

— А на каго іх кіну?

— Нават так?

Пятрусь прыўстаў з месца і пільна пачаў углядацца ў Сёмку. Яго таварыш, сапраўды, выклікаў да сябе спагаду.

## V

Худы, пажаўцелы Сёмкаў твар, яго павялічаная сутуласць, закаржэлыя, мазолістыя рукі, бедная апранаха — сведчылі Петрусю за ніякаватае жыццё Сёмкі. Не бачачы яго доўгі час, Пятрусь быў спакойным пра яго. Ён ведаў тыя ўмовы, у якіх жыў Сёмка ў Сілцах, дагадваўся пра магчымыя ў ім змены. Аднак сапраўднасць выявіла інакшае. Сёмка безумоўна няшчасны чалавек. Бежанства зблытала яго разлікі, выбіла з-пад ног падпору і вось — перад ім бяздомны валацуга. Факт казаў за сябе і казаў балючую праўду.

Пятрусь адчуў, што і ён вінен у сухой безудзельнасці да Сёмкі. Пра яго казаў Рыгор, стрэўшыся з Петрусём у Мінску, між тым... А пасобіць Сёмку пры жаданні Пятрусь мог бы. Колькі было выпадкаў даць чалавеку працу, дапамагчы абсталявацца на месца. Сёмкі ж ён не ўспомніў.

Ці не колкім укорам яму зычаць Сёмкавы словы? Калі так — Сёмка праў, хоць і непрыемна гэта Петрусю. Ніякавата тым болей што Рыгор у гэтым яго па-

пярэдзіў. Рыгору Сёмка многім вінен, а яму — Петрусю?

Самакрытыка паступова ахапіла доўгую палосу мінулага. Нельга сказаць, каб на ім вызначалася шмат светлых плям, адложаных Петрусёвай чыннасцю. Наадварот: Пятрусь нявольны ад самапапроку і ў справе Гэлі.

Няўжо ў яго натуры, насупраць жаданню, закладзена адмоўная рыса халоднасці і безудзельнасці да людзей і нават блізкіх?

А Рыгор?

А шэраг чужых, малазнаёмых людзей, за якіх яму прыходзілася столькі прасіць, часамі прыніжацца?

А Рыма, для якое ён рашыўся на рызыкоўныя крокі?..

З Сёмкам — прыкры выпадак. Трэба было спаткацца з ім у Рыгоравым пакоі, каб гэта яскрава адзнаць. Павінна было нейкі час пабыць з ім разам, перакінуцца дзесяткам-другім сказаў, успомніць на ляту мінулае, каб адчуць сваю вінаватасць перад Сёмкам. Наяўнасць гэтага, а не што іншае, сабрала, нарэшце, Петрусёву цёплую ўвагу на таварышу.

— Ты, зразумела, не маеш грошы, каб?.. Колькі магу, я табе пасоблю, Сёмка, а далей...

— Мне б працу якую ды сям'ю прытуліць пад страхою... Дзякуй яму, Рыгор быў уладзіў у атрад, і, здавалася, больш нічога непатрэбна... Але вазьмі ды змяніся начальнік, і ўсё шыварат-навыварат... Перагляд рабочых, і я са старшага рабочага зноў на дарозе, але ўжо без каня. Да Ступак даехаў, а з іх — невядома куды... Што зарабіў, выручыў ад біткі, ад паламаных драбін — пайшло на Вольку... На дарогу ж...

— Ці ж не вядома?

Рыгор перабіў Сёмкаву споведзь і сеў пісаць запіску кароценькаму чалавеку з бежанскага камітэта.

Пятрусь нервова закалупаўся ў ісподняй кішэні жакеткі.

Сёмка бесцікаўна насіўся ўзрокамі па высокіх мнагаваконных будынках з процілеглага боку вуліцы.

Тым жа момантам Петрусёва рука пацягнулася за Сёмкам з моцна змятаю дзесяцірублёўкай.

— Даруй, што я так бесцырымонна, але ж мы таварышы і... пачуццё салідарнасці — наш абавязак... А за мінулае — я перапрашаю...

Было нечаканым для ўсіх, уключаючы і Сёмку, яго раптоўны паварот да дзвярэй, таіўшы ў сабе вынікі разгойданай роспачы.

— У чым справа? — усхапіўся з-за стала Рыгор, складаючы напісаную цыдульку.

Прайшло доўгіх пяць хвілін, пакуль Сёмка вымавіў слова.

— Дзякуй!

— Дзе б і калі б, толькі не тут і цяпер! Кінь, Сёмка! Мінулых страт не вернеш, а ў будучым — усё наша.

Рыгор правёў свой сказ да таго пераконанай ухмылкай, што перад ёю Сёмка не ўстояў.

— Даняло, браткі!.. Ведаеце — жалезным будзь, а падасіся. Гэта ж уявеце сабе! Гэткі цяжкі шлях! Змагаўся, колькі хапала сілы... Нарэшце стаў падавацца... І каб не вы — не ведаю, чым скончылася б... Што я адзін, без жонкі, з дзяцьмі, і без грошай?..

— Я цябе запэўніваю, Сёмка,— пераняў яго Пятрусь: — патрабуецца не больш тыдня, як ты інакш загаворыш. Вельмі добра, што выпадак нас звёў з табою... Кінь сумаваць!.. Мы перад лепшым — горшае пазадзе.

Цёплае таварыскае пачуццё крута перамяніла настрой Сёмкі і нават вярнула некаторыя надзеі.

Сёмка выйшаў на вуліцу, як падкаваны.

Ён адчуў сябе бадзёрым, адноўленым і ўверана ступаў па каменнях, як па траве.

У Сёмкавай кішэні шапацела Рыгорава пісулька, а ў другой — Петрусёва дапамога, далей жа... Ён не мыляўся, калі ўвяраў сябе, што далей таварышы пасобяць яму выбрацца на раўнейшую дарогу...

Па яго ўжо слядах нясліся іх клапатлівыя планаванні наконт гэтага.

Пятрусь абумаўляў сябе перад Рыгорам дэкларацыяй афармлення Сёмкавай справы. Рыгор дапаўняў Петрусёва дбанне сваімі меркаваннямі.

— Я прызнаюся табе, што я не ўяўляў Сёмкі ў гэткім стане, як зараз стрэўся...— казаў Пятрусь.— Мабыць жа, калі гляджу на яго, а жаднае адзнакі, што перада мною Сёмка... І толькі ўвайшоўшы ў пакой...— ёкнула сэрца... Шкада мне яго!

— Чалавек, сапраўды, напакутаваў апошнім часам... Трэба моцную волю, каб устаяць пад дажджом няшчасцяў, якія на яго пасыпаліся... Я помню, якім

прыехаў ён да мяне... Жабрак... Потым смерць бацькі, Волькі, пераезд у Пецярбург... Чалавеку...

Абодвух, і Рыгора, і Петруся, расчуленыя сэрцы моцна адбывалі ўзгодненую музыку спачування Сёмку, калі раптоўны выгук гаспадыні крута абарваў іх:

— Да вас, Рыгор Міхасевіч!

Бліскучыя гузікі гарадавіка запярэсцілі ў ваччу мужчын.

— Вам што ад нас? — запытаў Рыгор, ускочыўшы з месца.

— Я... бачыце... Толькі што на Сярэднім праспекце зарэзаны трамваем чалавек... Па дакументах — Сёмка Хведараў Загон... Перад скананнем прасіў паведаміць... Ізвольце наведаць паліцэйскі ўчастак... для допыту.

— Як?! Што-а?! Дзе-э?!

Сухія жорсткія словы гарадавіка затраскацелі шротам у Рыгоравых ды Петрусёвых вушах, мяртвілі іх вусны і глушылі іх, пакуль яны не ачуліся на вуліцы... Гарадскі грукат разбіваў балючую нечаканасць шаломнасцю свае зацяжнай аднастайнасці...

Пад гэтым грукатам ніклі і не ў меру зычныя выгукі газетчыкаў, што голасна крычалі чарговую навіну ва ўнутранай палітыцы:

«Назначэнне Трэпава старшынёю міністраў»...

## VI

Жнівеньскія дні, што адзначылі сабою кульмінацыйны ўздым вайсковых падзей 1916 года, змяніліся зацяжнымі асеннімі навінамі з фронту. Навееныя брусілаўскім наступам на паўдзённым фронце задзёр і патрыятычная кічлівасць расплыліся ў надышоўшым зацішшы.

Уваход Румыніі ў вайну таксама ненадоўга падагрэў раскалыханыя надзеі расійскай ваяўнічай буржуазіі, ваеншчыны да адуранага мяшчанства. Штучна створаны настрой замёр помеж з сістэматычнымі няўдачамі саюзнікаў на Румынскім фронце. Патрыятычныя маніфестацыі чыноўнікаў ды крамнікаў, генеральскіх жонак ды царкоўных служак, газетны голас і ўся іншая бутафорыя падагрычнае радасці непрыемна раскалі ў асенніх туманах ды дажджах.

Тым часам дажджы ды туманы зусім не хавалі сабою тых адзнак, якія выразна казалі за ўпартую стойкасць даўно асуджанай на здачу ці на галодную смерць Нямеччыны. Газеты штодзённа няслі весткі пра жорсткія бойкі на Заходнім фронце. Як і год назад, немцы не здаваліся пад націскам «славутых» саюзнікаў. Разбураная Бельгія і захопленая Польшча дзень ада дня бліжэй знаёміліся з адміністрацыйным прускім абсацам. Хутка з-пад яго выціснуўся фальшывы, ліцамерны акт пра незалежнасць Польшчы. Акт грымнуў над галовамі саюзнікаў не слабей саракадзвюхцалёвага снарада. На нейкі тэрмін ён заглушыў сабою гутаркі пра замірэнне, дробныя поспехі румын і нават зацяжную ўпартасць непаслушных грэкаў кінуцца ў вайну на баку саюзнікаў.

У бясслаўным забыцці ляжала нікчэмная, хлуслівая дэкларацыя, даная той жа Польшчы галоўнакамандуючым Мікалаем Мікалаевічам. Напісаная ў апартаментах царскіх палацаў, яна згубіла свой эфект у пакоях княгіні Патоцкай...

Царская міласць, паабяцаная Польшчы ў пачатку вайны, ляжала ў архіве крывавае гісторыі. Незалежна ад яе, як і ў баку ад нямецкага акта, ■ грукату гармат ды з дыму пажараў вырастала самастойная белая панская Польшча. У заблытаным пераплёце падзей ёй спрыялі крывавыя ўмовы заклятае пары. Але ўсё тое, што звязвалася нараджэннем буржуазнай Польшчы, танула ў прыкрай штодзённасці расійскай сапраўднасці. Рыса франтавых акопаў, праведзеная да канца 1915 года, ляжала непарушна на тым жа месцы. Яна мэрам бы ўвайшла ў значэнне граніцы, перасунуць якую не хапала ні сілы, ні сродкаў, ні жадання.

Многамільённая армія разгубіла сваю сілу ў галадзе ды холадзе, у хваробах ды вайсковай непадгатаванасці. Паступова адзнаная ёю непатрэба, бязмэтнасць і праступнасць вайны падмацоўваліся шпаркім поступам абяднення, руйнавання краіны.

У шырокіх гушчах зблытаных вайною людзей вырасла магутнае пачуццё пратэсту... Гэты пратэст калыхаўся над зямлёй пакуль невыяўна і скрытна, але ачула і магутна. Ім нясло ад мнагалікіх чэргаў на вуліцы сталіцы, яго дэманстравалі непарыўныя забастоўкі рабочых, ён глядзеў са сцен казарм, напоўненых апошнім рэзервам здаровых людзей, ратнікамі другога разраду.

Гэты пратэст прасочваўся ў белых плямах газет, у разбураным чыгуначным руху, за сахою ў полі, на лазарэтнай койцы...

Нарэшце, першага лістапада, у зале Таўрыцкіх палацаў, напалоханы яго ўздымам, правадыр буржуазіі Мілюкоў паднёс яго сляпым, адранцвелым ценем з прыдворных сфер.

То быў бляск у чорнай ночы, які не разагнаў цемені, а разварушыў яе жыхароў... Раз'юшаныя здані доўгае драпежнае ночы занасіліся ў шалёнай завірусе сударжнага канання... У пераддзённым змроку адбывалася чортава вяселле, ачмуцелае ігрышча, ведзьмін карагод, які адначасна высосваў апошнія сокі краіны...

Як у смярдзючай бросні, танулі ў гэтай ночы ўзмоцненыя гутаркі пра замірэнне. Той, хто сударажна ўтрымліваў выкаўзаючую ўладу, губіў чуласць і розум, другі, каторы прогся яе палудзіць буржуазнай грамадскасцю, не меў сілы пераняць прапазіцыі...

Абаіх трасло нервовае чаканне выступу Амерыкі. Яе пасрэдніцтва ў міравых прапазіцыях калола безнадзейныя сэрцы атрутнымі іголкамі...

Калі ж, ды калі ж, нарэшце, выступіць Амерыка?

Над буржуазіяй павісла гэтае трывожнае запытанне і побач — наступны бязмоўны адказ: «Дазвольце, для гэтага знойдзецца рада — «Грамадскасць»...

Яна знойдзе дарогу... Не ў той тлуманіне бесціханых змен міністраў, не ў экстраных планах наступнае кампаніі, а...

Расію, яе перамогу над ворагам губіць адзін чалавек — Распуцін!

— Гэта чмара бязглуздага стану, увасабленне бяспомачнага, загнілага парадку...

Пракляты шаснаццаты год — бяры яго сабе ў афяру!

І ў адну хвіліну...

Подзвіг? Манеўр?

Сталіца настаражылася.

Юсупаўскі палац вырас у штосьці агромністае, нечуванае, да чаго ў адну раніцу збегліся мільёны ўзрокаў. Уздыбленая ўпершыню за мінулыя два з палавай гады цукровая сенсацыя.

Фантанка!

Незнаёмыя аўтамабілі!

Вядомы, безыменны дэпутат!

«Ліберальны» князь...
Расхваляваны натоўп.
Рэзвыя гутаркі ў тэатрах, кіно, на вуліцах, у кожным доме, кватэры, сям'і.
Перазвон тэлефонаў!
Нечуваны тыраж газет...
Далей:
Пятроўскі востраў.
Пулкава.
Патайныя інтэрв'ю з маткаю «вядомага» дэпутата.
Гутаркі ў кулуарах Думы.
І —
Жалезная ўздэчка цэнзуры на друк...
Белыя, доўгія плямы...
Канфіскацыі ды штрафы...
З новым годам!
«Што ён прынясе змучанай краіне? Што нясе новы год?»
Вось яго першыя крокі!
На аб'індзявелых сценах рагавых будынкаў указ пра адтэрмінаванне заняткаў Думы...
І побач — паведамленне пра адсутнасць белае мукі і круп...
Да чаго ж і каму і навошта гэтыя крохкія, няўвераныя чуткі аб разрыве зносін паміж Амерыкай ды Нямеччынай?
Навошта і зачым асобная нарада для выпрацоўкі асноў будучага дзяржаўнага ўстройства Польшчы?
А-а! Новая падачка адцанелых паперак мільёнам бежанцаў.
Ха-ха-ха!
— Чытала, Ліба?
— Я ўжо сама губляюся ў гэтым скоку ведзьмаў...
Яна адлажыла газету і пацягнула Рыгора за рукаў:
— Прысядзь ды раскажы мне толкам,— табе, пэўна, лепей вядома...
Рыгор у гэты момант якраз быў у павышаным настроі.
Апошнія падзеі сустракалі ў іх на заводзе жывы водгук. Яны настаражвалі кожнага рабочага, сеючы ў душных майстэрнях надыходзячую трывогу. Бягучы момант не сходзіў з абгавору, глушачы ўсе іншыя пытанні. Саматугам расла, гартавалася і крэпла баявая гатоўнасць, якая абяцала раптам, у адзін міг, абарваць

разбег машын, стук малатоў, калыванне пілак і пхнуць на вуліцу з'яднанай грамадою тысячныя гушчы рабочых...

Гэты міг насіўся ў халодным паветры пецярбургскіх аколіц, і яго блізкасць хвалявала навостранае чаканне...

Рыгор прыйшоў на кватэру якраз са сходкі, дзе гутарка ішла пра заўтрашні дзень.

— Я адно табе магу сказаць, Ліба, што ўсё ідзе да аднаго развязання... Мы перада днём падзей, якіх трудна ўявіць... Пытанне ў часе — усяго... Можа, заўтра, можа...

— Гэта ж заўтра адчыняюць Думу? — праверыла Ліба, падазрона гледзячы на Рыгора.— Ты, пэўна, не абмінеш, каб не адзначыць гэты дзень той ці іншай дэманстрацыяй?

Яна ўсміхнулася і з цікавасцю стала чакаць адказу.

— Ты непакоішся, я бачу?

— Паверыш, Рыгор, у апошні час... Слухай, адно... Уяві, што табе суджана стаць бацькам, а разам...— я часта думаю над гэтым і ўсё адкладваю, каб падрабязна абгаварыць з табою... Некалі, і ўсё гэта будзёна, шэра, няпраўда мо? А наступнае — так цікава і, паколькі яно звязваецца... ну, ты разумееш, Рыгор?.. Задача, чую сама, але за нас ніхто яе не рашыць...

Раптоўнасць і навіна, што прагучалі ў Лібіных вуснах, на момант спавіла Рыгора шаломнасцю. Ён не толькі не меў, што казаць, а і бязмоцны быў, каб аб чым выразна падумаць. Да яго вярнуўся міг, хвіліна, падобныя якім даводзілася сустракаць пры памятных гутарках з Ганнаю, пасля з Лібаю і, між гэтым, з Наталяю. Ну, то ж быў час далёка няроўны сучаснасці. А зараз... Значыць, нанава, чарговы раз, жыццё хапала за фалды і адцягала Рыгора да зямлі ад яго надземных узлётаў.

— Небесцікава ўсё гэта, Ліба, зразумела...— праз нейкі час, мэрам бы ацверазіўшыся, праказаў Рыгор, паспеўшы прамераць некалькі разоў пакой, а пасля ценька прытуліць да сябе Лібу...— Заўтра ў нас забастоўка, і я разам з іншымі іду да Думы, але ж...

Ён прабег вострым, пільным узрокам перш па твары Лібы, а следам па яе папаўнеўшых грудзях і па прыметна ўзвышаным жываце...

Бледнасць і лёгкая заўпаласць Лібіных шчок, украдлівая жаўцізна з рэдкімі плямамі рабацення, крыху як бы павузеўшыя губы — усё гэта праліло ў яго нутро якуюсьці пякучую і разам ■ тым халадзеючую струмень... Яна ўсплыла на сэрца, сціснула клапаны, зацюкала ім наўздзіў моцна, здавалася яму, нават чутно для Лібы...

— Ты чуеш сябе дрэнна, Ліба?.. Ну, а чаму ты мне дагэтуль не хацела казаць?.. Хоць я, ведаеш, адчуў ужо тады, калі ты раптам захварэла...

Ускосны ўзрок зноў абмыў задуменны Лібін твар.

Вобраз мадонны з малым на руках мігнуўся ў яго шырокарасплюшчаным ваччу...

Далей адчынілася нязмерная палоса шэрых аднастайных праглядаў у затуманеную далечыню...

Пасля вырасла вузкая шчыліна-каморка, густа заграмаджаная незнаёмымі рэчамі...

Нарэшце, здалася сумная восеньская ноч, на фоне каторай раптоўна знікла белая палоса фартуха і заўсёды абудлівая чырвань крыжа...

— Я не хацела атуманьваць тваіх настрояў, хоць нешта моцна настaвала на споведзі табе... Пачуццё — якога я да апошніх часоў не ведала...

Вялы, але няўмольны ківок Лібінага пальца, яе прызыўны ўзрок вярнулі Рыгора на нядаўна пакінутае ім месца...

Каля гадзіны ён сядзеў пры Лібе, маўклівым звонку, а расхваляваным з нутра; перабоямі, то неабдумана, то абгледжанымі думкамі, выходзілі з яго вуснаў адкрытыя, прасочаныя свежасцю навізны, дагэтуль нявыказаныя словы, сказы... Яны дыхалі на Лібу элексірам уцехі, ласкі, салодкіх надзей... завівалі вянком абнесеную ў сярэдзіне руку, і крохка ды ачула прыціскалі пальцы да яе правага боку...

І гэты ценькі ўціск, як даткненне пчалы да каронкі цвету, і праглівасць немірглівага ўзроку, апечанага палам нутранога цяпла, і Лібіна водарнае адчуванне мужняе ўвагі, пераплёт жыццёвых пачаткаў, як схрышчэнне тых жа кватоў у застоенай, непарушнай цішы, акрытай сталёвым змрокам лютаўскай ночы,— зліліся ў зацяжны, сакавіты пацалунак:

— Маці!

— Бацька!

І наадварот.

Следам, толькі на хвілін дваццаць, пакой абмыўся яскравым променем электрыкі, а дваццаць першая хвіліна застала абаіх у спакойлівым здроме...

## VII

— Ты ідзеш да Таўрычаскага?

Ліба на хаду дапівала застыўшую гарбату.

— Апазніўся? — запытаў Рыгор, шукаючы гадзінніка.

— Здаецца, пайшлі ўжо, ці то проста так?

— Каторая гадзіна?

— Дзевятая... Усё ж ты, Рыгор, асцярожлівей... Навошта, канешна, лезці жыватугам... Бывай!.. Я сённі вярнуся раней — не пазніся...

Ліба ўвішна падышла да ложка, палажыла на Рыгоравай шчацэ пацалунак і пабегла з пакоя.

— Гарбата на пліце,— паведаміла яна з-за дзвярэй.

Рыгор паспешна справіўся з туалетам, з гарбатаю і хапіўся за ўчарашнюю вячорку.

Яго порсткі ўзрок улавіў прадоўжную літару Г, што ачэльвала радок «Государственная Дума», калі ўвайшоў Анікей.

— Здароў! Ідзем?

— Што за пытанне!

— Твая разважнасць не паказвае.

— Я на хаду: адзін міг, і мы з табою стрэліся на Малым праспекце-э...

— Ідзем...

Яны кампенсавалі сваё запазненне ўскоранай хадою.

Падаспеўшы трамвай яшчэ больш паспрыяў кампенсацыі.

Незаўважна Васільеўскі востраў застаўся пазадзе, і трое гарадавікоў з акалодачным адгараджвалі іх ад білаў Мікалаеўскага моста.

Перад мостам стаяла нелапая грамадка людзей, якую ўпарта разглядала паліцыя.

— Нашы вунь!

Некалькі чалавек схіліліся да замерзшых вокан вагона.

— Студэнты па адным, па двое з самае раніцы накіроўваюць у горад...— праказаў хтосьці ззаду іх.

Хто азірнуўся на казаўшага — сустрэў у задніх дзвярах вагона дбайлівае калыванне гарадавіковай галавы.

— Ха-ха-ха! Нядрэмнае вока... А праз Няву...

Разганяючы бег, трамвай вёз у горад ажыўленыя спрэчкі пра Думу. Напоўнены разначыннай публікаю, вагон дапамінаў рухомы мітынг, які ў кожную хвіліну, на любым месцы мог абярнуцца ў ядро дэманстрацыі. Было відаць па настроі, што большасць едзе туды, куды і Рыгор з Анікеем.

— Збярэцца! — пацешыўся Рыгор, шапнуўшы Анікею над вухам.

Той не паспеў пацвердзіць Рыгоравы думкі, як каля іх пачулася:

— Да Таўрыцкіх?

Здзіўленым глядзеў Рыгору ў вочы Камар.

— І вы?

— Я не дамся на правакацыю! — цвёрда і голасна адказаў Камар.— Дзіцячае мудрагельства! Вы чыталі ліст Мілюкова? Гэта не кадэцкія хітрыкі, як вам здаецца, а гэта разумная перасцярога... Зараз з'явіцца ў друку новы ліст сяброў-рабочых з ваенна-прамысловага камітэта... Трэба дачасна апамятацца, не то немцы выкарыстаюць момант і сядуць на нашых плячах...

— Магчыма, хлеба чорнага прынясуць, а то Мілюкову гэта не абыходзіць,— пачулася ззаду іх...

Па вагоне пранёсся галосны адабрыцельны гоман. Яго водгук разліўся па Ліцейным праспекце, па якім уверанымі крокамі пайшлі Рыгор з Анікеем, смеючыся з Камара.

## VIII

— Ты позна ўчора вярнуўся?

— А другой уначы...

— Я так трывожылася... Страляніна, якаясьці заварожаная ціша... Ці праўда, ці не, казалі гаспадары, нібы паўлаўцы адказаліся страляць і іх заперлі ў сутарэнне?..

У кватэры, іначай ад заўсёднага, чулася тупатня і ажыўленая гутарка.

— Ты пойдзеш на службу, Ліба?

— Мушу...

— Ці варта?
— Ды ўсё роўна... Калі што-якое, магу кінуць...
— А я б думаў, няхай бы лепш заставалася дома...
— Чаму?
Ліба ўсумнілася і перастала збірацца.
— У кожным выпадку... воля твая...
— А ты, Рыгор?
— У нас забастоўка цягнецца... І не Мілюкову яе супыніць!.. нядаўная нарада прадстаўнікоў ад заводаў... Здарэнні разгортваюцца нечаканым тэмпам... Лунаюць чырвоныя зарніцы...

Рыгор ззяў ад радаснага, усхваляванага пачуцця, сеючы па пакоі замілаваныя ўзрокі гаручых вачэй... Адрыўныя, распарушаныя сказы закругляліся раптоўнымі напевамі мелодый рэвалюцыйных песень...

— Ну, добра... Ты ідзі ў лазарэт, а я адпраўлюся ў горад... Дзе рэвальвер?..
— Навошта ён табе?..
Ліба стала паміж ім і сталом.
— Вы чулі? — адцягнуў іх увагу гаспадар кватэры, няпрошана ўбегшы ў пакой.— Паўсталі два палкі — Валынскі і Пецярбургскі...
— Ласне? — зліліся ў адно запытанні Рыгора і Лібы.

І не паспелі шавяльнуцца гаспадарскія губы для адказу, як Рыгор ужо апынуўся на сходах, летучы ўніз.

Праз пару хвілін ён мігнуўся ў Лібіным ваччу, прабягаючы між будынкаў, направа. А калі Ліба выйшла на вуліцу, Рыгора ўжо не было відаць. Ён згубіўся ў той сумятні, якая заліла шырокія роўныя лініі Васільеўскага вострава.

Напрамкам да праспекта беглі разам і па адным мужчыны, жанчыны, юнакі.

Месцамі, перасоўваючыся, гуртаваліся і на вачах раставалі гурткі, грамадкі, натоўпы людзей.

Дзесьці чулася напеўнае, урачыстае «ўра!».

Агульная раз'юшанасць і сумятня падхапілі, як на скрыдлы, Лібу і лёгкаю, ветранаю хадою панеслі яе ўсцяж вуліцы.

Апынуўшыся на Сярэднім праспекце, яна заўважыла шырокую празрыстую пляміну агню — то гарэў дом папярэдняга зняволення.

Туды, да яго несліся радасныя гукі людзей, пра-

цягваліся разнятыя рукі, нахіляліся разгойданыя постаці.

Промін не даваў ёй спыніцца, падбіваў бегчы за ўсімі, у які хоць бок, абы хутчэй апынуцца ля яго... Бегчы і спяваць або гукаць, абсыпаць усіх шчырымі, цёплымі прывітаннямі, ласкаю і неабмежнай удзячнасцю...

На нейкі час яна забыла пра Рыгора, адчуваючы вакол сябе дзесяткі, сотні і тысячы блізкіх, родных, прыемных людзей.

Пасля ў яе нутры раптам успыхнула пякучае жаданне ўгледзець яго каля сябе, абняць, як таварыша, і пацалаваць самаадданым пацалункам — у адплату за яго доўгагадовае напружанае змаганне...

Бегучы далей, Ліба нервова, напружана азіралася вакол, шукаючы Рыгора ў раскалыханым людскім моры. Загледзеўшыся, чуць не папала пад аўтамабіль-грузавік, які спыніўся ў двух кроках ад яе, гледзячы плотам вострых штыкоў...

Ліба падалася ўбок, але ў заціхаючым «ура» пачула:

— Ліба Шлёмаўна!

І калі прыгледзелася, то ў згруджанай кучы рабочых і салдат, якія шчыльна стаялі на грузавіку пад маленькім чырвоным сцягам, яна разглядзела Петруся.

— Дзе Рыгор?

Яго запытанне знікла ў гучным вокліку:

— Няхай жыве рэвалюцыя!

Ліба памкнулася да грузавіка і не згледзела, як некалькі здаровых рук узнялі яе ўгору.

Грузавік памчаўся напрамкам да Тучкавага моста, авеены несціханымі воклікамі «ўра!».

Пры Лібе стаяў Пятрусь, апіраючыся на новую вінтоўку. У яго на руцэ акрэслівалася шырокая чырвоная павязка.

Чырвоныя ж знакі — то ў выглядзе тых самых павязак на руках, то бантаў на грудзях, то пецелек на штыках — звязвалі ў адно цэлае, вогненна-ўздымнае, усю купу рабочых, якія былі на грузавіку.

Ліба стаяла неаддзельнай адзінкаю лётнага атрада энтузіястаў-вестуноў, што рассейвалі па абуджанай, растрывожанай сталіцы весткі новых дзён...

Яна захаплівалася баявою ўрачыстасцю неперажы-

тых падзей і чула, як яе істота дробіцца на малюткія частачкі ды сеецца ў ачырвоненым сонечным паветры нечуванага дня... Цяжар і колкая боль у нутры танулі ва ўзнятым натхненні.

— На Пецярбургскую старану! — абарвалі яе ўздым прыказныя воклікі суседзяў, у тым ліку і Петруся.

Грузавік крута заламаў управа... Хто стаяў — калыхнуўся ўлева. І ў тую ж хвіліну ўсе прыселі. З-пад моста неслася страляніна. Рассыпчатая траскатня вінтовак разлілася па аснежаных барках, разбеглася між плота, адгукнулася ззаду, каля будынкаў першае лініі...

Некалькі блудлівых куль празвінелі накрыж над іх галовамі... Некалькі ўдараў забразгацела па жалезных частках грузавіка...

У гэты момант Ліба ўгледзела, як з падножкі, унізе пад ёю, скаціўся на снег з вінтоўкаю ў руках малады салдат.

У залпавых стрэлах, што пасылалі з грузавіка, гучней іншых выдзеліўся стрэл падбітага ваякі. Яна нагнулася над біламі скрынкі, працягнуўшы рукі да параненага салдата, з твару якога глядзеў знаёмы вобраз Сроля Рэзніка.

— Л-ліб-ба-а! — праказаў ён і павярнуў аслабшую галаву направа.

— Сроль, браток мой!..— Пятрусь! — выгукнула з перапалохам Ліба і стала шукаць узрокамі Петруся.

Крануўшы грузавік і частыя адстрэлы яго седакоў заглушылі Лібін воклік і развеялі колкую ўражлівасць ад забойства Сроля.

Яна ўдвойчы ўспомніла пра яго тады, калі праехалі Тучкаў мост; але новыя стрэлы на рагу Вялікага праспекта і ператочнай яму вуліцы зноў развеялі яе думкі. Шэры дымок толькі адляцеў на ўзровень вокан першага паверха, як грузавік упёрся ў разнятыя рукі пераняўшага дарогу натоўпу:

— Ліба Шлёмаўна! — пазваў Пятрусь.— Ву-унь Рыгор!

Улева, каля ганка рагавога дома, ляжаў чалавек. Пры ім стаяў Рыгор з рэвальверам у руцэ. Ён упарта глядзеў на забітага...

— Рыго-ар!

— Рыго-ар Міхасевіч!

Рыгор крута павярнуў на воклік і следам быў каля грузавіка.

— Ты чаго тут?

— Васіля Берага сустракаў!

— Васіля Берага?!

— Так, з-пад моста выцягнулі і народным судом... у царства продкаў...— А ты яшчэ не дазваляла браць рэвальвера!.. Цудная! Якраз да часу...

— Магчыма! Няхай будзе адплатай за смерць Рэзніка.

— Сроля забілі? — узрушыўся Рыгор.

— Вось толькі што пакінулі яго па той бок моста... Я праехала з вярсту на грузавіку і не заўважвала яго, а раптам... стрэлы... Ён выпаў з машыны, і я чую ўмольны позыў з акрываўленага снегу...

Залапатаўшы грузавік падагнаў Рыгора ўскочыць на яго і разам з Петрусём ды Лібай ехаць далей.

— Няхай жыве рэвалюцыя! — Далоў самадзяржаўе! — гукаў ён праз некалькі хвілін пасля паведамлення пра забойства Рэзніка.

З перанятага іх стрэчнага грузавіка адгуквалі:

— Прывітанне ад прэабражэнцаў!

— Няхай жыве рэвалюцыйнае паўстанне!

Следам, ці хтосьці скамандаваў, ці грузавікі самі раз'ехаліся, пацягнуўшы за сабою ў два процілеглыя канцы нямоўчнае «ўра!».

Поміж з воклікамі, што разліваліся па крывых вуліцах, па іх скрыжаваннях, на пляцах і заломах стальным клёкатам узброенай радасці тарашчэлі пераліўным россыпам стрэлы. Між аблітых сонцам будынкаў, дварамі і вузкімі шчылінамі, яны плылі за грузавіком, то наганяючы яго, то перасякаючы дарогу.

Каля Мытнінскай вуліцы парадзеўшыя стрэлы, як кінуты на зямлю ланцуг, раптам змоўклі, каб праз хвіліну аднавіцца з-пад палаючага будынка ахранкі.

Пад заслонай чорнага дыму і языкоў полымя, што лізалі вокны і мураваныя карнізы шэра-зялёнага будынка, вецер расцярушваў абгарэлыя дакументы доўгагадовага змагання за надышоўшы дзень... Як блудлівыя цені, вакол гаручага дома шныпарылі якіясьці людзі, старанна знішчаючы ўцалелыя паперы.

Яны мігам зніклі па глухіх задворках, за рагамі будынкаў, калі грузавік спыніўся, каб салютнымі стрэламі прывітаць палаючую ахранку.

На яго стрэлы з Кронверскага праспекта паказалася дэманстрацыя моладзі.

Яна разносіла вестку пра здачу Рэвалюцыі Петрапаўлаўскай крэпасці...

Прынесеная навіна затуліла сабою і клубкі дыму, і несціхаючыя стрэлы, і раптам вынікшы адкульсьці грузавік з хлебам, абложаны жанкамі, як мурашкамі.

— Няхай жыве рэвалюцыя!

— У-ра-а-а-а! а-а-а-а!..

## IX

Ліба матала чырвоным сцяжком над галовамі гулівай грамады і не сціхала кідаць палкія лозунгі. Надарваны голас адбіваўся боллю ў яе горле, дрантвелі ногі ад доўгае стойкі, прыцiснутай да вострага руба грузавіковай сценкі. Але яна не патурала нічому, цалкам адданая ахапіўшаму яе натхненню.

У яе між вушэй праляцела дбайлівае запытанне Рыгора:

— Ты не стамілася, Ліба?

І калі яго рука легла на Лібіны плечы, яна адказала:

— Як мы шчаслівы сёння, Рыгор!..

Уз'езд на Біржавы мост спыніў далейшую гутарку. Шырокае поле Нявы і Неўкі адцягнула на сябе іхнюю ўвагу.

Раптам Ліба ўгледзела, як дзесятак бліскучых штыкоў з грузавіка накіравала на Дварцовую Узбярэжную. Умомант, адзін за другім, бліснулі агеньчыкамі над белым снегам біл два гучныя залпы.

Голая і пустая Узбярэжная маўчала — у сценах Зімніх палацаў стаяла рэштка вернага цару войска.

— Далоў самадзяржаўе! — выгукнуў Лібін сусед.

І звонкі пераліўчаты вокліч аддаўся рэхам на Неўскім прасторы.

Ён яшчэ не даляцеў да сцен мнагалікіх палацаў па той бок Нявы, не стукнуўся ў вяковыя сцены крэпасных валаў, як новая засада гарадавікоў пераняла грузавік.

— Наперад! — пачулася з некалькіх вуснаў і змоўкла ў гулкай траскатні перастрэлкі.

Ліба не ўспела вызваліць руку, каб узняць апушчаны ў сумятні сцяг, як пачула моцны штуршок у плечы.

— Асцярожлівей, таварышы!..— праказала яна і тут жа балюча, галасліва працягнула:

— Рыго-а-ар! Рыго-арка-а!.. Што-а ты, мілы мой!.. Рыго-а-ар!

У Петрусёвых абоймах з заплюшчанымі вачыма ляжаў акрываўлены Рыгор. Збітая з галавы шапка чорнаю кропкаю тырчэла на серабрыстым снягу пры бліскучых трамвайных рэйках. Яркае сонца залаціла яго гладкапрычэсаныя валасы. На правай скроні чырвонай гваздою ляжала смугла-сіняя па краях і чорна-чырвоная ў асяродку крывавая рана...

Ні Пятрусь, ні Ліба не заўважылі, як сціхла перастрэлка і крануў з месца грузавік...

Ліба выйшла з непрытомнасці толькі тады, калі яе ўвялі ў цёплае, белае і ціхае памяшканне бальніцы. Сеўшы на пададзеным ёй белым драбінчатым крэсле, яна бязмоўна глядзела ў пасінеўшы Рыгораў твар, яшчэ нядаўна гэткі румяны і жыццярады. Двух чалавек, што ўвіхаліся каля яго, варушыліся ў Лібіным ваччу, як лёгкія цьмяныя цені. Яна не заўважала і Петруся, пакуль той не падышоў да яе і не запытаў:

— Можа, хочаце адпачыць, Ліба Шлёмаўна?

— Не-э, не!.. Я нікуды не пайду-у ад яго!.. Я яго не пакіну ні на кога, нікому!..

Пятрусь перадаў Лібу сястры і выйшаў з бальніцы, несучы ў нутры сваім сумную навіну радаснага дня.

Ён пераходзіў бальнічны двор, калі яму перагарадзілі дарогу пара чалавек з насілкамі. У адгоне некалькі крокаў, ціха стогнучы, спяшыла якаясьці жанчына.

Яна не сціхла плакаць, пакуль за насілкамі не схавалася ў дзвярах нізкага безаконнага будынка.

Пятрусь, як заварожаны, стаяў нейкі час сярод дзядзінца, пасля крута сарваўся з месца і выйшаў на вуліцу...

Насустрач яму з-пад Мікалаеўскага моста стройнымі шэрагамі накіроўваўся да дзяржаўнай Думы флоцкі экіпаж.

Чорныя бясконцыя шарэнгі матросаў цвёрдай уверанай хадою адбівалі перамогу рэвалюцыі.

На верках Петрапаўлаўкі гойдаўся чырвоны сцяг.

І вакол-вакол, як зловіць вуха, жывым непарыўным ланцугом гучала рэзвае, вясёлае, урачыстае.

— Ура-а-а-а! У-ра-а-а-а-а-р!

А ў гэты час насустрач яму з белых сцен бальніцы, дзе ляжаў мёртвы Рыгор, выплывалі новыя радасныя гукі новага стварэння, прыйшоўшага ў свет на змену Рыгору.

*Чэрвень 9, 1929 г.*

# КАМЕНТАРЫІ

## Пра раман Цішкі Гартнага «СОКІ ЦАЛІНЫ»

У творчай спадчыне Ц. Гартнага раман «Сокі цаліны» і па актуальнасці тэмы і па маштабнасці апісаных падзей, якія папярэднічалі Вялікаму Кастрычніку, займае асобнае месца. У 20-я гады гэты твор карыстаўся вялікай папулярнасцю ў чытача і асабліва сярод моладзі. Яго чыталі і перачытвалі.

Першая квадра рамана «Бацькава воля» была напісана яшчэ да рэвалюцыі (1914—1916 гг.) і ўрыўкамі друкавалася ў газ. «Дзянніца» (1916), выдаўцом і рэдактарам якой быў сам Гартны. Поўнасцю «Бацькава воля» ўбачыла свет у 1922 годзе. Яе сюжэт заснаваны на сутыкненні характараў двух пакаленняў — бацькоў і дзяцей. У аснове канфлікту — матыў сацыяльнай няроўнасці. Местачковы хлопец, а пасля рабочы рыжскага завода Рыгор Нязвычны любіць Зосю Прыдатную. Бацькі Зосі — заможныя сяляне — і слухаць не хочуць пра «галадранца» Рыгора, якога кахае Зося. Яны хочуць выдаць замуж сваю дачку за багацея Васіля Берага.

Зося знаходзіць у сабе сілы і кідае выклік дамастроеўшчыне. Яна змагаецца за свабоду пачуццяў, супроць бацькавай волі. У пратэсце Зосі адчуваюцца павевы новага, рэвалюцыйнага часу. У гэтым сэнсе слушную заўвагу зрабіў Ю. С. Пшыркоў у сваёй працы «Эпас рэвалюцыі» (Мн., 1975), што «Зосю можна назваць папярэдніцай Ганны Чарнушкі з «Палескай хронікі» І. Мележа. Гэта першы раманны герой у нашай літаратуры, а значыць, важнае мастацкае адкрыццё не толькі аўтара аповесці, а і ўсёй тагачаснай літаратуры». Справядлівасць выказанай думкі засведчыў і сам Мележ, які аднойчы ў размове з аўтарам гэтых радкоў сказаў, што бытапісанню ён вучыўся і ў Ц. Гартнага.

«Бацькава воля» — першы буйны празаічны твор дакастрычніцкай пары, які вызначаецца кампазіцыйнай зладжанасцю, выразнай і дакладнай характарыстыкай местачковага асяроддзя, у якім жывуць і дзейнічаюць героі. Аўтар стварыў запамінальныя вобразы кулакоў і прадстаўнікоў духавенства, выявіў уменне характарызаваць герояў праз іх мову. Асабліва ўдаліся пісьменніку вобразы жанчын: Стэпы Нязвычнай — маці Рыгора, Зосі Прыдатнай, Тадосі Бераг.

Аднак ва ўсіх квадрах-кнігах рамана «Сокі цаліны» цэнтральным вобразам з'яўляецца вобраз Рыгора Нязвычнага — прадстаўніка новага пакалення, якое фарміравалася ў гады рэвалюцыйных падзей у Расіі. Яшчэ ў 1905 годзе Рыгор са сваімі местачковымі сябрамі Сёмкам і Янкам «запісваўся» ў дэмакраты, спяваў рэвалюцыйныя песні, хаваў лістоўкі, пракламацыі і забароненыя кніжкі. Пасля Рыгор апынуўся ў вялікім горадзе, папрацаваў у гушчы заводскага калектыву і, зразумела, набыў пэўны вопыт падпольнай работы. Праўда, у дарэвалюцыйным варыян-

це «Бацькавай волі» Рыгор Нязвычны не ўзняўся да рэвалюцыянера пралетарскага тыпу, але і ён заклікаў да актыўнай барацьбы з самаўладствам, са светам прымусу і гвалту. На думку Рыгора, «няма большага грэху, калі бачыць няпраўду і маўчаць, патвараць ёй...». «Жыццё ў тэрміне перабудоўкі»; «Хто спаў — прачынаецца; хто маўчаў — пачынае гаварыць»,— заяўляў Рыгор.

У савецкі час пад уплывам ленінскай партыі Ц. Гартны прайшоў даволі складаную эвалюцыю ў сваім светапоглядзе. Працягваючы працу над раманам, ён па-новаму асэнсаваў і падышоў да стварэння вобраза галоўнага героя «Бацькавай волі» з пазіцыі савецкага пісьменніка. У наступных кнігах рамана «Сокі цаліны» — «На перагібе», «Крыжавыя дарогі» і «Чырвоныя зарніцы» — аўтар значна ўзмацніў класавыя пазіцыі Рыгора Нязвычнага, надаўшы яму рысы пралетарскага рэвалюцыянера. Гэтым творам Гартны адкрыў у беларускай савецкай літаратуры новую тэму, новага героя і новы жанр — сацыяльны раман.

Рыхтуючы раман «Сокі цаліны» для перавыдання ў Зборах твораў, пісьменнік у 1931 годзе карэнным чынам перапрацаваў «Бацькаву волю», прывёўшы яе ў адпаведнасць з астатнімі кнігамі рамана. Цэлыя раздзелы гэтай кнігі былі перапісаны нанава. Галоўны герой Рыгор Нязвычны паказаны актыўным свядомым рэвалюцыянерам з яскрава выражаным пралетарскім светапоглядам. Увесь сэнс жыцця Рыгор бачыў у «змаганні рабочага класа, у яго перамозе, у яго дыктатуры». Выступаючы перад рабочымі свайго завода, ён заклікаў да актыўных рэвалюцыйных баёў, да ўзброенага паўстання: «Нам няма чаго губіць, апроч сваіх ланцугоў! Ланцугі ж нам пара скінуць, пакуль яны не пераелі нашага цела, пакуль ёсць хоць малая мажлівасць зрабіць рух, шавяльнуцца». Яго баявым дэвізам стала: «Лепш памерці ў змаганні, чымсь жыць у няволі...» Сам Рыгор перанёс турэмнае зняволенне, адміністрацыйную высылку і загінуў на вуліцах Пецярбурга ў дні Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі са словамі: «Далоў самаўладства!», «Няхай жыве рэвалюцыя!»

Аднак, надаючы свайму герою новыя якасці рэвалюцыянера пралетарскага тыпу, пісьменнік парушыў рэалістычныя прынцыпы стварэння характару і, як гаворыць Алесь Адамовіч, «механічна ператварыў сялянскага хлопца Рыгора Нязвычнага ў нерухомы эталон «стопрацэнтнага пралетарыя». Сапраўды пісьменнік не здолеў зрабіць гэта псіхалагічна апраўдана і па-мастацку абгрунтавана. І ўсё ж пры аналізе мастацкіх якасцей рамана «Сокі цаліны» мы не павінны траціць пачуцця гістарызму, маючы на ўвазе, што ў гэтым творы адлюстраваны пошукі новага героя ў ранні перыяд развіцця беларускай савецкай літаратуры, у якой не было неабходнага вопыту ў раскрыцці чалавечай псіхалогіі. У гэтых умовах Гартны здзейсніў подзвіг, узяўшыся ўслед за Горкім за стварэнне шырокамаштабнага сацыяльнага рамана, у якім галоўным героем выступае рабочы-рэвалюцыянер. Менавіта адсутнасць вопыту ў раскрыцці характару рабочага чалавека абумовіла і пэўныя слабасці рамана. Да іх трэба аднесці апісальнасць і публіцыстычнасць стылю ў другой і трэцяй кнігах «На перагібе» і «Крыжавыя дарогі», у якіх падзеі падаюцца ў абагульненым выглядзе без належнай драматызацыі дзеяння і сутыкнення лёсу герояў, іх жыццёвых пазіцый.

Па-іншаму ўспрымаецца чацвёртая кніга — «Чырвоныя зар-

ніцы», дзе ёсць удалыя гарадскія замалёўкі рэвалюцыйнага Пецярбурга і трапныя апісанні грамадскіх падзей.

Многія крытыкі папракаюць Гартнага за шурпатасць мовы рамана, за празмернае напластаванне ў ім дыялектызмаў і архаізмаў. З гэтай прычыны неабходна адзначыць, што ў часы напісання рамана Ц. Гартны адначасова быў і мастаком і побач з іншымі пісьменнікамі — стваральнікам беларускай літаратурнай мовы, і гэта тады, калі грамадска-палітычная і вытворчая лексіка толькі фарміравалася і ў стылёвым плане яна была асвоена слаба. Таму шырокае выкарыстанне ў тыя часы ў літаратурных творах пластоў народнай лексікі і фразеалогіі трэба лічыць натуральнай і заканамернай з'явай. Значная частка лексічных элементаў уведзена ў раман з мэтай індывідуалізацыі мовы герояў, з мэтай стварэння мясцовага каларыту. На наш погляд, мова рамана абцяжарана не столькі дыялектнай лексікай, колькі своеасаблівымі словаўтваральнымі элементамі і кніжным сінтаксісам.

Адзначаючы недахопы і слабасці творчай манеры Гартнага-празаіка, раман «Сокі цаліны» быў і застаецца цікавай старонкай у гісторыі беларускай савецкай літаратуры, у якім асвятляецца барацьба рабочага класа і сялянства Расіі, у тым ліку і Беларусі, супроць царызму паміж дзвюма рэвалюцыямі — першай рускай рэвалюцыяй 1905—1907 гг. і Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй 1917 года. У гэтым сэнсе раман Ц. Гартнага «Сокі цаліны» мае не толькі літаратурна-мастацкае, але і гісторыка-пазнавальнае значэнне.

**Аляксей Клачко**

## ТЛУМАЧЭННІ НЕКАТОРЫХ СЛОЎ [1]

*Абшýмлены* — пакрыты шумам, пенай.
*Валь* — вэлюм.
*Вéркі* — пабудовы ў крэпасці, прызначаныя для абароны.
*Дзвáжыць* — стукаць, ляскаць са звонам.
*Дзвенг* — звяг, гук; звон.
*Дратавáнка* — пуга, звітая з палосак сырамятнай скуры або тонкіх тугіх вяровачак.
*Здрóчыць* — *перан.* дражніць, падбухторваць, нацкоўваць.
*Імпáд* — пах, дух.
*Каразлíвы* — пераборлівы.
*Лагавы́* — які мае адносіны да логу, шырокага і доўгага яра з адхоннымі схіламі; тут — пра вуліцу, якая ідзе ўздоўж логу.
*Магéрка* — круглая высокая мужчынская шапка з лямцу, род капелюша.
*Мальдýнак* — даклад.
*Манчжýрка* — мужчынскі галаўны ўбор.
*Ненатлáнны* — ненасытны.
*Пілявáсць* — уедлівасць, настырнасць.
*Рáга* — струменьчык вадкасці, які сцякае па якой-небудзь паверхні.
*Разбазы́раны* (пра чалавека) — распушчаны, разленаваны.
*Скіц* — штрых.
*Снéнне* — сон.
*Спрэс* — поўнасцю, цалкам, зусім; скрозь, усюды.
*Таркóваны* — антынкаваны.
*Тáца* — паднос.
*Тракт* — кірунак, месца накіравання, напрамак.
*Трактóўшчык* — служачы, які размяркоўвае карэспандэнцыю па месцах накіравання.
*Трупця́вы* — бразгатлівы, брынклівы.
*Уздрóм* — дрымота.
*Утýл* — кут, закутак.
*Фатэль* — крэсла.
*Цалýн* — покрыва; пакрыццё.
*Цапідла,* цапільна — доўгая палка цэпа.

---

[1] Даюцца пераважна тыя значэнні слоў, у якіх яны ўжыты пісьменнікам.

## ЗМЕСТ

### Квадра III
### КРЫЖАВЫЯ ДАРОГІ



### Квадра IV
### ЧЫРВОНЫЯ ЗАРНІЦЫ

**Гартны Ц.**

**Г 21** Збор твораў. У 4 т. Т. 3: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 511 с., [4] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00092-3.

У рамане «Сокі цаліны» (квадры трэцяя і чацвёртая), які склаў трэці том, аўтар паказаў фарміраванне характару рэвалюцыйных змагароў, правінцыяльны побыт і заводскія будні.

Г $\frac{4702120201-036}{М\ 302(03)-89}$ 90—89 **ББК 84Бел7**

ТИШКА ГАРТНЫЙ

*(Дмитрий Федорович Жилунович)*

Собрание сочинений в четырех томах

ТОМ ТРЕТИЙ

**Соки целины**

*Роман*

*в четырех квадрах*

(квадры третья и четвертая)

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. Дз. Куліш

Мастак В. П. Масцераў

Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін

Тэхнічныя рэдактары А. Б. Барадзіна, М. Ц. Папкова

Карэктары К. У. Дзмітрыенка, Л. М. Маслоўская

ІБ № 2897

Здадзена ў набор 17.12.87. Падп. да друку 02.12.88. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26.88+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 27,62. Ул.-выд. арк. 27,94. Тыраж 6600 экз. Зак. 1026. Цана 2 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.